1525 1925

# 400 лецьце беларускага друку



Коштам Інстытуту Беларускае Культуры
ў Менску: 1926 г.

İNSTİTUTUM CULTURAE ALBORUTHENİCAE

# QUADRINGENTENNIUM TYPORUM ALBORUTHENICORUM

MDXXV—MCMXXV

SUMPTİBUS İNSTİTUTİ CULTURAE ALBORUTHENİCAE
MENSCİ — MCMXXVI

Зборнік падрыхтаваны да друку Рэдакцыйнай Камісіяй у складзе: старшыні—Уладзімера Пічэты, сэкратара—Васіля Дружчыца і членаў—Язэпа Дылы, Зьмітры Жылуновіча, Язэпа Лёсіка і Міколы Шчакаціхіна.

У складаньні зборніку прынялі ўдзел:

*Уладзімер Перцаў,* профэсар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.
*Зьмітра Егораў,* профэсар.
*Антон Ясінскі,* профэсар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.
*Мацей Любаўскі,* профэсар Маскоўскага 1-га Унівэрсытэту.
*Уладзімер Пічэта,* правадзейны член Інстытуту Беларускае Культуры, заслужаны профэсар і рэктар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.
*Васіль Дружчыц,* правадзейны член Інстытуту Беларускае Культуры, доцэнт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.
*Міхал Піотуховіч,* правадзейны член Інстытуту Беларускае Культуры, профэсар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.
*Мікола Шчакаціхін,* член-супрацоўнік Інстытуту Беларускае Культуры, доцэнт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.
*Язэп Воўк-Левановіч,* доцэнт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

Вокладка зборніку па рысунку настаўніцы Дзяржаўнага Мастацкага Тэхнікуму ў Віцебску Марыі Лебедзевай. Застаўкі, канцоўкі і загалоўныя літары па рысунках Марыі Лебедзевай і настаўніка Дзяржаўнага Мастацкага Тэхнікуму ў Віцебску Міхала Эндэ.



Францішак Скарына.

З портрэту Якуба Кругера. Фотографія Льва Дашкевіча.




У сакавіку 1925 году мінула чатырыста год з таго памятнага дня, калі доктар Францішак Скарына выдаў у Вільні ў „паспалітай“ мове кніжку „Апостал“, надрукаваўшы яе ва ўласнай друкарні. Гэта была першая кніжка, якую надрукавалі на тэрыторыі Беларусі.

Атрымаўшы пачатковую асьвету ў Полацку, Францішак Скарына вучыўся далей у Кракаўскім і Падуанскім унівэрсытэтах; у Падуі Скарына атрымаў навуковую годнасьць „доктара ў лекарскіх навуках“.

З Падуі Скарына накіраваўся ў Прагу Чэскую і заснаваў там друкарню, у якой распачаў выданьне сваіх перакладаў кніг старога закону на беларускую мову. Друкуючы паасобныя кнігі старога закону, Скарына пісаў да іх прадмовы; у гэтых творах ён выявіў свой сьветапагляд, на якім адчуваецца магутны адбітак часоў Адраджэньня.

Праца, якую распачаў Скарына, была вынікам таго нацыянальна-культурнага руху, што ахапіў беларускую шляхту і буржуазію ў XVI сталецьці. Рух гэты меў у сваёй аснове шмат супольнага з паглядамі і настроямі італьянскага Адраджэньня. Францішак Скарына паклаў сваёй працай пачатак літаратурнай беларускай мове і беларускай нацыянальнай літаратуры, будучы прадстаўніком тагачаснага адукаванага беларуса.

Працу Скарыны пераймальна вялі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, перакладчык эвангельля на беларускую мову, які імкнуўся наблізіць яго да народных мас у мэтах падняцьця іх моральнага і культурнага ўзроўню. Нацыянальная і культурная дзейнасьць Скарыны і яго пераймальнікаў ёсьць яскравы паказьнік таго высокага культурнага становішча, якое займала Беларусь у XVI сталецьці.

Інстытут Беларускае Культуры, у выкананьне пастановы Савету Народных Камісараў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі ад 4 лістапада 1925 году, і маючы на ўвазе тую вялізную ролю, якую адыграла дзейнасьць Францішка Скарыны ў справе нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі, ухваліў адзначыць гэты вялікі момант у гісторыі бела-

рускае культуры выданьнем прысьвечанага часом Скарыны зборніку. У гэтым зборніку мелася на мэце ня толькі даць дакладнае апісаньне жыцьця і дзейнасьці Францішка Скарыны на Беларусі, але таксама ахапіць усю тую эпоху, калі жыў Скарына, апісаць тыя культурныя асяродкі, у якіх даводзілася яму працаваць, і якія, зразумела, зрабілі на першага беларускага друкара пэўны ўплыў.

З гэтае прычыны артыкулы ў зборніку падзяляюцца на некалькі самастойных груп. Да першае групы належаць тыя артыкулы, дзе чытач знаёміцца з сутнасьцю італьянскага гуманізму, які зрабіў значны ўплыў на Скарыну, а таксама артыкулы аб Падуанскім Унівэрсытэце, — гэтай Alma Mater Скарыны, і аб Чэхіі ў часы Скарыны. Пад усімі гэтымі ўплывамі складаўся сьветапагляд выдатнага беларускага гуманістага. Другая група артыкулаў прысьвечана Беларусі. Артыкулы гэтае групы знаёмяць чытача ня толькі з агульным станам Літоўска-Беларускае Дзяржавы ў пачатку XVI сталецьця, але таксама даюць характарыстыку тых беларускіх местаў, з якімі зьвязаны галоўныя моманты жыцьця Францішка Скарыны. Трэцяя група артыкулаў прысьвечана беларускаму Адраджэньню XVI сталецьця, а таксама асобе самога Скарыны і яго выданьням, і мае на мэце як мага шырэй асьвятліць дзейнасьць гэтага выдатнага культурнага дзеяча.

Урэшце, чацьвертая група артыкулаў складаецца з гісторыі беларускага друку ў XVI і XVII сталецьцях і агульнае ацэнкі прац, што да вывучэньня дзейнасьці Скарыны. Яна павінна паказаць, наколькі глыбака ўвайшла ў беларускае культурнае жыцьцё скарынінская традыцыя, а таксама выявіць, у якім стане знаходзіцца скарынінская проблема ў сучаснай гісторыяграфіі.





**Проф. Уладзімер Перцаў.**

# Гуманізм у Італіі.

Гуманізм зьяўляецца аднэй з самых выдатных эпох у гісторыі разьвіцьця чалавецтва. Гэта была запраўдная рэволюцыя духу, якая перавярнула ўвесь стары круг прадстаўленьняў і прымусіла ўсіх захопленых ёю адчуваць, думаць, і жадаць пановаму. Гэгель, гэты першы спаміж пісьменьнікаў XIX сталецьця, які правільна разгадаў сэнс Адраджэньня і зразумеў яго ўнутраную сутнасьць,—кажа аб ім: „Зьявіліся зусім іншыя вобразы, іншыя цноты, чымся вядомыя дагэтуль; людзі знашлі зусім іншы маштаб для таго, што належыць шанаваць, хваліць і з чаго браць узор“. Але гэты пераварот меў досыць даўгі працяг, расьцягнуўся на цэлыя сталецьці і ў розных сваіх стадыях меў неаднолькавы характар. У гэтым артыкуле, само сабой, немагчыма ахапіць увесь зьмест гэтага працяжнага ды шырокага руху. Нашае заданьне павінна абмежавацца азначэньнем яго соцыяльна-экономічных каранёў, выяўленьнем найбольш асноўных яго рыс і паказаньнем—хаця-ж бы ў агульным выглядзе—яго грамадзкага значэньня.

Гуманізм паўстаў і разьвінуўся ў тым новым асяродзьдзі, якое ўтварылася, дзякуючы разьвіцьцю гарадзкога руху, у другой палове сярэднявечча. Блізу што з паловы XI сталецьця лік гарадоў у Эўропе пачынае хутка ўзрастаць, прычым павялічваецца і іхняя велічыня. Гарады, у якіх дагэтуль жылі пераважна сяляне, жаўнеры і ўрадоўцы, цяпер зьмяняюць свой характар і перотвараюцца ў асяродкі рамеснага вырабу. Але памылкова было-б думаць, што гэтыя новыя гарады, заселеныя організаванымі ў цэхах рамесьнікамі, мелі магчымасьць адразу ўтварыць адпаведныя ўмовы для новае культуры. Паколькі гарады, хаця-ж і новыя, заставаліся толькі асяродкамі рамесьніцтва, паколькі цэх зьяўляўся ў іх толькі галоўнай гаспадарчай завязьзю, а цэхавая організацыя ляжала ў аснове ўсяго грамадзкага жыцьця,—спрыяючых умоў, каб парваць з старым сярэднявечным сьветапаглядам, утварыцца яшчэ не магло. Гарадоў у другую палову сярэднявечча было асабліва шмат у Нямеччыне—па вылічэньнях Бюхэра каля 3000,—а між тым не Нямеччына, а Італія была бацькаўшчынай гуманізму. Псы-

холёгія цэхавага рамесьніка была ў добрай згодзе з старым укладам жыцьця; рамесьнік знаходзіўся ў замкнутым крузе людзей, якія належалі да таго самага цэху, што і ён; поле яго нагляданьняў было абмежавана, кола знаёмстваў—невялікае. Гэта быў у большасьці выпадкаў чалавек з сталымі звычкамі, верны старасьвецкім традыцыям, нягрэблівы ў сваіх жыцьцёвых запатрабаваньнях. Галоўнай прычынай гэтага было тое, што прыбыткі сярэднявечных рамесьнікаў, нават і ў вышэйшых колах гэтае клясы—сярод майстраў, былі вельмі абмежаваны; заможных людзей сярод іх было мала, запатрабаваньні здавальняліся, у лепшым выпадку, памяркоўна, і таго шырокага размаху індывідуалістычных імкненьняў, які складае характэрную рысу гуманізму, у рамеснай грамадзе ўтварыцца не магло.

Адпаведны грунт для разьвіцьця гуманізму паўстаў толькі ў часе нараджэньня гандлёвага капіталізму. Гандлёвы капітал быў галоўным фактарам, які ажывіў сярэднявечнае жыцьцё, павялічыў запатрабаваньні тагочаснага грамадзянства, спарадзіў новыя звычкі да блеску і комфорту і ўтварыў жаданьне адарвацца ад нягрэблівых і ўмеркаваных традыцый, што панавалі сярод старога грамадзянства. Купцы першыя парвалі гэтую замкнёнасьць і тэрыторыяльную абмежаванасьць сьветагляду, якая складала адну з самых характэрных рыс сярэднявечча. Ім даводзілася бываць у частых падарожах, і ў часе гэтых падарож яны пазнаёміліся самі і пазнаёмілі тых, хто з імі сутыкаўся, з новым сьветам, з новымі краявідамі, з групай новых прадстаўленьняў. Дзякуючы тым адважным справам, у якіх праходзіла іхняе жыцьцё, у іх разьвінаўся дух ініцыятывы, упэўненасьць у сабе і здольнасьць карыстаць з абставін, маючы на мэце асабістае ўзвышэньне і ўласныя посьпехі. Коратка кажучы, у іхнім асяродзьдзі і ў асяродзьдзі тых, хто з імі зносіўся, утвараўся той новы тып гарадзкога жыхара-індывідуалістага, які потым зрабіўся цэнтральнай фігурай Адраджэньня і галоўным прадстаўніком гуманістычных ідэй.

Сувязь паміж новай індывідуалістычнай культурай, з яе ўзрослымі запатрабаваньнямі да асалод жыцьця, і гандлёвым капіталізмам, дасканала высьветліў Каўцкі (Kautzki) ў сваім невялікім, але вельмі грунтоўным артыкуле „Век гуманізму і рэформацыі“. „Цэхавы майстар, кажа Каўцкі, пад загадам якога быў абмежаваны лік падмайстраў, меў магчымасьць дасягнуць толькі памяркоўнага дабрабыту. Яго хутка зусім зацьміў купец, імкненьне якога да зыску было бязьмежным, капітал якога мог бязконца павялічвацца і, урэшце,—што, разумеецца, мела далёка не апошняе значэньне,—гандлёвыя прыбыткі якога былі надзвычайна вялікія. Гандлёвы капітал быў экономічнай сілай XIV, XV і XVI сталецьцяў. З часу яго ўтварэньня паўстала ў грамадзянстве новае жыцьцё і новыя пагляды“ [1]).

Сувязь Адраджэньня з гандлёвым капіталізмам тлумачыць нам, чаму гуманістычны рух раней за ўсё паўстаў якраз у Італіі. Пасьля крыжацкіх паходаў галоўнае месца ў гандлёвых зносінах між романа-хрысьціянскім Захадам і арабска-турэцка-магомэтанскім Усходам належала італьянскім гарадом. У другой палове сярэднявечча Міжземнае і Чорнае моры знаходзіліся, галоўным чынам, у руках Вэнэцыі і Генуі. Генуа мела свае колёніі і ў Сырыі, і ў Трыполісе, і на Цыпры, і ў Крыме ля берагоў Чорнага мора.

Апроч бліжняга Леванту яна прымала ўдзел у гандлі з Пэрсіяй, Цэнтральнай Азіяй і з Кітаем. Вэнэцыя не адставала ад Генуі і бяз

[1]) К. Каутскій. Очерки и этюды. СПБ. 1895 г., стар. 135.

упынку змагалася з ёю за пяршынства ў гандлі з Усходам. Апроч Усходу абодвы гэтыя гарады пасылалі свае гандлёвыя флётыліі і ў Ангельшчыну, Францыю і Фляндрыю. Усе багацьці Усходу—шоўк, бакалея, парфумы, рэчы збытку—ішлі ў Эўропу амаль што выключна праз Вэнэцыю і Геную. Што датычыць да іншых італьянскіх гарадоў, то, хаця-ж яны ў большасьці і ня прымалі самастойнага ўдзелу ў гандлі з Усходам [1]), але ўсё-ж ткі мелі магчымасьць з раскошай харчавацца ад пышнага стала вэнэцыйскага і гэнуэскага гандлю, адсылаючы ў гэтыя два гарады свае тавары або атрымліваючы ад іх (так было ў Фэрары, Равэньне, Балёньні і Анконе); апроч таго яны прымалі шырокі ўдзел ува ўнутраным эўропэйскім гандлі (Мілян, П'ячэнца), або разьвіналі чынныя банкавыя опэрацыі (Рым, Сьена, Люка). Усё гэта разам давала магчымасьць концэнтрацыі ў італьянскіх гарадох даволі значных капіталаў. У XIV сталецьці самай багатай гандлёвай фірмай у сьвеце была флёрэнцкая фірма Пэруццы, маемасьць якой цанілі ў 147000 флёрэнцкіх лір (вартасьць гэтых грошай раўнялася прыблізна 1.500.000 рублёў на нашыя грошы перад вайной); у XV сталецьці самым багатым банкірскім домам Эўропы былі Мэдычы, якія валадалі маемасьцю ў 500.000 флёрынаў, што па сваёй пакупнай сіле адпавядала 15.000.000 рублёў даваеннага часу. Толькі ў наступным XVI сталецьці пяршынства ў капіталістычным сьвеце перашло да нямецкага дому Фугераў, які валадаў у 1546 годзе 4.700.000 гульданаў, г. зн. 75.000.000—80.000.000 рублёў даваеннага часу. Пэруццы і Мэдычы былі, разумеецца, магнатамі капіталізму; роўных з імі ня было, а багацеі, якія больш-менш набліжаліся да іх, налічваліся адзінкамі. Але апроч іх у тагочаснай Італіі было шмат людзей, калі не з вялізарнымі, то з досыць значнымі сродкамі. Тутака ўжо ў XVI сталецьці зьяўляюцца акцыйныя кампаніі, асноўныя капіталы, якіх складаліся цалком з прыватных складак заможных асоб. Карабельнае будаўніцтва і мараходная справа Генуі ўжо ў XIV сталецьці разьвінаецца пры дапамозе акцыйных таварыстваў, прычым кожная складка (пай) дасягала сту генуэскіх лір. На акцыйныя капіталы абапіраецца тады і гандаль нявольнікамі, і заваёвы, і засяленьне колёній: з паёвых складак утвараюцца і банкаўскія капіталы. Так, найбольш буйны банк Генуі—Casa di San Giorgio,—які валадаў ужо ў пачатку XV сталецьця капіталам амаль што ў 3.000.000 генуэскіх лір,—быў акцыйным прадпрыемствам.

Гандлёвы капітал пранікаў тады і ў сфэру прамысловасьці, організуючы і эксплёатуючы дробную вытворчасьць. У Флёрэнцыі ў XIV сталецьці існавала каля 200 буйных суконных прадпрыемстваў, на якіх працавала каля 30.000 работнікаў. Майстры-прадпрыемцы раздавалі да хаты рабочым сыравіну (прадзіва), пасьля чаго атрымлівалі ад іх ужо гатовы тавар. Калі-б гэтыя саматужнікі-работнікі былі разьмеркаваны пароўну паміж прадпрыемцамі, то на кожнага з прадпрыемцаў выпадала-б па 150 работнікаў. На дзеле, разумеецца, гэткага роўнамернага разьмеркаваньня ня было, і дзеля гэтага было шмат прадпрыемцаў, на кожнага з якіх прыходзілася па некалькі сот работнікаў. Аб велічыні іх прыбыткаў дае прадстаўленьне той факт, што ў 1338 годзе суконныя работнікі Флёрэнцыі выраблялі каля 80.000 штук сукна на агульную суму ў 1.200.000 флёрынаў (каля 35.000.000 рублёў на даваенныя грошы).

---

[1]) Апроч Флёрэнцыі, але і яна самастойна пачала зносіцца з Усходам толькі ў пачатку XV сталецьця.

Вось якое грамадзянства жыло ў багатых італьлянскіх гарадох у канцы сярэднявечча. Маладая гандлёвая буржуазія хутка прабівала сабе дарогу. Яна несла з сабой у жыцьцё ўсе дадатнасьці і адмоўнасьці свае клясы. Гордая ад сваіх экономічных перамог, упэўненая ў сабе, яна высака цаніла сілу і схілялася перад сьмелай індывідуальнасьцю, якая перамагла ўсякія перашкоды. Культ высака-разьвінутае асобы ў гэты час атрымлівае гіпэрболічную велічыню. Моцная асоба стаўляецца ў цэнтры сьветабудовы, і яе поступы наперад абвяшчаюцца вышэйшай і канчатковай мэтай усялякае дзейнасьці. Людзі з новага грамадзянства, згодныя дзеля асабістага посьпеху на ўсё, з пагардай адносяцца да старое моралі, да старых патрыярхальных звычаяў, але, адначасна з гэтым, яны ня маюць і новых звычаяў. Дзеля гэтага, каб здаволіць свае павялічаныя, выхаваныя ў процэсе энэргіі і змаганьня, запатрабаваньні, яны не пагарджаюць ніякімі спосабамі. Гледзячы на жыцьцё, як на змаганьне, яны ня ведаюць літасьці да слабых. Чалавек з новага грамадзянства, кажа Буркгардт (Burckhardt), бачачы перад сабой пераможны эгоізм,—у сваіх асабістых справах сам абараняе свае правы і, імкнучыся аднавіць супакой свае душы шляхам асабістае помсты, падпадае пад уплыў цёмных сіл [1]).

Пад уплывам гэтага самага пераможнага гандлёвага капіталу разьвіналіся і грамадзка-політычныя абставіны таго часу ў поўнай адпаведнасьці з культам разьвінутых індывідуальнасьцяй і з індывідуалістычным сьветапаглядам наагул... Сярэднявечча было часам усялякіх аб'яднаньняў і таварыстваў. Вільляры, высьвятляючы грамадзкую аснову псыхолёгіі, правільна кажа, што сярэднявечныя комуны толькі здаваліся невялікімі дзяржавамі ў сучасным сэнсе слова, але ў запраўднасьці—гэта мешаніна тысячы розных аб'яднаньняў, як, напр., старэйшыя цэхі (arti maggiori), малодшыя цэхі (arti minori), таварыствы дзеля ўзаемнае абароны, таварыствы (consorterie), саюзы, організаваныя зусім па ўзоры рэспублік, з уласнымі сходамі, статутамі, судамі і пасламі. Часам яны бывалі мацней за самы цэнтральны ўрад, месца якога яны займалі, калі гэты ўрад, дзякуючы частым пераваротам, раптам скідалі. Можна нават сказаць, што ўся сіла комуны была якраз у гэтых асоцыяцыях, якія разьеднавалі і адначасна кіравалі ёю. Сувязь грамадзян з гэтымі асоцыяцыямі была самая шчыльная. Часта яны ахвяроўвалі жыцьцё дзеля абароны рэспублікі якраз толькі таму, што яна абараняла самастойнае існаваньне асоцыяцый, да якіх належалі гэтыя грамадзяне [2]).

Гэты партыкулярызм сярэднявечча, гэтая адданасьць тагочасных людзей сваім маленькім замкнутым асоцыяцыям выплывала з абмежаванасьці і вузкасьці гаспадарчых раёнаў таго часу, а таксама дзякуючы таму, што ня было лучнасьці паміж паасобнымі гаспадарчымі завязямі. Рамесьнік працаваў на маленькі рынак, які знаходзіўся ля гарадзкой мяжы: гарады слаба і рэдка ўваходзілі ў гаспадарчыя сувязі паміж сабой, і вузкасьць гаспадарчага поля дзеяньня адбівалася адпаведным чынам і на вузкасьці інтарэсаў, зьніжала запатрабаваньні духоўнага жыцьця і прызвычайвала задавольвацца малым. Асоба ня мела магчымасьці разгарнуцца сярод гэтых прыватных асоцыяцый і таварыстваў. Характэрна тое, што ў грамадзкай сьвядомасьці ў той час нават не існавала проблемы асобы, бо самыя імёны розных асоб—да якой-бы галіны ні адносілася іхняя дзейнасьць—да політыкі, да вай-

[1]) Burckhardt. Kultur der Renaissance in Italien.

[2]) Villari Pasquale, Niccolo Machiavelli, 1895.

сковае справы, да літаратуры або мастацтва,—тады зусім ня былі вядомы. XIV сталецьце прынесла з гэтага боку грунтоўны пералом. Поле дзеяньня гандлёвага капіталу ў гэты час пашыралася да вельмі значнае велічыні. Яму стала ўжо цесна ня толькі ў вузкіх межах гарадзкога раёну, але і ў межах паасобных нацыянальных утварэньняў. Ён імкнецца выйсьці за межы Эўропы, працягвае свае рукі за акіян,—і, урэшце, дасягае Амэрыкі і Ост-Індыі. „У процілежнасьць гарадзкому жыхару з цэхаў", кажа Каўцкі ў памянёным артыкуле, „які часта на працягу ўсяго свайго жыцьця ні разу ня выходзіў за межы роднага гораду,—купец няўтомна імкнецца ў невядомыя краіны". У вадпаведнасьці з гэтым у купца разьвінаецца і іншая псыхолёгія, чымся ў старога рамесьніка,—у ім разьвінаецца прадпрыімнасьць, адважнасьць, любоў да пашаны, імкненьне да жыцьцёвых асалод, адным словам, усе рысы індывідуалістычна настроенае асобы, якая разгарнула свае крылы і адчула сваю моц.

Для палітычна-грамадзкіх узаемаадносін Італіі гэтага часу аднэй з найбольш характэрных рыс ёсьць сувязь між гандлёвым капіталам і гарадзкой уладай, якая зьяўляецца адначасна і ўладай дзяржаўнай. Асабліва яснай і моцнай робіцца гэтая сувязь тады, калі на чале паасобных дзяржаў Італіі становяцца авантурнікі, вядомыя пад назвай тыранаў, якімі кіравала любоў да пашаны. Экономічны грунт гэтае сувязі зусім ясны: купец, які выносіў сваю дзейнасьць за межы бацькаўшчыны, патрабаваў падтрыманьня і абароны з боку моцнае ўлады. Ён згодзен быў падтрымаць кожнага энэргічнага ўладара, які праз войны і праз трапныя дыплёматычныя перамаўленьні ўтвараў для яго найбольш спрыяючыя ўмовы гандлю. Купец і сам ня цураўся ўдзелу ва ўладзе, а часам не адмаўляўся і стаць на чале яе, зрабіцца тыранам, як гэта здаралася з найбольш шчасьлівымі прадстаўнікамі гандлёвага капіталу ў той час. Заможны купец і тыран зьяўляюцца ў той час людзьмі аднаго і таго самага грамадзянства, аднаго і таго самага духоўнага складу, аднае культуры,—індывідуалістычнае паводле свайго асноўнага зьместу. Гэтым тлумачыцца тое, што новая культура ўтвараецца ня толькі сярод купецкіх колаў таго часу,—яна ўтвараецца і пры дварох уладароў таго часу. Далей нам прыдзецца больш падрабязна гаварыць аб тым, якім чынам прадстаўнікі новае культуры—гуманістыя—служылі тыраніі. Тут-жа, даючы характарыстыку грамадзка-палітычнага ладу, з якога вырас гуманізм, мы адзначым, што па сваёй псыхолёгіі новыя ўладары былі таксама мала падобны да старых тупых і мала рухлівых уладароў, як і прадстаўнікі гандлёвага капіталізму—да паважных і спакойных рамесьнікаў мінулага часу. Аднолькавыя ўмовы ўзвышэньня ўтваралі і аднолькавы склад душы. Выдатныя тыраны таго часу—Франчэско Сфорца ў Міляне, Сыгізмондо Малятэста ў Рыміні, Борзо д'Эстэ ў Фэрары, Козімо і Лёрэнцо Мэдычы ў Флёрэнцыі, Франчэско Фоскары ў Вэнэцыі, Аляксандар VI Борджыя ў Рыме, Фэрдынанд (Фэрантэ) Арагонскі ў Нэаполі—усё гэта яскравыя палітычныя фігуры поўныя нястрыманае энэргіі і ваеннае адважлівасьці, якія ўладалі адначасна і глыбокім веданьнем людзей і тонкім падступствам. Іхняя любоў да пашаны ня ведае меж, іхняя ўпэўненасьць у сабе даходзіць да гарэзасьці, і не дарма тое, што яны апынуліся на паверхні палітычнага жыцьця Італіі, выклікае гураганы палітычных запалаў і грамадзкіх хваляваньняў. Большасьць іх былі людзі бяз роду і племені, у крайнім выпадку—пазашлюбныя дзеці тытуляваных уладароў. Зьвязаўшы свае інтарэсы з інтарэсамі гандлёвае буржуазіі, яны былі прымушаны весьці да пэўнае ступені дэмакратычную палітыку. Гэткая палітыка была патрэбна для трапнае барацьбы са старымі ары-

стократычнымі фамiлiямi, якiя абапiралiся на свае старасьвецкiя фэўдальныя правы. Фэўдалiзм быў перашкодай у гэты час на шляху да памыснага разьвiцьця капiталiстычных адносiн, перамога над iм была паўсёднай патрэбай для тых, хто абараняў iнтарэсы гандлёвага капiталiзму. Для гандлёвых фiрмаў таго часу патрэбна было пашырэньне ўнутранага рынку, а пашырыць рынак можна было толькi ўтварыўшы для сялян магчымасьць вольнага пераезду ў гарады, бо ў вёсцы таго часу быў малы попыт на тавары. Павялiчэньне вольнага гарадзкога насельнiцтва за кошт залежнага вясковага было важна для новых магнатаў капiталу i дзеля забесьпячэньня сябе патрэбным лiкам работнiцкiх рук. Вось чаму ў Паўночнай i Сярэдняй Iталii ўжо у XIII—XIV сталецьцях праводзiцца запраўдная сялянская эмансiпацыя. У выпадку, калi сяляне ўцякалi з вёскi ў горад, грамадзкая ўлада становiцца на бок уцекачоў, адмаўляецца выдаваць iх назад абшарнiкам i iмкнецца прымусiць апошнiх прымаць выкуп з боку сялян за атрыманьне вольнасьцi, калi сяляне прапануюць такi выкуп. Абарона iнтарэсаў гарадзкога капiталу прыводзiць гарадзкую ўладу да сутычкi з фэўдаламi i з iншага боку, бо ў гарадох ужо на пачатак XIII сталецьця пасьпелi сконцэнтравацца вольныя капiталы, якiя шукалi сабе прыстасаваньня ў зямлi. Мiж тым iснаваньне фэўдальных узаемаадносiн перашкаджала вольнай мобiлiзацыi зямельнае ўласнасьцi, i гарадзкiм капiталiстым было важна разьбiць у сваiх уласных iнтарэсах гэтую фэўдальную няволю, бо iнакш яны не маглi пранiкнуць на зямлю.

Змагаючыся з фэўдаламi, новыя людзi,—да якiх належалi i тыраны, i iншыя гарадзкiя ўлады, i купцы новае формацыi,—iмкнуцца прывабiць да сябе i грамадзкую дэмократыю, якая складалася з дробных гандляроў, рамесьнiкаў i часткай з работнiкаў. Найбольш яскрава праводзiць гэтую палiтыку фамiлiя Мэдычы ў Флёрэнцыi, спачатку чыста купецкая, а потым тыранiчная. Заснавальнiк гэтае фамiлii Джованьнi Мэдычы яшчэ ў XIV сталецьцi праводзiць рэформу падатковае сыстэмы, у васнову якой быў пакладзены прынцып паступовасьцi: чым большая была маемасьць таго, каго абкладалi, тым большы бралi з яго процант. Такiм спосабам Джованьнi Мэдычы схiляў на свой бок народныя гушчы Флёрэнцыi; гэтую сыстэму разьвiнаў i падтрымлiваў яго сын Козiмо, калi зрабiўся тыранам Флёрэнцыi. Палiтыка гэтага ўладара мае ўжо ў поўнай меры азначаны i востра выяўлены адбiтак дэмократызму: ён ня толькi стварае падатковыя палёгкi незаможным. але i змагаецца з беспрацоўем, организуючы ўвесь час будаўнiчыя работы ў Флёрэнцыi, утвараючы танны крэдыт незаможным i даючы шмат заказаў артыстым i мастаком. Гэткiмi i падобнымi спосабамi тыраны Iталii адначасна i прыцягваюць да сябе народныя гушчы, i робяць iх залежнымi ад сябе. Трэба пры гэтым заўважыць, што ўзмацаваны гандлёвы капiтал праводзiў дэмократычную палiтыку ня толькi рукамi тыранаў, але i рукамi iншых гарадзкiх улад таго часу, якiя абаранялi iнтарэсы гэтага самага гандлёвага капiталу. У гэтай дэмократычнай палiтыцы, разумеецца, ня было i не магло быць вялiкае вытрыманасьцi, бо прадстаўнiкi гандлёвага капiталiзму зварочвалiся да яе пастолькi, паколькi iм патрэбна было падтрыманьне народных гушчаў дзеля змаганьня з фэўдальнымi элемэнтамi i паколькi фэўдалiзм перашкаджаў на шляху да памыснага разьвiцьця капiталiстычных узаемаадносiн. Але паколькi магнаты гарадзкога капiталу адчувалi сябе ўпэўнена, яны ня ўхiлялiся ад таго, каб самым жорсткiм спосабам эксплёатаваць залежных ад iх рамесьнiкаў i iншы дробны люд, а таксама ставiць iх у самыя цяжкiя формы залежнасьцi. Вось чаму iхнi нацiск на нiзы насельнiцтва павялiчваўся ў меру таго, як зьмяншалася сiла i значэньне

фэўдальных грамадзкіх элемэнтаў. Дзякуючы ўсяму гэтаму ўтвараліся ўмовы, спрыяючыя таму, што навокал тыранаў зьяўлялася новае асяродзьдзе, якое было чужым для старога фэўдальнага грамадзянства, формальна пазбаўленае станаў, але па сутнасьці блізкае да новае купецкае буржуазіі. Элементы пазбаўленае станаў грамадзкасьці былі ў Італіі і раней. У Флёрэнцыі ўжо так званымі „Пастановамі Справядлівасьці“ Джыано дэльля-Бэльля, выдадзенымі ў 1293 г., быў скасаваны падзел на шляхту і просты народ (grandi i populani); засталася толькі маемасная розьніца паміж буйной і дробнай буржуазіяй, паміж старэйшымі і малодшымі цэхамі. Такі самы процэс паступовага ўтварэньня пазбаўленага станаў грамадзянства йшоў і ў іншых гаспадарствах Італіі. Вось чаму бязродныя авантурнікі, якія даходзілі да верхавін улады, былі ў такой самай меры продуктам гэтага новага грамадзянства, як і яго абаронцамі і організатарамі. Працерабіўшы сабе шлях да ўлады, дзякуючы асабістай энэргіі і здольнасьцям, тыраны разумелі, якую магутную службовую сілу мелі магчымасьць яны атрымаць у васобе людзей новае культуры, якія, як і яны, сталі вышэй за звычайныя колы і парвалі з асновамі старога традыцыйнага сьветапагляду. Адсюль паўстае іхняе імкненьне да адукаваных пановаму дыплёматаў, да поэтаў, да прамоўцаў і пісьменьнікаў, якіх яны прыцягвалі да свайго двара, ня гледзячы на пахаджэньне гэтых людзей. Якраз пры дварох тыранаў Італіі ўзьнікае найбольш адпаведны грунт для новага індывідуалістычнага сьветапагляду, якраз тут утвараецца тое агульнае для часоў гуманізму пераконаньне, што годнасьць чалавека не залежыць ад яго пахаджэньня і што толькі ўласныя ўнутраныя якасьці асобы зьяўляюцца адзінай мерай дзеля ацэнкі яе дзеяньняў.

Вось які быў экономічны і грамадзка-палітычны грунт, на якім разьвівалася новая гуманістычная культура. Яе экономічнай асновай быў гандлёвы капіталізм, яе соцыяльна-палітычнай перадпасылкай—пазбаўленая станаў грамадзкасьці тыранічная ўлада, яе ідэолёгічным выяўленьнем—індывідуалістычны сьветапагляд, які прасякаў усе галіны тагочаснае літаратуры і думкі. Нашым заданьнем і ёсьць цяпер—адзначыць асноўныя лініі гэтае новае культуры і вызначыць яе найбольш яскравыя моманты. У даным артыкуле гэта, разумеецца, можна зрабіць толькі ў агульных, сумарных рысах і дзеля гэтага наш нарыс павінен мець схэматычны характар.

У васнове сярэднявечнае культуры была схолястычная навука, якая ўціскала свабоду і самастойнасьць думкі і абмяжоўвала сьветагляд аднымі тэолёгічнымі інтарэсамі,—а таксама аскетычны сьветапагляд, які накіроўваў думкі на клопаты аб збаўленьні душы і які засуджваў усялякія земныя пачуцьці і сьвецкія інтарэсы. Поўнае жыцьця насельніцтва новых гандлёвых гарадоў не здавольвалася ні тым, ні другім; у новай індывідуалістычнай культуры, якая на першы плян стаўляла інтарэсы асобы, вольнае ад тэолёгічных аўторытэтаў і поўнае жаданьня самараскрыцьця,—перш за ўсё кідаецца ў вочы земны і сьвецкі характар гэтае асобы. Першыя гуманістыя не вялі адкрыта барацьбы ні проці схолястыкі, ні проці аскетызму. Яны лічылі сябе вернымі сынамі каталіцкае царквы і з вялікай пашанай схіляліся перад царкоўнымі аўторытэтамі. Але ўвесь іхні спосаб мысьленьня і пачуваньня выяўляў у іх зусім іншы склад душы, чымся той, які быў у людзей сярэднявечча. Гарадзкое жыцьцё з яго багацьцем, з яго гандлёвым ажыўленьнем, з яго дзіўнымі заморскімі рэчамі давала столькі спакус, а весткі і апавяданьні аб новых людзях, новых землях, якія прывозілі падарожнікі, так пашыралі абмежаваны дагэтуль сьветагляд

людзей таго часу, што іхняя псыхолёгія сама сабой пэратваралася на новы лад. Імкненьне выкарыстаць усе дадатныя бакі жыцьця і ўзяць ад яго ўсё, што магчыма, знаходзілася ў беспасрэднай сувязі з характарам часу першапачатковага концэнтраваньня капіталаў. Першыя багацеі ня мелі магчымасьці ні пераводзіць свае маемасьці ў банкаўскія паперы або акцыі, ні ўкладаць іх у прамысловасьць. Крэдытныя опэрацыі былі толькі яшчэ ў зародку, і банкі ў кожным выпадку ня мелі магчымасьці паглынуць усіх вялізарных маемасьцяй таго часу, а буйная прамысловасьць была яшчэ занадта слабая, укладваць грошы амаль што ня было куды, і дзеля гэтага маемасьці трацiліся на шалёную і некарысную пышнасьць. Ні папярэдняя эпоха, бедная на маемасьці, ні наступная, калі зьявілася магчымасьць вытворчага набіраньня багацьця, ня ведалі такога марнатраўства і такое шалёнае пагоні за асалодамі жыцьця, як час гуманізму. Чалавек, які абудзіўся ад даўгога сярэднявечнага сну, з няўтомным хаценьнем накінуўся на ўсе прынады, і жыцьцё закрасавала ў яго вачох яскравымі хварбамі ўсялякіх асалод. У вадпаведнасьці з гэтым утварыўся зусім новы лад духоўнага жыцьця, які вымагаў ад літаратуры азабражэньня пекнаты і радасьці жыцьця. І літаратура, якая служыла купецкаму грамадзянству і блізкім да яго прыдворным колам, дала вялізны матар'ял для здаваленьня гэтае патрэбы. Вось чаму гуманістычная літаратура мае такі жыцьцярадасны характар, вось чаму апісаньне і ўслаўленьне радасьцяй жыцьця займае ў ёй такое выдатнае месца. Сярод гэтых апісаньняў ды ўслаўленьняў першае месца займала, разумеецца, каханьне. Апевы каханьня ня былі новым зьявішчам; у рыцарскай поэзіі сярэднявечча яно займае вельмі пачэснае месца. Але лірыка каханьня часоў рыцарства азабражае каханьне хутчэй у выглядзе нябеснага, чымся земнага пачуцьця. Плятонічная пашана да дамы сэрца мела ў сабе элемэнт чыста рэлігійных адносін да нейкага няяснага і мутнага ідэалу. Гэтае каханьне было не рэальным пачуцьцем, уласьцівым земным людзям з крыві і цела, а аднэй з праяў царкоўнае трансцэдэтальнасьці, бо, урэшце, поўнага зьдзяйсьненьня жаданьняў сярэднявечныя лірыкі каханьня чакалі не на гэтым, а на тым сьвеце. Ад рэальнага жыцьця гэтае каханьне, уласьціва кажучы, знаходзілася далёка, бо містычнае выяўленьне пашаны да мала знаёмае і нават зусім невядомае жанчыны, якая была абстрактнай формай хрысьціянскіх цнот, у поўнай меры ўжывалася з нязвычайнай грубасьцю і дзікасьцю ў адносінах да запраўднае і блізкае жанчыны. Характэрна пры гэтым тое, што гэтае містычнае каханьне, як гэта ўжо даўно заўважыў Рюккэрт [1]), разумелася тады, як пачуцьце стану, бо сярэднявечны лірык каханьня не прыпушчаў, каб яе ценкую асалоду і містычны аромат мог адчуваць хто-небудзь, што не належаў да рыцарскага стану (або да зьвязаных з ім адзінствам культуры клерыкаў). Каханьне Данта да Бэатрычэ ёсьць тыповым узорам такога містычнага каханьня, якое адчуваецца да няяснага і туманнага вобразу. Ня дарма Бэатрычэ ўрэшце пэратвараецца ў тэолёгію і ня зьбліжаецца, а аддаляецца ад Данта.

Зусім іншы характар мае каханьне ў першага гуманістага Пэтраркі. Тая Ляура, якую ён апявае, ёсьць перш за ўсё жывой жанчынай з крыві і цела. Сваё каханьне поэта апісвае яскравымі хварбамі, далёкімі ад усялякае містыкі. Ён адчувае запраўдны і бурны пал; даючы малюнак палу, ён ужывае амаль што сучасныя нам словы і звароты і апісвае яго ў адпаведнасьці з псыхолёгічнай праўдай. Каханьне ў

---

[1]) H. Rückert. Lehrbuch der Weltgeschichte in organischer Darstellung", 1859.



„Трыумф каханьня“. Італійскі дрэварыт XV сталецьця.
(Ілюстрацыя да „Трыумфаў“ Пэтраркі).

азабражэньні, якое даў Пэтрарка, нібы сэкулярызуецца, прыймае сьвецкі характар і не патрабуе падмацаваньня яго з боку тых рэлігійных вобразаў, якія мы сустракаем у Данта. Ён глядзіць на каханьне вачыма чалавека, прасякнутага сьвецкімі, а не царкоўнымі думкамі, і бачыць у ім законную патрэбу асабістага жыцьця. Такія адносіны да каханьня мы бачым і ў іншых прадстаўнікоў гуманістычнае літаратуры.

Зьмяняюцца цяпер і адносіны да жанчыны. Раней, у часы замкнутае хатняе гаспадаркі, жанчына была цалком прыкута да свае хаты. Гаспадарчыя клопаты, якія складалі значную частку абавязкаў жанчыны, прывязвалі яе да абмежаванага кола інтарэсаў, і таму сьветагляд жанчыны быў няшырокім. Цяпер у багатай купецкай сям'і жанчына эмансыпавалася ад гаспадарчых клапот, у яе стала шмат вольнага часу, і яна мела магчымасьць прыняць удзел у разумовым жыцьці таго часу поплеч з мужчынамі. У вадпаведнасьці з гэтым перад ёй стаўляюць павялічаныя вымогі. У гуманістычных колах дочкі атрымліваюць тую самую адукацыю, што і сыны. Былі жанчыны (напр., Ізотта Ногаролья), якія адмаўляліся ад шлюбаў, каб ахвяраваць сябе выключна навуковым заняткам. Можна назваць цэлы рад выдатных жанчын, якія аддаліся мастацтву (напр., Катарына дэ-Врыгі, Пропэрцыя Россі), або выявіліся ў палітычнай барацьбе (напр., Ізабэльля Гонзаго, Маргарыта Фортэбраччыо), або, урэшце, зрабіліся вядомымі, дзякуючы сваёй асьвеце і літаратурным імкненьням (Ізабэльля дэ-Люна, Катарына ды-Сан-Чэльзо і шмат іншых). У сувязі з агульным індывідуалістычным духам таго часу, жанчына зьяўляецца не безасабовай істотай, як у сярэднявеччы, а ў поўнай меры азначанай індывідуальнасьцю, якая часам узвышаецца да гэроізму. Гуманістычнае грамадзянства таго часу вымагала ад жанчыны і далікатнага пачуцьця, і разьвінутае думкі, і, у пэўнай меры, літаратурнасьці. Вось чаму і каханьне часоў Адраджэньня, накіраванае ў бок такіх жанчын, робіцца адным з самых магутных фактараў усебаковага разьвіцьця асобы. Яно вызваляецца ад свае прыналежнасьці выключна да аднаго стану, не зьяўляецца замкнутым у межы рыцарства пачуцьцём і набывае, кажучы словамі Рюккэрта, значэньне „ўсеагульнае сусьветнае сілы, якая выяўляе сваю магутнасьць усюды, дзе сустракае ўмовы запраўднае людзкасьці"; кажучы прасьцей, каханьне, зьбліжаючы людзей на грунце гуманістычных інтарэсаў, гэтым самым дапамагае разьвіцьцю чалавечае індывідуальнасьці. Разумеецца, сямейныя ланцугі ў тыя часы ня былі трывалымі, выпадкі парушэньня шлюбнае вернасьці лічыліся звычайным здарэньнем, але ў часы індывідуалізму—часы павялічаных індывідуалістычных вымог—нельга было чакаць іншага.

Уласьцівае эпосе пачатковага капіталізму імкненьне да шырокага жыцьця і да бурных асалод, вядзе людзей таго часу і да гіпэртрофічнага культу асобы. Дзякуючы немагчымасьці карыснага ўжываньня свайго багацьця, купец (і тыя, каго ён здалеў уцягнуць у сфэру свае культуры) траціць усю сваю энэргію або на комфорт і пышнасьць, або на ўласнае ўслаўленьне ці ўзьвялічэньне. Асоба, якая разьвярнулася ў новых умовах, парвала з аскетычным самавыраканьнем і адначасна была абмежавана ў сфэры карыснага ўжываньня свае энэргіі,—гэтая асоба вымагае здаволеньня ня толькі сваіх імкненьняў да вольнага і пышнага жыцьця, але і свае любві да пашаны. З гэтага выходзіць тое імкненьне да славы, якое складае адну з яскравых асаблівасьцяй гуманізму.

У сярэднявеччы, паколькі земнае жыцьцё ня мела самастойнае вартасьці, пастолькі-ж ня мела цаны і земная вядомасьць. Нават і па-

кланеньне сьвятым ня мела тады індывідуальнага характару, бо ў асобе сьвятых шанаваліся не індывідуальныя, а агульныя, да трафарэтнасьці падобныя адна на адну цноты; жыцьцяпісы сьвятых пісаліся не дзеля ўзьвялічаньня паасобных людзей, а дзеля ўшанаваньня цнаты наагул з тым, каб замацаваць яе сярод яе патомкаў. Часы гуманізму ў процілежнасьць гэтаму прызналі вартасьць і самастойнасьць асобы і адпаведна з гэтым утварылі запраўдны культ славы. Людзі гэтага часу высака цэняць усялякую вядомасьць, і дасягненьне асабістае славы, гэта значыць славы для самой асобы, а не для тэй справы, якая складала сэнс яе жыцьця, лічыцца ў той час за вышэйшую мэту людзкіх імкненьняў. У аўтобіяграфіях таго часу, якія былі таксама распаўсюджаны, як і жыцьцяпісы, мы бачым нават асабісты эгоцэнтрызм, бо іх аўтары з улюбеньнем апісваюць самыя дробныя дэталі свайго асабістага жыцьця, апавядаюць чытачом нават аб колькасьці зубоў, якая захавалася ў іх на старасьці ў роце (так робіць, прыкладам, падуанскі грамадзянін Люіджы Корнаро); ім здаецца, што ўсё, калі толькі яно мае адносіны да іх асобы, павінна мець і грамадзкую значнасьць.

Гуманістычная грамадзкасьць ня толькі ня ганьбіла гэткага імкненьня да асабістае славы, але наадварот, усімі спосабамі заахвочвала да гэтага. Выдатных людзей абкружалі запраўдным культам і аддавалі ім самім і іх памяці нязвычайную пашану. Вядома, якой нязвычайнай пашанай карыстаўся Пэтрарка пры жыцьці: у часе ўрачыстае цэрэмоніі, згодна з пастановай Рымскага Сэнату, ён быў укаранаваны ў Капітоліі ляўровым вянком. Знаёмства з ім шукалі цары, каралі, князі і магнаты царквы; на яго радзіме забаранілі перабудоўваць дом, у якім ён нарадзіўся; як ён памёр надгробак яго шанаваўся як сьвятыня. Такі самы культ мы бачым і ў адносінах да іншых, нават і менш вядомых асоб. Паасобныя гарады і тыраны спрачаюцца паміж сабой аб тым, каму з іх захоўваць астанкі слынных людзей, утвараецца амаль што антычнае прадстаўленьне аб „гэроях“, як аб нейкіх напалову-містычных істотах. Прычым да гэтых гэрояў, у вадпаведнасьці з сьвецкім кірункам часу, калі станы ня мелі значэньня, далучаюцца ня папы і сьвятыя, не князі і магнаты, нават не правадыры, а славутныя пісьменьнікі, праўнікі, мастакі і наагул людзі, закранутыя гуманістычнымі павеямі. Наагул у гэтым кульце славутных людзей досыць яскрава выяўляецца ўласьцівая новаму грамадзянству купецкіх гарадоў думка, што слава не залежыць ні ад старасьці і ні ад выдатнасьці роду, а здабываецца толькі асабістымі заслугамі. У трактаце Поджыо Браччыоліні, пісьменьніка пачатку XV сталецьця, „Аб шляхоцтве“ (De Nobilitate) мы чытаем: „Слава і шляхоцтва мераюцца ўласнымі заслугамі, а ня чужымі, і такімі дзеяньнямі, якія зьяўляюцца як вынік нашае ўласнае волі... Наколькі больш заслугі—пабудаваць дом, чымся жыць у ім, або аздобіць ужо пабудаваны, настолькі-ж больш заслугі і перавагі—валадаць самастойна здабытым шляхоцтвам, чымся захоўваць шляхоцтва, атрыманае ад іншых: першы нясе з сабой сваю ўласную пахоДню, а другі—чужую“. Характэрна пры гэтым, што часам гэны культ славы парывае сувязі ня толькі з прынцыпамі станаў, але з прынцыпамі царкоўнасьці і прыймае характар запраўднага рэлігійнага вольнадумства—аж да выказваньня антыхрысьціянскіх палажэньняў. Так, аднойчы адзін гуманісты ўзяў ліхтары з аўтара і перанёс іх на надгробак славутнага чалавека, кажучы: „Ты болей варты іх, чымся расьпяты“.

Увесь гэты культ асобы быў-бы зусім немагчымы, калі-б гуманістыя захавалі сярэднявечнае прадстаўленьне аб прыродзе чалавека.

Аскетычнае прадстаўленьне аб тым, што прырода чалавека сама па сабе грэшная і патрабуе сталага самаабмежаваньня, замяняецца цяпер захопленым ушанаваньнем людзкіх цнот. Тая напружаная дзейнасьць, якая расквітала цяпер у гандлёвых гарадох, вымагала веры ў сілы чалавека і ў здольнась яго да ўдасканаленьня. Для цёмных сярэднявечных прадстаўленьняў аб тым, што чалавек нічога ня варты перад асобай бога, цяпер няма месца. Новая гуманістычная культура прасякнута, у процілежнасьць гэтаму, вялізным оптымізмам, вялізнай верай у васобу чалавека. Асабліва характэрны пры гэтым той гімн вартасьці чалавека, які пяе гуманісты канца XV сталецьця Піко-дэльля Мірандоля ў сваім вядомым трактаце „De dignitate hominis“. Мірандоля стаўляе яшчэ значасьць існаваньня чалавека ў залежнасьць ад божае ласкі, але чалавеку надае ён такую волю і такую бязьмежную сфэру дзейнасьці, што гэта ўжо не адпавядае царкоўным запатрабаваньням самазьнявагі і пакоры. Бог кажа чалавеку ў Мірандолі: „Я зрабіў цябе істотай не нябеснай, але і ня толькі земнай, не сьмяротнай, але і не забясьпечанай ад сьмерці, каб ты, вольны ад уціску, сам зрабіўся творцай і вылепіў вобраз, які ты захочаш. Табе дадзена магчымасьць дайсьці да ступені жывёлы, але таксама і магчымасьць падняцца на ступень падобнае да бога істоты,—выключна дзякуючы тваёй унутранай волі“. Гэткае прадстаўленьне аб асобе, якая пастаўлена богам у цэнтры сьветабудовы, але якая не патрабуе яго далейшае дапамогі, ёсьць хутчэй дэістычнае прадстаўленьне, чымся сярэднявечна-хрысьціянскае.

Уласьцівае гэтай эпосе вялікае прагненьне да ўцех жыцьця і імкненьне ўзяць ад жыцьця ўсё магчымае выклікала і зацікаўленасьць да прыроды. Разьвінуўшаяся асоба не здалела-б знайсьці досыць матар'ялу для ўсебаковага скарыстаньня жыцьця, каб яна не зьвярнулася да прыроды. Дзеля гэтага, побач з культам чалавека, у гэты час зьяўляецца і культ прыроды. Знадворны сьвет нібы нанова адчыняецца перад гуманістымі. Уважлівасьць да прыроды выяўляецца ў гэты час у двох кірунках: з аднаго боку яна выклікае да сябе зацікаўленасьць у навуковым сэнсе—разьвінаецца імкненьне да яе вывучэньня і пазнаваньня, з другога боку—гуманістыя пачынаюць разумець пекнату краявіду, і сярод іх разьвінаецца здольнасьць эстэтычнага ўспрыняцьця знадворнага сьвету. У Італіі сьвецкая навука знаходзілася і ў сярэднявеччы ў крыху больш вольных умовах, чымся на поўначы, дзе ў гэты час была прынята офіцыяльная сыстэма прыродазнаўства, адхіляцца ад якой нікому не дазвалялася; італьлянскія комуны і першыя тыраны яшчэ ў XIV сталецьці дазвалялі сабе іронічна адносіцца і да схолястыкі, і да інквізыцыі. Аднак-жа і тут, ня толькі ў глухія часы сярэднявечча, але нават і ў пачатку XIV сталецьця былі выпадкі, што прыроднікі—асабліва дактары—(напрыклад, П'етро з Альбано і Джыованьніно Сынгвіначы з Падуі), траплялі пад суд інквізыцыі за свае навуковыя досьледы. Дзеля гэтага і тут да XV сталецьця вывучэньне прыроды было небясьпечнай рэччу. З другога боку, нават і ў часы росквіту гуманістычнае культуры, яму моцна перашкаджала агульнае захапленьне гуманітарнымі навукамі—поэзіяй, гісторыяй, жыцьцяпісамі і г. д. І ўсё-ж ткі ў XV сталецьці натуралістыя Італіі сярод усіх вучоных Эўропы займаюць бясспрэчна першае месца. Варта толькі назваць прозьвішчы Леонардо да-Вінчы, Тосканэльлі і вядомага матэматыка таго часу Пачыолі, каб зразумець вялізнае значэньне італьлянскіх вучоных у эўропэйскай навуцы XV сталецьця. Але вывучэньне прыроды прыцягвае да сябе ў той час і звычайных вучоных і нават проста аматараў: усюды зьбіраюцца колекцыі расьлін і жывёл, разво-

дзяцца батанічныя сады і новыя пароды расьлін, зьяўляюцца навуковыя падручнікі да сельскай гаспадаркі, закладаюцца новыя элемэнты навуковага руху ў батаніцы, зоолёгіі і геграфіі.

Але ўсе гэтыя пачаткі дакладнае навукі былі наагул яшчэ слабыя і мала карысныя. Чалавек, які абудзіўся ад сярэднявечнага сну і ўпяршыню адкрыў вочы на знадворны сьвет, хутчэй быў здольны спачатку ўспрыняць яго эстэтычны бок, больш быў здольны захапляцца яго харастовам, чымся паглыбляцца ў яго вывучэньне. Але і ў гэтым быў ужо вялікі поступ у параўнаньні з аскетычным духам сярэднявечча, хаця-ж гэты апошні і выявіўся ў Італіі ў меншай ступені, чымся ў рэшце старон. Гуманістыя зразумелі мастацкі сэнс прыроды, і дзеля ўсебаковага разьвіцьця асобы гэтая здольнасьць мастацкага ўспрыняцьця мела вялізнае значэньне. Ужо Боккачыо казаў, што нагляданьне прыроды дапамагае яму паглыбіцца ў сябе (mentem in se colligere), а ў Пэтраркі вадняцьце на гару Вэнту (каля Авінсона) і нагляданьне вялічэзнага краявіду, які адчыніўся стуль, выклікае цэлы гураган думак і прымушае яго ўспомніць усё сваё жыцьцё. Гэткую-ж здольнасьць знаходзіць у эстэтычных уражаньнях ад прыгожых мясцовасьцяй крыніцу для абуджэньня розуму і духоўнае працы мы бачым і ў славутнага папы-гуманістага Энэя Сыльвія Піккалёміні (Пій II), які, па словах Буркгардта, быў „першым з італьлянцаў, які ня толькі пазнаў прыгожасьць свае роднае прыроды, але і імкнуўся даць яе дакладны малюнак". І ў значным ліку іншых аўтараў мы знаходзім таксама здольнасьць знаходзіць у прыродзе жывую душу, уваходзіць з ёю ў сувязь і чэрпаць новыя сілы. Усяго гэтага мы-б дарэмна сталі шукаць у сярэднявечнага чалавека.

Так, гуманістычная культура, зьвярнуўшыся ад бога да чалавека і прыроды, шукала сабе новых шляхоў і спосабаў, праз якія яна мела магчымасьць дапамагаць усебаковаму разьвіцьцю асобы. І ўвага да чалавека, які стаў для гуманістых у цэнтры сьветабудовы замест бога, і зварот да прыроды—усё гэта для гуманістых было толькі новым спосабам, каб паглыбіць уласнае духоўнае жыцьцё і здабыць матар'ял для больш шырокага разьвіцьця. Гуманістычная культура заставалася аднолькава індывідуалістычнай у сваіх зваротах і да знадворнага сьвету, і да ўнутранага жыцьця чалавека, бо інтарэсы асобы і асабістага разьвіцьця заўсёды стаялі для яе на першым месцы. Такім самым спосабам для асабістага разьвіцьця быў і зварот гуманістых да антычнае культуры. Параўнальна яшчэ нядаўна даволі шмат вучоных (Гэльвальд, Буле, Шмідт, асабліва Фойгт і інш.) глядзелі на гуманізм толькі як на адраджэньне клясычнае старадаўнасьці. На іх думку гуманізм быў толькі адроджанай старадаўнасьцю; яго першапачатковай крыніцай было знаёмства з антычным сьветам, яго асноўным імкненьнем—заўладаньне антычнай культурай, яго пачатковым момантам—узяцьце Канстантынопаля туркамі, пасьля якога бізантыйскія грэкі пачалі перасяляцца ў Італію і прынясьлі з сабой веды грэцкае мовы і грэцкае літаратуры. У сучасны момант даведзена поўная беспадстаўнасьць гэтага пагляду. Гуманізм вырас на новым грунце, які быў зьвязаны з разьвіцьцём вялікіх гандлёвых гарадоў і нічога ня меў супольнага з антычным сьветам; ён паўстаў куды раней, як быў узяты Канстантынопаль, якое здарэньне ў яго разьвіцьці ня мела амаль што ніякага значэньня; бізантыйскія грэкі мала ведалі стара-грэцкую літаратуру і зусім не разумелі яе духу. Антычная літаратура давала толькі матар'ял для апрацаваньня новае індывідуалістычнае культуры; яе вывучэньне было толькі спосабам, пры дапамозе якога можна было

перабудаваць старыя прадстаўленьні на новы лад, а ні ў якім разе— ні першакрыніцай, ні самастойнай і канчатковай мэтай гуманістычнага руху. У гэтым сэнсе яе роля ў гуманістычным руху была і заставалася толькі службовай.

Але тую службу, якую гуманістыя вымагалі ад антычнае культуры, яна магла выканаць і выканала добра. У клясыцызьме былі якраз тыя элемэнты, якія былі патрэбны для новае культуры, гэта—сьвецкі пагляд на зьявы прыроды і жыцьця, уважлівасьць да асобы чалавека і да знадворнага сьвету навокал яе, культ славы і гэрояў, высокае прадстаўленьне аб паважнасьці чалавека і ўменьне цаніць хараство прыроды. Адраджэньне клясычнае старадаўнасьці было тым больш лёгкім у Італіі, што тут ніколі не памірала клясычная традыцыя і што італьлянскае адукаванае грамадзянства і ў сярэднявеччы адчувала сваю сувязь з культурай антычнае Італіі. Адным з яскравых довадаў гэтага ёсьць хаця-ж бы тое, што готыцкі стыль, які так пышна закрасаваў у Паўночнай Эўропе, у Італіі, апроч Мілянскага сабору, не пакінуў па сабе сьледу. Вось чаму адраджэньне прымала ў Італіі характар аднаўленьня забытае нацыянальнае старасьветчыны, што павінна было надаць гэтаму руху асаблівую жыцьцядзейнасьць і яскравасьць.

У кароткім артыкуле нельга, разумеецца, нават вызначыць асноўныя формы і кірункі, у якіх адбывалася гэтае адраджэньне клясычнае старадаўнасьці. Вывучэньне руін Рыму, якое пачалося ўжо ў XIV сталецьці (у сярэднявеччы на гэтыя руіны глядзелі толькі як на каменаломню), любоў да зьбіраньня антычных рэчаў, шуканьне старадаўных аўтараў, утварэньне бібліотэк са знойдзеных клясычных твораў, адкрыцьцё і выпраўленьне захованых напісаў,—усё гэта дае складаны малюнак і мае даўгую гісторыю. Тут нам досыць зьвярнуць увагу толькі на некалькі яскравых прыкладаў гэтага палкага захапленьня старасьветчынай. Папа Мікола V (гуманісты Томазо Парэнтучэльлі) траціць шалёныя грошы на адшуканьне старасьвецкіх манускрыптаў, трымае дзеля гэтага шматлікіх даручнікаў і плаціць вялізныя сумы за пераклады грэцкіх клясыкаў на лацінскую мову (толькі за пераклады Гомэра ён дакляраваў заплаціць гуманістаму Філельфо 10.000 гульданаў золатам). Багаты флёрэнтыец Нікколё Нікколі (пам. 1437) усю сваю вялікую маемасьць траціць на куплю антычных кніг, і кладзе пачатак публічнае бібліотэкі з клясыкаў пры кляштары сьв. Маркі. Сінёрыя Вэнэцыі будуе дом пад бібліотэку, якая была сабрана вядомым грэкам—кардыналам Вісарыёнам, Козімо Мэдычы робіць тое самае для бібліотэкі Нікколё-Нікколі і наагул выступае ў ролі мэцэната ў адносінах да новае культуры. У розных мясцох Італіі з канца XV сталецьця закладаецца значны лік друкарань, якія зьяўляюцца ў гэты час ужо паважнымі спаборнікамі перапісчыка ад рукі. У гэты-ж самы час паўстаюць музэі, у якіх зьбіраюцца матар'яльныя рэшткі старасьветчыны, а таксама прыватныя школы, ахвяраваныя вывучэньню старадаўнасьці і зусім незалежныя пры гэтым ад царквы (школа ў Мантуі пад кіраўніцтвам вядомага Вітторыно, у Вэроне пад кіраўніцтвам Гуарыно і г. д.). Адначасна павялічваецца выкладаньне старадаўных моў і філёлёгіі ва унівэрсытэтах, асабліва ў Болёньні, якая нейкі час траціла на унівэрсытэт палову ўсіх сваіх прыбыткаў—каля 20.000 дукатаў. Галоўным чынам гэтыя шалёныя траты тлумачыліся немагчымасьцю карыснага ўжываньня капіталу, аб чым ужо казалі вышэй, але тут для нас важна адзначыць кірунак гэтых трат, які тлумачыўся вялікім захапленьнем антычнай культурай.

Але ніякім чынам нельга думаць, што антычная культура ў той час цалком захапіла сабой інтарэсы гуманістых. У душах іх заставалася месца і для іншых захапленьняў,—абы толькі яны дапамагалі асноўнай мэце гуманістычнае культуры—усебаковаму разьвіцьцю індывіда. Параўнальна мала вывучана, напр., захапленьне некаторых гуманістых усходнімі культурамі—яўрэйскай і арабскай. Вывучэньне арабскае мовы і твораў, напісаных паарабску, было часткаю працягам яшчэ сярэднявечнае традыцыі, калі ўсюды панавала арабская асьвета. Але і цяпер арабская культура ўзбуджае да сябе самую жывую зацікаўленасьць: і паасобныя гуманістыя (Андрэа Монгайо і Гэронімо Рамузіо) і нават гуманістычна-адукаваныя папы (Юлі II і Леў X) цікавяцца арабскай культурай, зьбіраюць арабскія манускрыпты, перакладаюць мэдычныя і філёзофскія творы з арабскае мовы, нават закладаюць арабскія друкарні. Яшчэ больш пашырана тады было захапленьне яўрэйскай літаратурай. Вядомы Піко-дэльля Мірандоля вывучаў ня толькі біблію, але і кабалу і талмуд. Ужо з 1475 году пачалося друкаваньне бібліі і іншых яўрэйскіх твораў у італьянскіх друкарнях. У Болёнскім унівэрсытэце была нават заснавана ў 1488 годзе катадра яўрэйскае мовы, тое самае было зроблена ў 1514 годзе ў Рыме. Вывучэньне яўрэйскае мовы ў некаторых культурных асяродках, па словах Буркгардта,[1]) лічылася нават ня менш важным, чымся вывучэньне грэцкае мовы. Разумеецца, трэба прызнаць, што і арабская, і яўрэйская літаратуры былі па сваім зьмесьце далей ад інтарэсаў і настрояў гуманістых, чымся літаратура антычная. Але тое, што было магчыма, гуманістыя бралі і з гэтае ўсходняе крыніцы.

Цяпер мы зьвернемся да пытаньня аб тым, у якіх формах і ў якой паступовасьці гінуў стары тэолёгічны сьветапагляд і аскетычная мараль пад уплывам азнаямленьня з новымі сфэрамі жыцьця і новымі крыніцамі асьветы. Самыя першыя гуманістыя—спаміж іх Пэтрарка і Боккачыо—не хацелі парываць з асновамі сярэднявечнае тэолёгіі. Ні хрысьціянства, ні сярэднявечны каталіцызм, ні царкоўную гіерархію сьвядома яны не крытыкавалі, хаця-ж, разумеецца, той культ асобы і асабістага разьвіцьця, апавесьнікамі якога яны былі, па сутнасьці быў зусім варожы ўсяму сярэднявечнаму. Але сьвядома яны стаўлялі сабе толькі адну мэту—пагадзіць гуманізм з каталіцызмам, прычым яны былі ўпэнены, што такая згода магчыма. Пэтрарка знаходзіў гэтую згоду ў стоіцызьме, у прызнаньні, што запраўдную мудрасьць і незалежнасьць чалавеку дае веданьне цнот і практыкаваньне ў іх, хаця-ж яго „цнота“ была ўнутранай сілай і мала залежала ад бога, што надавала ўсёй філёзофіі Пэтраркі сьвецкі характар. Боккачыо, які заклікаў карыстацца „радасьцямі, дадзенымі нам у гэтым кароткім жыцьці“, і які прызнаваўся, што ў яго няма сіл „для жаданьня спраціўляцца законам прыроды“, быў бліжэй да эпікурэізму, хаця-ж і неўсьвядомленаму ім, дзякуючы чаму ён яшчэ больш аддаляўся ад сярэднявечнае маралі, чымся Пэтрарка. Але ў душы абодвы яны лічылі сябе добрымі каталікамі і вернымі сынамі царквы, і дзеля гэтага стоіцызм аднаго і эпікурэізм другога, нявыяўленыя ў яскравай і рашучай форме, ня былі яшчэ фэрмэнтамі распаду сярэднявечнага сьветапагляду і, пакуль што, жылі ў згодзе з сярэднявечным каталіцызмам. Нават войстрыя напады абодвух гуманістых на так званую „псоту царквы“, г. зн.—на распусту папскага двара і манаства, даводзяць толькі тое, што ў душы іх жыло пачуцьцё абразы за чыстую ў аснове

[1]) Op. cit., т. I, стар. 240.

сваёй і сьвятую, на іх думку, царкву. Акадэмік Весялоўскі[1]) і нямецкі дасьледчык Янічэк[2]), праўда, знаходзяць антыхрысьціянскі нахіл яшчэ ў XIV сталецьці. Але проці існаваньня пачатковых зародкаў паганізму энэргічна спрачаюцца іншыя вучоныя[3]). Калі Пэтрарка наклікаў грымоты нябесныя на распусны папскі двор і празываў яго то „гняздом здрады, дзе ліха ўсё вядзецца, што губіць цяпер божы сьвет", то „Бабілёнам усіх грахоў, горнам усіх ашуканстваў, цёмнай турмой, дзе гіне дабро, ліха расьце", калі Боккачыо рабіў закіды манахам у тым, што яны імкнуцца толькі да „жанчыны і багацьця", што іх галоўны занятак—ашукваць„ удоў і безьліч іншых дурных жанчын",—то гэта азначала толькі тое, што для іх пытаньне аб чыстасьці і беззаваднасьці царквы было ня пустым гукам і што яны навальваліся ўсёй сілай свайго гневу і абурэньня на вінавайцаў зьдзеку над царквой. Ні самая папская ўлада, ні манаства, як інстытуцыі, на іх думку, ні ў чым ня былі вінаваты; вінаватымі былі толькі неадпаведныя папы і распусныя манахі.

Аднак, паступова, усё гэта зьмяняецца. Нахіл да выкрыцьця заган, які мы бачым у Пэтраркі, Боккачыо і іншых першых гуманістых, сьведчыў аб іх чулых адносінах да пытаньняў рэлігіі і царкоўнага добраладу. Але ўжо ў выдатнейшых гуманістых пачатку XV сталецьця мы бачым значна паменшаную цікавасьць да гэтых пытаньняў. Яны не нападаюць на асновы тагочаснае царкоўна-каталіцкае сыстэмы, яны проста прасякаюцца блізка поўнай незацікаўленасьцю да пытаньняў царкоўнага і рэлігійнага характару. Гуманістыя пачатку XV сталецьця Леонардо Бруні прынцыпова выступае ў абарону сьвецкае асьветы, усхваляе розум, як вышэйшую свомасьць (уласьцівасьць) чалавека, і навуку, як вышэйшую форму магчымае дзейнасьці чалавека. Яго сучасьнік Поджыо, калі ён быў прысутным на Констанцкім сáборы, зусім ня цікавіцца царкоўнымі спрэчкамі, якія там адбываюцца. Выказваючы сваю думку аб Гэроніме Праскім, ён не бярэцца вырашаць, ці Гэронім—гарэтык ці не; ён толькі дзівіцца яго стоіцызму, яго пагардзе да сьмерці і яго красамоўству. Гэткі самы рэлігійны індыфэрэнтызм мы бачым і ў толерантных адносінах да ісламу, пачаткі якога відаць, між іншым, ужо ў Боккачыо ў яго „Дэкамэроне", але які асабліва яскрава выяўляецца ў гуманістага XV сталецьця Люіджы Пульчы (у яго „Моргантэ Маджыорэ"). Пульчы ўжо проста выказвае думку, што ўсе рэлігіі роўназначныя і што прыналежнасьць да якое-небудзь з іх не дае нікому пераваг у справе збаўленьня душы[4]).

З Лаўрэнтам Вальлем, малодшым сучасьнікам памянёных гуманістых, у гуманізм уліваецца новы струмень—скептычныя і крытычныя адносіны да царкоўнае традыцыі. У Вальлі яшчэ няма таго, што празываецца паганізмам, г. зн.—варожых адносін да самога хрысьціянства, але затое ён пачынае нападаць на асновы каталіцкае царквы—на папскую тэократыю, на догматызм схолястаў і на аскетызм. Яго напады накіраваны ўжо не на скажэньні каталіцызму, а на самую сыстэму

[1]) Вилла Альберти. Москва, 1870.

[2]) Janitscheck Hubert. Die Gesellshaft in Italien und die Kunst. Vier Vorträge. Stuttgardt 1879.

[3]) Корелин. Ранний Итальянский гуманизм и его историография. Вып. II, стар. 871-875 и 1047-1048. Москва, 1892 г.

[4]) У гэтай рэлігійнай толерантнасьці, разумеецца, вялікую ролю адыгралі гандлёвыя падарожы італьлянцаў на ўсход, у часе якіх ім даводзілася часта сустракацца з мусульманамі.

каталіцкага сьветапагляду. У 1440 годзе ў трактаце „De Konstantini donatione“ ён даводзіць поўную гістарычную беспадстаўнасьць папскіх прэтэнзый на сьвецкую ўладу, у трактаце „De voluptate“ ён зусім сьвядома парывае з аскетычнай мораляй і з тым, каб за вышэйшую мэту жыцьця лічыць яго асалоды ў духу пасьлядоўна выяўленага эпікурэізму, а ў папраўках да лацінскага перакладу біблії (Vulgata) і ў цьвярджэньнях, што Майсей і эвангелістыя былі проста гісторыкамі,—выказвае крытычную здольнасьць да думкі і дух вольнага навуковага дасьледваньня.

Урэшце, у другой палове XV сталецьця, мы сустракаем ужо і запраўдныя спробы падмены хрысьціянскае філёзофіі філёзофіяй антычнай. У гэты час, з аднаго боку, разьвінаецца нэоплятонізм, галоўнымі прадстаўнікамі якога былі Марсіліо Фічыно і Піко-дэльля Мірандоля, а з другога—авэроізм, апаведнікам якога ў Італіі быў Помпонаццо. Нэоплятонікі прабуюць утварыць новую філёзофскую рэлігію, зусім непадобную да хрысьціянскае, а авэроістыя, сваёй тэорыяй аб першынстве розуму над іншымі сіламі і адмаўленьнем несьмяротнасьці душы, ўносяць у рэлігію рацыяналістычны і скептычны струмень. Вось тады (не раней другое паловы XV сталецьця) захапленьне старадаўнасьцю з аднага боку, а з другога—агульнае вольнадумства гэтых часоў і вядуць некаторых гуманістых да паганізму. Яшчэ раней і Боккачыо і нават некаторыя папы-гуманістыя схіляліся на падмену хрысьціянскіх паняцьцяў паганскімі: хрысьціянскага бога яны празывалі Iuppiter Maximus, або Di superi, боскую маці—mater deorum і г. д. Але пакуль што гэта было толькі знадворнай манерай і асаблівым спосабам выразу, які грунтаваўся на модным тады захапленьні антычнасьцю; за гэтай модай яшчэ не хаваліся варожыя адносіны да самага хрысьціянства, бо яна захапіла людзей, якія бязумоўна верылі і былі аддатнымі царкве. У другой-жа палове XV сталецьця (і пазьней) мы сустракаемся ўжо з зусім сьвядомым захапленьнем антычнымі рэлігійнымі прадстаўленьнямі, якія выявіліся і ў замене хрысьціянскага бога нэоплятонаўскім, абстрактным Адзіным Пачаткам, і ў авэроістычным кульце дзейнага розуму, як колектыўнага розуму ўсяго людзкога роду, і, у некаторых выпадках, у сьвядомым пакланеньні хараству і натуралізму антычнае рэлігіі. Дзеля гэтага маюць слушнасьць тыя гісторыкі, якія знаходзяць у гуманізьме досыць выразна выяўлены паганістычны струмень; толькі пачатак гэтага паганістычнага руху трэба адносіць не раней як да другое паловы XV сталецьця, а не да XIV сталецьця, як гэта робяць акадэмік Весялоўскі і Янічэк.

Падагульняючы адносіны гуманістых да каталіцкае царквы і рэлігіі, трэба адзначыць, што ў іх былі вельмі выразныя ўнутраныя нелёгічнасьці. Нападаючы ў сваіх літаратурных творах на рымскі двор, яны ў той самы час служылі яму на пасадах дыплёматаў і сакратароў; самыя напады іх на курыю, пры ўсёй вострасьці, ня былі вельмі сталымі і ўпорчывымі і ніколі не выліваліся ў стройна задуманую і сыстэматычна праведзеную атаку проці рымскае царквы. Шчыра ці няшчыра, але амаль што заўсёды, прынамсі ў пераважнай большасьці, гуманістыя пакідалі сабе магчымасьць схавацца за тое тлумачэньне, што іх напады накіраваны не на самую каталіцкую царкву і нават не на сыстэму царкоўнага кіраўніцтва, а толькі на яе скажэньні. Дзеля гэтага ў Італіі напады на царкву не перашлі і не павінны былі перайсьці ў вымаганьне грунтоўнае рэформы царквы, у царкоўную рэформацыю. Гэтага гуманістыя не хацелі, і, калі-б царкоўная рэформацыя ў Італіі пачалася, яны-б былі да яе ў опозыцыі. Каб высьвет-

ліць гэтае нерашучае і часта двохзначнае становішча італьлянскіх гуманістых у водносінах да рымскае царквы, трэба мець на ўвазе тое асаблівае палажэньне, якое займалі блізкія да гуманістых купецкія колы Італіі ў адносінах да папскае курыі. Як і ўсюды, рымская курыя эксплёатавала насельніцтва Італіі шляхам усялякіх пабораў, падаткаў і спагнаньняў; як і ўсюды, яна душыла кожную праяву вольнае думкі. Дзеля гэтага, паколькі купецкія колы былі зацікаўлены ў дэмократычнай політыцы і ў памысным разьвіцьці сьвецкае адукацыі, пастолькі і ўцягнутыя ў сфэру купецкае культуры гуманістыя павінны былі весьці барацьбу проці фінансавага ўціску з боку курыі і яе цямрычнасьці. Але з другога боку папы былі сьвецкімі ўладарамі сярэдняе часткі Італіі, і, як такія, дапамагалі яе нацыянальнаму ўзмацненьню, яе гандлёваму разьвіцьцю, а, значыцца, і зьвязанай з ім магутнасьці гандлёвых фірмаў. З гэтага пункту гледжаньня, чым вышэй падымалася папская ўлада, чым больш шырокія заданьні яна перад сабой стаўляла, тым карысьней гэта было купецкім элемэнтам і тым спагадней павінны былі адносіцца да іх прадстаўнікі купецкае культуры—італьлянскія гуманістыя. Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што папская курыя была тады найбольш буйным банкірскім домам, што ў руках папы знаходзіліся вялічэзныя грашовыя сумы, якія курыя пазычала, у выпадку патрэбы, гандлёвым фірмам, што купцы, урэшце, былі даручнікамі рымскіх пап дзеля спагнаньня падаткаў. Папы пры гэтым мелі ў тыя часы вялізныя грашовыя справы, аддавалі на пасэсію купецкім кампаніям спагнаньне падаткаў з цэлых провінцый, крэдыталі цэлыя дзяржавы, карыстаючыся пры гэтым паслугамі купцоў, робячы іх „пасярэднікамі і мянялямі" свайго двара. Маючы ўсё гэта на ўвазе, нам будзе зразумелым, у якіх рознастайных і складаных сувязях знаходзіліся тагочасныя купецкія колы Італіі з папскай курыяй, якія паслугі яны рабілі ёй і атрымлівалі ад яе. Зразумелым будзе таксама і тое, чаму гуманістыя, як прадстаўнікі купецкае культуры, ня йшлі ў сваёй опозыцыі проці пап вельмі далёка, чаму, робячы напад на злачынствы папства, яны спыняліся каля пэўнае мяжы, перайсьці за якую значыла-б зрабіць небясьпечным самае існаваньне тае сілы, без якое гандлёвы капітал сустрэў-бы перашкоды да свайго разьвіцьця.

Гуманізм разьвінуўся сярод таго багатага і, да пэўнае ступені, культурнага асяродзьдзя, якое ўтваралася дзякуючы разьвіцьцю гандлёвага капіталізму і якое складалася з аднаго боку—навокал бачыўшых сьвет, адукаваных купцоў, багацеяў таго часу, якія шмат бачылі і шмат ведалі, а з другога—навокал тыранаў і пап, якія пазнаёміліся з асьветай, пазналі прыемнасьць асабістае славы і імкнуліся пакінуць па сабе памяць у патомках. Прадстаўнікі гуманістычнае культуры ўтварылі выбранае грамадзянства, якое, хаця-ж і вышла з розных кляс і ня верыла ў забабоны, характэрныя для пэўных станаў, але якое лічыла сябе зборам выбраных людзей і аддзялала сябе ад масы мала адукаваных або неадукаваных людзей. Гэта была духоўная арыстократыя таго часу, якая адчувала і не хавала свайго адчураньня ад звычайнага грамадзянства; яна жыла ў межах свае групы, адарваная ня толькі ад народных гушчаў, але нават і ад больш-менш шырокіх грамадзкіх колаў. Індывідуалістычная культура, якую ўводзілі ў жыцьцё гуманістыя, мела вялікія заслугі перад гісторыяй, бо яна нішчыла асновы старога схолястычнага і аскетычнага сьветапагляду і ўтварыла новую сьвецкую адукаванасьць. Але гэтая новая сьвецкая адукаванасьць ня была ні народнай, ні агульнадаступнай. Для сярэднявечча было чужым паняцьце інтэлігенцыі, як замкнутае клясы адукаваных

людзей, без непасрэдных сувязяй з народнымі гушчамі. Сярэднявечны сьветапагляд, пры ўсёй сваёй адсутнасьці духоўнага зьместу, быў зразумелым для ўсіх, і ня трэ' было стаяць вышэй за ўсіх дзеля таго, каб зразумець ды зжыцца з ім.

Гуманістыя-ж, дзякуючы сваёй клясычнай адукаванасьці, дзякуючы пэўнаму знаёмству з прыродай і з душой чалавека, стаялі вышэй за грамадзянства, якое іх абкружала, а тым балей—вышэй за народныя гушчы. Але яны нічога не рабілі і не хацелі зрабіць дзеля таго, каб падыйсьці да гэтых гушчаў і наблізіць да іх сваю культуру. Яны пісалі на незразумелай для шырокіх колаў лацінскай мове, і да роднай італьлянскай мовы, як мовы неадукаванае чэрні, адносіліся з пагардай высакаадукаваных людзей. Так, адзін з позьніх гуманістых Франчэско Філельфо казаў, што, калі-б яму і давялося пісаць на італьлянскай мове, дык ён будзе пісаць на ёй толькі малазначныя рэчы, якія не заслугоўваюць прызнаньня сярод патомкаў. Самыя прадметы, аб якіх гуманістыя трактавалі ў сваіх творах, былі няцікавымі для шырокіх грамадзкіх колаў. З шырокіх і агульных пытаньняў гуманістыя больш за ўсё займаліся мэтафізычнымі проблемамі аб пахаджэньні і сутнасьці сьветабудовы, аб асновах моралі, аб прызначэньні чалавека і г. д. Самае захапленьне плятонізмам і авэроізмам паказвала на зацікаўленасьць да адцягненых філёзофскіх пытаньняў, і, разумеецца, не павінна было знайсьці водгуку сярод шырокіх гушчаў. Дакладная навука, ня гледзячы на адраджэньне зацікаўленасьці да прыроды, у той час была яшчэ вельмі слабая, і не на ёй будавалася значэньне гуманістычнае культуры. З паасобных навук увагу гуманістых найбольш прыцягвалі да сябе філёлёгія, архэолёгія і антычныя старадаўнасьці. Іх граматычныя і лексычныя працы (Дэчэмбрыо, Гуарыно), іх спробы філёлёгічнае крытыкі (Лаўрэнт Вальля), іх стараннасьць у зьбіраньні і апісаньні рэштак антычнае старасьветчыны (Поджыо, Біондо) былі вельмі каштоўнымі, але для шырокага грамадзянства ўсе гэтыя філёлёгічныя і антыкварныя заняткі былі незразумелымі і нічога не казалі ні іх розуму, ні сэрцу. Нават рэлігійны індыфэрэнтызм гуманістых і іх паганістычныя захапленьні, ня гледзячы на выяўленую імі ў гэтым шырыню і вольнасьць думкі,—усё-ж-ткі адмяжоўвалі іх ад народных гушчаў, якія згодны былі крытычна аднесьціся да манахаў і нават да папы, але не да самае рэлігіі.

Дзякуючы сваёй адарванасьці ад народных гушчаў гуманістыя ня цікавіліся ні грамадзкімі пытаньнямі, ні грамадзкім жыцьцём. Ідэя грамадзкага служэньня была зусім чужой для вялізнае большасьці гуманістых. Для іх, як для запраўдных індывідуалістых, асоба мела перавагу перад грамадзянствам, і задачы ўсебаковага асабістага разьвіцьця яны стаўлялі вышэй за грамадзкую дзейнасьць. Поджыо проста кажа, што запраўднае шчасьце ёсьць ухіленьне ад грамадзкае дзейнасьці, ёсьць заняткі мастацтвам і навукай, а Пэтрарку ўжо сучасьнікі (напр., Леонардо Бруні) дакаралі за тое, што ён, жывучы ў несвабоднай дзяржаве, ніколі ня думаў аб дабрабыце бацькаўшчыны і ня йшоў на яе абарону.

Але і ў тых выпадках, калі гуманістыя і займаліся грамадзкай дзейнасьцю, яны рабілі гэта, як слугі тыранаў і пап; шмат хто з іх былі сакратарамі пры папскіх курыях і кіравалі дыплёматычнымі справамі буйных і дробных італьлянскіх дынастаў. Яны добра і, часамі, нават—талентна выконвалі свае службовыя абавязкі, але роля іх была роляй здольных і прытым не заўсёды верных слуг; самастойных гра-

мадзкіх ідэалаў яны, у большасьці выпадкаў, ня мелі і шырокіх грамадзкіх мэт перад сабой не стаўлялі. Шмат хто з іх былі італьянскімі патрыотамі,—Пэтрарку захапляла ідэя ўтварэньня моцнае Італіі пад уладай адзінага ўладара. Такім самым патрыотам адзінае Італіі быў і Макіавэльлі, політычныя пагляды якога занадта добра вядомы, каб варта было аб іх казаць больш падрабязна. Але іх патрыотызм быў патрыотызмам дынастычным у тым сэнсе, што ўсе свае надзеі яны пакладалі на ўладароў, або на рымскага папу, або на нямецкага імпэратара, або на нэаполітанскага караля, або на дробных тыранаў,—і з поўным індыфэрэнтызмам адносіліся да ўзбуджэньня політычнае сьвядомасьці ў народзе і грамадзянстве. Адсюль паўстала ўжо спачатку заўважаная сувязь між гуманізмам і тыраніяй. Дзеля таго каб зразумець яе, нам трэба толькі ўспомніць тыя сувязі, якія тады існавалі між купецкімі коламі і прадстаўнікамі моцнае дзяржаўнае ўлады. Адсюль паўстала і тое, што ўсхваляючы вольнасьць і грамадзкае роўнапраўе, як умовы для бесьперашкоднага разьвіцьця асобы, большасьць гуманістых на практыцы ўсё сваё жыцьцё служыла дэспотызму. Так, Пэтрарка толькі кароткі час захапляўся фантастычнай марай „трыбуна“ Коля ды-Рыенцы—адрадзіць старадаўную рымскую рэспубліку,—потым ён перашоў на службу да мілянскага тырана—арцібіскупа Джованьні Віеконці; пасьля яго сьмерці ён служыў яго пляменьнікам, а потым—падуанскаму тырану Франчэско ды-Каррара. Пры гэтым Пэтрарка быў шчыра пераканаваны ў тым, што тыранія—самая жыцьцядзейная з усіх формаў політычнага кіраваньня, і ў трактаце „Аб найлепшым кіраваньні дзяржавай“ дае тырану практычныя парады, раючы яму, між іншым, унікаць „лішняе паблажлівасьці і неабдуманае слабасьці“, але ў той самы час—і ня быць лютым. У Нікколё Нікколі (як перадае яго пагляды Поджыо, бо сам Нікколё не напісаў ніводнага радку) мы бачым запраўдную аполёгію тыраніі, як кіраваньня сільных асоб, якія маюць адважлівасьць рваць, як павучыньне, старыя законы і кіруюць гушчамі так, як гушчы гэтага заслугоўваюць, г. зн. праз страх і кары. Політычная філёзофія Макіавэльлі, якая адчыняла перад тыранамі ўсе шляхі і вызваляла іх ад усіх вязяй, вырасла ўжо на падрыхтаваным грунце, і ў вачох яго адукаваных сучасьнікаў ня была цікавай навіной.

Таму ня дзіва, што спаміж гуманістых мы знаходзім вялікі лік прыдворных, якія далёка не заўсёды трымалі сябе з паважнасьцю і часта прыніжалі сябе лісьлівасьцю перад паасобнымі ўладарамі. Найбольш яскравым тыпам гэткага гуманістага-лісьліўца зьяўляецца Франчэско Філельфо (1481). Гэты чалавек прадаваў сваё пяро ўсім, хто добра яму плаціў. Кондоцьеру Франчэско Сфорца ён ахвяраваў цэлую поэму пад назвай „Сфорцыяда“, прычым, калі тыран адмаўляўся яму плаціць, ён пагражаў перайсьці на службу да іншых уладароў і аддаць іх услаўленьню свой літаратурны талент. Ён ня спыняўся нават перад навязваньнем сваіх літаратурных паслуг і бессаромліва прапанаваў мантуанскаму князю Лёдовіко Гонзаго ўславіць яго ў „Сфорцыядзе“, калі Гонзаго прышле яму пяцьдзесят дукатаў на пасаг яго дачцэ. Пры гэтым трэба адзначыць, што тон Філельфо і іншых гуманістых у іх зваротах да князёў і тыранаў зусім ня меў характару пакоры ці падлашчваньня; яны ведалі сабе цану, і хутчэй князі забягалі перад імі, чымся яны перад князямі. Сярод таго грамадзянства, у якім жылі гуманістыя, яны мелі нязвычайна вялікую сілу і дзеля гэтага ім ня трэ' было прыніжацца. Саюз гуманістых з тыраніяй толькі таму і ўжываўся з протэстамі гуманістых проці радавітага магнацтва і з іх сымпатыямі да грамадзкага роўнапраўя, што ён не вымагаў ад гума-

ністых пакоры і дазваляў ім трымацца з князямі, захоўваючы сваю павагу і нават пэўнае чванства.

Служэньне гуманістых тыранам у поўнай меры адпавядала таму культу асобы, які праходзіць праз усю гуманістычную літаратуру. Як запраўдныя індывідуалістыя, адарваныя ад сувязі з шырокімі гушчамі, яны ўсе свае надзеі пакладалі толькі на ўладароў. Недахваты італьлянскіх уладароў, іх асабістая амаральнасьць, нягрэблівасьць у спосабах і нахіл да самавольства ім былі добра вядомы. Але гэта не перашкаджала гуманістым верыць, што толькі ўладары здольны накіроўваць лёс чалавечага роду, асабліва, калі яны выявяць здольнасьць карыстацца абставінамі, і—што мець уплыў на ход дзяржаўных спраў можна толькі праз уладароў. Калі можна казаць аб філёзофіі гісторыі гуманістых, то яна ўся была пабудавана на веры ў вялізную ролю асобы ў гісторыі. І першы гуманісты—Пэтрарка, і гуманісты апошніх часоў—Макіавэльлі былі ў аднолькавай ступені прасякнуты гэтай верай. Пэтрарка пяе дыфырамбы чалавечаму слову, „якое здольна прывесьці ў рух розум, магутна разьвінаючы сваю захаваную сілу". А Макіавэльлі стаўляе ўсю будучыну Італіі ў залежнасьць ад таго, ці знойдзецца ў ёй моцны чалавек, які быў-бы здольны пачуць і зьдзейсьніць яго парады. Пры ўсёй адсутнасьці ў гэтай гістарычнай філёзофіі здаровага гістарычнага пачуцьця, у ёй была адна прогрэсыўная рыса—яна сэкулярызавала гістарычную думку і вызваляла людзей ад ідэі божага кіраўніцтва лёсам чалавека. І практычная палітыка, і гістарычная думка, дзякуючы гэтаму, прыймалі больш сьвецкі характар, прасякаліся сьвецкім духам чалавечых інтарэсаў, а для канца сярэднявечча гэта мела вялікае значэньне.

Служэньне гуманістых тыраніі паўставала тым лягчэй і было тым больш зразумелым, што літаратурная дзейнасьць сама па сабе не давала тады сродкаў да жыцьця; друк зьявіўся толькі ў канцы гуманістычнае эпохі, дый то ў першыя часы—толькі ў вельмі абмежаваным ліку. Асобы, якія займаліся літаратурай, не маглі разьлічваць на больш-менш шырокае распаўсюджваньне сваіх твораў. Дзеля гэтага яны былі прымушаны забягаць перад пэўнымі ўплывовымі людзьмі, прадаваць ім свае творы, у беспасярэднай ці замаскаванай форме, за што гэтыя апошнія, разумеецца, вымагалі адпаведнае компэнсацыі ў форме лісьлівасьці і хвалы. Гэта выплывала з об'ектыўнага стану тагочаснае літаратуры, бо, пры адсутнасьці друку, у яе ня было тэхнічнае магчымасьці зьвязацца ня толькі з шырокімі народнымі гушчамі (гэтае сувязі, як мы бачым, не дапушчала ўнутраная сутнасьць гуманізму), але і з тым параўнальна невялікім колам гуманістычна адукаванае публікі, якая пры іншых умовах,—галоўным чынам, пры разьвінутым друку,—адыграла-б ролю матар'яльнае базы для літаратуры гуманістых. Пры тым-жа палажэньні, якое было, г. зн. пры адсутнасьці друку,—гуманістым трэ' было шукаць матар'яльнага падтрыманьня нават не сярод паасобных груп, якіх агулам было ня шмат, а ў паасобных людзей,—у магнатаў капіталу і ўлады, якіх у тыя часы хапала.

На гэтым мы канчаем наш нарыс італьлянскага гуманізму. Італьлянскі гуманізм меў шмат недахватаў. Ён вырас на ценкім грунтавым пласьце, які ўтварыўся з гандлёва-капіталістычных вярхоў таго часу. Яго культура была чужая для гушчаў і, наадварот,—занадта блізкая да прыдворных колаў. У гэтай культуры было шмат рафінаванага ценкага густу і мала простасьці. Яна ўтварыла той разрыў паміж масай ды інтэлігенцыяй, які потым праходзіць праз усю гісторыю новага

часу. І, аднак-жа, прогрэсыўнае значэньне гуманізму—бязьмерна вялікае. Ён зрабіў такі пераварот у сьветапаглядзе сярэднявечнага чалавека, падобнага да якога трудна знайсьці ў гісторыі. Ён сэкулярызаваў увесь сьветапагляд тагочасных людзей і перамясьціў іх думкі з клопату аб жыцьці на тым сьвеце ў сьвет жывых чалавечых інтарэсаў. Ён падрыхтаваў розумы людзей да мастацкага азбражэньня зямных жаданьняў і, адначасна з гэтым, палажыў пачатак навуковаму вывучэньню прыроды і чалавека. Ён увёў у грамадзкі сьветагляд таго часу паняцьце аб паважнасьці асобы чалавека, незалежнае ні ад соцыяльнага стану, ні ад прыналежнасьці да таго, ці іншага вызнаньня, і гэтым даў пачатак руху да грамадзкага роўнапраўя. Хай усе гэтыя ідэі спачатку закранулі толькі невялікі грамадзкі круг, але далейшае зрабіў час, які перакінуў насеньне, што вырасла на абмежаваным грамадзкім полі, на іншыя, больш шырокія прасторы і даў яму магчымасьць зрабіцца шырокім полем сьвятла і веды.





Проф. Зьмітра Егораў.

# Падуанскі Унівэрсытэт у XV-XVI сталецьцях.



адуанскі Унівэрсытэт у XV сталецьці далёка выперадзіў усе іншыя італьлянскія унівэрсытэты, не выключаючы і знамянітае Болёньні, і зрабіўся запраўдным „сусьветным сьветачам“, адным з найбольш многалюдных *міжнародных* культурных асяродкаў.

Узвышэньне гэтае зьяўляецца тым больш дзіўным, што ў першыя два сталецьці свайго існаваньня жыцьцёвая нітка Падуанскага Унівэрсытэту была вельмі слабая і некалькі разоў амаль што зусім абрывалася. Гэтак пашла справа з самага пачатку. Заснаваўся Падуанскі Унівэрсытэт, як і шмат спаміж яго сярэднявечных сяброў, у выніку „вялікага выхаду“ студэнтаў, на гэты раз з Болёньні, дзе між студэнцтвам і мясцовай уладай узнікла вялікая сутычка (1222). Вышлі і студэнты і профэсары, „прысягнуўшы“ не варочацца „роўна шэсьць год“. Вызначаны тэрмін ледзьве ня стаў згубным для Падуі. Якраз ад 1228 году захаваўся надзвычайна цікавы дакумант—заклік гораду Вэрчэлі, заклік, скіраваны да студэнцтва Падуі з абяцаньнем многіх каштоўных прывілей і паслуг. Горад Вэрчэлі абяцае даць „500 лепшых кватэр і нават больш...“ па ўласным выбары студэнтаў, пры гэтым—за танную плату паводле таксы, вялікія штогоднія асыгнаваньні на патрэбы студэнтаў і на запрашэньне профэсароў, гарантуе поўнае самакіраваньне і іншыя прывілеі. Бязумоўна, што спакуса была вялікая і мела посьпех. І, усё-ж-ткі, малады Падуанскі Унівэрсытэт перажыў гэты мамэнт. Жыцьцё ў ім не памёрла. Прыблізна ад 1229 году мы маем ліст аднаго падуанскага профэсара, дзе ён запрашае з іншага гораду таварыша перайсьці на катадру ў Падую „з прычыны вялікага тут ліку слухачоў, а таксама прыемнасьці месца і вялізнае таннасьці жыцьця“. А ў 1231 годзе на адну асабліва ўрачыстую працэсію—падуанскага студэнцтва „наваліла нязьлічаная моц“.

Тыранія Эцэліна (1237—1260), войны, эпідэміі,—усе гэтыя зьявішчы, кожнае пасвойму, яшчэ шмат разоў накладалі сваю цяжкую руку на унівэрсытэт. Ён часова слабеў, апускаўся, але йзноў падымаўся і мац-

неў. Напрыклад, пасьля таго, як быў скінуты Эцэлін, *вольны* горад Падуя ў першую чаргу падбаў аб сваім унівэрсытэце: у гарадзкіх статутах за 1260—1268 гады ўвесь час сустракаюцца важныя пастановы аб звальненьні ад розных цяжараў, аб наданьні новых правоў, аб палепшаньні быту і вучэньня. Унівэрсытэт узьняўся з новай сілай. Досыць паказаць, што ўжо ў 1274 годзе папа Рыгор X палічыў за патрэбнае прыслаць свае „констытуцыі“, выдадзеныя ім на саборы ў Ліёне, ня толькі Болёнскаму і Парыскаму Унівэрсытэтам, як гэта рабілася з даўных часоў, але і *Падуанскаму*. У тыя часы гэта раўнялася прызнаньню ў „сусьветным“ значэньні.

Аднак, гады „ўроды“ ўвесь час перарываліся гадамі беднымі, нават небясьпечнымі. Галоўнай прычынай гэтага зьяўлялася вядомая задзірлівасьць італьянскіх комун, з сыстэматычным „захопам“ грамадзян варожага боку, а студэнты-ж, паводле статуту 1261 году, лічыліся „грамадзянамі“ Падуі, з усімі вынікамі, якія адсюль выходзілі. Наколькі гэтая барацьба суседзяў выбівала жыцьцё з каляіны, відаць хаця-ж бы з наступнага прыкладу: з аднэй толькі Вэнэцыяй „вольная“ Падуя змагалася ў 1268, 1277, 1290, 1304, 1309 гадох. Дзесяткі разоў парывалася сувязь з знадворным сьветам, наставаў голад (для Падуі, між іншым, асабліва балючы „саляны“ голад), людзі разьбягаліся ў больш дабрабытныя краіны. Ад тагочасных падуанскіх хронік аддае нязводнай ненавісьцю да Вэнэцыі, да таго самага гораду, канчатковае ўладарства якога над terra ferma („сухазем'ем“) прывядзе, урэшце, да замірэньня і бязумоўнага росквіту самой-жа Падуі.

Усё XIV сталецьце Падуанскі Унівэрсытэт ідзе ўжо нароўне з Болёньняй, часамі прынаджваючы да сябе найбольш каштоўныя навуковыя сілы, а разам з імі—і цэлыя сотні студэнтаў. У XV сталецьці Падуя, бязумоўна, абганяе свайго спаборніка.

Паўстае пытаньне, дзякуючы якім абставінам Падуя мела магчымасьць і павінна была закрасаваць? Прычын было, разумеецца, нямала. Адна з найбольш рашучых—гэта тая, што Падуя знаходзілася на скрыжаваньні вялікіх міжнародных шляхоў. Значная частка купцоў, магнатаў ды пілігрымаў, праходзіла якраз па гэтым шляху; яны непарыўным ланцугом цягнуліся або да „спрадвечнага гораду“ і да папы, або на Ўсход, праз Вэнэцыю і Адрыятыку. Буйным транзытным, а тым больш, гандлёвым цэнтрам маленькая Падуя зрабіцца не магла, бо мела каля сябе магутную Вэнэцыю і дзесятак менш значных, але ўсё-ж-ткі моцных і зайздросных суседзяў-конкурэнтаў. Дзякучы гэтым самым прычынам затрымлівалася і хуткая індустрыялізацыя Падуі, хаця-ж выраб сукна, калі грунтавацца на працах Занацца, быў ня горшым, чымся ў славутнай Вічэнцы, і прымушаў нават Вэнэцыю спэцыялізавацца не на сукне, а на шоўку. Затое Падуя цалком і ў поўнай меры выкарыстала сваё палажэньне на пярокрыжках, як значная прыдарожная станцыя, асабліва для людзей і тавараў, якія йшлі з Сярэдняй Эўропы. Не дарма ўжо з паловы XIV сталецьця тут селяцца нямецкія шынкары, які-небудзь Johannes Rem з Аўгсбургу, або Стэфан з Кельну, гаспадар гасьцініцы „Вавёркі“ добра вядомай. Не дарма вэнэцыйскі Сэнат дзесяткі разоў дэкрэтаваў „законныя маршруты„ *з абыходам* Падуі, бо „загорныя людзі“ „ўвесь час ідуць туды“—„et faciunt ipsas terras bonas“ („збагачаюць тыя краіны“).

Падуя—„гасьцінная“—робіцца горадам спатканьняў людзей і думак, прававерʼя і „гарэтыцтва“. Не выпадкова дзеля гэтага тое, што адзін з найбольш значных вольнадумцаў, Марсылі, аўтар небясьпечнага „Defensor Pacis“, быў родам якраз з Падуі, і што авэроізм, тэорыя „нявернага сарацына“, грунтоўна абсталяваўся ў Падуанскім Унівэрсытэце.

Для *Унівэрсытэту* і яго росквіту такая атмосфэра, насычаная вольнасьцю і адважлівасьцю, рознакалёрнай пераліўнасьцю новых думак і фактаў, была асабліва каштоўнай.

Праўда, на такіх самых, прыблізна, пярокрыжках былі і іншыя унівэрсытэты паўночнае Італіі: у Болёньні, Вэрчэлі, Павіі, Піячэнцы, Вічэнцы і г. д. Не дарма, дзеля гэтага, замацавалася ўражаньне аб асаблівым *італьлянскім* тыпе унівэрсытэту, які вельмі розьніўся ад тыпу іншых Эўропейскіх унівэрсытэтаў, і, у першую чаргу, ад Парыскага. Запраўды, розьніца можа быць праведзена ў поўнай меры дакладна, як у галоўным, гэтак і ў дробязях. У Парыжы—багаслоўе, профэсарскае кіраўніцтва, напалову кляшторнае жыцьцё студэнтаў у „бурсах", дзе іх добра абахоўвалі, непарушнасьць аўторытэтаў, шматвяковая наступнасьць; у італьлянскіх унівэрсытэтах, перш за ўсё ў Болёньні,—вывучэньне права, студэнцкае кіраўніцтва, жыцьцё на вольных кватэрах, свабода ў вучэньні і ў выкладаньні. Папы, як ценкія політыкі, добра адрозьнівалі абодвы тыпы: парыскіх студэнтаў яны неаднакроць валадарна заклікалі да бясспрэчнага паслухмянства, а ўладам Болёньні пісалі: „Ці-ж вы ня ведаеце, што студэнты свабодна абралі Болёньню, што студэнты зрабілі яе Бэтлеемам, „домам хлеба", што нельга, дзеля гэтага, урэзваць або зьмяншаць правы студэнтаў". Глыбокая розьніца абодвух тыпаў, урэшце, выявілася ў адносінах да чужакоў і чужаземцаў. Толькі італьлянскія унівэрсытэты прымалі іх, пры гэтым, з самага пачатку—на аднолькавых правох; і варты адзнакі той цікавы факт, што на вестку аб адкрыцьці „Індыі", г. зн.—Амэрыкі, Болёньня зараз-жа адгукнулася ўтварэньнем у сябе асобнае нацыянальнае падгрупы для „індыйскіх студэнтаў".

Найбольш „італьлянскім", як той казаў, унівэрсытэтам быў Падуанскі, чым і тлумачацца хуткія і няўхільныя яго посьпехі.

Другая ня менш важная прычына—сувязь яго з Вэнэцыяй, нават простая залежнасьць ад яе. Пасьля даўгое і ўпорчывае барацьбы Вэнэцыя, усё-ж-ткі, здалела заўладаць „Сухазем'ем", што непакоіла шмат каго з мясцовых політыкаў, якія зьвярталі ўвагу, да пэўнае ступені справядліўую, на тое, што *два* фронты, сухаземны і марскі, павінны, урэшце, вычарпаць сілы нават Вэнэцыі. Але тады выбару ня было: для Вэнэцыі „Сухазем'е" было ня столькі пытаньнем улады, колькі пытаньнем хлеба. Маленькая, напрыклад, Падуя безьліч разоў стаўляла Вэнэцыю ў цяжкое палажэньне, перахопліваючы харчовыя транспорты, перакопваючы дарогі, адводзячы нават рэчкі. У саюзе з іншымі ворагамі Вэнэцыі, Падуя часамі нават сьвяткавала сваю перамогу, і тады паўставалі ў ёй вялікадзяржаўныя шалёныя пляны—прабіцца да мора, сесьці на лягунах, зрабіць Сан-Марко падуанскай „цьвярдыняю". Але ў канчатковым выніку ніколі ня было посьпеху; нават нязносная „саляная няволя", монополія Вэнэцыі на соль, заставалася бяз зьмены, і ўжо ў 1388 годзе падуанскі хроністы прышоў да вельмі разумнага, але непацешнага вываду: „Ня трэба ваяваць з дзяржавай, якая выбівае дукаты". Калі, з прычыны гэтага, настала „апошняе змаганьне", і ў лістападзе 1405 году аблога Падуі скончылася тым, што яе ўзялі, то афіцыяльна гэта было адзначана, як „вялікая бяда, найвялікшая ад часоў узяцьця Троі і Ерузалему" (хроністы Андрэа Гаттаро), а *фактычна*—Падуя ня толькі адразу ачуняла, закрасавала і павялічылася, але і хутка ўсьцешылася.

Зрабіцца часткай Вэнэцыі было далёка выгадней, чымся весьці з ёю няроўную і пазбаўленую сэнсу барацьбу. Тым больш, што Вэнэцыя, як сьведчыць Liber Pactorum (дакуманты аб упарадкаваньні заваяванае Terra Ferma), нязвычайна лоўка і памяркоўна выкарыстала сваю

перамогу: усе мясцовыя ўстановы былі пакінуты бяз зьмены, нават больш таго—буйныя вэнэцыйскія асыгнаваньні падтрымалі прамысловасьць, выправілі транспорт, палепшылі жыцьцёвыя ўмовы. Ня быў пакрыўджаны і Падуанскі Унівэрсытэт; гадоў праз дзесяць гуманісты Мазагайя прыходзіць у захапленьне ад „нячуваных шчодрасьцяй", якія пасыпаліся на унівэрсытэт.

Запраўды, вэнэцыйскае „ўладарства" выявілася самым дадатным чынам, хаця-ж і не адразу. Утвораны быў асобны комітэт з чатырох асоб з тытулам „Рэформатараў Унівэрсытэту", якія павінны былі, як мага, клапаціцца аб ім і, перш за ўсё, здабываць сродкі. Унівэрсытэту быў аддадзены стары палац гэрцогаў падуанскіх Карар, якіх скінула Вэнэцыя, і з „дому Быка" перароблены ў „Palazzo della Sapienza"; з таго часу унівэрсытэт больш ня туліўся ў раскіданых наёмных памяшканьнях. Была ўстаноўлена і неаднакраць пераглядалася новая аплата профэсароў. Зьявіліся студэнцкія стыпэндыі, ахвяры на агульныя памяшканьні і падручнікі, купля месц у шпіталях і іншае. З 1468 году Падуанскі Унівэрсытэт быў прызнаны „дзяржаўным" унівэрсытэтам; усім падданым Вэнэцыі было забаронена вучыцца ў іншых мясцох, апроч Падуі, а шматлікі склад урадоўцаў атрымліваў патрэбную кваліфікацыю толькі пасьля праслуханьня поўнага курсу ў Падуанскім Унівэрсытэце. Такім чынам, паводле трапнага выразу Рэнана, Падуя зрабілася „лацінскім кварталам" Вэнэцыі.

Але, разумеецца, і для Падуі і для яе Унівэрсытэту была і іншая карысьць. Перш за ўсё, тыя шырокія магчымасьці і кругавіды, якія цяпер адчыняліся перад ёю, напрыклад, на *Усходзе*. Вось адзін з прыкладаў: перад намі сын выдатнага профэсара-праўніка Паолё дэ-Кастро Джованьні. Да 1453 году, г. зн. да заняцьця туркамі Константынопалю, ён меў там вялікую хварбарню, па справах якой часта езьдзіў па Малой Азіі, дзе грунтоўна пазнаёміўся з месцамі, у якіх знаходзіцца левантынскі галын, самы лепшы ў тыя часы. 1453 год прымусіў яго зьвярнуцца ў Італію, дзе ён на працягу шмат гадоў не здалеў знайсьці сабе адпаведных заняткаў. Але вось у 1462 годзе ён зьявіўся да папы Пія II з дзіўным паведамленьнем, што каля Чывітавэккія, пад мястэчкам Толпоро, ён знашоў першыя ў Эўропе вельмі багатыя [1]) паклады галына. „Сёньня [2]) я Вашай сьвятасьці прыношу перамогу над туркам, бо ён з хрысьціянства выціскае штогод ня менш як 300.000 дукатаў на галыне, які патрэбен на ахварбоўку тканіны. Гэтага рэдкага ў нас матар'ялу я знашоў аж 7 гор, столькі, што яго хопіць хаця-ж бы на 7 часьцін сьвету. Блізкасьць вады і мора палягчаюць здабычу і перавозку. Будзе вялізарная здабыча, і Вашая сьвятасьць будзе мець досыць грошай на крыжавы паход проці туркаў". Папа палічыў гэта спачатку за „астролёгічную (?) фантазію", але потым склікаў знаўцаў і тыя „са сьлязьмі на вачох" пацьвердзілі вялізарны вынаходак. Ужо ў наступным 1463 годзе на месцы было занята каля 8.000 чалавек; фінансаваньне ўзяў на сябе сам папа, здабываючы з гэтага часу штогод да 100.000 дукатаў чыстага зыску. Не дарма мастак Pietro da Cortona намаляваў капальні на вялікім палотнішчы ў Капітольскай Галярэі. Сын Джованьні, таксама Джованьні, быў ізноў профэсарам і праўнікам, як і дзед.

У гэтым прыкладзе да дзіўнасьці навочна злучаюцца ў адно цэлае ўсе новыя адзнакі *новае* Падуі: далёкія краіны, навукі права, тэхніка, раптоўныя грашовыя катастрофы і такія самыя раптоўныя ўзбага-

---

[1]) Эксплёатуюцца яшчэ і цяпер.

[2]) Мэмуары Пія II.

чэньні, уся шырыня і нязвычайнасьць размаху. Без працярэбленых Вэнэцыяй шляхоў на Усход, ніколі-б падуанцу ня трапіць туды так проста і маючы такую самаўпэўненасьць.

Але ўсходнія сувязі Вэнэцыі адбіліся на Падуанскім Унівэрсытэце і яшчэ ў іншым сэнсе. Жыхар Вэнэцыі—чалавек, па сутнасьці, толерантны, тым больш, калі ён вядзе справы. Не дарма яшчэ ў XIII сталецьці Вэнэцыя адказала грознаму Іноцэнтыю III на яго заклік—загад бойкатаваць „няверны" Усход—клясычна простай фразай: „Siamo Veneziani, poi christiani", „мы вэнэцыйцы, а потым хрысьціяне". Усходняя зваротлівасьць Вэнэцыі ў справах прымушала яе мімаволі глыбей і лепей прасякацца Усходам, інакш і ня так аднабочна цаніць яго. Як арабскі „няверны" Усход, гэтак і бізантыйскі „інаверны"—зрабіліся больш зразумелымі і блізкімі. Калі шмат гадоў пасьля гэтага якраз у Вэнэцыі паўстае, у форме школы Мэхітарыстых, першая паважная спроба *вывучыць* Усход, то аснова гэтага зьявішча, нягрэблівая цікаўнасьць, цалком выявілася ўжо ў XV сталецьці. Пачынаюць вывучаць грэцкую, яўрэйскую і арабскую мовы, літаратурная продукцыя на гэтых мовах пачынае прыцягваць да сябе ўвагу. „Уся Вэнэцыя апаганілася чужаземнасьцю", казалі ворагі, „у Вэнэцыі разумеюць нават алепца", казалі прыяцелі. „Разумеюць" ня толькі ў сэнсе мовы. Вэнэцыя або толерантна да чужых паглядаў, або зусім не зацікаўлена. У Вэнэцыйскі Дзяржаўны Унівэрсытэт перашла тая самая шырыня, правільней, азначанасьць думак. А адсюль адзін крок ад „інаверных", да інакш і няправільна веруючых, да ўсіх гнаных папскай царквой, хай гэта былі паасобныя людзі ці цэлыя групы і кірункі. Славутны пісьменьнік-друкар Эцьен Доле, якога пазьней спалілі ў Парыжы, як гарэтыка,—вучань Падуанскага Унівэрсытэту. Піліп Альджэры да-Нольля, папярэднік Джордано Бруно і ў ідэі і ў пакуце, загартаваў сябе таксама сярод Падуанскага студэнцтва. Ужо даўна (Вільгельм Картузій, 1310) Падую празвалі „refugium salutare"—прыпынкам для ратунку. У вэнэцыйскія часы гэта яшчэ павялічылася. Пасьля разбурэньня вялікага сялянскага руху 1525 г., адзін з правадыроў, Міхайла Гэйсмайр, прымушаны ўцякаць з Зальцбургу, спакойна жыў у Падуі. Сюды-ж схадзілася без усялякіх перашкод вялікае мноства людзей, „якія заразіліся на лютараву гэрась". Іх ня толькі не чапалі, іх нават абаранялі, аб чым будзе сказана асобна.

Пад уплывам Усходу, урэшце, у Італію, а потым і ў контынэнтальную Эўропу, ішла новая асьвета—„грэцкая веда". Ня толькі веда мовы і вельмі багатае літаратуры, але і веда зусім новае ідэолёгіі, бясконца далёкае ад абавязковае царкоўнае паказкі. Замест „тройчы расьпятага" Арыстотэля, абрэзанага і схолястычна скажанага, зьявіўся Арыстотэль запраўдны, рэалісты і экспэрымэнтатар, які будзіў думку, крытыку, усялякае імкненьне. На Вэнэцыю выпала львіная частка ў спазнаньні вельмі багатае грэцкае культуры, настолькі значная частка, што ў навуковай літаратуры трымалася нават думка, бязумоўна фальшывая, што якраз Вэнэцыя, а не Флёрэнцыя, зьяўляецца калыскай „грэцкага рэнэсансу". Падуя, разумеецца, не адставала ад свае сталіцы: у 1463 годзе ў унівэрсытэце была ўтворана асобная катадра грэцкае мовы, якую заняў Зьмітро Халькокондыл з Атэнаў, адзін з першых корыфэяў у гэтай галіне; у 1497 годзе была заснавана таксама асобная катадра дзеля вывучэньня Арыстотэля.

Урэшце, укараненьне грэцкае культуры прыводзіць нас да больш шырокага пытаньня аб значэньні *гуманізму* для Вэнэцыі і Падуі.

Можна, бязумоўна, проста казаць аб асобным „вэнэцыйскім" гуманізьме. Спэцыяльныя яго адзнакі—цьвярозасьць паглядаў, адсут-

насьць усялякага лішняга эфэкту, позы і тэатральнасьці, трапныя спробы прыстасаваць новыя аб'явы да штодзеннага, рэальнага жыцьця. Вэнэцыя, дзеля гэтага, проста такі бедна на „поэтаў", якіх тады было колькі хочаш сярод тагочаснае сусьветнае інтэлігэнцыі; рэалізм думкі вэнэцыйца, купца, або політыка утрымліваў яго ад залішніх, бязмэтных захапленьняў і мар. Ня моцна адчувае сябе Вэнэцыя і ў новай філёзофіі, філёзофіі самой у сабе, цікавай, але мала прыстасаванай да жыцьця. Затое, у галіне каштоўных з практычнага боку дысцыплін, у праве і політыцы, вэнэцыйскае грамадзянства прагавіта прыпала да пышнага келіха грэцкае антычнасьці. Урэшце—рашучая пераацэнка вартасьцяй, глыбака ўгрунтаваны крытыцызм, далёкі ад сярэднявечнае царкоўнасьці і ўсіх яе путаў. Падуанская студэнцкая моладзь ішла, само сабой, яшчэ далей, выступала, зразумела, яшчэ больш рашуча. Новыя тэорыі лёгка разбурвалі даўнейшыя звычкі ў навуцы і старыя бытавыя спосабы.

Разумеецца, агульны сьветапагляд патрэбен; але які? ня папскі і нават не авэроістычны. Не дарма сам вялікі Пэтрарка выступаў проці абмежаванасьці авэроізму, калісь каштоўнага, які йшоў наперадзе, але які цяпер канчаткова выдахся і заблытаўся ў мэтафізычных ценкасьцях. Разумеецца, права патрэбна; але якое? зразумела, не канонічнае, і ня тое, што так нядаўна падносілі, як права „агульнае". Той самы Пэтрарка страшэнна ненавідзеў „надутых каноністых", а Энэа Сільвіо з неперайм альным сарказмам апавядае аб сваім візыце да славутнага праўніка Болёньні, Джованьні да-Імоля—„маленькага дзядуні", які на ўсім сьвеце прызнаваў толькі свае праўныя кніжкі: „эх, лепш-бы я яго зусім ня бачыў". Не, досыць яны ганьбілі народ сваімі хітраваньнямі і нябчвалымі „казусамі"; досыць яны зацягвалі моладзь у сваю крамку, абяцаючы ім добрыя пасады і безмаркотнае жыцьцё ў будучыне. Лаўрэнт Вальля піша агнявую „інвэктыву" проці праўнікаў—пыхлівых, нікчэмных, мала адукаваных; пароды мізэрнай, без фантазіі. Трэба ўтварыць *новае* права, злучэньне чыстае „рымскае" тэорыі з жыцьцёвым, сучасным зьместам.

Утварыць такую навуку італьлянскія гуманістыя не здалелі; гэта зрабілі ўжо ў Францыі два выдатнейшыя гэніі—філёлёг Куяцы і выдатны сыстэматык Донэль; потым праца гэтая была працягнута і палепшана ў Голяндыі. Але да ўтварэньня гэтага, у кожным выпадку, да пераўтварэньня старога імкнуліся шчыра, і Падуя прыймала ў гэтым значны ўдзел. Знадворнай адзнакай зьяўляецца тое, што профэсарыпраўнікі чытаюць ня толькі права, але і літаратуру, поэтыку, захапляюцца і захапляюць ня формулай, а формай. Гэткімі былі падуанскія сьветачы—Піліпо Дэчыо, дэй Сочыні, Франчэско Курсіо, Антоніо Россі, Марко Мантуа Бэнавідэс, Тыбэрыо Дэчыяно, Джованьні Чэфале, Франчэско Мантыка, Джакомо Мэнокіо, Гвідо Панчыролё.

Новае разуменьне і беспасрэднае вывучэньне вымагаюць і новае кнігі. Яе ўтварыла новае друкарскае мастацтва, якое адны клялі, а другія хвалілі звыш нябёс. Багатая, прадпрыемчая Вэнэцыя хутка заняла адно з першых месц у вырабе гэтае новае прылады асьветы. Досыць сказаць, што славутны друкар Алад Мануцы, які заснаваў сваю сусьветную „офіцыну" ў 1488 годзе, быў па ліку ўжо 134-ым друкаром у Вэнэцыі. А ён-жа сам выдаў аж 153 назовы, з якіх шмат было ў некалькіх томах, як напр., „Поўны Арыстотэль". Ён-жа першы адкінуў і нязручную форму „фоліянтаў" і „кварт", перашоўшы да зручнага „малога октава"; рэформа здавалася-б і невялікая, але ў істоце толькі „октаў" зрабіў кнігу запраўды даступнай, адарваў яе ад вучонага „культу", перадаў яе, у літаральным сэнсе слова, у „рукі". Той самы

Алад Мануцы неяк няпрыкметна заснаваў сваю „Новую Акадэмію“, сабраньне трох дзесяткаў вучоных людзей, якія натуральна згрупаваліся навокал яго ў імя ўтварэньня новае кнігі. Дзейнасьць вялізарная, якая глыбака ўсё прасякнула і зварушыла. Не дарма сам вялікі Эразм сказаў аб друкарскім знаку Аладаў (дэльфін, які абвіўся навокал якара—сымболю „рухомасьці“ і „пэўнасьці“), што ён „мае большае значэньне, чымся імпэратарскі гэрб на монэтах“.

Запраўды, гэта была самая пашыраная ў тыя часы, найбольш стойкая і ўсімі прызнаная монэта. Вялізарная кніжная продукцыя Вэнэцыі, разумеецца, не прашла бяз сьледу для Падуанскага Унівэрсытэту, вельмі буйнога, натуральна, спажыўца гэтае дасканалае новае монэты. Падуанскае студэнцтва, мяркуючы па закладных запісах і маемных попісах, шырака выкарыстала друкаваную кнігу. Але ўсё йшло з Вэнэцыі. У самай Падуі друкары неяк ня ўтрымліваліся: за ўсё XV сталецьце іх было толькі 13, з якіх 8 пратрымаліся менш як пяць год; а за першую палову XVI сталецьця вядомы толькі 3 падуанцы-друкары. Параўнаньне з Вэнэцыяй (да 1500 году—роўна 150 друкароў) і з іншымі італьлянскімі гарадамі [1]) ясна паказвае, што блізкасьць да Вэнэцыі мела і свае цёмныя бакі, аднак, не для Падуанскага студэнцта: студэнцтву важна было, каб кніга была танная і добра выдадзена.

Гуманізм, як ведама і як ужо сказалі вышэй, з посьпехам падрываў старыя асновы, агульную царкоўнасьць, традыцыйную абраднасьць, часам замяняючы іх сваёй абраднасьцю, напалову запазычанай, напалову арыгінальнай. Падуанская студэнцкая моладзь, разумеецца, была найлепшым праводнікам гэтых „новых звычаяў“: ня ўхіляючыся ад звычайных процэсій, студэнты яшчэ з большай ахвотай прымалі ўдзел у гуманістычных фэстах, ушанаваньні профэсароў, у пабудове ім пачэсных арак, у пастаноўцы помнікаў калі тыя яшчэ жылі, у „поэтычных турнірах“, „славаслоўях“ і „словаспрэчках“. Увесь блеск каталіцкае пыхі скіравалі ў гэты новы бок, і абаронцы старасьветчыны горка жаліліся ня толькі на „зьмяншэньне шчырасьці“, але і на „недапушчальныя паганскія ноўніцтвы“. Часамі якая-небудзь асабліва імпозантная антрэпрыза паднімала ўвесь горад. Так, напрыклад, стаяла справа ў 1413 годзе, калі ў часе перабудовы аднаго з кляштараў у Падуі была знойдзена ў замураваным склепе алавяная „цыста“ (труна) старадаўнае формы. Энтузыястыя гуманізму адразу-ж абвесьцілі, што гэта... астанкі Лівія, славутнага падуанца, згубленыя кнігі якога шукаліся тады асабліва заўзята. Увесь горад, як адзін чалавек, адсьвяткаваў гэтую знаходку паводле рытуалу „знаходжаньня мошчаў“. Сакратар гораду, а мо' і мясцовы профэсар, Сэкко Полентонэ, дасканалы „лацiністы“, задаваў тон. Горад пастанавіў пабудаваць асобны маўзалей, а тымчасам да склепу імкнулася безьліч пілігрымаў, цэлыя цэхавыя організацыі. Студэнты і гуманістыя тут-жа чыталі лекцыі, давалі тлу-

[1]) Да 1500 г.:

| | | |
|---|---|---|
| Болёньня | 46 | друкароў |
| Рым | 38 | „ |
| Мілян | 30 | „ |
| Флёрэнцыя, Павія--па | 22 | „ |
| Вічэнца | 12 | „ |
| Трэвізо | 11 | „ |
| Парма, Брэсчыя--па | 10 | „ |
| Мантуя | 9 | „ |
| Фэрара | 8 | „ |
| Вэрона | 7 | „ |
| Піза | 6 | „ |

і г. д. (толькі па адным друкару—у Вітэрбо і Вэрчэлі).

мачэньні; яны-ж, відаць, узялі на памяць усе зубы і частку касьцяка. Організаваны быў—зусім на манер канонічнае „трансляцыі"—перанос астанкаў; пачалі казаць аб „цудах" і „зьявах". Словам, копія з каталіцкага „знаходжаньня" была поўная [1]), але з зусім іншым зьместам.

Гэтак стаяла справа ў Падуі, унівэрсытэцкім горадзе. Нешта падобнае да гэтага здарылася ў 1485 годзе і ў Рыме. На Via Appia знашлі цела антычнае дзяўчыны, якое дасканала захавалася. Гуманістыя былі ў захапленьні; пачалося заўзятае пілігрымства „нібы папа абвесьціў дараваньне грахоў". Але папскі Рым ня Падуя: сам папа Іноцэнт VIII загадаў тайна ў начы ўзяць астанкі і закапаць недзе каля Porta Pinciana. Добра дысцыплінаваны Рым выказаў да гэтага поўны спакой.

Гуманізм, урэшце, унёс у жыцьцё тагочасных унівэрсытэтаў, асабліва італьлянскіх, яшчэ адну вялікую зьмену—перавагу сьвецкіх, сьвецкае моладзі. Старыя унівэрсытэты былі запоўнены клерыкамі, якія з ахвотай ішлі вучыцца, бо гэта адчыняла перад імі выдатную кар'еру, а таксама і таму, што за ўвесь час навучаньня яны мелі магчымасьць карыстацца старымі сваімі парафіяльнымі і іншымі прыбыткамі. Гарадзкое жыцьцё Італіі высунула новыя вымаганьні—узмацніліся факультэты праўны і мэдычны, з якіх апошні амаль што ня бачыў у сваіх сьценах клерыкаў, а першы толькі напалову быў запоўнены імі. Гуманізм цяпер яшчэ павялічыў гэтае запатрабаваньне на сьвецкіх з скончанай вышэйшай адукацыяй. Апроч лекара і праўніка-ўрадоўца, пачало ўтварацца дыплёмаванае настаўніцтва розных рангаў, а Флёрэнцыя і Вэнэцыя высунулі і зьдзейсьнілі проблему аб „навукова ўдасканаленым" чалавеку наагул, ня лічачыся з яго жыцьцёвай профэсіяй. Урэшце, у Падуі, ужо ў дваццатых гадох XV сталецьця ёсьць каля 30% сьвецкіх, а каля трыццатых гадоў XVI сталецьця—ужо амаль што 60%. Гэткая „сьвецкасьць" Падуі выклікала нават асаблівую папскую рэвізію, якую, аднак, адхіліў Вэнэцыйскі Сэнат нязвычайна тактоўна і ня менш рашуча.

Розьніца паміж старымі „царкоўнымі" унівэрсытэтамі і наступнымі гуманістычнымі можа быць выразна паказана ў двох з розных часоў пахвальных словах двом унівэрсытэцкім гарадом. У 1371 годзе кардынал легат Anglicus дае апісаньне Болёньні, апісаньне досыць цікавае, але першае месца ў ім ахвяравана мерцьвяком, мошчам, легендарным асобам, паважным, але даўна мінулым здарэньням. Зусім інакш падышоў да тэй самай задачы адносна Падуі Мікеле Савонарола ў 1440 годзе. Яго сцэна напоўнена да краю бліскучым сонмам запраўды жывых сучасных з ім людзей, філёзофаў, праўнікаў, мэдыкаў, тэхнікаў і іншых, з характарыстыкай іхніх прац і дасягненьняў. Горад і унівэрсытэт сплятаюцца ў яго ў адно вялікае культурнае цэлае, якое сумесна рухаецца, сумесна красуе. Панэгірысты як-бы нават падкрэсьлівае сваё разыходжаньне з старымі пісьменьнікамі, кажучы, што ён наўмысьля не абмежаваўся каталёгам сьвятых і астанкаў, а браў „славутных людзей, якія ня былі сьвятымі, але з прычыны высокае свае якасьці маюць права на далучэньне (adnecti) да іх".

Унівэрсытэт часоў гуманізму ўжо ня быў профэсыянальнай, тым балей конфэсыянальнай, школай: не тлумачэньне „аўторытэтаў", а шуканьне праўды, карысны скэпцытызм, пастаноўка новых проблем—вось што робіцца галоўным яго зьместам. Падуанскі Унівэрсытэт, дзя-

[1]) Яшчэ ў 1451 годзе „рука" Ціта Лівія была адаслана Альфонсу Нэапалітанскаму, які яго вельмі паважаў.

куючы ўроўнаважанаму, практычнаму гуманізму Вэнэцыі, асабліва рашуча пашоў па гэтым новым шляху, што і дало яму адзначаную ўжо перавагу над Болёньняй на працягу ўсяго XV сталецьця.

*Рэформацыя*, якая настала, надала Падуі і яе Унівэрсытэту яшчэ некалькі цікавых свомасьцяй, бо сувязь з Нямеччынай была вельмі значная: паводле спэцыяльных досьледаў Люшына, ня менш як 59% усіх чужаземцаў прыпадала на нямецкіх студэнтаў. Вялізныя гандлёвыя зносіны з Вэнэцыяй таксама рабілі сваю справу. Баявыя творы Лютэра прасякнулі ўжо ў 1519 годзе, а ў сярэдзіне дваццатых гадоў заўважваюцца і італьлянскія пераклады. У Ватыкане захавалася данясеньне ад 26 лістапада 1521 году, што „зараза гэтая настолькі пашыралася ў Падуі, што няма ніводнага адукаванага чалавека, які-б ня быў лютэранцам. Разумеецца, гэта было замоцна сказана, але безьліч працэсаў, якія тады адбываліся, даводзіць, што падсяканьне офіцыяльнага каталіцызму ішло з вялікім посьпехам; „задаволены посьпехамі ў Вэнэцыі" і Лютэр (ліст 1528 г.).

Як-жа адносілася сама Вэнэцыя? Абвінавачваць яе ў патураньні або пасыўнасьці зусім было нельга. У выпадку патрэбы, асабліва ў часе папсаваных адносін з Нямеччынай, яна ўжывала ўсе звычайныя тады спосабы: арышты, высылку пачкамі, спаленьне кніжок і іншае. Але гэта былі спосабы самастойныя, з боку самае дзяржавы, а не сьляпое падпарадкваньне папскім „інквізытарам". Толькі адзін раз, напалоханая масавым, як здавалася, пераходам „пярэхрыстаў" з іхняй радыкальнай соцыяльнай праграмай, сэньёрыя цалкам падтрымала папскае сьледзва. У васнове-ж звычайных дзеяньняў было палажэньне (формулёўка Рады Дзесяцёх ад 1528 году), што „зямля Вэнэцыі вольная", і ўсялякі чужаземны, а значыцца—і папскі, націск зьяўляецца недапушчальным. Як ні стараліся папы, як ні казалі яны (Павал III), што „рэволюцыя ў веры давядзе і да рэволюцыі ў дзяржаўным ладзе",—Вэнэцыя цьвёрда абараняла сваю сувэрэннасьць.

Тыя-ж дырэктывы, разумеецца, былі і для вэнэцыйскай Падуі. Унівэрсытэт непамерна выйграў у колькасьці і якасьці ў той час, як Болёньня, дзе ўсё яшчэ вышэйшай школай кіраваў папскі легат, які старанна абараняў „прававернасьць", траціла штодзень усю сваю старую нямецкую кліентуру. Такія выпадкі, як расправа з студэнтам Бісьпінгам, якога ў кастрычніку 1615 году ў шпіталі, дзе ён ляжаў як хронік, „прызналі лютэранцам", потым пратрымалі больш як тры гады ў астрозе, прысудзілі да сьмерці і зараз-жа гэты прысуд (прысуд—4 лістапада, спаленьне—ужо 5 лістапада 1618 году) выканалі... з прычыны „блізкасьці яго да сьмерці",—такія выпадкі ў Падуі не здараліся,—для іх там ня было месца.

Неаднокраць папства імкнулася хаця-ж бы ўнутры раскласьці „падуанскую цьвярдыню", але кожны раз вэнэцыйская дыплёматыя з вялікай паступовасьцю ліквідавала гэтыя спробы. Гэтак, напрыклад, Павал II надаў „калегіі вольных і фізычных навук", якая існавала ўжо ў Сан-Джованьні ў Брагоры (у ваколіцах самой Вэнэцыі), годнасьць „унівэрсытэту". Вэнэцыя дабілася таго, каб гэты новы унівэрсытэт даваў толькі дыплёмы аб сканчэньні курсу філёзофскіх і мэдычных навук, але не юрыдычных і тэолёгічных, як гэта рабіла Падуя. Загнаць клін, такім чынам, не давялося.

Контр-рэформацыя, аднак, і далей рабіла гэтыя спробы. Сам Лёйоля правільна ацаніў базу ў Вэнэцыі, і сам і першапачатковае брацтва надоўга заселі там. Падуя была ізноў узята пад абстрэл; вэнэцыйскі патрыцы Андрэа Ліпомано аддаў у карыстаньне маладым езуітам, якія былі камандыраваны ў Падую, свой дом. Папа Павал III

падтрымаў гэтую ідэю, але далей „супольнага жыцьця“ справа не пашла. Калі-ж у 1517 годзе езуіты спрабавалі адчыніць сваю „школу“ і пачаліся спрэчкі з унівэрсытэтам і гарадзкімі ўладамі, Вэнэцыйскі сэнат рашуча забараніў езуітам „чытаць адкрыта або прыватна, каб ня было супярэчнасьцяй з унівэрсытэцкімі правіламі і статутамі“.

Ліга ў Камбрэ, усё большае аслабленьне Вэнэцыі як палітычнае, гэтак і экономічнае, моцна падарвалі і Падую. Дабіла яе 30-гадовая вайна—правільны паказальнік таго, наколькі унівэрсытэт залежаў ад прытоку якраз „загорных“, перш за ўсё—студэнтаў Цэнтральнае Эўропы, якая зьдзічэла і была зусім зьнішчана гэтай вайной.

Пераходзячы да ўнутранай характарыстыкі Падуанскага Унівэрсытэту, трэба, перш за ўсё, лічыцца з старым непаразуменьнем, якое замацавалася,—з занадта раздутымі лічбінамі. Новыя дакладныя дадзеныя дакумантальнага характару прымусілі зьнізіць усю пашыраную сярэднявечную статыстыку. Досыць прыпомніць рашучыя перастаноўкі ў галіне сярэднявечнага гораду і сярэднявечнага войска. Тое самае трэба зрабіць і ў адносінах да велічыні тагочасных унівэрсытэтаў. Напрыклад, „Дзесяць тысяч“ уважлівых слухачоў каля ног праўніка Аццо ў Болёньні трэба здаць у архіў, бо якраз архіўныя дадзеныя, нязломныя ў сваёй дакладнасьці, паказваюць зусім іншыя памеры. Перад намі цяпер запраўдныя „матрыкулі“—агульна-унівэрсытэцкія запісы студэнтаў або ўнясеньне іх у сьпісы „нацый“ (у Падуі трэ‘ было ўласнаручна запісвацца; агульная матрыкуля захавалася толькі за 1591—98 і з 1622 году; „Liber inclytae Nationis Germanicae“—без перарываў за 1546—1630 гады) сьпісы „промоцыяў“ (для Падуі—з 1523 году, без перарыву), штогоднія справаздачы, рахункі, лісты, протоколы унівэрсытэцкага Сэнату (для Падуі—за 1498—1546 гады) і г. д. У выніку—поўная магчымасьць перагледзець старыя традыцыйныя лічбіны. І вось адзін з гэткіх пераглядаў-пераверак—з зусім поўным, але нечаканым вынікам. Хто, напрыклад, ня памятае велічы вобразу—„выхад“ 5.000 студэнтаў з Прагі ў 1409 годзе і заснаваньне імі (частка ўсё-ж-ткі пашла ў Эрфурт, Гайдэльбэрг, Кельн) унівэрсытэту ў *Лейпцыгу*. Што-ж кажуць цяпер архіўныя дакуманты?

| | ГАДЫ | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1409 | | 1410 | | |
| | СЭМЭСТРЫ | | | | |
| | Летні | Зімовы | Летні | Зімовы | |
| Лейпцыг . . | — | 368 | 137 | 110 | 615 |
| Эрфурт . . . | 207 | 163 | 159 | 70 | 599 |
| Гайдэльбэрг . | 44 | 23 | 28 | 8 | 103 |
| Кельн . . . | 39 | 80 | 50 | 48 | 217 |
| Разам . . | 290 | 634 | 374 | 236 | 1534 |

Аб „пяцёх тысячах“, ясная рэч, няма і гутаркі... Толькі што паказаныя паводле дакумантаў лічбіны, апроч таго, зьяўляюцца дасканалым спосабам проці колькаснай пераацэнкі сярэднявечных унівэрсытэтаў наагул.

Калі, дзеля гэтага, у Фаваро мы сустракаем *дакумантальную* статыстыку, што ў Падуі ў 1561 годзе было 1.210 студэнтаў, у 1562 годзе—470, у 1563—541, у 1564—727, у 1565—720, то нельга пазбавіцца ад уражаньня, што гэты унівэрсытэт, у параўнаньні з іншымі, быў *вялікім*, але што і ён, як і ўсе іншыя, штогод падлягаў буйным зьменам. Зьмены гэтыя тлумачацца характэрнай [1]) непаседнасьцю студэнтаў, якія што раз пераходзілі з аднаго унівэрсытэту ў другі па самых рознастайных прычынах: то—пераходзячы разам з улюбёным лектарам, то—каб пазбавіцца ад даўгоў, эпідэміі, ваеннае небясьпекі. З ліку 111 студэнтаў Болёньні ў 1590 годзе, пра якіх была магчымасьць здабыць найбольш дакладныя спраўкі, 57 студэнтаў былі яшчэ ў Падуі, 85—яшчэ ў Сіене, а 45—ва ўсіх трох унівэрсытэтах; а з 174 студэнтаў Сіены, за той самы 1590 год, 87 студэнтаў былі яшчэ ў Падуі, 85—у Болёньні, а 49—ва ўсіх трох.

Весткі Фаваро, на жаль, ахапляюць толькі зусім нязначны час; на дапамогу можна прывесьці ў поўнай меры дакладныя лічбіны Люшана, якія, праўда, характарызуюць толькі прыватнае пытаньне—*нямецкае* студэнцтва Падуі, але якія затое ахапляюць вялікі тэрмін, як гэта відаць з наступнае табліцы:

| ГАДЫ | Лік нямецкіх студэнтаў у Падуанскім Унівэрсытэце ў другой палове XVI сталецьця | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Легістых | | Артыстых | |
| | Абсолютныя лічбы за дзесяць год | Колькі прыпадае на адзін год (сярэдн. лічбы) | Абсолютныя лічбы за дзесяць год | Колькі прыпадае на адзін год (сярэдн. лічбы) |
| 1540—1549 | 193 | 19 | — | — |
| 1550—1559 | 601 | 60 | 111 | 11 |
| 1560—1569 | 731 | 73 | 137 | 14 |
| 1570—1579 | 1041 | 104 | 153 | 15 |
| 1508—1589 | 1332 | 133 | 276 | 28 |
| 1590—1599 | 1378 | 138 | 300 | 30 |
| 1600—1609 | 1217 | 122 | 250 | 25 |

Такім чынам, Падуя зьяўляецца *буйным* асяродкам як у XVI, гэтак яшчэ больш у XV сталецьці, якое справядліва лічыцца часам максымальнага росквіту. З другога боку, Падуанскі Унівэрсытэт нічым, у сутнасьці, ня розьніцца ад усіх іншых італьлянскіх унівэрсытэтаў. Той самы падзел напалам, не на „факультэты", а на самастойныя унівэрсытэты (цяпер-бы мы сказалі „асоцыяцыі")—праўнікаў або „легістых" (universitas iuristarum) і „артыстых" (universitas artistarum), прычым да артыстых далучаны наступныя тры „факультэты": філёзофскі, мэдычны і тэолёгічны. Гэта—адзін падзел, навучальны. Ёсьць і другі—нацыянальны, які дае ў выніку ізноў два паасобныя „унівэрсытэты": „па гэты бок" (citramontani), інакш кажучы італьлянцы, і „загорныя" (ultramontani)—чужаземцы; далейшая дыфэрэнцыяцыя ідзе ў бок „нацый" (за ўвесь час існаваньня Падуанскага Унівэрсытэту лік іх узрос з 4 да 9), якія маюць свае асобныя організацыі, агульныя

[1]) Адзін слоўнік XV сталецьця тлумачыць слова „студэнт" вось як: „той хто вандруе дзеля навучаньня" (qui studiorum causa peregrinatur").

памяшканьні, касу, часам нават... могілкі, і якія падаюць галасы ва ўсіх выпадках, як пэўныя адзінкі (толькі „нямецкая“ нацыя, відаць—з прычыны свае шматлікасьці, мела з пачатку XV сталецьця два галасы); ёсьць часамі і далейшыя пададдзелы—„провінцыі“ (напрыклад, 4 провінцыі нямецкае нацыі). Кожны з двох „унівэрсытэтаў“ абірае свайго „рэктара“, абавязкова з ліку студэнтаў, на адзін год. Поўнамоцтвы рэктароў або рэктара[1]) вельмі шырокія—уся навучальная галіна, уся гаспадарчая, уся адміністрацыйная, часткай нават і судовая (разам з „сындыкамі“ і „консільлерамі“, інакш кажучы—раднымі ад „нацый“). Знадворны выгляд—помпэзны: кармазынавае адзеньне з гарнастайнай футрай, залаты скіпэтр, сьпераду ідуць „пажы“ пад кіраўніцтвам „галоўнага пэдаля“ (bidello; з срэбным кіем); ідуць профэсары, „сэнатары“ унівэрсытэту, кіраўнічыя ўстановы студэнцкіх корпарацый. Абраньне вельмі жывое, каб не казаць больш. Досыць часта здараюцца вялікія непаразуменьні на грунце абіральных хітрыкаў і лоўкіх махінацый. Праўда, галасуюць, як ужо казалі, па „нацыях“; але што такое „нацыя“ сама па сабе? Часамі яна складаецца літаральна з... трох асоб—„рэктара“ гэтае нацыі і двох „членаў“. „Вялікім“ нацыям тады крыўдна абіральная роўнасьць гэтых амаль што фіктыўных сяброў, як крыўдна і несправядліва было ў свой час існаваньне „гнілых мястэчак“ у часе абраньня ў ангельскі парлямант. Пасьля даўгое барацьбы вызначаецца, урэшце, „мінімум“ у 6 студэнтаў дзеля поўнапраўнага існаваньня „нацыі“ (стутут 1493 году). Але тады зьяўляюцца новыя абыходы і гэткія штукі: дзеля „папаўненьня“ нацыі часова выпісваюцца студэнты з суседніх унівэрсытэтаў, уводзяцца „артыстыя“ замест „легістых“ і наадварот, лічацца „слугі“ студэнтаў арыстократаў нароўне з самымі студэнтамі; дзеля „аслабленьня“ нацыі практыкуецца запраўдны вываз, нават сілай; недарэчныя абвінавачваньні, якія, аднак, пазбаўляюць чалавека звычайных праў „да разгляду“; абвяшчэньне таго ці іншага студэнта „хворым“, часьцей за ўсё—псыхічна і г. д. Протоколы рэктарскага суду перапоўнены справамі аб перавыбарных махінацыях.

Новы акадэмічны год пачынаецца заўсёды першага лістапада. Але распрацоўка яго адбываецца куды раней—у маі вызначаюць „rotulus“ (сьпіс) лекцый на ўвесь наступны год, выяўляюць, ці пажадана запрасіць тую ці іншую навуковую сілу. У падрыхтоўчай кампаніі, апроч студэнтаў, прымае ўдзел таксама і гарадзкая ўлада; у выпадку патрэбы, асабліва ў пытаньнях аб дапамогах, апэлююць да ўлады Вэнэцыі. Профэсары пры гэтым маюць досыць пасыўную ролю: праўда, яны таксама, ня менш за студэнтаў, зьяўляюцца вандроўным элемэнтам, апроч таго яшчэ—кепска зорганізаваным, калі ня лічыць чыста мэтавага аб'яднаньня, так званага:, „doctores collegiati“, нечага падобнага да сталай экзаменацыйнай камісіі.

Як прыедуць студэнты, Падуя адразу ажывае. Часта паўстае паважны кватэрны крызіс, павялічваюцца цэны, групы студэнтаў пераяжджаюць у блізкія вёскі або „кампіруюць“ у палатках і будках. Гарадзкая ўлада шырака дапамагае; студэнцкія організацыі энэргіч а змагаюцца з палажэньнем, у якім апынуліся студэнты: утвараюцца экстраныя „таксатары“, выдаюцца часовыя дэкрэты—аб замацаваньні кватэр „мінулага году“, аб студэнцкім абавязкавым пастоі і аб бязумоўнай здачы хаця-ж аднаго „пакою“ ва ўсіх дамох, за выключэньнем будынкаў комунальных і тых, што маюць ваеннае значэньне.

---

[1]) Вельмі часта падвойнае абраньне спынялася на адной і тэй самай асобе.

Другі клопат—харчаваньне. Звычайна думаюць, што падуанскае студэнцтва было пераважна заможным, нават багатым. Больш блізкае азнаямленьне з актавым матар'ялам стаўляе гэта пад знак запытаньня: справы аб харчаваньні, ды яшчэ танным, займаюць вельмі паважнае месца. Яшчэ статут 1262 году наказваў „ніякім чынам не рабіць перашкод тым студэнтам, якія захочуць прыехаць з сваймі харчамі"; гэтая пастанова ў тэй ці іншай форме аднаўлялася амаль што кожныя дзесяць год. Сярод судовых протоколаў увесь час трапляюцца нявыплачаныя даўгі ў сталоўках самага таннага гатунку. Характэрна, паміж іншым, тое, што даўгі за віно сустракаюцца куды больш рэдка, чымся нявыплата за харчаваньне.

Студэнт—„акадэмічны грамадзянін"; бяз рэктара яго нельга было нават... катаваць, бязумоўна—зайздросны для таго часу прывілей. Але, з другога боку, у маленькай Падуі студэнцтва складала значны процант жыхароў мужчын. Трэ' было, значыцца, утварыць для іх нешта сярэдняе, узаемна зручнае. Формулу знашлі ўжо ў 1261 годзе, вось якую: „Scolares computentur cives quantum ad commoda et non ad incommoda", інакш кажучы—„іматрыкуляцыя" рабіла студэнцтва роўным з гарадзкім грамадзянінам, з усімі перавагамі, якія адсюль вынікалі, але... з выключэньнем усіх належных абавязкаў. Для прыкладу: за даўгі кожнага падуанца ў кожным месцы павінен адказваць кожны падуанец (інакш кажучы—павінен ісьці ў вастрог, маемасьць яго павінна падпадаць конфіскацыі і інш.), але... не падуанскі студэнт; іншы прыклад: у выпадку патрэбы, асабліва ў часе аблогі, кожны падуанец павінен ісьці ў войска, але... не падуанскі студэнт; або больш дробны прыклад: з надыходам пэўнага часу, часьцей за ўсё а 8 або а 9 гадзіне ў вечары, хада па вуліцах спыняецца, але „студэнты маюць права без перашкод хадзіць і ў ночы, у які хочаш час, абы толькі ішлі з ліхтаром і не парушалі цішыні і парадку". Словам, Падуя песьціла сваіх „акадэмічных грамадзян", а тыя, трэба прызнацца, шырака злоўжывалі сваім выключным палажэньнем, хаця-ж напалову і складаліся з „клерыкаў".

„Кнігі зямляцтваў", якія захаваліся, а таксама некаторыя „альбомы" паасобных студэнтаў, з вельмі цікавым зьместам, даюць нам шмат каштоўных рыс тагочаснага студэнцкага жыцьця. У дэталі ўваходзіць ня варта. Трэба і тут адзначыць толькі адно: ня ўсё запоўнена маладзецтвам, марнатраўствам, лёгкадумнасьцю, цяжкім і грубым бурсацкім жартам; шмат вельмі сымпатычных рыс—разьвінутае пачуцьцё ўзаемадапамогі, простасьць узаемаадносін, адсутнасьць шовінізму і нязноснасьці, безьліч выпадкаў мізэрнага, працоўнага жыцьця пры вельмі высокіх разумовых інтарэсах. Прызвычаіліся неяк высоўваць на першы плян студэнцкія забавы, прытым у найменш даступнай іх форме—пагулянкі, машкарады, каштоўныя пантамімы і костюмаваныя камэдыі (lusus scholarium), кавалькады, падарожы за горад. Няма чаго спрачацца,—яны былі; але да паловы XVII сталецьця не яны задавалі тон. У кожным выпадку трэба памятаць аб больш скромных масавых забавах, як напрыклад, бурна-вясёлае сьвяткаваньне італьлянскага першага мая, а, галоўнае,—не забываць, што тагочасны студэнт ня толькі забаўляўся, але і вучыўся.

Навучаньне-ж было непамерна дарагім. Плату за лекцыі, вельмі высокую, трэ' было даваць няўхільна; звальненьне ад платы бадай што не ахапляла больш 5% усяго студэнцтва. Яшчэ даражэй былі пісьмовыя прылады, і не выпадкова, што тагочасныя студэнцкія запісы, якія дашлі да нас, дзівяць сваім вельмі дробным характарам, адсутнасьцю ўсялякіх палёў, наагул ідэальным скарыстаньнем каштоўнага матар'ялу. Але самым дарагім, разумеецца, былі кнігі. Колькі разоў можна

заўважыць амаль што непадобны на праўду факт, што выпадковае ўладаньне тым ці іншым пашыраным падручнікам вызначала... выбар факультэту! Друкаваная кніга палепшыла палажэньне: з недаступнай кніга зрабілася маладаступнай; робяцца складкі, засноўваюць клюбы пэўнае кнігі. Бібліотэк яшчэ няма; а калі паасобныя зьбіральнікі (як напрыклад, Нікколё Нікколі, або дзяржавы, Флёрэнцыя ці Вэнэцыя) упяршыню ўтварылі бібліотэкі дзеля агульнага карыстаньня, то каштоўны тавар прыкаваны быў ланцугамі, што перашкаджала карыстаньне, ня кажучы ўжо аб патрэбе мець вельмі паважныя рэкомандацыі.

Аднак, навучаньне разьвівалася зусім нормальна і з посьпехам. Шмат гэтаму спрыяў дасканалы профэсарскі склад. Вэнэцыйскі кашэль меў магчымасьць запрасіць першарадныя сілы. Даволі сказаць, што профэсарам матэматыкі даўгі час (1592—1610) быў ніхто іншы, як Галілей, ня толькі вялікі вучоны, але і дасканалы акадэмічны настаўнік, як давёў Фаваро ў сваёй ёмістай монографіі. Галілей быў адным з тых профэсароў, якія крута парвалі з старымі формальнымі мэтодамі навучаньня, стоячы за беспасярэдны факт, за досьлед. У гэтых адносінах ён у Падуі быў далёка ня першым: ужо каля паловы XVI сталецьця унівэрсытэт меў ня толькі добрую поліклініку, але і выключна добры для таго часу анатомічны тэатр. Восем вялікіх тэк анатомічных малюнкаў у бібліотэцы сьв. Маркі кажуць аб дасканалай пастаноўцы справы[1]) і, між іншым, паказваюць, што аўтар, профэсар Джыролямо Фабрычыо д'Аквапэндэнтэ (нар. 1537, пам. 1619) меў амаль што скончаную ўжо тэорыю цыркуляцыі крыві, якую потым распрацаваў (а не „адкрыў“!) адзін спаміж яго вучняў, ангелец Harvey. Посьпехі Аквапэндэнтэ не зьяўляюцца дзіўнымі, калі ўспомніць, што профэсарам мэдычнага факультэту папярэдняга пакаленьня быў (з 1537 году) ніхто іншы, як бэльгіец Андрэй Вэзалі, адзін з бацькоў сучаснае анатоміі, які ўтварыў бліскучую школу, адкуль вышлі яшчэ Рэальдо Колёмбо, Габрыэле Фальлёпіо ді Модэна, Джыролямо Мэркурыяле і іншыя. Дасканалы ботанічны сад, першы ў тыя часы, заснаваў таксама падуанскі профэсар Франчэско Бонафэдэ (1533) з шырокай дапамогай Вэнэцыі.

Гэткім быў мэдычны факультэт, найменш людны і найменш вядомы; дарэмна, відаць, хадзілі ў народзе анэкдоты аб „miedeghi de Padoa“.

Рэшта факультэтаў, больш вядомых тады,—тэолёгічны, заснаваны пазьней за іншыя (1363), філёзофскі, нават сам праўны,—не дае для сучаснага вуха імён, якія-б таксама казалі самі за сябе. Пераліку, дзеля гэтага, даваць ня варта. Замест пераліку асоб і заслуг добра даць хаця-ж-бы адзін прыклад высокае тагочаснае адноснае вагі, як гэта разумелі *тагочасныя* людзі: у 1413 годзе падуанскае студэнцтва зьвяртаецца да Вэнэцыйскага Сэнату з паперай, якая зьмяшчала адначасна і просьбу і пагрозу, і якая казала, што „унівэрсытэт загіне“ (fuisset destructum), калі ня ўтрымаць профэсара Рафаіла Фульгозія ад выезду ў Парму. Падобных хадайніцтваў нямала; яшчэ больш выхадаў самых студэнтаў з прычыны выхаду таго ці іншага славутнага і ўлюбёнага профэсара.

Варта, урэшце, прыпомніць некалькі славутных выхаванцаў Падуі—Конрада Пэйтынгера[2]), Піко дэльля-Мірандолю, Франчэско Гвічы-

---

[1]) Гл. спэцыяльную працу проф. Sterzi „Le tabulae anatomicae ed i codici marciani con note autografe di Fabricio ab Aquapendente“. Jenn, 1909.

[2]) Нямецкі патрыцыят як-бы прынцыпова пасылаў сваіх сыноў у італьянскія унівэрсытэты; за 100 з чымсьці год Паўмгартнэры далі 23 студэнты, Імгофы—33, Вэльзэры—35, Фугеры—44.



Унівэрсытэцкая аўдыторыя ў XV сталецьці.

ардзіні, Пандольфо Коленучыо, Гвідо Панчыролё (ён-жа потым і профэсар), Лёдовіко Арыосто, П'етро Бэмбо, Торквато Тассо, Джованьні Новіцыяно; рад кардыналаў (Сарпі), пап (Аляксандар VIII), каралёў (Ян Сабескі, Густав Швэдзкі) і яшчэ, і яшчэ. Большасьць спаміж гэтых выхаванцаў „скончыла“ унівэрсытэт, інакш кажучы, ня толькі праслухала пэўную колькасьць гадоў (гледзячы які факультэт: ад 5 і да 8), але і здала „rigorosum et tremendum examen“, „экзамен строгі і страшэнны“—выспыт на „доктара“.

Доктаратам канчалася акадэмічнае навучаньне, ступень гэтая была вышэйшым і канцовым імкненьнем кожнага тагочаснага студэнта. Апісаньнем гэтага апошняга этапу зручна і скончыць нарыс Падуанскага Унівэрсытэту.

„Ступень“ роўназначна новаму соцыяльнаму палажэньню. „Miles legum“, напрыклад, ня пусты гук, а запраўды „нобілітацыя“, узьвядзеньне ў прывілееванае палажэньне. Такі чалавек вольны ад падаткаў і звычайнае вайсковае службы; яго нельга, а ў тыя часы гэта значыла ня мала, катаваць; ён мае права „апэляваць“ аж да вышэйшых інстанцый; мяжа матар'яльнае ўзнагароды ўніз дакладна вызначана звычаем і нават законам.

З другога боку, гэта—клапотнае і вельмі дарагое прадпрыемства. Падрыхтоўка, і ў сутнасьці і формальна, цягнецца шмат месяцаў. Рэктар перш-на-перш павінен спраўдзіць „правы“—ці была запраўдная іматрыкуляцыя, колькі гадоў праслухана, якія курсы і ў каго, які век асьпіранта і іншае. Потым „калегія дактароў“ вызначае „промотора“, нешта падобнае да галоўнага рэпэтытара; потым ідзе даўгая падрыхтоўка, ужо ўдвох, якая канчаецца новым зваротам да тэй-жа калегіі; калегія абвяшчае дзень экзамену, які цягнецца часам да 18 гадзін без перарынку: вызначаюцца „punkta“ (тэма), пры гэтым робяцца вялікія прасьцярожнасьці (той, хто дае тэму і хто атрымлівае яе, не павінны зьбліжацца адзін да другога больш, чымся на тры-сажні!), каб ня было магчымасьці... подкупу. У разе ўдачы—наагул яна пераважала—адбываецца ўрачыстае абвяшчэньне вынікаў, надаваньне „ступені“ і „дыплёму“, а потым адбываўся абавязкавы банкет і такія-ж абавязкавыя падарункі, пачынаючы ад „пэдаля“ унівэрсытэту і канчаючы „промоторам“ і экзаменатарамі.

Мяркуючы па даўгавых запісах, доктарат XV сталецьця каштаваў ня менш, як 60—65 дукатаў, не малую, каб не сказаць вялізную суму. Яе выплачвалі потым многа гадоў. Не дарма ў тагочаснай студэнцкай песьні пяецца досыць мэлянхолічна:

Dottore io sono. Dottore è vero.
Titol magnifico, titolo caro,
Ma che mi costa troppo danaro.

Жыцьцё вымагала зьмен, і ў Падуі для „бедных“ (pauperes, miserabiles) уводзіцца з канца XVI сталецьця і іншая, менш урачыстая і больш памяркоўная з боку цаны форма. Праўда, узмацняецца пры гэтым і процілежны полюс: за вельмі буйны ўзнос, або ў выпадку выключнае радавітасьці, можна зрабіцца доктарам „in absentia“ (яны-ж называліся „doctores bullati“,—„загаднымі“), інакш кажучы,—атрымаць дыплём нават ня будучы прысутным. Такая скажаная форма была проста зьдзекам над усім старым навучальным ладам і азначала глыбокі заняпад унівэрсытэтаў.

На грунце „доктарату“ адбылася, урэшце, і адна з апошніх бітваў з папскімі прэтэнзыямі. Пій IV выдаў булю (1565), што доктарам

можа зрабіцца толькі той, хто паводле асаблівае формы „прысягне папе“. Падуя, напоўненая, як заўсёды, немцамі-раскольнікамі, не на жарт спалохалася. Вэнэцыйскі ўпоўнаважаны ў Рыме яшчэ да абвяшчэньня булі зрабіў некалькі „конфідэнцыяльных паведамленьняў“, што „Вэнэцыя ня здолее дакладна правесьці“ чаканага загаду, бо „інакш адбудзецца вялікая шкода унівэрсытэту“. Папа, аднак, застаўся цьвёрдым; буля была выдадзена, і некалькі сот некаталікоў зараз-жа пакінулі Падую. Тады вэнэцыйскі дож, як галава незалежнае дзяржавы, згадаў ад гэтага часу даваць доктарат ад свайго імя, паводле „старадаўных правіл“.

Вэнэцыя яшчэ раз, і йзноў з посьпехам, стала ў абарону свайго унівэрсытэту і поўнае свабоды ў выкладаньні.





**Проф. Антон Ясінскі.**

# З культурнае гісторыі Чэхіі пачатку XVI-га сталецьця.



рофэсар Уладзімераў у сваёй вялікай працы: „Доктар Францішак Скарына“ [1]), лічачы асобу, якая атрымала ў 1506 годзе ў Кракаўскім Унівэрсытэце навуковую ступень бакаляўры („Fran. de Poloczko Litphanus“) за Скарыну, бяз пэўнае здавальняючае падставы зазначае, што ў 1506 годзе Скарына пакінуў Кракаў: „У кожным выпадку,—піша ён,—пасьля 1506 году Скарына павінен быў пакінуць Кракаў і выехаць далей заграніцу, дзе мы яго і сустракаем ужо толькі ў 1517 годзе ў Празе. Застаецца зусім цёмным у жыцьці Скарыны час ад 1506 да 1517 году. Ад 1517 да 1520 году мы маем друкаваныя кнігі Скарыны, як пасьведчаньні аб яго жыцьці і дзейнасьці ў Празе [2])“. Аднак, „гэты цёмны ў жыцьці Скарыны пэрыод“ поўніцца значным лікам важных падзей, якія часамі адзначае і ў іншай сувязі профэсар Уладзімераў. Калі ў 1506 годзе, як праўдападобна прыпушчае профэсар Уладзімераў, Скарына атрымаў ступень бакаляўры, то на працягу бліжэйшага часу ён рыхтаваўся да атрыманьня навуковае ступені доктара мэдыцыны, якую меў, калі друкаваўся яго пераклад біблії [3]).

Дзеля таго, што ў пасьляслоўях да псалтыру, да Іова і да прыповесьцяй Скарына выразна кажа: „казал есми тиснути“, а ў іншых пасьляслоўях сустракаюцца выразы: „повелением“, „працею і выкладом“, то Уладзімераў правільна выводзіць, што „сам Скарына ня быў друкаром“ [4]). Мала таго, само друкаваньне ў Празе ішло настолькі хутка, што амаль выключалася магчымасьць адначаснага друкаваньня і падрыхтоўкі рукапісаў да друку: „...у 1517 годзе выдадзена 4 кнігі ў 222 аркушы; у 1518 годзе—8 кніг у 348 аркушоў і ў 1519—10 кніг у 524

---

[1]) „Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык“. Исследование П. В. Владимирова, 1888 Изд. Общества любителей древней писменности.

[2]) П. В. Владимиров, op. cit., стар. 56—67.

[3]) У прадмове да кнігі Іова: „...Францишек Скоринин сын Сполоцка, Влекарскых науках Доктор...“

[4]) П. В. Владимиров, op. cit., стар. 64.

аркушы. Значыцца, у першы год выданьня выдавалася да 40 аркушоў штомесяц, у другі год—да 30, а ў 1519 годзе—да 43 аркушоў"[1]).

Такім чынам, на працягу „цёмнага пэрыоду" Скарына набыў у Кракаўскім ці ў якім іншым унівэрсытэце ступень доктара[2]), пережыў нейкі пералом, які накіраваў яго думку ў бок вывучэньня біблії, асталяваўся на жыцьцё ў Празе, займаўся падрыхтоўкай да друку перакладу біблії, падшукаў сродкі на гэтае прадпрыемства і нагледзеў друкара ці абсталяваў друкарню. Адным словам, за дзесяць год гэтага „цёмнага пэрыоду" Скарына выканаў вялікую працу падрыхтоўчага характару, якая цалком выявіла яго асобу і яго правы на ўдзячнасьць з боку патомкаў.

Бадай што нельга згадзіцца з профэсарам Уладзімеравым, што Скарыне, калі ён у Празе распачаў выданьне біблії, было 27 год. У часе ўступленьня ў Кракаўскі Унівэрсытэт, а гэта было ў 1504 годзе, Скарына „павінен быў мець ня менш, як 14 год", а, значыцца, нарадзіўся ён каля 1490 году. Значыцца, кажа далей профэсар Уладзімераў, у 1517 годзе, калі Скарына выдаваў у Празе кнігу Сіраха, да якой дададзены портрэт Скарыны, „яму было ня менш, як 27 год; у такім веку, ці нават некалькі старэй, паказаны Скарына і на портрэце 1517 году"[3]).

Што да гэтых меркаваньняў, то можна сказаць, што яны больш неазначаны, чымся гэта можа здацца на першы пагляд. Грунтавацца на 1504 годзе, азначаючы час нараджэньня Скарыны, не выпадае ўжо дзеля таго, што гэты год узяты выпадкова, на падставе таго прыпушчэньня, што Скарына і той „Францішак Літовец", які атрымаў у 1506 годзе ступень бакаляўры Кракаўскага Унівэрсытэту,—ёсьць адна асоба. Нават, калі лічыць гэтае прыпушчэньне падобным да праўды, то нельга думаць, што Скарына ўступіў у Кракаўскі Унівэрсытэт, маючы 14 год: калі дапушчалі да ўступленьня ў унівэрсытэт у веку „ня менш" як 14 год, то адгэтуль нельга выводзіць, што ў такім веку Скарына ўступіў у унівэрсытэт, бо ў тагочасных унівэрсытэтах, побач з маладымі людзьмі, вучыліся і сівыя дзяды. Што датычыць портрэту 1517 году, які захаваўся[4]), то з ім, зразумела, нельга ня лічыцца. На гэтым портрэце Скарына мае выгляд таўстога і вельмі гладкага чалавека, у веку 40—45 год. Калі выходзіць не з прыпушчальных дат, а грунтавацца на матар'яльным помніку, то прыходзіцца сказаць, што Скарына нарадзіўся ў семдзесятыя гады XV сталецьця, і ў 1517 годзе, калі выдавалася кніга Сіраха, меў 40—45 год; інакш кажучы, быў не маладым чалавекам, а сталым мужчынай з вялікай жыцьцёвай практыкай, якая была так патрэбна для такой цяжкой і важнай справы, як пераклад і выданьне біблії.

---

[1]) П. В. Владимиров, op. cit., стар. 66.

[2]) У сваёй кнізе проф. Уладзімераў піша: „Невядома з дакладнасьцю і месца яго канчатковае адукацыі" (стар. 43). Аўтар гэтага артыкулу пакідае людзям, якія больш асьвядомлены ў гэтым, выявіць, як невядомае з прычыны недахвату вестак, якіх не пабольшала пасьля выданьня працы профэсара Уладзімерава ў 1888 годзе, паступова рабілася дакладным і азначаным. Проф. Уладзімераў у сваім артыкуле: „Начало славянского и русского книгопечатания в XV и XVI веках" („Чтения в Историч. Обществе Нестора Летописца", кн. 8. Кіеў, 1894) кажа: „Скарына—гэты першы рускі вучоны—скончыў сваю мэдычную адукацыю ў Італіі, дзе атрымаў ступень доктара" (стар. 16). У XXX томе Энцыклёпэдычнага Слоўніку Брокгаўза і Эфрона (СПБ. 1900), ён-жа піша: „вучыўся далей у Болёньні" (стар. 228).

[3]) П. В. Владимиров, op. cit., стар. 44.

[4]) Зьнімак з гэтага портрэту зьмешчаны далей. Гл. артыкул Міколы Шчакаціхіна: „Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны".

Выконваючы ў Чэхіі галоўную працу свайго жыцьця—пераклад і друкаваньне бібліі, Скарына кіраваўся пачуцьцём замілаваньня да свайго народу і да свае радзімы: „люди игде зродилися и вскормлены суть по бозе, ктому месту великую ласку имають“ [1]), і нідзе ня выказвае цікавасьці да веры. Гэта паказальна ў адносінах да нараджэнца Беларусі, дзе ўжо нарастала напружаная нецярплівасьць да чужое веры. Быць бяз вызнаньня—зьявішча немагчымае для чалавека XVI сталецьця. Відаць, што Скарына наўмысьля ў сваіх прадмовах і пасьляслоўях ухіляецца ад усялякіх паказаньняў на сваё вызнаньне. Дасьледчыкі даўно ўжо разважалі над пытаньнем аб вызнаньні Скарыны. Вядомы славісты Даброўскі, мітрапаліт Макар і Аганоўскі лічылі Скарыну каталіком, Главацкі—паляком ці беларусам, хрышчоным паводле лацінскага абраду, Ліндэ—паляком і, значыцца, каталіком, а Віктараў лічыць, што ён быў хрышчоным паводле лацінскага абраду, а потым перакінуўся ў праваслаўе [2]). Такі пагляд тлумачыцца тым, што Скарына меў нязвычайнае для праваслаўнага імя—Францішак. Ведаючы пагляды сваіх папярэднікаў на вызнаньне Скарыны, профэсар Уладзімераў хістаецца і не адважваецца далучыцца да іх. Грунтуючыся на тым, што ў грамаце караля Жыгімонта I Скарына прызываецца другім імем—Юры, профэсар Уладзімераў думае, што „гэта другое імя можа асьвятліць пытаньне аб вызнаньні“. Далей, у тэй самай увазе на старонцы 45, жадаючы нібы ўмацаваць свой нахіл лічыць Скарыну праваслаўным чалавекам, профэсар Уладзімераў зазначае, што на радзіме Скарыны „ў Полацку ў канцы XV і нават у пачатку XVI“ сталецьця ня было ніводнага каталіцкага касьцёлу“, і што „насельніцтва гораду складалася з праваслаўных“. Хаця-ж бы ўсё гэта і было справядлівым, то, усё-ж ткі, пэўным довадам быць ня можа, калі ёсьць ведама, што Скарына вучыўся ў Кракаўскім Унівэрсытэце, а яго брат і пляменьнік былі віленскімі мяшчанамі. Наадварот, нельга зачыняць вочы на тое, што Скарына ў сваіх пасьляслоўях да перакладу паасобных біблійных кніг заўсёды прызывае сябе Францішкам. Здавалася-б, што да бібліі, якая прызначалася для беларусаў, больш падыходзіла-б імя Юры, а не Францішак. Профэсар Уладзімераў у памянёнай увазе на старонцы 45 падыходзіць да вываду: „Трэба думаць, што Скарына па пахаджэньні быў праваслаўным“, але некалькі ніжэй професар Уладзімераў, з усёй сумленнасьцю дасьледчыка, ня мінае выпадку зазначыць, што кроўныя сувязі Скарыны былі каталіцкімі: „іменьні жонкі і цешчы Скарыны наводзяць на думку аб іх каталіцкім пахаджэньні—Маргарэта і Дарота Станіслававая“ [3]). Такім чынам, з вялікім хістаньнем профэсар Уладзімераў дашоў да вываду, што Скарына паходзіў з праваслаўных, але, усё-ж ткі, не адважыўся сказаць, што ён адкінуўся ад праваслаўя.

Аднак, ёсьць падстава думаць, што Скарына быў дрэнным каталіком: каб ён быў добрым каталіком, то ня ўзяўся-б за пераклад бібліі, і асабліва на сваю родную мову, бо ў той час нараджэнцы Беларусі, якія прыймалі каталіцтва, выракаліся і свае нацыянальнасьці; каталік і паляк былі амаль што сынонімамі. Як відаць па ўсім, Скарына быў і не каталіком і не праваслаўным, а гарэтыкам, нахільным да гусызму ці да яго адмены—чэскага брацтва, ці нават да лютаранства. Як ведама, усе гэтыя гэрасі праходзілі ў Польшчу і Беларусь, дзе пашыраліся сярод шляхты і гарадзкіх жыхароў.

---

[1]) П. В. Владимиров, op. cit., стар. 49.

[2]) П. В. Владимиров, op. cit., стар. V, XXIV, XXV, XXVII, X, XX.

[3]) П. В. Владимиров, op. cit., стар. 47, увага.

Пры такім паглядзе на вызнаньне Скарыны зьяўляецца магчымасьць шмат што растлумачыць у яго жыцьці і дзейнасьці. Перш за ўсё робіцца зразумелым, чаму Скарына ў прадмовах і пасьляслоўях да біблійных кніг не адзначае свайго рэлігійнага кірунку ці, лепш кажучы, падкрэсьлівае, што працуе для сваіх аднапляменьнікаў („братия моя Русь люди посполитые“): веданьне сьвятога пісьма было паролем усіх гарэтычных кірункаў [1]). Пераклад і выданьне бібліі ў роднай мове былі для Скарыны найлепшымі формамі, каб паслужыць свайму вызнаньню; і было нават непажадана раздражняць каталікоў і праваслаўных выяўленьнем свае прыязьні да якога-небудзь з гэтых вызнаньняў. Робіцца таксама зразумелым, чаму для свае выдавецкае дзейнасьці Скарына не абраў Кракаў, больш блізкі для яго горад, чымся Прага, хаця-ж у Кракаве яшчэ ў 90-х гадох XV сталецьця немец Швайпольт Фіоль друкаваў царкоўна-славянскія, кнігі да набажэнства. Западозраны ў гусызьме, Фіоль змушаны быў уцякаць у Вугоршчыну [2]). Спроба папярэдніка, зразумела, была навукай для Скарыны. І ў Чэхіі, у гэтай выслаўленай у XV сталецьці гарэтычнай краіне, мог спакойна працаваць Скарына, у пэўнасьці, што праца яго ня будзе раптоўна перапынена з прычыны абвінавачаньня ў гэрасі. Былі, зразумела, і іншыя грунтоўныя меркаваньні, якімі кіраваўся Скарына, калі абраў Прагу месцам свае выдавецкае дзейнасьці, але ўпэўненасьць у супакоі і бясьпецы мела далёка не апошняе значэньне. Зьяўляецца, урэшце, магчымасьць адказаць на тое запытаньне, якое высоўвае профэсар Уладзімераў, але пакідае без вырашэньня: „Што-ж былі за прычыны спыненьня друкарскае і выдавецкае дзейнасьці Скарыны--перш у Празе, а потым і ў Вільні? Мы,—піша далей ён,—можам прывесьці некаторыя тлумачэньні для апошняга перапынку ў Вільні“ [3]). Адказ на запытаньне, чаму спынілася выдавецкая дзейнасьць Скарыны ў Празе ў 1520 годзе паданы далей. Што-ж датычыць перапынку выдавецкае дзейнасьці Скарыны ў Вільні пасьля надрукаваньня ў 1525 годзе „Апостала“ і „Малое Падарожнае Кніжыцы“, то і тут павінны былі зрабіць уплыў і падазрэньні ў гарэтычнасьці, і зразуменьне небясьпекі для працягу працы. Нават у Чэхіі з 1524 году пачынаюцца перашкоды да вольнага друку кніг: з гэтага году пачынаецца нагляд з боку консысторыі, каб не друкаваліся „блудныя трактаты“ [4]). Відаць, што хваля рэлігійнае рэакцыі пашыралася ўсюды, а ў межах Польшчы, Літвы і Беларусі яна высака стаяла з часоў Зьбігнева Олесьніцкага. Гэтым часткай тлумачыцца тое, што з 1520 г. і да паловы XVI сталецьця можна заўважыць у Чэхіі і ўсюды ў Эўропе пэўны заняпад друкарскае справы ў параўнаньні з часам друкаваньня першых кніг [5]).

Такім чынам, у Чэхіі Скарына распачаў пераклад і друкаваньне бібліі, маючы вялікую жыцьцёвую практыку і пэўны рэлігійны сьветапагляд. Ён прыехаў і асталяваўся ў Чэхіі, спадзяючыся знайсьці у гэтай краіне патрэбныя для гэткае вялікае справы спакой, належныя

[1]) Напр., згодна з пасьведчаньнем Энэя Сыльвія. пазьней—папы Пія II, не да гонару італьянскіх сьвяшчэньнікаў (сярод іх мала было такіх, што прачыталі ўвесь новы закон), ня было ніводнага таборыта і нават жанчыны, якія ня ўмелі-б спрачацца на падставе новага і старога закону. Гл.: Сабіна. Летапіс чэска-славянскае літаратуры. Прага, 1866 (на чэскай мове), стар. 554.

[2]) Kaz. Król i Jan Nitowski. Podręcznik do nauki literatury Polskiej. Warszawa, 1900. стар. 41—42.

[3]) П. В. Владимиров, op. cit., стар. 66.

[4]) Вінтэр. Рамясло і промысел XVI сталецьця ў Чэхіі (на чэскай мове), стар. 252.

[5]) Вінтэр. op. cit., стар. 253.

абставіны і тэхнічныя магчымасьці. Нарыс культурнае гісторыі Чэхіі пачатку XVI сталецьця можа паказаць, ці памыляўся ў сваіх меркаваньнях Скарына. Можна спадзявацца, што такі нарыс, калі не запоўніць усіх прыкрых пропустаў у нашых ведах аб дзейнасьці Скарыны, то часткай будзе спрыяць дасягненьню гэтае мэты.

* * *

Калі ў 1434 годзе на ліпанскіх палёх панская коньніца патаптала таборскія палкі, разьвіцьцё дзяржаўных і соцыяльных адносін у Чэхіі зноў і паступова пашло па тым шляху, які быў вызначаны папярэднім ходам гісторыі,—па шляху ўтварэньня монархіі станаў з навочнай перавагай магнацтва і ўціскам народных гушчаў. „Гэтай бітвай,—кажа профэсар Томэк,—была зьнішчана сіла Таборскага і Сіроцкага брацтваў, і земскім станам нішто не перашкаджала, карыстаючы са сваіх посьпехаў, зноў увесьці ў краіне стары парадак". Пераможаны былі ня толькі таборыты, як прадстаўнікі больш крайніх грамадзянскіх і дзяржаўных настрояў, але сілу ўдару адчулі і гарады.

Не атрымала ніякае карысьці і каралеўская ўлада, якая была неўзабаве пасьля гэтага адноўлена ў асобе імпэратара Жыгімонта (1436—1438). Пэрсональна гэта выяўлялася ў тым, што чэскія каралі на працягу часу пакуль не зацараваў Фэрдынанд Габсбург (1526)—царавалі, але не кіравалі; зяць імпэратара Жыгімонта, Альбрэхт Габсбург цараваў менш як два гады, а пасьля яго сьмерці пачалося бескаралеўе (1439—1452), калі ўлада знаходзілася ў руках гэтманаў, якіх абіраў кожны край з ліку паноў. Каталіцкая партыя на чале з Ольдрыхам Розэнбэргам і партыя ўмеркаваных утраквістых, якой кіраваў Мэйнгард з Нэйгаўза (Градзец), змагаліся з партыяй сталых ці левых утраквістых, на чале якіх стаялі пан Пташак з Пернштэйна, а потым пан Юры з Подэбрад. У сутнасьці, Юры і быў найвышэйшым кіраўніком на працягу кароткага цараваньня недалетка Уладыслава I (1452—1458), які нарадзіўся пасьля сьмерці свайго бацькі Альбрэхта, (1440). Абраны на сойме, пасьля сьмерці Уладыслава I, за караля (1458—1471) Юры Подэбрадзкі змагаўся з панамі варожае яму партыі, якія стварылі пад кіраўніцтвам Здэнка з Штэрнбэргу Зялёнагорскі саюз (1465). Абраны пасьля сьмерці Юр'я Подэбрадзкага сын польскага караля Казімера, Уладыслаў II (1471—1516) быў цацкаю ў руках паноў і палову свайго цараваньня пражыў у Вугоршчыне, дзе яго абралі на пасад пасьля сьмерці Мацея Корвіна (1490). Кароль калі-ні-калі наяжджаў у Чэхію, пражываючы звычайна ў Будапэшце. Перад сваёй сьмерцю кароль Уладыслаў II прызначыў імпэратара Максыміліяна і свайго брата Жыгімонта I, караля польскага, апякунамі свайго дзесяцёхгадовага сына Людвіка (1516—1526), але земскі сойм не дапусьціў гэтых апякуноў да кіраваньня краінай. Урадавая ўлада знаходзілася то ў руках пана Здэнка з Рожміталю, то ў руках Кароля, князя Мюнстэрбэрскага, унука караля Юр'я Подэбрадзкага, то зноў Здэнка, якія былі найвышэйшымі кіраўнікамі паводле даручэньня караля, а той жыў, як і бацька, звычайна ў Вугоршчыне. Сьмерць Людвіка ў бітве ля Магачу і ўзыход на пасад Чэхіі Фэрдынанда I Габсбурга стаялі на рубяжы новага кругабегу чэскае гісторыі.

У гэтай няпэўнай монархіі станаў захаваліся тры дзяржаўныя станы: паны (barones), уладыкі (milites) і мяшчане. Хаця-ж паны і ўладыкі складалі ў сутнасьці адну фэўдальна-вайсковую групу—шляхту, але між слаямі гэтае групы даўно выяўляліся нязгоды і спрэчкі за правы на месцы ў земскім судзе і адміністрацыі. Зрабіўшы некаторыя прыдворна-адміністрацыйныя пасады насьледнымі (стольнікамі бывалі

звычайна паны Зайцы з Газэнбургу, чашнікамі—паны з Вартэнбэргу, маршаламі—паны з Ліпы), паны з няпрыемнасьцю глядзелі на спробы караля Вацлава IV, сына і наступніка Кароля IV, прызначаць на вышэйшыя пасады і ў члены дзяржаўнае рады ўладык і мяшчан. Са зброяй у руках паны здалелі дабіцца таго, што кароль, прывілеем 30 мая 1395 году, дакляраваў кіраваць краінаю з дапамогай „панскае думы“ і прызначаць на пасады толькі прыраджоных паноў, а таксама з іх-жа ліку замяшчаць і пасады прысутнікаў у земскім судзе. Гэта олігархічная політыка паноў посьпеху ня мела: у 1437 годзе кароль Жыгімонт пастанавіў, што ў складзе земскага суду, апроч вышэйшых урадавых асоб каралеўства, павінны быць прысутнымі 12 паноў і 8 уладык. У часы караля Ўладыслава II аднавілася сварка з-за парадку замяшчэньня судовых пасад, але скончылася пастановай караля (1487), якая пацьвердзіла расклад, вызначаны пры Жыгімонце. Праз дзесяць год адбылася згода адносна вышэйшых дзяржаўных пасад: з гэтага часу пасады Праскага бурграфа, гофмайстра, маршала, каморніка, земскага судзьдзі і канцлера павінны былі замяшчацца асобамі панскага стану, а ўладыкам былі ададдзены пасады земскага пісара, падкаморніка і бурграфа Градэцкага краю. У 1500 годзе быў устаноўлены прынцып незьмяняльнасьці вышэйшых урадавых асоб. Толькі кіраўніцтва фінансамі засталося ў руках караля, ды і ў гэтых адносінах каралеўская ўлада была абмежавана. Такім чынам, уся ўлада ў краіне належыла не каралю, а шляхце.

Забыўшыся пра свае спрэчкі, уся шляхта, паны і ўладыкі, дзеілі ў згодзе супроць трэцяга стану. На сойме 1500 году, бяз удзелу прадстаўнікоў гарадоў было прынята „Земскае Ўлажэньне“ караля Уладыслава II, і ў гэтым першым зборы ўсе дамаганьні шляхты знашлі поўнае выяўленьне і прызнаньне. Тады пачалася заўзятая барацьба шляхты і гарадоў, якая цягнулася аж да 1517 году. Толькі на сойме гэтага году адбылася так званая Сьвятавацлаўская згода, абумоўленая ўзаемнымі ўступкамі абодвух бакоў: за гарадамі было зацьверджана права трэцяга голасу на сойме і абаронены аўтономія і юрысдыкцыя гарадоў, але, з другога боку, гарады павінны былі адмовіцца ад розных выключных гандлёвых і прамысловых прывілеяў.

Такім чынам, у 1517 годзе, калі пачалася ў Празе выдавецкая дзейнасьць Францішка Скарыны, устанавілася пэўная, хаця-ж і нясталая, як паказалі падзеі, роўнавага ва ўзаемаадносінах паміж земскімі станамі.

Найбольш слабым бокам монархіі станаў у Чэхіі пачатку XVI сталецьця было пазбаўленьне політычных правоў і ўціск сялянскае клясы насельніцтва.

Рознымі пастановамі соймаў і земскага суду сяляне былі пазбаўлены правоў падаваць у вагульныя судовыя інстанцыі скаргі на сваіх паноў-зямляўласьнікаў, а таксама вызначана было права іску аб звароце сялян, якія самавольна кінулі сваю зямлю. Даўнейшыя праўныя ўмовы паміж зямляўласьнікамі і сялянамі засталіся без усялякае абароны з боку дзяржавы. Сяляне былі пазбаўлены нават ценю волі і апынуліся прымацаванымі да зямлі. У канцы XV сталецьця зямляўласьнікі абцяжылі сялян рознымі новымі прыгоннымі працамі і дазвалялі сабе ўсялякія гвалты і яўнае парушэньне права і законнасьці: „Такога бяспраўя,—пісаў Вікторын з Ушэград,—не дапушчаюць ні туркі, ні іншыя нябожнікі“. Гэта бяспраўнае палажэньне вясковага люду было праведзена і аформлена, галоўным чынам, дзякуючы „Земскаму Ўлажэньню“ караля Ўладыслава II. Гэта „Ўлажэньне“ апрацаваў вядомы юрысты Альбрэхт Рэндль з Ушавы. Рэндль быў

чалавек бяз прынцыпаў, хцівы і хітры. Ён, як казалі сучасьнікі, „зрэндляваў“ права, выкручастым тлумачэньнем і небесстаронным даборам старых земскіх пастаноў і прысудаў надаў праву асабісты, пажаданы для яго, Рэндля, кірунак і сэнс, карысны для панскіх дамаганьняў. Потым, здабыўшы багацьце, ён таксама старанна і з посьпехам служыў каралю і гарадом, але пакінуў па сабе някобры ўспамін. У „старых летапісах“, у вадным з працягаў летапісу Бэнаша Гаравіцкага, дадзены аб працах Рэндля суворы, але справядлівы прысуд: „Ня было-б ніякае шкоды, каб на той рэндлік [1]) навалілі да чатырох вазоў сухіх дроў, і ўсе гэтыя ўзаканеньні разам з ім, іх творцам, спалілі, каб ніхто больш не адважваўся на падобную выдумку“.

Але і тагочасныя дзеячы з шляхоцкае і гарадзкое групы, на службе якіх, пераходзячы ад адных да другіх, быў Рэндль, былі ня лепш ад яго. Эгоістычная і жорсткая палітыка, якая праводзілася на шкоду вясковаму люду, заслужвала самае суворае ганьбы.

Гусыцкі рух ня прынёс Чэхіі чаканых вынікаў—і зноў такі, дзякуючы вузка-эгоістычнай палітыцы чэскіх паноў. Цэзарызм і папізм, гэтыя „вялікія рыбіны“, паводле слоў Хэльчыцкага, якія перарвалі „сетку веры“ хрыста, стоячы на абароне каталіцызму, заўсёды знаходзілі сярод прыродных чэхаў, асабліва сярод арыстократыі, аддашых служак, якія йдуць на здраду свайго народу. З гэтае прычыны скончыліся нічым перамаўленьні з Базэльскім саборам аб злучэньні чэхаў з сусьветнай царквой на аснове чатырох артыкулаў, ці так званых компактатаў а пазьней,—ня мелі ніякага посьпеху ўсе спробы згоды з папскаю курыяй, якая мела магчымасьць, пры падтрыманьні ў самой Чэхіі, вымагаць бязумоўнага і бясспрэчнага падпарадкаваньня. Дарэмны былі ўсе стараньні караля Юр'я Подэбрадзкага здабыць ласку курыі тым, што былі зруйнаваны ў 1452 годзе таборскія рэлігійныя брацтвы. Хаця-ж вялізарная большасьць насельніцтва Чэхіі трымалася традыцыі гусызму, бароначы прычашчэньне ў абаіх выглядах (sub utraque) (адсюль пасьлядоўцы гэтага рэлігійнага кірунку і пачалі празывацца утраквістымі ці чашнікамі), а вернымі каталіцызму заставаліся толькі некаторыя паны, на чале з Ольдрыхам Розэнбэргам, і нямецкае насельніцтва гарадоў, але папская курыя заставалася непахільнай, правільна ўлічыўшы стан рэчаў і наважыўшыся давесьці чэхаў да роспачы сваёй палітыкай сыстэматычнага змору. Рэч у тым, што утраквістыя, ня маючы апостальскае гіерархіі, цярпелі ад таго, што не хапала сьвяшчэньнікаў. Часамі чэхі залучалі выпадковых біскупаў, якія і стаўлялі сьвяшчэньнікаў; час-ад-часу кандыдаты на сьвяшчэньніцкія пасады ехалі дзеля хіротоніі заграніцу, пераважна ў Італію, дзе ім траплялася схіліць якога-колечы біскупа адправіць чын хіротоніі, прычым іншы раз патрабавалася выраканьне ад чашы. На гэта згаджаліся, маючы на ўвазе, зьвярнуўшыся на бацькаўшчыну, ня выконваць дадзенага абяцаньня. Зразумела, пры такім парадку на пасады сьвяшчэньнікаў траплялі неадпаведныя і неадукаваныя людзі. З прычыны, таго, што сьвяшчэньнікаў не хапала, прымалі і такіх кандыдатаў. Адзін час, у цараваньне Юр'я Подэбрадзкага, калі на чале консысторыі стаяў вучоны і таленавіты Ян Рокічан, царкоўныя справы утраквістых наладзіліся, але гэтага паважнага чэха папская курыя не прызнавала, а яе паслугачы празывалі яго не архібіскупам, а архігарэтыкам. Паступова сярод уткраквістых загасла рэлігійнае натхненьне ды захапленьне высокімі ідэямі Гуса і яго лепшых вучняў. Адны,

[1]) Тут ігра на словах: рэндлік на чэскай мове—рондаль, патэльня.

больш слабыя духам, спалучаліся з каталіцкаю царквой, а другія, калі ў пачатку XVI сталецьця пачалі пашырацца ў Чэхіі тэзы Лютара, рабіліся яго пасьлядоўцамі.

Між іншым, яшчэ задоўга да гэтага заняпаду утраквізму, дух вольнадумства, які панаваў у Чэхіі з часоў Гуса, і імкненьні да чыстасьці і простасьці першапачатковае хрысьціянскае царквы давялі да ўзьнікненьня новага рэлігійнага саюзу. Некаторыя вучні Рокічана, якім ён раіў чытаць, побач са сваімі, творы Хэльчыцкага, асяліліся ў 1457 годзе на землях, што належылі Юр'ю Подэбрадзкаму, у Кунвальдзе, і заснавалі першае брацтва. Брат Рыгор, пляменьнік Рокічана, былы манах, які зарабляў на жыцьцё працай сваіх рук, даў грамадзе першапачатковую організацыю на асновах чыстасьці звычаяў, самавыраканьня, пакоры, жабрацтва па добрай волі ды фізычнае працы ўсіх, не выключаючы і сьвяшчэньнікаў. Ужо ў 1461 годзе брата Рыгора, паводле загаду караля, засадзілі ў астрог. Але справа яго не загінула. Спачатку брацтва мелася далучыцца да якой-колечы царквы (грэцкае, армянскае, вальдэнскае), у якой, як думалі, захавалася першапачатковая хрысьціянская традыцыя, але потым сама грамада зрабілася асяродкам, навакол якога сабраліся хэльчыцкія браты, рэшткі таборытаў, зруйнаваныя каралём Юр'ем Подэбрадзкім, мораўскія і вілемаўскія браты і, урэшце, вальдэнцы. У 1467 годзе каля 50 прадстаўнікоў ад брацтваў, якія сабраліся ў сяле Льгоце каля Рыхнову, заснавалі „брацкую грамаду". Рашуча адмежаваўшыся ад лучнасьці з рымскаю царквою і утраквістымі, яны ўмовіліся з нейкім вальдэнскім біскупам Сьцяпанам з Аўстрыі, каб ён стаўляў абраных імі сьвяшчэньнікаў і біскупаў. На канец XV сталецьця было ўжо звыш 300 брацкіх грамад у розных гарадох і паселішчах Чэхіі, пераважна ў Градэцкай, Баляслаўскай і Хрудымскай краінах. У меру таго, як брацтвы павялічваліся, пачалі хістацца першыя, занадта суворыя, асноўныя пачаткі „брацтва". Вымагалі, галоўным чынам, каб „браты" ў сваім жыцьці і чыннасьці кіраваліся духам і наказамі эвангельля. Гэта адбылося ўжо пасьля сьмерці брата Рыгора (1474), калі пачало выміраць старэйшае пакаленьне братоў, так званая „меншасьць", а іх месца заступіла „большасьць", пад кіраўніцтвам брата Лукі. Тады ў брацтва пачалі ўступаць паны, багатыя людзі і заможныя гарадзкія жыхары. Нават нядобрае памяці Рэндль быў адзін час сябрам брацтва. У канцы XV і ў пачатку XVI сталецьця браты выяўлялі вялікую дзейнасьць: уваходзілі ў зносіны з Усходам і Лютарам, мелі некалькі друкарань, выдавалі біблію і канцыоналы, пісалі палемічныя і апалёгэтычныя трактаты. Адзін Лука напісаў да 70 падобных твораў. На прынцыпы і ідэі Хэльчыцкага забываліся, або з пагардай моўчкі абыходзілі іх. Благаслаў, адзін з наступных правадыроў братоў, знаходзіў магчымым сказаць пра Хэльчыцкага толькі: „ня злы чэх".

Францішак Скарына друкаваў у Празе біблію ў гады параўнаўчага зацішша, якое настала пасьля таго, як была ўложана Сьвятавацлаўская згода. Падзеі 1520 году, якія цалком выявілі развал грамадзкасьці і дзяржаўнасьці ў Чэхіі, былі такія, што няма чаго было і казаць аб спакойным і бясьпечным жыцьці ў краіне.

Хаця-ж Сьвятавацлаўская згода была запісана на Земскія Дошкі і зрабілася законам, але паны і ўладыкі і далей сваволілі. На соймах былі чутны скаргі гарадоў: „Няма ў краіне ні права, ні судоў, а злачыннасьць знаходзіцца пад абаронай таго, хто павінен з ёю змагацца". Нават бургграф Здэнак Леў Рожмітальскі, найвышэйшы кіраўнік, не даваўшы ходу гэтым скаргам і не здавольваючы іх, пісаў свайму прыяцелю Пётру Розэнбэргу, што ўсюды, па дарогах, ходзяць банды раз-

бойнікаў і ў гэтых бандах шмат шляхціцаў, што „такога непарадку, хітрыкаў, спакусы і ўзброенага гвалту ня было ніколі, як цяпер". Робячы закіды найвышэйшаму кіраўніку ў патураньні гвалтаўнікам, гарады мелі слушнасьць. Калі жыхары Прагі захапілі Таховіцкі замак, дзе трапіла ў палон сям'я Льва Здэнка, то ў скляпох знайшлі шмат купецкага дабра, саетаў і бочак з перцам і шафранам. Шляхціц Пётра Суда, які знаходзіўся пад абаронай Льва Здэнка, быў, як казалі сучасьнікі, „подлы злодзей, усіх злодзеяў князь" (princeps latronum).

Ініцыятыву барацьбы з гвалтаўнікамі ўзялі на сябе жыхары Прагі. Першага кастрычніка яны адаслалі ва ўсе каралеўскія гарады запрашэньні прыслаць на 10 кастрычніка прадстаўнікоў на зьезд у Прагу. На гэтым зьезьдзе быў утвораны саюз гарадоў дзеля барацьбы з душагубцамі і грабежнікамі, якія знаходзілі падтрыманьне ў паноў. Гэтыя-ж самыя жыхары Прагі і пашлі вайной, захапіўшы 23 красавіка Таховіцкі замак. Затым быў задуманы паход на галоўны асяродак грабежнікаў Янавіцу, дзе замацаваўся Пётра Суда. Клатаўскае гарадзкое апалчэньне заняла 4 лістапада горад і пачало аблогу замку. На дапамогу клатаўскаму апалчэньню прышлі жыхары Прагі, а потым сталі падыходзіць апалчэньні з заходніх і паўднёвых гарадоў. 19 лістапада замак захапілі, але Пётра Суда пасьпеў уцячы. У замку былі знойдзены дакуманты, якія выкрывалі супольнікаў грабестваў Суды. Пераможцы спалілі горад, зруйнавалі вежы, засыпалі равы і ўсё зраўнялі з зямлёй. Зьвяртаючыся да хаты, яны зьнішчылі і іншыя разбойніцкія гнёзды: Сабеціцу, Мацісу, Каленіцу, Дубравіцу і Нястаніцу.

У часе аблогі Янавіцы Леў Здэнак вымагаў ад гарадоў, каб яны спынілі аблогу і перадалі справу на вырашэньне Земскага Суду. Але гарады са зьдзекамі адказалі, што яны ўжо даволі шукалі ў судох управы на душагубцаў і земскіх грабежнікаў, а цяпер хочуць самі пакараць іх. Цікава тое, што сяляне згаджаліся дапамагчы гарадом і ўзьняцца супроць шляхты, але жыхары Прагі, баючыся такога руху, адхілілі іх прапанову. Гарады ня мелі патрэбы ў саюзьніках. Сярод шляхты ў іх былі прыхільнікі, бо грабествы і гвалты перавысілі ўсялякую меру. На зьезьдзе шляхты ў Вельгарціцы, дзе абгаварвалі пытаньне аб барацьбе з гарадамі, ня прышлі ні да якае згоды.

Апроч гэтага непакою, ад 1520 году засталося ў памяці і другое ліха. У красавіку, пасьля вялікадня, пачаўся ў Празе мор на людзей, які спыніўся толькі ў лістападзе. З Прагі пошасьць пашырылася па ўсёй краіне, а асабліва ў заходніх частах. Хвароба касіла пераважна маладых людзей, але калі занядужваў хто з сям'і, то ўся сям'я вымірала. У Празе на пачатак жніўня пошасьць так павялічылася, што кожны дзень хавалі да 150 чалавек. Агулам за ўвесь час памёрла, „шмат тысяч" народу.

Відавочна непакой і мор 1520 году прымусілі Францішка Скарыну пакінуць Прагу, куды, апроч духу вольнадумства, прыцягвала Скарыну чэскае пісьменства ў галіне яго прац і высокае разьвіцьцё ў Чэхіі друкарскае справы.

Хаця-ж у галіне соцыяльна-палітычнага будаўніцтва і рэлігійнага быцьця гусыцкая эпоха ня прынесла чаканых вынікаў, але яна ўзмацавала ў краіне славянскую стыхію і ў значнай меры спрыяла разьвіцьцю мовы карэннага насельніцтва краіны, і ў гэтым была яе бясспрэчная гістарычная заслуга [1]).

---

[1]) Сабіна. Летапіс чэска-славянскае літаратуры. Прага. 1865 (на чэскай мове), стар. 331, 586—587.

Чэская мова даўгі час не прызнавалася ў краіне, дзе жылі чэхі. Увядзеньне хрысьціянства заходняга лацінскага абраду азначала панаваньне лацінскае мовы ў царкве і ў пісьменстве. Законы і пастановы ўлады ў Чэхіі, як і ўсюды на захадзе, пісаліся на лацінскай мове. Княжзёўская і потым каралеўская канцэлярыя не прызнавалі іншае мовы. Калі ў граматах траплялася славянскае слова, то да яго звычайна дадавалі ўвагу, што гэтае слова—з „простае“ мовы (vulgariter, lingua vulgari dicitur). Паступова, аднак, народная стыхія пачала пракладаць шляхі для апрацоўкі літаратурнае мовы. Ужо ў XII сталецьці чытачы лацінскіх рукапісаў пачалі рабіць спробу перакладу паасобных слоў і выразаў на народную мову. Зьявіліся так званыя глёсы, першыя спробы стварэньня літаратурнае мовы. Трэ' было стварыць новыя словы або надаваць старым іншае значэньне, больш шырокае. Гэта была цяжкая і мала ўдзячная праца, але без яе немагчыма было абыйсьціся.

Кароль IV ацаніў практычнае значэньне народнае мовы і, з свайго боку, хацеў дапамагчы яе разьвіцьцю, хаця-ж сам пісаў свае творы на лацінскай мове. Ён хацеў правесьці ў жыцьцё палажэньне, каб ніхто не атрымліваў дзяржаўнае пасады, калі „ня здольны разумець і ўладаць гутаркай ці агульна-пашыранай чэскай мовай, якую мы завем славянскай“ [1]). У выдадзенай ім у 1356 годзе Залатой Буле ён паставіў вымаганьне, каб наступнікі курфірстых, інакш кажучы, сыны і наступнікі караля Чэскага, пфальцграфа Рэйнскага, гэрцога Саксонскага і маркграфа Брандэнбурскага, якія „зразумела, ведаюць прыродную сваю нямецкую мову, навучаліся з маленства (пачынаючы з сёмага году жыцьця) граматычна італьлянскай і славянскай мовам“ дзеля таго, што „гэтыя мовы маюць шырокае ўжываньне і патрэбны ў імпэрыі, і пры іх дапамозе разьвязваюцца найбольш цяжкія пытаньні імпэрскага жыцьця“. Дзеля дасягненьня гэтае мэты раяць будучых князёў „накіроўваць у такія мясцовасьці, дзе яны будуць мець магчымасьць практычна вывучаць памянёныя мовы, ці трымаць у хаце спрактыкаваных пэдагогаў і равесьнікаў, якія ведаюць гэтыя мовы, каб шляхам размоў і вывучэньня можна было дасягнуць грунтоўнага веданьня моў“ [2]). Гэтыя пастановы Караля IV даводзілі, што славянска-чэская мова зрабілася ўплывовым фактарам жыцьця, але памянёныя пастановы бадай што ня спрыялі посьпехам гэтае мовы. І ў часы Караля заўважаўся націск нямецкасьці на славянскую культуру ў Чэхіі. Што-ж датычыць навучаньня славянскай мове наступнікаў нямецкіх курфірстых, то, як відаць па ўсім, гэта засталося толькі добрым пажаданьнем.

Можна было чакаць, што, у параўнаньні з гэтымі законадаўчымі проектамі, больш значны ўплыў на разьвіцьцё чэскае мовы зробіць заснаваньне ў 1347 годзе Эмаўскага кляштару бэнэдыктынаў у Празе. Выкліканыя з Далматыі, Хорватыі і Босьніі манахі-каталікі прынесьлі сваё глаголіцкае пісьменства і, з дазволу папы Кліманта VI,

---

[1]) Majestas Carolina, XIX: nullus officialis—qui nesciat intelligere et proferre idioma seu linguam Boemicam generalem, quem scilicet, Sclavonicam dicimus.

[2]) „Залатая Буля“, стар. 31: „... electorum filii vel heredes et successores, cum verisimiliter Theutonicum idioma sibi naturaliter inditum scire presumantur et ab infancia didicisse, incipiendo a septimo etatis sue anno, in gramatica Italica et Sclavica lingwis instruantur,—cum illud non solum utile, imo ex causis premissis summe necessarium habeatur, eo quod ille lingwe ut plurimum ad usum et necessitatem sacri imperii frequentari sint solite et in hiis plus ardua ipsius imperii negocia ventilentur .. filios—ad loca dirigant, in quibus de huiusmodi possint lingwagiis edoceri vel in propriis domibus pedagogos instructores et pueros consocios in hiis peritos eis adiungant, quorum conversacione pariter et doctrina in lingwis ipsis valeant erudiri“.



„Парахавая брама" ў Празе Чэскай. 1475 г.

адпраўлялі ўсе набажэнствы на стара-славянскай мове. На жаль, чэскія пісьменьнікі і вучоныя таго часу не разумелі патрэбы скарыстаць багацьце паўднёва-славянскага і агулам славянскага пісьменства, а выкліканыя ў Чэхію манахі бадай што ня былі на вышыні свае культурнае місіі. Прасякнутыя славянскай самасьвядомасьцю, таборыты зруйнавалі Эмаўскі кляштар таксама, як яны зруйнавалі і іншыя кляштары лацінскага абраду.

Узросшая ў цяжкой школе перакладаў чэская мова паступова заўладала ў XIV сталецьці ўсімі галінамі пісьменства, бяручы творчыя сілы з нетраў народнае самасьвядомасьці.

У часы Кароля IV каралеўская канцэлярыя ня выдала ніводнае граматы на чэскай мове, але ўжо ў яго цараваньне зьяўляюцца прыватныя граматы, пісаныя пачэску. Да 1390 году гэткіх грамат можна налічыць больш за 20. Самая ранейшая чэская грамата адносіцца да 1370 году, другая — да 1373 і трэцяя — да 1378 году. Варта ўвагі, што грамату 1373 году выдаў Тамаш Шчітны [1]). Матар'яльных ці тэхнічных перашкод да выданьня чэскіх грамат не павінна было быць, дзеля таго, што ў другой чвэрці XIV сталецьця (1320—1330) была напісана „Кніга старога пана з Розэнбэргу", чэскі законьнік, які склаў Пётра Розэнбэрг, вышэйшы каморнік чэскага каралеўства [2]). У галіне філёзофска-літаратурнае прозы творы Тамаша Шчітнага былі найлепшымі ўзорамі чэскае літаратурнае мовы. Шчітны, чалавек з вышэйшай адукацыяй, малодшы сучасьнік Кароля IV, прынцыпова пісаў пачэску, хаця-ж вельмі добра ведаў лацінскую мову. „Сьвяты Павал,—кажа Шчітны,—пісаў яўрэям паяўрэйску, элінам—пагрэцку, кожнаму—на зразумелай для яго мове. Чаму-ж я ухілюся пісаць пачэску земляком чэхам? Буду пісаць пачэску дзеля таго, што я—чэх, а госпад бог любіць чэхаў таксама, як і лаціньян!" [3]) Так званая Даліміла ва Кроніка і песьня на сьмерць пана Вілема Зайца з Вальдэку, ня кажучы аб шматлікіх легендах, зьяўляюцца чароўнымі ўзорамі старое поэтычнае чэскае мовы. Тут можна ўспомніць таксама лірычную „Завішаву песьню", поўную вялікае чуласьці, сатыру на сучасныя грамадзкія адносіны, нейкага невядомага аўтара, пад назовам „Канюх і бурсак".

Пры тэй вышыні апрацоўкі, якой дасягла чэская мова ўжо ў XVI сталецьці, магчыма было распачаць выпраўленьне зробленых раней перакладаў паасобных частак біблії, а таксама зрабіць захады да згрупаваньня іх у вадно цэлае. Такія першыя зборы зьяўляюцца у часы Вацлава IV, сына і наступніка Кароля IV. У літаратуры была выказана думка, што Ян Гус прымаў удзел у выпраўленьні Шафгаўскае біблії і Літомэрыцкага кодэксу, але думка гэтая ня мае пад сабой пэўнае падставы.

Да самых першых збораў, ці збораў першае рэдакцыі, якія грунтаваліся на перакладах часоў Кароля IV, адносяцца, з ліку тых, што захаваліся, наступныя: 1) Лескавецкая біблія, самая старадаўная, якая завецца Дрэздэнскай з-за месца перахаваньня (прыблізна каля 1410); 2) Літомэрыцкая-Славатаўская, у тэксьце якой заўважаюцца сьляды працы Гуса (1411—1416); 3) Глаголіцкая, якая інакш завецца, з-за месца пахаджэньня, Эмаўскай (1416); 4) Олёмюцкая (1417) і 5) каралевы

---

[1]) Фляйшганс. Чэскае пісьменства. Прага, 1901 (на чэскай мове), стар. 122.

[2]) Ірычэк. Codex iuris bohemici, т. II, 2, стар. 68-69.

[3]) Сабіна, op. cit, стар. 344.

Крыстыны (швэдзкай), ці Рымская (Ватыканская), з-за месца перахаваньня. Да гэтае-ж рэдакцыі адносіцца і стара-польская біблія, перакладзеная з чэскае мовы, у якой больш самастойным зьяўляецца тэкст перакладу псалтыру [1]). Пазьнейшых збораў бібліі, якія зьявіліся на працягу XV сталецьця, налічваецца значны лік [2]).

Вялікі лік збораў бібліі, якія зьявіліся ў XIV—XV сталецьцях, сьведчыў аб нязвычайна вялізарным попыце на іх і аб жывой цікавасьці да рэлігійных пытаньняў. Вынаходак друкаваньня кніг ішоў на спатканьне гэтаму попыту і спрыяў вялікаму пашырэньню веданьня бібліі ў шырокіх народных колах [3]).

Што ў Чэхіі досыць рана павінна было распачацца друкаваньне кніг, можна бачыць з таго, што сярод першых друкароў, якія працавалі на Захадзе, сустракаюцца чэхі і родам з Чэха-Моравіі: Валенты Фэрдынанд, з Моравіі, першы друкар у Лісабоне; чэх Арнольд Паннар, які друкаваў у Рыме творы Цыцэрона ў 1467 годзе; жыхар Прагі Пракоп Вальдфогель, які рэзаў у 1444 годзе літары з зялеза і цыны ў Авіньёне; мараванін Мацей з Олёмуцу, які друкаваў у Нэаполі [4]). Першапачатковае разьвіцьцё друкарскае справы звычайна зьвязваецца з дзейнасьцю Гутэнбэрга, Фаўста і Шэфэра ў Майнцы (каля 1450). Спачатку майнцкія друкары затойвалі свой вынаходак, але ў 1462 годзе, з прычыны непакою ў горадзе, яны разышліся па розных мясцох, і вынаходак пачаў пашырацца па Эўропе: друкары з прэсамі і шрыфтамі хадзілі туды, куды іх клікалі на працу. Гэтак у Парыжы зьявілася першая друкарня ў 1470 годзе, а першая кніга была надрукавана ў 1476 годзе. Пачатак друкаваньня кніг у Галяндыі адносяць да 1473 году, у Ангельшчыне да 1471—1474 гадоў, у Гішпаніі да 1474, у Італіі да 1464 году. З іншых нямецкіх гарадоў, апроч Майнцу, друкарні зьяўляюцца перш у Аўгсбурзе (1468) і Нюрэнбэрзе (1470) пазьней—у Вене (1492). Што датычыць Чэхіі, то першая друкарня зьявілася ў Пільзьне (каля 1468). Першым пільзенскім друкаром, чыё імя нам вядома, быў бакаляўра Мікола [5]). Першая чэская інкунабуля з датай: „Statuta provincialia Ernesti", была надрукавана ў Пільзьне ў 1476 годзе, а з ліку недатаваных: „Guido de Columna, Historia destructionis Trojae", у перакладзе на чэскую мову, была надрукавана там-жа неўзабаве пасьля 1468 году [6]). Пазьней пачалі друкаваць у Празе. Першай праскай інкунабуляй былі соймавыя пастановы 1478 году. У 1487 годзе быў надрукаваны псалтыр, а потым байкі Эзопа. У 1488 годзе надрукавалі біблію. У Кутнай Гары ў 1489 годзе заснаваў друкарню Марцін з Цішнова. Чэскія браты друкавалі перш у Нюрэнбэрзе, а потым, у пачатку XVI сталецьця, заснавалі свае друкарні ў межах Чэхіі, даўшы ім біблійныя імёны. Гэтак узьніклі друкарні ў Літомышлі („на гары Аліўскай"), у Новым-Баляславе („на гары Кармельскай") і ў Беле [7]). У Мо-

---

[1]) Фляйшганс, op. cit., стар. 108, 172, 194-195.

[2]) Фляйшганс, op. cit., стар. 253; Сабіна, op. cit., стар. 746.

[3]) Гл. раней увагу 1 на стар. 42.

[4]) Сабіна, op. cit., стар. 695-696; Вінтэр. Гісторыя рамёстваў і гандлю ў Чэхіі ў XIV і XV сталецьцях. Прага, 1906 (на чэскай мове), стар. 520. У XVI—XVII сталецьцях было пашырана пераканаьне, што вынаходнік друку Гутэнбэрг паходзіў з Кутнай Гары (patria Huttenbergensis), а ў пачатку гусыцкіх войн, каля 1421 году, ён пераехаў у Нямеччыну, дзе ў Стразбурзе і атрымаў прозьвішча паводле месца свайго пахаджэньня: Strassburgi se Huttenbergium compellavit. Гл. Сабіна, op. cit, стар. 695.

[5]) Вінтэр, op. cit., стар. 521-522.

[6]) Isid. Zahradnik Ueber neuere Bibliographie der Inkunabeln, besonders der böhmischen, стар. 18. (Sitzungsberichte d. k. böhm. gesellschaft d. Wissenschaften, Iahrg. 1908, №VII).

[7]) Вінтэр, op, cit., стар. 523, 525-526.

равіі першымі друкарнямі былі Брнская [1]), Олёмюцкая і Простэйоўская [Mons liliorum] [2]).

Маючы на ўвазе, што Кроніка Траянская ня ўступае, з боку дасканаласьці працы, лепшым выданьням Майнцкім і іншым нямецкім таго часу, нельга лічыць гэтую інкунабулю першай спробай чэскага друкаваньня. Дзіўна было-б, каб упяршыню выступілі з друкаваньнем вялізарнае кнігі (390 старонак) і прытым сьвецкага зьместу ў час, калі ўсе сілы і ўвага грамадзянства былі накіраваны ў бок рэлігійных і царкоўных пытаньняў. Звычайна пачынаюць з малога і пераходзяць да вялікага, а таксама ўлічваюць попыт і настрой часу. Вельмі праўдападобна, што першымі друкаванымі творамі былі соймавыя пастановы, песьні, граматы, пасланьні і казаньні, зьнішчаныя ў часы перасьледваньня гусызму і протэстанцтва. Голяндзкія і нямецкія інкунабулі бяз даты звычайна лічацца больш старымі чымся інкунабулі з датай. Як шмат загінула чэскіх інкунабуль у пару шалёнае рэакцыі, якая разгулялася пасьля Белагорскае бітвы 1620 году, можна бачыць з Index librorum prohibitorum bohemicorum, у які трапіў нават чэскі пераклад гісторыі Чэхіі Энэя Сыльвія, потым папы Пія II, а таксама і з таго, што тыя інкунабулі, якія захаваліся, дашлі ў малым ліку паасобнікаў і ў абрыўках. Гэтак, напрыклад, новы закон, надрукаваны ў Пільзьне, захаваўся ў адным і няпоўным паасобніку, „Statuta provincialia Ernesti, „Agenda secundum chorum Olomucensium"—у двох паасобніках, трактат Вацлава Каранды: „De sacramento divino sanctissimo", надрукаваны ў Празе (1493),—у адным паасобніку [3]).

Як слаба стаіць справа вывучэньня чэскіх інкунабуль, можна вывесьці з таго, што доктар Антон Шубарт, былы бібліотэкар Унівэрсытэцкае Праскае бібліотэкі і аўтар слабое, а разам з тым і павярхоўнае кнігі „Die Wiegedrucke der k. k. Studienbibliothek zu Olomütz vor 1501" (Olomüz", 1901), а таксама ў радзе артыкулаў, надрукаваных у лейпцыскім часопісе (Leipzig. Centralblatt, Jahrgang XVI, 1899), пад назовам: „Die sicher nachweisbaren Jnkunabeln Böhmens und Mährens vor 1501", вызначае агульны лік чэскіх інкунабуль (лацінскіх і чэскіх) лікам 37, падзяляючы іх на датаваныя і недатаваныя, а паіменна: першых 25 і другіх 12. Аднак, Ізыдар Заграднік выпраўляе і дадае падлікі Шубарта. Перш за ўсе, доктар Шубарт не заўважыў 12 чэскіх інкунабуль і сярод іх вышэйпамянёныя протоколы Сойму 1478 году („Артыкулы Сойму паноў утраквістых, 1478 году ў Празе"). Затым, доктар Шубарт паказвае памылкова два лішніх нумары, прымаючы паасобнікі аднаго і таго самага выданьня за розныя выданьні. Такім чынам, паводле падліку Ізыдара Заградніка, чэскіх інкунабуль, што адносяцца да пачатку XVI сталецьця, было 48. У ліку гэтых інкунабуль былі наступныя выданьні біблійных тэкстаў, як яны паказаны ў артыкуле Ізыдара Заградніка: 1) Psalterium Bohemicum. Prag, 1487; 2) Biblia Bohemica. Prag, 1487; 3) Biblia Bohemica, Kuttenberg, 1489; 4) Testamentum Novum Bohemicum. Prag, 1497—1498; 5) Psalterium secundum ritum ac consuetudinem chori ecclesiae Olomucensis. Brühn, 1499; 6) Testamentum Novum Bohemicum. Circa 1475; 7) Testamentum Novum Bohemicum Strahoviense,

---

[1]) Слова „Брнская" захавана ў чэскай транскрыпцыі. На нямецкай мове пішуць: „Brühn".

[2]) Сабіна, op. cit., стар. 696, 748.

[3]) Сабіна, op. cit., стар. 696-697; Winter. op. cit., стар. 522. Фляйшганс (стар. 239) лічыць, што ўжо ў 1459 годзе былі надрукаваны лісты Гуса. Гэта адсоўвае пачатак чэскага друкаваньня раней на цэлае дзесяцілецьце.

Prag, Pilsen oder Nürnberg, 1475—1479[1]). Памылка Шубарта зусім незразумела і непрабачна. Займаючыся чэскімі інкунабулямі, ён не заглянуў нават у „Бібліографію чеських інкунабуль“ Ганкі, якая была надрукавана ў „Часопісе Чэскага Музэю“ (год XXVI, кн. 3 і 4), а пасьля, у 1853 годзе, вышла паасобным адбіткам. Амаль усе незаўважаныя Шубартам і адзначаныя Заградьнікам інкунабулі паказаў Ганка. Усіх чэскіх інкунабуль за час ад 1468 да 1526 году Ганка налічвае 179[2]), а паіменна: пільзенскіх—27, праскіх—77 (№ 28—№104), літомышльскіх—23 (№ 129—№ 151), баляслаўльскіх—24 (№ 105—№ 128), бельскіх—8 (№ 152—№ 159), кутнагорскіх—1 (№ 171), і рэшта (нюрэнбэрскіх, вэнэцыйскіх, венскіх, вітэнбэргскіх і інш.)—19. Вінтэр лічыць, што ўсіх інкунабуль, якія вышлі да 1626 году і захаваліся,—каля 180; з іх: праскіх 75, літомышльскіх 24, баляслаўскіх 25 і бельскіх 8[3]).

Улічваючы ўсялякія недакладнасьці, няяснасьці і аблічкі, усё-ж-ткі, можна сказаць, што на першую чвэрць XVI сталецьця прыпадае амаль што ў тры разы больш інкунабуль, чымся на час да 1501 году. Гэта даводзіць, што друкаваньне шырака распаўсюдзілася ў Чэхіі, здавольваючы попыт на кнігу і спрыяючы праніканьню адукаванасьці ў нетры шырокіх народных гушчаў.

Першыя друкаваныя кнігі ў Чэхіі, як і ўсюды, з боку выгляду не адрозьніваліся ад рукапісных. У прадмове да Праскага псалтыру 1487 году знашлі патрэбным адзначыць, што выданьне вышла з-пад друкарскага прэсу: „Гэтыя кнігі ня пісаны пяром і ня зроблены, як звычайна, перапісчыкам, але створаны і надрукаваны адлітымі з цьвёрдага мэталю літарамі, па вельмі дасьціпным замысьле[4])“. Кнігі друкаваліся ў сотнях, а часамі і ў тысячах паасобнікаў, што спрыяла зьмяншэньню на іх кошту ды большаму пашырэньню. Так, напрыклад, на складзе друкара Ічынскага, які друкаваў звычайна невялікія творы, знашлі, як ён памёр, па 400—500 паасобнікаў аднаго твору[5]). На складах Нятоліцкага, які надрукаваў паводле казённага заказу 3.000 паасобнікаў чэскіх і нямецкіх „Актаў“, у 1553 годзе заставалася 1.800 паасобнікаў; кніжкі гнілі, бо продаж іх ішла дрэнна[6]). Друкар Окс у 1559 г. надрукаваў каляндар у ліку 4.000 паасобнікаў[7]). Такі лік паасобнікаў павінен быў зрабіць кніжку больш таннай, у параўнаньні з рукапісам, у некалькі сот разоў. Запраўды, у XIV сталецьці перапіска аднаго вялікага рукапісу каштавала некалькі соцень коп. Пан Рабштэйн за перапіску біблії, у якой налічвалася 200 вялікіх аркушоў, заплаціў 150 коп ці 750 злотых, а ў Слане за перапіску кнігі да набажэнства (graduale) заплацілі 450 злотых[8]). Зьніжэньню кошту кніжок спрыяла і тое, што ня трэ' было вялікага капіталу, каб заснаваць друкарню, бо, як відаць з вестак нават сярэдзіны XVI сталецьця, друкарні былі невялікія. Напрыклад, у 1547 годзе, паводле загаду караля,

[1]) Isid Zahradník, op. cit., стар 17-20.

[2]) У ліку іх пад № 177 значыцца і біблія Скарыны. Зьнімак з тытульнае старонкі гэтае біблії зьмешчаны далей. Гл. артыкул Міколы Шчакаціхіна: „Гравюры і аздобы ў выданьнях Фр. Скарыны“. Ведаючы аб існаваньні 5 паасобнікаў біблії, Ганка дае на стар. 65 цікавае апісаньне. На яго думку, 22 кнігі старога закону Скарына пераклаў з вульгаты і надрукаваў у Празе ў 1517—1519 гадох на сродкі віленскага бурмістра Багдана Онкава, у 7 выпусках.

[3]) Вінтэр, op. cit., стар. 526, п. 5; 524, 525, 526.

[4]) Сабіна, op. cit., стар. 748.

[5]) Вінтэр, Рамясло і промысел XVI сталецьця ў Чэхіі (на чэскай мове), стар. 278.

[6]) Вінтэр, op. cit., стар. 265.

[7]) Вінтэр, op. cit., стар. 263.

[8]) Сабіна, op. cit., стар. 316.

праскую прыдворную друкарню паклалі на адзін воз і адвезьлі ў Літомерыцу[1]). У вадпаведнасьці з гэтым кошт друкарні быў невялікі: у 1563 годзе друкар Нятоліцкі прадаў Яну Казлу за 200 мішанскіх коп друкарню з усімі прыладамі, матрыцамі, прэсам і шрыфтамі, апроч лацінскіх[2]), а друкарня Вацлава Гада „ацэньвалася ў некалькі сот коп“[3]). Аб кошце друку і характары ўмоў, якія ўкладалі друкары з аўтарамі дае некаторае ўяўленьне судовая справа, што ўзьнікла з прычыны скаргі Марціна Кутана на друкара Паўлу Сэвэрына, які надрукаваў у 1539 годзе Кутанаву „Кроніку аб заснаваньні чэскае зямлі“. Поводле слоў Кутана, ён, хочачы выдаць кроніку, зрабіў вялікі выдатак на заказ клішэ і, будучы зусім упэўненым у Сэвэрыне, а таксама пакладаючыся на яго добрыя абяцаньні, аддаў сваю кроніку ў друк, але, калі кніжка была надрукавана, Сэвэрын адмовіўся выдаць палову паасобнікаў, як было абумоўлена, а вымагаў выплаты 20 коп чэскіх грошай за працу і 16 коп за паперу. На судзе Сэвэрын, вінавацячы Кутана ў тым, што той няправільна асьвятліў справу, заявіў, што ніякае паміж іх умовы ня было; Кутан мусіў згадзіцца, што запраўды ня было ўмовы, але стаяў на тым, што ён даў свой рукапіс у друк Сэвэрыну, як рамесьніку, і за працу згодзен заплаціць, але на 16 коп менш. Не згаджаючыся з гэтым, Сэвэрын заявіў, што ён сам навёў Кутана на думку ўзяцца за ўкладаньне кронікі, і што Кутан, паводле яго ўласных слоў, скончыў усю працу за 4 тыдні, а дзеля таго выдача яму паловы паасобнікаў будзе вялікай узнагародай. Суд пастанавіў, каб ня было нікому стратна, дык хай Сэвэрын атрымае ад Кутана суму, якую той паказаў, і выдасьць Кутану палову паасобнікаў надрукаванае кронікі[4]).

Чэскія друкары не ўваходзілі ні ў які цэх і лічыліся „майстрамі вольнае імпрэсарскае справы“, а таму гэтым рамяством займаўся кожны, хто меў магчымасьць і хацеў[5]). За гэтую справу часта браліся вучоныя людзі. Гэтак, напрыклад у Пільзьне працаваў, выдаючы кніжкі да 1513 году, бакаляўра Мікола [Мікулаш][6]), у Кутнай Гары надрукаваў біблію ў 1489 годзе бакаляўра вольных навук Марцін з Цішнова[7]), а брацкую друкарню ў Млада-Баляслаўлі заснаваў магістар Мікола Кляўдыян [†1526][8]). У Празе была надрукавана чэская біблія 1488 году працаю Яна Пытліка і Сэвэрына Крамара, праскіх ратманаў (дарадцаў), і ў тым самым годзе—Янам ад Чапаў і Мацеем ад Белага Льва[9]). Потым гэтая друкарня перашла ў спадчыну да сына Сэвэрына Крамара, Паўлы Сэвэрына, які друкаваў кніжкі з 1520 году. Другую праскую друкарню заснавалі ў 1507 годзе Мікола Канач і Ян Вольф Шмаргоўскі (Jan Moravus), але потым яны разышліся. Апроч таго, на Малой

---

[1]) Вінтэр, op. cit., стар. 253.

[2]) Вінтэр, op. cit., стар. 266.

[3]) Вінтэр, op. cit., стар. 261.

[4]) Вінтэр, op. cit., стар. 253-254.

[5]) Вінтэр, op. cit., стар. 252.

[6]) Вінтэр. Гісторыя рамёстваў і гандлю ў Чэхіі ў XIV і XV сталецьцях. Прага, 1906 (на чэскай мове), стар. 522.

[7]) Сабіна, op. cit., стар. 697.

[8]) Вінтэр, op. cit., стар. 526.

[9]) Шубарт зусім бязгрунтоўна лічыў Яна ад Чапаў і Мацея ад Белага Льва немцамі ў сваім занадта ўжо вядомым творы Wiegedrucke. Гл. падрабязнае абвяржэньне ў артыкуле Заградніка (Isid. Zahradnik, op. cit., стар. 23—26). З 83 друкароў, пра якіх ёсьць паказаньні, з часаў 1526-1620 гадоў, чэхаў было 58, немцаў—21, а нацыянальнасьць чатырох застаецца невядомай. Гл. Вінтэр. „Рамясло і промысел XVI сталецьця ў Чэхіі (на чэскай мове), стар. 262.

Старане была друкарня нейкага Яна, а ў 1521 годзе яўрэі мелі свайго друкара Майера[1]). Урэшце, да 1534 году меў свой прэс на Малой Старане Павал Алівецкі, былы друкар з Літомышлю, а ў 1526 годзе ўспамінаецца яшчэ друкар Сымфорыян[2]).

Такім чынам, на падставе гэных вестак, можна прыйсьці да вываду, што ў той час, калі ў Празе працаваў Францішак Скарына, чэская друкарская справа знаходзілася ў поўным разьвіцьці. Профэсар Уладзімераў разважае інакш. Адзначаючы дзейнасьць праскіх друкароў—Яна Шмаргоўскага і Конача, ён падкрэсьлівае, што ў 1517 годзе ў Празе вышла ўсяго „два выданьні, абодвы—соймавыя пастановы", у 1518 годзе ня вышла ніводнага выданьня, а ў 1519 годзе толькі адно выданьне—з друкарні Яна Шмаргоўскага[3]). Запраўды, у 1517 годзе выдалі Сьвятавацлаўскую згоду два разы[4]). Аднак, трэ' было прыняць пад увагу, што паводле ліку захаваўшыхся інкунабуль не выпадае рабіць заключэньні, калі ведама, што ў час рэакцыі, якая настала пасьля Белагорскае бітвы, былі зьнішчаны ў вялізным ліку чэскія кніжкі. Далей, можна было прыняць пад увагу, што з ліку тых інкунабуль, якія захаваліся ў Млада-Баляслаўлі было надрукавана ў 1518 годзе пяць выданьняў[5]), у тым самым месцы ў 1519 годзе—адно выданьне[6]) і ў Беле ў 1519 годзе—два выданьні[7]). Урэшце, можа быць пастаўлена пытаньне, што рабілі іншыя праскія друкары, апроч тых двох, аб якіх успамінае профэсар Уладзімераў.

Пакідаючы, з прычыны адсутнасьці якіх-небудзь вестак, адчыненым пытаньне аб тым, ці друкаваў сваю біблію Францішак Скарына ў аднэй з існаваўшых праскіх друкарань, ці дзеля гэтае мэты заснаваў сваю ўласную друкарню,—бо ня выключана і такое прыпушчэньне, паколькі ёсьць ведама, што абсталяваньне друкарні не патрабавала вялікіх выдаткаў,—нельга абмінуць моўчкі вельмі важнае пытаньне: як скарыстаў Скарына чэскія друкаваныя біблії і шматлікія рукапісныя зборы біблії.

На час пераезду Скарыны ў Чэхію на сталае жыцьцё, былі надрукаваны тры чэскія біблії: Праская (1488), Кутнагорская (1489) і Вэнэцыйская (1506).

У прадмове да Псалтыру праскія выдаўцы адзначылі, што яны карысталіся лацінскім перакладам з яўрэйскае мовы Гароніма Шчасьлівага, а ў канцы надрукаванага тэксту „Аб'явы Іоанна Богаслова" далучылі ўвагу, што іх праца выканана „ў слаўным Праскім Старым Месьце", „да чэсьці і хвалы божае, на дабро і ўслаўленьне кароны слаўнае зямлі чэскае і на карысьць верных чэхаў і мараван", што перакладаючы яны карысталі з дапамогі „вучоных людзей, праскіх магістраў і іншых спакушаных у веданьні закона божага". Кутнагорская біблія, надрукаваная ў 1489 годзе Марцінам з Цішнова, аздобленая ксылёграфічнымі малюнкамі, таксама, як відаць, грунтавалася на перакладзе Гароніма, бо сьпераду тэксту біблії зьмешчана была яго прадмова. Вэнэцыйская біблія 1506 году была надрукавана ў друкарні Пётры Ліхтэнштэй-

---

[1]) Вінтэр. Гісторыя рамёстваў і гандлю ў Чэхіі ў XIV і XV сталецьцях. Прага. 1906 (на чэскай мове), стар. 524-525.

[2]) Вінтэр. Рамясло і промысел XVI сталецьця ў Чэхіі (на чэскай мове) стар. 255.

[3]) П. В. Уладзімераў, op. cit.. стар. 57-58.

[4]) Ганка, № 77, 78.

[5]) Ibid., № 109—113.

[6]) Ibid., № 114.

[7]) Ibid., № 152-153.

на, родам з Кельну на Рэйне, на сродкі жыхароў Старога Места Праскага: Яна Глаўса, Вацлава Совы і Бурыяна Лазара. „Спраўшчыкамі ці корэктарамі" ў часе друкаваньня былі Ян Інджыскі з Жатца і Тамаш Молек з Кралева Градца на Лабе[1]). Вэнэцыйская біблія надрукавана на 570 аркушох, у дзьве шпальты, па 53 радкі ў кожнай, і аздоблена 109 зьнімкамі: 103 вялікіх і 6 малых[2]).

Праскае і Кутнагорскае выданьні бібліі, якія вельмі рэдка трапляліся ўжо ў XVI сталецьці, ня лічыліся здавальняючымі. У прадмове да Млада-Баляслаўскага выданьня новага закону 1518 году Мікола Кляўдыян лічыў патрэбным адзначыць, што тэкст, які ён надрукаваў, нанова перааапрацаваны з прычыны дрэнных чэскіх перакладаў царкоўнага пісьма, а ў тым ліку—перакладаў пасланьняў апостала Паўлы ў праскім і кутнагорскім выданьнях, у якіх уведзены словы і выразы, ня ўзгодненыя ні з лацінскім тэкстам, ні з старымі рукапіснымі перакладамі. „Запраўды, адзін начытаны ў сьвятым пісьме доктар, зьдзівіўшыся гэткаму вялікаму самавольству ў праскім і кутнагорскім выданьнях, ня мог сьцяміць, адкуль зьявілася падобная адважнасьць, і хто так шкодна папсаваў тэкст, што ў некаторых месцах, замест слоў божых, знаходзяцца чалавечыя і замест асноў веры і сэнсу сьвятога духу пастаўлены чалавечы скажаны сэнс, нібы дзеля таго, каб людзі, чытаючы гэты пераклад, які некаторым здаецца найбольш зразумелым, лічылі яго божым, хаця ў ім вера і праўда былі блудадзейна скажаны" [3]). Зьвязаны, як відаць, піэтэтам да свайго бацькі, Павал Сэвэрын у сваім выданьні бібліі 1529 году, устрымліваючыся ад занадта рэзкага прысуду, які зрабіў Кляўдыян, усё-ж-ткі трымаецца адмоўнага пагляду на выданьне чэскае бібліі 1488 году: „На некаторых мясцох адно не заўважана, а другое не перакладзена"[4]).

Бязумоўна, Францішак Скарына ведаў адмоўныя адносіны сучасьнікаў да выданьняў Праскае і Кутнагорскае біблій, і нельга прыпусьціць, каб ён ня ведаў рэзкага, адмоўнага погляду Кляўдыяна. Значыцца, спаміж друкаваных выданьняў для яго служыла як дапамога толькі Вэнэцыйскае выданьне 1506 году.

Пытаньне аб дапамогах, якімі карыстаўся Францішак Скарына, не атрымала яснага формуляваньня ў працы профэсара Уладзімерава і мала пасунута наперад у параўнаньні з тым, што і раней выказвалася ў расійскай літаратуры.

У вартыкуле „Адносіны перакладу Скарыны да вульгаты" [5]), былі параўнаны 10 разьдзелаў кнігі Быція ў перакладзе Скарыны з лацінскім перакладам вульгаты і ўстаноўлены гэткія палажэньні: пераклад Скарыны зроблены з вульгаты не заўсёды верна і дакладна, Скарына ўносіў словы і цэлыя месцы з славянскага перакладу; ён меў на ўвазе ня новы пераклад, а выпраўленьне ранейшага застарэлага; ён працаваў вельмі сьпяшаючыся [6]). Первольф [7]), кажучы аб уплыве чэскае

---

[1]) Сабіна, op. cit., стар. 746-747.

[2]) Ганка, стар. 62-63—Проф. Уладзімераў зазначае: „Вэнэцыйскае выданьне прыпісваюць утраквістым" (op. cit., стар. 61). Гэтае зазначэньне нічога не дае, бо ў пачатку XVI сталецьця амаль усе чэхі былі утраквістымі. З такім самым правам можна сказаць, што Праскую і Кутнагорскую біблії таксама выдалі ўтраквістыя. Паходзіць на праўду, што Вэнэцыйскае выданьне было справай чэскіх братоў, якія да заснаваньня сваіх друкарань у Чэхіі друкавалі заграніцай.

[3]) Сабіна, op. cit., стар. 747-748.

[4]) Сабіна, op. cit., стар. 905.

[5]) „Чтения в обществе любителей духовного просвещения", лістапад, 1887.

[6]) Гл. рэцэнзію Проф. Сабалеўскага („Журн. Мин. Нар. Просв., 1888, № 10, стар. 322)

[7]) І. Первольф. Славянская взаимность древнейших времен до XVIII века. СПБ, 1874, стар. 251-253.

мовы на расійскую, спыняецца на характарыстыцы перакладу Скарыны. Ён меў магчымасьць карыстацца аднэй толькі кнігай Ісуса сына Сырахава, якая перахоўваецца ў бібліотэцы чэскага музэю. Зрабіўшы параўнаньне перакладу Скарыны з тэкстам біблій: чэскае (1506) і Астроскае (1581), у вынятках з 16, 18, 28, 29, 31, 32 і 43 разьдзелаў, Первольф імкнецца паказаць „як цесна падыходзіць пераклад Скарыны да чэскага, прымаючы нават чыста чэскія словы“. На яго думку Скарына „перакладаў проста з чэскага тэксту вульгаты, паводле вэнэцыйскага выданьня 1506 году“. Сваю думку Первольф падмацоўвае такой увагай: „Загалоўкі ў бібліі Скарыны паказваюць, што ён кіраваўся якраз вэнэцыйскім выданьнем чэскае бібліі; у выданьнях праскім і кутнагорскім іх няма [1]).

Профэсар Уладзімераў рабіў параўнаньне тэксту бібліі Скарыны з лацінскімі тэкстамі перакладу Гароніма Шчасьлівага і вульгаты, а таксама з тэкстам чэскае бібліі 1506 году і іншых чэскіх друкаваных біблій 1488, 1529 і 1459 гадоў, апроч таго,—з вытрымкамі, узятымі з іншых чэскіх перакладаў паводле рукапісаў [2]), і прышоў да такога вываду: „Пераклад біблійных кніг зрабіў Скарына на падставе дзьвюх галоўных крыніц: чэскае бібліі 1506 году і царкоўна-славянскіх тэкстаў некаторых кніг старога закону. Апроч таго, дапамогай для Скарыны служылі комэнтарыі Міколы Лірана“ [3]). Гэты галоўны свой вывад профэсар Уладзімераў дадае яшчэ ўвагай: Бадай што Скарына не карыстаўся рукапіснымі зборнікамі чэскіх біблій“ [4]).

Калі гэтая дадатковая ўвага аб карыстаньні Скарыны рукапіснымі зборамі выказана з некаторай няпэўнасьцю, дык гэта тлумачыцца тым, што профэсар Уладзімераў вывучаў рукапісны матар'ял у невялікай меры. Аднак, можна сумнявацца, каб Скарына, жывучы ў Празе і займаючыся падрыхтоўкай тэксту да друку, пакінуў бяз увагі шматлікавыя рукапісныя зборы бібліі і абмежаваў сябе ў карыстаньні толькі друкаванай чэскай бібліяй 1506 году. Гэта неяк не сумяшчаецца з тым, што Скарына вырашыў абраць месцам свае працы Прагу, а таксама з яго навуковай падрыхтоўкай.

Што ў гэтым выпадку профэсар Уладзімераў памыляўся, гэта можна бачыць з яго полемікі з рэцэнзэнтам на яго кнігу, профэсарам Сабалеўскім.

На думку Сабалеўскага „Скарына пераклаў з чэскае мовы толькі тое, чаго ён ня ведаў у старым славянскім перакладзе, і тое, што лічыў дрэнна перакладзеным ці скажаным“ [5]). Пераходзячы да крыніц Скарыны, профэсар Сабалеўскі робіць закід Уладзімераву, што ён ня высьветліў адносін Скарыны да старога польскага перакладу бібліі, да так званай „бібліі каралевы Сахвеі“, або бібліі „Шарашпатацкай“. Адзначаючы супаданьне тэксту Скарынінскае і Шарашпатацкае біблій, профэсар Сабалеўскі выказваецца так: „Супаданьні магчыма вытлумачыць тым вядомым фактам, што абодвы тэксты (г. ё. польскі і Скары-

---

[1]) І. Первольф, op. cit., стар. 251-253.

[2]) П. В. Уладзімераў, op. cit., стар. 129.—Вельмі магчыма, што з лінгвістычнага пункту гледжаньня параўнаньні Скарынінскага тэксту з тэкстам біблій 1529 і 1549 гадоў і карысны, але дзеля выяўленьня крыніц Скарыны такое параўнаньне нічога ня дасьць. Аб карыстаньні-ж Кутнагорскай бібліяй не ўспамінаецца.

[3]) П. В. Уладзімераў, op. cit., стар. 171.—Аб уплыве на пераклад Скарыны комэнтарыяў Міколы Лірана Уладзімераў кажа на стар. 165.

[4]) П. В. Уладзімераў, op. cit., стар. 133.

[5]) „Журн. Мин. Нар. Просв.“ 1888, № 10, стар. 327.

нінскі) мелі сваёй крыніцай чэскі тэкст, але, магчыма, параўнаньне Скарынінскага тэксту з польскім і чэскім (паводле біблії 1506 году, нам невядомай і пакуль недаступнай) давядзе запазычкі Скарыны з польскае біблії" [1]). У вадказ на гэтыя закіды профэсар Уладзімераў знашоў патрэбным даць наступныя тлумачэньні: „Ня спыняючыся на ўсіх іншых увагах паважанага крытыка, скажу яшчэ аб дарэмным пажаданьні параўнаньня біблії Скарыны з польскай бібліяй Шарашпатацкай ці так званай „Biblia królowej Zofji". Мы гэта зрабілі раней крытыкі і прышлі да вываду, што Шарашпатацкая біблія таксама грунтуецца на чэскім першатворы, як і біблія Скарыны. Значыцца, іх супаданьні тлумачацца агульнай крыніцай, а не ўзаемнымі ўплывамі" [2]).

З гэтай невялікай полемікі з поўнай навочнасьцю выяўляецца, што ёсьць „супаданьні" тэксту біблії Скарыны і Шарашпатацкай. Да гэтага трэба дадаць, што гэтыя „супаданьні" *ні ў якім разе* нельга вытлумачыць уплывам чэскае біблії вэнэцыйскага выданьня 1506 году, бо Шарашпатацкая біблія, перакладзеная з чэскае мовы, зьявілася ў сярэдзіне XV сталецьця. Ня выключана магчымасьць, што Скарына карыстаўся гэтай старапольскай бібліяй, але зьяўляецца больш блізкім да праўды, што Скарына агулам карыстаўся рукапіснымі зборамі чэскае біблії ў першай рэдакцыі [3]), якія былі скарыстаны ў часе ўкладаньня тэксту гэтае самае старапольскае біблії [4]). Зразумела, Скарына ведаў аб выключна моцных чэскіх уплывах на ўсё польскае пісьменства да XVI сталецьця, і гэта адно, магчыма, змусіла яго часова асяліцца ў Чэхіі дзеля падрыхтаваньня і друкаваньня перакладу біблії [5]).

---

[1]) **Ibid.**, стар. 381.

[2]) П. В. Уладзімераў, „Увагі і дадаткі да досьледаў аб доктару Францішку Скарыне" (на рас. мове, стар. 31. Гл. дадатак да яго-ж артыкулу „Начало славянского книгопечатания в XV и XVI веках", (надрукавана ў часопісе: „Чтения в Историч. Обществе Нестора Летописца", кн. 8. Кіеў, 1894). Калі ў гэтым выпадку проф. Уладзімераў мае на ўвазе тую сваю думку, якая надрукавана ў яго дысэртацыі: „Параўнаньне з польскім тэкстам (выд. 1561), гэта цікава ў тым сэнсе, што як польскі тэкст 1561 году, гэтак і тэкст Скарыны аднолькава грунтуюцца на чэскіх крыніцах, на першадрукаваных бібліях, на чале якіх па сваіх асаблівасьцях стаіць выданьне 1506 году" (стар. 302), то гэтую думку цяжка зразумець, бо Шарашпатацкая біблія зьявілася ў сярэдзіне XV сталецьця, г. ё. задоўга да таго часу, калі зьявілася чэская біблія 1506 г. Гл. Kaz. Król i Jan Nitowski. Podręcznik do nauki literatury polskiej, стар. 16. Таксама і Сабалеўскі: „Материалы і исследования в области славянскай филологии и археологии". СПБ., 1910, стар. 197.

[3]) Гл. раней.

[4]) Параўн. Фляйшганс, op. cit., стар. 193, 195.

[5]) Пытаньне аб культурным чэскім ўплыве на Польшчу і Беларусь выходзіць за межы гэтага артыкулу. Дзеля таго, што гэтае пытаньне зьяўляецца вельмі складаным, то, каб азнаёміцца з фактамі гэтага ўплыву—нават за пэрыод да XVI сталецьця і толькі ў галіне пісьменства,—патрабаваўся-б, прынамсі, асобны артыкул. Аднак, можа будзе да рэчы застанавіцца на аднэй драбніцы. Проф. Уладзімераў на стар. 35 свае кнігі піша, што ў бібліотэцы польскага караля Жыгімонта I знаходзіліся тры чэскія кнігі—біблія, кніга сьв. Яна Золатавуснага і кніга „polica", прычым стаўляе пытальнік і дадае: „не расчытаў", а сярод расійскіх кніг таго самага караля ў проф. Уладзімерава адзначана на стар. 16 з пытальнікам: „полуйца". У канцы свае кнігі проф. Уладзімераў, тлумачачы нячытэльнасьцю сьпіску Літоўскае Мэтрыкі, робіць напраўкі, грунтуючыся на паведамленьні Пташыцкага: замест „полуйца" належыць нібы чытаць „полунощница", а замест „polica"—„пасея" (П. В. Уладзімераў, op. cit., стар. 351). Чытаньне, якое запрапанаваў Пташыцкі: „пасея" замест „polica", нельга прыняць, бо ў чэскай пісьменнасьці кніг пад такім назовам не сустракаецца. На Украіне пасіяй завецца частка набажэнства, якое адпраўляюць па пятніцах першых чатырох тыдняў вялікага посту і якое складаецца з чытаньня эвангельля аб муках хрыстовых (passio). У гэтым-жа выпадку належыць чытаць, postilla, або passional. Гэта былі вельмі пашыраныя і ўлюбёныя кнігі чэскага пісьменства.

Пасьля агляду розных бакоў культурнага жыцьця Чэхіі ў пачатку XVI сталецьця можна сказаць, падводзячы падрахунак, што ў Чэхіі былі ўсе ўмовы, патрэбныя для карыснай дзейнасьці Скарыны, які ўзяў на сябе вялікую справу перакладу і выданьня бібліі. З другога-ж боку, трэба адзначыць што недахваты ў справе вывучэньня жыцьця і дзейнасьці Скарыны патрабуюць яшчэ дадатковых прац, якія павінны быць зроблены на падставе шырокага разуменьня культурнага ўзаемадзеяньня эўропейскіх народаў. Такая пастаноўка досьледаў адпавядае сутнасьці справы і будзе запраўднай пашанай да памяці Францішка Скарыны.





Проф. Мацей Любаўскі.

# Літоўска-Беларуская дзяржава ў пачатку XVI сталецьця.

аўгі час політычнага драбненьня ўсходняга славянства на паасобныя землі і княствы скончыўся тым, што на іх месцы паўсталі два дзяржаўныя аб'яднаньні—вялікае княства Літоўскае і Маскоўская дзяржава. Першае склалася на цэлае сталецьце раней за другое, і на пачатак XV сталецьця ўцягнула ў сваю організацыю беларускую і украінскую галіны ўсходняга славянства (у большасьці), а другое—вялікарасійскую галіну. Неаднолькавы ўдзел мелі ў гэтым процэсе розныя галіны ўсходняга славянства. У той самы час, як у процэсе стварэньня Маскоўскае дзяржавы вялікарасійская галіна мела ня толькі галоўную, але і выключную ролю, у процэсе стварэньня вялікага княства Літоўскага галоўная роля належыла да літоўскага плямя; Беларусь-жа дапамагала яму сваімі матар'яльнымі і культурнымі сродкамі, а Украіна, галоўным чынам,—матар'яльнымі.

Літоўскае плямя спрадвеку жыло па ўзьбярэжжы Балтыцкага мора, ад Ніжняе Віслы і да ракі Аа Ліфляндзкае. Галоўная частка яго—Літва Верхняя (Аўкстота) і Літва Ніжняя (Жамойць) займалі вадазбор Нёмну. На поўдзень ад яе жылі ятвягі, якія займалі паміжрэчча Заходняга Бугу і Нёмну, на Захадзе—прусы, якія займалі абшар паміж Ніжняй Віслай і Нёмнам, на поўначы—латышы, у дзьвёх сваіх галінах: Земгала—на левым беразе ніжняе Заходняе Дзьвіны, а Лецьгала—на правым, да ракі Аа.

Прусы і латышы ўжо ў першай палове XIII сталецьця адарваліся ад асноўнага асяродку літоўскага плямя, бо іх заваявалі нямецкія рыцары Прускага і Лівонскага ордэнаў; такім чынам, утварэньне вялікага княства Літоўскага было справай Верхняе і Ніжняе Літвы і рэш-

ты ятвягаў, якіх у значнай частцы зьвялі суседзі. З боку мовы Літва належыла да сям'і інда-эўропейскіх народаў і мела найбольшую блізкасьць да славянскіх пляменьняў. У XI і XII сталецьцях Літва была бадай што самай адсталай спаміж усіх інда-эўропейскіх пляменьняў. У сваіх лясных багністых пушчах літоўцы жылі ўбога, займаючыся, галоўным чынам, паляўніцтвам на зьвяроў, рыбацтвам, бортніцтвам і часткай земляробствам на тых астравох урадлівае зямлі, якія выступалі сярод багнаў і лясных пушчаў; адсюль яны рабілі напады на заможных суседзяў, з мэтай грабества. Заняткі гэтыя абслугоўвалі, галоўным чынам, хатнія іх патрэбы; гандлёвы памен з суседзьмі быў слабы: прадавалі хутры, воск і мёд; куплялі земляробскія прылады, зброю, тканіну і аздобы. Спаміж народаў, якія ў X сталецьці перашлі ў хрысьціянства і атрымалі разам з ім пачаткі кніжнае адукацыі і старое эўропейскае асьветы, літоўцы закасьцянелі ў сваёй прымітыўнай веры, у цемры і адзічэласьці. Летапісы і хронікі суседзяў паведамляюць аб тым, што яны шанавалі бога грому—Перкунаса, а таксама аб існаваньні ў літоўцаў культу асьвячонага агню, аб ушанаваньні гадаў, зьвяроў, гаёў, лугоў, рэк, паасобных дрэў, аб звычаі паліць у ахвяру багом жывёл і нават палонных, аб тым, што яны палілі трупы сваіх правадыроў з зброяй, канём, сабакамі і нявольнікамі і г. д. Арганізацыя грамадзянства ў літоўцаў была таксама прымітыўная—яна не разьвінулася ў больш складаныя формы, чымся дробныя грамадзкія саюзы, на чале якіх стаялі старшыні. Але ўжо і гэтая грамадзкая арганізацыя значна выперадзіла радавую організацыю, хаця-ж і бярэ свой пачатак, бязумоўна, ад роду; у дробныя грамадзкія саюзы злучаліся ўжо ня толькі сябры аднаго роду, але і проста суседзі; старшынямі былі не адны толькі родапачатнікі, але і правадыры, якіх абірала насельніцтва, а часамі такія правадыры з ліку мясцовага панства і заможнае клясы гвалтам станавіліся на чале роду. У літоўскім грамадзянстве ўжо адбылася пэўная дыфэрэнцыяцыя ў соцыяльных адносінах. У складзе яго вызначаліся лепшыя шляхотныя, вяльможныя людзі, князькі і царкі (кунігасы і рыкасы), якія і былі правадырамі мясцовага грамадзянства. Пераважна гэта былі буйныя зямляўласьнікі, якія „асвоілі" значныя абшары зямлі, мелі ўмацаваныя сялібы, шмат нявольнікаў, скаціны, гаспадарчых запасаў,—вяльможныя паны (domini praepotentes, potiores), як празывае іх Пётра Дусбурскі. Але ўлада, моц і ўплыў гэтых паноў пакуль што не пашыралася за межы тых валасьцей, дзе яны жылі. Літоўскае плямя ў XI і XII сталецьцях было ў стане нязвычайнага політычнага раздрабненьня. Але ня гледзячы на ўсю сваю культурную і грамадзкую прымітыўнасьць, гэта было маладое, здаровае плямя, поўнае фізычнае сілы, душэўнае бадзёрасьці, адвагі, энэргіі, з моцнай воляй і з жыцьцёвай цямлівасьцю: усе гэтыя якасьці спатрэбіліся літоўскаму племю ў тым палажэньні, у якім з волі лёсу апынулася яно ў XI—XIII сталецьцях.

У XI і ў першай палове XII сталецьця, беларускія, украінскія і польскія князі, карыстаючы з падзелу літоўцаў на дробныя грамадзкія саюзы, рабілі часта паходы, каб рабаваць і захапляць палонных. Гэтыя паходы ўзварушылі літоўскае плямя, абудзілі ў ім нацыянальнае пачуцьцё і выклікалі імкненьне да аб'яднаньня. На барацьбу з суседзьмі літоўскія правадыры пачалі выступаць супольна, злучаючы сілы ня толькі аднаго, але і некалькіх народаў. Усе гэтыя злучэньні былі прэлюдыяй да стварэньня сталага буйнога політычнага саюзу—вялікага княства Літоўскага.

На ўтварэньне гэтага саюзу мела ўплыў і тое, што ў канцы XII і пачатку XIII сталецьця зьявіўся новы вораг Літвы—рыцары Пруска-

га (Тэўтонскага) і Лівонскага ордэнаў. Новы націск прымусіў мясцовыя літоўскія грамады аб'яднацца каля аднаго палітычнага асяродку, падпарадкавацца ўладзе аднаго старэйшага вялікага князя. Такім вялікім князем быў у палове XIII сталецьця Мендаўг. Ён перамог усіх непакорных князёў, нават бліжэйшых крэўных, і зрабіўся, як кажа валынскі летапісец, самаўладным князем Літоўскае зямлі. Хаця-ж ён і стаў ахвярай змовы князёў, якія не сьцярпелі самаўладзтва Мендаўга, але справа яго не загінула. Створаная цэнтральная дзяржаўная ўлада была настолькі патрэбна народу, што вялікае княства Літоўскае не разваліласся і пасьля сьмерці Мендаўга (1263), ня гледзячы на праміжсобныя спрэчкі, якія цягнуліся даўгі час; літоўскія князі змагаліся ўжо не за мясцовую самастойнасьць, а за ўладу вялікага князя. У канцы XIII сталецьця гэтая барацьба скончылася перамогай Лютувэра, пасьля якога вялікімі князямі былі пастулова яго сыны: Вітэнь (1293—1316) і Гэдымін (1316—1341). Гэдымін і стаў родапачатнікам Літоўскае дынастыі вялікіх князёў, якая і кіравала вялікім княствам Літоўскім, пакуль яно існавала незалежна, у васобе князёў: Альгерда (1341- -1377), Ягайлы (1377—1392), Вітаўта (1392—1430), Сьвідрыгайлы, сына Альгерда, і Жыгімонта, сына Кейстута (1430—1440), Казімера, сына Ягайлы (1440—1492), Аляксандра (1492—1506), Жыгімонта Старога (1506—1548) і Жыгімонта-Аўгуста (1548—1572). Рэшта літоўскіх князёў, крэўныя вялікага князя, князі іншых родаў (Гедройцы, Сьвірскія, Гальшанскія) зьнізіліся да становішча падручных, васальных князёў; розныя мясцовыя правадыры і старэйшыны з ліку буйных зямляўласьнікаў зрабіліся паслужнікамі князя, яго бліжэйшымі памочнікамі і супрацоўнікамі ў справе кіраваньня вялікім княствам; у такой ролі яны заставаліся да канца незалежнага існаваньня вялікага княства і нават далей.

Новай Літоўскай дзяржаве давялося аб'яднаць усе беларускія і украінскія землі і княствы.

Перш-на-перш, вялікае княства Літоўскае далучыла да сябе княствы былае Полацкае зямлі—Полацкае, Віцебскае, Менскае, Друцкае і інш. Географічная сумежнасьць Полацкае зямлі і Літвы была прычынай іх даўнейшага знаёмства і зносін паміж сабой. На працягу XI і першае паловы XII сталецьця князі Полацкае зямлі досыць часта наведваліся ў Літву, шукаючы здабычы і палонных. Усьлед за князямі, а можа незалежна ад іх, цягнулася ў Літву, па ўсіх адзнаках, і мірнае жыхарства—земляробы і прамыслоўцы, якіх вабілі натуральныя багацьці літоўскіх пушчаў, дзе можна было схавацца ад хатніх нязгод і нападаў суседзяў. У літоўскай зямлі, паводле ўсіх вестак, асяліўся значны лік людзей з сумежных беларускіх зямель, якія жылі ў згодзе з літоўскім насельніцтвам. Так званая „Чорная Русь" з гарадамі Навагрудкам, Ваўкавыскам і Слонімам была, як відаць, колёніяй крывічоў і драгавічоў у Літоўскай зямлі. З паловы XII сталецьця—наадварот: ужо літоўцы сталі часьцей наведвацца ў Полацкую зямлю, праходзілі праз яе і нападалі на Ноўгародзкія, Смаленскія і нават на Чарнігаўскія землі. Часта заклікалі іх самі князі, карыстаючы з паслуг літоўцаў у часе праміжсобных спрэчак. Але літоўцы бывалі ў Полацкай зямлі і непажаданымі гасьцьмі. У гэты час яны пачалі ўжо злучацца ў вялікія саюзы—разласаваліся на здабычу і сталі жыць з вайны. Полацкая зямля, якая штогод запруджвалася літоўцамі, усё больш і больш адрывалася ад рэшты славянскіх краін і ўсё шчыльней злучалася з Літвой. Татарскі пагром, які адбыўся на абшарах міжрэчча Акі і Волгі, а таксама на Украіне, і татарская ўлада, якая там запанавала, канчаткова аддалі Полацкую зямлю на яе ўласныя сілы і прымусілі яе насельніцтва імкнуцца да літоўскіх зямель.

У першую чаргу, калі яшчэ жыў Мендаўг, падпарадкавалася літоўскім князём Чорная Русь. У канцы XIII і ў пачатку XIV сталецьця Полацак пачаў прымаць да сябе літоўскіх князёў на князяваньне, крыху пазьней—Віцебск (1320), яшчэ крыху пазьней—літоўскія князі падпарадкавалі сабе Менскае княства, Друцкае і заўладалі ўсімі валасьцямі, што ў вадазборы Бярозы і яе прыток, Сярэдняга Дняпра і Сажа. Полацкае і Віцебскае княствы захавалі і пад уладай Літвы сваю раней-шую паасобнасьць і ўнутраную самастойнасьць, але рэшта княстваў і валасьцей моцна зраслася з асноўным дзяржаўным асяродкам Літвы. Вялікім княствам Літоўскім пачало празывацца з таго часу злучэньне Літвы, Чорнае і Белае Русі (апроч Полацку і Віцебску).

Такім чынам, вялікае княства Літоўскае з першых дзён свайго існаваньня было ўжо ня літоўскай толькі, але літоўска-беларускай дзяржавай. Рэч у тым, што, дзякуючы блізкім жыцьцёвым зносінам з Беларусьсю, Літва знаходзілася пад моцным уплывам беларускае культуры і грамадзкасьці. Гэты ўплыў адбіўся раней за ўсё на вярхох літоўскага грамадзянства. Літоўскія князі пачалі будаваць сваё княства паводле беларускіх прыкладаў, уводзіць на Літве беларускія парадкі і ўстановы, беларускую афіцыяльную мову і г. д. У беларускай грамадзкасьці яны мелі магчымасьць здабыць больш сіл і сродкаў дзеля ўзмацненьня свае ўлады над грамадзянствам, чымся ў літоўскай. На Беларусі ўжо ўсталяваліся пэўныя і сталыя службовыя адносіны паміж князямі і іх дружынамі. Гарадзкое і вясковае насельніцтва было зьвязана з князем пэўнымі і сталымі падатковымі і рознымі іншымі павіннасьцямі. Тут-жа да паслуг князёў была і наладжаная адміністрацыя, пэўныя пасады і годнасьці, з дапамогай якіх узмацнялася князёўская ўлада над грамадзянствам. На Літве ўсё гэта мела яшчэ характар чагось пачатковага і нясталага, а таму, зразумела, што літоўскія князі першыя апынуліся пад беларускім уплывам. Некаторыя паміж іх, напрыклад, Вайшэлк, сын Мендаўга, прымалі хрысьціянства. З іх брала прыклад літоўская арыстократыя, вайскоўцы, зямляўласьнікі, якія атрымалі найменьне баяр; знаходзіліся пад уплывам беларускае культуры, і нават асіміляваліся з беларускім племем і народныя гушчы Літвы, асабліва там, дзе ў гэтыя гушчы трапляла беларускае насельніцтва. Як вынік гэтага—тэрыторыя беларускага плямя павялічылася ў сваіх памерах за кошт асноўнае літоўскае тэрыторыі. Беларусізаваньне Літвы дапамагала ў значнай меры далейшаму пашырэньню яе дзяржаўнае тэрыторыі за кошт беларускіх і украінскіх зямель. Справа ішла цяпер аб далучэньні да плямя ня зусім чужога, прынамсі ў вышэйшых сваіх колах, і ў кожным выпадку—не варожага да беларускага складу жыцьця. І вось адна за другой, без асаблівых труднасьцяй, далучаюцца да Літвы беларускія і украінскія землі. Вялікі князь Гэдымін у 1315 годзе забраў у валынскіх князёў Берасьцейскую зямлю з Падлясьсем, заўладаў потым Турава-Пінскім і Кіеўскім Палесьсем. У часы наступніка Гэдыміна—Альгерда (1341—1377) далучаюцца да Літвы Валынь і Падольле, землі Кіеўская і Чарнігава-Северская; у часы Вітаўта—зямля Смаленская і княствы, што на берагох верхняе Акі. Беларускія і украінскія землі, будучы падзелены на дробныя княствы, страціўшы сваю моц, дзякуючы татарскім пагромам і хатнім нязгодам, ня толькі не перашкаджаюць пашырэньню літоўскае ўлады, але ў большасьці выпадкаў самі ідуць насустрач Літве, шукаючы там абароны ад татар, ад нападу з усходу і поўначы, спадзяючыся знайсьці там унутраны спакой. З свайго боку, Літва, якую нішчаць крыжакі сваімі штогоднымі „рэйзамі" у яе межы, шукае павялічэньня сваіх сіл у беларускіх землях і ў пашырэньні свае тэрыторыі за іх кошт.

Агульны націск з усіх бакоў, зразумела, павінен быў, урэшце, злучыць Літву і Беларусь у вадну дзяржаву пад вярхоўнай уладай вялікага князя Літоўскага. Дзякуючы свайму географічнаму палажэньню гэтае княства найменш цярпела ад вайсковых нападаў, мела магчымасьць густа засяліцца і стаць самым мацнейшым спаміж іншых літоўскіх княстваў.

Характар аб'яднаньня адбіўся на ўнутранай будове новае Літоўска-Беларускае дзяржавы. Землі і княствы, што далучыліся, у большасьці выпадкаў ня трацілі асаблівасьцяй свайго быту. У некаторых княствах заставаліся даўнейшыя князі, якія і далей разам з баярамі кіравалі мясцовым грамадзянствам, як васалы вялікага князя Літоўскага, абавязаныя яму вайсковай службай і падаткамі. Буйныя кавалкі зямлі і княствы вялікі князь аддаваў звычайна сваім крэўным, якія кіравалі імі „да волі" вялікага князя, павінны былі быць у яго ў пакоры ды паслухмянстве, абавязаны былі прыяжджаць да яго „на думу" у важных дзяржаўных справах, ісьці на вайну разам з узброенай дружынай з сваіх абшараў і плаціць вялікаму князю падаткі. Але, апроч гэтага, ніякіх іншых зьмен не адбывалася ў палажэньні і ладзе памянёных зямель і княстваў. Літва не чапала іх старасьветчыны, іх хатняга складу і звычаяў, і літоўскія князі і далей кіравалі імі, як і іх папярэднікі, з тымі самымі баярамі і слугамі. У сутнасьці справы Літоўская дзяржава ў XIV сталецьці складала з сябе не адзіны палітычны організм, а была конглёмэратам зямель і ўладаньняў, аб'яднаных пад вышэйшай уладай вялікага князя Літоўскага, сымбіоз некалькіх політычных організмаў; такі характар яны ў пэўнай ступені захоўвалі і далей. У канцы XIV і ў першай палове XV сталецьця вялікі князь меў магчымасьць пераканацца ў тым, што аддаваць буйныя кавалкі зямлі і княствы пад кіраўніцтва князём, сваім крэўным, няма карысьці і нават небясьпечна. Гэтыя князі неаднакроць выяўлялі непакору вялікаму князю, узьнімалі супроць яго бунты і паўстаньні, якія пагражалі распадам вялікаму княству. Урэшце, вялікі князь прымушаны быў зьліквідаваць вялікія краёвыя княствы, зьняць адтуль князёў, сваіх крэўных, і замяніць іх намесьнікамі вялікага князя. Але і гэтая зьмена не адбілася на стане беларускіх і украінскіх краін. Каб замірыць гэтыя краіны ім былі выдадзены граматы, якія досыць стала гарантавалі непарушнасьць іх старасьветчыны, як даўнейшыя правы і вольнасьці, гэтак і новыя, якія надаваў у той час вялікі князь Літоўскі.

У такіх умовах Літоўска-Беларуская дзяржава набыла фэдэралістычны характар. Навокал яе цэнтральнага асяродку—вялікага княства Літоўскага, як такога, згрупаваліся краіны і княствы, якія захавалі асаблівасьць свайго ўнутранага жыцьця. Такімі былі землі: Жамойцкая, Полацкая, Віцебская, Смаленская, Кіеўская, Валынская з Падольлем, Падлясьсе таксама княствы: Слуцкае, Амсьціслаўскае, Палескае і Чарнігава-Северскае.

У склад вялікага княства Літоўскага ўваходзілі: Літоўская зямля, як такая, частка Беларусі (апроч Полаччыны і Віцебшчыны) і зямля Берасьцейская (без Падлясься). Краіна гэтая займала галоўнае палажэньне ў Літоўска-Беларускай дзяржаве. З боку гушчыні насельніцтва гэта была самая людная краіна спаміж усіх іншых зямель; тут было згрупавана найбольш маёнткаў вялікага князя, а таксама пераважна тут знаходзіліся маёнткі літоўскага магнацтва—князёў Гальшанскіх, паноў Гаштольдаў, Радзівілаў, Заберазінскіх і іншых; гэтая краіна адрозьнівалася ад іншых краін сваімі ўнутранымі парадкамі, сваімі звычаямі, сваім мясцовым правам. Яе вайсковыя сілы мобілізаваліся ў асобныя палкі, на чале якіх стаялі ваяводы Віленскі і Троцкі. Усе адміністрацый-

ныя пасады аддаваліся ў гэтай краіне мясцовым зямляўласьнікам. Пакуль ня быў выдадзены агульнадзяржаўны кодэкс, гэта значыцца—Статут (1529), суд адбываўся тут паводле мясцовага няпісанага права і законаў, як, напрыклад, судоўнік Казімера (1468), якія адзначаліся ад нормаў, што існавалі ў рэшце краін. Як і рэшта краін, і гэта галоўная краіна Літоўска-Беларускае дзяржавы мела свой земскі прывілей, інакш кажучы—грамату, якая зацьвердзіла яе правы і вольнасьці. Гэта быў гарадэльскі прывілей 1413 году; яго пацьвярджалі ўсе вялікія князі, ня гледзячы на тое, што быў складзены агульназемскі прывілей 1447 году, які неаднакроць пацьвярджалі і дадавалі. Літоўцы цанілі гарадэльскі прывілей, бо ён даваў ім некаторыя важныя політычныя перавагі, якіх ня мелі іншыя зямляўласьнікі, напрыклад, першыя месцы ў „лавіцы“ гаспадарскае „рады“ (паводле прывілею гэтыя месцы павінны былі аддавацца каталіком, а ня схізматыкам).

Дзяржаўна-праўнае палажэньне іншых зямель азначалася ў іх земскіх прывілеях, якія пачаў выдаваць гэтым землям яшчэ Вітаўт, а пасьля пацьвярджалі іх і пашыралі наступнікі Вітаўта. З гэтых прывілеяў відаць, што, хаця-ж гэтыя землі і ня былі больш княствамі, паасобнымі дзяржавамі, але, ўсё-ж-ткі, яны захавалі шмат рысаў з свайго політычнага мінулага. Перш за ўсё непарушана захаваліся ранейшыя межы зямель, і насяленьне іх лічылася падданымі вялікага князя Літоўскага ад месца свайго жыцьця. Вайсковую службу яны адбывалі ў мясцовых „заставах“, ці гарнізонах, а ў часе агульнае мобілізацыі выходзілі на вайну дружынамі на чале з намесьнікамі ваяводы свае зямлі. Судзіліся яны ў мясцовых трыбуналах. У Літоўскую зямлю на суд да гаспадара—вялікага князя—езьдзілі толькі тады, калі на гэта была ўзаемная згода тых, хто судзіўся. Некаторыя землі,—Полацкая, Віцебская і Жамойцкая, прымалі да сябе добраахвотна галоўных кіраўнікоў—намесьнікаў-ваявод і нават старасту (у Жамойці). Права гэтае было спадчынай мінулага памянёных краін, калі яны былі паасобнымі княствамі і прымалі да сябе князёў. Дзеля ажыцьцяўленьня гэтага права, а таксама дзеля таго, каб выдаваць мясцовыя законы ды адпраўляць вышэйшы суд, у краінах зьбіраліся мясцовыя соймы або вечы, на якіх былі прысутны тутэйшыя князі, баяры, жыхары гарадоў. На ўсе мясцовыя адміністрацыйныя пасады звычайна прызначалі тутэйшых зямляўласьнікаў; з іх-жа складаліся рады пры галоўных кіраўнікох зямель; рады гэтыя замянілі князёўскія думы.

Удзельныя княствы таксама мелі ўнутраную аўтономію. У васобе князёў яны мелі мясцовых гаспадароў, якія, застаючыся васаламі вялікага князя, самаўладна кіравалі сваімі княствамі,—адпраўлялі ў сваіх княствах суд, давалі баярам, цэрквам і манастыром землі і людзей, звальнялі ад падаткаў і павіннасьцяй на сваю карысьць, аслабанялі ад падсуднасьці сваім намесьнікам і цівунам і г. д. У ўрадавай дзейнасьці гэтых мясцовых гаспадароў прымалі ўдзел і тутэйшыя баяры, якія займалі розныя пасады ва ўдзельных княствах і складалі думу, або раду ўдзельных князёў.

Увесь гэты конглёмэрат зямель і княстваў зьвязвала і ўзмацоўвала ўлада вялікага князя. У Літве ня вызначыўся пэўны парадак перайманьня „стала“. У XIV сталецьці гэты стол замяшчалі са згоды найбольш магутных і ўплывовых князёў з роду Гэдыміна, пры падтрыманьні літоўскага баярства. З пачатку XV сталецьця ўтварылі абіральныя соймы, на якіх бывалі прысутны князі і вяльможныя літоўскія баяры, або паны, як сталі іх празываць, бяручы прыклад з Польшчы. Гэты парадак выклікаў нездаваленьне сярод князёў і баяр іншых

зямель Літоўска-Беларускае дзяржавы, якое неаднакроць пераходзіла ў адкрытыя паўстаньні і міжсобіцы, напрыклад,—пасьля сьмерці Вітаўта (1430), ці ў часе абраньня на вялікае князяваньне Казімера, сына Ягайлы (1440). З гэтае прычыны пад канец XV сталецьця пачынаюць прымаць удзел у вабраньні вялікіх князёў ужо і „старшыя" князі і баяры з іншых зямель.

Асновай матар'яльнае магутнасьці вялікага князя былі яго „домены" або гаспадарскія маёнткі. У склад, іх раней за ўсё, увашлі радавыя маёнткі тых дынастый, з якіх паходзілі вялікія князі. Гэтыя радавыя маёнткі павялічваліся за кошт маёнткаў, якія былі адабраны ад іншых літоўскіх князёў і атрыманы ў спадчыну ад князёў беларускіх і украінскіх. У гэтых маёнтках вялікія князі мелі ўласную гаспадарку; тут знаходзіліся іх двары і палацы, інакш кажучы—сельска-гаспадарчыя сядзібы, разам з чэлядзьдзю, скацінай, інвэнтаром і рознымі запасамі. Тут жылі загаднікі вялікага князя, розных найменьняў (намесьнікі, цівуны, пазьней—старасты-дзяржаўцы, прыставы, прыказьнікі і г. д.), якія высылалі дворную чэлядзь і аколішнае сялянства на працу—на поле, на сенажаці, у лясы, у гароды, сады, на рэчкі і азёры; гэтыя-ж самыя загаднікі зьбіралі і ахоўвалі ці прадавалі за грошы земляробскія продукты, прыплод ад скаціны, здабычу з лясоў. Але, апроч уласнае гаспадаркі, вялікі князь меў прыбытак ад сваіх маёнткаў, абкладаючы натуральнымі грашовымі паборамі тых земляробаў, прамыслоўцаў, гандляроў і рамесьнікаў, якія жылі ў гэтых маёнтках. Прыбыткі з гэтых маёнткаў ішлі на ўтрыманьне самога вялікага князя, яго сям'і і двара; гэтыя-ж прыбыткі ішлі, галоўным чынам, і на дзяржаўныя патрэбы. Урэшце, вялікі князь меў ад сваіх доменаў і тую яшчэ карысьць, што ўтрымліваў на іх мноства вайскоўцаў—баяр і слуг рознага стану, якія трымалі пад гаспадаром землі ў гэтых доменах на розных умовах—„до воли господарское", „до живота", „на вечность". Гэтая ваенная сіла рабіла вялікага князя магутным. Яна была падпарадкавана загадам ня толькі вялікага князя, але і ўсіх буйных зямляўласьнікаў, якія знаходзіліся ў васальнай залежнасьці ад вялікага князя. Зьнявольваньне народнае масы было ўсеагульным ня толькі ў гаспадарскіх маёнтках, але таксама ў князёўскіх і панскіх. Сялянства было цалком падпарадкавана вялікаму князю, князём, паном і баярам, і ня прымала ніякага ўдзелу ў палітычным жыцьці краіны; яно пасыўна выконвала загады вялікага князя і яго ўраднікаў—намесьнікаў, цівунаў, прыказьнікаў, приставоў, сотнікаў, сарочнікаў, дзесятнікаў і г. д. Толькі ў доменах вялікага князя і ў некаторых мясцовасьцях, а паіменна у падняпроўскіх і задзьвінскіх валасьцёх, тутэйшае прамысловае сялянства, якое плаціла значную дань вялікаму князю, карысталася адносна большай воляй і самастойнасьцю.

Імі кіравалі абраныя старцы, якія ня толькі раскладалі дань і падаткі, але і судзілі сялян. Апроч таго, адносна большую волю і самастойнасьць мела гандлёва-прамысловае насельніцтва такіх буйных гандлёва-прамысловых цэнтраў, як Вільня, Полацак, Віцебск, Смаленск і Кіеў. „Местичи" гэтых гарадоў прымалі ўдзел у мясцовых народных сходах, соймах або вечах, у вырашэньні ўсялякіх пытаньняў што да палітычнага жыцьця краін, мелі адносіны да судоўніцтва і г. д. У кіраваньні дзяржавай вялікі князь карыстаў з дапамогі і супрацоўніцтва, галоўным чынам, уласьніцкае арыстократыі—князёў і паноў Літоўскае зямлі, якія і абіралі яго на вялікае князяваньне. Ён прызначаў іх на розныя пасады або ўрады як у цэнтры, гэтак і на мясцох,—на пасады ваяводы, старасты, ці намесьніка; надаваў розныя прыдворныя

годнасьці „достоінствы“; гэтая-ж самая арыстократыя складала і раду вялікага князя, з якою ён раіўся ў бягучых справах і адпраўляў вышэйшы суд у дзяржаве; гэтая-ж самая арыстократыя зьбіралася звычайна на соймы дзеля абгавораў найбольш важных пытаньняў. Толькі з трыццатых гадоў XV сталецьця, калі аслаб царкоўны антогонізм паміж каталікамі і праваслаўнымі, і калі правы і вольнасьці паноў і баяр Літоўскае зямлі пашырыліся на князёў, паноў і баяр беларускіх і украінскіх зямель вялікага княства, беларуская і украінская арыстократыя пачала трапляць спорадычна ў кіраўнічыя літоўскія сфэры, у гаспадарскую раду і на першарадныя пасады, а ў канцы XV сталецьця—пачала прымаць удзел і ў соймах вялікага княства. Напружнае змаганьне з Масквой, якая пачала прэтэндаваць на беларускія землі вялікага княства Літоўскага, прымусіла ўрад вялікага князя прыцягваць да ўдзелу ў кіраўніцтве і ў вырашэньні агульна-дзяржаўных пытаньняў і арыстократыю беларускіх і украінскіх зямель. Гэтае-ж самае напружнае змаганьне, якое ўскладнялася дзякуючы барацьбе з крымскімі татарамі, а часамі і з Турэччынай, і якое вымагала вялізных ахвяр з боку ўсіх вайскоўцаў зямляўласьнікаў,—ня толькі буйных князёў і паноў, але і дробных баяр,—прымусіла, урэшце, літоўскі ўрад прыцягваць да соймавых нарад і пастаноў і звычайны ваеннаслужылы люд—баяр усіх зямель вялікага княства, якія ўладалі маёнткамі „пад гаспадаром“. З пачатку XVI сталецьця пачаліся вальныя соймы, якія звычайна вырашалі пытаньні аб службе ў войску і аб памерах вайсковых падаткаў з „земскіх“ маёнткаў. Неўзабаве на гэтых вальных соймах пачалі ўзьнімаць ды вырашаць і іншыя важныя пытаньні што да ўнутранага кіраваньня ці дзяржаўнага будаўніцтва.

На пачатак XVI сталецьця Літоўска-Беларуская дзяржава сформавалася канчальна. У часе змаганьня з Масквой вялікае княства страціла землі: Чарнігава-Северскую, паўночныя часткі Полацкае і Віцебскае зямель і зямлю Смаленскую. З прычыны націску з боку крымскіх татар яно прымушана было адыйсьці ад ўзьбярэжжа Чорнага мора і даўнейшых меж украінскае аселасьці на вышнявіны паўднёвага Бугу, да Цясьміна і Ворсклы. Але рэшта тэрыторыі консолідавалася, зьлілася ў адно палітычнае цэлае, у вадну дзяржаву. Фэдэралістычны характар гэтае дзяржавы ўжо больш не паграджаў ёй распадам; палітыка цэнтральнага ўраду замірыла паасобныя краіны дзяржавы, пашырыўшы на зямляўласьнікаў гэтых зямель большую частку сваіх праў і вольнасьцяй і далучыўшы іх да агульнага палітычнага жыцьця дзяржавы. За дзьвесьце пяцьдзесят год, якія мінулі ад пачатку існаваньня гэтае дзяржавы, яна стала яшчэ больш беларускай, чымся раней. Літоўская арыстократыя, што стаяла на чале кіраўніцтва, баярства і гарадзкое жыхарства Літоўскае зямлі, а таксама і значная частка земляробаў у Верхняй Літве зьбеларусізаваліся. Толькі ў Ніжняй Літве (Жамойць) ды ў заходніх валасьцёх Верхняе Літвы—і далей трымалася літоўская мова. Але грамадзкі лад, унутранае жыцьцё і тут былі пад моцным уплывам беларускіх парадкаў і беларускае культуры. З канца XIV сталецьця з беларускім уплывам звычайна спаборнічаў польскі ўплыў. Дзякуючы гістарычным абставінам Літва прымушана была ўтварыць палітычны саюз з Польшчай і блізка стаць да яе ва ўнутраным укладзе сваіх грамадзкіх і палітычных адносін, а часткай—і ў духоўных. Перад новастворанай у XIII і XIV сталецьцях Літоўска-Беларускай дзяржавай паўсталі тры галоўныя заданьні—адбівацца ад немцаў Прускага і Лівонскага ордэнаў, якія нішчылі Літву, маючы на мэце перамагчы яе і абярнуць у хрысьціянства, ад татар, якія націскалі з поўдню і з паўднёва-ўсходняга боку, і ад Масквы, якая ўзмац-

нялася і спаборнічала з Літвой у сваім пашырэньні за кошт беларускіх і украінскіх зямель. Да апошняй чвэрці XIV сталецьця Літоўска-Беларуская дзяржава больш-менш з посьпехам змагалася з усімі сваімі ворагамі. Каб змагацца з немцамі, Гэдымін укладаў саюзы з польскімі князямі. Сыны яго Альгерд і Кейстут, скінуўшы з вялікакнязёўскага стала брата свайго Яўнута, забралі ў свае рукі кіраваньне вялікім княствам, падпарадкавалі сабе рэшту князёў і падзялілі паміж сабой сфэру сваіх уплываў. Кейстут, заснаваўшы сваю рэзыдэнцыю ў Троках, сярод чыстае Літвы, узяў на сябе абарону краіны ад немцаў, і мужна выконваў гэтую справу, выклікаючы зьдзіўленьне і пашану з боку сваіх ворагаў. Альгерд заснаваў сваю рэзыдэнцыю ў Вільні, у беларускай напалову Літве, і, прызнаючы Кейстута за старэйшага, узяў на сябе абарону вялікага княства ад татар, і таксама з посьпехам вёў справу. Ён ня даў Маскве заўладаць Смаленскам, пашырыў літоўскую ўладу на берагі верхняе Акі і на украінскія землі, якія ён вызваляў з-пад татарскага панаваньня (землі Кіеўскую, Падольскую і Чарнігава-Северскую). Супольнымі высілкамі сыноў Гэдыміна Літва абараніла ад палякаў Валынскую зямлю і замацавала яе за вялікім княствам. Але, як памёр Альгерд (1377), у Літоўска-Беларускай дзяржаве пачаліся ўнутраныя нязгоды. Немцы з ордэну стараліся ўсялякімі спосабамі павялічваць хатнія спрэчкі на Літве, дапамагалі і давалі парады то адным, то другім. Маладой Літоўска-Беларускай дзяржаве пагражаў распад і пагібель. У такіх абставінах вялікі князь Ягайла, а таксама князі—сыны Гэдыміна, якія яго падтрымлівалі, і літоўскія баяры вырашылі шукаць блізкага саюзу з Польшчай праз шлюб Ягайлы з наступніцай польскага пасаду Ядвігай. Для Польшчы, з свайго боку, вельмі патрэбна была дапамога для барацьбы з немцамі, якія адабралі ў яе нізавіну ракі Віслы і загарадзілі выхад у мора. У 1385 годзе падпісалі ў Крэве ўгоду аб вуніі Польшчы і Літвы. Ягайла дакляраваў прыняць каталіцкую веру з усімі сваімі братамі і з раднёй, а таксама дакляраваў, што прымуць каталіцтва ўсе—і вяльможныя, і простыя, і малыя, і старыя; апроч таго, ён абавязаўся ахвяраваць свой скарб на патрэбы Польшчы, зьвярнуць адабраныя ад Польшчы землі, выплаціць ранейшаму жаніху Ядвігі, аўстрыяцкаму прынцу Вільгэльму 200.000 флёрынаў, выпусьціць на волю палонных хрысьціян, і, што самае галоўнае, назаўсёды далучыць свае землі да кароны Польскай. Паводле сэнсу абавязкаў, якія прыняў на сябе Ягайла, індывідуальнае існаваньне Літоўска-Беларускае дзяржавы спынялася зусім і яна інкорпоравалася з Польшчай у вадну дзяржаву. Як толькі Ягайла акаранаваўся ў Кракаве, усіх літоўскіх князёў прымусілі прысягнуць каралю, каралеве і кароне Польскай. Літоўскія баяры, якія прынялі хрысьціянства, атрымалі ў 1387 годзе правы, аднолькавыя з польскай шляхтай.

Вунія, аднак, ня зьдзейсьнілася ў тых формах, як яе ўлажылі на паперы. Калі Ягайла, якому далі імя Уладыслава, пераехаў у Польшчу і адтуль пачаў кіраваць Літвой, з дапамогай польскіх паноў і прэлятаў, Літоўскую зямлю ахапіла вялікае абурэньне. На чале нездаволеных стаў родны брат Ягайлы—Вітаўт, які падняў адкрытае паўстаньне. Ягайла наслаў у Літву польскае войска, паставіўшы яго амаль што па ўсіх гарадох вялікага княства. Але Вітаўт меў агульнае спачуцьцё і знашоў сабе падтрыманьне з боку насельніцтва вялікага княства: жыхары падвозілі яго войску харч і корм для коняй, далучаліся да войска і разам з ім нападалі на польскія атрады і нішчылі іх. Ягайла і палякі прымушаны былі падацца. На зьезьдзе ў Востраве (1392) абодвы варожыя бакі дашлі да згоды, паводле якое Вітаўт стаў кі-

раўнікам вялікага княства Літоўскага на ўсё сваё жыцьцё. Такім чынам, вялікае княства Літоўскае аднавілася для Вітаўта, на ўвесь час пакуль ён жыў, пад сувэрынітэтам польскага караля. Згоду ў Востраве пацьвердзілі на Віленскім сойме ў 1401 годзе.

У 1413 годзе палякі прымушаны былі зрабіць новае папушчэньне—прызнаць існаваньне вялікага княства Літоўскага, як асобнае дзяржавы, пад сувэрынітэтам караля польскага, і пасьля таго, як памёр Вітаўт. За гэты час пад кіраўніцтвам Вітаўта вялікае княства Літоўскае значна ўзмацнілася. З княствамі і землямі ўсходняга славянства—з Масквой, Разаньню, Ноўгарадам і Псковам, пасьля некаторых сутычак, Вітаўт улажыў умовы, большай часткай карысныя для вялікага княства. Вітаўт пачаў значна ўплываць на арду ў справе замяшчэньня ханскага пасаду. Пасьля Грунвальдзкае бітвы, у якой Літва разам з Польшчай разьбіла сілы нямецкага ордэну, вялікае княства Літоўскае стала лічыцца за значную палітычную адзінку і ў вачох Захаду. З Вітаўтам пачаў беспасрэдныя зносіны імпэратар Жыгімонт; з Вітаўтам-жа зносіліся, часьцей за ўсё, і немцы з ордэну, якія клапаціліся аб згодзе, беспасрэдна самі ці праз імпэратара, як пасярэдніка. Усё гэта павінна было рабіць уражаньне і на палякаў: яны пачалі баяцца здрады Вітаўта і літоўцаў, тым больш, што немцы ўвесь час баламуцілі, хочучы парваць вунію Літвы з Польшчай. Гэта прымушала палякаў паклапаціцца аб новым пацьвярджэньні і ўзмацненьні вуніі. На агульным польска-літоўскім зьезьдзе ў Гародлі, што на рацэ Бугу, улажылі новы акт аб вуніі, паводле якога літоўцы абавязаліся нікога не абіраць, як памрэ Вітаўт, і ня прымаць да сябе ў вялікія князі без папярэдняе згоды з палякамі, а палякі, у сваю чаргу, абавязаліся не абіраць сабе каралёў без нарады з літоўцамі. Такім чынам, паводле акту, падпісанага ў Гародлі, Літва, застаючыся ў неразрыўным злучэньні з Польшчай, заўсёды будзе мець асобнага вялікага князя, якога будзе зацьвярджаць кароль польскі.

Аднак, гэты акт вуніі парушылі, як толькі памёр Вітаўт. Вялікае княжаваньне, бяз згоды палякаў, абняў Сьвідрыгайла—сын Альгерда, падтрыманы беларускімі і украінскімі князямі і баярамі (1430). Сьвідрыгайла ня толькі парваў вунію, але і стаў у варожыя да Польшчы адносіны. Абапіраючыся, галоўным чынам, на беларускіх князёў і баяр у кіраваньні дзяржавай, Сьвідрыгайла выклікаў супроць сябе нездаваленьне літоўскіх паноў, якім дагэтуль належыла галоўная роля. Палякі скарысталі з гэтага, каб скінуць Сьвідрыгайлу з вялікага княжаваньня, і, маючы падтрыманьне з боку літоўскіх князёў, пасадзілі на вялікае княжаваньне Жыгімонта, брата Вітаўта (1432), прычым узялі з яго запіс, што пасьля яго сьмерці вялікае княства адыходзіць да караля польскага. Жыгімонт загінуў, як ахвяра змовы літоўскіх паноў, якія былі абураны яго тыраніяй (1440). Як памёр Жыгімонт, літоўскія паны выправілі ў Польшчу пасольства з просьбай да польскага караля Уладыслава прыслаць у Літву каралевіча Казімера каралеўскім намесьнікам. Але толькі Казімер прыехаў у Вільню, як зараз-жа абвесьцілі яго вялікім князем, бяз згоды палякаў і супроць пастановы актаў 1413 і 1432 гадоў. Каб неяк захаваць вунію, палякі прымушаны былі згадзіцца з самавольным абраньнем Казімера на вялікае княжаваньне, і, з свайго боку, абралі яго каралём польскім (1447). Пасьля сьмерці Казімера (1492) літоўскія паны сабралі „старэйшых" (князёў і баяр) з усіх зямель вялікага княства і, ня пытаючыся палякаў, абралі на вялікае княжаваньне сына Казімера—Аляксандра. Польскія паны, у вадпаведнасьці з актам аб вуніі, што быў пад-

пісаны ў Гародлі, хацелі прыцягнуць літоўцаў да ўдзелу ў абраньні караля, але літоўцы адмовіліся паехаць на абраньне, бо добра ведалі, што гэты ўдзел быў-бы з іх боку прызнаньнем абавязкавае моцы гарадэльскага акту. Пасьля таго, як абралі за караля Яна Альбрэхта, вялікі князь Аляксандар, замест акту субмісіі, выправіў паслоў прывітаць брата і прыпомніць яму „аб сяброўстве" іх дзяржаў, якія ў часы іх нябожчыка бацькі заўсёды дапамагалі адна другой супроць замежных ворагаў. Такім чынам, замест былое вуніі, літоўцы атрымалі толькі фактычны сяброўскі саюз Польшчы і Літвы.

Абставіны, аднак, хутка прымусілі Літву аднавіць Гарадэльскую вунію з Польшчай. На Літоўска-Беларускую дзяржаву напала Масква, якая аб'яднала навокал сябе ўсё паўночна-ўсходняе славянства; у выніку гэтага нападу Літоўска-Беларуская дзяржава страціла частку Смаленскіх і Віцебскіх зямель і тых князтваў, што былі на берагох верхняе Акі. У той самы час крымскія татары пачалі нязвычайна нішчыць паўднёвыя краіны вялікага князтва Літоўскага і Польшчы. Да іх далучыліся туркі (1498), якія страшэнна зьнішчылі Падольле і Галічыну, забраўшы да 100.000 у палон. Пасьля даўгіх перамаўленьняў аб аднаўленьні вуніі, бе́з парушэньня гонару абедзьвух дзяржаў, вунія была адноўлена на аснове Гарадэльскага акту (1499). Але неўзабаве стала ясна, што такая вунія мала забясьпечвала і Літве і Польшчы ўзаемнае падтрыманьне, узгодненасьць у справах, калі яны, як і раней, заставаліся паасобку і ня злучаліся ў адну дзяржаву з адным урадам. У часе змаганьня, якое пачалося зноў з Масквой, палякі не далі ніякае дапамогі Літве, бо рыхтаваліся ў той час да паходу на туркаў і павінны былі адбівацца ад нападаў з боку крымскіх татар. Таму, як толькі памёр кароль Ян Альбрэхт (1501), літоўскі сойм, што сабраўся ў Горадні, выправіў паслоў на польскі абіральны сойм, прапануючы кандыдатуру князя Аляксандра і даўшы паслом поўнамоцтвы на ўкладаньне новае вуніі. Дзякуючы падтрыманьням літоўцаў Аляксандар атрымаў перамогу над іншымі прэтэндэнтамі на Польскую карону. Разам з гэтым улажылі больш блізкую вунію з Польшчай. Умовіліся, што Польшча і Літва будуць надалей мець аднаго агульнага гаспадара, якога будзе абіраць агульны Польска-Літоўскі сойм; абраны гаспадар будзе пацьвярджаць правы і вольнасьці абедзьвух дзяржаў, якія павінны мець агульную монэту і супольна весьці замежную палітыку; суды і ўрады застаюцца паасобку. І гэтая вунія ня зьдзейсьнілася. Умова была пацьверджана прысягаю членаў польскага сойму, а з літоўскага боку яе пацьвердзіў вялікі знязь Аляксандар і тыя паны, якія былі з ім у Мельніку, дзе ён чакаў вырашэньня справы. Аляксандар дакляраваў, што прысягнуць і ўсе яго падданыя і выдадуць адпаведныя, замацаваныя пячаткамі, запісы, а гэтага, аднак, ён не здалеў зрабіць. Вайна з Масквой перашкаджала склікаць сойм, а пасьля таго, як яна скончылася, літоўцы ўжо ня спрыялі вуніі. Палякі не дапамаглі ім у часе вайны, і Літва панесла вялікія тэрыторыяльныя страты, аддаўшы Маскве, паводле ўмовы 1503 году, палову Смаленскае зямлі, князтвы, што былі на берагох верхняе Акі, і зямлю Чарнігава-Северскую. Літоўцы адмовіліся ратыфікаваць умову 1501 году, захаваўшы толькі пэрсанальную вунію з Польшчай; літоўцы ня лічылі, што яны зьвязаны і ўмовамі Гарадэльскага акту. Калі памёр кароль Аляксандар (1506), літоўцы, не зьвяртаючыся да палякаў, абралі разам з усімі землямі, што належылі да вялікага князтва, на вялікае княжаваньне брата Аляксандра—Жыгімонта. Каб захаваць хаця-ж бы пэрсанальную вунію, палякі абралі Жыгімонта каралём польскім. Лічачы вялікае князтва зусім незалежнай дзяржавай, літоўцы, ня пытаючыся палякаў провізорна абралі на

сойме 1522 году вялікім князем, на выпадак, калі-б памёр Жыгімонт, сына яго—Жыгімонта-Аўгуста, а потым урачыста пасадзілі яго на вялікае князяваньне (1529). Каб выратаваць пэрсональную вунію з Літвой, палякі ў наступным годзе абралі Жыгімонта-Аўгуста каралём, так што стала два каралі—стары і малады.

Такім чынам, вунія ня зьдзейсьнілася ні ў тых формах, як яе задумалі ў 1385 і 1501 гадох і, ізноў-жа, ні ў тых формах, як яе ўтварылі ў Гародлі ў 1413 годзе. Замест вуніі, вызначанай на паперы, стала фактычная пэрсональная вунія вялікага княства Літоўскага з каронай Польскай, якая зьявілася як вынік імкненьня палякаў папярэдзіць аддзяленьне Літвы шляхам абраньня аднаго агульнага з літоўцамі гаспадара.

Сумеснае жыцьцё вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам, якое было выклікана вонкавымі прычынамі, мала дапамагло Літве ў барацьбе з замежнымі ворагамі. Польшча атрымала значную дапамогу ад вялікага княства ў барацьбе з прускім ордэнам, але Літва павінна была змагацца з сваімі ворагамі пераважна адна, і з прычыны гэтага павінна была ўсімі спосабамі павялічваць клясу вайскоўцаў. У XV і пачатку XVI сталецьця адбываўся вялікі набор на службу ў войска дзеля павялічэньня таго асноўнага контынгенту, які складаўся з князёў, а таксама з баяр літоўскіх і з іншых зямель вялікага княства. На вайсковую і баярскую службу залічалі шмат заможных сялян у гаспадарскіх маёнтках. Вялікі лік гэтых заможных сялян залічалі слугамі путнымі, панцырнымі, шчытнымі, коннымі і іншымі, якія таксама адбывалі службу ў войску. Адначасна з гэтым раздаваліся землі вайскоўцам на розных умовах—на „вечность", у „вотчину", да „жывота", да „двух животов", да „воли господарское" і г. д. Набор у войска рабіў ня толькі гаспадар, але і буйныя зямляўласьнікі, якія, згодна з агульным палажэньнем, павінны былі ісьці на вайну не асабіста толькі, а з пэўным лікам узброеных слуг—„пахолков", у залежнасьці ад велічыні маёнтку. Замежная барацьба выклікала вялікае імкненьне здабыць матар'яльныя і фінансавыя сродкі. Апроч звычайнага збору даўнейшых падаткаў і мыта, літоўскі ўрад пачаў практыкаваць сыстэму пасэсіі ў розных галінах гаспадаркі: аддавалі, напрыклад, на пасэсію карчмы, мытны збор, распрацоўку лясных матар'ялаў і г. д. Маючы на мэце разьвіцьцё прамысловасьці і гандлю ў гарадох, літоўскі ўрад пачаў надаваць горадом самакіраўніцтва, паводле Майдэборскага права, і браць з гарадоў за гэты прывілей пэўны „плат". Але ўсіх гэтых сродкаў не хапіла, каб здаволіць дзяржаўныя патрэбы, і ўрад прымушаны быў рабіць пазыкі ў прыватных асоб—у паноў і яўрэяў, забясьпечваючы іх прыбыткамі з гаспадарскіх маёнткаў і іншых крыніц, а, урэшце, даводзілася карыстацца субсыдыямі ад зямляўласьнікаў вялікага княства, выпрашваючы гэтыя субсыды на вальных соймах.

Але, хаця-ж вунія з Польшчай мала зьмяніла вонкавае палажэньне Літоўска-Беларускае дзяржавы, затое яна зрабіла моцны ўплыў на ўнутраную фармоўку яго. Раней за ўсё ўмовы вуніі формальна і канчальна замацавалі прынцып абіральнасьці вялікага князя. Умовы прадугледжвалі абраньне вялікага князя на сойме літоўскіх вяльмож, з пэўным удзелам польскага караля і сойму. Гэты ўдзел не заўсёды ажыцьцяўляўся, але абраньне на літоўскім сойме адбывалася сваім парадкам. З канца XV сталецьця ў гэтым абраньні пачалі прымаць удзел, як ужо было адзначана, князі і баяры беларускіх і украінскіх зямель, якія на той час атрымалі аднолькавыя з літоўцамі правы і вольнасьці.

Вунія з Польшчай прынесла вялікаму княству і формальныя абмежаваньні ўлады вялікага князя на карысьць зямляўласьніцкае клясы, замацаваўшы праўна тое соцыяльна-палітычнае палажэньне, якое на пачатак XV сталецьця мелі князі і баяры Літоўска-Беларускае дзяржавы. Каб схіліць гэтых князёў і баяр у бок вуніі, Польская карона і вялікі князь Літоўскі выдавалі ім граматы, або прывілеі на аднолькавыя з польскай шляхтай правы і вольнасьці. Ужо ў 1387 годзе была выдадзена ўсім літоўскім баярам, што прынялі каталіцкую веру, грамата, якая забясьпечвала ім права неадоймнага ўладаньня і вольнага ўжываньня сваімі вотчынамі; грамата дазваляла выдаваць дачок замуж, а ўдовам — у другі раз выходзіць замуж за каго яны захочуць. Паводле граматы 1387 году баяры звальняліся ад усялякіх павіннасьцяй і працы, апроч вайсковае службы; грамата дазваляла ім будаваць замкі і дарогі. Гарадэльскі прывілей, апроч гэтых маемасных і асабовых праў, прызнаў за тымі літоўскімі прэлятамі і баярамі, якія прынялі каталіцкую веру, права прымаць удзел у вабраньні будучых каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх, а таксама прымаць удзел у нарадах і дзяржаўных справах; прывілей прызнаў за імі ўсе тыя правы і вольнасьці, якімі карысталіся прэляты, паны і шляхта каралеўства Польскага, паміж іншым,—права мець гэрбы. Усе гэтыя прывілеі, якія сталі ў пэўным сэнсе асноўнымі законамі Літоўска-Беларускае дзяржавы, паставілі ўладу вялікага князя ў акрэсьленыя межы, выключыўшы магчымасьць разьвіцьця яе ў кірунку абсолютызму. І гэта тым больш справядліва, бо памянёныя прывілеі хутка атрымалі далейшае разьвіцьцё і былі пашыраны на беларускіх князёў і баяр вялікага княства.

Беларускіх князёў і баяр вялікага княства зраўнялі ў правох і вольнасьцях з літоўскімі ў канцы сараковых гадоў XV сталецьця. У пачатку трыццатых і сараковых гадоў XV сталецьця беларускія і украінскія князі і баяры, якія былі нездаволены з прычыны палітычнае гегемоніі і прывілеяванага палажэньня літоўцаў, пасадзілі на вялікае княжаньне свайго кандыдата — Сьвідрыгайлу, сына Альгерда. Але гэты князь не здалеў утрымаць у сваіх руках уладу. У пачатку сараковых гадоў, з прычыны нездавальненьня князёў і баяр беларускіх і украінскіх зямель, і нават зямлі Жамойцкае, падняліся паўстаньні зямель і выявілася імкненьне іх да адпаду ад Літвы. Літоўскі ўрад, каб замірыць паўстаўшыя землі, быў прымушаны ня толькі гарантаваць ім непарушнасьць старасьветчыны, але зраўняць правы і вольнасьці зямляўласьнікаў памянёных зямель з літоўцамі. Спачатку ўрад зрабіў гэта ў агульна-земскім прывілеі 1447 году, а неўзабаве — і ў краёвых прывілеях, якія былі нададзены паасобным землям вялікага княства. Агульна-земскі прывілей 1447 году, які быў выдадзены ў той момант, калі Казімер, сын Ягайлы, атрымаў Польскую карону, меў на мэце здаволіць зямляўласьнікаў вялікага княства і прымусіць іх пагадзіцца з тым, што ўстаноўлена вунія вялікага княства з каронай Польскай. Прывілей пашырыў правы зямляўласьнікаў і, разам з тым, вызначаў новыя абмежаваньні ўлады вялікага князя. Вялікі князь звальняў усіх князёўскіх, панскіх, шляхоцкіх, баярскіх і мяшчанскіх сялян („кметаў") ня толькі ад выплаты натуральных падаткаў („дзякла") і ад прыгонных павіннасьцяй на яго, вялікага князя, але і ад выплаты грашовага падатку—сярэбшчыны або падымшчыны; вялікі князь браў абавязак ня прымаць на свае землі ўласьніцкіх сялян, ужо прымацаваных, забараняючы рабіць гэта самае ўласьнікам у адносінах да сялян вялікага князя; урэшце, ён устанаўляў, што суд над уласьніцкімі сялянамі павінны адпраўляць самі ўласьнікі.

Усе гэтыя факты падатлівасьці вялікага князя былі—нішто іншае, як падзел дзяржаўнае ўлады над народнымі гушчамі паміж вялікім князем і зямляўласьнікамі, якія ў адносінах да сваіх „падданых" рабіліся такімі самымі гаспадарамі, як і сам вялікі князь да ўсіх іншых. Такім спосабам у Літоўска-Беларускай дзяржаве замацоўваўся лад, які меў шмат агульных рысаў з заходня-эўропейскім і, між іншым, з польскім фэўдалізмам. Разам з гэтым разьвіналіся асновы літоўска-беларускага парлямантарызму і конституцыяналізму. У гэтым сэнсе асабліва важны быў той артыкул прывілею 1447 году, які вызваляў уласьніцкіх „падданых" ад дзяржаўных падаткаў. Гэты артыкул з цягам часу, з канца XV сталецьця, калі дзякуючы вайне зусім зьбяднеў скарб вялікага князя, прымушаў яго выпрашваць у зямляўласьнікаў субсыды на патрэбы дзяржавы, дзеля чаго ён склікаў іх на соймы, а зямляўласьнікам памянёны артыкул даў магчымасьць здабыць ад вялікага князя новыя правы і вольнасьці, якія абмяжоўвалі яго ўладу.

Фактычная пэрсанальная вунія Літвы з Польшчай, якая ўстанавілася з паловы XV сталецьця, выклікала павялічэньне політачнае вагі гаспадарскае рады пры вялікім князе. Пакуль вялікі князь жыў у Літоўска-Беларускай дзяржаве, гаспадарская рада была дарадчай установай, аднак, яна мела пэўны аўторытэт, бо складалася з выдатных і буйных зямляўласьнікаў вялікага княства, якія займалі высокія пасады. Але з таго часу, як вялікія князі пачалі жыць даўгі час і пераважна ў Польшчы, як каралі польскія, рада атрымала значэньне вышэйшага ўраду краіны і заняла самастойнае становішча, будучы на варце праў вялікага княства супроць магчымасьці парушэньня іх з боку самога гаспадара, які быў адначасна і польскім і літоўскім гаспадаром. У такой ролі рада выступала ў часы Казімера, калі быў даўгі час конфлікт з Польшчай з-за Валыні і Падольля, і з прычыны тлумачэньня актаў вуніі, паколькі Казімер часамі схіляўся ў бок польскіх дамаганьняў. Рада ў часы Казімера стала ня толькі асабістай дарадчай установай вялікага князя, але і дзяржаўнай установай вялікага княства. Вызначыўся больш-менш круг пасад і годнасьцяй, якія давалі месца ў „лавіцы" гаспадарскае рады, а таксама і парадак гэтых месц. Нова-ўтвораная дзяржаўная рада выкарыстала абраньне наступніка Казімера дзеля таго, каб формальна, de jure, замацаваць сваё становішча. Новы вялікі князь Аляксандар, сын Казімера, выдаў у 1492 годзе прывілей, у якім ён абавязаўся весьці дыплёматычныя зносіны з іншымі дзяржавамі толькі пасьля папярэдніх абгавораў з панамі—радай, не зьмяняць самастойна нічога ў справах унутранага кіраваньня з таго, што ўжо было вырашана супольна з панамі—радай; „державы" прызначаць тым кандыдатам, якіх пададуць ваяводы, а па ўскрайках княства,—са згоды паноў—рады; апроч таго, вялікі князь абавязваўся ні ў кога не адбіраць „урадаў", калі ня было віны, і без парады з панамі—радай, усе прыбыткі з мытніц, карчмаў, судовых штрафаў ужываць толькі са згоды паноў—рады і г. д. Калі абіралі наступнага вялікага князя Жыгімонта, паны—рада яшчэ больш павялічылі свае правы. Прывілей 1506 году ўстанавіў, што ўсе законы і загады, накіраваныя на карысьць дзяржавы, павінны выдавацца толькі пасьля сталага абмеркаваньня з панамі—радай, з іх ведама і згоды.

Зближэньне з Польшчай выклікала і тое, што вялікія князі літоўска-беларускія, каб мець аднолькавае з Польшчай прадстаўніцтва пры двары і на агульных польска-літоўскіх соймах, устанавілі такія самыя вышэйшыя пасады і прыдворныя годнасьці, якія былі і ў Польшчы. У вялікім княстве Літоўскім зьявіліся ваяводы, як краёвыя

намесьнікі, кашталяны, маршалкі (земскі і дворны) канцлер і падканцлер, падскарбі (земскі і дворны), гэтманы (найвышэйшы і дворны), падчашы і чашнік, крайчы і кухмістар, падстолі і стольнік, падкаморы і каморнікі, канюшы дворны, харунжы (земскі і дворны), мечнік, сакратары і пісары. І ўрадавыя асобы на мясцох паступова атрымалі польскія найменьні—стараст, дзяржаўцаў (замест ранейшых намесьнікаў і цівунаў). Даўнейшыя заможныя баяры, буйныя самастойныя зямляўласьнікі пачалі, так як і ў Польшчы, празывацца панамі, а звычайныя баяры—шляхціцамі, зямянамі. Літоўска-беларуская зямляўласьніцкая кляса ўзяла сабе ня толькі польскія найменьні, але таксама і ідэі аб сваёй шляхотнасьці, аб сваім вяльможным пахаджэньні, аб розьніцы паміж імі і простымі людзьмі—халопамі. Разам з гэтымі паняцьцямі перашлі ў вялікае княства Літоўска-Беларускае і некаторыя зьвязаныя з імі звычаі—гэрбы і кляйноты, надаваньне шляхоцтва, прысьвячэньне ў рыцары і г. д.

Лучнасьць з палякамі адбілася і на ўнутраным жыцьці літоўска-беларускага грамадзянства; паводле аднае з умоў першае вуніі Літвы з Польшчай было, як ужо адзначана, тое, што літоўскія баяры і князі павінны былі прымаць каталіцкую веру. Пасьля заснаваньня ў Вільні і ў Жамойці біскупскіх катэдраў і ўтварэньня саборных капітулаў, каталіцтва пачало пашырацца і сярод народных гушчаў літоўскае нацыянальнасьці. Што датычыць вышэйшых кляс беларуска-украінскага грамадзянства, дык іх спачатку схілялі ў каталіцкую веру прывілеямі, якія давалі каталіком. Калі-ж гэты спосаб пачаў даваць малыя вынікі, а прывілеі, нададзеныя каталіком, выклікалі толькі нацыянальна-палітычны антаганізм у Літоўска-Беларускай дзяржаве, пачалі рабіць спробы далучыць беларусаў і украінцаў грэцкае веры да рымскай царквы праз вунію. У пачатку XV сталецьця ў каталіцкай царкве, пад уплывам „вялікага расколу“, які здарыўся ў выніку абраньня спачатку двох, а потым трох пап, пачаўся саборны рух да рэформы царквы, да ўсеагульнае хрысьціянскае згоды, да зьнішчэньня схізмы ня толькі ў нетрах каталіцкае царквы, але і паміж заходняй і ўсходняй царквой. Літоўскі ўрад, з свайго боку, спагадаў гэтаму руху, маючы на мэце ўтварыць унутраны спакой у сваёй дзяржаве праз зьнішчэньне нацыянальна-рэлігійнага антаганізму. Вітаўт паслаў на Канстанцкі сабор кіеўскага мітрапаліта Рыгора Цамбляка, з біскупамі, каб той вёў перамаўленьне аб вуніі грэцкае царквы з рымскаю. З вуніі на гэты раз нічога ня вышла, але думка аб ёй не памірала. Калі сабраўся ў 1431 годзе сабор у Базэлі, праваслаўныя князі і баяры вялікага княства Літоўска-Беларускага прыслалі на сабор заяву аб тым, што яны згодны далучыцца да вуніі з рымскай царквой, калі толькі іх „старэйшыя“ прыдуць да згоды з айцамі сабору. Гэтыя „старэйшыя“, як ведама, прышлі, урэшце, да згоды. На флёрэнтыйскім саборы 1439 году мітрапаліт „усяе Русі“ Ізыдар далучыўся да вуніі з рымскай царквой. Маскоўцы не прынялі вуніі, але праваслаўныя ў Літоўска-Беларускай дзяржаве спачатку не пярэчылі. Літоўска-беларуская царква аддзялілася ад ўсходня-славянскай і засталася пад кіраўніцтвам мітрапаліта-вуніта, спачатку Ізыдара, а потым, з 1458 году,—Рыгора Баўгарына. Але, ня гледзячы на ўсё гэта, беларусы дрэнна ўспрыймалі вунію, што адбівалася і на паводзінах духавенства. Наступнікі Рыгора Баўгарына на мітрапаліцкай катадры пасылалі за благаслаўленьнем да канстантынопальскіх патрыярхаў, якія ўжо парвалі з вуніяй. Гэта было прычынай таго, што Літоўскі ўрад заснаваў на Літве, а таксама на Беларусі і Украіне некалькі манастыроў Бэрнардынскага ордэну, каб „браты гэтых манастыроў сваім навучаньнем і жыцьцём

далучалі гарэтыкаў і схізматыкаў гэтых краін да адзінства царквы". Урад пачаў ужываць некаторы ўціск; гэтак напрыклад, у 1481 годзе, быў выдадзены загад, які забараняў праваслаўным будаваць цэрквы аднаўляць даўнейшыя і рамантаваць старыя, але ўсе гэтыя мерапрыемствы ня толькі не дасяглі свае мэты, але нават выклікалі бязладзьдзе і абурэньне ў вялікім княстве. Ужо ў 1481 годзе князі—Міхал Алелькаў Слуцкі, Хведар Іванаў Бельскі і адзін з князёў Гальшанскіх зрабілі змову з мэтай загубіць караля Казімера, а калі гэтага зрабіць не здалеюць, дык „адсесьці" ад вялікага княства з усімі землямі, што на берагох ракі Бярозы, і злучыцца з Масквой. Некалькі пазьней пачалі „адсядаць" ад Літвы і злучацца з Масквой „верхаўскія" князі. Націск каталіцызму быў прычынай таго, што і вялікі князь Маскоўскі пачаў барацьбу з Літвой за беларускія землі і анэксаваў іх. Літоўскі ўрад прымушаны быў адмовіцца ад усялякіх рашучых мерапрыемстваў дзеля пашырэньня вуніі; ён абмежаваўся толькі тым, што прызначаў на мітрапаліцкую катадру асоб, якія не вызначаліся царкоўнай нязносьлівасьцю, як, напрыклад, Язэп Солтан. Агулам кажучы, калі царкоўная вунія формальна і ня была, дык усё-ж-ткі ў значнай меры паслаб царкоўна-нацыянальны антагонізм паміж каталіцкай Літвой і праваслаўным жыхарствам. Шмат дапамагала гэтаму і зраўненьне літоўцаў і беларусаў у правох і вольнасьцях, якое адбылося ў зьвязку з пробамі ўвесьці царкоўную вунію.

Польскія ўплывы на быт літоўска-беларускага грамадзянства выявіліся і ў пашырэньні польскае мовы і польскае пісьменнасьці сярод вышэйшых кляс. Літоўскія вяльможы, якія разам з вялікім князем езьдзілі ў Польшчу або на соймы з палякамі, вучылі польскую мову, знаёміліся з польскімі модамі ў вопратках і ў хатнім абсталяваньні, знаёміліся з польскімі густамі ў кніжнай справе. Частая лучнасьць з палякамі адбівалася і на афіцыяльнай мове вялікага княства—беларускай, у якой усё больш і больш можна было сустрэць полёнізмаў. Таксама як і ў Польшчы, пачала афіцыяльна ўжывацца і сярэднявечная лаціна, на якой пачалі пісаць агульна-земскія прывілеі вялікага княства і некаторыя з краёвых (прывілеі Жамойцкае зямлі). Польшча ўцягнула Літву і ў больш жывыя, чымся раней, зносіны з Заходняй Эўропай. Літоўскія паслы, разам з польскімі, пачалі езьдзіць на розныя дыплёматычныя зьезды. Пачалі пасылаць літоўска-беларускую моладзь вучыцца ў заходня-эўропейскія унівэрсытэты для навукі (у Праскім Унівэрсытэце ўтварылася цэлая корпорацыя гэтае моладзі.) Моладзь з багатых родаў пачала вучыцца нават і ў італьянскіх унівэрсытэтах, якія былі вядомы сваёй юрыспрудэнцыяй. Там вучыўся, паміж іншымі, пан Альбрэхт Гаштольд, які стаяў на чале камісіі, што склала першы літоўскі статут. У Італіі вучыўся і вядомы пісар вялікага княства Літоўскага Іван Сапега, той самы „Івашка Пісар", які „нудзіў" вялікую княгіню Алёну да рымскага закону і які, паводле некаторых вестак, быў пачынальнікам літоўска-беларускага летапісаньня. Палітычная блізкасьць вялікага княства Літоўскага да Польшчы зьявілася прычынай і таго факту, што духоўнае жыцьцё літоўска-беларускага грамадзянства было праз гэта пад больш ранейшым, а разам з тым—і больш моцным уплывам заходня-эўропейскае думкі і асьветы, чымся гэта здарылася на славянскім усходзе. У Літву і Беларусь на працягу XV і XVI сталецьцяў ішлі і гуманістычныя і рэформацкія плыні. У бібліотэках літоўска-беларускіх шляхціцаў сустракаюцца ў гэты час творы Цэзара, Цыцэрона, Гомэра, працы з філёзофіі, мэдыцыны і прыродазнаўства. Таксама, як ў Заходняй Эўропе, і ў Літоўска-Беларускай дзяржаве выяўляецца імкненьне да сьвядомага вывучаньня

сьвятога пісьма, зьяўляюцца сьпісы бібліі з перакладам незразумелых старaславянскіх выразаў на беларускую мову, а потым і пераклады ўсяго тэксту на беларускую мову (эвангельле ў перакладзе Васіля Цяпінскага, біблія ў перакладзе доктара Падуанскага Унівэрсытэту Францішка Скарыны). Гэтыя пераклады, таксама як і на Захадзе Эўропы, былі апавесьнікамі царкоўнае рэформацыі, якая ахапіла ў XVI сталецьці Літву і Беларусь.





**Праф. Уладзімер Пічэта.**

Правадзейны Член Інстытуту
Беларускае Культуры.

# Полацкая зямля ў пачатку XVI сталецьця.

## I.



эрыторыяльнае адзінства Полацкае зямлі пачало раскладацца ўжо з пачатку XIII сталецьця. На той час як смаленскі князь Імсьціслаў улажыў умову з немцамі, у 1229 годзе, Віцебская зямля ўжо палітычна вылучылася з складу Полацкае зямлі. Віцебскі князь, нароўне з смаленскім і полацкім князьмі, прымаў удзел у ўкладаньні ўмовы 1229 году. Дзякуючы экономічнаму і палітычнаму ўзмацненьню Смаленскае зямлі—Полацкая і Віцебская землі падпалі пад фактычны протэкторат Смаленскага князя. Дзякуючы гэтаму самаму захавалася экономічнае адзінства Полацкае і Віцебскае земель, праз якія праходзіў найважнейшы гандлёвы шлях па Заходняй Дзьвіне да берагоў Балтыцкага мора. З часу экономічнага і палітычнага заняпаду Смаленскае зямлі, у другой чвэрці XIII сталецьця, Віцебская і Полацкая землі сталі незалежнымі адна ад другое і экономічна і палітычна.

XIII сталецьце было цяжкім часам для Полацкае зямлі. Суседняя Літва, якая на гэты час палітычна ўзмацнілася, рабіла заўсёды напады на Полацкую зямлю і страшэнна нішчыла яе. Насельніцтва Полацкае зямлі ня мела магчымасьці організаваць належную абарону ад літоўскіх нападаў. Частка насельніцтва шукала ратунку, уцякаючы ў паміжрэчча Акі і Волгі, дзе яна разьвінула вельмі значную колёнізацыйную дзейнасьць. Калі вусьце Заходняе Дзьвіны захапілі немцы, дык гэта, не даючы магчымасьці палачанам гандляваць вольна па Заходняй Дзьвіне, стаўляла Полацкую зямлю ў экономічную залежнасьць ад Лівонскага ордэну, што яшчэ больш падкрэсьлівала той цяжкі экономічны і палітычны стан Полацкае зямлі, у якім яна знаходзілася. Няма патрэбы пераглядзець яшчэ раз літоўска-полацкія ўзаемаадносіны. Аналіз гэтых узаемаадносін зрабіў і профэсар Дані-

левіч у сваёй „Гісторыі Полацкае зямлі“ [1]), і профэсар Любаўскі [2]). Адзначым, што, дзякуючы напружаным літоўска-полацкім узаемаадносінам, частка тэрыторыі Полацкае зямлі, якая засталася пасьля вылучэньня яе з складу Віцебскае зямлі, увашла ў склад уласна Літоўскага княства, гэта—мясцовасьці на поўдзень ад Заходняе Дзьвіны, а рэшта вялікае калісьці тэрыторыі Полацкае зямлі павінна была адчуць залежнасьць ад літоўскіх князёў.

Барацьба літоўскіх князёў з Полацкам скончылася ўтварэньнем у ім сувэрэнітэту Літвы. У 1387 годзе Полацак, які не хацеў падпарадкавацца Літве, быў абложаны братам Ягайлы Скіргайлам і, урэшце, павінен быў капітуляваць. Профэсар Любаўскі думае, што палачане толькі тады пусьцілі да сябе ў горад Скіргайлу, калі ім была забясьпечана полацкая палітычная старасьветчына і абвешчаны непарушнымі полацкія правы і вольнасьці [3]). Профэсар Любаўскі заўважае, што і паводле пацьвярджальнага прывілею Полацкае зямлі ад 23 ліпня 1511 году пачатак пацьвярджэньня палітычных праў і вольнасьцяй Полацкае зямлі адносіцца да часоў Скіргайлы [4]).

Першапачатковы тэкст гэтых „добраваленств“ не захаваўся. Усе гэтыя „добраваленствы“, якія вядуць свой пачатак ад часу Скіргайлы і Вітаўта, аб'ядналіся ў вышэйпамянёным пацьвярджальным прывілеі ад 23 ліпня 1511 году. Самы „пацьвярджальны земскі прывілей“ ня быў даўгі час прадметам самастойнага навуковага вывучэньня. Толькі ў 1903 годзе малады дасьледчык гістарычнага лёсу Літоўска-Беларускае дзяржавы Якубоўскі, зрабіў спэцыяльны крытычны аналіз пацьвярджальнага прывілею Полацкае зямлі [5]). Гэта дало магчымасьць дасьледчыку прысьці да вельмі каштоўных вывадаў і нагляданьняў. Якубоўскі адзначыў у пацьвярджальным прывілеі ад 23 ліпня 1511 году прысутнасьць дзьвёх частак, розных з боку формы і зьместу: адна з іх мае шмат архаізмаў, і з боку мовы і зьместу належыць да больш старадаўніх часоў; другая частка—больш позьняга пахаджэньня. Артыкулы абедзьвюх частак перамешаны адны з другімі, але вылучэньне іх з ліку найбольш архаічных не выклікае асаблівае цяжкасьці [6]). Можна зусім згадзіцца з прыпушчэньнем Якубоўскага, што самая старадаўняя частка Полацкае Ўстаўнае Граматы ад 23 ліпня 1511 году ўяўляе сабой нішто іншае, як частку граматы аб угодзе жыхароў Полацку з сваім князем у першай палове XIV сталецьця. Пільная патрэба такога пісанага „раду“ тлумачылася прысутнасьцю ў Полацку паасобных удзельных князёў, спачатку ў асобе Война, брата Вітэна і Гэдыміна, а потым—у васобе князя Андрэя (сына Альгерда, які стаў Полацкім князем яшчэ пры жыцьці бацькі і быў на чале зямлі на працягу трыццаці год [7]).

Радная грамата палачан з сваім князем, укладаньне якое Якубоўскі адносіць да першае чвэрці XIV сталецьця і тэкст якое, можна здагадвацца, захаваўся ў пацьвярджальным прывілеі ад 23 ліпня 1511 году, складалася з 11 артыкулаў. Грамата аб угодзе забясьпеч-

---

1) В. Е. Даннлевич. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV века. Кіев, 1896.

2) Областное деление и местное управление Литовско-Русского Государства ко времени издания первого Литовского Статута. Исторические очерки Матвея Любавского, 1892. (Адбітак з выданьня: „Чтения в обществе истории и древностей российских“), стар. 28—31. (Далей прыводзіцца скарочана: „М. К. Любавский, Областное деление“).

3) М. К. Любавский, Областное деление. стар. 30.

4) М. К. Любавский, ibidem.

5) И. Я. Якубовский. Земския привилеи великого княжества Литовского. („Журн. Мин. Нар. Просв.,“ 1903, красавік-чэрвень).

6) И. Я. Якубовский, op. cit., („Журн. М. Н. Пр.“, чэрвень, 1903), стар. 203.

7) М. К. Любавский, op. cit., стар. 29.

вала полацкую царкву ад таго, каб князь не мяшаўся ў яе справы: „што же церкви божией, тобе не вступатися, в дом божий святой Софеи, у дом божий святого спаса и в иные церкви не вступати со тобе“. Паводле ўгоды Полацкі князь адмаўляўся ад пасяганьняў на адмерлую маемасьць, „беззадщину и отмерщину“, а таксама адмаўляўся ад таго, каб мяшацца ў справы куплі і продажы зямель: „и в купленницы Полоцкие ти не вступатися“. Грамата абараняла насельнікаў Полацкае зямлі ад самавольнае падворнае павіннасьці: „а в подводы ти, княже, коней в полочан не брати ни в посельских путников ни в сябров городских“. Грамата абараняла непарушнасьць процэсуальнае старасьветчыны. Яна забараняла даваць веру паказаньням халопаў: „а холопы и рабе веры не няти“; забясьпечвала справядлівасьць судовых спраў: „а о обаде ис права дати“; нязьменнасьць даўнейшых судовых пастаноў: „а старых судов ти не посуживати“; вызваляла з астрогу тых, хто меў заручнікаў: „а через поруку внятство не сажати“. Урэшце, грамата забараняла прымаць пад увагу тыя паказаньні, якія былі дадзены ў часе катаваньня: „а по муце веры не няти“, і забараняла палачанам, пад пагрозаю кары, хаваць ад князя прыпісаныя да князёўскага стала рэкі і азёры: „а полочанам рек и озер княжих не таити и хто потаит, того ти, княже, казнити“. Такою павінна была быць грамата Полацку аб угодзе з сваім князем у першай палове XIV сталецьця. Запраўды, усе артыкулы архаічны з боку свае мовы і зьместу. Яны былі звычайнымі пакуль не настаў час узаемаадносін князя з вечам на падставе ўмовы. Сталая экономічная і палітычная сувязь Полацку з Ноўгарадам мела магчымасьць зрабіць у пэўным кірунку ўплыў на праўную формулёўку полацкае старасьветчыны, якую далі ёй палачане. Зусім магчыма, што „добраваленствы“ Скіргайлы, якія той даў Полацку, і былі зьмешчаны ў вышэйпамянёнай грамаце.

Політычна-праўнае палажэньне Полацкае зямлі зьмянілася ў часы Вітаўта, уладу якога Полацак прымушаны быў прызнаць. Разам з тым, Полацкая зямля павінна была адмовіцца ад таго, каб мець свайго князя, і прыняць намесьніка ад вялікага князя Вітаўта (1392). Дзеля замірэньня насельніцтва Вітаўт павінен быў выдаць новы прывілей, які замацаваў за палачанамі іх політычна-бытавую старасьветчыну і даў новыя „добраваленствы“. Якубоўскі адносіць апавяшчэньне гэтага прывілею да 1392—1399 гадоў. У 1399 годзе Вітаўт быў у Полацку, дзе зацьвердзіў умову палачан з Рыгай [1]). Тое, што Полацак прызнаў сувэрэнітэт вялікага князя Вітаўта, рабіла паважныя зьмены ў дзяржаўна-праўным палажэньні Полацкае зямлі. У Полацку было зьнішчана самастойнае князяваньне; замест удзельнага князя ў Полацку сядзеў намесьнік вялікага князя, якога сталі тытуляваць, з пачатку XVI сталецьця, ваяводаю. Барацьба Вітаўта з тым, што засталося ад удзельна-фэўдальнае сыстэмы, патрабавала асьцярожнае і лагоднае політыкі ў адносінах да насельніцтва зямель, бо яно згадзілася-б з адбыўшыміся дзяржаўна-праўнымі зьменамі ў палажэньні зямель толькі тады, калі атрымала поўную забясьпеку з боку ўлады ў непарушнасьці ўсяе політычна-праўнае старасьветчыны.

Полацкі прывілей Вітаўта ішоў насустрач гэтаму жаданьню. Ён ня толькі пацьвердзіў усе артыкулы старадаўняе Полацкае граматы, аб угодзе з сваім князем, і гэтым перанёс усе абмежаваньні ўлады Полацкага князя на самога вялікага князя, але замацаваў за Полацкай зямлёй асаблівае політычна-праўнае палажэньне, на падставе якога

[1]) И. Я. Якубовский, op. cit.. („Журн. М. Н. Пр.“, чэрвень, 1903), стар. 269.

Полацкая зямля, здабыла рад палітычных прывілеяў. Дзякуючы гэтым прывілеям Полацкая зямля захавала ўнутраную аўтономію, прызнаючы, у той самы час, сувэрэнітэт вялікага князя. Яна стала аднэй з частак вялікага княства Літоўскага і карысталася асаблівымі правамі і перавагамі, якія, у значнай меры, абмяжоўвалі прэрогатывы ўлады вялікага князя ў адносінах да насельніцтва Полацкае зямлі.

Прывілей Вітаўта разглядаў Полацкую зямлю як тэрыторыяльную, палітычна-вылучаную адзінку, з сваімі мясцовымі правамі і перавагамі. З гэтага вынікала права засяленьня зямлі, права мець у сябе намесьнікаў, толькі—са згоды палачан. Вялікі князь ня меў права прызначыць у Полацак намесьніка „супроць іх волі“. Таксама, намесьнік, якім насельніцтва было нездаволена і якога яно вымагала зьмяніць, павінен быў быць звольнены ад сваіх абавязкаў. Вялікі князь прымаў на сябе ў такім выпадку абавязак „им наместника иного дати, по их воле“[1]). Вызначэньне кандыдатаў на пасаду намесьніка паказвае на тое, што існаваў сход краю, які, у пэўнай меры, меў магчымасьць выяўляць волю тых грамадзкіх груп, якія займалі кіраўнічае становішча.

Намесьнік, якога стаўляў вялікі князь, павінен быў безадкладна „первого дня ему кресть целовати и полочанам на том, чтобы без исправы полочанина не казнити ни в чем“. Гэтым забясьпечваліся справядлівыя пастановы судоў[2]). Полацкая зямля, прызнаючы сувэрэнітэт вялікага князя Літоўскага, павінна была быць выключна пад яго ўладай. Правы вялікага князя ў адносінах да Полацкае зямлі не павінны нікому перадавацца—„а полочанам не даритися никому“[3]). Прывілей Вітаўта абараняў насельніцтва ад самавольных пабораў з боку намесьнікаў. Прывілей забараняў намесьніку ўсялякія падарожы па краіне, выключаючы толькі падарож на паляваньне, у часе якіх насельніцтва аслабанялася ад даваньня намесьніку якіх-колечы натуральных падарункаў: „и по станам не дарити“[4]). Прывілей Вітаўта, прызнаючы за палачанамі ўнутраную аўтономію, надаваў насельніцтву права „всем жити в Полоцку добровольно, покуль кто хочет“. Нездаволеныя мелі права выехаць „куды кго хочет без кождой зачепкі“, маючы права ўжыць сваю нярухомую маемасьць паводле ўласнага жаданьня. Палачане маюць і мясцовую тэрыторыяльную падсуднасьць. Усе справы, што датычаць палачан, „хатя бы о смертной вине“, разглядаюцца „в Полоцку по их праву с полочанами по испросу“. Позва ў Літву адказчыка згодна з просьбай існа—немагчымае зьявішча[5]).

Полацкі прывілей Вітаўта даў Полацкай зямлі і некаторыя фінансавыя правы і перавагі, якія павінны былі зрабіць больш цесную сувязь паміж Полацкаю зямлёй і іншымі часткамі вялікага княства Літоўскага. З гэтаю мэтай з палачан зьнялі мыта „по всей нашей державе“[6]). Урэшце, прывілей 1399 году надаў палачанам права караць самім тых палачан, якія „загудят воск в Ризе или инде, а приедет до Полоцка“[7]).

Полацкі прывілей 1399 году выразна падкрэсьліў асаблівае дзяржаўна-праўнае палажэньне Полацкае зямлі ў складзе вялікага княства

---

1) И. Я. Якубовский op. cit., („Журн. М. Н. Пр.“, чэрвень, 1903), стар. 298, арт. 21.
2) И. Я. Якубовский, ibid., арт. 22.
3) И. Я. Якубовский, op. cit., („Журн. М. Н. Пр.“, чэрвень, 1903), стар. 297, арт. 17.
4) И. Я. Якубовский, ibid., арт 13.
5) И. Я. Якубовский, op. cit., („Журн. М. Н. Пр.“, чэрвень, 1903), стар. 298, арт. 24.
6) И. Я. Якубовский, ibid., арт. 18.
7) И. Я. Якубоўский, ibidem.

Літоўскага. Праз гэта былі дасягнуты як тое, што палачане пагадзіліся з уладай вялікага князя, гэтак і тое, што і ўдзельнага князя замянілі пасадай намесьніка. Прывілей не крануў дзяржаўна-праўнае і бытавое старасьветчыны. Затое на насельніцтва ўскладаўся абавязак заўсёды быць нарыхтаваным да таго, каб ісьці на вайну [1]).

У змаганьні цэнтральных краін, якія мелі прывілеі, з краінамі паўзьмежнымі, якія прывілеяў ня мелі, а змаганьне пачалося, як памёр Ягайла, Полацак спагадаў спачатку Сьвідрыгайлу. Толькі пасьля таго, як Сьвідрыгайлу канчальна перамаглі, Полацак, а разам з ім і Віцебск былі прымушаны прыняць намесьнікаў вялікага князя Жыгімонта (сына Кейстута) [2]). Жыгімонт павінен быў даць Полацку новы прывілей, у якім былі пацьверджаны ўсе дадзеныя раней „добраваленствы“ і нададзены новыя. Паводле думкі Якубоўскага, гэты прывілей быў дадзены ў тэрмін паміж 1436—1440 гадамі. Гэтае прыпушчэньне Якубоўскага зусім правільнае. Дакладнасьць паказанае даты выходзіць з агульнага палітычнага палажэньня Полацку. Аднаўляючы прывілей Жыгімонта, Якубоўскі лічыць, што ён абхапіў „добраваленствы“ Вітаўта і Сьвідрыгайлы. Праўда, у пацьвярджальным прывілеі 23 ліпня 1511 году замест Сьвідрыгайлы гутарка ідзе аб Скіргайле. Якубоўскі лічыць гэта звычайнаю памылкаю перапішчыка, бо наступнікам Вітаўта на стале вялікага князя быў Сьвідрыгайла. Апроч таго, нічога ня ведама аб прывілеях Скіргайлы, які быў кароткі час намесьнікам Ягайлы ў Літве [3]). Якубоўскі знаходзіць пацьвярджэньне свае думкі аб памылцы ў пацьвярджальным прывілеі, які даў Полацкай зямлі Жыгімонт-Аўгуст 21 лютага 1547 году, бо ў ім замест слова „Скиргайла“, напісана „Швидрыгайла“ [4]). Згадзіцца з гіпотэзай Якубоўскага можна толькі часткай і прызнаць правільным чытаньне прывілею Жыгімонта-Аўгуста, але толькі ў значна больш абмежаваных рамках у параўнаньні з прыпушчэньнем Якубоўскага. Нам здаецца, што ў прывілеі ад 23 ліпня 1511 году няма тае значнае памылкі, аб якой кажа Якубоўскі. Вялікі князь Скіргайла быў адным з аўтараў полацкае аўтаноміі. Вось чаму тое, што яго імя ўспамінаецца ў прывілеі, не выклікае ніякае асаблівае падазронасьці. Трэба думаць, што ў гэтым выпадку ў самым тэксьце прывілею ня было ніякае памылкі перапішчыка. Полацкая зямля падтрымала вялікага князя Сьвідрыгайлу ў яго змаганьні з Жыгімонтам, сынам Кейстута. У часе змаганьня, калі ўсё было пастаўлена на карту, калі самі палачане былі зацікаўлены ў тым, каб перамог Сьвідрыгайла, ня было месца асаблівым дзяржаўна-праўным актам. Зразумела, вялікаму князю Сьвідрыгайлу даводзілася раздаваць землі, і гэтыя раздачы пацьвердзіў Казімер і яго наступнікі. У гэтым выпадку падмен слова „Скиргайла“ словам „Швидригайла“ у тэксьце пацьвярджальнага прывілею Жыгімонта-Аўгуста можна лічыць правільным, што зусім адпавядала тэй палітычнай кон'юнктуры, у ўмовах якое адбывалася палітычная дзейнасьць вялікага князя Сьвідрыгайлы.

Прывілей Жыгімонта, сына Кейстута, пацьвердзіў „добраваленствы“, якія далі Полацку вялікія князі Сьвідрыгайла і Вітаўт. У тэксьце, які аднавіў Якубоўскі, ёсьць 44 артыкулы—на 20 артыкулаў больш у параўнаньні з папярэднім прывілеем Вітаўта. У дзяржаўна-праўных адносінах новы прывілей ня даў ніякіх новых пераваг, за выключэнь-

---

[1]) И. Я. Якубовский, op. cit., („Журн. М. Н. Пр.“, чэрвень, 1903), стар. 297, арт. 12.
[2]) М. К. Любавский, op. cit., стар. 30.
[3]) И. Я. Якубовский, op. cit., („Журн. М. Н. Пр.“, чэрвень 1903), стар. 264.
[4]) И. Я. Якубовский, op. cit., („Журн. М. Н. Пр.“, чэрвень 1903), стар. 301.

нем артыкулу, які забараняў полацкім намесьнікам „городом дарити". Рэшта артыкулаў абараняе насельніцтва ад самавольных пабораў і павіннасьцяй з боку розных устаноў сьвецкае і духоўнае ўлады [1]).

Часы Казімера Ягелёнчыка—новы момант у гісторыі Полацкае канстытуцыі. Казімер Ягелёнчык, дзеля дасягненьня згоды паміж насельніцтвам краін прывілеяваных і непрывілеяваных, павінен быў абвесьціць 2 мая 1447 году новы прывілей, у якім зямляўласьнікі,—шляхта і мяшчане,—атрымалі рад істотных праў і пераваг. Каб супакоіць насельніцтва Полацкае зямлі, Казімер Ягелёнчык дадаў да старых артыкулаў Полацкае канстытуцыі яшчэ новыя, у якіх адбіўся зьмест прывілею 2 мая 1447 году. Полацкая зямля атрымала ад Казімера Ягелёнчыка пацьвярджальны прывілей, з дадаткам новых артыкулаў (1451). Новыя артыкулы ўводзілі ў склад Полацкае канстытуцыі асноўныя палажэньні прывілею 2 мая 1447 году. Гэта былі: 1) гарантыя асабовае недатыкальнасьці і публічнага разгляду судовых спраў; 2) індывідуальная адказнасьць за злачынствы; 3) права вольнага кіраваньня вотчыннымі маёнткамі, у вадпаведнасьці з жаданьнямі іх уласьнікаў; 4) прызнаньне за зямляўласьнікамі права на вотчынны суд; 5) права не плаціць сярэбшчыны; 6) права ўдавы на маемасьць.

У часы новага вялікага князя Аляксандра, сына Казімера, тэкст Полацкае канстытуцыі быў пацьверджаны і дададзены двома артыкуламі, як гэта дакладна давёў Якубоўскі. Гэты дадатак новых артыкулаў быў выкліканы тым, што Полацак атрымаў 7 кастрычніка 1498 году прывілей на Майдэборскае права. Новыя артыкулы вялікага князя Аляксандра забясьпечвалі непарушнасьць усіх зробленых зямельных дасягненьняў і атрыманых унутры гораду данін—да таго часу, як быў абвешчаны прывілей на Майдэборскае права, з умовай, каб насельніцтва, якое жыло на гэтых землях, у выпадку, калі-б, „хотели купецто, або ремеслом, которым ся бы ходити, ты мают з мещанами нашими серебщизну и ордынщину платити и иные поплатки ку пожитку нашего земскому" [2]). Урэшце, у часы Жыгімонта I канчальна склаўся тэкст Полацкае канстытуцыі, да якой у пацьвярджальным прывілеі 23 ліпня 1511 году былі дададзены тры новыя артыкулы; паводле гэтых артыкулаў, папершае, полацкая важніца знаходзілася пад сумесным загадам баяр і мяшчан; падругое, царкоўныя баярскія людзі былі звольнены ад удзелу ў выплаце сярэбшчыны, якую войт, бурмістар і радцы „на своей потребе кладут на наше место", і, урэшце, патрэцяе,—падзел лясоў баярскіх ад мяшчанскіх. Мяшчане ня маюць права браць лясныя матар'ялы ў баярскіх лясох „на свои потребы меские". Мяшчане маюць права браць „на свои потребы" лес каля гораду, „в наших борех и лесех и дубровах, и гаях, где сдавна будут бирали, а в боярской не мают брать". Так канчальна склаўся тэкст Полацкае канстытуцыі [3]).

Паводле свае канстытуцыі Полацкая зямля карысталася асобнымі дзяржаўна-праўнымі нормамі, якія вылучалі яе ў паасобную ад іншых частак дзяржавы тэрыторыю і адносіны якое да цэнтральнае ўлады вельмі выразна выявіліся ў самой канстытуцыі. Дзякуючы гэтаму правы і паўнамоцтвы ўлады вялікага князя былі ў значнай меры зьменшаны тымі публічна-праўнымі нормамі, якія зьмешчаны ў Полацкай канстытуцыі [3]).

---

[1]) И. Я. Якубовский, ibidem.
[2]) И. Я. Якубовский, op. cit., („Журн. М.Н.Пр.", чэрвень 1903), стар. 303.
[3]) Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической Комиссией. С.-Петербург. (Т I, 1846; т. II, 1847; т. III, 1848; т. IV, 1850). Т. II, № 70. (Далей прыводзяцца скарочана: „Акты Зап. России").

Полацкая зямля—адна з складаных частак Літоўскага вялікага княства, аднак такая, якая захавала нязьменнаю сваю праўна-бытавую старасьветчыну. Яе злучанасьць з цэнтральнай уладай абмяжоўвалася толькі прызнаньнем сувэрэнітэту вялікага князя, а гэты сувэрэнітэт выяўляўся ў асобе намесьніка ваяводы, якога абірала насельніцтва. Апошні зьяўляўся запраўдным прадстаўніком інтарэсаў Полацкае зямлі, а таксама выяўнікам яе палітычнага і тэрыторыяльнага адзінства. Насельніцтва Полацкае зямлі мае права вызначаць вялікаму князю пажаданых яму кандыдатаў на пасаду намесьнікаў-ваявод. Гэтыя намесьнікі знаходзяцца на пасадзе да таго часу, пакуль яны „любы" насельніцтву. Намесьнік-ваявода ня можа быць прадстаўніком інтарэсаў Полацкае зямлі, калі яго не жадае насельніцтва. Вызначэньне кандыдатаў на пасады намесьнікаў-ваявод, а таксама адсылка вялікаму князю паклоннае просьбы ад імя ўсяе зямлі прыпушчаюць функцыянаваньне спэцыяльных установ, краёвых соймаў, пастановы якіх зьяўляюцца адбіткам думак усяе Полацкае зямлі. Зразумела, соцыяльны склад такіх краёвых соймаў быў даволі абмежаваным. Звычайна, прадстаўніцтва Полацкае зямлі складалася з тутэйшых баяр, а таксама з мяшчан, якія жылі ў горадзе. Краёвы сход гораду быў прадстаўніцтвам усяе зямлі, у ім можна бачыць факт захаваньня глыбокае вечавое старасьветчыны.

Намесьнік-ваявода—прадстаўнік улады вялікага князя. Ён адпраўляе суд ад імя вялікага князя. Намесьнік-ваявода адпраўляе суд на месцы.

Вялікі князь ня мае права адпраўляць суду па-за межамі зямлі, калі на гэта ня згодны абодвы бакі. Прынятыя судовыя пастановы не падлягаюць перагляду. Самы суд ваявода павінен адпраўляць не адзін, але „с бояры и мещаны". Ваявода і яго слугі ня маюць права разглядаць у валасьцёх ніякіх судовых спраў. Ваяводзе забараняецца браць падаткі, якія ня вызначаны законамі: „от пригонов городских,—посулов не брати, а по волости нашей воеводе Полоцкому не ездити, а поедет ли коли в ловы ино по станом не дарити". Палітычна-праўная залежнасьць ваяводы ад насельніцтва зямлі выяўлялася яшчэ і ў тым, што ён прысягаў „што же без их справы полочанина ни в чем не казнити". Такім чынам, полацкі прывілей вельмі яскрава і выразна выявіў палітычна-тэрыторыяльнае адзінства Полацкае зямлі і поўную незалежнасьць у справах унутранага кіраваньня. З гэтага дзяржаўна-праўнага палажэньня Полацкае зямлі выходзіла і абмежаваньне ўлады вялікага князя што да кіраваньня полацкімі валасьцямі і гарадамі. Вялікі князь Літоўскі абавязваўся перад палачанамі „не даритися никому", і, апроч таго, не даваць гарадоў ваяводзе ва ўласнае карыстаньне: „а воеводам городом не дарити". Такім чынам, правы і перавагі ўлады вялікага князя ў адносінах да Полацкае зямлі былі ў значнай меры абмежаваны. Правы вялікага князя сустрэліся з правамі і прывілеямі насельніцтва. Перамагло насельніцтва. Прэрогатывы ўлады вялікага князя зьвязала дзяржаўна-праўная традыцыя краю.

Полацкая констытуцыя, паколькі яна абараняла правы зямлі ад магчымых пасяганьняў на яе з боку прадстаўнікоў улады вялікага князя, ахапіла жыцьцё Полацкае зямлі з розных бакоў і тым самым замацавала палітычна-праўную старасьветчыну, якая стваралася на працягу сталецьцяў.

Полацкая констытуцыя забясьпечвала насельніцтву права пэтыцыі, асабовую недатыкальнасьць, індывідуальную адказнасьць за злачынствы і дала насельніцтву права вольнага ад'езду за межы Полацкае зямлі, „куды кто хочет". Улада вялікага князя абавязана была „силой не держати" таго, хто захоча выехаць, і не рабіць пры гэтым ні-

якіх перашкод. Полацкая констытуцыя забясьпечвала царкве недатыкальнасьць з боку сьвецкае ўлады як у царкоўных справах, гэтак і ў справах што да царкоўнае нярухомае маемасьці. Яна абараняла ніжэйшае духавенства ад залішняе экспплёатацыі з боку тутэйшага біскупства шляхам азначэньня тых падаткаў, якія паступалі ў скарб біскупа, а таксама забараняла „гривострызцу по волости ездити и лен драть". Правы зямляўласьнікаў констытуцыя таксама замацавала. Права вотчыннага суду над баярскімі людзьмі і „мещанскими сябры" было пакінута за ўласьнікамі. Толькі ў тым выпадку, калі гаспадар, ня гледзячы на вымогу аднаго з зацікаўленых, суду не адправіць, то магчыма пасылка дзецкага дзеля прыводу абвінавачаных на суд, аднак, з умовай выплаты гаспадару тае віны, якая будзе прысуджана. Царкоўныя і баярскія людзі, што жывуць у горадзе, але не займаюцца „купецством, або ремеством" ня прымаюць удзелу ў выплаце тае сярэбшчыны, якую войт і бурмістар будуць „меже себе на свои потребы покладати". Людзі, якія належаць да прыватных уласьнікаў, паколькі яны жывуць у горадзе і займаюцца „купецством, або ремеством", павінны прымаць удзел супольна з мяшчанамі ў выплаце як сярэбшчыны і ардыншчыны, гэтак і іншых „слушных податков купожитку нашому и земскому". З другога боку, духоўныя зямляўласьнікі, якія мелі за горадам фальваркі і сенажаці, ня мелі права сяліць на іх гандлёвых людзей і рамесьнікаў, а выключна—людзей сельскіх, „которые бы там хлеб робили". Гэтая забарона была зроблена дзеля таго, каб перашкаджаць рамесьнікам і гандлёвым людзям ухіляцца ад выплаты розных гарадзкіх падаткаў, якія яны павінны былі плаціць сумесна з мяшчанамі. Духоўныя і сьвецкія зямляўласьнікі, паколькі яны ўладалі дварамі і сядзібамі „в замку, або середь места Полоцкого", мелі права на „тых месцох их слуги и иные закладни за собой имети и их садити", якія выплачвалі сваім гаспадаром звычайны позем. Зразумела, насельніцтва, якое жыло на прыватна-ўласьніцкіх землях, ня мела права займацца ні гандлем, ні рамесьніцтвам. У праціўным выпадку яно павінна было прымаць удзел у выплаце дзяржаўных і спэцыяльна мяшчанскіх падаткаў, а таксама і ў павіннасьцях.

Полацкая констытуцыя, абараняючы інтарэсы зямляўласьнікаў ад самавольных пабораў з боку гарадзкое ўлады, у той самы час старалася абараняць інтарэсы мяшчанства з боку тых, хто ня быў упісаны ў склад гарадзкое грамады. Рэзюмуючы адносіны пэўных груп насельніцтва да гарадзкое грамады, у спэцыфічным сэнсе гэтага слова, Полацкая констытуцыя пакінула ў супольнае карыстаньне баяр і мяшчан эксплёатаваньне гарадзкое вагі. Прыбыткі ад вагі ідуць „к бояром і мещаном на полы, по давному подле уставы и суда отца нашего, маюць кождый год держати по два боярина и по два мещанина и плат с нее выбирати и свою половину мают обернути на свои потребы". Полацкая констытуцыя абараняла правы тутэйшых зямляўласьнікаў як у вадносінах да зямлякарыстаньня, гэтак і што да права карыстацца сваёю нярухомасьцю. У першым выпадку кожны, хто „держит отчизные именья свои, а любо што кому будет в. к. дал и в. к. Скиргайло дал и отец и брат наш, короли их милости што кому дали и што мы кому дали, то ему и держати, как в королевстве Польском, князе и панове и мещаны держат". З права ўласнасьці на нярухомасьць выходзіла і права вольнага карыстаньня сваёй нярухомасьцю. Кожны зямляўласьнік мае права „продати, или отдати, или заменити с ким",—толькі, каб была ўложана адпаведная ўмова ў прысутнасьці вялікага князя, або яго прадстаўніка — намесьніка. З факту карыстаньня нярухомасьцю выходзіла права на перайманьне маемасьці ў спадчыну („от-

мерщина") і права карыстацца маемасьцю паводле духоўніцы („беззадщина"). Улада вялікага князя ня мае права ўваходзіць „ни в без задщины, ни в отмерщины". Правам пераймань ня ў спадчыну нярухомае маемасьці карыстаюцца і ўдовы зямляўласьнікаў. Констытуцыя надавала баярскай або мяшчанскай удаве, „доколи она на вдовьем стольце сидит", права на кіраваньне маемасьцю мужа. Удава захоўвае за сабой права вольнага выхаду замуж у другі раз. У выпадку, калі шлюб адбыўся, удава захоўвае за сабою права ўладаць толькі тэй маемасьцю, „што ей будет муж записал". Самая-ж маемасьць павінна застацца ў карыстаньні дзяцей. Калі дзяцей няма, маемасьць пераходзіць да братоў першага мужа, і толькі, калі і братоў няма, крэўныя першага мужа маюць права на заўладаньне нярухомасьцю.

Насельніцтва Полацкае зямлі, згодна з констытуцыяй, было вольна ад выплаты сярэбшчыны на векі-вечныя, а таксама і ад выплаты мыта— на ўсіх абшарах Літоўска-Беларускае дзяржавы. Роўным чынам палачане былі вольны ад падводнае павіннасьці—„а подводы наши, коней полочан не брать ни в посельских путников, ни в сябров городских". Затое на насельніцтва ўскладаўся абавязак „бобры гнати по старой пошлине" і адбываць вайсковую службу вялікаму князю. Аднак, вайсковая павіннасьць была агульнадзяржаўнай з боку свайго характару, бо права ўладаньня зямлёй было агулам злучана з абавязкам служыць у войску. Вось якая Полацкая констытуцыя ў сваіх асноўных рысах. Яна прабавала ахапіць усе бакі жыцьця Полацкае зямлі, замацаваць у законе праўна-бытавую старасьветчыну і паставіць уладу вялікага князя, у ваднасінах да зямлі, у межы, дакладна вызначаныя ў законе. Гэтая констытуцыя дала панаваўшым грамадзкім групам шырокія політычныя правы і перавагі, дзякуючы якім яны атрымалі магчымасьць права вольнага кіраваньня ўнутраным жыцьцём Полацкае зямлі.

## II.

Памеры тэрыторыі Полацкае зямлі ў складзе Літоўска-Беларускае дзяржавы дакладна азначыў профэсар Любаўскі. На падставе стараннага аналізу географічных назоваў, якія сустракаюцца ў актавых матар'ялах аб Полацкай зямлі, профэсар Любаўскі думае, што Полацкая зямля ў сваім складзе мела частку Віцебшчыны, што на правым беразе Дзьвіны—Себежчыну, Дрысеншчыну, Полаччыну і Лепельшчыну, а таксама паўднёва-заходнюю частку самае Віцебшчыны (былы Віцебскі павет), заходнюю частку Сеньненшчыны, паўночную частку Барысаўшчыны і паўночна-ўсходнюю частку Віленшчыны [1]). Полацкая зямля знаходзілася ў вадазборы сярэдняе Дзьвіны і займала вельмі зручнае экономічна-географічнае палажэньне. Праз Полацкую зямлю праходзіў найгалаўнейшы гандлёвы шлях, па якім падтрымлівалі сувязь з Рыгай; значэньне гэтага шляху было вялізным для экономічнага разьвіцьця краю.

Полацкая зямля мае шмат лясоў, а глеба яе вельмі нявыгадна для сельска-гаспадарчае культуры. Дзякуючы благой якасьці глебы сялянская гаспадарка разьвівалася ў Полацкай зямлі нязвычайна марудна. Насельніцтва скіроўвала сваю гаспадарчую энэргію не на эксплёатаваньне зямлі. Наўзьмежнае палажэньне Полацкае зямлі з Масквой было, у сваю чаргу, фактарам, які рабіў адмоўны ўплыў на разьвіцьцё сельска-гаспадарчае культуры. Полацкая зямля, агулам кажучы,

[1]) М. К. Любавский, op. cit., стар. 261. Назовы паасобных частак тэрыторыі дапасаваны ў працы проф. Любаўскага да адміністрацыйнага падзелу б. Расійскае імпэрыі.




Карта Полацкае зямлі ў 1579 годзе.

мела мала хлеба. Калі Літоўска-Беларускі ўрад павінен быў зрабіць у канцы двацчатых гадоў XVI сталецьця пэўныя гаспадарчыя мерапрыемствы і забясьпечыць хлебнымі запасамі наўзьмежныя замкі, дык хлеб высылалі з Уцены, з Ушпольля, з Пенян, з Браслаўлю, з Анікшт, урэшце, з Панеманскіх двароў [1]), дзе сельска-гаспадарчая культура дала ўжо значныя вынікі і дзе сельска-гаспадарчая продукцыя дасягла пэўнага разьвіцьця, дзякуючы чаму магчыма было вывозіць хлеб у больш далёкія мясцовасьці, у якіх заўважалася нястача ў хлебе. Аднак, ня гледзячы на ўсе адмоўныя якасьці глебы, сельска-гаспадарчая культура, у XV і XVI сталецьцях, няўхільна разьвівалася ў Полацкай зямлі. Актавыя дакуманты, якія захаваліся ад тых часоў, даюць магчымасьць заўважыць досыць значную мобілізацыю зямельнае ўласнасьці [2]). Такое імкненьне да зямлі было выклікана гаспадарчымі меркаваньнямі і сьведчыла аб разьвіцьці сельска-гаспадарчае культуры. Полацкія зямляўласьнікі імкнуліся павялічыць памеры свае зямельнае ўласнасьці шляхам атрыманьня ад вялікага князя пусташы на векі-вечныя і з правам „отдати, продати и заменити ку своему житочному и лепшему обернути“ так, як сам зямляўласьнік знойдзе найбольш карысным,—„налепей разумеючи“ [3]). У меру разьвіцьця сельска-гаспадарчае культуры павялічвалася і залежнасьць сялянства, якое жыло на прыватна-ўласьніцкіх землях; сялянства, звычайна разам з зямлёй і рознай аромінай, аддавалася ва ўласнасьць прыватнай асобе і экономічна эксплёатавалася.

Таксама, ня гледзячы на разьвіцьцё сельска-гаспадарчае культуры, эксплёатаваньне лясоў і лясных багацьцяў было вельмі пашырана на тэрыторыі Полацкае зямлі. Апісаньне Полацкае зямлі, якое было зроблена ў 1552 годзе, дае матар'ял, які сьведчыць аб экономічным яе стане. Весткі з Полацкае рэвізіі зьяўляюцца матар'ялам, які дае малюнак папярэдняга экономічнага разьвіцьця краю. У гаспадарскіх пушчах ішло шырокае эксплёатаваньне лясных багацьцяў—палілі попел. Звычайна, увесь выраблены попел сплаўлялі па Дзьвіне да Рыгі [4]). Прыватныя асобы вывозілі попел з сваіх маёнткаў [5]). На працягу двох апошніх год перад рэвізіяй 1552 году ў гаспадарскіх пушчах выпалілі 390 лаштаў попелу.

Пры гаспадарскіх дварох і замках былі яшчэ сенажаці, якія касілі мясцовыя цяглыя людзі; сенажаці гэтыя назначаліся на патрэбы гаспадарскага двара. Роўным чынам, рыбацтва, на патрэбы замку і двара, а таксама паляваньне былі звычайнай павіннасьцю насельнітва [6]). Гаспадарскія двары мелі сваю асобную ворную зямлю, на якой працавала мясцовае цяглае насельніцтва [7]). Насельніцтва воласьці, якое жыло як на мяшчанскіх, гэтак і на баярскіх землях, займалася земляробствам. Звы-

---

[1]) Акты Литовско-Русского государства, изданные М. В. Довнар-Запольским. Выпуск I (1390—1529). Москва, 1899, № 197. (Далей прыводзяцца скарочана: „Акты Лит.-Русск. государства“).

[2]) Акты Литовской Метрики, собранные проф. Ф. И. Леонтовичем. Т. I. [Вып. 1 (1413—1498), Варшава, 1896 (№ 1—№ 427) і Вып. 2 (1499—1571), Варшава, 1897 (№ 428—№ 775)], №№ 322, 340, 341, 344, 542 і іншыя. (Далей прыводзяцца скарочана: „Акты Литовск. Метрики“).

[3]) Ibid., № 542.

[4]) Полоцкая ревизия 1552 года. К изданию приготовил И. И. Лаппо. Изд. Импер. Общества истории и древностей российских при Московском Университете. Москва, 1905. стар. 63. (Далей прыводзіцца скарочана: „Полоцкая ревизия“).

[5]) Літоўская Мэтрыка. Кніга Запісаў XVI, ліст 128 адвар. і 129. (Далей прыводзіцца скарочана: „Кніга Запісаў XVI“).

[6]) Полоцкая ревизия, стар. 58, 68 і іншыя.

[7]) Ibid., стар. 64, 72.

чайна зямляўласьнікі атрымлівалі пэўную частку ўроды, калі насельніцтва займалася сельскаю гаспадаркаю, а таксама—дадатковы прыбытак сельска-гаспадарчымі продуктамі. Шырокія гушчы валаснога насельніцтва, вядомыя пад назовам даньнікаў, плацілі сваім уласьнікам так званыя дані, звычайна,—натураю. Асабліва былі пашыраны так званыя мядовыя, кунічныя дані. У іншых выпадках дані натурай можна было замяняць грашыма.

Гарадзкія жыхары займаліся гандлем і рамесьніцтвам. Гэтым правам карысталіся ня толькі гарадзкія жыхары, у звычайным сэнсе гэтага слова, але і насельніцтва, якое жыло ў прыватна-ўласьніцкіх дварох, калі толькі яны выплачвалі, разам з гарадзкімі жыхарамі, сярэбшчыну і ардыншчыну [1]).

Гаспадарчым цэнтрам Полацкае зямлі быў горад Полацак. Прывілей на Майдэборскае права, які быў дараваны Полацку 7 кастрычніка 1498 году, дазваляў гораду мець на год тры кірмашы, прычым кожны з іх павінен быў цягнуцца ня больш як два тыдні. Кірмашы прызначаліся для гандлёвых умоў з замежнымі купцамі, бо ніводзін замежны купец ня меў права ні купляць, ні прадаваць тавараў, апроч як у дні, у якія былі кірмашы. Замежныя купцы мелі права купляць, дый то толькі гуртам, воск, або скуры наступных зьвяроў: саболя, куніцы, вавёркі, гарнастая, лісіцы, а таксама попел і смалу. Усё можна было закупляць толькі на месцы, а ні ў якім разе ня ў „лесе, а ни в борех, а ни в селах“. З свайго боку замежныя купцы прапанавалі на продаж: „сукна поставом, соль лаштом; перец, имбер, микдалы, и иншые зелья простые каменем; шафран, мушкаты, гвоздики, квет мушкатовый, кгалкган, цытвар и иншые зелья дорожшие—фунтом; секиры, ножы, и иншые речи таковские тахром або в тузину; железо, олово, медь, цынк, мосяж и иншые речи таковские цейтнаром; фиги, розынки кошем, вино какое колвек и пиво немецкое и иншее питье чужое бочкою целою“ [2]).

На палову XVI сталецьця Полацкая зямля была ўжо вельмі значна ўцягнута ў тавараварот. Насельніцтва, якое жыло на прыватна-ўласьніцкіх землях, выплачвала пэўную частку сваіх падаткаў грашыма, бо яно атрымала магчымасьць мець гэтыя грошы ў выніку беспасрэднага ўдзелу ў гандлі шляхам прапанаваньня на продаж тых продуктаў, на якія быў найбольшы попыт з боку замежнага купецтва. Аб пашыранасьці замежнага гандлю сьведчыць запіс аб прыбытках Полацкае каморы, які захаваўся дагэтуль (адносіцца да пачатку XVI сталецьця). Гэтак, на працягу двох год было адаслана за межы: у першы год 14.411 камянёў воску і 4.812—у другі год, а ўсяго 19.223 камяні воску [3]). Звычайна, у часе адсылкі воску за межы, зьбіралася мыта, але вялікі князь мог дазволіць і бязмытны вываз, што, зразумела, было не агульным правілам, а адступленьнем. Воск ня толькі скуплялі на месцы дзеля адсылкі за межы, але скуплены воск адсылалі ў Вільню, дзе мясцовыя васкоўнікі павінны былі „чыніць лічбу“ перад гаспадарскім маршалкам [4]).

Весткі аб мытных паступленьнях зьяўляюцца, да пэўнае ступені, паказальнікам унутранага таваразвароту. На жаль, яны вельмі няпэўны, але, ня гледзячы на гэта, яны захоўваюць сваю моц і значэньне.

---

1) Акты Зап. России, т. II. № 70.
2) Ibid., т. I, № 159.
3) Акты Лит.-Русск. государства, № 122—124.
4) Ibid., № 98.

Гэтак, паводле справаздачы падскарбія земскага, Абрагама Язаповіча, на працягу 1510—1511 гадоў, за 18 месяцаў, ад Полацкае мытнае каморы паступіла 1.350 коп грошай,—сума вельмі значная для таго часу [1]). Калі Полацак атрымаў прывілей на Майдэборскае права, дык ён павінен быў плаціць штогод гаспадарскаму скарбу 400 коп грошай [2]). Вызначэньне такое сумы было выклікана толькі тым, што прыбыткі ад замежнага гандлю былі даволі значнымі, і Полацак меў магчымасьць выплаціць вызначаную суму. Праўда, у трыццатых гадох XVI сталецьця гэты пададак быў зьменшаны да 200 коп грошай. Спачатку гэтае зьмяншэньне было часовым, але, з цягам часу, яно зрабілася сталым. Паводле вестак Полацкае рэвізіі 1552 году, у гаспадарскі скарб паступала 200 коп грошай [3]). Такое зьмяншэньне, відаць, было выклікана скарачэньнем замежнага гандлю, што, да пэўнае ступені, залежыла ад напружаных узаемаадносін, якія ўтварыліся паміж Літоўска-Беларускай дзяржавай і Масквой. Тое, што Полацкія карчмы аддаваліся на пасэсію, сьведчыла аб карыснасьці гэтага; такія ўмовы часткай залежылі ад гарадзкога гандлю. Гэтак, у пачатку XVI сталецьця гаспадарскі шляхціц Міхал Скапіеўскі не пабаяўся ўзяць на пасэсію полацкія карчмы на пяць год і заплаціць 2.000 коп грошай „дробнай лічбы" [4]). Відавочна, Скапіеўскі быў упэўнены ў тым, што ён ня страціць на гэтым прадпрыемстве.

Пацьвярджальны і пашыраны прывілей Полацку на Майдэборскае права, ад 27 жніўня 1510 году, дазваляў гарадзкой адміністрацыі пабудаваць чатыры гасьціныя двары, з умовай, каб палову прыбыткаў аддавалі на карысьць вялікага князя [5]). Праўда, гэтая пастанова да 1529 году, па нейкіх мотывах, ня была выканана. Гаспадар пагражаў мяшчанам, што ён пабудуе гасьціны двор на свой уласны кошт і возьме прыбыткі сабе, калі на працягу году ня будуць пабудаваны гасьціныя двары [6]). Відаць, пабудаваньне гасьціных двароў было карысна для ўраду, і ў той самы час гэта сьведчыла аб разьвінутым гарадзкім гандлі. Можна думаць, што Полацак спаткаў нейкія перашкоды ўнутранага характару, калі ня меў магчымасьці на працягу досыць значнага часу пабудаваць на ўласны кошт гасьціны двор.

Горад Полацак займаў у гандлёвых адносінах вельмі зручную мясцовасьць. Па галоўнай воднай артэрыі Полацак меў зносіны з Рыгай і Масквой. Гандаль з Рыгай для Полацку быў вельмі патрэбны, бо Полацак ня толькі атрымліваў праз Рыгу продукты заходня-эўропейскае вытворчасьці, але таксама ён даставаў і хлеб, у якім, дзякуючы стану сельскае гаспадаркі, у Полацкай зямлі адчувалася вялікая патрэба. Гандлёвыя зносіны з Рыгаю вялі ўвесь час за сабой непаразуменьні, асабліва—да перамогі над нямецкім ордэнам ля Грунвальду ў 1410 годзе. Немцы, якія заселі ў вусьці Заходняе Дзьвіны, мелі поўную падставу стаўляць перашкоды полацкаму гандлю, каб гэтым самым трымаць Полацак у поўнай ад сябе залежнасьці. Зразумела, Рызе было вельмі важна не прапушчаць хлеб у Полацак, бо адносіны паміж немцамі і літоўцамі ўвесь час былі напружаныя. Што Полацак адчуваў вялікую патрэбу ў хлебе, відаць, хаця-ж бы з таго, што, калі ў пачатку XIV сталецьця да Полацку дашлі весткі аб спыненьні вайны

[1]) Ibid., № 133. Проф. М. В. Довнар-Запольский. Государственное хозяйство великого княжества Литовского при Ягеллонах. Том I. Киев, 1901. стар. XXI.

[2]) Акты Зап. России, т. I, № 159.

[3]) Полоцкая ревизия, стар. 28.

[4]) Акты Лит.-Русск. государства, № 84.

[5]) Акты Зап. России, т. II, № 61.

[6]) Акты Лит.-Русск. государства, № 191.

паміж князем Вітэнам і немцамі, то зараз-жа ад імя полацкага біскупа Якава была паслана грамата да ўлады Рыгі, у якой прасілі прапусьціць хлеб у Полацак; грамата дэкляравала здаволіць рыскіх жыхароў ва ўсіх справах у вадносінах да полацкіх купцоў, з умовай,—калі, з свайго боку, Рыга здаволіць у такіх-жа самых справах полацкіх купцоў [1]). Аднак, ня гледзячы на тое, што нямецкі ордэн быў у значнай меры аслаблены і ваенныя падзеі спыніліся, асабліва пасьля Тарунскае ўмовы 1466 году, гандлёвыя зносіны Полацку з Рыгай ня сталі ад гэтага нормальнымі. Рыская ўлада рабіла перашкоды полацкім купцом у гандлі і не прапушчала іх за Рыгу. Таксама рыскія купцы, якія прабавалі трапіць у Віцебск і Смаленск, сустракалі з боку полацкае ўлады такія-ж неспагадныя адносіны. І тыя, і другія імкнуліся трымаць у сваіх руках манаполію гандлю і не хацелі рабіць адзін другому ніякіх паслабленьняў. Праўда, полацкая ўлада была згодна даць рыскім купцом права езьдзіць у Віцебск і Смаленск, але з умовай, калі полацкім купцом „мимо Риги будет путь чист и водой и землей" [2]). Відавочна, ніхто не пашоў насустрач адзін другому. Скаргі з аднаго і з другога боку ня спыняліся. Гэтыя непаразуменьні ў значнай меры перашкаджалі таваразвароту паміж Рыгай і Полацкам. Рыская ўлада ня толькі рабіла перашкоды полацкім купцом у іх гандлі, але нават неяк абрабавала купцоў, якія прыехалі з таварамі ў Рыгу, адабраўшы ў іх коні, так што купцы прымушаны былі варочацца ў Полацак пешшу. Полацкая ўлада прапанавала Рызе адмовіцца ад такіх адносін да полацкіх купцоў, пагражаючы канфіскаваць усе тавары нямецкіх купцоў у Полацку. Полацак запрапанаваў яшчэ раз даць сваім купцом, як было даўней, „за море путь чист", і тады немцам будзе дадзена права езьдзіць у Віцебск і Смаленск, але гэта, відаць, не ўваходзіла ў пляны немцаў. Грамата на Майдэборскае права гораду Полацку ад 7 кастрычніка 1498 году забараняе замежным купцом езьдзіць у Віцебск і Смаленск з таварамі, пагражаючы канфіскаваць усю маемасьць. Дазваляліся падарожы ў Смаленск толькі дзеля спагнаньня даўгоў; укладаць-жа якія-небудзь новыя ўмовы ў Віцебску і Смаленску было нельга [3]). Маскоўскія купцы таксама прыяжджалі ў Полацак дзеля продажы свае сыравіны і сваіх фабрыкатаў, так званага маскоўскага палатна. Яны ўваходзілі з тутэйшымі літоўска-беларускімі купцамі ў розныя гандлёвыя зносіны; іншы раз тутэйшы'я купцы бралі на сябе дастаўку пэўнае колькасьці патрэбных для Масквы тавараў. Трэба адзначыць, што літоўска-беларускія купцы не заўсёды выконвалі свае абавязкі ў адносінах да маскоўскіх купцоў. На гэтым грунце адбываліся непаразуменьні, якія звычайна пераносіліся на суд ваяводзкае ўлады [4]).

Усё гэта сьведчыць аб адносным разьвіцьці ў Полацкай зямлі гандлёвага капіталу, які ўцягваў народную гаспадарку ў сваю сфэру, і які рабіў вялікі ўплыў на гаспадарчыя адносіны.

Гаспадарка Полацкае зямлі была ня столькі сельскага, колькі прамысловага характару. Эксплёатаваньне рознае араміны складала найбольшую частку прыбыткаў як для гаспадара, гэтак і для прыватных зямляўласьнікаў. Імкненьне павялічыць прыбыткі з гаспадаркі вяло за сабой пажаданьне пашырыць колькасьць свае зямлі як заселенай, гэтак і незаселенай—бабровых гоняў, сенажацяў, гаёў, пушчаў і гэтак далей.

---

[1]) Витебская старина. Составил и издал А. Сапунов. Том I. Витебск, 1883, № 8. (Далей прыводзіцца скарочана: „Вит. Старина", т. I).

[2]) Ibid., № 11.

[3]) Ibid., № 12. Акты Зап. России, т. I. № 159.

[4]) Кніга запісаў XVI, ліст 148, 171.

Гандлёвы капітал ствараў спагадныя ўмовы для мобілізацыі зямельнае ўласнасьці. Зямля стала об'ектам продажы і куплі. Такія ўмовы на куплю значна пашырылі сфэру баярскага зямляўласьніцтва. Баяры куплялі зямлю ў мяшчан, у вясковага насельніцтва і ў іншых. Дзяржаўная ўлада, відаць, лічыла такія здарэньні зусім звычайным зьявішчам. Прынамсі, не сустракалася ніякіх перашкод з боку ўлады вялікага князя, калі зварочваліся да яго з просьбай зацьвердзіць падобныя ўмовы. Звычайна, куплялі заселеную зямлю з усялякай аромінай. Вялікі лік такіх умоў на куплю-продаж сьведчыць аб значным процэсе мобілізацыі зямельнае ўласнасьці [1]). Звычайна той, хто купляў зямлю і прыходзіў да гаспадара з паклоннай, атрымліваў ад яго грамату, паводле якой зямля замацоўвалася за новым уласьнікам на векі-вечныя. Такое самае пацьвярджэньне вымагала і выслуга, калі яна пераходзіла да наступнікаў баяр разам з іншымі землямі [2]). Той, хто трымаў выслугі, таксама зварочваўся да гаспадара з хадайніцтвам аб пацьвярджэньні. Ліст, які выдаваў гаспадар, замацоўваў звычайна, выслугу за тым, хто трымаў зямлю, на векі-вечныя [3]). Той, хто трымаў даніны, якія дастаў пры папярэдніх гаспадарох, звычайна ўзьнімаў хадайніцтва аб замацаваньні за ім гэтых данін [4]). Стан зямляўласьнікаў пашыраў праз куплю і праз пацьвярджэньне выслуг і данін памеры свае зямлі. Прыватнае зямляўласьніцтва асабліва пашыралася дзякуючы гаспадарскім наданьням ад гаспадароў. Ужо ў часы Казімера Ягелёнчыка былі нададзены значныя зямельныя і прамысловыя даніны, разам з насельніцтвам, якое жыло на гэтых землях і несла павіннасьці [5]).

Пад уплывам гандлёвага капіталу, зямляўласьнікі пачынаюць імкнуцца да зямлі, маючы на мэце пашырыць свае ўладаньні. Дзеля гэтага яны зварочваюцца да гаспадара і просяць аб наданьні ім зямлі. Такіх хадайніцтваў было вельмі многа. Яны сьведчылі аб пэўным настроі зямляўласьніцкае клясы. Звычайна такія землі,—даніны,—аддаваліся на „вечность“, „со всеми слугами и со всякими прилегавшими угодьями“ [6]). Аднак, наданьні гаспадароў не заўсёды мелі характар наданьня на „вечность“. Вельмі часта землі аддаваліся ў часовае карыстаньне на тых ці іншых умовах. Уласьнікі атрыманых зямель неаднакроць узьнімалі хадайніцтвы перад гаспадаром, просячы аб пацьвярджэньні. Наданьні ад караля, купля маёнткаў, урэшце, пацьвярджальныя граматы вялікага князя на ўсялякія формы трыманьня зямлі пашыралі прыватнае зямляўладаньне. Асновай прыватнага зямляўладаньня былі землі, якія пераходзілі з роду ў род, вотчыны, правы на якія азначаліся і ў полацкай старасьветчыне, і ў агульна шляхоцкім прывілеі 2 мая 1447 году. Цікавою асаблівасьцю Полацкае зямлі было мяшчанскае зямляўладаньне; шмат хто спаміж мяшчан меў зямлю па-за межамі гораду і нароўне з шляхтай павінен быў адбываць вайсковую павіннасьць.

Агульны малюнак прыватнага зямляўласьніцтва ў Полацкай зямлі— вельмі выразны паводле попісу ўсяго войска, які складзены на падставе пастановы Віленскага сойму ад 1 мая 1528 году. Соймавая пастанова вызначыла парадак адбываньня вайсковае службы, каб па-

[1]) Акты Литовск. Метрики, № 77, 322, 340, 359, 477, 508, 513, 739.
[2]) Кніга запісаў XVI, ліст 116 і 117.
[3]) Акты Литовск. Метрики, № 508.
[4]) Ibid., № 70, 227.
[5]) „Русск. Историч. Библиотека“, т. XXXVII, стар. 26—27.
[6]) Акты Литовск. Метрики, № 76, 244. „Русск. Историч. Библиотека“ т. XXXII, стар. 149.

асобныя зямляўласьнікі ня мелі магчымасьці ўхіляцца ад гэтага абавязку, што было зусім магчыма да абвяшчэньня закону 1528 году. Новая соймавая пастанова вымагала, каб кожны ўласьнік „с кожных осьми служб, людей ставил пахолка на добром кони возброи, с древом, с прапором, на котором был панцыр, прибылица, меч або корд, сукна цветные повеза и остроги две“ [1]). Калі складалі попіс 1528 году, дык у васнову былі пакладзены прынцыпы апошняе соймавае пастановы. Попіс 1528 году,—дакумант надзвычайна вялікае каштоўнасьці,—знаёміць з вайсковымі сіламі, з апалчэньнем шляхты, і зьяўляецца асноўным дакумантам, які паказвае прыналежнасьць таго ці іншага зямляўласьніка да шляхоцкага стану. У пэўным сэнсе попіс можа служыць паказальным дакумантам дзеля вывучэньня таго, наколькі было пашырана зямляўладаньне сярод вайскоўцаў як агулам у Літоўска-Беларускай дзяржаве, гэтак і ў паасобных краінах.

Полацкая зямля не належыць да такой тэрыторыі, дзе было-б пашырана буйное зямляўласьніцтва. У Полацкай зямлі няма такіх буйных магнатаў, як у заходняй частцы Беларусі, бо неспагадныя для сельскае гаспадаркі глебавыя ўмовы ня прынаджвалі да сябе ўвагі шляхты, якая імкнулася атрымаць зямлю ў заходняй частцы дзяржавы. Апроч шляхоцкага зямляўладаньня, у Полацкай зямлі было пашырана і мяшчанскае зямляўладаньне. Мяшчане, якія мелі маёнткі паводле земскага права, павінны был і адбываць з сваіх зямель вайсковую службу. Гэтае захаваньне спэцыяльна земскага мяшчанскага зямляўладаньня сьведчыла аб адносна слабым разьвіцьці станаў у Полацкай зямлі, дзякуючы чаму захаваліся такія архаічныя асаблівасьці, як мяшчанскае зямляўладаньня.

Шляхоцкае зямляўладаньне ў Полацкай зямлі было сярэднім і дробным [2]). Аб памерах кожнага маёнтку можна даведацца, параўнаўшы лік коньнікаў, якія павінны былі стаўляць маёнткі. Найбольшы лік коньнікаў стаўляў пан Зьмітра, сын Багдана, Корсак—33. Роўнага яму магната ня было. Зьмітра Корсак, маючы грашовыя сродкі, трымаў яшчэ ў заставе маёнтак пана Васіля Чыжа; з гэтага маёнтку ён павінен быў стаўляць 5 коньнікаў Такім чынам, самы буйны зямляўласьнік даваў усяго 38 коньнікаў. Колькі коньнікаў стаўлялі іншыя члены фаміліі Корсак, відаць з наступнае табліцы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| | **Сыны Зенавея Корсака:** | | |
| 1 | Міхал | 19 | коньнікаў |
| 2 | Пані Міхайлавая, яго жонка | 18 | „ |
| 3 | Багдан | 15 | „ |
| 4 | Пані Іванавая, жонка Івана Корсака | 16 | „ |
| | **Сыны Міхала Корсака:** | | |
| 5 | Яцэк | 18 | „ |
| 6 | Іван | 17 | „ |
| 7 | Васіль | 16 | „ |
| 8 | Глеб, сын Івана, унук Зенавея Корсака | 14 | „ |
| 9 | Пані Глебавая, яго жонка | 18 | „ |
| | **Сыны Глеба:** | | |
| 10 | Іван | 15 | „ |
| 11 | Пётра | 14 | „ |
| 12 | Ян | 14 | „ |
| 13 | Андрэй | 14 | „ |
| 14 | Сымон | 14 | „ |
| 15 | Пані Корсаковая | 15 | „ |
| | | 237 | |

[1]) Акты Зап. Россия, т. II, № 152.
[2]) Русск. Историч. Библиотека, т. XXXII. стар. 192—195.

Такім чынам, фамілія Корсак складалася з 16 асоб (лічачы і Зьмітру Корсака), якія павінны былі ўсе разам стаўляць на вайну 275 коньнікаў. У іх уладаньні знаходзілася 2.200 сялянскіх службаў.

Другое месца займала фамілія князёў Лукомскіх, якая, аднак, была значна меншаю за фамілію Корсак:

**Сыны князя Рамана Лукомскага:**

| | | |
|---|---|---|
| 1 Пётра . . . . . | 14 | коньнікаў |
| 2 Сымон . . . . | 5 | „ |
| 3 Міхал . . . . . | 5 | „ |
| 4 Князь Андрэй, сын Івана Лукомскага | 9 | „ |
| 5 Князь Богуш Лукомскі . . . | 4 | „ |
| 6 Княгіня Міхайлавая Лукомская . | 13 | „ |
| | 50 | |

Як відаць з гэтае табліцы, Лукомскія—небагатыя зямляўласьнікі. Уся фамілія складалася з шасьцёх асоб, якія ўсе разам павінны былі стаўляць 50 коньнікаў і мелі 400 сялянскіх службаў. Фамілія князёў Палубінскіх складалася з дзьвюх асоб, з мужа і жонкі, якія стаўлялі 8 коньнікаў. Да адносна значных зямляўласьнікаў належылі: пані Міхайлавая-Сяньковічыха, якая стаўляла 14 коньнікаў, і пані Мацеевая-Сканькевічыха—10 коньнікаў. Фамілія Сакалінскіх складалася з дзьвюх асоб: з княгіні Васільлевай-Сакалінскай і князя Юр'я Сакалінскага; абое стаўлялі 18 коньнікаў. Вось якія былі найбольш выдатныя прадстаўнікі шляхоцкага зямляўласьніцтва ў Полацкай зямлі. З рэшты—дзеці Глеба Остаф'евіча стаўлялі 13 коньнікаў; Андрэй, сын Сымона Эпімаха, стаўляў 12 коньнікаў за сваіх братанічаў, якіх ён апекаваў; два баярыны—па 9 коньнікаў, адзін баярын—8 коньнікаў і адзін—7 коньнікаў; па 5 коньнікаў стаўлялі пяць баяр, адзін баярын—6 коньнікаў, пяць баяр стаўлялі па 4 коньнікі, 2—па 3, 12—па 2 і 24—па адным коньніку. Апошнія выходзілі на вайну самі. Такім чынам, уся полацкая шляхта выстаўляла 538 коньнікаў, з ліку якіх больш паловы прыпадала на фамілію Корсак.

З паказанага ліку коньнікаў, якіх павінна была даваць полацкая шляхта, можна бачыць, што Полацкая зямля была тэрыторыяй дробнага і сярэдняга зямляўладаньня. Ня было буйным па сваіх памерах і мяшчанскае зямляўладаньня. Большасьць зямляўласьнікаў з мяшчан, якія трымалі зямлю паводле земскага права, стаўлялі на вайну толькі аднаго коньніка, інакш кажучы,—выяжджалі самі. Спасярод мяшчан вызначаліся толькі двое, адзін з якіх стаўляў 7 коньнікаў, а другі 9 коньнікаў. Адзін спаміж мяшчан-зямляўласьнікаў даваў, супольна з братам, 5 коньнікаў. Група мяшчан стаўляла 6 коньнікаў, двое мяшчан стаўлялі—па 4 коньнікі, чацьвёра—па 3 коньнікі, сем мяшчан выходзілі на вайну з 2 коньнікамі[1]). Захаваньне мяшчанскага зямляўладаньня, з абавязкам адбываць вайсковую службу, было асаблівасьцю Полацкае і Віцебскае зямель. Праўда, мяшчанскае зямляўладаньне ў Віцебскай зямлі, згодна з попісам 1528 году, ня мела значнага пашырэньня. Тое, што ў Полацкай зямлі было мяшчанскае зямляўладаньне, ёсьць адзнака слабога насычэньня яе шляхоцкім станам

[1]) Ibid., стар. 195—197.

і адсутнасьці, пакуль што, выразна выяўленага клясавага падзелу паміж шляхоцтвам і мяшчанствам. Патрэба ў вайсковых кадрах для абароны дзяржавы наагул, а ў тым ліку і Полацкае зямлі, дапамагала замацаваньню за мяшчанамі права на ўладаньне нярухомаю ўласнасьцю, з абавязкам адбываць вайсковую павіннасьць.

Землі мяшчан, як і шляхты, былі об'ектамі грамадзкага прававароту. Шмат хто з мяшчан уладаў купленымі землямі, права на ўладаньне якімі зацьвярджала ўлада вялікага князя; з другога боку, частка мяшчанскіх зямель трапляла ў рукі шляхты. Існаваньне мяшчанскага зямляўладаньня паказвала на слабое, пакуль што, аддзяленьне гораду ад валасьці, як адзін з вынікаў ня досыць глыбокага ўплыву гандлёвага капіталу на гаспадарчае жыцьцё Полацкае зямлі і малую розьніцу паміж заняткамі насельніцтва гораду і валасьцей. Слабым разьвіцьцём гандлёвага капіталу тлумачыцца і адсутнасьць так званага „застаўнога" зямляўладаньня. Паводле попісу 1528 году толькі адзін Зьмітра Корсак меў у заставе ўладаньне пана Чыжа, з зямлі якога ён павінен быў даваць 5 коньнікаў.

Служылыя зямляўласьнікі мелі заселеную і незаселеную зямлю. Уладаньне заселенаю зямлёю давала ўласьнікам поўную магчымасьць эксплёатаваць насельніцтва, якое жыло на гэтай зямлі. Сяляне-ж даньнікі, што сядзелі на шляхоцкіх і мяшчанскіх землях, абмяжоўвалі свае адносіны да мясцовага зямляўладаньня толькі выплатаю дані. З цягам часу, у меру разьвіцьця гаспадарчага жыцьця краю, натуральныя падаткі замяніліся грашыма. Іншыя групы насельніцтва адбывалі дань прыватна-зямельнаму ўласьніку, нясучы тыя ці іншыя павіннасьці, у залежнасьці ад стану свае гаспадаркі. Наданьні зямель ад гаспадароў „совсими людьми и слугами, и с конюхи, и совсими землями-пашнями, и с бортными, и с данью", а таксама гаспадарскія прысуды, паводле якіх зварочваліся назад пад уладаньне прыватнаму ўласьніку так званыя „выломавшиеся подданные", навочна сьведчылі аб паглядзе дзяржаўнае ўлады на адносіны да сваіх ўладароў насельніцтва, якое жыло на прыватнаўласьніцкіх землях. Эксплёатаваньне работніцкае сілы, якая залежыла ад уласьніка, зьяўлялася асноўнай крыніцай для атрыманьня тае зямельнае рэнты, якая давала зямляўласьніку магчымасьць заўсёды быць падрыхтаваным да вайны. Прыватнаўласьніцкія сёлы і маёнткі былі раскіданы па розных частках Полацкае зямлі адносна дробнымі кавалкамі, як у гэтым лёгка ўпэўніцца паводле вестак Полацкае рэвізіі 1552 году. Уладаньні вясковага насельніцтва знаходзіліся ў карыстаньні сямейна-радавое організацыі; звычайна яны празываліся землямі. Кожная такая організацыя была ў гаспадарчых адносінах самастойным цэлым, і эксплёатавала сваю ароміну сваёю ўласнаю рабочаю сілаю.

III.

Насельніцтва Полацкае зямлі, калі мець на ўвазе яго праўнае палажэньне, падзялялася на дзьве групы—на вольных і нявольных. Весткі з Полацкае рэвізіі 1552 году сьведчаць аб тым, што была нявольная чэлядзь як у гаспадарскіх, гэтак і ў прыватнаўласьніцкіх дварох, але лік яе быў невялікі. Невялікія памеры самае гаспадаркі не вымагалі вялікага ліку нявольнае чэлядзі. З другога боку, тая работа, якую ў прыватнаўласьніцкіх і дзяржаўных гаспадарках выконвала нявольная чэлядзь, у меру ўскладненьня гаспадарчага жыцьця, пераходзіла да асобных груп насельніцтва, так званых цяглых людзей.

Чэлядзь нявольная, парабкі—інстытут старадаўняга пахаджэньня, і традыцыі інстытуту нявольніцтва ніколі не супынялі свайго існаваньня. Праўнае палажэньне чэлядзі нявольнае ў XV і ў пачатку XVI сталецьця, у параўнаньні з больш раньняю эпохай нявольніцтва, мала чым адзначалася адно ад другога. Уласьнікі халопаў разглядалі іх, як сваю ўласнасьць і загадвалі імі, як хацелі. Чэлядзь нявольная складала непадзельную частку карыстаньня зямлёй, нароўне з іншымі крыніцамі прыбыткаў ад гаспадаркі, якія былі ва ўладаньні зямляўласьніка. Інстытут чэлядзі нявольнае ня меў грунту для шырокага пашырэньня як дзякуючы адносна нязначнаму пашырэньню шляхоцкага зямляўладаньня, гэтак і з прычыны перавагі прамысловае гаспадаркі над земляробскаю культурай [1]).

Вольнае насельніцтва падзяляецца на дзьве групы: на вайскоўцаў і на цяглых; абедзьве групы адзначаліся адна ад другое сваімі спэцыяльнымі абавязкамі; кляса вайскоўцаў адбывала на карысьць дзяржавы асабовую вайсковую службу, а цяглыя людзі—выконвалі цяглыя работы і выплачвалі грашовыя падаткі. Аднак, у палажэньні цяглых людзей, ужо з палавіны XV сталецьця, сталі заўважацца значныя зьмены. Вольныя цяглыя людзі зьнікалі, а замест іх на прыватнаўласьніцкіх землях зьявілася прыгоннае сялянства, так званыя „отчычы". Аднак, разьвіцьцё інстытуту прыгону ня выклікала поўнага зьнікаяньня клясы вольных людзей. Існаваньне вольных людзей на землях прыватных ўласьнікаў, паводле вестак Полацкае рэвізіі 1552 году, паказвае, што лік вольных людзей быў раней значна большым.

Каб азначыць прыналежнасьць зямляўласьнікаў да клясы вайскоўцаў, у Полацкай зямлі ўжывалі старадаўні тэрмін „баярын" Попіс 1528 году, што да Полацкае зямлі, ужывае толькі тэрмін „баярын". Усе баяры, якія запісаны ў попісе 1528 году, складалі асноўнае асяродзьдзе полацкае шляхты. Полацкія баяры павінны былі адбываць вайсковую службу, норма якое вызначалася памерамі зямляўладаньня. Устава аб вайсковай службе 1528 году вымагала, каб кожны ўласьнік, які меў восем сялянскіх службаў, выяжджаў на вайну на добрым кані. Полацкія баяры, што да вайсковае службы, падзяляліся на дзьве катэгорыі: адны выяжджалі на вайну самі, а другія стаўлялі пэўны лік коньнікаў, у залежнасьці ад памераў іх баярскага зямляўладаньня. Агулам кажучы, нельга, на падставе вестак з попісу 1528 году, лічыць полацкую шляхту за многазямельную.

Праўнае палажэньне полацкае шляхты вызначалася ў Полацкай Устаўнай Грамаце, а таксама—у вагульна-шляхоцкім прывілеі. Устаўная Земская Грамата абараняла мясцовыя правы насельніцтва ад пасяганьняў на іх з боку ўлады вялікага князя; апроч таго, яна надавала правы тутэйшаму баярству прымаць удзел у мясцовых краёвых соймах, а таксама і ў судох, якія адпраўляў ваявода.

Асноўнаю павіннасьцю полацкага баярства была вайсковая служба. Полацкае баярства, як і баярства ўсяе Літоўска-Беларускае дзяржавы, было вольна ад выплаты сярэбшчыны, але, апроч таго, на баярстве ляжалі агульныя павіннасьці, напрыклад, клопаты аб належнай абароне замку [2]). Калі Полацак атрымаў Майдэборскае права, баярства было пазбаўлена ад усялякіх грашовых павіннасьцяй. Роўным чынам той, хто меў землі ў межах гораду, ня быў залежным ад гарадзкое юрысдыкцыі. Полацкая шляхта была вельмі дэмакратычнай у сваім складзе. Сярод яе ня было ні буйных паноў, ні тытуляваных фамілій.

[1]) Полоцкая ревизия, стар. 64—72.
[2]) Ibid., стар. 1—10.

Другую групу вольнага насельніцтва складалі так званыя валасныя людзі, якія, жывучы на дзяржаўных землях, адзначаліся адны ад другіх ня столькі з боку праўнага палажэньня, колькі агульным характарам сваіх павіннасьцяй. У выпадку, калі гаспадар даваў заселеныя землі, зьмянялася праўнае палажэньне насельніцтва, якое трапляла пад уладу і прысуд прыватнага ўласьніка. Прыватнаўласьніцкае сялянства назад ў дзяржаўнае не пераходзіла, бо Полацкая констытуцыя ня ведае так званых „спадкавых" маёнткаў, калі, з прычыны адсутнасьці наступнікаў, маёнтак пераходзіў, як адмерлая маемасьць, ва ўладаньне гаспадара [1]).

Полацкая зямля—тэрыторыя вялікіх лясных прастораў. Насельніцтва, якое жыло каля лесу, займалася вельмі прымітыўнай прамысловай гаспадаркай. Усе адносіны гэтага насельніцтва да гаспадарскага скарбу выяўляліся ў выплаце тае дані, якая, паводле старадаўняга звычаю, зьбіралася з насельніцтва. Пакуль Полацкае места не атрымала прывілею на Майдэборскае права, валаснае насельніцтва складала адно цэлае з мяшчанамі і баярамі, не ўтвараючы асобнае групы. Сярод полацкага грамадзянства яшчэ ня было значнае клясавае дыфэрэнцыяцыі, што можна вытлумачыць ня досыць глыбокім уплывам гандлёвага капіталу. Валаснае насельніцтва выступала ў згодзе разам з іншымі групамі грамадзянства, як толькі зачэпліваліся інтарэсы ўсяе зямлі. Калі полацкі намесьнік Олехно Судзімонтовіч захацеў утварыць у Полацкім месьце пасаду гараднічага, то ўсё насельніцтва Полацкае зямлі, лічачы для сябе гэта некарысным, зьвярнулася да вялікага князя і прасіла пакінуць усё, як было даўней, і дазволіць, каб сам намесьнік загадваў пабудовай гораду. Просьба насельніцтва была здаволена [2]). Валасныя людзі, якія складалі непадзельную частку ўсяго насельніцтва Полацкае зямлі, зварочваліся разам з іншымі групамі грамадзянства да вялікага князя, просячы зацьвердзіць Полацкі прывілей [3]).

Узрост паасобных станаў і баярскага зямляўладаньня, з аднаго боку, атрыманьне горадам Полацкам прывілею на Майдэборскае права—з другога, дапамаглі адасабненьню валаснога насельніцтва ад іншых груп грамадзянства. Валасныя людзі сталі ў больш беспасрэднае, залежнае палажэньне да гаспадарскае адміністрацыі, якая, аднак, мала ўваходзіла ў жыцьцё валаснае організацыі і абмяжоўвалася толькі нагляданьнем за тым, каб падаткі зьбіраліся паводле старадаўніх звычаяў. Але гэтыя ідылічныя адносіны паступова парушаліся. Урад, улічваючы ўплыў гандлёвага капіталу, заўсёды імкнуўся парушыць старадаўнія звычаі, маючы на мэце павялічыць тыя павіннасьці, што ішлі на гаспадара. Гэткая тактыка гаспадарскае адміністрацыі выклікала протэст з боку насельніцтва і была прычынай узьніманьня перад гаспадаром хадайніцтва, каб пакінуць старасьветчыну непарушнай [4]).

Адасабненьне гораду ад вёскі, якое замацавалася, як Полацак атрымаў прывілей на Майдэборскае права, адмяжоўвала валаснае насельніцтва ад гораду і вылучала яго ў асобную грамадзкую групу з спэцыфічнымі экономічнымі адносінамі, уласьцівымі гэтай групе.

У валасьцёх была яшчэ і другая група насельніцтва, вядомая пад назовам прыгонных людзей. Гэтая група насельніцтва рабіла паншчыну ў гаспадарскіх дварох і адбывала на карысьць двара розныя

[1]) Акты Зап. России, т. II, № 70.
[2]) Русск. Историч. Библиотека, т. XXVII, стар. 28.
[3]) Акты Зап. России, т. II, № 70.
[4]) Кніга запісаў, XVI, лісты 152—153 і 159.

павіннасьці натурай. Былі, урэшце, у валасьцёх і сяляне, якія адбывалі ў гаспадарскім двары спэцыяльныя службы і павіннасьці, як напрыклад, бортнікі, путныя баяры [1]).

Аналёгічныя групы вясковага насельніцтва былі і ў прыватнаўласьніцкіх дварох, з тэю толькі розьніцаю, што залежнасьць насельніцтва ад прыватнаўласьніцкага зямельнага капіталу была больш значная. Полацкая рэвізія ўжо ведае групу вясковага насельніцтва, так званых „отчычаў", якія страцілі права пераходу і якія фактычна былі ўжо прыгоннымі. Тое, што на прыватнаўласьніцкіх землях зьявілася прыгоннае сялянства—вынік уплыву гандлёвага капіталу, які стаўляў насельніцтва зямель у поўную залежнасьць ад уласьніка. Наданьне зямлі ад гаспадара спачатку давала зямляўласьніку права на працу насельніцтва, якое жыло на яго зямлі, але з гэтага зусім яшчэ не вынікала, што насельніцтва губіла сваю незалежнасьць. Экономічнае і праўнае замацаваньне пад прыгонам вясковага насельніцтва зьяўляецца толькі адбіткам уплыву на народную гаспадарку гандлёвага зямельнага капіталу і памеснага зямляўладаньня. Новыя наданьні зямель аддавалі пад загад прыватнага гаспадара нават такіх людзей, якія пад баярскім прысудам ня былі і ніякае працы („поцягляй") на карысьць уласьніка не адбывалі. Зразумела, што гэтыя грамадзкія элемэнты не хацелі пагадзіцца з такім станам рэчай і рабілі захады да таго, каб вярнуць сабе сваё ранейшае палажэньне—атрымаць назад страчаную волю. Маючы гэта на мэце, людзі зварочваліся да гаспадара, просячы звольніць іх ад адбываньня розных „поцягляй". З свайго боку і зямляўласьнікі лічыліся з тым, што паасобныя людзі не хацелі знаходзіцца пад іх уладаю і адбываць на іх карысьць розныя павіннасьці. Зямляўласьнікі, каб прымусіць гэткія грамадзкія элемэнты знаходзіцца пад іх уладаю, звычайна зварочваліся да гаспадара, просячы пацьвердзіць як самае наданьне, гэтак і службу тых асоб, якія стараліся выйсьці з-пад улады прыватнага зямляўладаньня.

Звычайна, гаспадарскі прысуд („вырок") канчальна вызначаў лёс таго, хто шукаў волі і прыходзіў дзеля гэтага з паклоннай. Гаспадарская грамата давала прыватнаму зямляўласьніку падставу вымагаць ад сваіх людзей розную службу і разглядаць іх як асоб, якія павінны яму такую службу адбываць [2]). Зямляўласьнікі адчувалі вялікую патрэбу ў работніцкіх руках. Прыватны капітал шукаў вольных работнікаў, і таму не хацеў страціць іх, калі такія траплялі ў сфэру яго ўплыву, і ён атрымліваў магчымасьць эксплёатаваць іх фізычную працу. Апроч таго, на землях прыватных уласьнікаў сядзелі вольныя людзі, якія толькі выплачвалі сваім зямляўласьнікам пэўную долю сваё ўроды.

Уплыў гандлёвага капіталу на будову грамадзянства Полацкае зямлі быў нязвычайна вялікі. Гандлёвы капітал падзяліў грамадзянства на клясы. Ён замацаваў за прыватнаўласьніцкім капіталам тыя работніцкія рукі, якія яму, па об'ектыўных адзнаках, былі так патрэбны як у гаспадарцы, гэтак і для эксплёатаваньня тых прыродных багацьцяў, што былі ў сфэры яго чыннасьці. Дзякуючы гэтаму, сярод самага вясковага насельніцтва ўжо заўважалася праўная дыфэрэнцыяцыя. Прывілей 2 мая 1447 году, які забараніў сялянам пераходзіць ад зямляўласьніка да гаспадара і назад, фактычна сьведчыў аб тым, што пэўная група насельніцтва ўжо была пад прыгонам. З другога боку, той

[1]) Полоцкая ревизия, стар. 55, 61, 62, 65, 67, 68, 97, 114.
[2]) Акты Литовск. Метрики, № 70, 161.

самы прывілей надаваў пану права адпраўляць суд над сваімі сялянамі і вырашаць справы, якія былі ў зьвязку з ісками да іх з боку трэціх асоб. Разьвіцьцё судова-вотчыннае ўлады было вонкавай адзнакай таго, у чым адрозьнівалася адна група насельніцтва ад другое ў сваім праўным палажэньні [1]).

Трэцюю групу насельніцтва складалі мяшчане, жыхары гораду Полацку, які быў у той час прыродным экономічным і політычным цэнтрам Полацкае зямлі. Горад Полацак займаў вельмі добрае географічнае палажэньне, стаяў на важнейшым гандлёвым шляху. З аднаго боку, гэты гандлёвы шлях даваў магчымасьць Полацку весьці шырокі замежны гандаль; з другога боку—па вышнявіне Заходняе Дзьвіны была магчымасьць падтрымліваць гандлёвую сувязь з Масквой. Для Масквы рака Заходняя Дзьвіна мела вялізарнае значэньне, бо гэтай ракой, праз Беларусь, ішла заграніцу маскоўская сыравіна. Правыя прытокі Заходняе Дзьвіны злучалі Полацкую зямлю з тэрыторыяй Ноўгародзка-Пскоўскае краіны, а левымі прытокамі Заходняя Дзьвіна падыходзіла да вадазбору ракі Нёмну, праз раку Вяльлю. Памянёныя гандлёвыя шляхі мелі вялізарнае значэньне ў разьвіцьці гандлю і экономічнага ўзросту Полацку.

Сам Полацак, у меру разьвіцьця гандлю, набываў асабліві ад іншых частак Полацкае зямлі выгляд і станавіўся горадам, насельніцтва якога, хаця-ж і мела з насельніцтвам валасьцей агульныя сувязі,—інтарэсы, але ў пераважнасьці спэцыялізавалася на гандлі і рамесьніцтве.

Побач з Полацкім местам стаяў Полацкі замак, пабудаваны на высокай гары, паміж рэчкамі Дзьвіной і Палотай. Стратэгічнае значэньне Полацкага замку, было нязвычайна вялікім, дзякуючы суседзтву з Маскоўскаю дзяржаваю, напружнасьць у водносінах з якой увесь час ня спынялася. Няма нічога дзіўнага, што ўрад вялікага князя Літоўскага вельмі клапаціўся аб тым, каб Полацкі замак быў заўсёды нарыхтаваным да бою. Падтрыманьне ўзмацненьняў замку ў добрым стане было на абавязку мясцозага насельніцтва. Баяры, мяшчане, духавенства павінны былі падтрымліваць у парадку „гародні“.

Насельніцтва гораду Полацку было вельмі стракатым. Асноўны асяродак гарадзкога насельніцтва складалі мяшчане, пэўная частка якіх мела сёлы па-за межамі гораду і якія несьлі агульныя павіннасьці нароўне з усім гарадзкім насельніцтвам. Адна частка мяшчан сядзела на ўласных землях, другая—на землях мяшчан, або на царкоўных. Той, хто трымаў гэткія землі, павінен быў выплачваць уласьнікам зямлі пэўную колькасьць „позему“.

Другую групу насельніцтва Полацку складала духавенства—чорнае, якое жыло ў манастырох, што знаходзіліся ў межах гораду, і белае, прыпісанае да гарадзкіх цэркваў. Апроч таго, у Полацку жыла шляхта, якая мела ў гарадох сядзібы; шляхта была звольнена ад тых гарадзкіх падаткаў, якія плаціла гарадзкое жыхарства пасьля таго, як Полацак атрымаў прывілей на Майдэборскае права.

Ня гледзячы на агульныя, спагадныя для экономічнага разьвіцьця ў Полацку, умовы, гандлёвы капітал спавольна пашыраўся на тэрыторыі Полацкае зямлі. З гэтае прычыны ў Полацкай зямлі ў XV сталецьці даўгі час захоўвалася адзінства валаснное організацыі. Полацак знаходзіўся пад кіраваньнем гаспадарскага намесьніка, дзейнасьць якога не заўсёды здавольвала насельніцтва. Гэтак, полацкі намесьнік Олехно

[1]) Проф. М. К. Любавский. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. Изд. 2. Москва, 1915. стар. 327—328 (дадаткі).

Судзімонтавіч, мабыць па мотывах ваеннага характару, вырашыў зьмяніць парадак кіраваньня горадам і паставіць на чале Полацку гараднічага, на абавязку якога было організаваць абарону гораду належным парадкам. Гэты загад Полацкага намесьніка, які парушаў Полацкую старасьветчыну, выклікаў вялікую нездаволенасьць з боку ўсіх жыхароў. Полацкія баяры, мяшчане і ўсё паспольства зьвярнуліся да вялікага князя, просячы пакінуць усё, як было даўней, а мескую справу, у выпадку патрэбы, „расказывати, делати нашим людям, которые наши люди издавна из волостей Задвинских Полтеск издавна рубливали и пригоном Полоцким и иным волостем, которыя издавна Полоцк рубливали". Рашэньне гаспадара („вырок") ад 27 сакавіка 1475 году здаволіла просьбу насельніцтва Полацкае зямлі. Усё пакінулі, як было раней. Такім чынам, спроба вылучыць горад у васобную адміністрацыйна-ваенную адзінку сустрэла перашкоду з боку жыхароў [1]).

Тым часам, адзінства Полацкае зямлі спавольна, але няўхільна разбурвалася. Гандлёвы капітал, які пачаў пашырацца, паставіў інтарэсы зямляўласьніцкага стану супроць інтарэсаў іншых груп насельніцтва, што парушала адзінства як Полацкае зямлі, гэтак і адбываньне павіннасьцяй. Гэтак, полацкія баяры адмаўляліся дапамагаць полацкім мяшчанам, а таксама гарадзкой шляхце і чорнаму люду ў адбываньні земскіх павіннасьцяй. Гэтыя непаразуменьні, якія вынікалі сярод грамадзянства, былі перанесены на суд вялікага князя. У жніўні 1486 году вялікі князь прыняў адносна гэтага пытаньня сваю пастанову; ён пашоў насустрач пакрыўджаным і захаваў парадак, які быў даўней. Баяры павінны былі „тую помоч класти, коли мы их пожадаем по той нашой присязе как нам присягнули во всем добра хотети".

Грошы, якія зьбіраліся ў выніку выкананьня земскае павіннасьці, перахоўваліся ў асобнай скрынцы, якая была пад загадам прадстаўнікоў ад зацікаўленых груп грамадзянства. Выдача грошай на земскія патрэбы была магчыма толькі са згоды ўсіх прадстаўнікоў. Пастанова гаспадара яшчэ раз падкрэсьлівала адзінства ў грамадзка-валасной організацыі і вымагала „абы бояре и мещане и дворяне городские и все поспольство в згоде между собой было, а дела бы наши господарские вси згодно посполу справляли по давному, а сымались бы вси посполу на том месте, где перад тым сыймовались здавна". Гаспадар забараняў рабіць асобныя сходы ад баяр і раіў „во всех речех так рядитися, как мы им право дали" [2]). Хто быў вінен у парушэньні загаду гаспадара, падлягаў грашоваму штрафу ў 10.000 рублёў. Адзінства Полацкае зямлі і воласьці яшчэ раз было захавана, аднак,—не на доўгі час.

Об'ектыўныя гаспадарчыя ўмовы прымусілі ўрад аб'весьціць 7 кастрычніка 1498 году прывілей на Майдэборскае права, які разбураў адзінства Полацкае зямлі. На канец XV сталецьця павялічыўся экономічны ўзрост Полацку, бо гандлёвы шлях па Заходняй Дзьвіне атрымліваў што-раз большае значэньне. Вялікі князь Аляксандар абвясьціў свой прывілей, „маючи узгляд ку посполитого, доброго размножения и хотячы положение места нашего Полоцкого в мере лепшей поставити, штобы люди наши там живучи через вряд добрый а справедливый были размножены" [3]). Даруючы Полацку прывілей на Майдэборскае права вялікі князь Аляксандар хацеў гэтым самым дапамагчы яго экономічнаму разьвіцьцю.

[1]) Русск. Историч. Библиотека, т. XXVII, стар. 28—29.
[2]) Ibid., стар. 410—411.
[3]) Ibid., стар. 701—703. Акты Зап. России, т. I, № 159.

Прывілей на Майдэборскае права вылучаў Полацак з складу Полацкае зямлі ў асобную адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку. Тэрыторыя Полацку не замкнулася ў вузкія межы аднаго толькі гораду; да Полацкага места былі прыпісаны: „люди тые, которые живут за Двиною, так и тые, которые с другой стороны реки Двины и на острове мешкают; ты вси люди владычны, игуменины, и те ж чернецкие, и поповские, и боярские, и мещанские, и всих иных, которы там живут и около места в селях мещанских, и те ж посельские, и слуги путные, которые завсегда з мещаны на выправу военную звыклы ходити, и вси поплатки наши с посполу с ними нам давати". Усе гэтыя пералічаныя групы грамадзянства падлягалі суду Майдэборскага права „во всих речах". Адначасна з гэтым памянёныя групы насельніцтва больш ужо не падлягалі праву гарадзкому і баярскаму—„пред которыми же направе не будуть уже повинни стоять, а если кому в чем будут виновати, тогды мает им справедливость статися перед войтом их и бурмистром".

Урад, вылучаючы Полацак з складу Полацкае зямлі, стараўся ў той самы час забясьпечыць яго ўдостань насельніцтвам, якое даўней адбывала свае павіннасьці разам з гарадзкімі жыхарамі, і адсутнасьць якога вельмі адмоўна адбілася-б на баявой падрыхтаванасьці Полацку. Прывілей на Майдэборскае права звальняў насельніцтва Полацку ад падсуднасьці полацкаму намесьніку; толькі „нижли часу непокоя, або которое иншее земское потребы, а найболей с полецания нашего, повинны мают быти на приказании наместника, на тот час будучага, на замку нашем быти послушны, ко обороне его, так долго, поки будет потреба" [1]). Такім чынам, намесьнік быў галоўным кіраўнікам усіх ваенных сіл Полацкае зямлі. Трэба адзначыць, што полацкія мяшчане трымалі зямлю на падставе земскага права і, значыцца, павінны былі адбываць вайсковую службу разам з іншымі земляўласьніцкімі элемэнтамі. У гэтых адносінах полацкія мяшчане складалі непадзельную частку агульна-земскае абароны. Дзякуючы гэтаму, і пасьля вылучэньня Полацку ў паасобную адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку, не адбылося адасабненьня мяшчан ад іншых груп насельніцтва, якія адбывалі вайсковую павіннасьць.

Прывілей на Майдэборскае права вызначыў, якія павіннасьці абавязаны былі адбываць полацкія мяшчане ў адносінах да дзяржаўнага скарбу, і надаў мяшчанам экономічныя перавагі, зволніўшы іх ад выплаты мытных збораў на тэрыторыі ўсяго вялікага княства Літоўскага, падобна да таго, як такія-ж самыя перавагі былі нададзены некалькі раней Віленскаму і Троцкаму мяшчанству. Полацкім мяшчанам было нададзена права ладзіць тры кірмашы на год, „первый ярмарок—на святого Якуба день, а други—на крещение, а третий—по Велицы дни у Тыждень". Кірмашы мелі цягнуцца па два тыдні, як гэта было вызначана ў прывілеі [2]). Дзякуючы організацыі кірмашоў меў магчымасьць разьвінуцца гандаль з замежнымі купцамі. Апошнія атрымлівалі права вольнага прыезду на кірмаш як дзеля продажы сваіх тавараў, гэтак і дзеля закупкі мясцовых і прывозных продуктаў; пры гэтым трэба адзначыць, што замежныя купцы атрымлівалі права гандлю выключна ў Полацку,—падарожы ў Віцебск і Смаленск былі забаронены. Парушэньне гэтае забароны пагражала конфіскаваньнем усіх тавараў [3]).

[1]) Акты Зап. России, т. I, № 159, стар. 180.
[2]) Ibid., стар. 181.
[3]) Ibid., стар. 180.

Прывілей 1498 году надаваў мяшчанам права ўваходу ў лясы, якія знаходзіліся ў межах трохмільнае паласы навокал гораду. Яны мелі права браць дрэва як на пабудоўлю, гэтак і на патрэбы ў хатняй гаспадарцы. Роўным чынам, у карыстаньні гораду Полацку заставаліся тыя самыя пашы, якімі жыхары карысталіся да моманту дараваньня Майдэборскага права [1]). Усе жыхары гораду, за выключэньнем баяр, падлягаюць гарадзкому „присуду". Прывілей забараняў баярам мець у гарадох сваіх людзей. Усе павінны былі падпарадкавацца Майдэборскаму праву. Урад, даруючы Полацку прывілей на Майдэборскае права, меў на ўвазе магчымасьць яго гаспадарчага разьвіцьця. Не дарма прывілей усклаў на Полацак абавязак выплаты штогодняга падатку ў гаспадарскі скарб у памеры 400 коп грошай,--сума вельмі значная на той час [2]).

Прывілей на Майдэборскае права надаваў мяшчанам рад эканомічных пераваг. Гэтак, мяшчане звальняліся ад даваньня хурманак, за выключэньнем тых выпадкаў, калі хурманкі былі патрэбны „для потреб земских" і калі вялікі князь Літоўскі прысылаў спэцыяльны загад. Роўным чынам, насельніцтва Полацку звальняецца ад старожы, за выключэньнем часу вайны [3]). Апроч таго, Полацак меў права „убудовати ку ужитку местному лазню посполитую", „поставить ратушу" на адпаведным месцы, дзе палачане будуць мець права адчыніць „крамницы" і „ятки", а таксама і „комору постригальную". Разам з тым—„в. доход Полоцкого места идут бочка, мерна и медница" [4]).

На чале места стаяў войт, якога прызначаў вялікі князь; войт выбіраў з складу мяшчан 20 радцаў „половину закону римского, а половину другую—грецкого". Войт і радцы абіралі з свайго складу двох бурмістраў, па адным ад жыхароў аднае і другое веры. Бурмістры і радцы ва ўсіх спрэчных пытаньнях мелі права „чинить отозвание до войта", а войт павінен быў зварочвацца беспасрэдна да вялікага князя. Войт меў права разглядаць розныя справы і ў часе адсутнасьці бурмістраў і радцаў, але апошнія ня мелі такога права, калі быў адсутным войт ці яго намесьнік (лент-войт). Войт, бурмістар і радцы былі адказны за сваю дзейнасьць перад вялікім князем [5]).

Што да суду, дык насельніцтва Полацку было звольнена „от судов и моцей всих воевод, и панов, и старост, судей и подсудков, и наших наместников и инших заказников Великого Княжества нашего" [6]).

Прывілей на Майдэборскае права дакладна фіксаваў тыя грашовыя прыбыткі, якія ішлі як на карысьць войта, гэтак і ў скарб вялікага князя. Паводле прывілею, войт атрымліваў трэцюю частку „от всих судов и иных судовых речей". Апроч таго, на карысьць войта ішла палавіна прыбыткаў ад мясных клетак, а таксама прыбытак ад выганкі віна [7]).

Памянёны прывілей вылучаў Полацак у васобную адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку, але, разам з гэтым, яшчэ не адбылося канчальнае адасабненьне жыхароў Полацку ад рэшты насельніцтва Полацкае зямлі. Гэтак, тутэйшае баярства, як і даўней, павінна было будаваць гародні ў Полацку. З гэтае прычыны ў тутэйшага баярства

[1]) Ibid., стар. 181.
[2]) Ibidem.
[3]) Ibid., стар. 180.
[4]) Ibid., стар. 181.
[5]) Ibidem.
[6]) Ibidem.
[7]) Ibid., стар. 179—180.

вынікалі непаразуменьні з мяшчанствам, але вялікі князь вырашаў гэтыя непаразуменьні на карысьць мяшчан. За баярамі быў пакінуты даўнейшы абавязак будаваць і падтрымліваць гарадзкія ўзмацненьні, у вадпаведнасьці з выракам гаспадара ад 22 кастрычніка 1499 году.

Прывілей на Майдэборскае права складаў новыя ўмовы як для гораду Полацку, гэтак і для ўзаемаадносін паміж горадам і воласьцю. Апроч таго, прывілей значна абмяжоўваў правы мясцовае ўлады і пакідаў нявысьветленымі шмат пытаньняў, якія былі зьвязаны з дзяржаўным кіраваньнем, а таксама і з судовымі спрэчкамі паміж мяшчанамі, з аднаго боку, і баярамі,—з другога. Каб вырашыць усе ўзьнікшыя непаразуменьні, вялікі князь Аляксандар выдаў 12 ліпня 1499 году новую Ўстаўную Грамату [1]). Перш за ўсё, у новай Устаўнай Грамаце было закранута пытаньне аб падсуднасьці мяшчан у зямельных справах. Грамата ясна адзначала, што ў прывілеі на Майдэборскае права ня былі ўключаны зямельныя справы. Усе справы зямельнага характару падлягаюць „подлуг давнаго обычая суду полоцкого наместника со старшими боярами полоцкими“. Гэтая пастанова была выклікана тым, што полацкія мяшчане ўладалі зямлёй паводле земскага права, з абавязкам адбываць вайсковую службу і, значыцца, уваходзілі ў склад клясы вайскоўцаў. Паколькі баярскія справы аб зямлі вырашаў Полацкі намесьнік, пастолькі і для спраў зямельных, якія закранапі інтарэсы мяшчанства, быў пакінуты стары звычай. Роўным чынам, усе справы, якія былі зьвязаны з парушэньнем зямельных межаў, таксама падлягалі разгляду ў намесьніка Полацкага, які сам выяжджаў на месца парушэньня межаў, альбо пасылаў сваіх уласных баяр. Прывілей пакідаў у трыманьні полацкіх баяр воласьць Дрысецкую. Баяры захоўвалі за сабой права судзіць паводле старых звычаяў, але грамата забараняла рабаваць насельніцтва, пагражаючы за гэта карай. Баяры, якія кіравалі воласьцю, зьмяняліся штогод. Прывілей пакідаў непарушнымі зямельныя ўладаньні баяр, якія яны купілі або ў мяшчан полацкіх, або ў путных людзей, а таксама—двары і землі ў горадзе і на мясцох. Роўным чынам, пакідаліся непарушнымі вотчынныя землі ў горадзе і на мясцох: улада войта і мяшчан на іх не пашыралася. Таксама ўсе землі, якія купілі мяшчане ў путных людзей і баяр, заставаліся непарушнымі; усе пытаньні аб гэтых землях вырашаліся паводле статуту Майдэборскага права.

Баярскія людзі, што жылі ў горадзе на баярскіх землях, у выпадку, калі яны займаліся гандлем, павінны былі плаціць сярэбшчыну і іншыя падаткі разам з мяшчанамі, але ў той самы час яны не падлягалі суду паводле Майдэборскага права. Полацкія баяры захавалі за сабой права адсылаць у Рыгу продукты свае ўласнае гаспадаркі (жыта, крупы, попел, смала), з умовай, што попел і смала будуць здабывацца ва ўласных пушчах, „а не в лесах господарских и мещанских“. У выпадку судовых іскаў мяшчан і путных людзей да баяр і наадварот, за судзьдзю выступае намесьнік, які судзіць разам з баярамі паводле гарадзкога права, у прысутнасьці войта і мяшчан. Калі-ж баярын або баярскі чалавек, або гаспадарскія людзі будуць мець справу да мяшчан ці путнікаў, за выключэньнем спраў зямельных, то такія справы падлягаюць суду войта паводле Майдэборскага права, у прысутнасьці распачаўшых справу. Прывілей падкрэсьліваў свабоду мяшчан ад выплаты сярэбшчыны, а таксама—ад дароў вялікаму князю ў выпадку, калі ён прыедзе ў Полацак, і пакідаў на загад мяшчан „вагу“ і „узвоз“, прыбыткі ад якіх мяшчане падзялялі даў-

[1]) Ibid., № 175.



Полацак. Від з аэропляну.

ней напалову разам з баярамі. Дзякуючы гэтаму, баяры былі звольнены ад выплаты тых даўгоў, якія меў з дзяржавы пан Юры Зенавеевіч. Урэшце, загад гаспадара забараняў полацкім мяшчанам прымаць „челядь невольную и людей в пенязех“, якія ўцякалі пад прысуд нямецкага права, жадаючы быць вольнымі[1]).

Ня гледзячы на тлумачэньне, якое даў вялікі князь у сваёй Устаўнай Грамаце, прывілей на Майдэборскае права і ў далейшым быў крыніцаю тых конфліктаў, якія вынікалі ў мяшчан з тутэйшымі зямляўласьнікамі, з духоўным і сьвецкім грамадзянствам. Перш за ўсё, гарадзкія ўрадавыя ўстановы досыць шырака і вольна тлумачылі гэты прывілей і далучылі да Полацку землі, якія да яго не належылі. На гэтым грунце паміж Полацкім біскупам і гарадзкім урадам вынікла спрэчка, бо полацкія ўрадавыя ўстановы незаконна дамагаліся зямель, якія здаўна мела Полацкая біскупская катадра. Праўда, вялікі князь не аддаў біскупу спрэчных зямель, але не пакінуу іх і за горадам[2]). Урэшце, з цягам часу Полацкі біскуп усё-ж-ткі здалеў атрымаць землі, якіх ён дамагаўся[3]).

Напружаныя адносіны паміж мяшчанамі і тутэйшым баярствам зьвярнулі на сябе ўвагу. Вялікі князь прымушаны быў распачаць урэгуляваньне памянёных узаемаадносін. Гэта было зроблена ў канцы 1500 году[4]). Новая пастанова гаспадара часткай зьмяніла прывілей на Майдэборскае права. Гэтак, сельскія путнікі, прыпісаныя да Полацкага места, больш ужо не падлягалі суду паводле Майдэборскага права, а паступалі пад загад і контроль Полацкага намесьніка. Праўда, што да падаткаў, дык сельскія путнікі, як і даўней, складалі з горадам адно цэлае: яны нароўне з гарадзкімі жыхарамі адбывалі сярэбшчыну, вайсковую службу і гарадзкія работы. З другога боку, пастанова вялікага князя дакладна падкрэсьлівала і ўстанаўляла, што самі мяшчане зямляўласьнікі і насельніцтва, якое жыло на іх землях за горадам, падлягалі суду паводле Майдэборскага права. Полацкія мяшчане, якія купілі землі ў полацкіх-жа мяшчан, або ў полацкіх баяр, або, урэшце, у сельскіх путнікаў і прыгонных людзей, захоўвалі за сабой права ўладаньня гэтымі землямі, але ў той самы час павінны былі „службу путную им нам за них заступовати“. Потым купля зямель у прыгонных людзей была забаронена, і ўмовы на такія куплі, зразумела, абвяшчаліся незаконнымі. Каб купляць такія землі, трэ' было мець дазвол гаспадара. Новая пастанова яшчэ раз пацьвердзіла, што „живущие в городе люди владычины и игуменины и боярские и поповские остаются в послушенстве Майтбургского права“ і павінны плаціць сярэбшчыну „в поспол с мещанами“. Роўным чынам, гарадзкія рамесьнікі падлягаюць суду паводле Майдэборскага права: „полоцкий наместник и бояре в них не мають ся вступатися“. У той самы час усе тыя людзі, якія „заложились за наместника нашего полоцкого и за владыку и за игуменью и за бояр и игуменов и панов“, падлягаюць суду паводле Майдэборскага права, як аб гэтым казаў кастрычнікавы прывілей. Аднак, і гэтае сьнежаньскае тлумачэньне гаспадара ня ўнесла заспакаеньня і парадку ў полацкія ўзаемаадносіны. Намесьнік гаспадара пан Станіслаў Глебавіч рабіў Полацкаму месту, ня лічачыся ні з чым, „кривды и втиски великие“. Намесьнік, наўспрэч прывілею, судзіў асоб, якія былі яму непадсудны. Апроч таго, намесьнік конфіскаваў у мяшчан ня толькі землі, але адабраў у іх

[1]) Ibid., стар. 200.
[2]) Русск. Историч. Библиотека, т. XXVII, стар. 785—787.
[3]) Акты Зап. России, т. I, № 209.
[4]) Русск. Историч. Библиотека, т. XXVII, стар. 814—817.

уласьнікаў „твердости листы“ на гэтыя землі. Затым, намесьнік парушыў і грашовыя прывілеі Полацку—„вступал в вино и пиво привозное“, з якога ішоў плат на ратушу [1]). Усе гэтыя непаразуменьні сьведчылі аб тым, што і далей жылі пэўныя традыцыі і што адміністрацыя не хацела лічыцца з тымі зьменамі, якія адбыліся ў палажэньні Полацкага места паводле прывілею на Майдэборскае права і зьвязаных з ім дадатковых тлумачэньняў. Намесьнік Станіслаў Глебавіч свае ўчынкі тлумачыў тым, што яго „прысуды“, якія ён меў з мяшчан, „все отпали“, і цяпер, калі ён знаходзіцца ў Полацкім замку, яму „нечем поживиться“. Гэтыя непаразуменьні паміж полацкімі мяшчанамі і намесьнікам вырашыла пастанова гаспадара ад 30 сьнежня 1502 году. Усе ўчынкі Полацкага намесьніка былі прызнаны незаконнымі, і яму было запрапанавана зьвярнуць як адабраныя дакуманты на зямлю, гэтак і самыя землі, а таксама ня судзіць тых асоб, якія не падлягалі яго суду. А каб павялічыць прыбыткі Полацкага намесьніка, сельскія путнікі, прыпісаныя паводле кастрычнікавага прывілею 1498 году да Полацку, былі падпарадкаваны гарадзкой юрысдыкцыі. Прывілей яшчэ раз падкрэсьліваў, што ўсе тыя грамадзкія элемэнты, якія жывуць у Полацку і займаюцца гандлем, будучы падданымі духоўных і сьвецкіх зямляўласьнікаў, павінны падлягаць гарадзкой юрысдыкцыі. Калі-б знашліся грамадзкія элемэнты, якія-б не пажадалі быць „послушными“ гарадзкой адміністрацыі, то такія асобы павінны быць прыведзены на суд лент-войта, бурмістраў і радцаў. Калі-б знашліся элемэнты, якія-б пажадалі „поддатися в городский присуд, або за владыку и за бояр, и за игуменью и за иных которых задаватися, не хотечи в их праве Майборгском быти“, то гарадзкая адміністрацыя мае права такіх асоб „в нятстве держать до тых часов, поки мы их о том навчим, што мает с таковыми чинити“. Правапарушнікі Полацкага места павінны выплачваць штраф, як тыя, хто не падпарадкаваўся загаду гаспадара.

Аддаючы сельскіх путнікаў пад прысуд Полацкага намесьніка, новая пастанова пакідала за путнікамі абавязак вартаваць разам з мяшчанамі горад і астрог, а таксама, разам з усімі грамадзкімі элемэнтамі зямлі, пасылаць на межы і па дарогах старожы.

Памянёная пастанова яшчэ раз пацьвердзіла непарушнасьць Майдэборскага права і катэгорычна забараняла адміністрацыі Полацкае зямлі парушаць выдадзены прывілей. Паводле гэтых законадаўчых пастаноў горад Полацак склаў асобную адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку, але Полацак ня стаў канчальна адасобненым ад воласьці. Іншыя групы грамадзянства засталіся зьвязанымі з Полацкам, бо разам адбывалі вайсковую павіннасьць і разам высылалі старожы на межы зямлі, разам, урэшце, падтрымлівалі баявую падрыхтаванасьць замку. Гэтае захаваньне сувязяй Полацкага места з зямлёй сьведчыць, у пэўным сэнсе, аб слабым разьвіцьці гандлёвага капіталу. Пашырэньне капіталу на тэрыторыі Полацкае зямлі і было прычынай адасабненьня Полацку ад воласьці, але ўплыў капіталу быў яшчэ не настолькі моцны, каб канчальна адасобіць горад ад воласьці.

Ня гледзячы на граматы, якія выдаў вялікі князь, згода ў Полацку не наступіла. Полацкі намесьнік і тутэйшыя зямляўласьнікі не хацелі, як і даўней, лічыцца з прывілеем на Майдэборскае права. Паміж намесьнікам і тутэйшым грамадзянствам, з аднаго боку, і мяшчанамі,—з другога, увесь час паўставалі непаразуменьні. Зразумела, што мяшчане, у васобе войта, бурмістраў і радцаў, зьвярталіся да вялікага

[1]) Ibid., стар. 836—838.

князя Літоўскага, просячы аднавіць парушаныя правы. Жыгімонт I, у вадказ на гэтыя скаргі, выдаў 27 жніўня 1510 году новы прывілей, у якім пацьвярджаліся нададзеныя раней Полацку правы і прывілеі, а таксама пацьвярджалася падпарадкаваньне суду намесьніка сельскіх путнікаў [1]). Прывілей констатаваў, што, дзякуючы парушэньню праў мяшчан, значная частка іх імкнулася падпарадкавацца гарадзкому суду, а іншыя ішлі ў новыя месцы. Такія ўчынкі мяшчан прыносілі матар'яльную страту і гарадзкому і дзяржаўнаму скарбу, бо зьмяншаўся лік прыбыткаў, якія паступалі на карысьць гаспадара. З другога боку, мяшчане павінны былі выплачваць сярэбшчыну, ад якое баяры і зямляўласьнікі былі звольнены. Зусім зразумела, што шмат хто з мяшчан імкнуўся трапіць пад гарадзкі прысуд, маючы надзею звольніцца ад выплаты сярэбшчыны. Новы прывілей выразна зазначаў, што ўсе мяшчане, якія маюць сталае жыцьцё ў горадзе ці жывуць у вёсках каля гораду, а таксама ўсе рамесьнікі падлягаюць суду Майдэборскага права. Каб ухіліцца ад непаразуменьняў на будучыну, прывілей пакідаў за мяшчанамі ўсе купленыя імі землі, за якія яны павінны былі адбываць вайсковую службу.

Гэты самы прывілей, пералічаючы ўсе атрыманыя раней Полацкам правы і перавагі, дазволіў Полацкаму месту пабудаваць 4 гасьціных дамы, куды павінны былі заяжджаць усе купцы, якія тут бывалі, з якое прычыны заезд у прыватныя хаты быў забаронены. Прыбыткі ад гасьціных дамоў падзяляліся на дзьве часткі: палова ішла на карысьць вялікага князя, а палова на ратушу. Дазвол гаспадара на пабудаваньне гасьцінага дому выразна сьведчыў аб узросьце замежнага гандлю. Такія гасьціныя дамы былі патрэбны як для купцоў, якія прыяжджалі на кірмашы, гэтак і для тых купцоў, што траплялі ў межы Полацкае зямлі праездам, каб папярэдзіць магчымыя незаконныя гандлёвыя ўмовы з боку гэтых апошніх. Новы прывілей дазваляў пабудаваць млын на рацэ Палоце з умовай, каб палова прыбыткаў ішла на замак. Пакідаючы за мяшчанамі права ўладаць зямлёй паводле земскага права, прывілей у той-жа самы час вымагаў, каб баяры зьвярнулі назад мяшчанам іх дамы і землі, у выпадку, калі мяшчане прымушаны былі прадаваць пад уплывам гвалту. У сваю чаргу, баяры атрымліваюць у такіх выпадках назад аддадзеныя грошы. Прывілей пералічаў усе грашовыя правы і перавагі, якімі карыстаўся горад на падставе Майдэборскага права.

Дараваньне Полацку Майдэборскага права ўносіла значныя зьмены ў агульны характар Полацкае зямлі. У пэўным сэнсе, прывілей на Майдэборскае права парушаў Полацкую конституцыю. Вось чаму, калі вялікі князь Жыгімонт выдаў, згодна з просьбай усяе Полацкае зямлі, пацьвярджальную Ўстаўную Грамату, то ўсе адбыўшыяся зьмены ў організацыі Полацкага места былі ўнесены ў Полацкую констытуцыю [2]). Констытуцыя пацьвярджала, што царкоўныя людзі вольны ад выплаты сярэбшчыны ў той час, калі ўсе тыя, хто займаўся гандлем ды рамесьніцтвам, павінны былі плаціць і сярэбшчыну і ардыншчыну. Констытуцыя пацьвярджала таксама правы мяшчан на ўваход дзеля сваіх патрэб у лясы, якія знаходзіліся каля места. У той самы час быў забаронены мяшчанам увакод у баярскія пушчы. Аднак, калі баярын дазволіць самахоць мешчаніну браць дрэва ў „его борех, и дубровех, и гаях“, то такі ўчынак не разглядаецца як незаконны, бо на тое была згода ўласьніка лясоў.

[1]) Акты Зап. России, т. II, № 61.
[2]) Ibid., № 70.

Ні апошні прывілей на Майдэборскае права, ні пацьвярджальная Грамата не супакоілі жыцьця Полацкае зямлі. Полацкія намесьнікі не хацелі пагадзіцца з зьменамі, якія адбыліся, і ўвесь час парушалі пастановы гаспадара. У гэтых адносінах асабліва вызначаўся Полацкі ваявода Пётра Кішка, які зусім ня лічыўся з правамі Полацку, дзякуючы чаму паміж ім і полацкімі мяшчанамі былі вельмі напружаныя адносіны. Разам з панам ваяводай духоўныя і сьвецкія земляўласьнікі займалі таксама варожае становішча. З другога боку, мяшчане не хацелі выплачваць сярэбшчыну і ардыншчыну, ішлі пад прысуд гарадзкога права ці закладаліся за біскупа, за князёў, за баяр. Мяшчане неаднакроць зварочваліся да вялікага князя з скаргамі на дзейнасьць ваявод, „о кривды и утиски, о грабежи и о зломанье права их Майборгского и привилья нашего, што ся им от твоей милости стало, и о иншие многие кривды, о забойстве голов и о бои, и грабежи, которые ся им от врядников и от слуг твоей милости стали“. Вялікі князь Жыгімонт, у вадказ на гэтыя скаргі, выдаў 10 красавіка 1524 году асобную грамату, на імя Полацкага ваяводы, пералічыўшы ў ёй значны лік усіх парушэньняў занадта самастойнага ваяводы, якія ён сабе дазволіў[1]). Перш за ўсё, ваявода не хацеў звальняць з-пад свайго прысуду тых мяшчан, якія купілі зямлю ў баяр, або ў путных людзей, ці купілі людзей данных, або прыгонных. Падругое, баяры і ваяводавы слугі, якія пажаніліся з мяшчанкамі і ўзялі ў пасаг землі, не хацелі падлягаць суду паводле Майдэборскага права. Апроч таго, ваявода і далей судзіў тых мяшчан, якія жылі ў сёлах, але мелі двары як у самым замку, гэтак і ў горадзе. Усе гэтыя ўчынкі ваяводы былі парушэньнем выдадзеных прывілеяў на Майдэборскае права. І з рамесьнікамі ня ўсё было добра. Ваяводы, ня маючы на тое ніякіх падстаў, прымушалі рамесьнікаў працаваць на сябе. Ваявода парушаў і гандлёвыя перавагі полацкіх мяшчан. Ён прымушаў усіх мяшчан, якія ехалі ў вялікае княства Літоўскае ці да Рыгі, а таксама і ў іншыя гарады, дзеля гандлю, „обвещатися“, інакш кажучы,—выплачваць на яго карысьць мыта. Гэта ня было прадугледжана ў Майдэборскім праве; наадварот, жыхары Полацку былі вольны ад усялякіх падаткаў на тэрыторыі ўсяго вялікага княства. Далей, ваявода браў незаконныя грошы з тых людзей, якія хадзілі на старожу ў замак. Тых з мяшчан, хто меў карчмы, ваявода таксама стараўся вярнуць пад свой прысуд. Устаўная Грамата вялікага князя, зазначаючы, што ваявода зьнішчыў правы і вольнасьці Полацку, вымагае каб надалей ваявода паступаў згодна з прывілеем на Майдэборскае права. Разам з тым, каб вярнуць пад прысуд Майдэборскага права тых, хто аддаў сябе ў заклад, вялікі князь пасылаў шляхціца Пётру Масальскага, які павінен быў спагнаць з усіх такіх асоб тую суму грошай, якую яны ня выплацілі ў скарб. Прапануючы Полацкаму ваяводзе выканаць памянёную вышэй грамату, вялікі князь Літоўскі паведамляў, што ён маніцца, як зьвернецца ў Літву, разгледзець сумесна з панамі раднымі ўсе правапарушэньні, якія выніклі з адміністраваньня ваяводы. Разам з тым ваяводзе было загадана глядзець за тым, каб сам ваявода, яго ўраднікі і слугі „наперед жадных кривд им не чинили, и привилья их и устного нашего сказания, и сего листу нашего, и права их Майборгского не рущали бы ничим“. Такім чынам, Полацак здолеў захаваць прывілей на Майдэборскае права непарушным, за што полацкія мяшчане каля чвэрці сталецьця змагаліся з мясцовай адміністрацыяй і з тутэйшым грамадзянствам. Аднак, і гэта апошняя грамата не па-

[1]) Ibid., № 147.

лепшыла ўзаемаадносін мяшчан з адміністрацыяй і з іншымі групамі грамадзянства. Непаразуменьні і далей вынікалі. Пакрыўджаныя, як і даўней, зварочваліся да вялікага князя, каб той вырашаў вынікаўшыя спрэчкі і непаразуменьні. У лютым 1529 году [1]) полацкія баяры зьвярнуліся да вялікага князя з скаргай на ўчынкі войта, лент-войта, бурмістраў і радцаў. Перш за ўсё, яны зазначалі тое, што прывілей гаспадара падзяліў прыбытак ад вагі на дзьве роўныя часткі паміж мяшчанамі і баярамі. Мяшчане-ж, ня гледзячы на гэта, ўвесь прыбытак ад вагі бралі сабе. Прывілей прызнаў, што мяшчане рабілі незаконна, і прапанаваў палову прыбыткаў ад вагі аддаваць баярам. Апроч таго, гаспадарская грамата дазваляла, каб у часе збору сярэбшчыны і ардыншчыны, а таксама іншых гарадзкіх плат, якія прыпадаюць на людзей князёўскіх, панскіх і баярскіх і ўсіх духоўных, быў прысутным полацкі баярын, калі гэтыя асобы займаюцца ў Полацку гандлем і рамесьніцтвам. Паводле пастановы гаспадара было дазволена „отчычам" места Полацку і валасным людзям, якія жылі на землях сьвецкіх і духоўных асоб, падлягаць прысуду Майдэборскага права, ці знаходзіцца пад гарадзкім правам, як хто захоча. Вольныя-ж людзі, якія пасяліліся на землях прыватных зямляўласьнікаў, павінны былі быць пад прысудам сваіх гаспадароў. Гэтая самая пастанова дазваляла мяшчанам браць дрэва на будаваньне і дровы з гаспадарскіх пушчаў і яшчэ раз забараняла ім уваход у прыватнаўласьніцкія пушчы і лясы. Урэшце, пастанова зазначала, што Полацак дагэтуль не пабудаваў гасьціных двароў і млына „ку шкоде нашей и их самих". Вялікі князь прапанаваў пабудаваць да бліжэйшых каляд на ўласны кошт гасьціныя дамы і млын. У выпадку, калі гэты загад ня будзе выкананы, то гасьціныя дамы і млын будуць пабудаваны на дзяржаўны кошт, і прыбытак ад іх эксплёатаваньня будзе паступаць у дзяржаўны скарб. Новая ўстава пацьвярджала абавязак мяшчан разам „с тыми людьми, духовными и с боярскими, которые вместе ремеслом ся обходят и которыя ку праву их прислухают", будаваць мост. Затое, ахова замку ад пажараў ускладалася ня толькі на мяшчан, але на ўсіх людзей прыватнаўласьніцкіх, якія жывуць у Полацку. Роўным чынам, жыхары Полацку абавязаны, як і даўней, правіць паркан. Такім чынам, лютавая Ўстаўная Грамата Жыгімонта I—1529 году, захаваўшы за Полацкам усе правы і прывілеі, зрабіла баярам формальныя нязначныя палёгкі ў адносінах контроляваньня збору падаткаў з прыватнаўласьніцкіх людзей, якія жылі ў горадзе і займаліся гандлем. У той самы час яна яшчэ раз адзначыла абавязак немяшчанскіх элемэнтаў прымаць удзел як у вахове замку ад пажараў, гэтак і ў пабудаваньні ўзмацненьняў.

Ня гледзячы на тое, што ў Полацку было Майдэборскае права, полацкія мяшчане ня былі адасобнены зусім ад валасьці. Яны заставаліся зямляўласьнікамі і, як зямляўласьнікі, падлягалі ў справах зямельных суду ваяводы, а ва ўсіх іншых справах былі падсудны Майдэборскаму праву. З гэтае самае прычыны мяшчане ня страцілі канчальна сувязі з тутэйшым грамадзянствам. Абавязак прыватнаўласьніцкіх людзей прымаць удзел у вахове замку і ў будоўлі паркану, сьведчылі аб захаваўшыхся агульных сувязях і інтарэсах мяшчан з валасьцю, ня гледзячы на Майдэборскае права.

## IV.

Прадстаўніком Полацкае зямлі і ўлады вялікага князя быў намесьнік Полацкі, якому з пачатку XVI сталецьця далі найменьне вая-

[1]) Акты Лит.-Русск. государства, № 191.

воды. Гэта, як думае профэсар Любаўскі, адбылося каля 1504 году [1]). Праўнае палажэньне намесьніка-ваяводы Полацкага вызначалася зьместам Полацкае Ўстаўнае Земскае Граматы, паводле якое насельніцтва Полацкае зямлі мела права мець ваяводу „по их воле“. Намесьнік-ваявода, які не дагадзіў насельніцтву і зрабіўся „не любым“, павінен быў быць зьняты з пасады. Як толькі ваявода прыяжджаў на месца, ён прысягаў полацкім жыхаром „без их справы полочанина не казнити ни в чем“ [2]). Гэтым самым Полацкая зямля забясьпечыла сабе ўдзел у адпраўленьні суду на падставе тутэйшага права. Ваявода Полацкі выступае як прадстаўнік усяе зямлі і намесьнік улады вялікага князя, ад імя якое ён адпраўляе суд. У часе вайны ўсе зямляўласьнікі, якія нясуць вайсковую павіннасьць, становяцца пад загад ваяводы. Ваявода павінен вырашаць судовыя справы толькі на месцы, нават у тых выпадках, калі абвінавачанаму пагражае кара сьмерці, у вадпаведнасьці з памянёнай вышэй прысягай. Вінавайца адбываў кару ў Полацку „с полачане по испросу“. Устаўная Земская Грамата забараняла ваяводзе афіцыяльныя падарожы па тэрыторыі зямлі, за выключэньнем падарож на паляваньне, „в ловы“, але ў гэтым выпадку насельніцтва было вольна ад абавязкаў даваць ваяводзе „стацыі“—„ино станом не дарити“. Грамата вызначала памеры тых плат, што паступалі ў скарб ваяводы за паасобныя службовыя даручэньні, якія выконвалі яго слугі ў зьвязку з судовымі справамі. Апроч таго, Грамата забараняла ваяводзе браць „посулы“ „от пригонов городских“, але затое ваяводзе ішлі „от вари гостинца, по полукопе от всякой вари“. Былі ў яго розныя прыбыткі і мытнага характару [3]). Супрацоўнікамі ваяводы ў справе кіраваньня зямлёю былі: гараднічы, харужы, бабраўнічы і гарадзкі цівун. Пасада гараднічага была ўтворана ў часы Казімера Ягелёнчыка. Спроба Полацкага намесьніка павялічыць компэтэнцыю гараднічага, як ужо казалі вышэй, посьпеху ня мела, і там быў пакінуты даўнейшы парадак, як прасіў аб тым Полацак [4]). Другою ўрадаваю асобай быў гарадзкі цівун. Полацкая Ўстаўная Грамата забараняла „воеводиным слугам тиунство держати“ [5]). Апроч таго, цівун ня меў права езьдзіць разам з слугамі ваяводы па Полацкай воласьці. Цівун судзіў людзей гарадзкое воласьці, а таксама людзей Чэрсьвяці, куды было забаронена езьдзіць слугам ваяводы. Ва ўсіх іншых частках Полацкае зямлі, на ўласных гаспадарскіх землях, суд і кіраўніцтва належылі ваяводзе, але ён павінен быў разглядаць усе справы ў горадзе. Полацкая Ўстаўная Грамата вызначала раён уплыву цівунскае ўлады з тае прычыны, што нават некаторыя спаміж мяшчан імкнуліся аддацца пад гарадзкі прысуд. Харужы і бабраўнічы, мелі спэцыфічныя абавязкі. Намесьнік-ваявода кіраваў або сам, або цераз сваіх намесьнікаў, або, урэшце,—цераз полацкіх баяр, якія трымалі паасобныя воласьці па гадох [6]).

Намесьнік-ваявода,—прадстаўнік улады вялікага князя,—павінен быў стаяць на варце закону і выконваць усе загады гаспадара. Але ў жыцьці не заўсёды так было, і паміж ваяводамі і тутэйшым насельніцтвам вынікалі паважныя непаразуменьні. Не дарма Полацкая Ўстаўная Грамата так старанна імкнецца абараніць насельніцтва ад магчы-

---

[1]) М. К. Любавский. Областное деление, стар. 254.
У пачатку XVI сталецьця ваяводамі былі: Станіслаў Глебавіч, Война Гаштольд, Ян Глебавіч, Пётра, сын Станіслава, Кішка, Пётра Корсак.
[2]) Акты Зап. России. т. II. № 70.
[3]) Полацкая ревизия, стар. 28.
[4]) Русск. Историч. Библиот., т. XXVII, стар. 28—29.
[5]) Акты Зап. России, т. II, № 70, стар. 89.
[6]) Ibid., т. I, № 175.

мых з боку ваявод няправільных учынкаў. Дараваньне Полацку Майдэборскага права, натуральна, закранала інтарэсы ваяводы. Непаразуменьні ваявод з мяшчанамі цягнуліся, здаецца, увесь час, і шмат спраў паступала на разгляд вялікага князя. Спачатку, каб спыніць гэта, Жыгімонт I выдаў 27 сьнежня 1510 году больш падрабязны прывілей на Майдэборскае права, у якім былі ўнесены тыя зьмены, што зрабіла вышэйшая ўлада пасьля наданьня асноўнага прывілею [1]). Але і гэты прывілей не пагадзіў Полацкага ваяводу і места. Асабліва выдаўся сваімі незаконнымі ўчынкамі ваявода Пётра, сын Станіслава, Кішка. Яго злачынствы былі вельмі значны, з прычыны чаго абуранае мяшчанства зьвярнулася да вялікага князя, просячы спыніць гэткую дзейнасьць ваяводы. У вадказ на гэта, Жыгімонт I выдаў 10 красавіка 1527 году Ўстаўную Грамату на імя ваяводы, у якой зазначаў як злачынствы яго самога, гэтак і падпарадкаваных яму ўраднікаў, і вымагаў каб дзейнасьць адміністрацыі не парушала прывілею на Майдэборскае права. Разам з тым Жыгімонт I абяцаў мяшчанам, што ён разгледзіць усе злоўжываньні і крымінальныя ўчынкі слуг ваяводы, як толькі зьвернецца ў вялікае княства Літоўскае. Адначасна ваяводзе быў дадзены загад, каб „он сам и врадники, и его слуги наперед кривд не чинили и привилья их, и устного нашего рассказания, и сего листу нашего, и права их Майборгского не рушали бы ничим“ [2]). Такім чынам, найвышэйшая ўлада павінна была констатаваць, што правы і загады вялікага князя ня выконвала тая ўлада, якая, як здавалася, павінна была перш за ўсё іх выконваць.

У компэтэнцыю ваяводы ўваходзілі судовыя справы. Полацкая Ўстаўная Грамата вымагала, каб суд адбываўся на месцы, паводле тутэйшага права, і толькі са згоды зацікаўленых у справе—яе можна было перанесьці ў цэнтр. Трэба згадзіцца з такім тлумачэньнем адпаведнага тэксту граматы, якое прапануе профэсар Любаўскі [3]). Суд павінен адбывацца публічна, а кара павінна адпавядаць характару і памеру злачынства, якое зрабіў абвінавачаны. Устаўная Грамата прызнае індывідуальную адказнасьць: жонка і дзеці, калі яны ня прымалі ўдзелу ў злачынстве, не падлягалі кары, і іх правы на маемасьць заставаліся непарушнымі. Устаўная Грамата не дае магчымасьці прысудзіць тую ці іншую кару без адпаведнага адпраўленьня суду. Ваявода судзіў не адзін—абавязкава павінны былі быць прысутны баяры і мяшчане. За выкананьнем гэтых пастаноў Устаўнае Граматы заўсёды пільна сачылі. Адсутнасьць на судзе прадстаўніка з мясцовага грамадзянства, як паказаў профэсар Любаўскі, была прычынай адкладаньня справы. Склад такіх судовых удзельнікаў быў вельмі разнастайны. Апроч князёў, паноў і баяр Полацкае зямлі бывалі прысутнымі духоўныя і сьвецкія ўраднікі гаспадара - гараднічыя, баброўнічыя, цівуны [4]). Лік удзельнікаў ня меў значэньня; ваявода судзіў у прысутнасьці аднаго баярына ці Полацкага архібіскупа; важна было, каб прадстаўнікі ад грамадзянства былі прысутны на судзе, а ня лік іх. Удзел мясцовых людзей у вадпраўленьні суду не абмяжоўваўся толькі тым, што яны былі прысутны на судзе і выказвалі свой погляд на справу, калі ваявода зварочваўся да іх за парадаю; звычайна, ваявода выносіў свой вырак „со бояре обмолвивши“,—формула, якая паказвала на актыўны ўдзел насельніцтва ў вырашэньні судовых спраў. На судзе ваяводы ня відаць, каб былі прысутны мяшчане, хаця-ж гэты факт пярэчыць зьмес-

[1]) Ibid., т. II, № 61.
[2]) Ibid., № 747.
[3]) Проф. М. К. Любавский. „Областное деление“, стар. 865.
[4]) Кніга запісаў XVI, лісты 131. 134, 135, 136, 137, 139, 142 і інш.

ту Полацкае констытуцыі. Аднак, адсутнасьць мяшчан зусім зразумела. Мяшчане атрымалі прывілей на Майдэборскае права і, будучы вылучаны ў асобную адміністрацыйна-судовую і грашова-гаспадарчую адзінку, яны мала былі зацікаўлены ў судовых працэсах, якія беспасрэдна да іх ня мелі дачыненьня. Іншы раз ваявода не знаходзіў магчымым разглядаць справу і адкладаў яе да краёвага сойму. Гэтак, у 1532 годзе ваявода Ян Юравіч Глебавіч, разглядаючы справу князёў Сакалінскіх аб маёнтку Мільковічы пастанавіў: „обеим сторонам пред нами у Полоцку стать по Илиzе дни, в тыйден", калі там будзе адбывацца краёвы сойм, каб на ім, „со всей землей обмовивши", вырашыць спрэчныя справы [1]).

У Полацкай зямлі здаўна функцыянавалі краёвыя соймы, якія сьведчылі аб палітычнай самастойнасьці зямлі. Краёвыя соймы былі ўстановамі самаўраду, а разам з тым—і адбіткам самадзейнасьці зямлі; яны былі вельмі блізка зьвязаны з народным вечам. Пад уплывам эканомічнага разьвіцьця зямлі і адпаведнае клясавае дыфэрэнцыяцыі грамадзянства зьмяняўся і склад краёвага сойму. У працах краёвага сойму прымалі ўдзел як сам ваявода, гэтак і ўрадавыя асобы зямлі, архібіскуп, тутэйшыя земляўласьнікі, князі, паны, баяры і мяшчане. Удзел мяшчан, хаця-ж яны і атрымалі 7 кастрычніка 1498 году прывілей на Майдэборскае права, паказваў на тое, што існавала адзінства Полацкае зямлі.

Краёвы сойм—найвышэйшая ўстанова, дзе выяўляліся пагляды зямлі, інакш кажучы,—тых кляс грамадзянства, якія трымалі ў сваіх руках асноўныя элемэнты народнае гаспадаркі: гандаль, прамысловасьць і сельскую гаспадарку. Перш за ўсё, на краёвых соймах складаліся розныя просьбы да вялікага князя. Гэтак, пацьвярджальная Устаўная Грамата Полацкае зямлі ад 23 чэрвеня 1511 году была выдадзена пасьля таго, як падалі паклонную „от имени бояр, мещан и всего города, и всей земли Полоцкой". Устаўная Грамата замацоўвала за мяшчанамі права падаваць паклонныя, што ўжо прадугледжвала скліканьне краёвага сойму. Абраньне кандыдатаў на пасаду ваяводы таксама належыць сойму, які меў права зьняць ваяводу з пасады і замяніць яго іншым, калі насельніцтва было нездаволена ваяводай. Сойм, як поўнамоцны прадстаўнік усяе зямлі, укладаў умовы з немцамі, спаміж якіх—умову 1467 году пацьвердзіў вялікі князь Казімер. Краёвы сойм карыстаўся і правам законадаўчае ўлады. Устаўная Земская Грамата вымагала, каб ваявода судзіў полацкіх жыхароў паводле тутэйшага права, з удзелам у судзе мяшчан і баяр. Гэтае тутэйшае права складалася ў выніку законадаўчае дзейнасьці народнага веча. Гэтак, у 1534 годзе ваявода Полацкі адклаў справу Сакалінскіх, пакуль ня будзе скліканы краёвы сойм, каб на гэтым сойме вырашыць пытаньне аб тым, што рабіць з земляўласьнікамі, якія ўхіляліся ад прыходу на суд, тлумачачы гэта сваёй службай і сваімі абавязкамі [2]). Пастанова краёвага сойму ў гэтым выпадку павінна была стаць законам, адным з формаў тутэйшага права. Той самы ваявода, Ян Юравіч Глебавіч, з усімі баярамі Полацкае зямлі, прыняў пастанову, колькі трэба плаціць за пераймо каня ці якое-небудзь іншае жывёлы, якая адстала ад войска [3]). Паны і баяры полацкія прымалі ўдзел у выдаваньні ўставы для полацкіх млынароў. Усе гэтыя факты зьяўляюцца паказальнікам пэўнага значэньня краёвых соймаў.

[1]) Ibid., лісты 138—140. Проф. М. К. Любавский „Областное деление", стар. 872.

[2]) Ibid., лісты 138—140.

[3]) Ibid., ліст 289. Проф. М. К. Любавский, „Областное деление". стар. 875.

V.

З пашырэньнем хрысьціянства ў Полацкай зямлі, яе вылучылі ў асобную адміністрацыйна-царкоўную акругу; на чале яе стаяў біскуп, які залежыў у царкоўна-адміністрацыйных адносінах ад Кіеўскага мітрапаліта. Але гэтая залежнасьць была толькі номінальнай, бо, з прычыны далёкасьці Полацку ад Кіеву, мітрапаліт фактычна ня меў ніякае магчымасьці выяўляць сваю ўладу, асабліва, калі мець на ўвазе напружаныя адносіны Кіеву з Полацкам.

Праўнае палажэньне Полацкае царквы заставалася бяз зьмен з моманту ўваходу Полацкае зямлі ў склад вялікага княства Літоўскага. Полацкі ўладыка, як і даўней, быў падпарадкаваны Кіеўскаму мітрапаліту, незалежна ад таго, ці быў Кіеўскі мітрапаліт адначасна і мітрапалітам Маскоўскім, ці Кіеўская мітраполія была організацыяй асобнай ад Масквы. Дзякуючы таму, што Полацак знаходзіўся досыць далёка ад Кіеву і Масквы, залежнасьць Полацкага ўладыкі ад Кіеўскага мітрапаліта была фіктыўнай. Унутры свае эпархіі Полацкі ўладыка карыстаўся поўнай свабодай у сваёй дзейнасьці. У склад Полацкае эпархіі ўваходзілі Полацкая і Віцебская землі. Дзякуючы гэтаму захавалася царкоўна-адміністрацыйнае адзінства абедзьвюх зямель, хаця-ж політычна Віцебская і Полацкая землі былі адасобнены адна ад другое. Праўда, у характары і будове народнае гаспадаркі, у організацыі грамадзянства і адміністрацыйна-дзяржаўнага кіраваньня абедзьве зямлі мелі шмат агульнага, дзякуючы чаму захавалася экономічнае адзінства Полацкае і Віцебскае зямель, а разам з гэтым магло захавацца і царкоўна-адміністрацыйнае адзінства.

Дзякуючы таму, што Полацкая зямля ў экономічных і політычных адносінах была адасобнена, Полацкая царква захавала поўную аўтономію і незалежнасьць ад сьвецкае ўлады яшчэ ў часы дзяржаўна-праўнае свае незалежнасьці. Полацкая праваслаўная царква захавала сваю незалежнасьць з усімі правамі і вынікамі, якія з гэтае незалежнасьці выходзілі, і тады, калі Полацкая зямля павінна была прыняць Літоўскага князя; правы і перавагі царквы былі азначаны ў тэй умове, якую Полацкая зямля ўлажыла з князем. Артыкулы ўмовы князя Андрэя, сына Альгерда, з Полацкай зямлёй мэханічна пераносіліся ў наступныя прывілеі і былі ўключаны ў агульны пацьвярджальны прывілей 23 ліпня 1511 году, на правы і вольнасьць Полацкае зямлі[1]).

Згодна з памянёным прывілеем, Полацкая царква захоўвала поўную незалежнасьць ад сьвецкае ўлады ў адміністрацыйна-гаспадарчых адносінах. Роўным чынам, царква захоўвала свае маемасныя правы таксама ў непарушнасьці. Вялікі князь дакляраваў насельніцтву зямлі „церкви божией не вступатися, в дом божий святой Софеи и в дом божий святого спаса и в иные домы церковные не вступатися“. Пацьвярджальная Ўстаўная Грамата Віцебскае зямлі ад 16 чэрвеня 1503 году зьмяшчала ў сабе такую-ж самую гарантыю. Апроч таго, яна гарантавала непарушнасьць веры літоўцаў і ляхаў, у выпадку, калі-б апошнія прынялі праваслаўе[2]). У Полацкім прывілеі 1511 году ня зьмешчана такое гарантыі, але, дзякуючы адзінству Полацкае і Віцебскае зямель у царкоўна-адміністрацыйных адносінах, вышэй памянёны артыкул Граматы меў, зразумела, значэньне і для Полацкае зямлі. Апроч таго, што незалежнасьць праваслаўнае царквы была прадугледжана земскімі прывілеямі, яна была пацьверджана

[1]) Акты Зап. России, т. II, № 70.
[2]) Ibid., т. I, № 204.

і ў асобным прывілеі, які быў выдадзены Полацкай царкве з прычыны просьбы і хадайніцтва Лукі, архібіскупа Полацкага і Віцебскага. Архібіскуп Лука зьвярнуўся да вялікага князя Аляксандра, просячы пацьвердзіць усе тыя царкоўныя правы і перавагі, якія яна мела здаўна і якія знаходзілі сабе праўную пастанову ў так званым зьвітку Яраслава (сына Ўладзімера). Зьвітак гэты зьмяшчаў у сабе ўсе царкоўныя правы і ўстанаўляў незалежнасьць царкоўнае організацыі ад сьвецкае ўлады.

Вялікі князь Аляксандар пашоў насустрач просьбам Полацкага ўладыкі і абвясьціў на імя яго 26 сьнежня 1503 году прывілей[1]), які даваў права архібіскупу Луцэ і яго наступнікам „судить и рядити и вси дела духовные справовати, христианского и грецкого закона, подле тых прав выпису того свитка Ярославля вечно на веки веков". З гэтае прычыны вялікі князь даў пасьля гэтага загад адміністрацыі, усім зямляўласьнікам, як духоўным, гэтак і сьвецкім, аднаго і другога вызнаньня „штобы кривды бы церкви божией архиепископы не чинили и в доходы церковные и во вси права, и в суды духовные не вступалися", бо за архібіскупам Лукой застаецца суд і кіраваньне царкоўнаю маемасьцю „подле давного обычая". Прывілей пацьвердзіў права асоб, якія жылі на царкоўных землях у гарадох, займацца гандлем, з умовай выплаты, разам з горадам, усіх павіннасьцяй. Прывілей захоўваў за сьвецкімі людзьмі каталіцкага вызнаньня права патронату над цэрквамі закону грэцкага, аднак, з умовай, што патрон „не мает моцы того священника от той церкви рушити без осмотрения и воли архиепископией". У выпадку, калі ў князёўскіх і панскіх дварох была пабудавана праваслаўная царква, якая знаходзілася пад патронатам архібіскупа, апошні захоўваў свае правы непарушнымі. Урэшце, прывілей таксама абараняў гонар і паважнасьць праваслаўнага духавенства. Асобы аднаго і другога вызнаньня, якія абразілі моральна ці фізычна сьвяшчэньніка, падлягалі духоўнаму суду. Такім чынам, незалежнасьць Полацкае царквы ад сьвецкае ўлады ў царкоўна-адміністрацыйных адносінах была захавана. Гэтая ідэя незалежнасьці не пярэчыла існаваньню права патронату з боку сьвецкіх зямляўласьнікаў і кіраўнікоў гаспадара, бо за Полацкім архібіскупам заставалася права контролю над дзейнасьцю земляўласьнікаў і адміністрацыі ў адносінах да парахіяльнага духавенства.

Пад загадам біскупа знаходзіліся цэрквы ня толькі ў Полацкай зямлі. Праваслаўная царква сьв. Міколы ў Рызе таксама была ў сфэры ўплыву Полацкага ўладыкі, які меў права прызначаць у вольныя парохіі сьвяшчэньнікаў—сваіх кандыдатаў і звальняць іх, замяняючы новымі асобамі, калі ён знаходзіў іх неадпаведнымі. У Рызе здаўна была беларуская колёнія, вядомая пад назовам „русский конец", дзе знаходзілася царква сьв. Міколы. Помнікі захавалі некалькі фактаў, якія сьведчаць аб правох біскупа ў адносінах да праваслаўнае царквы ў Рызе. Гэтак, у 1521 годзе, полацкі архібіскуп Язэп звольніў сьвяшчэньніка царквы сьв. Міколы, імем Івана, а на яго месца прызначыў свайго зяця, таксама Івана[2]). Праз два гады быў прызначаны новы сьвяшчэньнік, нейкі Мацей Якабсон. Звычайна, у такіх выпадках архібіскуп зварочваўся з адпаведным пасланьнем да Рыскага магістрату, просячы перадаць новаму сьвяшчэньніку ключ і царкву[3]).

Полацкія архібіскупы былі кандыдатамі тутэйшага грамадзянства, духоўнага і сьвецкага. Князі, баяры, паны і ўсё славутнае „господне

[1]) Вит. старина, т. I, № 17.

[2]) Витебская старина, т. V. Материалы для истории Полоцкой епархии. Составил и издал А. Сапунов. Витебск. 1888. № 24. (Далей прыводзіцца скарочана: „Вит. Старина, т. V").

[3]) Ibid., № 27.



Полацак. Будынкі б. Езуіцкае калегіі.
XVII—XVIII ст.

людство“ прымалі ўдзел у вабраньні біскупа[1]). Хіротонія залежыла ад Кіеўскага мітрапаліта, які спэцыяльна іншы раз прыяжджаў дзеля гэтага ў Літву. Тутэйшае грамадзянства, відаць, мела контроль над дзейнасьцю свайго архібіскупа. Гэтак, у 1544 годзе шляхта Полацкае зямлі зьвярнулася да вялікага князя Жыгімонта II з скаргай на дзейнасьць Полацкага архібіскупа Сымона. Вялікі князь уважліва разгледзеў скаргу Полацкае шляхты і аддаў загад земяніну Войне Пятровічу выехаць у Полацак, каб той дазнаўся „о тых вси кривдах и шкодах и тяжкостях, которые Полоцкий владыка причинил населению“. Война павінен быў сабраць усе патрэбныя весткі, а ўсё тое, што біскуп несправядліва ўзяў, зьвярнуць законным уласьнікам. Разам з тым, вялікі князь знашоў патрэбным паведаміць Кіеўскага мітрапаліта аб учынках Полацкага архібіскупа, а Полацкай шляхце даручыў запрасіць Кіеўскага мітрапаліта ў Літву, каб той разгледзеў справу архібіскупа і супольна— „разузнание и справедливость тому, наконец без отволоки учинить водле обычаю, закону их и права писаного земского“[2]). Ня гледзячы на тое, што прывілей захоўваў непарушнасьць царкоўнага суду, на практыцы шмат асоб, нездаволеных дзейнасьцю біскупа, падавала скаргі вялікаму князю, каб той разглядаў справы і аднаўляў парушанае царкоўнае права, перадаючы тое ці іншае спрэчнае пытаньне на разгляд Кіеўскага мітрапаліта. Гэтак, калі Полацкі архібіскуп Сымон скасаваў шлюб баярыні Тамілы Гітаўтаўны з сынам мітрапаліта (потым ён дазволіў яму жаніцца зноў, хаця-ж аб гэтым сама баярыня, якая многа пакутвала „от окруженства мужа“, не прасіла), то вялікі князь, у адказ на паклонную баярыні, зьвярнуўся да Кіеўскага мітрапаліта з просьбаю, каб той „водле обычаю и закона и права вашего духовного в том ее заховал и владыце Полоцкому оного неслушного разлучения, малженства их (што есть проти ку богу и с погоршением многих людей закона вашего) легце не опущал, а так бы того з столца своего дозрел, якося на таковых у праве вашем духовном описует“[3]). З гэтага відаць, што вялікі князь выступаў, як абаронца інтарэсаў шляхты ня толькі ў справах сьвецкіх, але і ў справах духоўных.

Полацкі біскуп займаў у Полацкай зямлі выдатнае становішча, быў значнай палітычнай фігурай і прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцьці. Яму даводзілася іншы раз выступаць у зносінах з немцамі, як прадстаўніку ўсяе зямлі. Гэтак, калі Полацкі біскуп Якаў даведаўся аб замірэньні немцаў з вялікім князем Вітэнем, ён зьвярнуўся да адміністрацыі гораду Рыгі, просячы прапусьціць хлеб у Полацак[4]). Палітычным значэньнем полацкіх біскупаў тлумачыцца, між іншым, і тое, што яны тытулявалі сябе архібіскупамі. Калі Кіеўскі мітрапаліт не згаджаўся прызнаць за Полацкім біскупам тытулу архібіскупа, то ўладыка Аўхім паскардзіўся на Кіеўскага мітрапаліта вялікаму князю на тое, што „он дей не пишет мене в листех сваих архиепископом, а перед тым дей митрополитами до моих предков, владык полоцких писывали архиепископам, а сами предковы мои в листех своих титул свой писывали архиепископы, и он дей ми того ныне боронит“. Каб вырашыць спрэчнае пытаньне, вялікі князь заклікаў да сябе князёў Друцкіх і Полацкіх баяр, якія прызналі, што Полацкі ўладыка здаўна меў тытул архібіскупа. Паводле гэтага вялікі крязь прыняў пастанову, каб на будучыню Кіеўскі мітрапаліт тытуляваў Полацкага ўладыку архібіскупам[5]).

---

[1]) Вит. Старина, т. I, № 14.
[2]) Вит. Старина, т. V, № 32.
[3]) Ibid., № 33.
[4]) Вит. Старина. т. I, № 8.
[5]) Ibid., № 19.

Тады-ж вялікі князь Жыгімонт вырашыў пытаньне аб старшынстве ўладык Полацкага і Уладзімерска-Берасьцейскага. Князі Друцкія і баяры полацкія, якіх запыталіся пра гэта, адказалі вялікаму князю, што „завжды владыки Полацкии выше о владык Владимирских сежевали". Вялікі князь, разам з панамі раднымі, вырашыў справу на карысьць біскупа Полацкага [1]). Відавочна, паказаньне тутэйшых зямляўласьнікаў мела вялізнае значэньне. Гэткія факты, калі прадстаўнікі духавенства зварочваліся да вялікага князя, давалі яму права прымаць удзел у вырашэньні царкоўна-адміністрацыйных пытаньняў, дзякуючы чаму незалежнасьць царквы ад адміністрацыі на практыцы парушалася. Усе царкоўныя асобы і ўстановы, паводле старадаўняга звычаю, падлягалі суду ўладыкі. Аднак, паасобныя манастыры, якія мелі спэцыяльныя граматы, былі вольны ад біскупскага суду. Гэтак, Полацкі манастыр, у імя прачыстае, атрымаў ад Полацкага князя грамату на розную маемасьць; грамата гэтая ў той самы час звальняла манастыр ад падсуднасьці біскупа. Усё насельніцтва, якое жыло на тэрыторыі манастыра, было падпарадкавана ігумену [2]). Дзякуючы гэткім імунітэтам манастыр станавіўся асобнай царкоўна-грамадзкай організацыяй, якая была вельмі слаба зьвязана з вышэйшаю царкоўнаю ўладай. Полацкі ўладыка быў вельмі буйным зямляўласьнікам. Паводле вестак Полацкае рэвізіі 1552 году, Полацкі ўладыка стаўляў на вайну 50 коньнікаў [3]). Дзякуючы гэтаму Полацкі ўладыка, як буйны зямляўласьнік, меў вялікае значэньне ў жыцьці Полацкае зямлі. З другога боку, як зямляўласьнік, ён быў зьвязаны супольнымі экономічнымі і політычнымі інтарэсамі з тутэйшым грамадзянствам, дзякуючы чаму ў грамадзянстве падтрымліваўся інтарэс да царкоўных спраў Полацкае зямлі.

Калі Полацку было нададзена Майдэборскае права, дык гэта было прычынай раду конфліктаў паміж царквой і полацкай адміністрацыяй. Гарадзкая ўлада забірала некаторыя сёлы і вёскі, якія належылі царкве; з свайго боку, людзі, якія жылі ў гарадох на царкоўных землях і прымалі ўдзел у гандлі, не хацелі выплачваць гарадзкіх падаткаў, хаця-ж аб гэтым казала Грамата вялікага князя 1503 году, якая пацьвярджала правы і перавагі Полацкае царквы. Урэшце, царкоўныя людзі прымушаны былі падпарадкавацца Майдэборскаму праву. Пацьвярджальны прывілей 1511 году, дазваляючы царкоўным людзям займацца гандлем і рамесьніцтвам, аднак, зазначаў, што яны абавязаны прымаць удзел разам з мяшчанамі ў выплаце тых падаткаў, якія прыпадаюць на мяшчан. Разам з тым, царкоўныя людзі павінны былі прымаць удзел у старожах дзеля аховы гораду. Каб пазбавіць ніжэйшае духавенства ад розных злачынстваў з боку ўлады біскупа, у Полацкім земскім прывілеі было вызначана, якія прыбыткі біскуп меў права атрымліваць ад гэтага духавенства [4]). Дзякуючы гэтаму, усе паборы біскупа, якія ня мелі падставы ў Полацкім прывілеі, былі незаконнымі.

Насельніцтва Полацкае зямлі, галоўным чынам, належыла да праваслаўнага вызнаньня. Аднак, трэба констатаваць, што ў Полацку было і каталіцкае вызнаньне. Ужо ў часы вялікага князя Аляксандра было пабудавана паводле яго загаду „колько божниц Римского закона" [5]). Полацкі прывілей на Майдэборскае права вымагаў, каб палова бурмістраў абіралася з складу асоб каталіцкага вызнаньня. Роўным чынам, з двох радцаў адзін павінен быць католіком. Усё гэта сьведчыць аб роўнапраў-

---

[1]) Ibid., № 20.
[2]) Вит. Старина., т. V, № 7.
[3]) Полоцкая ревизия, стар. 167.
[4]) Акты Зап. России, т. II, № 70.
[5]) Ibid., т. I, № 192, стар. 235.

насьці аднаго і другога вызнаньня. Аднак, відаць, каталіцызм у Полацкай зямлі меў нязначнае пашырэньне. Калі Сьцяпан Баторы ўзяў Полацак у маскоўцаў, то на ўсёй Полацкай зямлі ня было ніводнае каталіцкае царквы: яны або былі зруйнаваны ў часы маскоўскае окупацыі, або існаваньне іх спынілася з прычыны адсутнасьці парахіян (аб гэтым больш дакладна можна даведацца ў першым томе „Віцебскае Старасьветчыны“, стар. 602). У кожным разе, у Полацкай зямлі канца XV і пачатку XVI сталецьця ня было ніякага рэлігійнага антаганізму.





Васіль Дружчыц.

Правадзейны Член Інстытуту Беларускае Культуры, доцэнт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

# Места Вільня ў першай палове XVI сталецьця.



еста Вільня ляжыць на берагох ракі Вяльлі (Веліі) пад 54°41 паўночнае шырыні і 24°57 усходняе даўжыні. Места ляжыць у волміне (катліне), навокал якое знаходзяцца досыць вялікія ўзвышшы (узгоркі). У старадаўнія часы навокал Вільні былі бязьмежныя лясы, азёры і вялікія прасторы балот. Такое палажэньне рабіла места Вільню мала прыступным для нападаў з боку ворагаў.

Можна думаць, што места Вільня зьяўляецца старым славянскім паселішчам. Аб гэтым гаворыць назоў ракі Вяльлі (Веліі), ад якой паходзіць і назоў места. Крывічы і дрыгавічы ў сваім колёнізацыйным руху далёка заходзілі ня толькі на ўсход і поўнач, але і на захад; аб гэтым сьведчаць Кокейнос і Герсіке, колёніі крывічоў на берагох Заходняе Дзьвіны. Нічога дзіўнага няма ў тым, што ўжо ў самыя старадаўнія часы Віленшчына была заселена славянамі. Такі пагляд ня будзе супярэчыць гістарычным падзеям, калі нават ня прымаць тэорыі Шафарыка аб славянскім пахаджэньні племя, якое насіла назоў „Літва“.

Першая вестка аб Вільні зьвязана з лёсам Полаччыны. У летапісе, паводле Ўваскрасенскага сьпіску, пад 1129 годам зьмешчана, што ў часы нападу з боку кіеўскага князя Мсьціслава (сына Ўладзімера) князі полацкія паўцякалі ў Царгорад і Вільню, баючыся гвалтаўніка Мсьціслава, паддаліся каралю Вэнгерскаму, а пасьля „Вилняне взяша собе из Царяграда князя Полотцкого Ростислава Рогволодовича детей, Давила князя, да брата его Мовколда князя, и той на Вилне пръвый князь Давил, брат Мовколдов болшой; а дети его Вид, его же дети волком звали, да Ердень князь“ [1]). Значыцца, у гэты час Вільня была значным замкам і была цэнтрам, да якога прылягала даволі вялікая акруга, калі Вільня запрашае да сябе асобнага князя.

[1]) Полное собрание русских летописей, изданное Археографическою Комиссиею. Том VII. Летопись по Воскресенскому списку. СПБ., 1856, стар. 253.

У XII сталецьці пра места Вільню спамінае ісляндзкі вандроўнік Спорро-Стурлезон. Весткі аб месьце Вільні да XIV сталецьця зьяўляюцца выпадковымі, часта ня зусім пэўнымі і праўдзівымі. Аднак, бяз іх нельга было-б зразумець, чаму Гэдымін заснаваў тут сваю сталіцу ў дваццатых гадох XIV сталецьця.

Тлумачыць гэты факт толькі цэнтральным палажэньнем Вільні сярод зямель, над якімі панаваў Гэдымін, і інтарэсамі абароны,—няма падставы. Напэўна, ужо ў той час Вільня была значным паселішчам і гандлёвым цэнтрам, бо жыхары яго вялі гандлёвыя зносіны з Рыгаю, Любэкам, Штэтынам, Ростокам, Штральзундам і востравам Готляндам. У 1324 годзе ў Вільні ўжо існуе два касьцёлы[1]), натуральна—дзеля здаваленьня рэлігійных патрэб гандляроў, якія па сваіх справах прыяжджалі ў Вільню.

Стаўшы сталіцай, Вільня ўзмацнілася двома замкамі: Верхнім—на Замкавай гары, і Ніжнім—у яе падставы; іх пабудаваў Гэдымін у 1322 годзе.

Адначасна Гэдымін зьвяртаецца з запрашэньнем у прыморскія гарады Заходняе Эўропы да рамесьнікаў і майстроў, каб тыя ехалі на жыцьцё ў Вільню. Прывілеі, якія даравау чужаземцам Гэдымін, дапамаглі ўзросту места, а таксама разьвіцьцю і пашырэньню ў ім гандлю. У другой палове XIV сталецьця, калі Альгерд пашырыў межы Літоўска-Беларускае дзяржавы на поўдзень і на ўсход, Вільня расьце і шырыцца, дзякуючы гандлёвым зносінам з Украінай і з усходнімі землямі. Але ў гэты-ж самы час Вільня адчувае перашкоды ў гандлёвых зносінах з Заходняй Эўропай. Бязупынная барацьба з крыжакамі Кейстута, які кіраваў заходняй паловай Літоўска-Беларускага княства, амаль што зусім зьнішчыла правільныя гандлёвыя зносіны з захадам. Крыжакі, захапіўшы ўсё ўзьбярэжжа Бальтыцкага мора, трымалі ў сваіх руках гандлёвыя шляхі Беларусі, якія зьвязвалі яе з Заходняй Эўропай. Барацьба крыжакоў з Літоўска-Беларускай дзяржавай асабліва цяжка адбівалася на тым, што крыжакі перарвалі зносіны на бліжэйшых водных шляхох—па рэках Заходняй Дзьвіне, Нёмне і Вісьле. Застаўся толькі кружны шлях праз Вялікі Ноўгарад, але ён быў далёка і, апроч таго, усю карысьць ад гандлю пакідаў у сваіх руках. Такое палажэньне яшчэ пагоршала пасьля сьмерці Альгерда. Вялікім князем стаў сын Альгерда—Ягайла, а Кейстут застаўся, як і раней, калі яшчэ жыў Альгерд, князем Заходняе Беларусі і Літвы і прызнаў старшынства Ягайлы. Хутка, аднак, згода паміж імі была парушана, і пачалася барацьба, прычым Ягайла ў 1380 годзе ўлажыў сакрэтную згоду з крыжакамі супроць Кейстута. Кейстут захапіў Вільню і стаў вялікім князем; аднак, доўга ўтрымацца ён не здалеў. Супроць яго выступілі і жыхары места Вільні. Гэтая варожасьць Вільні да Кейстута тлумачыцца тым, што ваяўнічасьць Кейстута вяла да барацьбы з крыжакамі, якая так шкодна адбівалася на гандлёвых інтарэсах вільнян, у той час як згодніцкі настрой Ягайлы падаваў надзею на адчыненьне бліжэйшых шляхоў і портаў Бальтыцкага ўзьбярэжжа, якія ішлі ў Заходнюю Эўропу.

Актыўны ўдзел места Вільні ў палітычных справах таго часу, а магчыма, і ў пазьнейшай палітычнай барацьбе, даў Вільні цэлы рад праў і прывілеяў, якія вызначалі Вільню спаміж рэшты гарадоў і дапамагалі росквіту „столечного места". Бязумоўна, спрыялі гэтаму і агульнаэканамічныя, а таксама і палітычныя ўмовы таго часу. Ужо ў 1387 годзе.

[1]) Ю. Крачковский. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893.

места Вільня атрымлівае прывілей на Майдэборскае права [1]). Праўда, гэты акт быў яшчэ мала выразны і асаблівых праў месту не даваў, але ён стаў асновай, на якой будаваліся і пашыраліся правы Вільні. У 1432 годзе, 23 верасьня, Жыгімонт Кейстутавіч, звольніў места Вільню ад выплаты мыта па ўсім княстве: „Пожаловали есмо виленских местичов ляхов и руси што им мыта недавати по всей нашой земли как издавна не давали а отпустили есмо им вся мыта вечно" [2]). У гэтым самым годзе быў зноў нададзены і прывілей на Майдэборскае права, у якім адзначана, што ён даецца „изнову", інакш кажучы,—у першы раз. Калі спыніцца на характары прывілею, дык яго запраўды можна лічыць асноўным прывілеем места Вільні. Гэтым прывілеем даравана „право немецкое што словет Матьборгское... на вечные часы всим местичом виленским нашое веры римское и руским, што суть руское веры и всему посполству места виленского во всих своих оурадех того права немецкого и члонкох, разделох, розумех держати их... отдаляючы от иных прав, што суг польская, литовская, руская... и ослобожаем тое место виленское от всего права и насилья всих воевод и судей". Падсуднасьць места ўва ўсіх справах—як крымінальных, гэтак і цывільных—перадаецца войту, апэляцыя на якога ідзе да гаспадара, але і „тогды неиначей но их жо правом немецким и маеть отповедити". Войту даецца права „судити и отсудити казнити мстити на кола бити, стинати... как оу том праве оу немецком матборском во всих своих члонкох"... Апроч таго, месту дадзены былі і даходныя крыніцы: „вагу, на которой воск весять и иныи речы крамныи", а таксама „постригальня сукон... чотыри ятки суконные, а иныи к тому чотыри" для „шинкованья и сложенье вина меду и пива" [3]). Усе асноўныя рысы прывілею на Майдэборскае права, якія мы можам заўважыць і ў прывілеях іншых беларускіх местаў, мы знаходзім у гэтым прывілеі. Больш позьнія граматы зьяўляюцца дадаткамі да гэтага асноўнага акту. Учасы князяваньня Казіміра экономічныя і юрыдычныя правы і прывілеі места Вільні пашыраюцца яшчэ далей. У 1444 годзе месту Вільні было даравана права на два штогоднія кірмашы [4]), а ў 1443—права вольнага пераезду ракой Вяльлёй праз гаспадарскія і баярскія езы, а таксама права бічэўніка і высадкі на бераг [5]); у 1444 годзе віляняне былі звольнены ад падводнае павіннасьці [6]).

Усе найгалаўнейшыя прывілеі нададзены былі ў часы барацьбы за ўладу вялікага князя. Можна думаць, што Вільня, як значны цэнтр і сталіца дзяржавы, ня была пасыўнай у тагочаснай політычнай барацьбе і, зразумела, атрымлівала за сваю актыўнасьць узнагароду ад улады ў форме пашырэньня сваіх праў і прывілеяў.

У XV сталёцьці вонкавыя адносіны Літоўска-Беларускае дзяржавы да крыжакоў палепшыліся і далі магчымасьць весьці правільныя зносіны з Заходняй Эўропай. Ужо умовы Вітаўта у 1402 і 1404 гадох з крыжакамі аднавілі гандлёвыя зносіны насельніцтва Літвы і Беларусі з Прыбальтыцкімі краінамі. Аднак, умовы часта парушаліся, ня гледзячы на абавязкі, якія прынялі на сябе крыжакі, і тавары літоўска-беларускіх гандляроў ня толькі абкладаліся непасільнымі і незакон-

---

[1]) Собрание древних грамот и актов городов Вильны, Ковна, Трок, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Часть I. Вильна, 1843. № 1. (Далей прыводзіцца скарочана: „Собрание древних грамот Вильны и др."

[2]) Ibid., № 2.

[3]) Ibid., № 4.

[4]) Ibid., № 7.

[5]) Ibid., № 8.

[6]) Ibid., № 9.

ными падаткамі, але часта і рабаваліся. Палажэньне палепшылася пасьля таго, як крыжакі былі пабіты каля Грунвальду. У 1415 годзе Вітаўт улажыў з крыжакамі новую ўмову, у якой забясьпечыў насельніцтву Літоўска-Беларускага княства вольны праезд і сплаў тавараў па рэках Вісьле і Нёмне. Асабліва важнае значэньне для гандлёвых зносін мела Нешаўская умова, якая была ўложана з крыжакамі ў 1424 годзе і мела назоў: „Liber transitus“ (у перакладзе на беларускую мову—„вольны транзыт“). Паводле Нешаўскае ўмовы, насельніцтва і гандляры Польшчы, Літвы, Беларусі і Жамойці атрымалі права вольнага гандлю і праезду праз тэрыторыю крыжацкіх ордэнаў сухім або водным шляхам, з абавязкам плаціць толькі старыя звычайныя мыты. У часе праезду праз тэрыторыю крыжакоў гандляры маюць права спыняцца, выходзіць на бераг і прадаваць свае тавары [1]). Укоснае значэньне для беларускага ўвозу і вывазу мела і Таруньская згода Польшчы з крыжакамі. Паводле Таруньскае згоды, Гданск (Данцыг) адышоў да Польшчы, а па Нёмне быў забясьпечаны вольны праезд. Гэтай згодай былі забясьпечаны маемасьць і асоба гандляра. Зьняможаны ордэн цяпер ужо не адважваўся парушаць умовы, і зносіны з Заходняй Эўропай былі забясьпечаны, што спагадна адбілася на гандлі і ажыўленьні беларускіх местаў, у першую чаргу, места Вільні. Распад Тэўтонскага ордэну і ўтварэньне замест яго Прускага гэрцогства не пашкодзіла беларускаму вывазу і гандлю. У 1529 годзе з гэрцогам прускім Альбэртам была адноўлена старая гандлёвая ўмова і зацьверджаны ранейшыя ўмовы гандлю.

Віленскія мяшчане ў зносінах з суседзямі атрымалі і выключныя прывілеі. У 1502 годзе вялікі князь Аляксандар, стаўшы каралём польскім, дараваў месту Віленскаму прывілей, паводле якога мяшчане віленскія мелі права вольна і бяз выплаты мыта праяжджаць праз Польшчу як сухім, гэтак і водным шляхам, спыняцца там і гандляваць усялякімі таварамі: „Cives Vilnenses per totum regnum Poloniae ut premittitur ire stare morari mercaricias exercere, quouscunque opportunum fuerit libere et secure tam per aquam, quam per terram absque exactione et solutione Theloneorum nostrorum omni impedimento remoto“ [2]).

У межах Літоўска-Беларускае дзяржавы мяшчане таксама атрымліваюць выключныя гандлёвыя прывілеі. У той час як кожнаму месту, калі надавалі Майдэборскае права, дык вызначалі, што: „окром Вильневцев ни один купец иного места не будет моцы мети инако куповати и продавати“, як толькі гуртам [3]), віленскія мяшчане маюць права гандляваць і ў розьніцу ня толькі ў сябе, але і ў іншых гарадох княства, як Трокі, Полацак, Віцебск, Смаленск, Кіеў, Менск, Наваградак [4]).

У той час, як места Вільня дамагалася такіх значных эканомічных прывілеяў для сваіх мяшчан, у адносінах да гасьцей і чужых гандляроў вядзецца адваротная палітыка. Мяшчане Вільні дамагаюцца абмежаваньня праў і прывілеяў чужаземцаў у месьце Вільні. Маючы на мэце абмежаваньне чужаземных гандляроў, вільняне дамага-

[1]) Volumina legum. Przedruk zbioru praw staraniem X.X. pijarów w Warszawie od roku 1732 do roku 1782. T. I. Petersburg, 1859. стар. 38—39.

[2]) Собрание древних грамот Вильны и др., № 12. Пераклад на беларускую мову: „Віленскім мяшчанам дазваляецца праз усё каралеўства Польскае ісьці, стаяць, спыняцца гандляваць, дзе-б яны не пажадалі, вольна і бясьпечна як на вадзе, гэтак і на сухазем'і бяз выплаты нам мыта і без усялякіх перашкод“.

[3]) Акты, относящиеся к истории Западной России. т. I. 1746. № 165.

[4]) Собрание древних грамот Вильны и др., № 7.

юцца ад ураду вялікага князя Аляксандра прывілею, паводле якога чужаземцы „москвичи, новгородцы, псковичи, тферичи и з иншых земаль купцы чужоземцы“ спыняліся-б толькі ў гасьцінным двары, для чаго павінна быць пабудавана спэцыяльнае памяшканьне. Прычынай пабудаваньня двара было гандляваньне чужаземцаў аднаго з другім „з немци и з иншими купцы чужеземцы гость з гостем“ [1]). Пры такім парадку, які існаваў да дараваньня гэтага прывілею, увесь пасярэдніцкі прыбытак ад гандлю трапляў у рукі чужаземцаў, што парушала асноўны прывілей жыхароў Вільні.

У 1511 годзе прывілей Жыгімонта Старога забараніў гасьцём—як чужаземцам, гэтак і гасьцём з іншых гарадоў вялікага княства Літоўскага,—гандляваць з гасьцьмі і прыехаўшымі купцамі пад страхам страты і конфіскаваньня тавараў. Весьці гандаль госьці мелі права толькі з віленскімі мяшчанамі і гандлярамі. Вольны гандаль з чужаземцамі дазваляўся толькі ў часы кірмашоў [2]).

Такія выключныя гандлёвыя прывілеі давалі месту Вільні магчымасьць разьвінуцца ў значны гандлёвы і прамысловы цэнтр у дзяржаве. Асабліва віленскі гандаль узрастае ў пачатку XVI сталецьця, у час разьвіцьця і пашырэньня на Беларусі гандлёвага капіталізму. Значнасьць места і яго гандлёвае значэньне выразна выяўляюцца ў колькасьці падатку, які выплачвала места Вільня ў дзяржаўны скарб. У 1529 годзе Вільня выплачвала самы вялікі падатак, у параўнаньні з іншымі местамі, а імена: 1.500 коп грошай, у той час як Коўна плаціла толькі 300 коп, а Горадня—180 коп грошай. Яшчэ болей выразна выступала велічыня места Вільні ў вайсковай павіннасьці. Паводле попісу 1513 году, места Вільня павінна была стаўляць 500 коньнікаў, Берасьце-ж—150, Коўна—50, а Горадня—20 коньнікаў [3]).

Места Вільня вядзе ў XVI сталецьці значны гандаль. Яна гандлюе з Рыгаю, Псковам, Ноўгарадам, Масквою, Цьвер'ю, Крымам, з Польшчай, Прусіяй, Сылезіяй, Вэнгрыяй і з іншымі заходня-эўропейскімі дзяржавамі і местамі. У Вільні знаходзіцца склад прывозных сукан, якія адсюль развозяцца па іншых гарадох. Вільня зьяўляецца пасярэднікам у гандлі Маскоўскага княства з Заходняй Эўропай. Праз тэрыторыю Літоўска-Беларускага княства ішлі ў Маскоўшчыну косы, серабро і іншыя рэчы. З Масквы ішлі ў Вільню і далей—у Заходнюю Эўропу—„косматыя скуры“ (хутры), лён, пянька і іншыя тавары. Літоўска-Беларускае княства вывозіць у XVI сталецьці лес, жыта, ячмень, пшаніцу, авёс, гарох, воск, мёд, сала, хмель, дзёгаць, смалу, косматыя скуры, скуры жывёлы, жывую жывёлу і іншую сыравіну. З Эўропы прывозіцца сукно, бавоўна, тонкае палатно, вырабы з жалеза, медзі, сталі, дарагія каменьні, конская збруя, польскае і вэнгерскае шкло, цукар, розныя карэньні, селядцы і соль [4]). У вывазе і ўвозе ўсіх гэтых тавараў значны ўдзел прымалі віленскія мяшчане.

У Вільню прыяжджала многа чужаземных гандляроў. Немцы і маскоўцы былі звычайнымі і частымі гасьцьмі. Немцы засялілі нават асобную вуліцу, якая і да гэтага часу завецца Нямецкаю. Зносіны з Масквой, дзякуючы амаль што бязупынным войнам Літоўска-Беларускага княства з Маскоўскай дзяржавай у пачатку XVI сталецьця,

---

[1]) Ibid., № 13.

[2]) Ibid., № 16.

[3]) В. Пичета. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. Часть первая. Москва, 1917, стар. 74—76.

[4]) Акты, издаваемые Виленскою Комиссиею. Т. XX. Акты касающиеся города Вильны. Вильна, 1893, стар., 56, 173, 250.

ня былі ў гэты час такімі сталымі і часта перапыняліся. Прыяжджалі ў Вільню і польскія гандляры і нават голяндцы, ангельцы, а таксама і гандляры з іншых гарадоў Заходняе Эўропы.

Узмацненьне гандлю і гандлёвых зносін з Заходняй Эўропай, натуральна, адбівалася на павялічэньні места Вільні, на яго пашырэньні і ўзросьце. Другім фактарам узросту Вільні было тое, што Вільня была „столечным местом". З часоў вялікага князя Казімера літоўска-беларускія вялікія князі звычайна жывуць у Вільні, тады як іх папярэднікі большай часткай жылі ў Троках. Асабліва князі Аляксандар, Жыгімонт Стары і Жыгімонт-Аўгуст спрыяюць узросту і аздобе места Вільні. Яны жывуць там даўгі час самі, з сваім дваром, і любяць места Вільню. У часы Аляксандра замак быў забудаваны новымі драўлянымі і каменнымі будынкамі. Памяшканьне двара вялікага князя знаходзілася ў Ніжнім замку, у падставы Замковае гары. У Верхнім замку князь Аляксандар закладае збраёўню (арсэнал) з майстроўняй дзеля вырабу зброі. У часы Жыгімонта Старога пачынаньні Аляксандра яшчэ больш разьвінуліся як у Ніжнім, гэтак і ў Верхнім замку. Усё пабудаванае, аднак, было зьнішчана пажарамі ў 1513 і ў 1530 гадох. Пасьля пажару замковыя будынкі зноў аднаўляюцца пад кіраўніцтвам віленскага гараднічага Ульрыха Гозія, вядомага будаўнічага таго часу. Да пажару замак і бліжэйшыя да яго пляцы былі забудаваны дробнымі драўлянымі будынкамі. Пасьля пажару частку пляцоў пакінулі незабудаванымі і засадзілі сад, каб забясьпечыць замак ад пажараў. Палацы Ніжняга замку былі пабудаваны побач з катадральным касьцёлам і займалі прастору ад катадры да Замковае гары. Непадалёк ад замку былі стайні і пушкарня вялікага князя, з памяшканьнямі для майстроў. Гэтая мясцовасьць і да нашага часу завецца Пушкарняй.

Адначасна з вялікім князем, будавалі сабе палацы і паны як духоўнага, гэтак і сьвецкага стану, асабліва паны радныя, якім, у зьвязку з іх абавязкамі, трэ' было часта жыць у сталіцы.

Побач з Ніжнім замкам, ляжалі пляцы паноў Радзівілаў. Мяжою была левая адтока ракі Вяльлі (Вялейка). Вялейка ў старадаўнія часы падзялялася перад замкам на дзьве адтокі і абкружала замак. Радзівілаўскія пляцы займалі значную прастору ад Вялейкі да Вялейскае брамы, частку Лукішак і Татарскае вуліцы. Мясцовасьць, якую займалі абшары пляцоў Радзівілаў, звалася Лукамі[1]); пляцы і дамы Радзівілаў былі і на іншых вуліцах.

На Вялікай вуліцы былі дамы князя Астроскага, пана Гаштольда (дом Гаштольда пазьней перайшоў да роду Радзівілаў), пана Хадкевіча (перад вайной у гэтым доме зьмяшчалася Управа Віленскае Школьнае Акругі („Виленский Учебный Округ"), паноў Сапег, Остыкаў. На Нямецкай вуліцы былі дамы паноў Гарнастая, Остыка, Гаштольда, Войны, князёў Слуцкіх, паноў Тышкевіча, Кішкі; на Троцкай вуліцы—паноў Пацаў і Бжастоўскіх. На розных вуліцах стаяла шмат дамоў іншых паноў.

Значную частку места Вільні ў XVI сталецьці займалі дамы і пляцы духавенства. Толькі аднаму каталіцкаму духавенству ў пачатку XVI сталецьця належала трэцяя частка ўсяе прасторы места Вільні[2]). Значныя абшары Вільні займалі і маемасьці праваслаўнае царквы. Меў свае будынкі і жамойцкі біскуп.

---

[1]) Wilno od początków jego do roku 1750. Przez J. Kraszewskiego. T. IV. Wilno 1842, стар. 355.

[2]) Ю. Крачковский, op. cit., стар. 45.

Тое, што пляцы і дамы захапілі ў месьце паны духоўнага і сьвецкага стану, мела сваім вынікам ня толькі пасяленьне гэтых паноў у межах места Вільні. На сваіх вольных пляцох паны і духавенства дазвалялі сяліцца розным асобам, якія не належалі да панскага і шляхоцкага стану; асабліва паны шукалі рамесьнікаў дзеля пасяленьня на сваіх пляцох. На панскіх і царкоўных землях ахвотна сяліліся як віленскія мяшчане, гэтак і мяшчане, якія прыходзілі з іншых гарадоў, з тае прычыны, што яны аслабаняліся часта ад выплаты падаткаў і ад павіннасьцяй, якія ішлі на ратушу, а разам з тым аслабаняліся ад улады і прысуду мескага. Духавенства і паны ахвотна дазвалялі сяліцца на сваіх пляцох, бо яны бралі з пасяліўшыхся мяшчан падаткі, і гэтым павялічвалі свае прыбыткі. Такое зьявішча закранала інтарэсы віленскіх мяшчан усяго места, а разам з тым і дзяржаўнага скарбу, бо „в том нам шкода и платы нашые гинуць. Про то-ж... абы ни жадин мещанин не продавал домов своих никоторому князю, ни пану, ни боярам“. Такім чынам, паводле просьбы віленскага войта і мяшчан, гаспадарскі ўрад павінен быў забясьпечыць і свае інтарэсы, а, разам з гэтым, і інтарэсы места, забараніўшы князём, паном і баярам-шляхце без дазволу ўраду купляць дамы і пляцы ў месьце Вільні. Забарона, аднак, мала пашкодзіла пашырэньню маемасьцяй духавенства і паноў, бо гаспадар рабіў часта выключэньне паводле пэрсанальных просьбаў як паноў, гэтак і духавенства. Такая палітыка гаспадарскага ўраду давяла да таго, што ў пачатку XVI сталецьця ў Вільні ўтвараюцца тры розныя ўрады, або, як іх завуць, юрыздыкі: біскупская, меская, або майдэборская і замковая, або гродзкая. На чале першае юрыздыкі стаяў каталіцкі біскуп, на чале мескае—войт з бурмістрамі, а на чале замковае—ваявода[1]). Ужо ў XVI сталецьці ўтвараецца і чацьвертая юрыздыка—мітрапалічая, з праваслаўным мітрапалітам на чале. У 1569 годзе прывілей Жыгімонта-Аўгуста загадаў, каб войт і мяшчане „в оные люди в месте Виленском, на грунте его митрополем осажоные, ничимсе не ступовали, в послушенство и в присуд свой меский не прыворочали, платов и подачек жадных з них собе и на ратуш не брали и не привлащали и тым мешчаном его в тым покой. Нехай он (мітрапаліт) або намесьник его... тых мешчан своих во владности и в присуде своем маеть“ [2]).

Пасьля таго, як утварылася вуніцкая царква ў Вільні, зьяўляецца ўжо ў XVII сталецьці юрыздыка мітрапаліта вуніцкага.

Такая разнастайнасьць улады і падсуднасьці была прычынай частых спрэчак і судовых працэсаў паміж грамадзянствам розных юрыздык і перашкаджала нормальнаму разьвіцьцю места. Асабліва гэтае зьявішча балюча адбілася на месьце Вільні ў XVII сталецьці, у часы эканомічнага заняпаду. У першай палове XVI сталецьця юрыздыкі толькі афармляліся і складаліся, падобна да таго, як складаліся ўзаемаадносіны паміж станамі грамадзянства ўсяе Літоўска-Беларускае дзяржавы.

Палажэньне Вільні ў цэнтры дзяржавы забясьпечвала месту спакойнае жыцьцё і было прычынай таго, што віленскі ўрад не асабліва дбаў аб сваёй абароне. Так было ў XV сталецьці, пачынаючы з дзесятых і да дзевяцьдзесятых гадоў. Але ў канцы сталецьця вайна з Масквой, якой дапамагалі крымскія татары, паставіла пытаньне аб умацаваньні Вільні належнымі мурамі і парканамі, бо замак ужо ня мог

[1]) Wilno od początków jego do roku 1750. Przez J. Kraszewskiego. T. III. Wilno, 1841, ст. 189.

[2]) Археографический сборник документов, относящихся к истории северо-западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского Учебного Округа. T. VI. Вильна, 1869, ст.37.



Вільня. Званіца Францішканскага касьцёлу XV ст.

(З старадаўняга малюнку).

абслугоўваць жыхарства, да і сам ён ня меў фактычна ваеннага значэньня ў гэты час. Пытаньне аб умацаваньні Вільні паднялі войт і мяшчане места Віленскага, просячы ў 1505 годзе, каб гаспадар вялікі князь дазволіў ім, замест вайсковае службы, мураваць сьцяну навокал места („хто можеть муром, тот-бы свою делницу замуравал, а хто на тот час неможеть замуровати делницы свае, тот бы порканом порканил"), з прычыны таго, „што ж тое место виленское не затвореное и если-бы на службу поехали, тогды, его боже вховай, што-бы тому месту нашому какое шкоды од поганства не было". Гаспадар здаволіў просьбу мяшчан, звольніў места на год ад вайсковае павіннасьці і ад усялякіх іншых падаткаў і загадаў будаваць сьцяну. Ніхто—ні паны, ні духавенства, ні шляхта, ні мяшчане—не маглі быць зволены ад гэтага абавязку: „а которые князи и панове и земяне и кононицы и иные косьтельного вряду люди так закону римского а греческого хотели бы домы мети в муру, в стене, тогды маеть каждый з них свою делницу стены замуровати, або запарканити, а если бы не хотели, тогды казали есмо пану воеводе виленскому в их домы мещан увязывати, а им отмену за местом давати, а мещанин который тот дом возметь, тот и делницу его замуруеть". У сьцяне было пяць брам: „первая брона (брама) за пана старостиным дворам (Віленская) к Вели (да ракі Вяльлі), другая подле маткі божее к Трокам (Троцкая), третяя подле святое троици (Траецкая, а можа—Вострабрамская), четвертая подле святого спаса (Спаская), а пятая в город (Замковая)". Апроч проэктуемых брам фактычна былі і іншыя: Рудніцкая, Татарская, Субач. Для старожы гэтых брам мескі ўрад павінен быў мець спэцыяльную варту, на ўтрыманьне якой быў прызначаны спэцыяльны падатак: „которыи люди чиколве будуть повезут доместа пшеницу гречку овес муку и иные речи стравные штоколве будет и дрова и сено, стых со всих велели есмо им скаждого воза по пенезю брати и за то сторожу в тых брон мети, а естли которые люди невсхотят пенязей давати, тые нехай покаменю везут"[1]).

Сьцяна была скончана ў 1522 годзе і абкружала места ад Спаскае брамы да Бакшты, ад Бакшты да Сьвятадухаўскага манастыра, да Медніцкае брамы, Чортавае брамы, пасьля—Завальнай вуліцай, Жамойцкім завулкам да Троцкай брамы, пасьля далей—часткаю Завальнай вуліцай да Віленскай брамы; ад Віленскае брамы—Татарскай вуліцай да ніжняга замку. З боку ракі Вялейкі сьцяна ад Спаскае брамы ішла па рацэ, уніз па яе плыні, да Бэрнардынскага саду [2]). Такім чынам, сучасны цэнтр Вільні быў абнесены сьцяною ўжо ў пачатку XVI сталецьця, але заселена была Вільня ня толькі ў цэнтры, у межах сьцяны, але і па-за сьценамі. Прадмесьці Вільні—Зарэчча, Лукішкі, Сьняпішкі, Роса, Рыбакі—былі значна і густа заселены ўжо ў першай палове XVI сталецьця.

Будынкі ў пачатку XVI сталецьця былі пераважна драўляныя і стаялі ў беспарадку. Пажары 1513 і 1530 гадоў, якія зьнішчылі амаль што палову гораду, прымусілі будаваць камяніцы і захоўваць некаторы парадак. Вялікая вуліца, Нямецкая, Біскупская (у часы расійскае імпэрыі—Дварцовая) пакрываюцца значнымі камяніцамі і панскімі палацамі, дах якіх зроблены з чарапіцы і гонты. Для задаваленьня патрэб у будаўнічых матар'ялах, як цэгла, вапна, шкло і іншыя, закладаюцца цагельні, гуты. У 1536 годзе места адкупіла „плитницу" (цагельню) на Сьняпішках у біскупа Яна за паўтараста

1) Собрание древних грамот Вильны и др., № 14.
2) Ю. Крачковский, op. cit., стар. 62.

коп грошай [1]); была „плитница“ і ў пана ваяводы Яна Юр'евіча Глябовіча, траляліся яны і на іншых прадмесьцях Вільні, напрыклад, на Зарэччы. Будаўнічыя матар'ялы прывозіліся нават з больш далёкіх аколіц Вільні. У 1551 годзе вялікі князь Жыгімонт-Аўгуст дазволіў Марціну Палецкаму „за рекою Вельею межи Псарнею нашою и плитницою Воеводы Виленского небожчика пана Яна Юревича Глебовича збудовати гуту скланую накладом своим властным ку его пожитку с которое он в кождый год по чотыриста склениц давати нам ся подвезал“ [2]).

Гушчыня насельніцтва на прадмесьці і пабудаваньне там фабрык прымушала гаспадарскі і мескі ўрады падбаць аб пабудове сталага мосту праз раку Вяльлю. Адсутнасьць мосту выклікала значныя страты і нявыгоды, бо існаваўшыя перавозы былі небясьпечнымі і дарага каштавалі. Вялікі князь даручыў у 1526 годзе будаваньне мосту віленскаму гараднічаму Ульрыху Гозію за яго ўласны кошт. За гэта Ульрых Гозі атрымаў права зьбіраць з усіх, хто праяжджаў праз мост, устаноўленую гаспадарскім урадам плату—мастовае. Ад выплаты мастовага падатку звальнялася шляхта і духавенства. Падатак быў вызначаны наступны: ад аднаконнай падводы з дровамі, сенам і хлебам—адзін дэнары (unum denarum sive obolum); адзін дэнары плацілі ад галавы скаціны, якую гналі на кірмаш; ад аднаконнай падводы, нагружанай купецкім таварам, плацілі тры дэнары, ад параконнай—пяць дэнараў. Пасьля таго, як будаваньне мосту акупіцца, прыбыткі ад мастовага падатку часткаю павінны выдавацца на рамонт мосту і на яго ўтрыманьне ў належным парадку, а рэшта грошай павінна была аддавацца на ўтрыманьне шпіталю пры касьцеле сьв. тройцы [3]). На месцы мосту, які пабудаваў Гозі, знаходзіцца цяпер у Вільні Зялёны Мост. Апроч мосту праз раку Вяльлю былі масты на рэчцы Вялейцы. Адзін мост быў каля Бэрнардынскага манастыра, другі—каля Спаскае брамы. У першай палове XVI сталецьця мескі ўрад іх перабудаваў, за што ўстанавіў плату ў адзін пенязь з кожнае падводы. Апроч гэтых мастоў, быў мост праз Вялейку каля замку, а на Шэрайкішках быў пешаходны мост [4]).

На рацэ Вялейцы быў цэлы рад млыноў, якія задавальнялі патрэбы гораду. Непадалёк ад самага замку, дзе знаходзіцца цяпер так званы батанічны сад, быў млын вялікага князя, вышэй Спаскае брамы—млын каталіцкага біскупа, на 14 паставох, на Паплавах—ваяводзінскі або Радзівілаўскі млын. Былі і іншыя прыватныя млыны.

Апроч млыноў, на рацэ Вялейцы ў 1524 годзе зьявілася паперня; яна знаходзілася вышэй на рацэ за млыном ваяводы [5]). У XVII сталецьці паперню зьнішчыў пажар і, замест яе, быў пабудаваны млын для вырабу пораху [6]).

Важным пытаньнем для гораду была вада. Вады не хапала як для штодзеннага ўжытку, гэтак і ў выпадках пажару. У 1535 годзе „войт, бурмистры и радцы и вси мещане места Виленского“ зьвярнуліся з наклоннай да вялікага князя, „оповедаючи нам великий недостаток воды в том месте нашом, яко ку потребе их посполитой, так и в час наглое пригоды к угашенью огня на тое место“. Гэтае здарэньне адбы-

[1]) Собрание древних грамот Вильны и др., № 26.
[2]) Ibid., № 48.
[3]) Ibid., № 25.
[4]) Акты, издаваемые Виленскою Комиссиею, т. XX. стар. 254 і 266.
[5]) Літоўская Мэтрыка, кн. запісаў 12, ліст 201 (адварот).
[6]) Wilno od początków jego do roku 1750. Przez J. Kraszewskiego. T. III. Wilno 1841, стар. 285.



Вільня  Вежа Бэрнардынскага касьцёлу. Пачатак XVI ст.

лося з тае прычыны, што з дазволу гаспадара крыніцу „Винкгерь“, вада з якое „вольным током через место хоживала“, прыўлашчылі сабе, манахі домініканы. Мяшчане прасілі гаспадара аб дазволе правесьці „рурами“ (трубамі) ваду з другое крыніцы, у якой „есть досыть воды“ і якая знаходзіцца „на земли нашой господарской, едучы с за Субочович улицы до гур на великой дорозе“. Гаспадар даў дазвол: „и даровали есмо тую воду на оном местцы всим мещаном места нашого виленьского в праве Майтборском мешкаючим тое воды добровольне на вечность поживати и до места ее вести“ [1]).

Такая дзейнасьць гаспадарскага ўраду і магістрату падрывала значэньне домініканскае крыніцы, ад якой домініканы мелі прыбыткі, і прымусіла домініканаў пайсьці на ўступкі. У 1536 годзе яны прадаюць месту віленскаму і магістрату сваю крыніцу за 160 грошай літоўскіх і 10 фунтаў перцу, захаваўшы за сабой права правесьці трубу ў манастыр і карыстацца вадой, а таксама—права правядзеньня трубы з вадою ў дом Ульрыха Гозія на Нямецкую вуліцу [2]). З гэтага часу места Вільня было забясьпечана вадой, якую правялі па ўсім горадзе і нават у некаторыя дамы ў сярэдзіну іх, як, напрыклад, у дом Ульрыха Гозія. Адначасна з узростам места Вільні і яго ўпарадкаваньнем з надворнага боку, з павялічэньнем у ім вытворчых прадпрыемстваў (фабрык), Вільня атрымлівае пэўны парадак у кіраваньні і вызначаныя правы ўлады. Што да кіраваньня і ўлады—места Вільня не зьяўляецца аднолькавым і адзіным. У першай палове XVI сталецьця па ўсёй Літоўска-Беларускай дзяржаве канчаўся процэс дыфэрэнцыяцыі станаў і іх адмежаваньня адзін ад другога. Паны духоўнага і сьвецкага стану, шляхта, мяшчане пад Майдэборскім правам і, урэшце, сяляне вылучаюцца ў паасобныя групы. Кожная з гэтых груп—станаў—мае свае асобныя правы і адасобнена адна ад другой непраходным бяздоньнем. Кожны стан мае свой суд і ўладу, якія рэдка сутыкаюцца паміж сабой. Места Вільня было нібы адбіткам усяе дзяржавы. Тут жыло духавенства, паны і шляхта, жылі і мяшчане; з гэтае прычыны ўтвараюцца і розныя ўлады і суды, так званыя ў той час юрыздыкі, якім падлягае кожны стан. Паны падлягаюць ваяводзе або беспасрэдна ўладзе вялікага князя, шляхта—гродзкай, або замковай юрыздыцы, на чале якой стаіць пан-ваявода; духавенства ўтварае сваю юрыздыку: біскуп каталіцкі—адну, мітрапаліт праваслаўны—другую, а, з утварэньнем вуніцкае царквы, зьяўляецца юрыздыка і вуніцкага мітрапаліта. Урэшце, была юрыздыка мяшчан з Майдэборскім правам, якое было атрымана ўжо ў 1387 годзе. Значны лік юрыздык быў, бязумоўна, вялікаю перашкодаю для нормальнага разьвіцьця места і, магчыма, гэта было галоўнаю прычынай таго, што мяшчанства на Беларусі ня стала такім самым трэцім станам, як гэта сталася ў Францыі, і не здалела нават выступіць актыўна супроць паноў шляхты за пашырэньне сваіх палітычных праў.

Самая ўлада мяшчан, на аснове Майдэборскага права, не адразу прыняла сталую форму; яна прайшла досыць даўгі процэс разьвіцьця і зьявілася як вынік барацьбы паміж самых мяшчан і змаганьня з гаспадарскім урадам, і толькі ў XVI сталецьці прыняла канчальную форму.

На чале мяшчанскага ўраду стаяў войт. Ужо паводле прывілею 1432 году, мяшчане павінны былі „о вся дела росправлятися перед

[1]) Собрание древних грамот Вильны и др., № 23.

[2]) Ibidem, № 24.

своим войтом" [1]). Пасада войта, на якую спачатку прызначаў адпаведных асоб гаспадарскі ўрад, становіцца з XVI сталецьця, як думае Крашэўскі, абіральнай—мяшчане самі абіраюць сваіх войтаў. Згадзіцца з гэтым, аднак, нельга, з прычыны адсутнасьці адпаведнага прывілею, а таксама дзеля супярэчнасьці такога дэмократызму ў адносінах улады войта, у той час, як сама меская рада абіралася членамі тэй-жа рады, інакш кажучы,—шляхам коопташыі.

Докумэнтальныя весткі таксама пярэчаць пагляду Крашэўскага, а стары звычай нават пацьвярджае, што і ў XVI сталецьці гаспадарскі ўрад прызначаў на пасаду войта асоб сваім уласным абраньнем і паводле свае волі. Гэтак, у 1528 годзе вялікі князь выдаў прывілей на віленскае войтаўства мешчаніну кракаўскаму Шчаснаму Лянгюру „до живота его со всякими властностями и платы и доходы и пожитки того места виленьского войтовскими и со всим по тому, как ся першии войтове виленьскии от нас держивали. Мает он тот врад войтовство виленьское от нас держати и в ним ся справовати и рядити и подданых наших заховати водле права майтборского и привильи нашого, который есмо им на то право умоцнили и дали и теж водле того, как и перши войтове от нас державали водле привильев наших, которые от нас на тое войтовство мевали, так теж и ему то даем и привлащаем не иначей, только так, как и першим войтам со всими справы их и вольностями". Паводле сэнсу прывілею, выразна відаць, што войтаў прызначаў да гэтага часу гаспадар, як і цяпер прызначаецца Шчасны Лянгюр. Аднак, некаторы ўплыў мела і грамадзянства, бо, паводле прывілею, ён прызначаўся на войтаўскую пасаду толькі з умовай, калі ён „добре ся заховаеть на том враде найпервей се нам гаспадару и теж подданым нашим". Праўда, выраз „добре ся заховаеть"—няясны і не абмежаваны, але усё-ж ткі заўважаецца, што хочуць лічыцца з грамадзянствам места Вільні і з іх адносінамі да войта. У якой форме выяўляюцца адносіны мяшчанства да войта—няясна, але гэта, бязумоўна, не абраньне віленскім мяшчанствам свайго войта, а звычайнае прызначэньне гаспадарчай уладай. Магчыма, вялікі князь прадбачыў протэст і ня толькі з боку мяшчан, але і з боку іншых вышэйшых станаў грамадзянства, бо прывілей кажа не аб вільнянах, а наагул аб падданых. Протэст супроць прызначэньня на пасаду войта мог зьявіцца з тае прычыны, што гэтаю асобай быў польскі мешчанін, а ўжо з часоў земскага прывілею 1447 году вялікія князі абавязваліся не прызначаць на пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім асоб чужаземнага пахаджэньня, а толькі тубыльцаў. Што вялікі князь так разумеў умоўнае прызначэньне на пасаду войта Шчаснага Лянгюра, відаць і з далейшага зьместу прывілею: „и естли ся он на том враде найпервей се нам господару и теж подданым нашим добре ся заховаеть водле права майтборского и привильев наших, мы не маем его с того враду рушати, але маем на том враде заховати до живота его" [2]).

У прывілеі 1432 году не гаворыцца аб іншых, апроч войта, урадах места Вільні. Уся поўнасьць улады даручаецца войту: „судити и отсудити, казнити, мстити, на кола бити, спинати даем им сполна всю моц".

Другім мескім урадам была цэлая ўстанова—рада (у немцаў der Rath; адсюль і слова das Rathaus—ратуша). Калі зьявілася рада ў месьце Вільні і яе першая організацыя—нам невядома. Але навокал гэтае

---

[1]) Ibid., № 4. Wilno od początków jego do roku 1750. Przez I. Kraszewskiego. T. III. Wilno 1841, стар. 219.

[2]) Літоўская Мэтрыка, кніга запісаў 12, ліст 359 (адварот).

ўстановы сярод мяшчанства ішла даўгая і значная барацьба, водгукі якое прыкметны ў прывілеі 1536 году, дзе падрабязна гаворыцца аб гэтай установе. Прывілей вызначае, што паміж радаю і паспольствам, інакш кажучы,—мяшчанствам, былі „от давних часов о правах и пожитках местских немалые ростырки и незгоды“. Аб гэтых „ростырках и незгодах рада и поспольство много крот перед нами, яко паном своим дедичным справы межи собою мевали и жалобы обедве стороны чынили, и споры великие делывали“. Каб дабіцца згоды паміж змагальнікамі, была абрана спэцыяльная камісія, якая складалася з членаў рады і паспольства. „певных, достипных, мудрых людей, и наученых права Майдеборского немецкого“. Пры гэтым зазначалася, што тыя артыкулы, адносна якіх камісія ня прыдзе да згоды, пяройдуць да гаспадара, і спрэчка будзе канчальна вырашана пасярэдніцкім „вырокомъ“ гаспадарчага ўраду. Пасьля таго, як адносна да шмат якіх артыкулаў рада і паспольства прышлі да згоды, а спрэчныя артыкулы былі пастаўлены на вырашэньне гаспадара, вялікі князь „достаточне разваживши тые речи з радами нашими того панства Великого Князства Литовского и таковое сказане и вырок наш, который на вечные часы в том то месте мает тривати вчинили есмо“.

На аснове гэтае пастановы ўстанаўляецца склад рады, бурмістраў і лаўнікаў або прысяжнікаў, паводле даўнейшага звычаю. Рада складаецца з 24 асоб радцаў, радцы самі сябе абіраюць дажывотна.

Лік бурмістраў, паводле прывілею, устанаўляецца ў 12 асоб. Палова радцаў і бурмістраў павінна быць „закону рымского, а половица закону грецкого“. На кожны год рада абірае „седячими“ два бурмістры—„один рымского закону, а други грецкого закону“—і „чотыры радцы—два грецкого, а два рымского“. „Седячие“, інакш кажучы—тыя, што стала і бязупынна працавалі ў мескім урадзе, атрымлівалі пэўную пэнсію—бурмістры па 20 коп, а радцы па 10 коп грошай. Дзеля аховы мескага скарбу і нагляду за ім уваходзяць „чотыры шафары, которые вси пожитки, доходы и расходы, и дворцы местские жадають ведати, вытегать, заховать и осматривать, шафовати с порадою и волею рады виленское на пожиток и потребу местскую“. Двох шафароў абірае рада, а двох—паспольства. Пры гэтым мяшчане абіраюць дзесяць людзей „добрых а оселых“, гэта значыцца, заможных, якія маюць нярухомую маемасьць, а з іх ужо рада сама абірае двох, прычым падкрэсьлена, што гэта—сталае права рады: „а два с поспольства которых теж завжды рада обирати мает“. Шафары штогод учыняюць лічбу мескіх грошай у скарбе. У часе лічбы мае права быць кожны член рады; затым абіраюцца, каб быць прысутнымі ў часе лічбы, па адным „мистру“ ад кожнага цэха, якіх таксама абірае рада, а ад усяго паспольства, з гэтай самай мэтай, купцы і ўсё паспольства абіраюць 18 асоб, з якіх ужо сама рада „шесть между ними оберет“. „А тые с поспольства и с цехов, которые будут седети на личбе, доканавши личбы, мают присегати, иж никому не мают зьявити скарбов и таемниц меских“. Вельмі характэрная заява аб патаемным перахаваньні скарбаў. Небясьпека з боку самаўладных паноў, зайздросных на агульныя маемасьці, прымушала прымаць надзвычайныя крокі, каб ахаваць мескі скарб.

Рада, такім чынам, рэзка адасабляецца ад мяшчанства. Яна складаецца толькі з людзей заможных—„оселых“. Каб ня даць мескай беднаце магчымасьць прымаць удзел у кіраваньні места, яна імкнецца да самаабраньня. Рада абірае і шафароў, на „половицу“ якіх паспольства вызначае кандыдатаў з людзей таксама „добрых а оселых“. Сярод

мяшчанства устанаўляецца свой мяшчанскі арыстократызм, і гэта не павінна нас дзівіць, бо такое зьявішча адпавядала ўсёй сыстеме таго часу і таму агульнаму арыстократызму, які наглядаецца ў кіраваньні ўсяе Літоўска-Беларускае дзяржавы.

Меская рада з бурмістрамі загадвала гаспадаркаю места. На першым пляне стаяла абарона места. Меское ўзбраеньне — „пушки, гаковницы, ручницы и што кольвек ку обороне напротивко неприятеля“ — знаходзілася пад наглядам рады. Рада купляе за „посполитые грошы“ „збоже“, на выпадак „голоду, дорогости, або облежения около места“. Рада сачыла за перакупшчыкамі, „абы жаден перакупчик не смел купити речей стравных перед годиною на то установленою“. Рада наглядала за вагою і мерамі купецкімі, за шынкамі, за пекарамі. Рада мела нагляд над правільным і пляновым будаваньнем мескіх будынкаў: „от нынешнего часу на потым жаден мещанин не мает рухати, а ни будовати домов своих, олиж первей мает оповедати враду“. Рада трымала ў сваіх руках ключы ад мескай брамы, наглядала за іх спраўнасьцю — таксама як і за ўсімі будынкамі, як, напрыклад, гасьціны двор, лазьня і іншыя будынкі, якія належалі месту. Рада сачыла за мяшчанамі, каб яны не „выламывалися“ з-пад ураду мескага ў іншую юрыздыку. Рада зносілася з гаспадарскім урадам. Ва ўсіх судовых справах цывільнага характару рада адпраўляла суд над мяшчанамі, якія ёй падлягалі. З 1552 году рада зацьвярджала цэхі.

Рада кожны тыдзень у чацьвер мела свае пасяджэньні на ратушы „для справ местских“. Для сваіх патрэб рада мела уласнае памяшканьне ў ратушы: „рада в иншей избе мает седети, справы свае справовати, што по них прислушит з бурмистры“ [1]).

Другою мескаю ўстановаю была лава. Лік лаўнікаў, або скабінаў, у Вільні складаўся з 12 асоб. Лава мела сваё памяшканьне ў ратушы. Агульныя сходы лавы з радаю адбываліся толькі тады, калі запрашала рада. Лаўнікі, як відаць, таксама абіраліся радаю; пасады лаўнікаў, як і радцаў, былі дажывотнымі. У адносінах да ўсіх радцаў, бурмістраў і лаўнікаў было ўстаноўлена адно абмежаваньне: блізкія крэўныя ня мелі права быць абранымі ў ліку некалькіх асоб; „к тому которы бурмистры и рядцы и лавники в раде и в лаве седят отец з сыном, альбо брат рожоны з братом, тые мают без порушения седети аж до животов своих, але от нынешнего часу... жадный таковый, то ест отец з сыном, ани брат рожоны з братом на таковые врады не мают быти выбираны, а ни сажоны, нижли отец может седети в раде, а сын в лаве, также и братья рожоныя один седети в раде, а другій также в лаве“ [2]).

Компэтэнцыяй лавы быў суд у крымінальных справах. На чале лавы стаяў войт. Апэляцыя на суд рады і лавы падавалася беспасрэдна гаспадару, які павінен быў судзіць, як і рада ці лава, на аснове Майдэборскага права, што падкрэсьлівае настойна гаспадар як у прывілеях на Майдэборскае права, гэтак і ў сваіх судовых пастановах.

Мескі урад стаў звычайна празывацца магістратам (magistratus), асабліва з другое паловы XVI сталецьця. Магістрат меў свой будынак—ратушу, якая знаходзілася на Вялікай вуліцы. Цяпер на месцы ратушы ў Вільні знаходзіцца будынак тэатру.

---

[1]) Собрание древних грамот Вильны и др., № 27.

[2]) Ibidem.




Пячатка места Вільні. XVI ст.



Вільня. Замковая гара з руінамі замку.

(З малюнку Смуглевіча 1781 г.).

Жыхарства, якое падлягала мескаму ўраду, складалася з розных груповак, у залежнасьці ад маемаснага свайго стану і ад заняткаў. З пашырэньнем на Беларусі грашовае гаспадаркі і дзейнасьці гандлёвага капіталу, адбываўся ня толькі ўзрост гандлю і ўзмацненьне стану людзей, якія займаліся гандлем, але значна павялічыўся і падзел працы. Спэцыялістыя-рамесьнікі, якія выключна займаліся адным сваім рамяством, без дадатковых заняткаў—земляробства і іншых,—значна павялічваюцца як у ліку, гэтак і ў featureзнастайнасьці сваіх заняткаў. Разам з агульным ужываньнем грошай, зьяўляецца значны попыт на рамесьніцкія вырабы. Усё гэта павялічвала ўзрост жыхарства места. Павялічэньню места спрыялі і агульныя ўмовы жыцьця таго часу. Сяляне, якраз у гэты момант, перажываюць процэс утварэньня і ўзмацненьня прыгону. Зразумела, што шмат хто з іх, асабліва больш энэргічныя, шукаюць выхаду з свайго палажэньня і ўцякаюць у месты, дзе яны захоўваюць сваю волю. Паны, аднак, знаходзілі іх і тут, сілком прымушалі варочацца на вёску і працаваць на сябе. Але такая дзейнасьць паноў ужо закранала інтарэсы гаспадарскага скарбу, бо, з павялічэньнем жыхарства ў месьце, павялічваліся і прыбыткі з места, якія ішлі у гаспадарскі скарб. З гэтае прычыны гаспадар прымушаны быў выдаць Вільні ў 1538 годзе спэцыяльны прывілей, у якім забаранялася вяртаць тых, хто пражыў у месьце шэсьць год. „Которы бы кольвек чоловек от коле до того места Виленского пришол и там мешкаючи и кормячися через шесть лет в том месте был, прыказуем вам (князіом, паном, воеводом, старостом) под закладом нашим пятисот копами грошай, абы есте тых людей заседелых з места виленского невыводили, а никоторые трудности и нагабанья им не делали; нехай они без порушенья в тым месте тамошним мешкают и нам служат"[1]).

Замахваліся на мяшчан ня толькі паны, шляхта і духавенства,—але і гаспадарскія ўраднікі, як ваявода віленскі і яго намесьнікі. У 1538 годзе войт, бурмістры і радцы места віленскага скардзіліся, „што наместник твоей милости виленский (пан ваявода віленскі Ольбрахт Гаштольд) ремеслников и челядь их, которые в меских домах мешкают, с моцы и права и послушенства меского выймает, и в свою оборону их берет и судит, и справляет". Такая дзейнасьць парушала ў самай аснове правы места і пагражала яго існаваньню; урад гаспадара забараніў ваяводзе гэткія ўчынкі[2]).

Пагроза для места і мяшчан была і з іншага боку. Часта самі мяшчане прадавалі свае дамы шляхце або аддавалі іх, як пасаг, за дачкамі, якія выходзілі за людзей іншага стану—за служэбнікаў і дваран як гаспадарскіх, гэтак і панскіх; некаторыя мяшчане дабіваліся ад гаспадара спэцыяльных грамат, на аснове якіх яны паддаваліся суду і паслушэнству гаспадарскаму; іншыя рамесьнікі станавіліся на працу да паноў радных і таксама аддаваліся ў іх падданства. Вынікам усіх такіх здарэньняў было памяншэньне ліку мяшчан, што вяло „к уменьшенью и пожитков наших и меских, штобы естли бы долго трывати и множитися мело, тогды бы не мало доходов так нам, яко и тому месту затым отошло и в великое бы замешанье в раде и справе местской посполитой было". Відавочнасьць усяе шкоднасьці такіх зьявішчаў, якія закраналі і інтарэсы самога гаспадара, прымусілі яго стаць на бок места і выдаць загад, на аснове якога „хто бы с подданных наших, якого кольвек стану выменью меском седеть хотел, тог-

---

1) Ibid., № 28.

2) Ibidem.

ды мают вси под правом и присудом местским быти". Таксама і служэбнікі гаспадарскія і іх слугі і мяшчане іх і рамесьнікі, набываючы дамы, павінны быць пад мескім прысудам. Хто купіў дом пад мескім правам „тыи мают право местское приняти". Нават і тыя мяшчане, якія мелі земскія маёнткі і фальваркі, „не мають права и послушенства их местского ся выламывати". Аднак, для мяшчан, якія хацелі выламацца з-пад мескае ўлады і прысуду, быў выхад; гэта воля і ласка гаспадарская „нижли естли быхмо мы кого за слушными а великими причинами с таковое повинности вызволили". Пераход да паноў радных і другіхураднікаў забараняўся мяшчанам пад страхам конфіскацыі дамоў і фальваркаў [1]).

Ня гледзячы на загады гаспадара і яго прывілеі, паны, князі і шляхта праз увесь час замахваюцца на мяшчан, што выразна выяўляецца ў паўтарэньні прывілеяў нават адным і тым-жа гаспадаром. Асабліва церпяць мяшчане ад „своволенства" паноў, князёў і шляхты, якія ня толькі на вуліцах і на месцах „посполітых", гэта значыць — мяшчанскіх, але і „з домов некоторых мещанских тых людей моцно гвалтом берут", саджаюць і трымаюць да сваёй волі. Калі такіх буянаў і слуг іх захапляюць на месцы злачынства і вядуць у мескі ўрад, дык паны, князі і шляхта „гвалтове отнимають, с чогося великие шкоды посполитому человеку деют и враду их местскому не мале зельжение становит" [2]). Гаспадар забараняе падобныя гвалты і злачынствы, але нам добра ведама самавольства паноў, якія ня слухалі ніякіх загадаў гаспадара, асабліва ў пазьнейшыя часы.

Не адставала ад замахаў на мяшчанства, з мэтай захапленьня яго пад сваю ўладу, і духавенства; асабліва выдзяляўся ў гэтых адносінах каталіцкі біскуп, які, у інтарэсах пашырэньня сваёй улады над мяшчанствам места Вільні, карыстаецца сваім правам, як вышэйшая духоўная ўлада, накладаць „клятвы" на віленскіх мяшчан. Віленскі біскуп няпраўна пасылае віленскім мяшчанам мескае юрыздыкі свае „позвы", якімі прыцягвае іх у свой суд і робіць іншыя крыўды і ўціскі.

У 1511 годзе ў суд вялікага князя і паноў радных віленскія „бурмистры радцы и вси мещане места виленского" падалі заяву на віленскага біскупа князя Войтэха, абвінавачваючы яго ў тым „што дей он в суды нашие мескии вступаеться, и позвы и клятвы на нас выдаеть безвинно, и многии кривды и втиски нам делаеть..."

Суд, выслухаўшы і разабраўшы заяву віленскіх мяшчан, пастанавіў, „што бы он в суды местские не вступался, и позвов и клятв, без нашое воли (вялікага князя) на них не выдавал, и никоторых кривд и втисков им, противу их права, не делал. Если бы его милость (біскуп) мел которое до них дело, маеть нам на них жаловати, а мы маем его милости с ними справедливость чинити" [3]).

Такім чынам, гаспадар вялікі князь абараняе мяшчан і ад духавенства і знаходзіць спосаб вырашэньня спрэчных пытаньняў шляхам беспасрэднага звароту да свайго ўласнага вырашэньня. Гэты спосаб лiквідаваньня спрэчак ва ўзаемаадносінах паміж біскупам і мяшчанствам паказальны. Ён сьведчыць аб фактычнай безабароннасьці мяшчанства ад нападку з боку высокіх станаў і асоб, калі сам гаспадар вялікі князь бачыць выхад з таго палажэньня, якое ўтварылася, толькі ў

[1]) Ibid., № 33.
[2]) Ibid., № 35.
[3]) „Русская Историческая Библиотека, т. XX, стр. 713.



Вільня. Дольні замак XVI ст.

(З малюнку Смуглевіча 1781 г.).



Вільня. Старажытны двор
на Замковай вуліцы.



Вільня. Мясная вуліца.



Вільня. Брама Субач XVI ст. (З малюнку Смуглевіча 1781 г.).



Вільня. Гарадзкія муры XVI ст. (З малюнку Смуглевіча 1781 г.).

сваім уласным вырашэньні спрэчак у кожным паасобным выпадку. Гэта, фактычна, ёсьць рэкомэндацыя вызначанага способу дзеля вырашэньня спрэчных пытаньняў, а ня праўная абарона жыхарства, у гэтым выпадку,—мяшчанства.

Такім чынам, мяшчане прымушаны былі весьці цяжкую барацьбу з тагачаснымі ўмовамі жыцьця, каб захаваць сябе, як стан грамадзянства. Замахаў на мяшчан многа. Яны ідуць і з боку гаспадарскага ўраду, які хоча падпарадкаваць іх сваёй уладзе; на іх замахваюцца паны, князі, духавенства і шляхта, якія хочуць зрабіць іх сваімі падданымі або шляхам шлюбу здабыць мескія маемасьці. Урэшце, і верхавіна больш заможнага мяшчанства сама імкнецца ўвайсьці ў склад шляхты і такім спосабам парушае інтарэсы ўсяго стану.

Ня гледзячы на ўсе замахі проціў мяшчан у першай палове XVI сталецьця, заўважваецца яго ўзрост. Мяшчанства ўпартя абараняе свае інтарэсы. У гэтай абароне дапамагаюць мяшчанству ня толькі мескі ўрад, які і сам блізкі да гэтых імкненьняу, але і організацыі самога мяшчанства, якія яднаюць усё мяшчанства і даюць яму магчымасьць бараніцца. Такімі організацыямі былі мядовыя брацтвы і цэхі. Самым старым брацтвам было брацтва кушняроў. Яго статут быў зацьверджаны ў 1538 годзе, але члены брацтва заявілі, што „того братства своего от осмидесяти лет свободне и добровольне аж до того часу уживают“[1]). Заснаваньне брацтва, такім чынам, трэба аднесьці да 1458 году. Тое, што так рана зьявілася кушнерскае брацтва, зусім зразумела, бо Вільня заўсёды была вядома сваім гандлем „косматыми скурами“. Другім раньнім цэхам быў цэх злотнікаў, які існаваў у Вільні з 1495 году[2]). У першай палове XVI сталецьця цэх меў ужо значны лік сяброў, але большая частка іх былі немцы[3]). У часы Жыгімонта Старога існавала ўжо брацтва панскае, або бурмістарскае і радэцкае, а таксама брацтва Роскае[4]), у часы Жыгімонта-Аўгуста быў зацьверджаны статут цэху магернікаў, панчошнікаў і суконьнікаў[5]). Былі, напэўна, і іншыя цэхі, як, напрыклад, цэхі шаўцоў, прывілей на статут якім даў Жыгімонт-Аўгуст, ганчароў, краўцоў, саладоўнікаў, столяраў і іншых; статуты іх, аднак, не захаваліся ад гэтых часоў, а толькі ёсьць болей позьнія. У XVII і XVIII сталецьцях у Вільні існавала ўжо 25 цэхаў.

Цэхі былі вытворчымі таварыствамі і організацыямі, якія яднaлі мяшчан аднолькавага стану і заняткаў. Цэхі стаўлялі сабе за мэту дапамогу сваім сяброў як у іх працы, гэтак і ў выпадку жыцьцёвых ліхіх гадзін. З боку свае організацыі яны былі падобны да заходняэўропейскіх цэхаў. Складаліся яны з майстроў, таварышоў і вучняў. Правадзейнымі былі, аднак, толькі майстры, хаця-ж таварышы і вучні атрымалі сваю організацыю, праўда, пазьней, якая мела сваёй мэтай абарону іх інтарэсаў супроць уціску і эксплёатацыі з боку майстроў[6]).

---

[1]) Акты, издаваемые Виленскою Комиссиею, т. X, 1893, № 1.

[2]) Ibid., № 12.

[3]) Wilno od początku jego do roku 1750. Przez J. Kraszewskiego, T. III. Wilno, 1841, стар. 271.

[4]) Акты, издаваемые Виленскою Комиссиею, т. X, № 3.

[5]) Ibid., № 17.

[6]) Ibid., № 22.

Цэхі або брацтвы (так часта празываліся цэхі) мелі свой скарб, які яны ўжывалі на ўтрыманьне цэху і на дапамогу сваім сябром. Цэхі мелі свае штандары і, урэшце, зброю, якой яны павінны былі абараняць горад у выпадку небясьпекі. Разгляданьне мяшчанскіх організацый не ўваходзіць у межы гэтага артыкулу; аднак, дзеля ўяўленьня жыцьця Вільні ў першай палове XVI сталецьця, іх трэба мець на ўвазе, бо цэхі ў значнай меры дапамагалі месту ў барацьбе яго з іншымі станамі, якія пагражалі месту і яго жыхаром, што жылі паводле мескага Майдэборскага права.

Разьвіцьцё гандлёвага капіталізму спрыяла пашырэньню зносін з Заходняй Эўропай і пашырэньню новых заходня-эўропейскіх ідэй XVI сталецьця ў месьце Вільні. Віленскія гандляры больш за усё маюць сувязь з нямецкімі гарадамі і адсюль, апроч тавараў, атрымліваюць і новыя думкі і пагляды. Ідэі гуманізму і рэформы царквы пашыраюцца ў Вільні сярод самых розных колаў грамадзянства. Яны знаходзяць грунт як у князёўскім палацы, гэтак і ў хаце рамесьніка. Ужо ў 1516 годзе ў Вільні не жадаюць плаціць папе у Рым „аннуат" (гадавы падатак) і зьбіраць для папы іншыя падаткі. Мяшчан места Вільні абурала становішча каталіцкае царквы, якая ўладала трэцяю часткаю места. Ідэі лютарanства знаходзяць добрую глебу і значна пашыраюцца сярод мяшчанства, бо з імі зьвязваецца рэорганізацыя царквы і пераход кіраваньня царквой у месьце, паводле прыкладу нямецкіх вольных гарадоў, да мескага ўраду. Лютаранства, раней за усё, пашыраецца сярод мяшчан нямецкага паходжэньня, а потым знаходзіць прыхільнікаў і сярод беларусаў-тубыльцаў.

Гаспадарскі палац таксама не абмінаюць новыя ідэі. Тут працуе італьлянец Францішак Лісманіні, які з 1521 году становіцца кусташам Францішканскага касьцёлу у Вільні, а потым духаўнікам каралевы Боны і выхавальнікам маладога Жыгімонта-Аўгуста. Лісманіні зьяўляецца прыхільнікам антытрынітарства тэорыі, якая знаходзіць, дзякуючы свайму радыкалізму, шмат прыхільнікаў сярод шляхоцкіх колаў. Францішканскі манастыр і касьцёл становяцца цэнтрам пашырэньня новых ідэй.

Панскія колы таксама ня цураюцца новых думак і паглядаў. Панскія сыны часта езьдзілі ў Заходнюю Эўропу дзеля вывучэньня „рыцарских учинков" пры дварох фэўдалаў Заходняе Эўропы, а таксама і дзеля навукі ў унівэрсытэтах Лейпцыгу, Норэнбэргу, Празі, Падуі і іншых гарадоў. На прыезьдзе на бацькаўшчыну, заняўшы высокія пасады ў Літоўска-Беларускай дзяржаве, гэтыя паны не забываюць тых новых паглядаў, аб якіх яны там чулі, і з прыхільнасьцю спрыяюць іх пашырэньню. Прычынай гэтага была тая барацьба, якую пачала шляхта супроць дыктатуры паноў-фэўдалаў. Ні каталіцкая, ні праваслаўная царква ўжо не дапамагалі паном у гэтай барацьбе; каб захаваць сваю ўладу, паны шукаюць падтрыманьня ў новай царкоўнай організацыі, якую яны імкнуцца паставіць ў залежнасьць ад сябе і, такім чынам, забясьпечыць падтрыманьне новаю царквою свае ўлады.

Новыя думкі і ідэі праводзяцца праз казаньні у касьцёлах і цэрквах. З ростам места і ліку жыхароў зьяўляецца патрэба і ў кніжцы. У пачатку XVI сталецьця зьяўляецца першая друкарня, якую адчыніў віленскі бурмістар Якуб Бабіч на Вялікай вуліцы, супроць Ваксрасенскай царквы, побач з домам Яна Зарэцкага, скарбніка літоўскага. Пазьней друкарня, адначасна з домам, перайшла да Мамонічаў, дзе і быў надрукаваны Літоўскі Статут 1588 году.

У першай палове XVI сталецьця ў Вільні зьяўляецца і першая правільна арганізаваная школа, якую адчыніў літвін Абрагам Кульва (1539); хутка, аднак, Кульва прымушаны быў пакінуць сваё пачынаньне, і школы, паводле тыпу заходня-эўропейскіх, адчыняюцца ў значным ліку ўжо толькі ў другой палове XVI сталецьця.

Такім чынам, Вільня ў першай палове XVI сталецьця перажывала надзвычайна вялікае ажыўленьне. Места прымае канчатковую і пэўную арганізацыю; гандаль і прамысловасьць растуць; вырастаюць арганізацыі мяшчанства—цэхі; урэшце, як вынік усяго гэтага, ажыўленьне інтэлектуальнага жыцьця і духоўных запытаньняў жыхарства як мяшчанскага, гэтак і іншых станаў, якія жылі ў Вільні.





**Проф. Уладзімер Пічэта.**

Правадзейны Член Інстытуту Беларускае Культуры.

# Беларускае Адраджэньне ў XVI сталецьці.

## I.



драджэньне сярэдзіны XVI сталецьця ёсьць культурнае зьявішча першараднае важнасьці ў духоўным жыцьці беларускага народу. Інтэлектуальны рух, які распачаўся пад бясспрэчным уплывам заходня-эўропейскае культуры, быў крыніцаю разьвіцьця індывідуалістычных настрояў у беларускім грамадзянстве і дапамагаў узьнікненьню дэмократычнае буржуазнае інтэлігенцыі. Беларусь у XVI сталецьці была зьвязана з Заходняю Эўропай экономічна. Беларускія зямляўласьнікі зрабіліся буйнымі дастаўнікамі сыравіны на заходня-эўропейскі рынак і накіроўвалі свае тавары па ўсіх рачных і сухаземных шляхох. Разьвіцьцё таварапамену з Заходняй Эўропай павялічвала матар'яльны дабрабыт зямляўласьнікаў, дапамагала намнажэньню капіталаў у беларускіх абшарнікаў. Быт беларускае шляхты рэволюцыянізуецца пад беспасрэдным уплывам польскіх узораў і заходня-эўропейскае культуры. Беларускія шляхціцы прызвычайваюцца да вандровак заграніцу і цікавяцца навуковымі заняткамі. Прадстаўнікі беларускае шляхты часта сустракаліся ў заходня-эўропейскіх унівэрсытэтах. Лейпцыг і Вітэнбэрг у Нямеччыне, Падуя ў Італіі, Базэль у Швайцарыі, Чэская Прага—былі тымі навуковымі асяродкамі, куды прадстаўнікі беларускае шляхты накіроўваліся дзеля набыцьця вед. Лік беларускае моладзі, якая вучылася заграніцай, быў вельмі значны. Сярод студэнтаў эўропейскіх унівэрсытэтаў былі прадстаўнікі фамілій: Нарушэвічаў, Корсакаў, Сапегаў, кн. Збараскіх, кн. Вішнявецкіх і іншых. Тыя, што вярталіся з-заграніцы, захопленыя заходня-эўропейскім гуманістычным культурным рухам, вельмі цікавіліся клясычнай старадаўнасьцю, зьбіралі бібліотэкі з старадаўніх клясыкаў і захопліваліся заходня-эўропейскай, пераважна, італьянскай модай.

Сярод беларускіх магнатаў пачала пашырацца раскоша, якая патрабавала вялізных матар'яльных сродкаў і якую зямляўласьнікі мелі магчымасьць набыць толькі праз вываз заграніцу сваіх продуктаў сельска-гаспадарчае вытворчасьці.

Заходня-эўропейскі гуманізм змагаўся за індывідуалізм, за вольнасьць сумленьня, за вызваленьне навукі ад уплыву царквы. Заходняэўропейскі гуманізм утварыў новую сьвецкую мораль і даваў магчымасьць чалавечай асобе адносіцца да рэлігійных пытаньняў з большаю вольнасьцю. Гуманізм разьвінаў рэлігійны скэптыцызм.

Беларуская шляхта да пэўнай ступені была ахоплена рэлігійным скэптыцызмам і выяўляла значны нахіл да протэстантызму, асабліва да яго крайніх кірункаў—да кальвінізму і соцыніянства.

Экономічны ўздым сярэдзіны XVI сталецьця ў Польшчы і ў Літоўска-Беларускай дзяржаве прымушаў польскую і літоўска-беларускую шляхту схіляцца ў бок рэформацыі. Гэтая шляхта мела надзею на конфіскацыю царкоўных маемасьцяй, што пашырыла-б зямляўладаньні шляхты і дало-б магчымасьць разьвінуць прадпрыемчую сельскую гаспадарку. Барацьба за зямлю пасувала зямляўласьнікаў да протэстантызму, у якім індывідуальная вольнасьць і навуковакрытычная думка адбілася і выявілася найбольш поўным і выразным спосабам.

Сталыя гандлёвыя зносіны Літоўска-Беларускае дзяржавы з Лейпцыгам, Франкфуртам, Нюрэнбэргам і іншымі гарадамі Нямеччыны да пэўнае ступені зрабілі ўплыў на пашырэньне протэстантызму на Беларусі, а таксама ў Літве, Валыні і Галіцыі. Протэстантызм бязупынна пранікаў з суседніх Усходняе Прусіі і Курляндыі. Нямецкія рамесьнікі, мастакі, гандляры, якія перасяляліся на Літву і Беларусь, былі жывымі праваднікамі протэстанцкага сьветапагляду. Пры гэтым некаторыя спаміж іх, як Абрагам Кульва (1521), зьяўляліся і добрымі пропагандыстымі новага сьветапагляду. Шпаркае пашырэньне протэстантызму адносіцца да часоў Жыгімонта-Аўгуста, які спачатку таксама быў вельмі прыхільны да протэстантызму. Аднак, вялікі князь літоўскі стараньнем верных слуг папскага пасаду і каталіцкае рэакцыі быў вырваны з капцюроў протэстантызму.

Рэформацыйны рух знайшоў вялікае спачуваньне сярод магнатаў і часткай сярод шляхты. З жывою зацікаўленасьцю і поўным спачуваньнем аднесьліся да новага рэлігійнага кірунку гандляры і рамесьнікі беларускіх гарадоў. У шмат якіх гарадох на працягу другое паловы XVI сталецьця ўзьнікалі кальвіністычныя духоўныя зборы, якія складаліся з значнага ліку сяброў. Гэтыя зборы мелі пэўную колькасьць рухомае і нярухомае маемасьці, якая набывалася часткай праз куплю, а часткай праз ахвяры шчырых прыхільнікаў протэстантызму. Гэтак, віленскі протэстанцкі збор, заснаваны ў 1553 годзе віленскім ваяводай панам Міколам Радзівілам Чорным, атрымаў двор Гарнастаеўскі ў Вільні, які купіў Мікола Радзівіл Чорны ў ваяводы наваградзкага, пана Астафія Валовіча за 8.000 літоўскіх грошай (15 лютага 1577 году). Ахвяра гэтая была зроблена са згоды сыноў віленскага ваяводы. Кароль Сьцяпан Баторы пацьвердзіў сваім лістом ад 25 кастрычніка куплю князя Радзівіла. Стараста берасьцейскі і кобрынскі Астафі Валовіч, жадаючы заснаваць пры віленскім зборы шпіталь і могілкі, запісаў дзеля гэтае мэты двор у Вільні, прычым гэты запіс быў пацьверджаны лістом Сьцяпана Баторага ад 28 лютага 1582 году. Віленскі протэстанцкі збор 7 чэрвеня 1590 году дакупіў

на свае патрэбы сумежны з брацтвам дом Стаўроускага за 200 коп грошай. У ліку старшынь віленскага протэстанцкага збору, паводле яго сьпісаў, знаходзіліся: пан Крыштоф Радзівіл, гэтман і ваявода, пан ваявода Юры Глябовіч, пан ваявода І. Дарагастайскі, а таксама паасобныя прадстаўнікі шляхоцкага стану.

Віцебскі протэстанцкі збор быў заснаваны на падставе ліста Жыгімонта-Аўгуста ад 14 чэрвеня 1562 году на імя віцебскага ваяводы князя Сьцяпана Збараскага. Грамата вялікага князя дазваляла баярам, шляхце, бурмістрам і мяшчанам віцебскім пабудаваць у Віцебску дом для малітвы „ку слуханию слова божьего" з правам мець асобны скарб, але з умовай, каб ні каталіцкія касьцёлы ні праваслаўныя цэрквы ня былі ўзяты для эвангелічнага збору. Маршалак і цівун троцкі, князь Павал Друцкі-Сакалінскі, аддаў на вечнае ўладаньне пляц і гарод, якія знаходзіліся ў замку на Вялікай вуліцы. Яго сын, князь Юры, пацьвердзіў 15 ліпня 1593 году ахвяру свайго бацькі і дадаў віцебскаму збору яшчэ кавалак зямлі разам з гародам.

Кальвіністычны збор у Менску быў заснаваны ў канцы XVI сталецьця, хаця-ж дакладная дата заснаваньня невядома. Для патрэб існаваньня менскага збору князь Гаронім Жыжэмскі запісаў добрахвотна 15 сакавіка 1596 году свой дом разам з грунтам і сенажацямі, „прислухаючими до того дома". У 1589 годзе віленскі ваявода Крыштоф Радзівіл заснаваў кальвіністычны збор у Біржанах. Князь Радзівіл, аднавіўшы Біржанскі замак, пабудаваў каменную царкву „не для римской и не для греческой религии, а для религии евангелической, истинно христианской". Ад заснавальніка протэстанцкае царквы горад атрымаў і Майдэборскае права, але з умовай, каб на пасады бурмістраў, райцаў і лаўнікаў бязумоўна абіраліся асобы, якія трымаліся эвангелічнага закону. Яўрэі і каталікі былі звольнены ад гарадзкіх службовых пасад. Урэшце, князь Радзівіл даў гораду Біржанам і прыбытковыя крыніцы, якіх хапала для здавальненьня гарадзкіх патрэб.

Пані Барбара Сноўская 8 студзеня 1588 году прышла на дапамогу наваградзкаму эвангеліцкаму збору і перадала яму свой дом, які знаходзіўся ў самым месьце. Гэтым Барбара Сноўская выканала загад свайго мужа, пана каштэляна віцебскага, які яшчэ ў часе свайго жыцьця прызначыў свой дом для патрэб эвангеліцкага збору.

Рэформацыйны рух перакінуўся з Польшчы на Украіну ня толькі ў форме ортодоксальнага протэстанцтва, але і у форме антытрынітарства. Протэстанцтва пашырылася ў Галіцыі, на Валыні і Падолі, часткай у Кіеўшчыне і Браслаўшчыне,—ва ўсіх тых мясцовасьцях, куды пранікла польскае прыватнае земляўласьніцтва. Прыхільнікамі протэстанцтва былі прадстаўнікі вяльможных буйна-абшарніцкіх фамілій, як Глябовічы, Хадкевічы, Гуевічы, Дарагастайцы, князі Пронскія, Пузыны, часткай—Вішнявецкія, Сапегі-Гарнастаі, Нямірычы, Абрамовічы—у Кіеўшчыне, князі Гуркі, Фірлеі, Лашчы, Замойскія—у Падолі, паны Стадніцкія, Сяменскія, Бучацкія, Патоцкія, Збароўскія, Дарагаеўскія—у Галіцыі. Калі на падставе колькасьці протэстанцкіх збораў выводзіць аб ступені пашырэньня на Украіне протэстанцтва, дык магчыма было-б зрабіць вывад аб значным там уплыве протэстантызму. На думку М. С. Грушэўскага, аднак, протэстанцкія зборы на Украіне былі нядоўгавечныя. Пасьля сьмерці свайго фундатара, зборы звычайна зачыняліся, бо ня было ні протэктараў, ні прыхільнікаў новага сьветапагляду. Сучасьнікі, у васобах князёў Андрэя Курбскага і Яна Вішэнскага, адзначалі вялікае пашырэньне протэстанцтва. Маскоўскі эмігрант адзначае тыя зьмены, якія адбываліся сярод укра-

інскага грамадзянства „когда многие внегда путь господен оставили и веру церковную отринули, многого рода преизлишнего покоя возлюбившие же ринушася во пространный широкий путь, сиречь в пропасть ереси люторские і других различных сект". Князь Курбскі думае, што на працягу 1570—1580 гадоў амаль ня ўся Валынь была запаветрана „душевной гангреной". Той самы князь Курбскі адзначае, што сярод украінскае праваслаўнае шляхты было шмат такіх асоб, якія, апынуўшыся ў вясёлай кампаніі, з прыемнасьцю слухалі ўсялякія закіды і скэптычныя ўвагі адносна хрысьціянскіх догматаў. Прадстаўнік крайняга рэлігійнага консэрватызму, Ян Вішэнскі, вінаваціць амаль што ня ўсіх украінскіх князёў у гэрасі. Аднак, у такім агульным абвінавачваньні нельга ня бачыць пэўнае долі гіпэрболізму. Дасьледчыкі протэстанцтва на Беларусі і Украіне, мітрапаліт Макар і Орэст Лівіцкі, прызнавалі значнае пашырэньне на Украіне протэстанцтва як у яго ортодоксальнай форме, гэтак і ў гарэтыцкім вучэньні. Грушэўскі прыходзіць, аднак, да зусім іншага вываду. На яго думку, словы князя Андрэя Курбскага адносяцца ня толькі да Валыні але і наагул да ўсяе Літоўска-Беларускае дзяржавы. Нават сяброўства праваслаўных паноў і шляхціцаў з протэстантамі Грушэўскі тлумачыць жаданьнем знайсьці ў протэстанцтве дапамогу для барацьбы з каталіцтвам. Сам князь Андрэй Курбскі быў ортодоксальным маскалём і адносіўся адмоўна да ўсялякага вольнага слова, якое датыкалася рэлігіі. Ня дзіва, што вольнае абгаварваньне рэлігійных проблем здавалася князю Курбскаму бадай што паналоўным адпадам ад праваслаўя. Усе гэтыя меркаваньні прымусілі Грушэўскага аднесьціся адмоўна да думкі папярэдніх дасьледчыкаў, якія казалі аб значным пашырэньні на Украіне протэстанцтва. Грушэўскі думае, што на Украіне ня было тых об'ектыўных умоў, якія ўтварылі спагадныя абставіны для пашырэньня рэформацыйнага руху. Украінская шляхта фактычна трымала ў сваіх руках усю царкоўную маемасьць. Права „подавания" дазваляла шляхце ўжываць царкоўную маемасьць згодна з сваімі паглядамі. Значыцца, сэкулярызацыя царкоўнае маемасьці ня была надта патрэбнаю. Тут і ляжыць прычына некаторага індыфэрэнтызму украінскае шляхты да протэстанцтва. Грушэўскі адзначае і тое што украінская праваслаўная царква была царквою нацыянальнай. Усялякі адыход ад праваслаўнае царквы азначаў і адыход ад свае нацыянальнасьці. Пашырэньне протэстанцтва было толькі вынікам культурных зносін украінскае шляхты з Польшчай, толькі вынікам уплыву польскае культуры. Трэба прызнаць, што ўсе меркаваньні Грушэўскага заслугоўваюць увагі. Бадай што немагчыма цяпер з ранейшай катэгорычнасьцю і рашучасьцю казаць аб значнай захопленасьці протэстанцкімі ідэямі украінскага грамадзянства. Апроч гэтага, трэба ўзяць пад увагу яшчэ наступнае: пашырэньне протэстанцтва ў Польшчы, Літве і Беларусі тлумачыцца бязупынным гандлёвым паменам з Нямеччынай, іміграцыяй рамесьнікаў і майстроў, якія прыносілі з сабою і індывідуалістычны рэлігійны сьветапагляд. Залежнасьць Літвы і Беларусі ў гандлёвых адносінах ад рынкаў Нямеччыны і Прусіі і пранікалньне на тэрыторыю Літвы і Беларусі замежнага капіталу, які прымаў дзейны ўдзел і ў адпускным гандлі і ў распрацоўцы лясных багацьцяў,—усё гэта было прычынай пашырэньня протэстанцтва сярод беларускага гарадзкога грамадзянства і беларускае шляхты, якая прымала дзейны ўдзел у тым таварапамене, што разьвінаўся з Захадам. Між тым, на Украіне ня было такіх об'ектыўных умоў. Украіна была зьвязана бліжэйшым чынам толькі з польскім рынкам. Панаваў капітал польскі. Замежны нямецкі капітал ня меў вялі-

кага пашырэньня. Дзеля гэтага протэстанцтва на Украіне было толькі слабым адбіткам рэформацыйнага руху ў Польшчы, Літве і Беларусі.

Калі протэстанцтва, якое пашырылася ў Нямеччыне і Прусіі, ня мела спагадных умоў для свайго праніканьня і пашырэньня на абшары Украіны, дык яшчэ менш было належных умоў да прыняцьця украінскай шляхтай протэстанцкіх ідэй, якія прынесьлі на Украіну маскоўскія эмігранты—Хвядос Касы з таварышамі. Трэба, аднак, сказаць, што маскоўскія эмігранты ня прынесьлі з сабою якое-колечы азначанае догматычнае пабудовы. Гэта былі хутчэй рэлігійныя скэптыкі і рацыяналістыя. Хвядос Касы з таварышамі былі засуджаны на маскоўскім царкоўным саборы 1554 году. Засуджэньне прымусіла маскоўскіх рацыяналістых уцячы ў Літву і Беларусь. Цяжка выявіць ступень іхняга ўплыву на мясцовае грамадзянства, але бясспрэчна тое, што маскоўскія гарэтыкі мелі ў шляхты посьпех і ўплыў. Прынамсі, у творах Зенавея Отэнскага, старавера па сваіх рэлігійных паглядах і вялікарасійца па нацыянальнасьці, знаходзіцца наступная думка, якая заслугоўвае ўвагі: „Усход распусьціў чорт Махмет, Захад—Марцін-Нямчын, а Літву—Касы“. Аднак, у словах Зенавея трэба бачыць пэўную долю гіпэрболізму. Зенавей Отэнскі зусім не ўспамінае аб пашырэньні на Літве чыстага протэстанцтва.

Хвядос Касы, разам з таварышом Ігнатам, апынуўся ў 1570 годзе на Валыні і нейкі час знаходзіўся ў доме валынскага шляхціца Чапліча, які вёў з маскоўскімі эмігрантамі гутаркі на рэлігійныя і моральныя тэмы. Бясспрэчна тое, што Хвядос Касы ня меў на Украіне ніякага уплыву. Калі протэстанцтва, якое ішло з Польшчы, мела на Украіне параўнальна нязначнае пашырэньне, дык, зразумела, зусім ня трэба казаць аб уплыве на украінскае грамадзянства няглыбокага рэлігійнага скэптыка і паверхоўнага рацыяналістага, якім быў Хвядос Касы.

Гуманістычны індывідуалістычны рух найбольш яскрава адбіўся на праўнай сьвядомасьці літоўска-беларускае шляхты (дваранства). Эканомічнае разьвіцьцё Літвы і Беларусі, якое спрыяла гаспадарчым пачынаньням зямляўласьнікаў, гэтым самым дапамагала і разьвіцьцю індывідуалістычнае правасьвядомасьці. Літоўска-беларуская шляхта ўжо на Віленскім сойме 1522 году падняла пытаньне аб укладаньні Статуту. У канчатковым-жа выглядзе першы зборнік літоўска-беларускага права быў апублікаваны ў 1529 годзе. Першы Статут адбівае ў сабе правасьвядомасьць панаваўшае зямляўласьніцкае клясы і ўвесь прасякнуты індывідуалістычнымі праўнымі тэндэнцыямі. Асабістая недатыкальнасьць і індывідуальная адказнасьць за злачынствы толькі перад судом, права ўжываць паводле свае волі сваю нярухомую маемасьць у межах тых нормаў, якія дакладна ўстаноўлены ў законе,—ёсьць падстава праўнае пабудовы Статуту 1529 году. Аднак, шырокія шляхоцкія колы не маглі здаволіцца праўнымі заваёвамі Статуту 1529 году, бо яны захоўвалі за магнатамі некаторыя судныя прывілеі, дзякуючы якім магнаты, радныя паны, былі вызвалены ад падсуднасьці мясцовай тэрыторыяльнай юстыцыі. У жыцьці ўсе судныя справы, паднятыя мясцовымі зямляўласьнікамі супроць магнатаў, ніколі не даводзіліся да пажаданага канца. Літоўска-беларуская шляхта ў палове XVI сталецьця выкарыстала сваё эканомічнае і політычнае значэньне. У поўнай меры ўсьведамляючы сабе свой уплыў, літоўска-беларуская шляхта выкарыстала цяжкое знадворнае палажэньне Літоўска-Беларускае дзяржавы і выступіла з пэўнай соцыяльна-эканомічнай і політычнай програмай, якая была накіравана супроць буйнога зямляўласьніцтва. Часткова, літоўска-беларуская шляхта патрабавала ўраўнаньня ў правох магнатаў са шляхтай праз установу выбарных судоў

і праз адзінства тэрытарыяльнае падсуднасьці. Літоўскі вялікі князь, разам з раднымі панамі, павінен быў пайсьці насустрач жаданьням шырокіх шляхоцкіх колаў. Была склікана камісія, каб выправіць Статут. Выпраўлены Статут, вядомы пад назовам Статуту Другое Рэдакцыі, быў апублікаваны ў 1566 годзе. Індывідуалістычныя тэндэнцыі літоўска-беларускае шляхты знайшлі ў ім поўнае адбіцьцё. Усе земляўласьнікі мелі аднолькавыя правы і былі зьвязаны аднолькаваю тэрыторыяльнаю падсуднасьцю. Зямляўласьніцкая кляса Беларусі атрымала магчымасьць шырокага ўплыву на дзяржаўна-праўнае жыцьцё Літоўска-Беларускае дзяржавы, бо яна прымала ўдзел у Вялікім Вальным Сойме, пасылаючы двох дэпутатаў ад кожнага павету, як прадстаўнікоў мясцовае павятовае шляхты. Люблінская вунія 1569 году ўтварыла фэдэрацыйную, дзяржаўна-праўную організацыю, вядомую пад назовам Рэчы Паспалітае. Дзякуючы Люблінскай вуніі, апошнія рэшткі прывілеяў буйных зямляўласьнікаў, літоўска-беларускіх магнатаў, былі зьнішчаны. Літоўска-беларускія магнаты страцілі права асабістага прадстаўніцтва на соймах праз запрашэньне на іх асобнымі лістамі вялікага князя. Усе члены шляхоцкага стану зрабіліся цяпер зусім роўнымі ў адносінах адзін да другога. Індывідуалістычная тэндэнцыя атрымала перамогу. Патрэба выразьней формуляваць дзяржаўна-праўнае палажэньне Літвы і Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітае выклікала публікацыю Статуту Трэцяе Рэдакцыі 1588 году. Прасякнуты гэткімі-ж індывідуалістычнымі тэндэнцыямі, як і Статут 1566 году, ён дакладна і выразна падкрэсьліваў дзяржаўна-праўную самастойнасьць Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітае. Ахова законаў недатыкальнасьці асобы і маемасьці прадстаўнікоў шляхоцкага стану атрымала ў Статуце пэўнае і выразнае выяўленьне.

Індывідуалістычныя тэндэнцыі ў праве знайшлі выразнае адбіцьцё і ў гарадзкім Майдэборскім праве. Гарады, якія атрымалі ад вялікага князя прывілеі на Майдэборскае права, вылучыліся ў самастойную адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку з дакладна азначанай тэрыторыяй. Насельніцтва, якое жыло ў граніцах гарадзкое мяжы, знаходзілася пад магістрацкаю юрысдыкцыяй. Гарадзкое права, як і права шляхоцкае, было пабудавана на прынцыпе індывідуалізму і недатыкальнасьці асобы. Мешчанін меў усю поўнасьць грамадзянскае праваздольнасьці і дзеяздольнасьці. Закон бараніў яго маемасныя правы ад замахаў з боку трэціх асоб таксама сувора, як і шляхоцкае статутнае законадаўства. Гарадзкое права адбіла ў сабе індывідуалістычныя тэндэнцыі гандлёвага капіталу, які захапіў у круг свайго ўплыву значную па велічыні тэрыторыю Літоўска-Беларускае дзяржавы.

Новыя гаспадарчыя адносіны, дапамагаючы разьвіцьцю індывідуалістычнае правасьвядомасьці, павялічылі соцыяльна-экономічнае значэньне клясы зямляўласьнікаў настолькі, наколькі сельская гаспадарка была падставаю народнае гаспадаркі на Беларусі. Кляса зямляўласьнікаў, захапіўшы ў свае рукі прылады і сродкі вырабу і маючы значныя матар'яльныя сродкі, заняла прывілейнае экономічнае і соцыяльна-палітычнае становішча. Об'ектыўныя гаспадарчыя ўмовы далі зямляўласьніцкай клясе магчымасьць паставіць у поўную ад сябе соцыяльна-экономічную і юрыдычную залежнасьць сельскае насельніцтва. Зямляўласьнік пачаў кіраваць яго працай, асобай і маемасьцю. Новыя гаспадарчыя ўмовы, дапамагаючы разьвіцьцю індывідуалістычнае правасьвядомасьці сярод шляхоцтва і прывілейнага мяшчанства, прывялі як да разьвіцьця самога інстытуту прыгону, гэтак і да юрыдычнага замацаваньня гэтага інстытуту.

Гуманістычны рух на Беларусі разьвінаўся на фоне социяльна-экономічнага ўціску, які выявіўся ў разьвіцьці інстытуту, вядомага пад агульным назовам прыгону.

II.

Беларускія гарады ў канцы XV і пачатку XVI сталецьця былі вельмі значнымі гандлёвымі асяродкамі, дзе знаходзілася шмат заможнага жыхарства, якое здолела скласьці сабе капіталы, дзякуючы трапным гандлёвым справам. Зразумела, сярод беларускіх гарадоў першае месца займала Вільня як па сваіх гандлёвых зваротах, гэтак і з боку матар'яльнай заможнасьці віленскае буржуазіі.

Матар'яльныя ўмовы стварэлі спагадныя абставіны для разьвіцьця гуманістычнага руху ў гарадох, які, па меры ускладненьня жыцьця і зьяўленьня рознастайных ідэёвых плыняй, набываў самыя рознастайныя адценьні, пачынаючы ад найрадыкальнейшых паглядаў і канчаючы консэрватыўнымі паглядамі і перакананьнямі.

Разьвіцьцё народнае гаспадаркі Беларусі, якое было вынікам пранікаўньня ў глыб народна-гаспадарчага жыцьця гандлёвага капіталу, дапамагала больш цеснаму злучэньню адных краін Беларусі з другімі, а разам з тым, экономічнае аб'яднаньне тэрыторыі дапамагала ў пэўнай меры і політычнай консолідацыі беларускіх зямель, а таксама разьвіцьцю нацыянальнае самасьвядомасьці сярод гарадзкой буржуазіі, якая трымала мясцовы нацыянальны гандлёвы капітал. З гэтых прычын нацыянальная самасьвядомасьць сярод гарадзкога грамадзянства павінна была выявіцца досыць рана. У гандлёвых зносінах з Польшчай і чужаземцамі беларускі гандлёвы капітал натуральна павінен быў стаўляць сябе супроць гандлёвага чужаземнага капіталу. Гэтая барацьба павялічвала і разьвінала нацыянальную самасьвядомасьць беларускае буржуазіі.

Гуманістычны рух у гарадох Беларусі меў глыбокае разьвіцьцё і, разам з тым, даў вельмі значныя і дадатныя вынікі. Гуманістычны рух сярод гарадзкога грамадзянства пачаўся значна раней, бо для гэтага існаваў рад спагадных умоў. Першыя культурныя парасткі беларускага адраджэньня атрымалі магчымасьць далейшага разьвіцьця і паглыбленьня. У другой палове XVI сталецьця беларускія гарады, як Вільня, Полацак, Менск, зрабіліся вельмі значнымі гандлёвымі асяродкамі, праз якія падтрымліваліся гандлёвыя зносіны з Заходняй Эўропай. Да 1569 г. экспорт і імпорт тавараў знаходзіўся ў руках беларускае і украінскае буржуазіі. Гандлёвыя зносіны з Заходняй Эўропай дапамагалі культурнаму набліжэньню да апошняй праз пашырэньне навуковых вед і праз працу прачнуўшаеся навуковае думкі. Сярод гарадзкога грамадзянства атрымаў пэўнае пашырэньне і рэлігійны рацыяналізм у форме протэстанцтва і яго галін, але большая частка мяшчанства заставалася вернаю рэлігіі продкаў. У захаваньні і падтрыманьні гэтае рэлігіі мяшчанства знаходзіла магутны сродак протэсту супроць наступу на Беларусь і Украіну польскага шляхоцкага капіталу, які імкнуўся забіць гарадзкі гандаль і прамысловасьць, што пачала дзе-ні-дзе разьвівацца. Экономічныя прывілеі шляхты, напрыклад, вольнасьць вывазу заграніцу вырабаў уласнае гаспадаркі і, разам з тым, бязмытны ўвоз для ўласнае патрэбы рэчай заходня-эўропейскае прамысловасьці, паступова забівалі гарадзкі знадворны і ўнутраны гандаль. Натуральна, мяшчанства стала ў варожыя адносіны да шляхоцтва. Пераход апошняга ў каталіцтва і протэкцыйная каралеўская політыка прымусілі мяшчан-

ства моцна трымацца за праваслаўе і баранцца усімі сіламі, якія у яго былі, ад нападаў каталіцкае царквы, каб потым сабрацца з сіламі і перайсьці ад абароны да нападу.

Наступ каталіцкае шляхты, які наносіў цяжкі удар матар'яльнаму становішчу мяшчанства, дапамагаў яго аб'яднаньню для барацьбы з каталіцтвам, як галоўным чыньнікам агрэсыўнага шляхоцкага зямельнага капіталу. Напады католікаў на праваслаўных дадавалі гарадзкому гуманістычнаму руху нацыянальна-рэлігійны характар, вельмі дапамагалі абуджэньню нацыянальнага пачуцьця сярод гарадзкое буржуазіі і рамесьнікаў, якія надзвычайна цярпелі ад аднабаковае шляхоцкае экономічнае політыкі.

Гарадзкі гуманістычны рух, адарваны ад народных гушчаў, ня даў значных дадатных вынікаў у процэсе барацьбы за вызваленьне ад соцыяльна-экономічнага ўціску з боку шляхты. Толькі злучэньне мяшчанства з прыгонным сялянствам дало-б дадатныя вынікі. Дзеля гэтага, гарадзкі гуманістычны рэлігійны рух толькі падрыхтоўваў рады тых барацьбітоў, якія сталі патрэбнымі украінскаму і беларускаму народам, калі распачалася іхняя ўпартая і доўгая барацьба са сваімі нацыянальнымі і соцыяльна-экономічнымі ўціскальнікамі. Гуманістычны рух у беларускіх гарадох спачатку разьвінаўся пад беспасрэдным уплывам протэстанцкіх ідэй з іх протэстам ня толькі супроць каталіцкае догмы наагул, але, між іншым, і супроць лацінскае мовы, на зьмену якое ў літаратуры і рэлігіі павінна прысьці мова родная. Геніяльная вынаходка Гутэнбэрга павінна была зрабіцца магутнаю крыніцаю пашырэньня кніг у роднай мове. Чэхі першыя прыступілі да друкаваньня царкоўных кніг у роднай мове, якімі яны пачалі цікавіцца асабліва ў момант найвялікшага нацыянальна-культурнага руху, злучанага з імем Гуса і яго пасьлядоўнікаў. Гусыцкі ўплыў пранікнуў на Літву і Беларусь яшчэ ў XV сталецьці. Гусыцтва атрымала пэўнае пашырэньне ў Літве ў часы Вітаўта, калі апошні падтрымоўваў гусытаў і паслаў ім на дапамогу князя Жыгімонта Карыбутавіча, дзеля няпрыязьні да імпэратара Жыгімонта, які схіліўся на бок Ордэну пры разглядзе на палюбоўным судзе тых пытаньняў, што Польшча і Літва перадалі імпэратару. З другога боку, Жыгімонт, які жадаў знайсьці мірны выхад у барацьбе з гусытамі, шукаў у літоўска-беларускім грамадзянстве дапамогі і падтрыманьня. Пераможаныя гусыты знайшлі ў Польшчы і ў Вялікім Княстве Літоўскім прыпынак. Разам з гэтым, яны зрабілі пэўны ўплыў на культурнае разьвіцьцё літоўска-беларускага грамадзянства. Друкаваньне кніг у Чэхіі зьяўляецца ўжо ў 1475-78 гадох, калі былі адчынены першыя друкарні ў Празе. Потым былі адчынены друкарні ў Пільзэне, Бруне (1686), у Ольмюцы (1500). Друкаваньне славянскіх кніг пачалося ў Кракаве. Пачынальнікам друкаваньня славянскіх кніг быў Швайпольт Фіоль, нямецкае нацыянальнасьці. У 1496 годзе Фіоль надрукаваў кірыліцай рад славянскіх кніг. Спачатку быў надрукаваны Октоіх, а потым Часаслоў, Трыодзь Посная, Трыодзь Цьвятная і Псалтыр. Выдавец імкнуўся наблізіць царкоўна-славянскую мову да жывое народнае мовы, хаця-ж гэткая тэндэнцыя ня мела значнага разьвіцьця. Але ў самых спробах нельга ня бачыць уплыву протэстанцтва і яго тэндэнцыі прыблізіць да народу кнігі сьвятога пісьма праз выданьне іх у роднай мове. Друкаваньне кніг у Кракаве ня мела значнага пашырэньня, бо Польшча ў канцы XV і ў першай палове XVI сталецьця друкавала пераважна кнігі ў лацінскай мове. Самыя выданьні Фіоля ў гэткіх умовах не знайшлі значнага пашырэньня. Сам выдавец славянскіх кніг павінен быў пакінуць Польшчу

і ўцякаць у Вэнгрыю, бо яго абвінавацілі ў спачуваньні і сувязі з протэстанцкім рухам. Друкаваньне славянскіх кніг на гэтым не прыпынілася. Беспасрэдным наступнікам зьявіўся Францішак Скарына з Полацку, які паходзіў з мяшчанскае небагатае сям'і. Аб годзе нараджэньня Скарыны не захавалася ніякіх вестак. Вышэйшую адукацыю Скарына атрымаў на багаслоўным факультэце Кракаўскага унівэрсытэту. Потым Францішак Скарына ў Падуанскім унівэрсытэце ў 1512 годзе атрымаў ступень доктара ў лекарскіх навуках. Можна думаць, што рэформацыйныя плыні захапілі і Францішка Скарыну, і пад уплывам іх у яго зьявілася думка аб друкаваньні царкоўных кніг у роднай мове. Дзеля гэтае мэты Скарына засноўвае ў Празе першую беларускую друкарню, у якой былі надрукаваны Псалтыр і Біблія ў беларускай мове, вельмі блізкай да размоўнае гаворкі. У васнову перакладаў Псалтыру і Бібліі былі ўзяты чэскія пераклады 1506 году, выдадзеныя ў Вэнэцыі. Біблія была выдадзена Францішкам Скарынай не цалком. Уся задуманая справа абмежавалася выданьнем 22 старазаконных кніг. Аднак, проф. Уладзімераў у сваім вядомым дасьледваньні аб Скарыне лічыў, што Францішак Скарына пераклаў усе кнігі старога і новага закону, але толькі ён не здалеў надрукаваць усіх кніг Бібліі. Потым Скарына пакідае Прагу і перасяляецца ў эканамічны і палітычны асяродак Беларусі—Вільню, дзе засноўвае сваю друкарню, знайшоўшы спачуваньне і, мабыць, матар'яльнае падтрыманьне з боку старэйшага бурмістра, Якуба Бабіча. Першая надрукаваная кніга у Вільні была Апостал, які вышаў у сакавіку 1525 году. Усьлед за ёю вышла царкоўна-славянская Малая Падарожная Кніжыца, у якой былі зьмешчаны: Псалтыр і Часаслоў, хваласьневы, каноны, Шостадневец, Сьвятцы і Пасхалія. Усе выданьні былі прыгожа надрукаваны і папярэджваліся прадмовамі. На выданьні гэтых кніг як быццам спынілася дзейнасьць Скарыны. Магчыма, што далейшая яго культурная праца была затрымана тым, што праваслаўнае віленскае мяшчанства адносілася да Скарыны з некаторай падазронасьцю, маючы на ўвазе яго гуманістычныя настроі. Пераклад Бібліі Скарына зрабіў з чэскае мовы і з царкоўнаславянскіх тэкстаў, як гэта давёў Уладзімераў у сваім дасьледваньні. Ужо гэтая акалічнасьць павінна была прымусіць праваслаўнае мяшчанства аднесьціся з недавер'ем да выданьняў Скарыны. Выдавецкая і перакладчая дзейнасьць Скарыны ёсьць зьявішча вялікага культурнага значэньня. Яна зьявілася навочным паказальнікам таго гуманістычнага руху, які паволі пранікаў у гарадзкое беларускае грамадзянства. У імкненьнях Скарыны перакласьці Біблію на родную мову і тым самым наблізіць яе да шырокіх грамадзянскіх колаў нельга ня бачыць намеру дапамагчы нацыянальна-культурнаму адраджэньню беларускага народу „к научению людям посполитым русского языка". Скарына хацеў выпрацаваць літаратурную беларускую мову, утварыць беларускую інтэлігенцыю, якая была-б прасякнута нацыянальна-культурнымі заданьнямі і інтарэсамі, і ўсім гэтым дапамагчы адраджэньню свайго народу. Плян Скарыны, можна думаць, быў вялізарны, але рад неспагадных для выдаўца ўмоў не дазволіў Скарыне давесьці да канца сваю культурна-гістарычную місію, якая бязумоўна сустракала спачуваньне ў пэўных колах грамадзянства. Напрыклад, Скарына атрымаў матар'яльную дапамогу ня толькі ад бурмістра Якуба Бабіча, але і ад віленскага райцы Багдана Онькава, коштам якога былі выдадзены некаторыя кнігі. Выдадзеныя Скарынаю кнігі хутка вышлі з продажы, але пашырэньне іх у рукапісным выглядзе паказвала на настойную патрэбу іх і на спачуваньне да іх з боку культурных беларускіх элемэнтаў. Выданьні Францішка Скарыны мелі вялікі ўплыў у іншых

адносінах. Друкарні, якія потым адчыняліся на Беларусі і Украіне, адбівалі сваім шрыфтам і знадворным выглядам выданьні кніг Францішка Скарыны. Спроба Францішка Скарыны наблізіць мову царкоўных кніг да жывое народнае гаворкі знайшла спачуваньне і сярод украінскага грамадзянства. На Украіне ў XVI сталецьці зьяўляецца рад навучальных эвангельляў з моваю, вельмі блізкаю да жывое народнае гаворкі. Усе гэтыя эвангельлі зьяўляюцца самастойна, што сьведчыць аб пільнай патрэбе гэткіх перакладаў. Найбольш выдатным з перакладаў эвангельляў на украінскую мову зьяўляецца так званае Перасопніцкае эвангельле, якое было перакладзена ў 1556—1561 гадох мясцовым ігуманам Рыгорам разам з сынам сяніцькага пратапопа Міхалам Васілевічам з матар'яльнай дапамогай жонкі валынскага магната княгіні Заслаўскай. Мова Перасопніцкага эвангельля досыць блізкая да народнае жывое гаворкі, хаця-ж у ёй адчуваецца і ўплыў актавае беларускае мовы XVI сталецьця.

З паловы XVI сталецьця друкарская справа значна пашыраецца на Беларусі. Адчыняюцца друкарні ў Несьвіжы з дапамогаю пана Астафія Валовіча, які перайшоў у протэстанцтва, у Заблудаве ў маёнтку пана Рыгора Хадкевіча, у Астрозе князем Канстантынам Астроскім, у Супрасьлі і ў іншых мясцох. Адчыненьне такога значнага ліку друкарань было вельмі яскравым адбіцьцём таго культурнага руху, які пашырыўся сярод беларускае шляхты і мяшчанства. Вялікае культурнае значэньне мела друкарня ў Вільні, якую трымалі прадстаўнікі віленскага мяшчанства, браты Мамонічы: Кузьма, віленскі бурмістар, і Лука, скарбны вялікага князя. Значнае пашырэньне протэстанцтва на Беларусі і Літве ў сярэдзіне XVI сталецьця зрабіла пэўны ўплыў на разьвіцьцё народнае мовы, бо протэстанты ў сваёй рэлігійнай дзейнасьці імкнуліся карыстацца моваю жывое гутаркі. Адбіцьцём дзейнасьці протэстантаў у гэтым кірунку можна лічыць дзейнасьць Сымона Буднага, які спачатку трымаўся кальвінізму, а потым далёка адышоў ад апошняга і зрабіўся пасьлядоўнікам так званага арыянства.

Сымон Будны—бліскучы прадстаўнік беларускага гуманізму другое паловы XVI сталецьця, выдатны прадоўжнік нацыянальна-культурнае традыцыі Скарыны. Аб асобе Буднага, як і аб яго вялікім папярэдніку Францішку Скарыне, навука мае невялічкі лік вестак. Самае пытаньне аб яго нацыянальным пахаджэньні дагэтуль ня высьветлена. Польскі дасьледчык Merczyng, які апошні вывучаў жыцьцё і літаратурную дзейнасьць Буднага, лічыць яго палякам. Але гэта думка гіпотэтычна, бо няма об'ектыўных вестак, якія-б сьведчылі аб польскім пахаджэньні Буднага. Таксама няма і дакладных матар'ялаў што да адукацыі Буднага. Можна толькі думаць, што Будны быў выхаванцам Кракаўскае акадэміі. Мы ня ведаем, калі Сымон Будны зрабіўся протэстантам, але яго прыналежнасьць да протэстанцтва ў 1558 годзе не выклікае ніякіх сумненьняў. Да гэтага часу адносіцца і знаёмства Буднага з віленскім ваяводай і канцлерам, уласьнікам Несьвіжу, Міколам Радзівілам Чорным. Праз некаторы час Будны знаходзіўся ў Вільні, як казальнік у мясцовым кальвінскім зборы протэктарам якога быў віленскі ваявода Радзівіл. Merczyng думае, што з 1559 году альбо, прынамсі, з 1560 Будны—ужо пастар-казальнік у протэстанцкім зборы ў Клецку, які быў на тэрыторыі маемасьцяй Міколы Радзівіла. У Клецку Будны, відаць, напісаў катэхізіс, бо прадмова да гэтага выданьня азначана дзесятым днём чэрвеня 1562 году. Будны, мабыць, дасканала ўладаў беларускаю моваю. Князь Мікола Радзівіл заснаваў у Несьвіжы друкарню, маючы на мэце пропаганду

протэстанцтва сярод беларускага народу. Першаю кнігаю, якая вышла з гэтае друкарні, быў катэхізіс, надрукаваны накладам Мацея Кавечынскага, Сымона Буднага і Лаўрына Крыткоўскага. Катэхізіс зьмяшчаў у сабе протэстанцкі сьветапагляд „для простых людей языка руского, в пытаниях и ответах“.

Другая кніга таго-ж самага аўтара, якая вышла ў Несьвіжы ў тым самым годзе, называлася „О оправдании грешного человека перед богом“, але паасобніку гэтае кнігі нідзе не захавалася. Праўда, бібліограф Сопікаў у сваім дасьледваньні „Опыт российской библиографии“ (1813 г.) дае апісаньне кнігі, якую ён бачыў, але Сопікаў не паказаў, дзе гэтая кніга знаходзілася у той час, калі ён яе апісваў. Публікацыяй гэтых дзьвёх кніг скончылася дзейнасьць Буднага, як выдаўца і перакладчыка на беларускую мову. Але літаратурная дзейнасьць Буднага ня спынілася. Ён пачаў друкаваць свае кнігі у польскай мове, прызначаючы, відаць, апошнія для шырокіх польскіх колаў. Разам з тым, і ў сьветапаглядзе Буднага настала пэўная зьмена. Будны адлучыўся ад кальвінскага збору і перайшоў у лягер сэктантаў-соцыніян, вучэньне якіх у другой палове XVI сталецьця значна пашырылася сярод сярэдняе і дробнае польскае і беларускае шляхты. Пераход да соцыніян натуральна адсуваў яго ад Радзівіла і несьвіскага протэстанцкага збору (1564 г.). На протэстанцкім царкоўным саборы (1566 г.) ужо выявіліся з усёю выразнасьцю рознагалосьсі Сымона Буднага з кальвіністымі, асабліва ў пытаньні адносна хрэсту дзяцей. Сабор прызнаў Буднага гарэтыкам і пазбавіў яго пастарскае годнасьці. Аднак, Будны не палежаў да ліку палкіх рэлігійных энтузыястых. Рацыяналісты па філёзофскім настрої свайго розуму, Будны ня толькі не захопліваўся прапагандай соцыніянства, але і сам ня быў вельмі сталым у сваіх рэлігійных перакананьнях. Пасьля разрыву з кальвіністымі Будны зрабіўся пастарам у Заслаўі, непадалёк ад Менску, дзе ён быў ужо пастарам у чэрвені 1572 году. Протэстанцкі зб ›р у Заслаўі знаходзіўся пад патронатам Глябовічаў.

Будны распачаў сваю літаратурную дзейнасьць у польскай мове, выдаўшы біблію пад загалоўкам: «Biblia, to jest księgi starego y nowego przymierza, znowu z iezyka Ebreyskiego, Greckiego y Łacinskiego na polski przełożone» з прадмоваю Буднага, як у Несьвіжы ў 1572 годзе. Праз два гады вышаў «Nowy Testament znowu przełożony, a na wielu mieyscach, za pewnemi dowodami od przysad przez Simona Budnego oczyściony y krotkiemi przypiskami kraioch obiaśniony. Przydane też są na koniec tegoż dostateczniejsze przypiski, ktore każdey jakmiarz odmieny przyczyny ukazują. Losk, 1574». Яшчэ праз два гады Будны выдаў «O przednieyszych wiary christiańskiey artikulach, to iest o Bogu iedynem, o Synu iego i o Duchu świętego przez Symona Budnego krotko spisane, a za zezwoleniem Braciey niektorej w Litwie i na Rusi wydana. K temu obrana tegoż wyznania broniąca, przez tegoż napisana. Losk, 1576». У 1577 годзе Будны выдаў «Przedmowa do Loskiego wydania dzieła Modrzewskiego o poprawie Rzeczypospolitej». Урэшце, у 1583 годзе Будны выдаў «O urzędzie miecza używaiącem wyznanie Zboru Pana Christusowego, ktory w Litwie z Pism i krotko spisane» (Losk). Апроч гэтых вядомых кніг, Будны напісаў яшчэ рад кніг у польскай мове, але яны не захаваліся. Урэшце, пад уплывам і з дапамогай Буднага была выдадзена: «Defensio Verae sententiae de Magistratu Politico in Ecclesiis Christianis retinendo contra gnovis eius impugatores: nominatim vero contra Raconiensium scriptum, ex divinis Scripturis simpliciter collecta Jacobo Palsologo authore», і, урэшце, Будны пераклаў «O faryiach albo szaleństwach francuskich: to iest o sztrasznym a niesłusznym Amirała Kasztyllionskiego y wielu innych mężow zamordowaniu z Ernesta Waramunda Friza przekład na iezyk

polski przez Szymona Budnego (W Losku, 1576)». Літаратурная дзейнасьць Буднага—вельмі шырокая і рознастайная. Надзвычайная працавітасьць, шырыня сьветагляду, вострасьць і яснасьць у разважаньнях—вось адзнакі асобы Буднага. Вольны, незалежны мысьленьнік, які сьмела стаўляе пытаньні і да ўсяго падыходзіць з сваім крытычным аналізам—вось асноўныя рысы Буднага, як мысьленьніка.

Будны пісаў у дзьвёх мовах—беларускай і польскай—і гэтым самым ён зрабіўся важным культурным фактарам у гісторыі дзьвёх культур—беларускай і польскай, якія ўзаемна датыкаліся ў працэсе экономічнага і політычнага набліжэньня Літвы і Беларусі, з аднаго боку, і Польшчы—з другога.

Эпоха адраджэньня і протэстанцтва, у выніку ўплыву і разьвіцьця гандлёвага капіталу, рашуча высунула на першы плян нацыянальна-культурную проблему. Ужо Скарына бачыў у роднай мове нацыянальна-культурны фактар вялікага значэньня, маючы на мэце культурнае і моральнае разьвіцьцё свайго народу. І Будны стаіць на тым самым пункце погляду. Ён—палкі абаронца роднае мовы, праз якую можна навучыць праўдзівай веры „простой люд", якая павінна даць „народу руского языка" правільныя рэлігійныя пагляды. Не дарма ў сваёй прадмове да катэхізісу Будны зварочваецца з палкім заклікам да князёў Радзівілаў, „абы ся ваши княжецские милости не только в чужоземских языцехъ кохали, але бы ся тежъ ваши княжецские милости и того здавна славного языка словенского розмиловати и оным бавити рачили"... Будны з смуткам констатуе сумны моральна-рэлігійны стан беларускага народу. Ён спадзяецца толькі на тое, што, разам з прыходам новых апосталаў і казальнікаў, пашырыцца асьвета на Беларусі, а разам з тым, падымецца і моральны стан беларускага народу. Будны адносіцца да беларускага народу з палкім энтузыязмам і вялікім сардэчным заміласаньнем. Так рабіць і думаць магла толькі такая асоба, якая ўзрасла сярод беларускага народу альбо вышла з гушчы беларускіх народных мас. Выхаванец польскае школы і выдатны прадстаўнік польскае культуры і адукацыі, Сымон Будны быў блізкі да свайго народу. Адмоўныя бакі яго жыцьця ён добра разумеў сваёй вострай думкай і адчуваў сваёй чулай асобай. Выдаючы Біблію і Новы Закон у польскай мове, Сымон Будны і тут кіраваўся мэтамі асьветы, маючы на ўвазе тыя-ж самыя шляхоцкія беларускія колы, якія ўжо падпалі пад уплыў польскае культуры і для якіх польская мова была ўжо бліжэй і больш зразумелай, чымся мова беларуская.

Адукаваны чалавек і вялікі гуманісты, Будны павінен быў паставіць чалавечую асобу на чале свае творчае дзейнасьці. Вольны і сьмелы мысьленьнік пяе гімн чалавечай асобе і яе вольнасьці. Чалавечая асоба вольная і недатыкальная. Адсюль вынікае права яе недатыкальнасьці, замацаванае для шляхты і мяшчан адпаведнымі зборамі права. Адсюль вынікаюць і прынцыповыя адмоўныя адносіны Буднага да кары сьмерцю. Вольная і незалежная навуковая думка Буднага выявілася ва ўсім сваім бляску ў крытыцы біблійных тэкстаў, у якой Будны паказаў сябе вельмі добрым комэнтатарам і выдатным крытыкам, які ня спыняўся на поўдарозе і не палохаўся ніякіх вывадаў. Культурная дзейнасьць Буднага была вялікая. Нічога дзіўнага, што ў сваёй нянавісьці да Буднага каталіцкія і праваслаўныя ортодоксалісты выявілі поўную згоднасьць. Гэтыя адмоўныя адносіны да Буднага знайшлі вельмі яскравы адбітак у прадмове патрыярха Адрыяна да „Исповедания Веры": „Мартина убо Лютера ученицы, изобретше письмена славенороссийская, точная, чистая, и приведше на славенский

чистый диалект своих лживых догматов доводы и ти потом издавше, изнесоша на свет свой яда полный не цвет обухающие услаждающий, но терн, осязающие уболающий, две книжицы, едину в полдесть в граде Несвиже в лето 1562, вторую сокращенну в четверть в граде Стиоколне в лето 1628, нарекше тыя книжицы Катихісіс"...

Аднак, культурная справа, якую распачаў Францішак Скарына і вёў далей Сымон Будны, не памерла. Прадоўжнікам іх абодвух быў Васіль Цяпінскі, які аддаўся перакладу эвангельля на беларускую мову. Аб асобе перакладчыка ня існуе бадай што ніякіх вестак. Дасьледчыкі, як, напрыклад, акадэмік Карскі і профэсар Уладзімераў, лічаць Цяпінскага беларусам. І адносна рэлігійных паглядаў Цяпінскага ёсьць спрэчныя думкі. Напрыклад, дасьледчык культурна-асьветнае дзейнасьці Францішка Скарыны, профэсар Уладзімераў, лічыць Цяпінскага праваслаўным. Акадэмік Карскі даводзіць, што Цяпінскі—протэстант антытрынітарскае сэкты. Пазьнейшы дасьледчык, профэсар Доўнар-Запольскі, лічыць даведзенай належнасьць Цяпінскага да социніянства. Профэсар Доўнар-Запольскі знайшоў адпаведны дакладны довад у прадмове Сымона Буднага да кнігі „O przedniejszych wiary christiańskiey artikułach", у якой паказана, што протэстанцкі сабор 1574 году адбываўся ў доме „брата милого Василия Тяпинского", дзе Сымон Будны і выдажыў сваё рэлігійнае вучэньне. Сувязь паміж Цяпінскім і Будным зьяўляецца вельмі добрым довадам належнасьці перакладчыка эвангельля да социніянскае сэкты. Гуманістычная дзейнасьць Цяпінскага, на думку профэсара Уладзімерава, знаходзіцца ў цеснай залежнасьці ад Скарыны, а акадэмік Карскі думае, што Сымон Будны зрабіў на Цяпінскага вялікі ўплыў, бо тэксты Буднага былі крыніцай для Цяпінскага. Паставіўшы сабе пэўныя культурныя заданьні, Цяпінскі, зразумела, добра ведаў сваіх папярэднікаў, паказаўшых у якім кірунку трэба весьці навукова-перакладчую працу. Цяпінскі закончыў працу сваіх папярэднікаў. Ён падлічыў вынікі культурнага руху першараднае важнасьці. Для Цяпінскага, як і для яго папярэднікаў, любоў да свайго народу была мотывам, што накіроўваў усю яго дзейнасьць. Сам беларускі народ (рускі)—„зацны довстипный". Мудрасьць у слове божым была ў народзе, „праве, яко вражоной". Цяпінскаму вельмі цяжка, што ў цяперашні час беларускі народ (рускі) знаходзіцца ў зьнявазе. Уся гуманітарная дзейнасьць перакладчыка залежыць ад яго жаданьня падняць пашану да беларускага народу. Цяпінскі высака стаўляе славян і славянскую мову. Заслугі славян у мінулыя часы—вялізарныя. Цяпінскі лічыць асабліваю заслугаю славян тое, што яны „в слове божием прозревши, сами одни только того были доказали, же подлуг науки апостольской своевластным языком от так давного часу слово Божие выложили и мели и нам заставили". Нацыянальна-рэлігійны заняпад у сучасным Цяпінскаму грамадзянстве, адхіленьне ад свае нацыянальнасьці шмат каго з выдатных прадстаўнікоў беларускае нацыянальнасьці, грубасьць і адсутнасьць рэлігійных вед, разумовы і моральны заняпад правадыроў беларускага народу—духавенства,—робяць на Цяпінскага моцнае ўражаньне. Пад іх уплывам у Цяпінскага зьявілася гарачае жаданьне прысьці на дапамогу свайму народу і дапамагчы яго культурнаму адраджэньню, тым больш што духоўныя настаўнікі „письма русского и слова Божия не знают, не понимают и не изучают". Толькі дзеля культурнага заняпаду духавенства Цяпінскі адважваецца узяцца за пераклад эвангельля на родную мову, бо „владыки и никто з учоных через так многій час не хотели". Праца, якую распачаў аўтар, сустрэла шмат перашкод з боку розных асоб, якія лаялі перакладчыка і ня толькі не давалі ніякай дапамогі, але

„дяки и зазростью платить хотели". Аднак, пад уплывам замілаваньня да свайго народу і жаданьня дапамагчы яго разумоваму разьвіцьцю, Цяпінскі, не зварочваючы ўвагі на лаянкі сваіх ворагаў, узяўся за сваю адказную і патрэбную ў нацыянальна-культурным жыцьці працу.

Цяпінскі ўзяўся за свой пераклад „з зычливости ку моей айчызне". Перакладаючы эвангельле, ён зьмяшчае тут-жа славянскі тэкст, слова ў слова, бо славянскі тэкст не для ўсіх зразумелы. Сьвятое пісьмо павінны ўсе чытаць і разумець, ня толькі дарослыя, але і дзеці, „дабы в вере прицвичали". Знаёмства з сьвятым пісьмом зьявіцца крыніцаю для далейшага духоўнага разьвіцьця, бо бог павядзе „к уможнейшим наукам в слове своем, к устаточному рассудку и к умеетности". Перакладчык імкнуўся быць дакладным у сваёй працы і зразумелым, дасягнуўшы простасьці ў мове. Цяпінскі перакладае „не смысленным, або красомовным выводом, не залецаными, а ни часу угажаючыми словы, але яко сприязливый, простый а щирий, правдиве, верне, а отвористе". Пераклад быў зроблены „по стародавным книгам". Перакладчык прызнае, што ў яго працы могуць быць вельмі значныя памылкі, але просіць чытача ня тлумачыць яго памылак „нашой злости, але люцкой крепости, а не умеетности". З вялікімі матар'яльнымі цяжкасьцямі Цяпінскі за ўласны кошт наладзіў мізэрную друкарню, дзе і надрукаваў „писание св. Матфея и св. Марка и початок Луки". Выдавец меў намер выпушчаць свой пераклад часткамі: „если не зараз, вжды з своим часом узнают, им впредь подаю". Аднак, застаецца невядомым, ці выпусьціў ён надрукаваную частку перакладзенага эвангельля. Неспагадныя адносіны з боку розных грамадзянскіх колаў не дазволілі Цяпінскаму давесьці справу, што ён задумаў, да канца, бо ідэя нацыянальна-культурнага адраджэньня яшчэ ня досыць глыбака пранікла ў шляхоцкія і мяшчанскія грамадзянскія колы. Беларуская шляхта захапілася польскаю культурай і да спроб Цяпінскага адносілася адмоўна. Мяшчанства, якое стаяла на чыстым праваслаўным пункце пагляду, трымалася моцна за славянскую мову і не спачувала перакладу эвангельля, які вышаў з протэстанцкага асяродзьдзя.

Сымон Будны і Васіль Цяпінскі былі дзейнымі прадстаўнікамі радыкальнага кірунку ў беларускім адраджэньні. Яны паднялі свой голас на абарону простага народу, які знаходзіўся ў цемры. Ужо адным гэтым яны павінны былі выклікаць адмоўныя адносіны да сябе з боку магнатаў і праваслаўнага духавенства, якое ня думала аб асьвеце народу і было зьвязана супольнымі эканомічнымі інтарэсамі з клясай зямляўласьнікаў.

Радыкалізм гуманістычнага руху павінен быў выклікаць у зацікаўленых колах адпаведную рэакцыю. Барацьба шляхоцкага аграрнага капіталу з гарадзкой буржуазіяй за ўладаньне гандлёвым капіталам выявілася ня толькі ў наступе шляхты на гарадзкую буржуазію на народна-гаспадарчым фронце, але і ў наступе каталіцызму на праваслаўе. Купецтва, разам з праваслаўем, перайшло ў стан абароны. Натуральна, мяшчане, абараняючыся, варожа адносіліся да ўсялякіх неправаслаўных ідэй і кірункаў. Адсюль зьявіліся ў гарадзкім грамадзянстве консэрватыўныя праваслаўныя ідэёвыя плыні, якія ўзялі пад сваю абарону славянскую мову і стара-славянскае царкоўнае пісьменства, як крыніцу мудрасьці, моральнае сумленнасьці і праваслаўнае рэлігійнае сьвядомасьці. Ортодоксалістыя моцна трымаліся за старасьветчыну, і ў яе духоўнай сутнасьці яны шукалі для сябе духоўных сіл для барацьбы з наступам ворагаў.

Трэ' было падтрымліваць у грамадзянстве нахіл да царкоўнае старасьветчыны, да яе традыцый, і дзеля гэтага даць чытачу навучальнае чытаньне, а царкве—патрэбныя кнігі для набажэнства. Адсюль вынікла патрэба ў шырокай організацыі друкарскае дзейнасьці, якая-б ахапіла ўсю тэрыторыю. Гэта магчыма было толькі ў тым выпадку, калі-б друкарская справа была пабудавана на комэрцыйнай падставе, калі-б у організацыю друкарскае справы былі-б укладзены вялікія капіталы. Прадстаўнікамі такога праваслаўнага консэрватыўнага руху зьявіліся браты Мамонічы,—Кузьма, віленскі бурмістар, і Лука, скарбнік Вялікага Княства Літоўскага, які меў значныя матар'яльныя сродкі і дапамагаў грашыма друкарні. Мамонічы шырака разгарнулі сваю справу, спачатку разам з Пётрам Мсьціслаўцам, а потым і самастойна, пасьля разрыву з апошнім. З друкарні Мамонічаў выходзіла шмат кніг, якія прызначаны былі для патрэб праваслаўнае царквы. Мамонічы здалелі паставіць сваю справу на цьвёрды грунт, калі яны атрымалі ад вялікага князя літоўскага прывілей на монопольную продаж кніг. Усе кнігі, якія прывозіліся ў Вільню і прадаваліся там, падлягалі конфіскацыі.

Забясьпечыўшы сябе праз прывілей, Мамонічы зрабіліся ўжо менш ортодоксальнымі ў сваёй дзейнасьці. Яны пачалі друкаваць кнігі і ў польскай мове, а пасьля сьмерці абодвух братоў, калі ўласьнікам друкарні зрабіўся сын Лукі, Леў Мамоніч, які перайшоў у 1614 годзе да вунітаў, друкарня Мамонічаў страціла сваё значэньне культурна-гуманістычнага кутка з рэлігійна-консэрватыўным адценьнем.

Друкарня Мамонічаў друкавала кнігі ў царкоўна-славянскай мове. Фундатары друкарні адносіліся зусім адмоўна да нацыянальнага руху і да ўжываньня народнае мовы ў кнігах сьвятога пісьма. Як ортодоксалістыя, Мамонічы павінны былі заняць выразна адмоўную позыцыю як адносна рэлігійнага рэформацыйнага руху, гэтак і адносна народнае простае мовы. Мамонічы ня думалі аб асьвеце свайго народу. Як гандляры, Мамонічы ішлі насустрач шляхоцка-мяшчанскім плыням, бо толькі прадстаўнікі апошніх былі пакупнікамі кніг, якія былі выдадзены ў іхняй друкарні. Але ўсе-ж ткі нацыянальна-культурная традыцыя была настолькі моцная, што нават у выданьнях Мамонічаў яна знаходзіла сваё адбіцьцё, хаця-ж і досыць слабое.

Друкарская дзейнасьць Мамонічаў разгарнулася ў часы наступу каталіцтва на праваслаўе, у момант, калі шляхоцкія колы былі ўжо расчараваны ў Люблінскай уніі і імкнуліся зьмяніць яе ўмовы, што і было дасягнута Статутам 1588 году.

Кнігі, якія друкаваліся Мамонічамі і прызначаліся для патрэб царкоўнага набажэнства, давалі магчымасьць царкве ўвесьці парадак набажэнства і наагул пазбавіцца шмат якіх унутраных недахватаў. Кнігі Мамонічаў павінны былі быць крыніцай асьветы і культуры ортодоксальна-праваслаўнага характару, павінны былі зрабіцца ідэолёгічнай зброяй у барацьбе з каталіцка-польскай шляхоцкай рэакцыяй з езуітамі на чале. Так глядзеў на дзейнасьць Мамонічаў такі выдатны консэрватар, якім быў маскоўскі эмігрант князь Курбскі. Адносна кніг, якія выдавалі езуіты супроць праваслаўя, Курбскі пісаў, што яны „своими силлогизмами поганскими повреждающе и паче-же рещи софистически превращающе і растлевающе апостольскую теологию и влекучие через естество воду на прегордого их епископа римского". Курбскі лічыцца з езуіцкімі софізмамі і лічыць езуітаў вельмі паважнымі супраціўнікамі, а дзеля гэтага просіць свайго корэспондэнта, Кузьму Мамоніча, не ўваходзіць „без учонае нашае

страны в споры с иезуитами". Сам Курбскі пераконаны, што езуітаў можна перамагчы „двемя нарочитыми сведками: Дионисием Ареопагицким и с Иоанном Златоустым, и с Иоанном Дамаскиным и со святыми древними учителями, кои их явственно обличают, в новосмышленную теологию, о происхождении святого духа". Важна, эразумела, ня тое, з якімі довадамі князь Курбскі зьбіраўся выступіць супроць езуітаў, але важная ёсьць сьвядомасьць, што для барацьбы з заходня-эўропейскім каталіцкім багаслоўем патрэбны большыя веды ва ўсходнім багаслоўі, начытанасьць у творах айцоў царквы. Браты Мамонічы, відаць, стаялі на гэтым самым пункце пагляду, які сустракаў поўнае спачуваньне сярод гарадзкога грамадзянства і разьвіцьцё якога дало потым такія багатыя вынікі.

Консэрватыўны гарадзкі гуманістычны кірунак выяўлялі ня толькі адны браты Мамонічы. Быў у Вільні і другі асяродак—брацтва Траецкага манастыра, якое, калі гэты манастыр быў перададзены вунітам, перайшло ў манастыр сьв. Духа. Брацтва мела права друкаваць кнігі для сваіх школ і для патрэб праваслаўнага набажэнства. Сьвятадухаўскае брацтва моцна трымалася за царкоўна-славянскую традыцыю, бо ў ёй яно бачыла зброю для барацьбы з наступаўшым каталіцтвам. Друкарня брацтва друкавала кнігі выключна для царкоўнага набажэнства, альбо кнігі, якія былі прызначаны для вывучэньня „письма Словенского". Праўда, у 1610 годзе брацтва прабавала пашырыць сваю дзейнасьць. З друкарні брацтва вышаў вядомы Плач Мэлеція Сматрыцкага, які выклікаў зруйнаваньне друкарні. Брацтва не паддалося. Яно перанесла сваю дзейнасьць у Еўе, каля Вільні, у маёнтак Багдана Агінскага, патрона царквы ў Еўі, якая была прыпісана да Сьвята-духаўскага манастыра. На новым месцы брацтва аднавіла перапыненую царкоўна-славянскую традыцыю. Калі ўжо ў 1619 годзе ізноў аднавілася дзейнасьць брацкае друкарні, дык брацтва кінула друкаваць кнігі ў Еўі і пачало ізноў друкаваць тут толькі ад 1636 году. Але якая ні была моцная славянская традыцыя, аднак, і брацтва прымушана было выдаваць кнігі „на руском языке", г. зн. у беларускай мове. Нацыянальна-культурная традыцыя не памерла. Яна жыла. Брацтва інакш і не магло рабіць, бо апораю брацтва былі мяшчанскія колы, гарадзкі просты народ, для якога славянская мова была ў значнай сваёй частцы мала зразумелай *).

III.

Гуманістычны індывідуалістычны рух, які пашырыўся сярод беларускага і украінскага шляхоцтва, павінен быў адбіцца ня толькі на рэлігійным індывідуалізьме, да якога схілялася пэўная частка беларускага і украінскага шляхоцтва. Гуманістычны індывідуалізм дапамагаў абуджэньню навуковае думкі наагул. Беларуска-украінскае шляхоцтва высунула рад гуманістых, якія разыходзіліся паміж сабою ў шмат якіх пытаньнях у галіне рэлігійнае думкі, але ў той самы час увасаблялі сабою той нацыянальна-культурны ўздым, які быў сярод беларуска-украінскіх зямляўласьнікаў у другой палове XVI і ў пачатку XVII сталецьця.

Да першага консэрватыўнага крыла беларуска-украінскага гуманізму трэба далічыць маскоўскага эмігранта, князя Андрэя Курбскага, які ў шмат якіх адносінах быў вельмі выдатнаю асобаю для свайго часу. Князь Курбскі досыць рана пачаў прымаць жывы ўдзел у ваенна-

*) Гл. далей артыкул проф. Ул. Пічэты: „Друк на Беларусі ў XVI і XVII ст."

палітычным жыцьці Маскоўскае дзяржавы. Ужо на дваццаць першым годзе свайго жыцьця, у 1549 годзе, князь Курбскі прымаў удзел у няўдалым паходзе пад Казань. Потым Курбскі робіцца ваяводай у Пронску. У 1552 годзе ён разьбіў татар пад Тулай і прымаў удзел у аблозе Казані на правох ваяводы правае рукі. Праз 2 гады Курбскі здалеў перамагчы татар, за што ён атрымаў узнагароду—чын баярына. У пачатку панаваньня Івана Грознага князь Курбскі быў членам „избранной рады" і, разам з партыяй папа Сільвэстра і стольніка Адашава, кіраваў Маскоўскаю дзяржавай. У часы Лівонскае вайны князь Курбскі камандаваў арміяй і меў значныя перамогі над супраціўнікам. У 1563 годзе Курбскі ўцёк з Юр'ева ў Літву з цэлым натоўпам прыхільнікаў і слуг. Гэта было выклікана рознымі прычынамі. Партыя Сільвэстра і Адашава была адсунута ад улады. Курбскі баяўся перасьледваньняў з боку маскоўскага вялікага князя, тым больш, што пачала павялічвацца эміграцыя ў Літву з Масквы, дзеля тае тэрорыстычнае палітыкі, якой стаў трымацца ўрад Грознага. З свайго боку, і літоўска-беларускі ўрад, у васобе Жыгімонта-Аўгуста, пачаў з Курбскім перамаўленьні, вабіў яго да пераходу на бок Літвы і абяцаў найлепшае прыймо.

Павялічэньне тэрору і прадчуваньне блізкае няміласьці прымусіла Курбскага перайсьці на бок ворага Масквы. Вяльможнага эміграната і, пры тым, добрага ваеннага стратэга ў Літве сустрэлі з радасьцю. Урад Жыгімонта-Аўгуста аддаў яму для кіраваньня Ковельскае староства. Князь Курбскі, як ковельскі стараста, пачаў прымаць дзейны ўдзел з 1564 году ў войнах супроць Масквы.

Разам з эміграцыяй у Літву, для Курбскага, які стаў выдатным членам літоўска-беларускага магнацтва, пачынаецца новы пэрыод жыцьця. Ён эміграваў у варожы стан у важную для Літоўска-Беларускае дзяржавы эпоху, калі заходня-эўропейскі культурны і рэлігійны індывідуалізм значна пашырыўся сярод літоўска-беларускіх зямляўласьнікаў. Князю Курбскаму, які вышаў з іншае краіны, з іншымі культурнымі і рэлігійнымі паглядамі і традыцыямі, трэ' было выявіць свае адносіны да новае культуры і новага рэлігійнага руху.

Гэта паставіла эміграната ў шэраг выдатных дзеячоў беларуска-украінскае асьветы і адукацыі, хаця-ж са значным адхіленьнем ад таго рэлігійнага гуманістычнага індывідуалізму, які так пашырыўся сярод літоўска-беларускага панства. Князь Курбскі, эміграваўшы ў Літву, хутка асыміляваўся з літоўска-беларускім магнацтвам, з якім яго яднал фэўдальна-арыстократычныя сымпатыі. Князь Курбскі хутка прысвоіў прыёмы і звычаі буйна-абшарніцкага зямляўласьніцтва. Ён ваяваў з суседнімі зямляўласьнікамі-панамі і адбіраў ад іх сілай іх землі, зусім ня лічачыся з якім-небудзь об'ектыўным правам. У 1571 годзе Курбскі ажаніўся ў другі раз з удавой Казінскай, прыроджанай княжной Гольшанскай, але хутка разышоўся з ёю. Атрымаўшы развод, Курбскі ізноў ажаніўся з дачкой небагатага шляхціца Сямашкі, ад якой меў сына Зьмітру. У 1583 годзе славутны маскоўскі эмігрант памёр. Літоўска-беларускі ўрад адабраў ад яго насьледнікаў большую частку яго зямельных маемасьцяй, у тым ліку і Ковель. Яго сын Зьмітра, які перайшоў у каталіцтва, потым атрымаў назад частку маемасьці, аднятае ад яго бацькі. Эміграцыя ў Літву мела для Курбскага вялікае значэньне. Яна прымусіла вяльможнага эміграната ўзяцца за літаратурную працу і пастарацца выправадаць свой уцёк з Масквы ў Літву. Гэткім чынам зьявіліся аполёгетычныя творы князя Курбскага ў форме першае эпістоліі да цара, вялікага князя маскоўскага. Грозны ня вытрымаў і напісаў адказ

на ліст князя Курбскага. Шырокая эпістолія выклікала адказ з боку князя Курбскага, на які Грозны напісаў новы ліст. Адказваючы на яго, Курбскі напісаў досыць даўгое „отвещание со стороны убогого Андрея Курбского, кн. Ковельского". Адказу Грознага ня было. Перапіска двох абаронцаў сваіх уласных учынкаў і дзейнасьці спынілася. Пазьней князь Курбскі напісаў памфлет-гісторыю вялікага князя маскоўскага. Аднак, сам аўтар глядзеў на свой твор, як на твор об'ектыўны, у якім знаходзілася толькі тое, што сам аўтар чуў „у достоверных и видел отчима своими". Гэтая гісторыя была выклікана таксама патрэбай выпраўдаць сваю эміграцыю „прилежного ради служения от многих". Ужо перапіска Курбскага з Грозным дазваляе выразна ўявіць як яго асобу, гэтак і літаратурныя здольнасьці, а разам з тым, і яго гістарычна-філёзофскі сьветапагляд, які прымусіў Курбскага заняць пэўнае становішча адносна беларускага культурнага і рэлігійнага гуманізму.

Князь Курбскі ёсьць, бязумоўна, вельмі талентная асоба. Яго стыль—жывы і вобразны. Яго мова—абураная і нэрвовая. У ёй няма маскоўскага спакою і індыфэрэнтызму, але, разам з тым, князь Курбскі—суворы консэрватар і з боку сваіх палітычных паглядаў, і з боку свайго гістарычна-філёзофскага, строга-царкоўнага ортодоксальнага сьветапагляду. Калі палітычны консэрватызм з нахілам у бок арыстократычнага соцыяльна-экономічнага фэўдалізму знайшоў у Літве для сябе адпаведныя палітычныя абставіны, дык рэлігійна-філёзофскі консэрватызм прымусіў князя Курбскага, з уласьцівай яму экспансыўнасьцю і абурэньнем, выявіць свае адносіны да таго беларуска-украінскага індывідуалістычнага руху, які сустракаў столькі спачуваньня з боку беларускіх і украінскіх зямляўласьнікаў.

Адносіны кн. Курбскага да беларускага і украінскага гуманізму і яго ўласная культурна-філёзофская позыцыя знайшлі зусім выразнае выяўленьне ў яго лістох да паасобных духоўных і сьвецкіх асоб. Сярод дапішчыкаў князя Курбскага знаходзіліся: нехта Іван Многавучоны—старац Пячэрскага манастыра, старац Васіан, кн. Канстантын Астроскі, нейкі Марка—вучань Арцёма, Кузьма Мамоніч, Кадыян Чапліч, Фёдар Бокей, Пячыхвосцкі, княгіня Чартарыская, пан Астафі Троцкі. Князь Курбскі напісаў гісторыю аб Восьмым Саборы, у якой яго рэлігійна-філёзофскі сьветапагляд атрымаў выразнае тэорэтычнае формуляваньне.

Князь Курбскі—вельмі консэрватыўны ў сваіх рэлігійна-культурных паглядах. Гэтая консэрватыўнасьць вельмі характэрна для Курбскага, але яна ў яго творах ня ёсьць нешта няжыцьцёвае, мёртвае. Консэрватызм Курбскага ёсьць протэст супроць розных рэлігійных захапленьняў, якія ня вытрымліваюць, як ён думае, ніякае крытыкі, калі падысьці да іх з матар'яламі, узятымі са сьвятога пісьма і айцоў царквы. Толькі знаёмства з апошнімі можа засьцерагчы чалавека ад захапленьня рэлігійным вольнадумствам і ўсялякімі навінамі. Князь Курбскі зусім ня вораг асьветы. Ён цалкам спачувае ёй, але з умовай, каб асьвета мела нацыянальна-рэлігійны характар, бо гэта толькі і можа быць крыніцай адраджэньня „рускага" народа. У гэтым сутнасьць рэлігійна-філёзофскіх паглядаў князя Курбскага, якія знайшлі яскравае і выразнае выяўленьне ў яго корэспондэнцыі.

Лісты князя Курбскага поўны адносак да сьвятога пісьма. Яго довады дадатнага характару грунтуюцца на тэксьце сьвятога пісьма, у якім—і толькі ў ім адным—знаходзіцца бясспрэчная рэлігійная праўда. Адказваючы Івану Многавучонаму „о праве и вере", князь Курбскі раіць свайму дапішчыку, прамудраму Івану, „устыдитися древних таковых святых и толь великих, не только внешнему любомудрию со-

вершенно наказанных и богословию искусных, но и житием ангельским сияющих, и многие от них исповедания ради благочестия от безбожных эллин и от злославых царей страдание и кровми мученицкими украшенных". Прычынай такое дакорнае ўвагі зьявілася даданьне ў сымболь веры догмату „і ад сына", які быў прыняты ў рымска-каталіцкай царкве. Князь Курбскі процістаўляе гэтаму вучэньню сыстэму веранавучаньня праваслаўнае царквы, выпраўдваючы яе адноскамі да Эвангельля, Дзеяньняў Апосталаў, вучэньня айцоў царквы—Дзяніса Арэопагіта, Рыгора Багаслова,—а таксама да Ісаі прарока і апостала Паўлы. Гэткім-жа чынам, у дзейнасьці Нікейскага Сусьветнага Сабору, які не датыкаўся пытаньня аб пахаджэньні духа сьвятога, князь Курбскі бачыць справядлівасьць праваслаўнага пункту пагляду і „лжемудрость" каталіцкага. Сабор, які быў скліканы супроць гэрасі Македонія, стаяў на пункце пагляду Першага Сусьветнага Сабору і лічыў справядлівым вучэньне аб „Присносущем Его от Отца исхождении, а не об излиянии и посылании Духа". Аднак, каталіцкі догмат мае вялікае пашырэньне. Князь Курбскі ня толькі абураны тым, што новы догмат пярэчыць усёй сутнасьці праваслаўнага хрысьціянскага вучэньня, але яшчэ і тым, што „филлокизмами Аристотелевскими изостряя свой язык на древнее богословие вооружаются".

Сумліваньне ў справядлівасьці догматаў праваслаўя выклікала глыбокія зьмены ў абрадах рымска-каталіцкае царквы і было прычынай таго, што шмат хто з рымска-католікаў „ныне вослед неосвященного Лютера пойдоша". З прычыны адпаду ад праваслаўя, у рымска-католікаў „не токмо образные богословии догматы растлены", але і „священные Книги Моисеевские и Пророческие от жидовских книг растлены сущи и в преводех изпрепорчены". Зварот да чыстасьці вучэньня праваслаўнае царквы ёсьць адзіны выхад для ўсіх, хто адхіліўся ад праваслаўя, каб потым не падлягаць вечным мукам. Так адносіўся князь Курбскі да рымска-каталіцкае веры. Ён процістаўляў каталіцкім навінам чыстасьць праваслаўна-хрысьціянскага вучэньня, узмацняючы свае думкі адпаведнымі царкоўна-гістарычнымі довадамі. Князь Курбскі ў сваіх адносінах да каталіцтва заставаўся такім да канца свайго жыцьця. Яму даводзілася ў сваіх лістох неаднакроць датыкацца тых-жа пытаньняў. Калі каталіцтва выклікала ў Курбскім такія адмоўныя адносіны да сябе, дык беларускі гуманізм, злучаны з рэлігійным скептыцызмам, выклікае ў князі Курбскім пачуцьцё найвялікшага абурэньня. У лісьце да старца Васіана князь Курбскі адзначае вялікае пашырэньне ў Літве вольнадумства, дзеля чаго „стада верных нещадно расхищают и апостольская словеса превращаючи развращенне толкуют и на святых хулу возлагают". Курбскі тлумачыць пашырэньне вольнадумства тым, што ў грамадзянстве ўжываюцца „рускія" кнігі, якія зьмяшчаюць у сабе гарэтычныя зданьні папа Ерамея Баўгарскага, што зьнеслаўляюць Івана Золатавуснага і іншых сьвятых. Князь Курбскі таксама нездаволены перакладам на „рускую" мову кніг сьвятога пісьма, які зрабіў Скарына з Полацку, а таксама і прарочых кніг, у васнову якога пакладзены „препорченые книги жидовские". Пераклад кніг Скарыны, на думку Курбскага, вельмі блізкі да перакладу Бібліі Лютэра, у чым сам Курбскі меў магчымасьць асабіста пераканацца. Новыя кнігі, паводле пагляду Курбскага, ня трэба ўжываць, бо яны могуць быць крыніцаю спакусы. Трэба новыя кнігі замяніць старымі кнігамі, якія знаходзяцца ў манастырох. Нічога дзіўнага, што пры гэткіх адносінах да перакладаў Францішка Скарыны, князь Курбскі быў вельмі зьдзіўлены тым, што князь Канстантын Астроскі аддаў перакладзеную ім з лацінскае на славянскую

мову „Гутарку Івана Золатавуснага“ „пробовати и рассуждати невежде и еретику для перевода на польский язык“. Абураны князь думае, што было-б лепш, „если-бы Ваша милость тот папер спалити сказал, або попу якому церковь Рускую отдал“, бо праўда захавана толькі ў праваслаўнай царкве.

Польска-каталіцкая і протэстанцкая эўропейскія культуры выклікаюць у князі Курбскім адмоўныя адносіны да сябе. Разам з тым, князь Курбскі вельмі добра разумеў патрэбу ў абароне праваслаўя ад усіх, хто на яго нападаў. Паводле думак Курбскага, змагацца з ворагамі праваслаўя і ўсходня-славянскае культуры магчыма было толькі зброяй апошніх, процістаўляючы іх кнігам пераклады кніг на славянскую мову.

Князь Курбскі задумаў пераклад царкоўна-навучальных твораў на славянскую мову. Ён меў досыць вялікі лік царкоўна-навучальных кніг, якія набыў, калі быў заграніцай, у Кракаве і Італіі, князь Міхал Абаленскі. Курбскі ўяўляў сабе ўсе цяжкасьці выкананьня надуманае справы, бо ня было асоб, знаёмых з славянскаю мовай. Можна было знайсьці людзей, знаёмых з грэцкаю і лацінскаю мовамі, але не з славянскаю. Даведаўшыся ад вялебнага Арцёма, што яго вучань Марка ведае славянскую мову і імкнецца практычна выкарыстаць сваё знаёмства з гэтаю мовай, князь Курбскі зьвярнуўся да яго, просячы „приехати на колько месяцев, даючи помощь нашему грубству и неискувству: бо не обвыкли есмы яко аз, тако князь Михайло словенскому языку в конец, и того ради боимся пуститися едины без помощи на тое великое и достохвальное дело“. Зьяўляючыся прыхільнікам усходня-славянскае культуры, князь Курбскі ня быў заўзятым ворагам польска-эўропейскае адукацыі. Ён ясна бачыў патрэбу адукацыі для змаганьня з польскім уплывам. Сам ён, згодна з уласным выразам, „не мало лет изнурих по силе моей, уже в сединах, со многими труды приучахся римскому языку“. Мала таго, князь Курбскі пераканаў свайго брата, шляхотнага юнака князя Міхала Абаленскага, „иж бы во младом еще будущи веце навык тые внешния наук во языцех римских“. З гэтаю мэтай Абаленскі тры гады вучыўся ў школе ў Кракаве і потым „совершения ради до Влох ехал, оставя дома жену и детки, и пребывал там в течении 2-х лет“. У лісьце да Кузьмы Мамоніча князь Курбскі вітае барацьбу праваслаўя з езуітамі, але настойна просіць Мамоніча засьцерагаць праваслаўных, каб яны не пачыналі з езуітамі спрэчак „без ученых нашия страны“. Калі князь Курбскі атрымаў паведамленьне ад княгіні Чартарыскай, што яна хоча паслаць свайго сына „до Вильны, до Римского закона чесных пресвитеров і язутов“, дык ён прызнаў такое жаданьне пахвальным. Пры гэтым, Курбскі адзначыў небясьпеку, каб сын княгіні Чартарыскай не адпаў ад праваслаўя, як іншыя прадстаўнікі шляхоцкіх і княскіх радоў. У самай падарожы для навукі да іншаверцаў Курбскі ня бачыць нічога страшнага, бо „и сами учители церкви ездили учиться тех наук с домов своих, от родителей своих до Афин к поганским философам, но правости душевные и праотеческого правоверия их ни на мнеи отменили“.

Лічачы магчымым атрымаць веды ад іншаверцаў, князь Курбскі, аднак, не дапушчаў нават думкі аб магчымасьці набліжэньня і сяброўства з апошнімі. Ня дзіва, што захапленьне Кадыяна Чапліча протэстанцтвам, а таксама і вольныя адносіны яго да сьвятога пісьма выклікаюць з боку Курбскага выразна адмоўныя адносіны да сябе. Лічачы сябе добрым знаўцам „от младости нашей во Священных Писаниях по

силе нашей научени и утвержени в вере христианской благочестивых догматов", князь Курбскі адзначае ў сваім адказе тое, што ён не прасіў свайго дапішчыка „чего бы ми есть научил, альбо мне толковал Святое Письмо", тым больш, што сам Чапліч „напоен от мутных источников". Усялякія новыя тлумачэньні сьвятога пісьма Кальвіна, Піліпа Мэлянхтона, Марціна Лютэра і вучняў яго, Цьвінгліяна і іншых, князь Курбскі таксама адкідае, гэткім самым чынам, як і раней рабілі апосталы і настаўнікі царквы адносна гарэтыкаў. Дзеля гэтага князь Курбскі быў вельмі абураны тым, што кніжыцу езуіта Скаргі князь Канстантын Астроскі даў на абвяржэньне протэстанту Матавілу. Князь Курбскі выказвае найвялікшае зьдзіўленьне з гэтае прычыны і думае, што бадай ніхто ня чуў аб тым, „ижбы христианин правоверный от арианина христоненавистного услаждался епистолиями или примовал от него писания на помощь церкви Христа Бога". Такім выяўляецца князь Курбскі ў сваіх лістох.

Вучань Максіма Грэка, які прыехаў у Маскву і ўзяўся за ўпарадкаваньне бібліотэкі вялікага князя, Курбскі застаўся верным догматыцы ўсходняга праваслаўя і не дапушчаў нават думкі аб магчымасьці якіх-колечы крытычных адносін як да самых догматаў, гэтак і да сьвятога пісьма. Князь Курбскі вывез з Маскоўшчыны ідэю чыстага праваслаўя, якой давялося спаткацца на літоўска-беларускай глебе з markup рознастайнымі рэлігійна-культурнымі ўплывамі. Курбскі вытрымаў наступ апошніх, але маскоўскаму эмігранту стала ясна патрэба ў атрыманьні пэўных навуковых падстаў праваслаўнага богаслоўя, без якіх ідэёвая барацьба праваслаўя з інавер'ем ня будзе мець ніякіх пажаданых вынікаў. Гэтым і тлумачыцца жаданьне князя Курбскага перакласьці царкоўна-навучальныя творы на славянскую мову, хаця-ж асаблівае патрэбы ў гэтым не адчувалася. Уплыў Курбскага сярод беларускае шляхты ня мог быць значным. Надта моцнаю была пакуль што яшчэ прывабнасьць эўропейска-польскае культуры. Дый, апроч таго, польскі зямляўласьніцкі капітал не распачаў яшчэ свайго агрэсыўнага наступу. Але князь Курбскі ня быў адзіным у сваім старавер'і. Навокал яго згрупаваўся гурток „из баккалавров и в писаниях искусных людей", якія склалі нешта на ўзор школы, але ня зусім організаванае, як думае Грушэўскі. Гэты гурток зрабіўся асяродкам консэрватыўна-культурнае плыні, да якое схіляліся элемэнты гарадзкога грамадзянства. Сярод іх панавалі настроі, варожыя як да езуітаў, гэтак і да польскае шляхты. Не дарма адзін з шляхціцаў, які трапіў у палон у Маскву, паведамляў князя Курбскага, што ён даручыў апякунцы сваіх дзяцей, каб яна, калі дзеці падрастуць, „ку вам на науку дала і што за платы научителем приходити будет, же бы то збираючи платила".

Другім культурным асяродкам быў двор князя Юр'я Юр'евіча Слуцкага, стрыечнага брата князя Канстантына Астроскага. Калі даць веру словам езуіта Антона Посэвіна ў яго данясеньні папе Рыгору XIII, дык пры двары князя Слуцкага існавала школа. Як сьцьвярджае той самы Посэвін, тут знаходзілася і друкарня. На жаль, няма ніякіх іншых вестак, якія-б пацьвердзілі весткі Антона Посэвіна і дазволілі-б выразна ўявіць аб дзейнасьці культурнага гуртка, які працаваў пад мэцэнацтвам князя Юр'я Слуцкага. Вядома толькі, што пры двары князя Слуцкага ў 1560 годзе жыў стары Арцём, які выкладаў богаслоўе і меў вучняў. У ліку апошніх быў нехта Марка, з якім князю Курбскаму даводзілася весьці размовы. Вучань Арцёма Марка быў юнак „светлых обычаев навыкшый". Сам Арцём быў ахоплены жаданьнем аддаць рэшту свайго жыцьця на пераклады царкоўна-навучальных твораў на сла-

вянскую мову. Па словах князя Курбскага, Арцём быў згодзен „с потщанием в старости моей, аще бы и пешему случиломися препоясався уйти из Слуцка и в месте", згодна з паказаньнем самога Курбскага, „пособляти в преводе, и склоплюче на славянский". У прыдворным гуртку князя Слуцкага не адхіляліся ад лацінскае і грэцкае моў, але, з свайго боку, надавалі вялізнае значэньне славянскай мове. Марка, вучань Арцёма, быў, відаць, знаўцам славянскае мовы настолькі, што яму можна было даручыць такую адказную і цяжкую справу, як пераклад царкоўна-навучальных кніг на славянскую мову. Адсутнасьць знаўцаў прымусіла князя Курбскага зьвярнуцца да Маркі за дапамогай і, у выпадку пераезду яго да князя Курбскага, узяцца, разам з князем Абаленскім, за пераклад ці Рыгора Багаслова ці Васіля Вялікага. Тое, што князь Курбскі зьвярнуўся да Маркі, было няпрыемна яго мэцэнату. Не дарма князь Курбскі ў лісьце да Маркі стараўся адсунуць ад сябе падазрэньне і абвінавачваньне ў тым, што ён хацеў перацягнуць яго да сябе на пасаду. Толькі патрэба ў кіраваньні і дапамозе прымусіла князя Курбскага зьвярнуцца да яго з просьбай аб супрацоўніцтве. Пераклад ня рухаецца наперад, „коснет, так как без помощи не можем, а не смеем дерзнути". Відаць, Марка быў добрым мовазнаўцам, калі абодва мэцэнаты, князі Курбскі і Слуцкі, зварочваліся да яго за дапамогай і за падтрыманьнем. З прычыны адсутнасьці фактычнага матар'ялу нельга высьветліць, наколькі вялікім быў уплыў культурнага гуртка пры двары князя Слуцкага. Ясна толькі адно, што гурток яго быў з ортодоксальным кірункам. Паасобныя яго сябры, будучы добрымі мовазнаўцамі, лічылі патрэбным дапамагаць літаратурнымі заняткамі адраджэньню славянскіх моў. Прызнаньне за гэтым адраджэньнем самастойнага культурнага значэньня набліжала гурток Курбскага да гуртка Слуцкага.

Трэцім гуманістычным асяродкам, навокал якога аб'ядналіся прадстаўнікі новае індывідуалістычнае культуры, быў Несьвіж, маемасьць князя Міколы Радзівіла, канцлера Вялікага Княства Літоўскага і ваяводы Віленскага. Буйны магнат, важная асоба ў палітычным жыцьці Беларусі, яскравы прадстаўнік самастойнасьці Вялікага Княства Літоўскага, Радзівіл быў прыхільнікам кальвінізму і імкнуўся да пашырэньня яго ўплыву ў межах сваіх уладаньняў. Застаючыся буйным фэўдалам, князь Радзівіл, як галава і патрон кальвінскага брацтва ў Несьвіжы, рабіўся яшчэ больш імпозантнай социяльна-палітычнай фігурай, якая варожа адносілася да тае польска-каталіцкае культуры, што панавала пры двары Жыгімонта II Аўгуста і з-пад уплыву якой Радзівілы не здалелі вырваць маладога вялікага князя. Маючы вялізарныя сродкі, Радзівіл заснаваў друкарню і даў магчымасьць Буднаму распачаць друкаваньне сваіх протэстанцкіх кніг. Супраціўнік польскае культуры, прадстаўнік незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага, князь Радзівіл павінен быў падтрымліваць нацыянальна-культурную традыцыю, як сымболь самастойнасьці Вялікага Княства Літоўскага. Пры яго двары згрупаваўся гурток гуманістых у васобах Буднага, Мацея Кавечынскага і Лаўрына Крыткоўскага, найактыўнейшых дзеячоў спаміж несьвіскіх гуманістых. Да іх трэба далучыць яшчэ такога буйнога магната, якім быў Астафі Валовіч. Гурток, на чале якога стаяў і які падтрымліваў сваімі сродкамі князь Радзівіл, быў выдатным зьявішчам у беларускай шляхоцкай грамадзкасьці. Яго ўплыў пераходзіў за межы Несьвіжу і пранікаў у самую гушчу шляхоцкае масы. Не дарма протэстанцтва так непакоіць маскоўскага эмігранта, і князь Курбскі так ня любіць і баіцца тэй нацыянальна-культурнай традыцыі, якая зьвязана з імем вялікага беларускага гуманістага, Францішка Скарыны.

Чацьвертым гуманістычным асяродкам быў двор гэтмана найвышэйшага Вялікага Княства Літоўскага, Рыгора Хадкевіча.

Фамілія Хадкевічаў—выдатныя фігуры ў політычным і культурным жыцьці Вялікага Княства Літоўскага, яскравыя прадстаўнікі магнацтва, якое імкнулася да аслабленьня тых унітарных сувязяй, што злучалі Літву з Польшчай. Як прыхільнікі незалежнасьці Літоўска-Беларускае дзяржавы, фамілія Хадкевічаў належала да праваслаўнае рэлігіі, і з імем Аляксандра Хадкевіча зьвязана заснаваньне Супрасьлеўскага манастыра, вядомага сваім консэрватыўна-культурным настроем. Фундатар манастыра шмат зрабіў, каб стварыць у Супрасьлі асяродак праваслаўнае культуры. У яго бібліотэцы захоўваўся значны лік рукапісаў царкоўна-славянскага характару і беларускага пахаджэньня.

Яго сын Рыгор быў таксама імпозантнаю політычнаю і культурнаю фігурай. Заблудава, бацькаўшчына Хадкевічаў, робіцца асяродкам гэтае праваслаўнае культуры. Спатканьне з маскоўскімі ўцекачамі, першымі друкарамі Іванам Тодаравым і Пётрай Мсьціслаўцам, дало магчымасьць Хадкевічу заснаваць друкарню і гэтым распачаць сваю шырокую асьветную дзейнасьць, каб „слово божие размножилося, и поучение людем закону греческого ширилося, занеже оскуде сих книг на много различных местех". Спачатку пляны Хадкевіча былі шырокія. У сваёй выдавецкай дзейнасьці найвышэйшы гэтман жадаў трымацца і надалей і разьвінаць нацыянальна-культурную традыцыю Скарыны і „выразумения ради простых людей, переложити на просту мову". Але яго жаданьне сустрэла перашкоду з боку „людей мудрых". Запрошаныя ім маскоўскія эмігранты былі людзі іншага складу,—яскравыя прадстаўнікі царкоўна-славянскае консэрватыўнае традыцыі.

Яны знайшлі, што „прекладанием з давних пословиц на новые, помылка чинится не малая, якоже и ныне обретается в книгах нового переводу." Вось чаму маскоўскія друкары надрукавалі даўнейшым спосабам Эвангельле навучальнае, якое вышла ў Заблудаве 17 сакавіка 1569 году. Маскоўскія эмігранты думалі, што ў гэткім выглядзе кніга „к выразумению нетрудна и к читанию полезна". Хадкевіч абяцаў і надалей „о иных книгах церквам божиим потребных промышляти, и накладу моего на то положити не жалуючы".

Эвангельле навучальнае вышла ў год падпісаньня Люблінскае вуніі, палкім ворагам якое быў Хадкевіч. Політычная перамога шляхоцтва над магнацкай партыяй на Люблінскім сойме падламала фізычныя сілы Хадкевіча. Ён памёр у 1572 годзе. Іван Тодараў, задоўга да яго сьмерці, пакінуў Заблудава і накіраваўся ў Львоў. Ён здалеў выпусьціць у Заблудаве яшчэ Псалтыр з Часаслоўцам, якія вышлі 26 верасьня 1569 году. На гэтым і спынілася выдавецкая дзейнасьць Хадкевіча, які нядоўга жыў пасьля зруйнаваньня сваіх політычных плянаў, хаця-ж у прадмове да Псалтыру яшчэ адчуваліся бадзёрыя ноткі і напісаны былі паказальныя словы: „Я такоже и вперед працы и накладу моего жаловати не буду и другия книги, церквам и людем божиим, во Христа верующим, потребныя, друковати дам"...

Выдатным прадстаўніком беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня зьяўляецца і сам вялікі князь Жыгімонт II Аўгуст. Добра адукаваны, Жыгімонт-Аўгуст любіў кнігу і сабраў вялікую бібліотэку, якую перадаў у езуіцкую калегію ў Вільні. Жыгімонт-Аўгуст праз некаторы час знаходзіўся пад уплывам протэстанцтва, меў шырокія і вольныя пагляды, спрыяў спачатку нацыянальна-політычным імкненьням беларускага магнацтва, як гэта паказаў яго нядоўгі шлюб з Бар-

# СТАТУТ ВЕЛИКОГО КНЯЗТВА ЛИТОВСКОГО

Ѿ наяснейшего г(осу)д(а)ря короля его м(и)л(о)сти Жикгимонта третего на коронацыи в Кракове выданый року ҂аф пи.

Смотрите што маете чинити. Бо не справуете суду чоловечого але суд Божий. А што колвек судити будете на вас ся обвалить. Нехай же будет боязнь и страх Господень з вами. А с правдою все чините. Нест бо при Господе Богу нашем неправости, ани бранованья особ, ани пожаданья даров. — Книги в парали(по)м(енон) гла(ва) ді

Милуйте справедливость которые судите землю. — Пр(е)м(удрости) Саломон(а) гла(ва) а.

Бо хто любит неправду, тот ненавидит душ(у) своее. — Псал(ом) і.

Право судите сынове человечестии. — Псал(ом) нз.

З привильем короля его м(и)л(о)сти

Друковано в дому Мамоничов.

Загалоўны аркуш Літоўскага Статуту 1588 г.

од

Роздел

Артыкул ді 12

Около неданья чужоземцом достоинств и врядов вся-
ких, а приходнем з иных панствах и чести не давати.

Тако ж мы господар обецуем и шлюбуем под присегою нашою,
которую учинили есмо Великому князству Литовскому и всим
станом и обывателем его, беручи то из статуту старого
короля его милости Жикгимонта першого том панству Велико-
му князству Литовскому даного, а велей укладаючи и натто по-
зволяючи, иж в том панстве Великом князстве Литов-
ском и во всих землях ему прислухаючих достоенств духовных
и светских, городов, дворов, староствов, старостов, держав,
врядов земских и дворных, посесыи або держанья и поживанья
и вечности жадным чужоземцом и заграничником, а ни суседом
того панства давати не маем, а листовным и постомыслым на-
ши Великое князство Литовское давати будем повинни, только
Литве, Руси, Жомойти, родичом старожитным и уроженцом
Великого князства Литовского и иных земль тому Великому
князству належачих. А хто бы з чужоземцов, заграничников и
суседов того панства и иных земль ему прислухаючих важил-
се што-колвек упросити, взяти и в держанье прийти, або оные
будучи того заразом не пустил, тогды маетность его
вся мает быти взята до скарбу нашого Великого князз-
ства Литовского. Бо дигнитаръ быльцом, хотя и родичом
Великого князства Литовского, достоенства и вряды высокие
мають быти даваны добре знатным и правдиве не змышля-
не в том воеводстве або повете оселым, а хотя бы хто и з того
народу, а за свои заслуги в тую речи посполитое пришол к учестности
з ласки даниною нашое, або которым иным правом, тогды
истако

Старонка 79 Літоўскага Статуту 1588 г.

барай Радзівіл. Польская каталіцкая партыя не перашкаджала Жыгімонту-Аўгусту весьці толерантную рэлігійную палітыку, якая скончылася прывілеем 1563 году, які афіцыяльна зьнішчыў конфэсыянальны артыкул Гарадэльскага прывілею (1413). Але яна не магла дапусьціць ні спачуваньня протэстанцтву, ні ўтварэньня самастойнае дынастыі ў Літве. Слабавольны кароль паддаўся каталіцкай партыі. Жыгімонт-Аўгуст зьдзейсьніў яе програму, прысьпяшыў утварэньне вуніі ў Любліне сваім удзелам, але застаўся да канца верны сваёй вольнай рэлігійнай палітыцы.

Таксама выдатным прадстаўнікам беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня быў літоўскі канцлер Леў Сапега, які меў вялікія маемасьці на Беларусі і ў Падляхіі. Ужо ў маладых гадох Леў Сапега выявіў свае надзвычайныя здольнасьці. Скончыўшы першапачатковую адукацыю, Сапега быў накіраваны ў Лейпцыг дзеля атрыманьня вышэйшае адукацыі. У Лейпцыгу ён больш за ўсё займаўся філёзофскімі і юрыдычнымі навукамі. Леў Сапега вярнуўся на бацькаўшчыну, калі ўжо на трон узыходзіў Жыгімонт III. Палітычная кар'ера Льва Сапегі, дзякуючы яго вялікім здольнасьцям, была вельмі шпаркая. На 23 годзе свайго жыцьця Леў Сапега быў прызначаны сакратаром Вялікага Княства Літоўскага. У 1584 годзе ён едзе паслом у Маскву. У 1600 годзе Леў Сапега ў другі раз едзе паслом у Маскву, дзе яму пашчасьціла ўлажыць часовае замірэньне на 20 год. Ужо пасьля звароту з першага пасольства Сапега атрымаў годнасьць пад-канцлера. Будучы пад-канцлерам, Сапега шмат дапамагаў абраньню на літоўска-беларускі пасад швэдзкага каралевіча Жыгімонта Вазы. Дзякуючы гэтаму, паміж новым каралём і Львом Сапегай устанавіліся вельмі блізкія адносіны. Пад націскам літоўска-беларускае шляхты Жыгімонт III даручыў Льву Сапегу перагледзець Статут 1566 году і дадаць яго. Гэтую працу Сапега вельмі трапна выканаў, і ў 1588 годзе Літоўскі Статут быў афіцыяльна зацьверджаны каралём. Уложаны Статут быў надрукаваны ў Вільні ўласным коштам Сапегі. Статут новае рэдакцыі, зьяўляючыся адбіткам дзяржаўна-палітычнае правасьвядомасьці літоўска-беларускае шляхты, выяўляе ў той самы час здольнасьці і талент самога Льва Сапегі. Дакладная праўная мова новага Статуту, сыстэматычная распрацоўка паасобных праўных проблем, складнасьць, яснасьць і выразнасьць пабудаваньняў,—усё гэта яскрава высьвятляе як здольнасьці, гэтак і веды Льва Сапегі. Выдадзены тэкст Статуту мае прадмову, напісаную самім Сапегам. Апроч таго, у вабарону Статуту Сапега казаў на сойме прамову. Абодва гэтыя творы зьяўляюцца яскравым адбіткам філёзофска-праўных паглядаў літоўскага пад-канцлера. Леў Сапега стаіць на пункце пагляду індывідуалізму і вольнасьці асобы. Уся яго прадмова ёсьць абарона вольнасьці асобы, якая цалкам адпавядае паглядам старых філёзофаў і мудрацоў. Паводле пагляду Льва Сапегі, нормальная дзяржава павінна грунтавацца на законе. Тыя дзяржавы, якія маюць добрыя законы, захоўваюць сваю цэльнасьць і недатыкальнасьць. У вадваротным выпадку зьяўляецца анархія і бязуладзьдзе.

Канцлер Леў Сапега заставаўся верным сваім гуманістычнам ідэям да канца свайго жыцьця. Ён не падпаў пад уплыў каталіцкае царквы і айцоў езуітаў. Беларускі гуманісты быў супраціўнікам рэлігійнага фанатызму. Дзейнасьць Іосафата Кунцэвіча ў Віцебску выклікала рэзкі протэст з яго боку—ён напісаў ліст да рэлігійнага фанатыка, полацкага вуніцкага архібіскупа (1621). Рэлігійная вольнасьць—патрэбна. Калі яўрэі і татары маюць права мець сынагогі і мячэці, дык чаму-ж зьдзеквацца над хрысьціянамі і рабіць ім крыўды і абразы?

Хрыстос ніколі ад сябе нікога не адганяў. Наадварот, ён казаў: „Прыходзьце да мяне, і я супакою вас"... Але польская рэакцыйная каталіцкая партыя не разумела і не магла зразумець такое вольнасьці ў галіне рэлігійных адносін.

Леў Сапега быў апошнім прадстаўніком беларускага адраджэньня. Каталіцкая рэакцыя спыніла культурна-нацыянальнае разьвіцьцё. Гуманістыя зышлі са сцэны, але нацыянальна-культурная традыцыя не памерла. Яна адчуваецца ў першай чвэрці XVII сталецьця ў выданьнях Віленскае брацкае друкарні ў Еўі.





**Проф. Міхал Піотуховіч.**

Праўдзейны Член Інстытуту Беларускае Культуры.

# Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасьць.



тарадаўняе беларускае пісьменства ў сваім разьвіцьці ўтварае рэзкую крывую лінію.

У XIV і XV сталецьцях мы бачым зараджэньне беларускага пісьменства, першыя ўсходы яго; у XVI сталецьці гэтае пісьменства дасягае ў сваім разьвіцьці кульмінацыйнага пункту і, урэшце, у XVII і XVIII сталецьцях назіраецца паступовы спад літаратурнае хвалі.

На самым высокім грэбні гэтае паступова ўзраstaўшае і спадаўшае літаратурнае хвалі ў XVI сталецьці ўздымаецца магутная постаць Францішка Скарыны, які мае найвялікшае значэньне як культурна-нацыянальны і літаратурны дзеяч старажытнае Беларусі.

Але, ня гледзячы на гэткую цэнтральную ролю Скарыны ў беларускай культуры, яго жыцьцё, асоба і нават самая літаратурная дзейнасьць высьветлены далёка ня грунтоўна. Яшчэ ў 1879 годзе адзін дробны дасьледчык выказаў думку, што асоба Скарыны засталася загадковаю і няяснаю [1]). З таго часу прайшло блізка што поўсталецьця, але, ня гледзячы на цэлы рад прац, прысьвечаных Скарыне, цемень, які агарнае сабой яго асобу, расьсеяўся не цалком: і зараз, вывучаючы жыцьцё і творчасьць славутнага беларускага дзеяча, дасьледчык на кожным кроку спатыкаецца з пытаньнямі спрэчнымі і загадковым; і зараз вывучэньне Скарыны стаўляе больш проблем і запытаньняў, чымся дае сталых і пэўных дасягненьняў. Ужо самая дата нараджэньня Францішка Скарыны не ўстаноўлена з дакладнасьцю. З некаторай блізкасьцю да праўды можна аднесьці яе да апошняй чвэрці XV сталецьця (каля 1490). Калі прыпусьціць, што ў 1504 годзе Скарына паступіў у Кракаўскі Унівэрсытэт, то, паводле правіл унівэрсытэту, ён павінен быў у гэты час мець ня меней, як 14 год; у 1517 годзе, калі ён выдаў сваю першую кніжку ў Празе, яму, значыцца, было ня

[1]) Правда. Місячнік для словесности, науки и політыки. Рочнік XII. Львоў, 1879.

менш, як 27 год; у такім прыблізна веку Скарына і нарысаваны на портрэце 1517 году. Да гэтых меркаваньняў, якія прыводзіць Уладзімераў ў сваёй дысэртацыі [1]), мы, з свайго боку, можам дадаць некаторыя весткі з найноўшых крыніц, якія былі невядомы профэсару Уладзімераву. У матар'ялах, што апублікаваў профэсар Шляпкін, якія належаць да 1512 году, беларускі пісьменьнік названы юнаком (est quidam doctissimus iuvenis artium doctor pauper [2]). Наадварот, у матар'ялах пазьнейшых, 1530 году, што апублікаваў Мілавідаў, усюды да Скарыны дапасоўваецца назоў—vir (сталы чалавек, муж. [3]) Juvenis у 1512 годзе, vir у 1530 годзе — гэтыя назовы робяць яшчэ больш пэўнымі і бясспрэчнымі меркаваньні Уладзімерава адносна прыблізнай даты нараджэньня Францішка Скарыны.

Калі гэтую дату даводзіцца ўзгрунтоўваць толькі на ўкосных вестках і рознага рода здогадках, то затое з пэўнасьцю і вычарпанай дакладнасьцю можна зазначыць месца нараджэньня Скарыны і яго нацыянальнае пахаджэньне. Зазначаючы сваё імя і вучоную годнасьць, Францішак Скарына звычайна дадае: „Съ Полоцка, из славного града Полоцка", называючы „рускі язык" сваёй роднай мовай. Напрыклад, у прадмове да Псалтыру 1517 году мы чытаем: „IA Францишек Скоринин сынъ с Полоцька, В лекарскых Науках Докторъ повѣлелъ есмы Псалтырю тиснути рускыми словами, а словенскым іазыкомъ... Наболей с тое причины иже на(с) б(о)гъ с того іазыка на свет пустил" [4]). У прадмове да кнігі Данілы прарока, кажучы аб розных перакладчыках гэтае кнігі, Скарына зазначае: „Аз теже не достойный последовникъ и нароженый в руском іазыку". [5]) У іншых прадмовах досыць часта Францішак Скарына называе рускі язык сваім прыраджоным.

Гэтыя і да іх падобныя зазначэньні самога Францішка Скарыны разбураюць тэндэнцыю некаторых польскіх вучоных, якія імкнуцца паказаць беларускага дзеяча паляком. Гэткую тэндэнцыю перш за ўсё мы сустракаем у Ліндэ, які кажа аб асобе Скарыны, як аб асобе sławnego współziomka naszego [6]), а ў іншым месцы проста называе паляком. (Spodziewam się, że mi wybaczą współziomkowie, iż o słowiańskich pracach Polaka, Franciszka Skoryny z Połocka, z takiem wyszczególnieniem doniosłem [7]).

Больш об'ектыўным зьяўляецца Вішнеўскі; ён называе пераклады Францішка Скарыны najznakomitszém dziełem w literaturze białoruskiéj [8]). Але і гэты польскі дасьледчык не зьяўляецца цалком бесстароньнім; прызнаючы мову Скарыны беларускай, Вішнеўскі адначасна выяўляе тэндэнцыю зблізіць гэтую мову з польскай; ён кажа пра Скарыну, што той „zamiast cerkownego języka, wszystkim Rusinom nieco do zrozumienia trudniejszego, użył języka białoruskiego", але, пры гэтым Вішнеўскі дадае, што беларуская мова, że wszystkich najbardziéj zbliża się do polszczyzny [9]). У найноўшыя часы тэндэнцыю Ліндэ ў найбольш чыстым выглядзе зноў уваскрашае Віндакевіч, які ў сваіх „Materyałach do historyi polaków w Padwie" дае сьпіс асоб польскае нацыяналь-

---

[1]) Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. 1888.

[2]) Журнал Министерства Народного Просвещения. Апрель 1892. стар. 383.

[3]) Известия Отд. Русского Языка и Словесности Академии Наук. 1917, т. XXIII, кн. 2, стар. 223--226.

[4]) Паасобнік Псалтыру 1517 году ў Расійскай Публічнай Бібліотэцы. VIII, 2, № 62, ліст Г на адвароце.

[5]) Паасобнік памянёнае бібліотэкі.

[6]) Pamiętnik Warszawski. O Literaturze Rossyjskiej. 1815 г. Лістапад. Стар. 277.

[7]) Op. cit., стар. 297.

[8]) Historya literatury polskiéj. t. VIII, Kraków, 1851, стар. 466.

[9]) Op. cit., стар. 478.

насьці, што атрымалі дыплём у Падуанскім Унівэрсытэце, і ў гэтым сьпісе зьмяшчае і Францішка Скарыну, адносячы, відаць, беларускага дзеяча да палякоў [1]). Памылка тым больш тэндэнцыйная, што з усіх асоб, якія пералічаюцца ў „Матар'ялах", адзін толькі Скарына нямае ў вытрымках з актаў Падуанскага Унівэрсытэту зазначэньня Polonus, а наадварот, выразна паказана яго ня польскае пахаджэньне. (Gratiae in med. amore Dei D. Francisci quondam Lucae, Scorina de Poloczko, Rutheni [2]).

Разьвязваючы пытаньне аб соцыяльным стане Францішка Скарыны, мы зноў усходзім на няпэўную глебу розных здогадак і домыслаў. Мы нічога пэўнага ня ведаем аб бацькох Францішка Скарыны. Можна толькі ўстанавіць, што бацьку яго звалі Лукой [3]). Акты XVI сталецьця ўспамінаюць толькі брата беларускага дзеяча—Івана Скарыніча, які меў нярухомую маемасьць у Полацку; ён празываецца ў актах мешчанінам віленскім; вядома, што Скарыны мелі гандлёвыя справы з немцамі і з Вільняй. Профэсар Янчук, зазначаючы, што Скарыны мелі свой уласны гэрб, па падставе гэтага факту робіць асьцярожнае прыпушчэньне аб магчымасьці шляхоцкага пахаджэньня Скарыны [4]). Але рэч у тым, што самае пытаньне аб гэрбе Скарыны зьяўляецца надзвычайна спрэчным. Падобны малюнак (сонца і месяц, толькі разлучана) мы знаходзім ў Нюрэнбэрскай хроніцы Шэдэля [5]). Скарына запазычвае гэты малюнак і толькі ўносіць тую зьмену, што злучае сонца і месяц. Магчыма, як думае Уладзімераў, што гэтае злучэньне ўяўляе сабой астролёгічны знак [6]). Можна згадзіцца, што Францішак Скарына належаў да багатай купецкай сям'і ў Полацку [7]). Але да гэтай думкі Уладзімерава трэба ўнесьці тую папраўку, што багацьце гэтае было ня вельмі значнае, сярэдняе. Рэч у тым, што ў актах Падуанскага Унівэрсытэту, апублікаваных Шляпкіным, Францішак Скарына названы „бедным юнаком", які прасіў дарэмна дапусьціць яго да экзаменаў на навуковую ступень доктара. Страты на экзаменацыйныя цэрэмоніі, якія адбываліся з асаблівай урачыстасьцю, былі вельмі вялікія. „Страты на гэтую ўрачыстасьць усходзілі да значнае сумы, бо ўвесь апарат царквы, дзе адбывалася цэрэмонія, пышнасьць яе ўдзельнікаў, багатыя падарункі, якія павінны былі давацца галоўным прысутным саноўнікам, а гэтак сама, страты на банкет і забаўкі, якімі адзначаўся дзень (экзамена)—усё гэта ўсім цяжарам клалася на ляўрэата. Гэтыя страты хутка павялічыліся да такой ступені, што прымушаны быў умяшацца ў справу папа—выдаць загад, на моцы якога кандыдат павінен быў плаціць ня больш як 500 лір на страты промоцыі" [8]).

Далей *Coppi* яшчэ больш падрабязна зазначае, што, апроч звычайных страт, у некаторых італьлянскіх унівэрсытэтах асьпірант павінен быў яшчэ падносіць вопраткі ўсім, хто абавязан быў быць прысутным

---

[1]) Archivum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. W Krakowie, 1892, стар. 158.
[2]) Ibidem.
[3]) Гл. вышэй.
[4]) Нарысы па гісторыі старажытнага беларускага пісьменства. Менск, 1922, стар. 8.
[5]) Паасобнік Расійскае Публічнае Бібліотэкі. Folia 156—157.
[6]) Op. cit., стар. 56.
[7]) Ibid., 45.
[8]) Coppi. Le università italiene nel medio evo. Firenze, 1886, pag. 201-202.
Прыводзім італьлянскі тэкст:
„Le spese di questo solennità ascendevano a somme cospicue perchè tutto l'apparato della chiesa dove si faceva ceremonia, lo sfarzo della comitiva, i ricchi doni che dovevano essere presentati ai principali dignitari che vi assistevano. nonchè il dispendio dei conviti e dei sollazzi coi quali festeggieva la giornata, era tutto a carico del laureando. Queste spese in breve aumentarono a tal punto, che nel 1311 dove intervenire il papa ordinando che il candidato non dovesse impiegare più di 500 lire per il lusso della promotione".

на цэрэмоніі, а гэтак сама—персьцень і рукавіцы біскупу і дактаром. У калегіі дактароў Падуанскага Унівэрсытэту ў 1343 годзе абгаварвалася нават пытаньне аб тым, што ляўрэаты падносяць персьцяні вельмі танныя, не залатыя, як наказваў статут унівэрсытэту; пасьля вялікіх спрэчак, ухвалілі, што кожны ляўрэат павінен даваць залатыя персьцяні біскупу, вікарыю, старшыні і ўсім дактаром калегіі [1]). У XVI сталецьці, калі Францішак Скарына атрымаў годнасьць доктара лекарскіх навук у Падуі, страты, зьвязанныя з гэтым атрыманьнем, былі гэтак сама вельмі значны. *Coppi* сьведчыць: „у 1590 годзе калегіі Падуанскага Унівэрсытэту, жадаючы зьменшыць страты ў часе атрыманьня доктарскага дыплёму, ухвалілі, што кожны кандыдат, які жадаў атрымаць годнасьць з публічнай урачыстасьцю, павінен быў траціць ня больш патройнай колькасьці таго, што трацілі тыя, хто атрымліваў годнасьць прыватным шляхам [2])“.

Значнасьць страт, якія былі зьвязаны з атрыманьнем ступені доктара, выклікала дапушчэньне дарэмных экзаменаў, пры чым вымагалася, каб кандыдат меў ня менш, як двох сьведак аб сваёй беднасьці. Напрыклад, статут Фэрарскага Унівэрсытэту наказваў у 1467 годзе дапускаць да экзаменаў (promovere)—gratis et amore Dei двох асоб—аднаго фэрарца, а другога—чужаземца [3]). Гэтая ільгота існавала, відаць, і ў Падуі; з яе скарыстаў беларускі дзеяч.

Калі мы зараз параўнаем сьвядоцтвы полацкіх актаў аб заможнасьці роду Скарын, на якія пасылаецца Уладзімераў, і весткі з актаў Падуанскага Унівэрсытэту аб беднасьці Францішка Скарыны, а гэтак сама і дадзеныя намі справкі з гісторыі італьянскіх унівэрсытэтаў аб значнасьці страт, зьвязаных з атрыманьнем доктарскае годнасьці, бясспрэчным зьяўляецца, на нашую думку, адзін вывад—Францішак Скарына, відаць, належаў да стану сярэдняе гандлёвае буржуазіі,—вывад вельмі паважны, які асьветліць і характар літаратурнае дзейнасьці славутнага беларускага дзеяча.

Шмат спрэчак выклікала пытаньне аб тым, да якой веры належаў Францішак Скарына. Гэтаму пытаньню дасьледчыкі адводзілі многа ўвагі, і зразумела, чаму: уся дзейнасьць Скарыны, як перакладчыка Біблії, насіла выключна царкоўна-навучальны характар і ад прыналежнасьці да тэй ці іншай веры вынікаў пэўны кірунак гэтае дзейнасьці. Рознастайныя думкі, якія выказваліся ў зьвязку з закранутым пытаньнем, можна падзяліць на 4 групы—паводле гэтых думак Францішак Скарына мог быць: а) альбо каталік, б) альбо протэстант, в) альбо вуніт, г) альбо праваслаўны.

Думку аб прыналежнасьці Скарыны да рымска-каталіцкае веры напершае выказаў Даброўскі ў надзвычайна асьцярожнай форме.

Даброўскі кажа: „Scorina, wahrscheinlich ein Romisch-Katholischer oder doch wenigstens von der unirten Parthey [4]). Такую самую асьцярожнасьць у разьвязаньні гэтага пытаньня выяўляе і Вішнеўскі, які зазначае:

Być bardzo może, że Skoryna chociaż wyznania greckiego, ale wymowny i wychowany w Krakowie był dość przychylnym rzymsko-katolickiemu kościołowi [5]).

---

[1]) Ibid., 204.

[2]) Ibidem. Італьянскі тэкст:

„Nel 1590 i collegi dell'università di Padova volendo scemare le spese di laurea, stabilirono che ogni candidato, il quale volesse prendere le insegne solenni e con pubblico fasto non potesse spendere più del triplo di quei que si laureavano privatamente“.

[3]) Ibid., 209.

[4]) Neuere Abhandlungen der K. Bohmischen Gesellschaft der Wissenschaften, II Band. Prag. 1795, стар. 185.

[5]) Op. cit., стар. 478.

Вялікую катэгорычнасьць у разьвязаньні памянёнага пытаньня выяўляюць: мітрапаліт Макар, Аганоўскі і невядомы аўтар Ю. Б., які зьмясьціў у Львоўскім часопісе „Правда“ за 1879 год рэцэнзію на працу профэсара Вахняніна аб Францішку Скарыне. Першы з памянёных дасьледчыкаў кажа, што ў 1525 годзе ў Вільні кніжкі друкаваліся „Франциском Скориною, родом из Полоцка, а верою—римско-католіком“ [1]). Аганоўскі сьведчыць: „Можна догадыватися, що Скорина придержувався веры католицкой“ [2]). Нарэшце, зазначаны рэцэнзэнт Ю. Б. катэгорычна абвяшчае: „Моею гадкою він (Скарына) бесперечна був католіком“ [3]).

Довады, на якіх пералічаныя дасьледчыкі імкнуліся ўзгрунтаваць свае думкі аб прыналежнасьці Францішка Скарыны да каталіцкай веры, розныя: а) зазначаецца, што беларускі дзеяч свае пераклады рабіў з лацінскае біблії Вульгаты (Dobrowsky, Wiszniewski, мітрапаліт Макар); б) што ён насіў не праваслаўнае імя Францішка; в) у Кракаўскую Акадэмію, у якой беларускі дзеяч атрымаў сваю адукацыю, дапушчаліся, як сьведчыць Brandowski [4]), толькі каталікі (Вішнеўскі, Аганоўскі, Ю. Б.).

Урэшце, Аганоўскі пераказвае яшчэ адзін довад профэсара Вахняніна, зазначаючы: „в Руси литовской були католики, котры ад часов Ягайло корыстувались там окремешными привилегиями, и про те вероятною есть догадка проф. Вахнянина, що Скорина мог для тых привилегиев статись католиком, по-за-як був человеком богатым“ [5]).

Думку аб прыналежнасьці Францішка Скарыны да протэстантызму асабліва імкнуўся давесьці Галавацкі, які кажа: „Предшественником проповедания реформации можна почитати Фр. Скорину из Полоцка... Современник Мартина Лютера и Меланхтона, он, без сомнения, хорошо был знаком с их сочинениями... Видев,—с якою ревностию протестанты старалися в Германии, в Чехах, и др. землях росширати чтение библии на народном языце, полагая священное писание единственным источником и основанием веры, без всякого сомнения, и Фр. Скорына хотел прислужытись своим землякам библиею на русском языце и при пособии одномышленников постарался о издание ея „людям посполитым к доброму научению“ [6]). Думкі Галавацкага аб мотывах перакладу Францішкам Скарынай Библіі амаль літаральна пераказвае Чыстовіч [7]). Яшчэ раней Kopitar передаў з біографіі Лютара апавяданьне аб тым, што ў 1525 годзе нейкі Францыск паляк, доктар, быў у Вітэнбэргу, у Мэлянхтона і абедаў у яго разам з Лютарам: Invitatus ad coenam tertius ipse Lutherus nec ipse minus fratre Melanchtone captus peregrini doctoris dotibus adeo, ut eum ad proximum sentaculum invitaret.

(На полудзень быў закліканы трэці сам Лютар, і ня менш брата Мэлянхтона. ён быў захоплены вартасьцямі доктара чужаземца да такой ступені, што заклікаў яго на бліжэйшае сьнеданьне).

---

[1]) История Русской Церкви, т. IX, СПБ, 1879, стар. 303.

[2]) История литературы русской, Львов, 1887 г.

[3]) Правда. Місячнік для словесности, науки и політики. У Львові, 1879 г., стар 643.

[4]) Założenie Uniwersitetu Krakowskiego. Kraków, 1872, стар. 76.

[5]) Op. cit., стар. 155. Гл. яшчэ артыкул пад псэўдонімам „Белорусс“—Судьбы русского языка в костелах Северо-Западного Края (Русский Вестник, 1868 г., т. 57), дзе выказваецца думка, што ўсе працы Скарыны былі зроблены для каталікоў паводле жаданьня Жыгімонта Першага.

[6]) Науковый сборник, издаваемый литературным обществом Галицко-Русской Матицы Вып. I. Львов, 1865 г., стар. 230.

[7]) Очерк Истории Западно-Русской церкви. Часть I. СПБ, 1882 г., стар. 217.

Далей апавядаецца аб тым, што Лютар, прышоўшы да хаты, успомніў перасьцярогу сваіх прыяцеляў аб тым, што яму трэба ўнікаць нейкага доктара, Францішка-паляка. Баючыся подступаў д'ябла, Лютар, у досьвіткі, уцёк у Тарговію, загадаўшы свайму прыслужніку ня прымаць Францішка-паляка. Даведаўшыся ў Тарговіі аб тым, што прыслужнік ня выканаў гэтага загаду, Лютар жорстка пакараў яго (acerrime increpuisse servum), а сам зьвярнуўся да Вітэнбэрскага магістрату з просьбай аддаць Францішка-паляка суду. Але той шчасьліва зьбег кары: магістрат параіў яму толькі пакінуць хутчэй Вітэнбэрг.

Перадаўшы гэтае апавяданьне, Kopitar робіць здогадку, што, быць можа невядомы Францішак-паляк і ёсьць наш дзеяч, Францішак Скарына [1]).

Аб прыналежнасьці Францішка Скарыны да вунітаў нязвычайна асьцярожнае прыпушчэньне, паколькі нам вядома, выказаў толькі адзін Dobrowsky ў прыведзеных вышэй словах. (Scorina, wahrscheinlich, ein Romisch-Katolischer oder doch wenigstens von der unirten Farthey).

Урэшце, думку аб прыналежнасьці беларускага дзеяча да праваслаўнае царквы, папершае, узгрунтоўвае Віктараў. Гэты дасьледчык зазначае, што выданьні Скарыны, асабліва віленскія, дапасаваны якраз да набажэнства ў праваслаўнай, а не ў каталіцкай царкве. „Гэтак,— кажа Віктараў,—„Апостал“ Скарыны зусім дапасаваны да набажэнства не каталіцкае, а якраз праваслаўнае царквы, і мае той самы выгляд і склад, які бачым у звычайных славяна-рускіх рукапісных і друкаваных „апосталах“, а паіменна: апроч падзелу на разьдзелы, паводле звычаю праваслаўнае царквы, ён падзелены на царкоўныя пачаткі і ў канцы мае саборнік, альбо каляндар, у якім чытаюцца імёны рускіх і славянскіх сьвятых (Савы Сэрбскага, вялікага князя Уладзімера, Барыса і Глеба і іншых) і паказаньні на дзенныя і сьвяточныя эвангельлі, апосталы, антыфоны і іншыя царкоўныя песьні... Таксама зусім праваслаўны характар мае „Псалтыр“, з парадкам царкоўнага набажэнства, які выдаў Скарына... У гэтым „Псалтыру“ чытаюцца літаральна тыя самыя парадкі царкоўнага набажэнства і малітвы, якія чытаюцца ў царкве і цяпер, ці якія дасюль сустракаюцца ў славянскіх рукапісных і, часткай, у друкаваных псалтырах, часасловах, каноніках і да т. п. У склад памянёнага „Псалтыру“ ўваходзіць таксама і кароткі каляндар з паказаньнем некаторых рускіх і славянскіх сьвятых“ [2]).

Прывёўшы гэтыя меркаваньні, Віктараў робіць вывад, што Францішак Скарына быў веры праваслаўнай. „Наўспрэч пагляду, які існуе аб асобе Скарыны, і ня гледзячы на лацінскае імя яго Францішак,— кажа Віктараў,—мы, спадзяемся, маем права зрабіць вывад, што гэты выдатны дзеяч у галіне стара-рускае літаратуры належаў да праваслаўнае царквы, прынамсі—у сваёй выдавецкай дзейнасьці дбаў не аб пашырэньні сярод сваіх землякоў каталіцтва ці лютаранства, але аб умацаваньні ў іх праваслаўя. З гэтае прычыны нам здаецца, што натуральна бачыць у васобе Скарыны папярэдніка не апаведнікаў у Расіі каталіцтва ці рэформацыі, а хутчэй—папярэдніка князёў Астроскіх, братоў Мамонічаў, князя Курбскага і іншых дзеячоў, якія змагаліся ў XVI сталецьці ў Заходняй Расіі за праваслаўе супроць высілкаў рэформацыі і рымскае пропаганды“ [3]). Гэтую думку аб прыналежнасьці

---

[1]) Hesychii Glossographi discipulus. Vindobonae, 1840, стар. 33-34. De Facultatis Pragenae Medicinae Doctore Francisco Skorina Lithuano, Doctoris Martini Lutheri insidiatore, questio historica.

[2]) Беседы в Обществе Любителей Российской Словесности. Москва, 1867, Вып. I, стр. 19-20.

[3]) Ibidem.

Францішка Скарыны да праваслаўнае царквы падзяляюць і ўсе пазьнейшыя выдатныя дасьледчыкі пытаньня: Уладзімераў [1]), Карскі [2]), Янчук [3]), Архангельскі [4]), і іншыя. Думаецца і нам, што гэтае палажэньне, якое давёў Віктараў, зьяўляецца найбольш правільным. Запраўды, склад кніжок, выдадзеных Францішкам Скарынай, ня мае ў сабе нічога каталіцкага альбо протэстанцкага. Наадварот, мы знайшлі тут беспасрэднае зазначэньне прыналежнасьці да праваслаўнай царквы. Напрыклад, у Малой Падарожнай Кніжыцы адна з частак мае такі загаловак: „Шестодневець кратъкии на всу неделю поченши о(т) суботы, по обычаю всех восточныхъ церквий“ [5]).

Гэткім чынам, довады аб прыналежнасьці Скарыны да праваслаўнай веры грунтуюцца на самых выданьнях, у той час як усе іншыя довады ёсьць укосныя здогадкі і домыслы, якія ня маюць пад сабой цьвёрдае падставы.

Гэтыя здогадкі ня вытрымліваюць крытыкі. Так, што да імя Скарыны, Францішак, то вядомы досыць пашыраны ў беларусаў у старадаўнія часы звычай—мець падвойныя імёны,—і беларускі дзеяч, апроч імя Францішак, меў яшчэ і другое, чыста праваслаўнае імя, Юры. Адносна прыняцьця ім імя Францішак выказваліся розныя прыпушчэньні. Гэтае імя разглядалася, як спосаб прыкрыцьця ад чараў [6]). Выказвалася яшчэ думка, што прыняцьце гэтага імя Скарынай быў дыплёматычны крок з яго боку з мэтай адчыніць сабе дзьверы Кракаўскага Унівэрсытэту. „У Кракаўскім Унівэрсытэце, які знаходзіўся пад апекай рымскае курыі,—кажа Пятрушэвіч,—не дапушчаліся да наведваньня унівэрсытэцкіх навук асобы чужое веры, асабліва-ж схізматыкі, якіх стаўлялі нароўне з паганцамі. З гэтае прычыны рускаму, і пры гэтым схізматыку, які хацеў быць кандыдатам унівэрсытэцкага курсу ў Кракаве, нічога не заставалася рабіць, як толькі, хаваючы сваё прозьвішча, узяць сабе ў заходніх каталікоў імя Францішка. Такім чынам, была магчымасьць для Скарыны, хаваючыся пад маскай, праслухаць курс у Кракаўскім Унівэрсытэце“ [7]). Урэшце вышэйпамянёны Віктараў асьцярожна выказваецца так: „Гэтае імя Францішак дае, між іншым, магчымасьць прыпусьціць, што Скарыну запраўды маглі ахрысьціць паводле лацінскага абраду, але потым ён мог перайсьці ў праваслаўе“ [8]).

Прыведзеныя меркаваньні разбураюць два галоўныя довады аб прыналежнасьці Францішка Скарыны да каталіцкае веры. Думка Галавацкага аб прыналежнасьці Скарыны да протэстантызму можа быць адхілена ўжо адным тым, што выданьні Скарыны відавочна сьведчаць аб ушанаваньні сьвятых, што супярэчыць протэстанцкай догматыцы. Няма ў гэтых выданьнях ніякіх сьлядоў і вуніцтва: наадварот, сымболь веры прыводзіцца ў часаслоўцы Скарыны без filioque.

Беларус па нацыянальнасьці, досыць заможны чалавек, што да соцыяльнага свайго стану, і праваслаўны па веры, наш дзеяч атрымаў надзвычайна шырокую на той час адукацыю. Гісторыя гэтае адукацыі ўяўляе сабой самыя бліскучыя старонкі ў біографіі Францішка Ска-

---

1) Op. cit., 172.

2) Белоруссы, т. II, вып. 2. стар. 25.

3) Op. cit.

4) Образование и литература в Московском государстве конца XV и XVI столетий. Казань, 1898, стар. 343.

5) Паасобнік Публічнай Бібліотэкі.—I. 5. 8а/2.

6) Календарь Крестный 1873 г., стар. 47, дзе чытаем: „а прозван был он (Скарына) неправославным имевем Франциск, вероятно, восприемниками и родителями для прикрытия истинного крестного имени от всяких чаролейских наговоров“.

7) „Слово“, 1875 г., частка 130. Аўторак, 25 лістапада. стар. 2.

8) Op. cit., стар. 20.

рыны: яна адчыняе нам надзвычайную прагавітасьць розуму Скарыны да навукі, бязупыннае імкненьне яго да сьвятла веды.

Першую элемэнтарную асьвету Францішак Скарына, мабыць, атрымаў у сябе на радзіме.

Гандлёвая кляса гарадзкіх жыхароў, да якой належаў Скарына, была для свайго часу досыць асьвечанай. Інтарэсы гандлю і самае кіраўніцтва, паводле Майдэборскага права, вымагалі ня толькі звычайнае пісьменнасьці, але больш-менш сыстэматычнае асьветы. У нас засноўваюцца царкоўныя прыходзкія школы. Характар навучаньня ў гэтых школах быў пераважна царкоўны. Харлампові̇ч, адносна праграм нашых школ у XVI сталецьці, прыводзіць пасьведчаньне Одэрборна, які гавора, што „ў царкоўных школах вучаць славянскаму пісьму, малітвам да прачыстае і да сьвятога Міколы, некалькі зьмененаму апостальскаму сымболю (Нікэо-Цараградзкаму) і псальмам Давіда“ [1]). У васнову навучаньня ў прыходзкіх школах, такім чынам, была пакладзена царкоўна-славянская пісьменнасьць. Той факт, што Францішак Скарына ў сваіх выданьнях карыстае з царкоўна-славянскіх тэкстаў і прызначае свой псалтыр для школьных мэт „детем малым“, як „початок всякое доброе науки, грамоты, еже добре чести и мовити учить“, дазваляе нам думаць, што пачаткі асьветы наш дзеяч атрымаў у сябе— у Полацку.

Другая ступень гэтае асьветы—гэта Кракаўскі Унівэрсытэт. Некаторыя дасьледчыкі (Галавацкі [2]), Чыстовіч [3]), аўтар артыкулу ў „Крестном календаре“ [4]), і інш.) памылкова ўказваюць, што нібы Францішак Скарына вучыўся ў Праскім Унівэрсытэце. Першы Вішнеўскі зазначыў Кракаў як месца, дзе беларускі дзеяч атрымаў сваю асьвету: „Nauki odbywał w Akademii Krakowskiej“ [5]),—але, на вялікі жаль, Вішнеўскі ня прыводзіць аніякіх докумэнтальных вестак, каб пацьвердзіць сваю думку. Такія весткі зьмяшчае Muczkowski ў кнізе „Statuta nec non liber promotionum Philosophorum ordinis in universitate studiorum Jagellonica“ (Cracoviae, 1849), дзе на старонцы 44 мы чытаем: Anno eodem (1506) sub decanatu... Mg-ri Leonardi etc., ad Quattuor tempora sancta Lucie, ad gradum baccalariatus promoti hunc ordinem locorum sortiti sunt: Franc. de Poloczko, Litphanus... (У тым-жа (1506) годзе ў часы дэканства магістра Леонарда і інш., а чацьвертай гадзіне ў дзень сьв. Люцыі, узьведзены ў стан бакаляўраў і атрымалі гэтую годнасьць: Франц(ішак) з Полацку, Літвін...).

Першы гэтую вестку выкарыстаў Пятрушэвіч. „На маё разуменьне, кажа ён, Францішак з Полацку, літвін, ёсьць ніхто іншы, як толькі наш Скарына, які затаіў сваё прозьвішча і імя, што атрымаў у часе хрэсту“ [6]). На гэтыя-ж весткі пасылаецца і профэсар Уладзімераў з дадаткам на падставе вестак, атрыманых з рукапісаў Кракаўскага Унівэрсытэту, што тая-ж самая асоба, пад імем Franciscus Luce de Poloczko значыцца, як студэнт, які паступіў у Кракаўскі Унівэрсытэт у 1504 годзе [7]). Уладзімераў, прывёўшы гэтыя весткі, дадае ад сябе:

[1]) Западно-русские православные школы XVI и начала XVII в. Казань. 1898, стар. 203.

[2]) Op. cit., стар. 230.

[3]) Op. cit., стар. 217.

[4]) Op. cit., стар. 47.

[5]) Op. cit., стар. 456.

[6]) „Слово“ 1875 г. Частка 130. Аўторак. 25 лістапада. стар. 1.

[7]) Op. cit., стар. 51, 52.

„Вестка гэтая яшчэ лепш можа спраўдзіцца, калі ў актах Заходняе Расіі знойдуць імя бацькі Францішка Скарыны, якое, паводле паказанае весткі, павінна быць Лука“.

Калі ня ў актах „Заходняе Расіі“, то затое ў актах Падуанскага Унівэрсытэту, якія прыведзены Шляпкіным і былі яшчэ невядомы Уладзімераву, выразна зазначана імя бацькі беларускага дзеяча. (Dominus Franciscus quondam D. Lucae Scorina de Poloczko Ruthenus).

Гэткім чынам, асьцярожнасьць Уладзімерава адпадае сама сабой: мы можам больш катэгорычна зазначыць, што беларускі дзеяч у 1504 г. паступіў у Кракаўскі Унівэрсытэт, як студэнт, і праз два гады, у 1506 годзе, атрымаў там ступень бакаляўры.

У Кракаўскім Унівэрсытэце панаваў у той час тэолёгічны кірунак, бо ўся ўстанова знаходзілася ў руках каталіцкіх духоўнікаў. Сярэднявечная схолястыка панавала тут на ўсіх факультэтах, не выключаючы, нават, і мэдычнага. Мэдык у першую чаргу павінен быў выконваць рэлігійныя запатрабаваньні: у унівэрсытэце ён мусіў вызначацца пабожнасьцю, а ў сваёй доктарскай практыцы, пасьля выхаду з унівэрсытэту,—клапаціцца больш аб паратунку душы, чымся цела хворага. Падобны нагляд на дактароў мы знаходзім і ў Францішка Скарыны, які ў прадмове да кніжкі „Судей“ кажа: „внегда каемся греховъ своихъ, то посылаеть нам гдь бог Пастыреи и Докторовъ“ [1]). На філёзофскім факультэце ў аснову вывучэньня пакладзены былі сярэднявечныя septem artes liberales—сем вольных навук, якія Скарына раіць у сваёй прадмове да „Біблії“ і беларускім сваім чытачом.

Выходзячы з таго факту, што мэдычны факультэт у Кракаве ў пачатку XVI сталецьця знаходзіўся ў заняпадзе, і што толькі ў 1526 г. там адзін мэдык атрымаў ступень доктара, Уладзімераў робіць прыпушчэньне, што Францішак Скарына ступень „доктара в лекарстве“ павінен быў атрымаць заграніцай [2]). Гэтае прыпушчэньне бліскуча і пацьвердзілася. Windakiewicz, надрукаваўшы ў 1892 годзе вышэйпамянёныя „Materyały do historyi polaków w Padwie“ першы даў кароткі выпіс з актаў Падуанскага Унівэрсытэту аб тым, што ў 1512 г. Францішак Скарына атрымаў у Падуі ступень доктара лекарскіх навук. Ідучы па гарачых сьлядох Віндакевіча, у тым-жа 1892 годзе профэсар Шляпкін апублікаваў самыя акты Падуанскага Унівэрсытэту, якія маюць адносіны да беларускага дзеяча. Акты гэтыя ўяўляюць для нас надзвычайную каштоўнасьць. Яны сьведчаць аб наступным.

Пятага лістапада 1512 году ў Падуі ў царкве сьв. Урбана сабраліся прадстаўнікі мэдычнае калегіі унівэрсытэту: віцэ-прыор Мусаці зьвярнуўся да іх з прамовай, у якой вытлумачыў прычыну сходу: Excelentissimi domini doctores! Causa convocationis excellentiarum vestrarum est ista: est quidam doctissimus juvenis artium doctor pauper, qui a longinquissimis partibus forsan per quattuor milia miliaria et ultra ab hac praeclara civitate pro augmentando famam et honorem illius hujusque florentissimi gymnasii et sacri collegii nostri ad illam se contulit et vellet sibi concedi de dono et de gratia speciali ac amore Dei per hoc sacrum collegium in medicinis. (Шаноўныя панове дактары! Прычына скліканьня Вашага Шаноўства наступная: ёсьць нейкі вучонейшы юнак, доктар навук, бядняк, які з надзвычайна далёкіх краін, быць можа, за тысячы з лішнім вёрст ад гэтага славутнага места дзеля павялічэньня славы і чэсьці яго, а таксама гэтай слаўнай гімназіі і сьвятой калегіі нашай

[1]) Владимиров. op. cit., стар. 55.
[2]) Ibidem, стар. 56.

прыбыў сюды і жадаў-бы ад гэтай сьвятой калегіі атрымаць ступень доктара мэдыцыны дарма, па спэцыяльнай міласьці і з ласкі божай).

Далей гэты юнак у прамове празываецца: „dominus Franciscus quondam D. Lucae Scorina de Poloczko Ruthenus".

Пасьля прамовы віцэ-прыора ўвайшоў сам Скарына і асабіста прасіў сяброў калегіі, каб яму дазволілі дарма трымаць экзамен на ступень доктара мэдыцыны: Quibus sic peractis fuit introductus dictus magister Franciscus et petivit humiliter ac reverenter sibi concedi gratis in medicinis amore Dei. (Пасьля гэтага быў уведзены памянёны магістар Францішак і пакорна, з пашанай прасіў дапушчэньня да экзамену дарма з ласкі божай).

Пытаньне было абгаворана і потым зроблена было галасаваньне: дадатныя галасы падаваліся ў чырвоную вазу, а адмоўныя—у зялёную. Справа была разьвязана на карысьць Скарыны: ён быў дапушчаны да экзамену. Папярэднія выпыты адбыліся на другі дзень, у суботу, а 5-й гадзіне ў вечары, а другі спэцыяльны экзамен меў месца ў аўторак 9-га лістапада ў палацы біскупа, на ўрачыстым пасяджэньні мэдычнай калегіі ў прысутнасьці біскупа вікарыя Зарабелы. Скарына вытрымаў экзамен бліскуча. (Franciscus quondam domini Lucae Scorina de Poloczko Ruthenus fuit examinatus privatim et rigorose supra punctis hoc mane assignatis qui ita laudabiter et elegantissime se habuit in hoc rigoroso examine in recitando dicta puncta et argumentis contra se factis optime respondendo, qui ab omnibus doctoribus ibi existentibus nemine penitus dissentiende fuit approbatus ac sufficientiens (sic) in medicinis judicatus et supra scriptum reverentissimum dominum doctorem doctor in medicinis pronunciatus in forma solita [1]).

Акты Падуанскага Унівэрсытэту, гэткім чынам, падкрэсьліваюць, што экзамен быў надзвычайна строгі: Скарыне прышлося публічна бараніць свае палажэньні і адказваць на ўсе абвяржэньні. Славутны палачанін з вялікім посьпехам вытрымаў гэтыя выпыты і аднагалосна быў прызнаны вартым ступені доктара. Доктар Барталямэй Барызон урачыста ўсклаў на яго надворныя знакі доктарскага стану.

Што ўяўляў сабой у гэныя часы Падуанскі Унівэрсытэт? Гэтае пытаньне здаецца нам асабліва паважным; разьвязаньне яго можа да некаторае ступені выявіць нам і ўнутраную постаць выдатнага беларускага дзеяча.

Падуанскі Унівэрсытэт належыць да старэйшых унівэрсытэтаў у Італіі. Заснаваны ён быў у канцы XIII ст. [2]). Асаблівай бліскучасьці і славы унівэрсытэт дасягнуў у XV сталецьці, дзякуючы падтрыманьню з боку Вэнэцыйскай рэспублікі [3]).

Характэрнай адзнакай Падуанскага Унівэрсытэту зьяўлялася шырыня навуковага дыяпазону. У той час як, напрыклад, у Салерно пераважна разьвіналася мэдыцына, а ў Болёньні права, у Падуі высака стаялі ўсе галоўныя навукі таго часу: мэдыцына, права, тэолёгія, філёзофія, але пры агульным разьвіцьці ўсіх навук асабліва бліскучае ступені дасяглі навукі рэальныя. З гэтае прычыны Fiorentino кажа: „Вывучэньне прыроды і вывучэньне духу на зары нашага рэнэсансу было зьвязана неразрыўнымі вузамі, як і павінна быць заўжды для лепшых

[1]) Op. cit.. стар. 382-383.

[2]) Papadapoli. Historya gymnasii Patavini. Venetis, 1726. стар. 2.

[3]) Ibid.. стар. 5-7; разьдз.: De splendore et felicitate gymnasii sub immortali Republica Veneta.

і карысьнейшых посьпехаў навукі"[1]). Навукі гуманітарныя былі такім чынам блізка зьвязаны з навукамі прыродазнаўчымі. „Натуральная філёзофія была ў гэты час у тым вялікшым гонары і тым болей вывучалася, што яна зьвязвалася з вывучэньнем мэдыцыны, з прычыны чаго цяжка было знайсьці доктара вольных навук, які ня быў-бы таксама доктарам мэдыцыны" [2]).

Зусім зразумела, што ў Падую імкнуліся такія выдатныя людзі як Копэрнік, які знаходзіўся там у унівэрсытэце з 1501 па 1506 год, крыху раней за беларускага дзеяча [3]). Надзвычайна характэрна, што Францішак Скарына з усіх унівэрсытэтаў Італіі абірае Падуанскі, які найбольш вызначаўся сваім рэльна-навуковым кірункам. Відаць, мёртвая схолястыка, якая панавала ў Кракаўскім Унівэрсытэце, ня зусім задаволіла яго; славутны палачанін імкнуўся да запраўднага сьвятла навукі.

Але давялося прыехаць яму ў Падую ў надзвычайна бурны час, мала спагадны для навуковых заняткаў у унівэрсытэце. Гострая барацьба з суседнімі рэспублікамі патрабавала ад Вэнэцыйскай дзяржавы, у склад якой уваходзіла Падуя, вялікага напружаньня вайсковых, а значыцца, і фінансавых сіл. Гэтым тлумачыцца дэкрэт ад 27 чэрвеня 1506 году, паводле якога колькасьць катэдраў у Падуі была зьменшана на 10 проц. Мала таго: далейшы ход барацьбы прывёў да таго, што заняткі ў унівэрсытэце зусім былі спынены на досыць доўгі час. Favaro сьведчыць: у 1509 годзе, калі выбухнула вайна, як вынік саюзу, задуманага супроць Рэспублікі ў Камбрэ, былі спынены заняткі, і ад гэтага ўсе катэдры замоўклі аж да 1517 году [4]). Да гэтага ў сваёй увазе пад радкамі Favaro дадае яшчэ: „аб гэтым спыненьні заняткаў цьвердзяць усе гісторыкі, але здаецца, што некаторыя профэсары і далей вялі паасобку сваё выкладаньне і што калегія зьбіралася запраўды ў кожны з гадоў, якія ўваходзяць у пэрыод спыненьня заняткаў, прычым адбываліся ўзьвядзеньні ў доктарскую ступень [5]).

Францішак Скарына атрымаў ступень доктара ў Падуі, як мы бачылі, у 1512 годзе, значыцца, якраз у той час, калі заняткі ў Падуанскім Унівэрсытэце былі спынены. Вось чаму, думаецца нам, няма імя беларускага дзеяча ў сьпісах студэнтаў Падуанскага Унівэрсытэту, а толькі знаходзім мы яго ў сьпісах ляўрэатаў унівэрсытэту. Ня выключана магчымасьць, што беларускі дзеяч прыехаў у Падую нават з мэтай ня толькі атрымаць там навуковую ступень, але і з мэтай удасканаліцца ў навуках; магчыма, што нават ён і слухаў лекцыі ў некаторых профэсароў, але ня мог лічыцца ў сьпісах унівэрсытэту, па-

---

[1]) Pietro Pomponazzi. Studi storici su la scuola bolognese e padovana del secolo XVI. стар. 10.

Італьянскі тэкст: Lo studio della natura e dello spirito sul alba della nostra rinaszenza era legato con nodi irresolubili come dovrebbe esser sempre per riuscire piu dilettevole e piu proficuo.

[2]) Favaro. Lo studio di Padova al tempo di Niccolo Copernico. Ven., 1880, стар. 45. Італьянскі тэкст: La filosofia naturale era a que tempi piu in credito e piu studiata perchè si congiungeva con gli studii di medicina tanto che difficilmente si trovava un dottore in arti che non fosse eziando dottore in medicina.

[3]) Ibid., 45.

[4]) Ibid., стар. 44-45.

Італьянскі тэкст: Nel 1509 scoppiata la guerra, consequenza della lega ordita contro la Republica a Cambrai, fu chiuso lo studio e ne tacquero tutte le catedro fino all anno 1517.

[5]) Questo (la chiusura dello studio) asseriscono per verità tutti gli storici dello studio; pare tuttavia que alcuni professori abbiano proseguito isolatamente nei loro insegnamenti e che i Collegi radunassero ugualmente: infatti in ognuno degli anni compresi nel periodo di chiusura si hanno lauree.

колькі афіцыяльныя заняткі ў ім не адбываліся на працягу часу з 1509 да 1517 году.

Падкрэсьліваем, што гэта толькі нашы прыпушчэньні, але прыпушчэньні, якія маюць некаторую верагоднасьць на падставе вышэйпамянёных вестак з гісторыі Падуанскага Унівэрсытэту. Бясспрэчным застаецца толькі адзін факт—факт атрыманьня славутным беларусам навуковае ступені доктара мэдыцыны ў Падуанскім Унівэрсытэце.

Ступень доктара была вышэйшая ад усіх акадэмічных ступеняй. Папярэднімі былі ступені бакаляўры і ліцэнцыятага. Нельга з пэўнасьцю зазначыць эпоху, калі вынікнуў гэты звычай доктарату. Вучоныя, па словах Coppi, зрабілі многа досьледаў у гэтым кірунку, але ня здолелі давесьці паходжэньне гэтае ступені і час яе першага дапасаваньня [1]).

Дактары падзяляліся на розныя спэцыяльнасьці. Мікола Боэры, ідучы сьледам за агульным паглядам, на першым месцы ставіць тэолёгаў, на другім—праўнікаў, на трэцім—мэдыкаў і на чацьвертым—філёзофаў і профэсароў мастацтва [2]).

Кандыдат на доктарскую ступень павінен быў здавальняць пэўным патрабаваньням. Ён павінен быў мець век ня менш 17-ці год, быць лепшым па сваёй абычайнасьці, вытрымаць экзамен і атрымаць надворныя знакі ступені (le insegne del grado), мець шэсьць дактароў на экзамене, якія пасьведчылі-б законнае паходжэньне і тоесамасьць асобы.

Кандыдат, які хацеў трымаць экзамен на навуковую ступень, павінен быў давесьці, што ён быў слухачом унівэрсытэту ў працягу ліку гадоў, які азначаўся ў мясцовых статутах. У Падуі, напрыклад, кандыдат, каб атрымаць доктарскую ступень цывілістага, павінен быў займацца вывучэньнем рымскага права ў працягу шасьці год. Тры альбо чатыры гады заняткаў правам канонічным лічыліся за два альбо тры гады заняткаў правам рымскім.

Цэрэмонія ўзьвядзеньня ў ступень доктара была вельмі ўрачыстая. У прызначаны дзень кандыдат накіроўваўся ў вялікшую царкву гораду, куды прыносіліся ўсе выбарчыя знакі, і дзе чакалі яго біскуп, рэктар, дактары і прадстаўнікі гарадзкога самакіраўніцтва. Выпыты адбываліся публічна ў урачыстай абстаноўцы. Доктарская ступень давала шмат пераваг. Дактары насілі асобную тогу, аздобленую золатам, мелі права быць прысутнымі на сходах ураду і прымаць удзел у кіраваньні. Апроч таго, яны не маглі быць пасаджаны ў астрог за грамадзянскія даўгі, падлягалі асобнаму суду і г. д.

Доктарская ступень, такім чынам, дасталася Скарыне з значным напружаньнем сіл і давала яму вялікія перавагі. Гэтым, можа, тлумачыцца той факт, што беларускі дзеяч, кажучы аб сабе, амаль што кожны раз дадае і сваю навуковую годнасьць: „Францишекъ Скорина в лекарскихъ наукахъ докторъ"—так звычайна азначае сваю асобу наш дзеяч. У гэтым азначэньні ім як-бы выяўляецца запраўднае ўсьведамленьне свае вартасьці.

Пэрыод з 1512 па 1517 год зьяўляецца надзвычайна цёмным у жыцьці Францішка Скарыны. Мы ня ведаем, дзе ён жыў і што рабіў у гэты час.

У 1517 годзе Францішак Скарына пачынае сваю друкарскую дзейнасьць ў Празе Чэскай. Некаторыя дасьледчыкі (Штрытэр, Шлецэр, Грэч, мітр. Аўген) выказвалі думку, што пад Прагай тут трэба разу-

[1]) Op. cit., 188.
[2]) Ibid., 197.

мецъ Прагу Варшаўскую. Дабраўскі першы выступіў з абвяржэньнем гэтае думкі: ён справядліва адзначыў, што Скарына ня мог празываць Прагу Варшаўскую, невялічкае ў XVI сталецьці мястэчка, „слаўным, вялікім і старым местам“. Гэтыя эпітэты ў той час маглі быць дапасаваны толькі да Прагі Чэскай. Чыннасьць беларускага дзеяча ў памянёным горадзе цягнулася прыблізна два гады: мы маем кніжкі, якія надрукаваны ў Празе і датаваны 1517 і 1519 гадамі. У 1525 годзе мы знаходзім Скарыну ў Вільні, дзе ён выдаў у гэты час „Апостал“.

Пасьля 1525 году пачынаецца асабліва цёмны і заблытаны пэрыод у жыцьці Скарыны. Дакладных вестак аб гэтым пэрыодзе ў нас няма. Ведама толькі, што брат Скарыны меў судовую справу з-за доўгу ў 22 капы грошай; Скарына меў з сваім братам непадзельную маемасьць; з гэтае прычыны заблытаныя справы Івана Скарыны адбіліся і на палажэньні нашага дзеяча. Апроч таго, і сам Францішак Скарына ўцягнуўся ў судовыя спрэчкі з раднёй жонкі з-за маемасьці ў Вільні. Судзьдзі, відаць, ня мала няпрыемнасьцяй зрабілі славутнаму дзеячу. Ён зварачаецца з скаргай на ўціск судзьдзяў да самога караля. Асобнай граматай, выдадзенай у 1532 годзе, кароль звольніў Скарыну ад судовае цяганіны. У гэтай грамаце, паміж іншым, успамінаецца аб тым, што ўся маемасьць Скарыны была сконфіскавана за даўгі, што ён прыцягваўся да выкананьня розных абавязкаў і пацярпеў шмат няпрыемнасьцяй ад уціску судзьдзяў і судовае цяганіны [1]).

30-я гады XVI сталецьця, можна сказаць, самы цёмны пэрыод у жыцьці Францішка Скарыны. Некаторае сьвятло ў гэтую цемру праліваюць дакумэнты Кёнігсбэрскага архіву, апублікаваныя Мілавідавым [2]). Гэтыя дакумэнты ў лацінскай мове належаць першаму каралю прускаму Альбрэхту і маюць блізкае дачыненьне да нашага дзеяча.

Першы дакумэнт, датаваны 16 мая 1530 году, уяўляе сабой пасланьне караля да віленскага ваяводы Гаштольда; у ім Альбрэхт паведамляе, што Скарына перасяліўся ў Кёнігсбэрг (commigravit nostrae ditioni), але-ж што розныя прыватныя справы, жонка і дзеці, пакінутыя ў Вільні, прымушаюць яго зноў вярнуцца сюды. З гэтае прычыны кароль просіць ваяводу дапамагчы Скарыне ў яго справах [3]).

Другі дакумэнт, які мае тую-ж дату (16 мая 1530 году) ёсьць прапускны ліст, альбо пашпарт для бесьперашкоднага праезду Скарыны: Atque in hac sua peregrinatione tuto secure, libere et sine omni impedimento per terras, ditiones, districtus ac dominia vestra peragrare atque iter facere concedatis. (Каб было дазволена яму час падарожы яго зусім без апаскі, свабодна і бесьперашкодна праяжджаць і рабіць свой шлях праз землі, акругі, паветы і гаспадарствы вашы).

Трэці дакумэнт — ліст караля Альбрэхта ад 18 мая 1530 году да Віленскага Сэнату. Кароль, адпускаючы Скарыну назад у Вільню па сямейных абставінах, просіць Сэнат быць справядлівым у адносінах да яго і зьвярнуць яму сконфіскаваную ў яго маемасьць: Et si quid ipso absente illi bonorum injuria aliquia ademptum benigne restituatur atque ipsum ejusque uxorem, liberos et cum corporis, tam caetera bona tueri, jure ac ab omni injuria vindicare. (І калі што-небудзь у яго адсутнасьць, па якой-небудзь несправядлівасьці было аднята ў яго, хай будзе яму зьвернута, і каб ён сам, жонка, дзеці, маемасьць яго былі дагледжаны і па праву абаронены ад усялякай несправядлівасьці).

---

[1]) Владимиров. op. cit., стар. 66 і 67.
[2]) Известия Отд. Р. Яз. и Слов. Р. Ак. Н. 1917, кн. 2. 221—226.
[3]) Да рэчы сказаць, Мілавідаў, зазначаючы, што ў першым дакумэнце кароль просіць аб водпуску Скарыны, няправільна перадае сэнс лісту: відаць, ён мала ўчытаўся ў дакумэнт-

У чацьвертым докумэнце ад 26 мая таго-ж году кароль Альбрэхт ужо выступае ня ў ролі абаронцы Скарыны, а ў ролі яго абвінавайцы; у гэтым докумэнце, адрасаваным да ваяводы Гаштольда, зьмяшчаецца скарга на Скарыну за тое, што ён таемна ўвёў з сабой з Кёнігсбэргу аднаго яўрэя, які быў пры двары доктарам і адначасна друкаром, і што гэтым Скарына зрабіў вялікую шкоду каралю. Надзвычайна цікава, што ў гэтым докумэнце значна зьмяняюцца адносіны Альбрэхта да беларускага дзеяча. У першых трох докумэнтах да Скарыны дапасоўваюцца самыя пахвальныя эпітэты; ён адзначаецца, як выдатны, вельмі вучоны доктар прыгожых мастацтваў і мэдыцыны: „Nos egregium et multijugiae eruditionis virum, Franciscum Scorinam de Polotzko, Arcium bonarum atque medicinae Doctorem in subditorum et servitorum nostrorum fidelium numerum adscivisse et suscepisse“ (Выдатнага і многавучонага мужа, Францішка Скарыну з Полацка, доктара прыгожых мастацтваў і мэдыцыны, мы прынялі ў лік нашых падданых і верных нашых слуг[1]). Наадварот, у чацьвертым докумэнце, які зьмяшчае ў сабе скаргу на беларускага дзеяча, ён празываецца проста: „doctor aliquis Franciscus Scorina“—тут ужо замест ўсхваленьня заўважваецца водцень пагарды і зьнявагі; Скарына пераварачаецца з выдатнага вучонага Скарыны ў „нейкага“ доктара.

Прыведзеныя Мілавідавым докумэнты надзвычайна характэрны. Яны праліваюць сьвятло на самы цёмны пэрыод у жыцьці Скарыны, сьведчаць аб яго зносінах з Заходняй Эўропай, аб протэктарстве яму з боку пruскага караля і інш. Асабліва цікавым зьяўляецца факт патаемнага ўводу Скарынай друкара з Кёнігсбэргу; вынікае пытаньне, чаму нашаму дзеячу патрэбны быў гэты друкар. Можна прыпусьціць, што Скарына прадоўжваў альбо меў замер прадоўжыць сваю выдавецкую чыннасьць і пасьля 1525 году, г. ё. пасьля выданьня ім у Вільні „Апостала“.

Год выхаду ў сьвет „Малое Падарожнае Кніжыцы“ дакладна не ўстаноўлены. У вядомых нам паасобніках гэтага выданьня не хапае апошняе часткі пасхаліі, у канцы якой, бясспрэчна, азначаны быў час выданьня. Уладзімераў прыпушчае, што ўсё-ж ткі „Апостал“ 1525 году зьявіўся раней за „Падарожную Кніжыцу“, паскольку ён уяўляў сабой працяг папярэдняе працы Скарыны па перакладзе біблії, а „Падарожная Кніжыца“ цалком была новай працай [2]).

Прымаючы пад увагу, што ў 1530 годзе як сьведчаць докумэнты, апублікаваныя Мілавідавым, Скарыне быў патрэбен друкар, можна дапусьціць асьцярожную дагадку, што гэтая патрэба выклікалася, магчыма, патрэбай надрукаваць „Малую Падарожную Кніжыцу“. Такім чынам, можна больш пэўна ўстанавіць дату выхаду ў сьвет гэтага выданьня.

Докумэнты, апублікаваныя Мілавідавым, зьяўляюцца адзінай крыніцай нашых скудных вестак аб жыцьці Францішка Скарыны ў другой чвэрці XVI сталецьця. Больш грунтоўных і паважных біографічных фактаў з гэтае пары ў нас няма. Нельга нават з дакладнасьцю ўстанавіць дату сьмерці беларускага дзеяча. Можна толькі да пэўнай ступені правільна сказаць, што ў 1535 годзе ён быў яшчэ жывы і знаходзіўся ў Вільні: прынамсі ў сувязі з справамі яго брата, якія разьбіраліся ў Полацку, успамінаецца і доктар Францішак Скарына, але мы ня маем ніякіх вестак аб сьмерці яго ў гэты час.

---

[1]) Ibidem, стар. 224.

[2]) Op. cit., 173.

Прыступаючы зараз да агляду літаратурнае дзейнасьці Францішка Скарыны, трэба, папершае, заўважыць, што адносна гэтага з часу выхаду працы Уладзімерава не зьявілася аніякіх новых матар'ялаў і досьледаў; у гэтых адносінах нават біографія пісьменьніка знаходзіцца ў лепшым становішчы: пры ўсёй беднасьці крыніц мы ўсе-ж ткі маем у гэтай галіне некаторыя новыя матар'ялы, апублікаваныя Шляпкіным, Мілавідавым і інш. Адносна-ж літаратурнае дзейнасьці Скарыны, з прычыны адсутнасьці новых крыніц, застаюцца ў сіле тыя палажэньні, якія выставіў Уладзімераў.

Ня маючы магчымасьці зрабіць самастойныя адшуканьні новага фактычнага матар'ялу адносна літаратурнае дзейнасьці Скарыны [1]), і ня лічачы патрэбным падрабязна пераказваць досьледы Уладзімерава, мы абмяжуемся тым толькі, што спачатку каротка прыпомнім галоўныя вывады, да якіх прышоў у гэтым пытаньні Уладзімераў, і потым спрабуем пад гэтыя вывады падвесьці цьвёрды соцыолёгічны і гісторыка-культурны базіс, якога няма ў зазначанага дасьледчыка.

Сваю літаратурную дзейнасьць Францішак Скарына распачаў у Празе Чэскай. Гэта было найбольш падыходнае месца для яго дзейнасьці. У родным Полацку зусім ня было тады спагадных для друкарскай працы ўмоў; у Кракаве друкаваньне царкоўна-славянскіх кніжок, з рэлігійных прычын, спынілася ў 1491 годзе, не пасьпеўшы там закрасаваць і даць значныя вынікі. Прага Чэская давала тым больш спагадныя ўмовы для друкарскай дзейнасьці, што тут моцна адчувалася сувязь з друкарамі нямецкіх гарадоў, асабліва Нюрэнбэргу і Аўгсбургу і з друкарамі Італіі, асабліва Вэнэцыі.

У Празе Чэскай Скарына разьвінуў энэргічную і напружаную дзейнасьць. Гэтая дзейнасьць ахапляе сабой пэрыод часу каля двох гадоў.

У 1517 годзе Скарына выдае кніжкі: Псалтыр, Іова, Прыповесьці, Сіраха; у 1518 годзе—Эклезіаст, Песьня песень, Прамудрасьць Саламона, Кнігі Царстваў, Ісуса Навіна; у 1519—Юдыта, Судзьдзяў, пяць кніжок Майсея, Руфь, Эстэр, Плач Ераміі, Прарока Данілы.

Гэткім чынам, у 1517 годзе выдадзена чатыры кніжкі ў 222 аркушы; у 1518 годзе—восем кніжок у 348 аркушоў; у 1519—дзесяць кніжок у 524 аркушы. Гэта значыць у першы год выдавалася ім каля 40 аркушоў у месяц, у другі год каля 30 і ў трэці—каля 43 [2]).

Удзел самога Скарыны ў выдавецкай справе зазначаецца ім розна. Мы знаходзім у вадных мясцох выразы: кніга выдадзена „повелѣніемъ Скарыны“, а ў другіх—„працею и выкладомъ“ Скарыны. Адносна кніжкі Эстэр наш дзеяч кажа ў яе пасьляслоўі „выложена працею и вытеснена повелѣніемъ Скорины“; у пасьляслоўях да сваіх першых трох выданьняў, гэта ёсьць,—да псалтыру, да кніжкі Іова і прыповесьцяй Саламона, Скарына кажа: „Казалъ есми тиснути“. Гэтыя выразы, пэўна, сьведчаць аб тым, што сам Скарына ня быў друкаром [3]);

---

[1]) Акад. Карскі ў вуснай гутарцы з намі ўказваў нам, што ў Варшаве ў Бібліотэцы Красінскіх знаходзіцца новы матар'ял—пераклад кнігі Товіт, які, з значнай ступеньню верагоднасьці, можна прыпісваць Скарыне, але мы з об'ектыўных умоў не маглі скарыстаць гэты цікавы матар'ял.

[2]) Владимиров, op. cit., стар. 66.

[3]) Акад. Карскі, будучы ўлетку 1924 году ў Празе, паведаміў нас, што ў архівах Праскага магістрату акадэмік Францаў наводзіў старанныя спраўкі аб друкарні Скарыны і ніякіх сьлядоў яе і рэгістрацыі Скарынавых выданьняў там ня знойдзена. Факт вельмі загадачны. Відаць, друкарня Скарыны і яго выданьні не рэгістраваліся афіцыяльна. Магчыма пабудаваць асьцярожныя прыпушчэньні, што выданьні Скарыны, як праваслаўныя, друкаваліся ў Празе, тагочасным цэнтры каталіцтва, нелегальна, патаемным шляхам. За прыведзеную вельмі цікавую спраўку прыношу акадэміку Карскаму сваю шчырую падзяку.

ён толькі даваў загады, кіраваў друкарскай працай. Відаць, у Празе ён пераважна аддаваўся літаратурнай дзейнасьці: займаўся перакладамі, укладаньнем прадмоў і інш.; відаць, ён цалком падрыхтоўваў рукапісны тэкст, з якога друкавалі; прынамсі ў друкаваных прадмовах заўжды захоўваюцца выразы яго рукапіснага тэксту (написаны, написал); магчыма прыпусьціць, што корэкту рабіў сам выдавец.

Надзвычайна важным зьяўляецца пытаньне аб крыніцах, якія пакладзены былі Скарынай у васнову яго выданьняў.

„Псалтыр" 1517 году, першая кніжка, якая была выдадзена ў Празе, складаецца з трох частак: „предъсловія въ псалтирь", тэкста псальмоў, якіх зьмешчана тут 151 (150 асноўных і адзін дадатковы) і 10 абраных песень. У васнову прадмовы да псалтыру пакладзена пакарочаная „бесѣда Василия Великаго на первую часть перваго псалма", але гэтая „бесѣда" значна пераапрацавана: з яе ўзяты агульныя думкі і некаторыя выразы, але запазычаны матар'ял дададзены і самастойным. У гэтых уласных дадатках мы, папершае, знаходзім паказаньні на тое, якое назначэньне даваў Скарына псалтыру; „детемъ малымъ початок всякое доброе науки"—гэтак выдаўца азначае карысьць псалтыру. Апроч таго, Скарына знаёміць нас і з спосабам свайго выданьня. Ён заўважвае: „положилъ есми на боцехъ некаторыи слова для людей простых руским языком што которое слово знаменуеть".

Разглядаючы псалтыр, як падручнік славянскае граматы і друкуючы яго ў славянскай мове, адначасна наш дзеяч, гэткім чынам, не забываецца на мэты перакладчыка: ён хоча наблізіць псалтыр, як і наагул усю біблію, да разуменьня простага люду. Побач з тлумачэньнямі незразумелых слявянскіх слоў „на боцехъ" Скарына ўнёс у свой „Псалтыр" і некаторы навукова-тлумачальны апарат. Паводле ўзору лацінскіх зборнікаў, гэтак званых Concordantiae Sacrorum scriptorum, ён дае ў сваім „Псалтыру" паказаньні на роўналежныя месцы ў іншых кніжках бібліі, зазначаючы „на староницахъ всей псалътыры главъ з розных книгъ. А то для того абы знакомито было иже все иные светые писма згожаються съ псалтырею и одно на другое светчить". Да гэтых указаньняў на роўналежныя месцы Скарына дадае яшчэ і падзел псальмоў на „стихи", які вызначаецца вялікімі пунктамі і адступленьнямі ад заключных слоў кожнага папярэдняга „стиха".

Ня цяжка заўважыць, што для свайго выданьня псалтыру Францішак Скарына карыстаў з славянскіх і чужаземных крыніц. Царкоўна-слявянскія крыніцы пакладзены ім у васнову самага тэксту, гэта—так званыя рускія сьпісы XV і XVI сталецьцяў. Іншыя крыніцы псалтыру „выныхъ языцехъ" скарыстаны часткай у адносінах тэксту, часткай у адносінах дадаткаў да яго. Так, хаця-ж пануе царкоўнаславянская стыхія, на тэксьце праскага „Псалтыру" 1517 году ў некаторых мясцох адбіваюцца асаблівасьці чэскага тэксту; падзел псальмоў на „стихи", падобны таму, які зрабіў Скарына, мы сустракаем у Цэтыньскім выданьні „Псалтыру" 1495 году, у вэнэцыйскіх выданьнях Божыдара Вуковіча і ў некаторых іншых.

Большую самастойнасьць у адносінах да перакладу ўяўляе сабой „Бівлиіа руска выложена докторомъ Францискомъ Скориною изславнаго града Полоцька богу ко чти и людемъ посполитымъ к доброму научению". У той час, як у „Псалтыру" 1517 году царкоўна-славянскі тэкст захаваны без парушэньня і толькі на палёх дадзены тлумачэньні мала зразумелых слоў, іншыя кнігі старога закону Скарына „вылажыл на рускі язык", інакш кажучы—пераклаў на тагочасную беларускую мову [1]).

[1]) Янчук. Op. cit., стар. 10.

Для свайго выданьня ў адносінах самага біблійнага тэксту Францішак Скарына скарыстаў дзьве галоўныя крыніцы: чэскую „Біблію" 1506 году і царкоўна-славянскія тэксты некаторых кніжок старога закону. Аб беспасрэдных адносінах усяго перакладу Скарыны да чэскае „Бібліі" 1506 году сьведчыць, папершае, падабенства некаторых вонкавых асаблівасьцяй (contynuaczij, concordancij) і асобныя надпісы, якія падзяляюць кніжкі „Песьня песень", і „Плач Ераміі". Але галоўным довадам, на падставе якога Ўладзімераў зьбліжае пераклад Скарыны з чэскай „Бібліяй" 1506 году ёсьць асаблівасьці мовы: з чэскага тэксту Скарына запазычае ня толькі паасобныя словы, асабліва сходныя ў корані і значэньні з беларускімі, але і цэлыя звароты мовы.

Што датычыць другое крыніцы, з якое скарыстаў Скарына,—царкоўна-славянскіх тэкстаў—то Ўладзімераў устанаўляе, што ў перакладчыка знаходзіліся ўсе царкоўна-славянскія кніжкі сьвятога пісьма, апроч чатырох: „Прамудрасьць Саламона", „Юдыта", „Эстэр" і „Песьня песень". Царкоўна-славянскія тэксты некаторых кніжок старога закону і Парэміі, напрыклад—у выданьнях Фіоля, Скарына выкарыстоўваў, папершае, як слоўнікавы матар'ял; з гэтых тэкстаў наш дзеяч асабліва браў спэцыяльныя тэрміны, як, напрыклад, звароты ў малітвах і розныя царкоўна-славянскія назовы. Але часам Скарына выпісваў з царкоўна-славянскіх тэкстаў і цэлыя разьдзелы, уносячы ў іх толькі паасобныя беларускія словы, як напрыклад: першыя 10 разьдзелаў кніжкі „Бытія", XXII разьдзел другое кнігі „Царстваў" (песьня Давыда) і інш.

З прычыны скарыстаньня дзьвюх галоўных крыніц (чэскае і царкоўна-славянскае) пераклад Скарыны носіць досыць стракаты характар: у ім няма адзінства і зграбнасьці сыстэмы. Апроч таго, другім недахватам яго зьяўляецца брак крытычнага падыходу да крыніц.

Але Францішак Скарына ня толькі перакладчык: ён уносіць у „Біблію руску" і больш самастойную частку свае працы, якая выявілася асабліва ў яго „прадмовах".

Гэтыя прадмовы маюць досыць рознастайны характар. У іх указваецца значэньне тэй ці іншай кніжкі, прычым часам у гэтых адносінах ужываюцца спосабы царкоўных казаньняў: у васнову кладзецца тэкст апостала альбо эвангельля і далейшая развага ёсьць раскрыцьцё сэнсу гэтага тэксту; такі пераважна маральна-навучальны характар маюць прадмовы да першых трох выданьняў Скарыны (Псалтыр, кніга Іова, Прыповесьці Саламонавы).

У іншых мясцох даецца экзэгетычны матар'ял: падрабязна зазначаецца „духоўны" сэнс кніжкі (прадмова да „Песьні песень" і да кнігі Ісуса Навіна); побач з гэтым асноўным маральна-навучальным і тлумачальным зьместам у „прадмовах" Скарыны часам даюцца спраўкі гістарычныя, географічныя і інш. Напрыклад, у прадмове да кніжкі Ісуса сына Сірахава гаворыцца аб цару Птолёмэі і заклікаными ім тлумачох, у прадмове да „Юдыты" апавядаецца аб царствах Асірскім, Мецкім і Пэрскім і г. д.; гаворачы аб тым, як Навін „оучинилъ изъ земли Ханаани землю Іюдею", Скарына дае кароткае географічнае апісаньне зямлі абяцанай; у прадмове да кніжкі „Второзаконие" зьмяшчаюцца разважаньні Скарыны аб розных формах праў і законаў.

Галоўнымі падсобнікамі для ўкладаньня гэтых прадмоў служылі Скарыне тлумачэньні Гароніма і комэнтары Міколы Лірана, але побач з запазычанымі элемэнтамі мы знаходзім тут і самастойныя: „прадмовы" Скарыны носяць на сябе яскравы адбітак іх аўтара, яны найбольш поўна, як мы ўбачым ніжэй, адбіваюць маральную постаць славутнага дзеяча.

Апроч прадмоў, у выданьнях Скарыны ёсьць яшчэ іншыя дадаткі, цікавыя ня столькі сваім зьместам, колькі формай. У некаторых з іх мы маем спробы сылябічных вершаў, якія з боку формы нагадваюць сабой псальмы і канты, асабліва пашыраныя на Беларусі і на Украіне ў XVII сталецьці.

Так, напрыклад, Скарына дае вершаваны пераклад дзесяці наказаў Майсея:

Веруй в бога единого
А не бери надармо имени его
Помни дни светые святити
Отца и матку чтити
Не забивай ни едина
И не делай грѣху блудна
Не вкради что дружнего
А не давай свядецтва лжива
Не пожедай жены ближнего
Ни имения или речи его.

У кнізе Эстэр агульная моральна-навучальная думка, якая вынікае з гісторыі Эстэры і Мардахея з Аманам, выяўлена ў форме вершу.

Не копай подъ другомъ своимъ іамы
Са(м) в‘валишся в‘ ню
Не став Амане Мар‘дохею шибенице
Са(м) повис‘неш на ней.

Далей у кнізе Іова мы маем гэткі дадатак:

Богу Въ Троици единому ко чти и ко славе
Матери его Преч(ис)тои Марии к похвале:
Всем небесным силамъ и с(вя)тым его к веселию
Людем посполитым к доброму научению.

З невядомых нам прычын у 1519 годзе дзейнасьць Скарыны ў Празе Чэскай спынілася, і мы нічога ня ведаем аб працягу яе да 1525 году, калі знаходзім яго ў Вільні, дзе ён выдае „Апостал“. Выданьне віленскага „Апостала“ ўяўляе сабой працяг папярэдняе дзейнасьці Скарыны ў Празе.

У сваёй агульнай прадмове да „Бібліі“ Францішак Скарына вызначае такі парадак кніжок „Апостала“: Пасланьні Паўлы, Дзеяньні Апосталаў, Саборныя пасланьні, і ўрэшце Апокаліпсіс. Гэткі парадак, відаць, быў назначаны пад уплывам Гароніма (ex epistola ad Paulinum). У сваім выданьні Скарына, прыняўшы за ўзор царкоўна-славянскія тэксты, зьмяшчае кніжкі ў іншым парадку: на першым месцы ён друкуе Дзеяньні, потым Саборныя пасланьні і ўрэшце ўжо Пасланьні апостала Паўлы.

„Апостал“ Скарыны 1525 году—першае друкаванае выданьне царкоўна-славянскага апосталу. Другое месца займае маскоўскае выданьне 1564 году, якое потым амаль без усялякіх зьмен перавыдадзена ў Львове ў 1574 годзе, і ў Вільні каля 1576 году.

Васкрасенскі ў сваёй працы „Древний славянский перевод апостола“ (1879) устанаўляе чатыры асноўныя рэдакцыі славянскага апостала: першая—Талковы апостал 1220 году, другая—Талстоўскі апостал XIV сталецьця, трэцяя—Чудаўскі (сьв. Аляксея) і, урэшце, чацьвертая—Поўны сьпіс „Бібліі“ 1499 году.

Тэкст Скарыны ня мае нічога супольнага з другой рэдакцыяй; найбольш блізкі ён да тэксту 1499 году, хаця-ж побач сустракаем мы

і ўплывы іншых рэдакцый. З боку характару сваіх крыніц „Апостал“ 1525 году вельмі падобны да праскага „Псалтыру“ 1517 году—у васнову абодвых выданьняў пакладзены царкоўна-славянскія тэксты, паводле сьпісаў XV і XVI сталецьцяў.

Як і ў папярэдніх сваіх выданьнях, Скарына і паасобным часткам „Апостала“ прадпасылае свае прадмовы, якія ён празывае „сказаниями“. Гэтыя прадмовы, мабыць, укладзены на грунце царкоўна-славянскага тэксту і потым дапоўнены паводле розных лацінскіх комэнтарыяў.

Сам Скарына сваё выданьне прязывае „выкладам“; ён, такім чынам, блізка далучае „Апостал“ 1525 году да „книгъ бібліі—выложеныхъ“. Пераклад гэты вызначаецца тымі-ж мэтодамі, што і папярэднія выданьні: заўважваецца адсутнасьць сыстэмы і крытыкі тэксту; выразна выяўлена імкненьне даць незразумелыя словы пабеларуску. У той час як царкоўна-славянскія тэксты апосталу, пачынаючы з самых старадаўніх і канчаючы пазьнейшымі, захоўваюць шмат грэцкіх слоў, у выданьні Скарыны ўсе яны перакладзены, прычым замены, якія зрабіў Скарына, вельмі часта супадаюць з чэскай „Бібліяй“ 1506 году без усялякіх адносін да Вульгаты.

У Вільні ў час, блізкі да часу выданьвя „Апостала“, Францішак Скарына выдаў яшчэ „Малую Падарожную Кніжыцу“, якая складаецца з пяці частак: „Псалтыр зуполная, Часословецъ, Акафісты и Каноны Шестодневецъ краткий, Светьци краткие и Поскалия на многа лѣта“.

Выданьне Скарыны належыць да тыпу так званых псалтыраў з пасьледаваньнем; падобныя псалтыры былі надзвычайна пашыраны ў XV і XVI сталецьцях і вельмі часта ўяўлялі сабой збор самых рознастайных матар‘ялаў, пачынаючы ад царкоўнага набажэнства і канчаючы living рознымі забабонамі, гаспадарчымі і мэдычнымі нататкамі.

Да Скарыны псалтыр з пасьледаваньнем выдаваўся тры разы; першае выданьне было зроблена ў Кракаве (1491), другое у Цэтыньі (1495); трэцяе вэнэцыйскае—Божыдара Вуковіча (1520).

Псалтыр, які ўваходзіць у склад „Малое Падарожнае Кніжыцы“ надзвычайна блізкі да праскага выданьня 1517 году; тут няма тлумачэньняў слоў на палёх („Главы на боцех“), але затое некаторыя тлумачэньні ёсьць у самым тэксьце і, апроч таго, дадзены новыя замены слоў. З праскага выданьня, за выключэньнем адзначанай розьніцы, захаваны прадмова, дзесяць абраных песень і тэкст з падзелам на кафізмы і славы без указаньня зьместу псальмоў.

Іншыя часткі „Малое Падарожнае Кніжыцы“ маюць самыя блізкія адносіны да адпаведных царкоўна-славянскіх тэкстаў у псалтырох з пасьледаваньнем.

Гэткім чынам, дзейнасьць Скарыны, якая падзяляецца на два пэрыоды—праскі і віленскі, з боку свайго агульнага характару адзначаецца органічным адзінствам: у васнове яе ляжаць аднолькавыя задачы і мэтоды. Калі ахапіць дзейнасьць Францішка Скарыны ў цэлым, дык трэба сказаць, што яна мае вялізарнае культурна-нацыянальнае значэньне. Яна служыць паказальнікам высокага культурнага ўзроўню, на якім стаяла Беларусь у XVI сталецьці: хронолёгічна „Біблія“ Фр. Скарыны займае трэцяе месца (першая нямецкая друкаваная „Біблія“ зьявілася ў 1445 годзе, чэская—у 1488, наша беларуская—у 1517-1519 годзе [1]).

Ня толькі самая дзейнасьць Скарыны ўяўляе сабой вялікую цікавасьць—вялізарны інтарэс выклікае сьветапагляд славутнага дзеяча, якім асьветлена яго праца. Крыніцу гэтага сьветапагляду трэба шукаць, зразумела, у політычна-соцыяльных умовах яго часу. У XVI сталецьці

[1]) Ігнатоўскі, Кароткі нарыс гісторыі Беларусі, Вільня, 1921 г., стар. 64.

на Беларусі перакрыжоўваліся дзьве гаспадарчыя сыстэмы—з аднаго боку, яшчэ была моцнай натуральная гаспадарка, з другога боку, нараджаліся ўжо навочныя формы гандлёвага капіталу. Панаваньне гэтых дзьвёх формаў азначыла сабой некаторую падвойнасьць сьветапагляду беларускага дзеяча.

На падставе натуральнае гаспадаркі з яе бездапаможнасьцю перад стыхійнымі сіламі і зьявамі прыроды, як ведама, вынікла сярэднявечная рэлігійнасьць з яе схолястыкай, аскетызмам, готыкай і іншымі зьявамі такога самага парадку.

Францішак Скарына—сын свайго часу. Уся яго дзейнасьць мае пэўную рэлігійную падставу. У сваіх прадмовах ён выяўляе схолястычныя пагляды сярэднявечча. Біблія—для яго крыніца ўсялякае мудрасьці, крыніца ўсіх навук. Усе схолястычныя „septem artes liberales", на думку Скарыны, маюць свой пачатак у біблії. Першая з гэтых навук „граматика или по руску говорячи грамота"; псалтыр найлепшы сродак дзеля вывучэньня гэтае навукі. Другая навука „лоіка", „она же учить з доводомъ разознати правду отъ кривды". Дзеля навучаньня гэтай навуцы, раіць Скарына, „чти книгу Иова или послания Апостола Павла". Асабліва зьяуляецца карысным дзеля гэтага кніга Іова і яе „всякому человеку потребно чести, понеже есть зерцало жития нашего, лекарство душевное, потѣха всѣмъ смутнымъ наболѣй тымъ, они же суть въ бѣдах и въ немоцех положены. Протожъ я, Францишекъ Скоришнъ сынъ з Полоцка, въ лекарскихъ наукахъ докторъ, знаючи сее, иже есть найвышшая мудрость, размышление смерти, и познание самого себе, и въспоминание на пріидущіе речи, казалъ есмы тиснути книгу сию".—„Аще же ли помыслиши умети риторику, еже есть красномовность, чти,—прадоўжвае Скарына,—книги Соломоновы. А то суть три науки словесные" (г. зн. граматыка, лёгіка, рыторыка). Усе іншыя схолястычныя навукі—музыка, арытмэтыка, геомэтрыя і астраномія,—гэтак сама, на думку Скарыны, маюць сваю падставу ў біблії. Дзеля навучаньня „музыки, то естъ певницы", карысна ўся біблія: „премножство стиховъ і пѣсней святых по всѣй книзѣ сей знайдеши", але асабліва дзеля гэтае мэты падыходзіць псалтыр і песьня песень. Надзвычайна кур'ёзнымі, з нашага пункту гледжаньня, зьяўляюцца далей разважаньні Скарыны аб біблійных падставах дзеля арытмэтыкі, геомэтрыі і астраноміі: „Любо ли ти есть умѣти арытметику, еже во кратцѣ а неомыльне личить вучить, четвертые книги Моисеевы часто чти". (У гэтых кнігах зьмешчаны лік кален ізраільскіх). „Пакъ ли же имаши предъ очима науку геометрию, еже по руски сказуется землемѣрение, чти книги Ісуса Навина". (Там гаворыцца аб падзеле абяцанай зямлі паміж ізраільскімі каленамі).—„Есть ли астрономии или звѣздочети,—найдешъ на початку книги сее (біблії) о сотворении солнца и месяца и звѣзд; найдеш во Ісусе Наувіне, яко стояло солнце на едином мѣстѣ за цѣлый день. Знайдешъ во книгах царств, иже солнце поступило неколико ступнев. Знайдеш во святом Евангелии о новосотвореной звѣздѣ часу нарожения Нашего Спасителя Ісуса Христа".

Дадзеныя вытрымкі з „прадмовы" Скарыны, прыведзеныя поўнасьцю проф. Янчуком у яго курсе[1]), яскрава выяўляюць тыпова схолястычныя асновы сьветапагляду беларускага дзеяча. Але на гэтых сярэднявечных падвалінах былі і некаторыя новыя наслаеньні.

Францішак Скарына і яго дзейнасьць уяўляюць сабой органічны продукт гарадзкое культуры, якая разьвінулася ў нас на аснове гандлёвага капіталу. З гэтым экономічным фактарам Скарына моцна зьвя-

[1]) Op. cit., стар. 11.

заны. Паходзіць ён, як мы бачылі вышэй, з гандлярскага стану; Скарыны вялі нават замежны гандаль з Рыгай і іншымі гарадамі. Самая літаратурная дзейнасьць нашага дзеяча шчыльна злучана з гандлёвым капіталам. У „Псалтыру" 1517 году мы знаходзім прыпіску „а то ся стало накладомъ Богдана Онькова сына, радцы мѣста Виленского". У канцы „Апостала" зазначаецца, што Скарына завёў у Вільні друкарню „въ дому почтивого мужа Якуба Бабича, найстаршего бурмистра славного и великого мѣста Виленского". І Богдан Онькаў, і Якуб Бабіч, гэтыя прадстаўнікі віленскага гарадзкога самакіраўніцтва, былі бясспрэчна цэнзавымі элемэнтамі [1]).

Выдаючы свае кніжкі на сродкі гэтых прадстаўнікоў гандлёвае буржуазіі, Скарына і самы характар сваіх выданьняў прыстасоўвае да патрэб капіталу. Біблію ён выдае паасобнымі маленькімі кніжкамі ў добрых вокладках; портатыўнасьць выданьняў адпавядала вандроўнай форме жыцьця гандляроў; зграбнасьць і значны кошт іх паказвае, што яны, відаць, былі разьлічаны на збыт сярод заможных прадстаунікоў гарадзкога жыхарства. Клясава-соцыяльная падстава літаратурнае дзейнасьці Францішка Скарыны асабліва выяўляецца ў выданьні ім „Малое Падарожнае Кніжыцы"; гэтая „кніжыца", якая зьмяшчае ў сабе царкоўныя набажэнствы і ўяўляе найбольш портатыўнае выданьне з усіх выданьняў Скарыны, бязумоўна, мела на ўвазе інтарэсы гандляроў: купец, які ў часе вандраваньня дзеля гандлярскіх спраў ня заўжды меў магчымасьць хадзіць у царкву, мог памаліцца, паводле гэтае „кніжыцы", ва ўсялякіх абставінах.

Зьвязаны так моцна з гандлёвым капіталам, уяўляючы сабой органічны продукт гарадзкое культуры, Скарына ў сваёй асобе і сьветапаглядзе выяўляе некаторыя рысы таго ідэйнага кірунку, які вынікнуў на падставе адзначанага соцыяльна-экономічнага фактару,—рысы гуманістага.

Гэты „новы культурны рух,—сьведчыць проф. Пічэта,—пачаўся перш за ўсё ў літоўска-беларускіх гарадох, куды пачалі пранікаць новыя рэформацыйныя ідэі, якія, аднак, ня пусьцілі глыбокіх карэньняў у васяродзьдзі гарадзкога грамадзянства. Барацьба паміж гарадзкім станам і зямляўласьнікамі за экономічныя перавагі хутка паставіла мяшчанства ў варожыя адносіны да шляхты і да каталіцызму і протэстантызму, паколькі апошнія станавіліся рэлігіяй варожага да мяшчан стану. Барацьба з шляхтай і нападкі каталікоў на праваслаўных прыдалі гарадзкому гуманістычнаму руху нацыянальна-рэлігійны характар, што атрымала сваё выяўленьне ў зьвязку з царкоўнай вуніяй 1596 году... Гарадзкі гуманітарны рух меў замкнуты характар. Вёска заставалася па-за сфэрай гарадзкой культуры" [2]).

Характаразуючы далей дзейнасьць Скарыны, профэсар Пічэта празывае яго гуманістым, але, на вялікі жаль, ня прыведзена ніводнага доваду ў пацьвярджэньне гэтага палажэньня. Мы спрабуем у гэтую сьціслую схэму падручніка: „Скарына—гуманісты" ўкласьці больш конкрэтны зьмест.

Нам здаецца, што галоўнымі адзнакамі рэнэсансу, які нарадзіў сабой гуманізм, зьяўляюцца: індывідуалізм, натуралізм і нацыяналізм.

[1]) Разам з наданьнем беларускім гарадом Майдэборскага права,—сьведчыць проф. Пічэта,—уся ўлада апынулася ў руках буржуазіі, значэньне якой павялічылася пад уплывам росту грашовае гаспадаркі. (Гісторыя Беларусі. Масква—1924 г., стар. 106).

[2]) Ibid., стар. 126.

Буркгардт у сваёй вядомай працы „Культура адраджэньня Італіі" правільна кажа, што рэнэсанс гэта ёсьць адкрыцьце чалавека. Аб чалавеку спынілі ўжо судзіць толькі на падставе яго адносін да царквы альбо да тэй ці іншай корпарацыі; асоба чалавека сама-па-сабе робіцца прадметам напружанае ўвагі і цікавасьці. Адсюль вынікае той факт, што ўсе дзеячы рэнэсансу, пачынаючы з Пэтраркі і канчаючы Торквато Тассо, любяць надзвычайна аналізаваць перажываньні душы чалавека і ў першую чаргу сваёй уласнай душы.

Індывідуалізм Францішка Скарыны, зразумела, ня мог так яскрава і моцна выявіцца, як ён выявіўся, напрыклад, у Пэтраркі, Боккачыо і інш.: для гэтага ня было ў нас на Беларусі належных социяльных і культурна-гістарычных умоў, галоўнае, у нас ня было тут традыцый антычнасьці, якая паслужыла ў Італіі моцным штурхачом выяўленьня асобы чалавека. Але і ў беларускага дзеяча мы знаходзім некаторыя праявы індывідуалізму: Скарына поўны сьвядомасьці вартасьці свае асобы, ён далёкі ўжо ад хрысьціянскага ідэалу пакоры; на кожным кроку падкрэсьліваюцца ім асабістыя заслугі і каштоўнасьць; разам з тым усе яго прадмовы носяць, як мы бачылі, яскравы адбітак яго сьвядомасьці—тут выяўляецца сьветапагляд, выяўляюцца самыя захаваныя думкі і настроі пісьменьніка. Нават біблію Скарына часам расцэньвае з індывідуалістычнага пункту гледжаньня. У прадмове да кнігі Іова ён, напрыклад, кажа, што гэтая кніга „лекарство душевное, потѣха всѣмъ смутнымъ", што тут даецца сродак к пазнаньню сваёй асобы, а па думцы Скарыны, найвышэйшая мудрасьць і ёсьць пазнаньне самога сябе. Псалтыр Скарына таксама высока ставіць ня толькі як „малым детям початок всякой доброй науки", але і як псыхолёгічны помнік, дзе асоба чалавека можа знайсьці водгук сваім асабовым настроям, дзе заключана складаная гама перажываньняў, пачынаючы ад высокага стану экстазу, захапленьня, і канчаючы прыгнятаючымі эмоцыямі роспачы і смутку.

Будучы індывідуалістымі, прадстаўнікі рэнэсансу не замыкаліся ў вузкія рамкі толькі сваіх асабовых перажываньняў; у іх была напружаная ўвага да жыцьця прыроды, жыцьця ўсяго космосу. Пачынаючы ад няясных яшчэ і зьбіўчывых шуканьняў Парацэльса і канчаючы грандыёзнымі адкрыцьцямі Копэрніка, Кеплера і Галілея, адпраўляючыся ад філёзофскіх разваг Міколы Кузанскага і прыходзячы да шырокае сыстэмы Джордано Бруно, мы ўва ўсёй навуцы і філёзофіі рэнэсансу сустракаемся з выразнымі праявамі натуралізму, імкненьня пазнаць прыроду. Гэтае імкненьне падзяляе і наш дзеяч. Яго не задавальняе схолястычная навука ў Кракаве, ён вывучае мэдыцыну; імкнучыся да запраўднага сьвятла навукі, едзе на далёкі захад, у Італію — самы асяродак гуманізму; у сваіх прадмовах Скарына выяўляе вялікую цікавасьць да сьвецкае навукі. Тут мы знаходзім „размовление о прирожении древ и былин, зверей, птиц, гадов и рыб".

Урэшце, трэцяя адзнака рэнэсансу—нацыяналізм... У сярэдніх вякох панавала адзіная космополітычная лацінская культура; гуманістыя выяўляюць вялікую цікавасьць да нацыянальных адзнак. Ужо Дантэ, які стаіць на рубяжы сярэднявечча і рэнэсансу ў сваім трактаце „De volgari eloquio" даводзіць, што жывая італьянская мова вышэй за мёртвую лацінскую. Па яго сьлядох ідуць Пэтрарка, Боккачыо і іншыя; не пакідаючы мовы лацінскай, яны шырака карыстаюцца жывой народнай гутаркай. Падобна ім, і Францішак Скарына ў сваім перакладзе сынтэзуе элемэнты мёртвае царкоўна-славянскае мовы і жывое беларускае гутаркі. У нашага дзеяча мы знаходзім яскравыя выразы нацы-

янальнае сьвядомасьці. У сваёй прадмове ён кажа: „Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни знають ямы своя, птицы летающие по воздуху ведають гнезда своя, рыбы плавающие по морю и во реках чують виры своя, пчелы и тым подобные боронять ульлев своих тако ж и люди и дзе зродилися и ускормлены суть по бозе—к тому месту великую ласку имають".

Гэтак на асобе Францішка Скарыны ляжаць густыя цені сярэднявечча, але адначасна мрок гэтых ценяў праразаюць сьветлыя блікі жыцьцярадаснага рэнэсансу.





**Мікола Шчакаціхін.**

Член-супрацоўнік Інстытуту Беларускае Культуры, доцэнт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

# Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны.



ярод нямногіх славянскіх старадрукаваных кніг канца XV—пачатку XVI сталецьця першыя беларускія выданьні Францішка Скарыны, з боку тэхнічнае дасканаласьці, з боку мастацкасьці сваёй апрацоўкі, бясспрэчна, займаюць найбольш выдатнае месца. Гэта ня раз ужо было заўважана тымі дасьледчыкамі, якія з таго ці іншага пункту погляду падыходзілі да вывучэньня скарынавых кніжок. Так яшчэ Штрытэр, напрыклад, у 1783 г., разглядаючы некаторыя, вядомыя ў той час працы Скарыны, зьвярнуў таксама ўвагу і на мастацкую іх прыгожасьць, зазначыўшы, што надворная іх апрацоўка зьяўляецца надзвычайна высокай у друкарскіх адносінах [1]. Крыху пазьней, разьбіраючы спэцыяльную працу Равінскага па гісторыі расійскай гравюры, вядомы Стасаў дадаў да яе, паміж іншым, кароткі агляд дрэварытаў, якія знаходзяцца ў выданьнях Скарыны, прычым адзначыў, што гэтыя дрэварыты граюць вельмі важную ролю наагул сярод славянскіх помнікаў ксылёграфічнага мастацтва [2]. Згодна з увагамі Стасава і Равінскі пры выданьні памянёнай працы зрабіў да яе адпаведныя дадаткі, падкрэсьліўшы выключнае значэньне скарынавых кніжок, як першых мастацкі аздобленых выданьняў славянскага друку. Апроч таго, ён заўважыў, што тыя гравюры і кніжныя аздобы, якія знаходзяцца ў кнігах Скарыны, па надзвычайна добрай рабоце, па композыцыі і па мастацкасьці выкананьня—ня маюць нічога супольнага з тымі гравюрамі, якія сустракаюцца ў іншых славянскіх выданьнях [3]. Таксама, нарэшце, Уладзімераў у вядомай сваёй монографіі прысьвечанай Францішку Ска-

---

[1]) Опыт трудов вольного Российского собрания. Москва 1783. VI, 177—194.

[2]) Разбор рукописного сочинения Г. Ровинского „Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии Художеств", составленный *В. В. Стасовым*.— Отчет о седьмом присуждении наград графа Уварова. СПБ. 1864. Стар. 30.

[3]) Русские граверы и их произведения с 1564 года до основания Академии Художеств. Исследование *Д. Ровинского*. Издание гр. Уварова. Москва 1870. Стар. 5.

рыне [1]), рашуча зацьвярджае, што кнігі Скарыны ў друкарскіх адносінах далёка перавышаюць ня толькі ранейшыя за іх царкоўна-славянскія, але нават і сучасныя Скарыне вэнэцыйскія выданьні [2]), ён называе іх выдатнымі вытворамі друкарскага мастацтва [3]) і лічыць, што яны могуць быць параўнаны толькі з найлепшымі нямецкімі выданьнямі пачатку XVI сталецьця [4]).

І запраўды, трэба прызнаць, што паміж усіх іншых помнікаў стара-славянскага друку кнігі Скарыны, асабліва праскія яго выданьні, уяўляюць сабой нейкае выключнае зьявішча як па колькасьці зьмешчаных у іх гравюр, гэтак і па надзвычайна дасканалай тэхніцы іх выкананьня. Вядома, што тыя вельмі нямногалікія славянскія кнігі, якія друкаваліся ў Вэнэцыі, Кракаве і ў паўднёва-славянскіх краінах у папярэднія часы, г. зн. у межах 1480—1515 гадоў,—амаль што зусім пазбаўлены якіх-небудзь паасобных ілюстрацыйных рысункаў, і маюць адны толькі чыста графічныя аздобы, параўнальна ў нязначным ліку. У першапачатковых кракаўскіх і паўднёва-славянскіх выданьнях аздобы гэтыя ў стылістычных адносінах цесна зьвязаны з бізантыцкім орнамэнтам, і ў пахаджэньні сваім усходзяць да звычайнай орнамэнтыкі стара-славянскіх рукапісаў; з тэхнічнага боку ўсе яны выкананы ня надта ўдала і вызначаюцца некаторай грубасьцю ліній, разам з нядбаласьцю выробленьня,—апроч хіба толькі „Служэбніка" і „Псалтыру", надрукаваных у Цэтыньі ў 1495 годзе. Што да вэнэцыйскіх славянскіх выданьняў, дык у гэтых выпадках тэхніка графічных аздоб, праўда, непараўнальна прыгажэйшая,—бо яны, бязумоўна, знаходзяцца ў самай беспасрэднай залежнасьці ад італьянскіх узораў [5]), і пэўна, нават, выконваліся якімі-небудзь італьянскімі майстрамі; але і ў гэтых выданьнях мастацкая апрацоўка кнігі зноў-жа заўсёды абмяжоўваецца выключна дэкарацыйнай орнамэнтыкай, так што нідзе ў іх мы не сустракаем ніякіх паасобных вобразаў [6]),—г. зн. гравюр у сьцíслым сэнсе гэтага слова. З усіх славянскіх выданьняў, надрукаваных да 1517 году,—г. зн. раней як вышлі ў сьвет першыя выданьні Скарыны,—у вадным толькі кракаўскім „Осьмогласьніку" Фіоля 1491 году ёсьць адна невялічкая гравюра з вобразам укрыжаваньня, якая, аднак, запазычана з нямецкіх ілюстраваных біблій XV сталецьця [7]). І толькі праскія выданьні Францішка Скарыны 1517—1519 гадоў зьяўляюцца наагул першымі славянскімі выданьнямі, дзе, апроч звычайных орнамэнтальных заставак, у значнай колькасьці зьмешчаны таксама паасобныя гравюры ілюстрацыйнага характару, накшталт найлепшых заходня-эўропейскіх лацінскіх, нямецкіх і чэскіх выданьняў.

Выдавецкая дзейнасьць Скарыны ў тагочасных абставінах, бясспрэчна, зьяўлялася надзвычайна важным для Беларусі культурным здарэньнем. Дзякуючы ёй Беларусь стала першай з ліку ўсходня-славянскіх краін, якая далучылася да агульнага ходу разьвіцьця заходня-эўрапейскага друкарства, і праз пасярэдніцтва Прагі, дзе працякала спачатку праца Скарыны, моцна зьвязалася з лепшымі традыцыямі ня толькі чэскага, але таксама нямецкага і італьянскага друкарскага мастацтва. Гэтая сувязь пазьней абумовіла ўтварэньне таксама і сваіх

1) Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. Исследование *П. В. Владимирова.* MDCCCLXXXVIII.

2) Op. cit., 70.

3) Ibid., 172.

4) Ibid., 82.

5) Пар. *Стасов,* op. cit., 27—28.

6) *Ровинский.* Русские граверы. 5.

7) *Владимиров,* 77.

уласных друкарскіх традыцый, якія цьвёрда захоўваліся на працягу сталецьцяў у віленскіх, магілеўскіх і іншых беларускіх друкарнях, і нават ня раз мелі свой уплыў на цэлы шэраг вытвораў (асабліва першапачатковых) украінскага і маскоўскага друку [1]). І разам з тым яна надала маладому беларускаму друку магчымасьць з самага пачатку спыніцца на пэўных, цьвёрда ўстаноўленых друкарскіх формах; і запазычыць усё тое лепшае, што толькі было ў тагочасным заходня-эўропейскім друкарстве.

Як вядома, тая эпоха, у якую разьвівалася выдавецкая дзейнасьць Францішка Скарыны, адзначана ў гісторыі Заходняй Эўропы моцным экономічным уздымам у сувязі з буйным разумовым і культурным рухам. Узмацненьне новае гарадзкое клясы ў барацьбе з ранейшым фэўдальным ладам, паволі зьнішчала старыя формы сярэднявечнага жыцьця. Эўропа была напярэдадні буйнога росквіту ва ўсіх галінах навукі і мастацтва. Раней занядбаныя artes bonae і artes liberales паступова вызваляліся з-пад цяжару мярцьвячай і ўпартай царкоўнай схолястыкі. Як адзін з ліку адукаваных і культурных людзей свайго часу, Францішак Скарына, бясспрэчна, ня мог застацца збоку гэтага магутнага руху; ён трымаў бязупынную сувязь з Захадам і у сваёй літаратурна-выдавецкай дзейнасьць нязьменна орыентаваўся на сучаснае яму становішча заходня-эўропейскай выдавецка-друкарскай справы.

Але заходня-эўропейскае кнігадрукарства ў гэтыя часы было адным з асноўных і найбольш значных фактараў рэнэсансу. З яго дапамогаю нават царкоўныя творы і кнігі сьвятога пісьма выходзілі па-за вузкія муры цэркваў і кляштараў і пашыраліся ў народзе, упяршыню выклікаючы ў тэй ці іншай меры крытычныя да сябе адносіны. Разам з тым і чыста гуманістычная цікавасьць да народнае мовы, да тых „vulgaria eloquia“, аб якіх успамінаў яшчэ Дантэ,—знайшла сабе выяўлен пры дапамозе таго-ж кнігадрукарства ў выданьні цэлага шэрагу перакладаў царкоўных кніг, асабліва біблії, а таксама маленькіх падручных богаслужбовых кніжок—г. зв. „Biblia pauperum“, „Hortulus animae“ і інш. [2])—у простай зразумелай для народу мове, з прыгожымі аздобамі і гравюрамі.

Выданьні гэтыя, бязумоўна, былі добра вядомы Скарыне. Жадаючы даць таксама і свайму беларускаму народу зразумелую і з яго пункту погляду патрэбную кніжку, ён мог карыстацца некаторымі ўжо гатовымі ўзорамі для таго, каб уласныя яго выданьні ў тэхнічных і мастацкіх адносінах стаялі на ўзроўні тых запатрабаваньняў, якія тады прад'яўляліся да друкарскіх вытвораў. Мабыць, з гэтай прычыны шмат якія рысы, уласьцівыя выданьням Скарыны, выяўляюць пэўную іх залежнасьць ад чэскай або нямецкай друкарскай тэхнікі. Але залежнасьць гэтая ніколі не пераходзіла ў простае перайманьне; трымаючыся заўсёды на вышыні адначасных з імі заходня-эўропейскіх выданьняў,—і часам нават перавышаючы некаторыя з іх,—выданьні Скарыны ў надворным сваім выглядзе ў той-жа час уяўляюць сабой нешта зусім асаблівае, орыгінальнае, адзначаюцца нейкім надзвычайна ценкім і добра сформаваным мастацкім густам.

[1]) Пар. *Стасов*. op. cit., 39; *Харламповичъ*. Малороссийское влияние на великорусскую церковную жизнь. Т. I. Казань 1914, ст. 96—97; *И. Попов*. Початки друкарства у слов'ян. „Бібліологичні вісти“. Київ 1924. Стар. 25; даклад *А. І. Некрасова* „Орнамент славянских печатных изданий XV—XVI в.“—Древности. Труды Славянск. Ком. Моск. Арх. О-ва, V, 53.

[2]) Пералік іх можна знайсьці ў Oskar Hase. Die Koberger. Leipzig 1885—у рэгістрах і ўвагах.

У параўнаньні да вытвораў заходня-эўропейскага друку, а таксама да ранейшых царкоўна-славянскіх выданьняў, у кнігах Скарыны можна знайсьці нават значна большую колькасьць чыста мастацкіх рыс. Яны выяўляюцца ў самым шрыфце, таксама і ў графічных аздобах, і, галоўным чынам, у шматлічных гравюрах. У адносінах да шрыфту выданьні Скарыны належаць да г. зв. *первястковых* выданьняў: гэта значыць, што ўласьцівыя ім асаблівасьці шрыфту ні адкуль ня былі запазычаны, і толькі ў іх зьявіліся ўпяршыню, у выніку, мабыць, таго ці іншага ўплыву, зробленага асабістым скарынавым характарам пісьма. Для цэлага шэрагу літар тут былі знойдзены зусім самаўласьцівыя новыя нарысы; з іх ліку можна адзначыць: *А, В, Е, Ж, М, У*, і некаторыя іншыя [1]); у сваёй дасканаласьці, скончанасьці, і мастацкай прыгожасьці шрыфт гэты амаль што ніколі ня быў перавышаны ні ў якіх іншых як папярэдніх, гэтак і пазьнейшых славянскіх выданьнях.

Тое-ж самае трэба сказаць і пра графічныя аздобы, якія ў злучэньні з прыгожым шрыфтам надаюць скарынавым кнігам асабліва прыемны і прыгожы надворны выгляд. У заходня-эўропейскім друкарстве як у XV, гэтак і ў пачатку XVI сталецьця, графічная орнамэнтыка амаль што зусім ня ўжывалася, і толькі пазьней заняла адпаведнае месца ў мастацкай апрацоўцы выданьняў; царкоўна-славянскія выданьні значна раней, і нават яшчэ раней за Скарыну, згодна традыцыі, якая ішла ад старых бізантыцка-славянскіх рукапісаў, карысталіся застаўкамі і загалоўнымі літарамі,—праўда, ня ў вельмі значнай колькасьці; але стыль гэтых аздоб яшчэ захоўваў самую цесную сувязь з традыцыйнымі формамі бізантыцкіх рукапісных орнамэнтаў, што, разам з блізкім да рукапіснага шрыфтам, наагул надавала першапачатковым славянскім выданьням нейкі падобны да рукапісаў характар. Скарыстаўшы добрую дэкарацыйную традыцыю, Скарына, аднак, канчаткова адмовіўся ад перайманьня славянскіх рукапісных заставак, і ўводзячы ў свае орнамэнты рысы заходня-эўропейскага, галоўным чынам, італьлянскага стылю,—надаў зусім іншы і новы сэнс старым, традыцыйным тыпам кніжных аздоб. Пазьнейшыя славянскія выданьні і ў гэтых адносінах ніколі не перавысілі выданьняў Скарыны, і нават не параўналіся з імі [2]),—а толькі ішлі па іх сьлядох, паўтараючы вельмі часта ўзятыя з іх прыклады кніжнае орнамэнтыкі, як найбольш дэкарацыйныя па рысунку і найлепшыя па тэхніцы выкананьня.

Нарэшце, на першае месца сярод усіх мастацкіх аздоб ў выданьнях Скарыны, трэба паставіць шматлікія дрэварыты, у большасьці—надзвычайна высокае тэхнічнае дасканаласьці, якія былі спэцыяльна зроблены для гэтых выданьняў, бясспрэчна, вельмі талентнымі і здольнымі майстрамі гравюрнага мастацтва. Вышэй мы ўжо адзначалі, што для вытвораў славянскага друку прысутнасьць гравюр у скарынавых кнігах зьяўлялася зусім новым прыёмам. Тут, пэўна, узяты былі за ўзор лацінскія, чэскія і нямецкія ілюстраваныя біблії, у якіх да кожнай паасобнай біблійнай кніжкі звычайна дадаваліся адпаведныя ілюстрацыі. Але, запазычыўшы гэты спосаб, Скарына, мабыць, не здаволіўся простым перайманьнем гатовых композыцый і тэм, як гэта мела месца, напрыклад, у чэскай „Біблії“ 1506 г. [3]) ў параўнаньні да лацінскай „Біблії“, выдадзенай у Вэнэцыі ў 1498 г. [4]). Пры ўсёй тэй увазе і пільнасьці, з

[1]) Дакладней аб шрыфце Скарыны гл.: *Владимиров*. 78—79.

[2]) Пар. *Стасов*, op. cit., 32.

[3]) 15.46. 7. № 36. (Тут, як і ў далейшым, паказаны шыфр паасобніку Расійскай Публічнай Бібліотэкі).

[4]) 9. XIX. 3. № 27.

якімі Скарына адносіўся да сваёй выдавецкай справы, ён, як відаць, ня мог абмяжоўвацца толькі зьмяшчэньнем у сваіх выданьнях *патрэбнага* гравюрнага матар'ялу, але імкнуўся таксама і да найбольшай *мастацкасьці* гэтых выданьняў, да як найбольш дасканалай надворнай іх апрацоўкі.

Праўда, успамінаючы аб гравюрах у сваіх прадмовах да паасобных біблійных кніжок, Скарына нічога ня кажа аб іх мастацкім значэньні, і падыходзіць да іх з крыху іншага пункту пагляду; ён высоўвае на першы плян чыста практычны, ілюстрацыйны сэнс паасобных рысункаў, і разглядае іх у якасьці нейкіх дапаможных сродкаў для лепшага зразуменьня тэксту. *„Ктобы пакъ межи простыми людми братии моеи,*—кажа ён,—*хотел іаснее разумети іаковым обычаем былъ храмъ оудѣлан Кивот Стол Светилник Требник ИРизы жреческие, Тое все вымалеваное нижеи знаидеть“* [1]). Таксама і ў іншым месцы: *„Положил есми всихъ книгахъ образци храму г(с)дьня и сосудовъ его, и дому Царева... А то для того, аби братия моя Русь люди посполитые чтучи могли лепеи разумети“* [2]). На падставе гэтых адрыўкаў Уладзімераў, паміж іншым, і наагул зрабіў заключэньне, як быццам Скарына толькі такі сэнс надаваў усім гравюрам цалкам, і толькі так вытлумачваў мэты змяшчэньня іх ў сваіх кнігах [3]). Але фактычна гэта ня зусім правільна.

Бясспрэчна, у даным выпадку Скарына зварочвае асаблівую ўвагу на навучальную ролю гравюр, на іх значэньне, як відавочных падсобкаў, прызначаных, каб лепш вытлумачыць ня вельмі выразны тэкст. Але гэта ні ў якім разе не датычыць усёй тэй масы гравюр, якая знаходзіцца ў выданьнях Скарыны, і закранае толькі адну і нават ня надта значную іх частку. Трэба зазначыць, што вышэйпамянёныя ўвагі Скарыны знаходзяцца толькі ў прадмовах да „Ісходу“ і „Царстваў“, г. зн. якраз да тых кніжок, дзе зьмешчана, як мы ўбачым ніжэй, некалькі спэцыяльна ілюстрацыйных рысункаў чыста тлумачальнага характару, з вобразамі паасобных частак скініі і саламонава храма, а таксама некаторых прадметаў з ліку спэцыяльных храмовых прылад; рысункі гэтыя былі запазычаны з аўторытэтных нямецкіх крыніц, і гралі ў выданьнях Скарыны якраз тую выключна службовую ролю, якую падкрэсьлівае ён у сваіх прадмовах. З іншымі дрэварытамі яны ні ў якай меры ня зьвязаны, утвараючы нейкую зусім паасобную групу як па зьмесьце сваім, гэтак і па стылістычных адзнаках. Пры гэтым бясспрэчна, што вышэйпрыведзеныя ўвагі Скарыны маюць дачыненьне *толькі да гэтай групы тлумачальных рысункаў*, як гэта відаць нават і з літаральнага сэнсу тэксту, дзе аўтар пералічвае зьмест памянёных ім гравюр; да ўсіх іншых гравюр—увагі гэтыя ня маюць ніякіх адносін, бо гэтыя іншыя надта значна ад іх адрозьніваюцца, і нават зусім не здавальняюць высунутаму Скарынай запатрабаваньню—быць дапамогаю для чытачоў, каб яны *„чтучи могли лепеи разумети“*. Тым часам, аднак, якраз гэтыя *іншыя* гравюры знаходзяцца ў выданьнях Скарыны ў большасьці, і граюць у іх непараўнальна больш значную ролю, ніж усе тлумачальныя рысункі першае групы.

У той час як апошнія зьмешчаны толькі ў дзьвёх з ліку 22 надрукаваных Скарынай біблійных кніжок, і да таго-ж зусім няпрыкметна схаваны ў сярэдзіне тэксту,—усе іншыя рэзка высунуты на першы плян, займаючы самае значнае месца ў надворнай апрацоўцы кожнае паасобнае кніжкі. Вялікія сюжэтныя гравюры з адпаведнымі

[1]) „Исходъ“. 4 б.
[2]) „Царьств“. 119 б.
[3]) *Владимиров*. op. cit., 79.

надпісамі зьяўляюцца тут адзінымі і надзвычайна ўдалымі аздобамі загалоўных аркушоў, у комбінацыі з фігурнымі загалоўнымі літарамі і надрукаванымі буйным шрыфтам загалоўкамі. У некаторых кнігах яны паўтараюцца яшчэ адзін раз у якасьці заставак перад самым пачаткам тэксту. Зьмест гравюр, пры гэтым, не заўсёды знаходзіцца ў беспасрэднай сувязі з тэкстам, а ў некаторых выпадках нават ня мае чыста ілюстрацыйнага характару [1]). Усё гэта, пры высокай тэхнічнай дасканаласьці паасобных гравюр, а таксама ў сувязі з прысутнасьцю ў большасьці кніжок спэцыяльных дэкарацыйных заставак,—сьведчыць аб нейкім асабліва дакладным і чыста мастацкім падыходзе да надворнае апрацоўкі скарынавых выданьняў, у якім, бясспрэчна, прымаўся пад увагу ня толькі прадметны і зьместавы, але таксама і формальна-мастацкі сэнс кожнае паасобнае гравюры.

Магчыма, што ў гэтым падыходзе, у сутнасьці мала ўласьцівым нават заходня-эўропейскім тагочасным выданьням, выявіўся вядомы уплыў пэрсональнага густу Скарыны, які, да таго-ж, знаходзіўся, пэўна, у некалькі болей блізкіх адносінах да мастацкай аздобы сваіх выданьняў—і наагул да мастацтва—ніж гэта можна было-б дапушчаць па першым уражаньні. Тут, паміж іншым, цікава адзначыць той некалькі нязвычайны тытул, які далучаецца да імя Францішка Скарыны ў некаторых сучасных яму докумэнтах. Сам Скарына ў сваіх прадмовах і пасьляслоўях да паасобных біблійных кніжок заўсёды называе сябе „Влекарскихъ наукахъ Докторъ"—бяз усякіх іншых дадаткаў,—мабыць дзеля таго, што годнасьць доктара мэдыцыны ён сам лічыў найбольш пачэснай і важнай. Але мы ведаем, што апроч гэтае навуковае ступені, атрыманае ў 1512 годзе ў Падуі, Скарына меў таксама і ступень доктара artium, наданую яму яшчэ раней, напэўна ў Кракаўскім Унівэрсытэце,—бо якраз з гэтым прыслоўкам імя Скарыны сустракаецца ў апублікаваных І. Шляпкіным падуанскіх докумэнтах, узятых з кнігі Sacri Collegii dominorum doctorum et artistarum, якая знаходзіцца ў архіве Падуанскага Унівэрсытэту [2]). У пазьнейшых докумэнтах 1530 г., якія захоўваюцца ў Кёнігсбэрскім Дзяржаўным Архіве (Foliant 48, S. 528 f.f. Pro D'. Francisco Scorina de Polotzko, Medicenae Doctori) і апублікаваны А. Мілавідавым, той-жа самы тытул ужываецца ў некалькі дапоўненай і вельмі цікавай для нас варыяцыі: „Franciscus Scorina de Polotzko, Arcium bonarum atque Medicinae Doctor faelixque professor" [3]). У першым выпадку—у форме „doctor artium" бяз усякіх дадаткаў—тытул гэты, праўда, не прадстаўляе нічога асаблівага і сустракаецца досыць часта; ён надаваўся спэцыяльнымі факультэтамі artium, які існаваў і ў Кракаве, дзе прадметам курсу зьяўляліся захаваныя яшчэ ад антычнасьці „septem artes liberales". Але з асобным прыслоўкам—„doctor artium bonarum",—як мы сустракаем яго ў сувязі з імем Скарыны ў кёнігсбэрскіх докумэнтах,—ён зьяўляецца ўжо значна больш рэдкім і нязвычайным, і набывае некалькі іншы і новы сэнс. Як вядома, на-

---

1) Пар., напр., гравюры, зьмешчаныя ў кнігах: „Прыповесьці Саламона", „Ісуса сына Сірахава", „Песьня песень", „Прамудрасьць Саламона" і „Эклезіаст".

2) *И. Шляпкин.* К биографии Франциска Скорины. „Журнал Министерства Народного Просвещения", 1892. Апрель. СПБ. „doctissimus iuvenis artium doctor" стар. 383. [Gratia in medicina amore Dei Francisci Rutheni quondam D. Lucae]; „artium doctor"—стар. 385 [Privatum examen in medicinis D. magistri Rutheni].

3) *А. Миловидов.* Новые документы, относящиеся к биографии Франциска Скорины. „Известия Отд. руск. яз. и слов. Российской Академии Наук". 1917 г. Тома XXII книжка 2-я. Петроград 1918. Стар. 223. У другім докумэнце: „Nos egregium et multijugiae eruditionis virum. Franciscum Scorinam de Polotzko, Arcium bonarum atque medicinae Doctorem in subditorum et servitorum nostrorum fidelium numerum adscivisse et suscepisse". Там-жа, стар. 224.

ват artes liberales з іх традыцыйным падзелам па trivium і quadrivium у часы Скарыны захоўваліся ўжо больш тэорэтычна, на справе-ж програмы тагочасных факультэтаў artium былі значна паўней і шырэй [1]. Калі тэрмін artes bonae і нельга разумець у нашым сучасным сэнсе—г. зн. як „прыгожыя мастацтвы",—дык усё-ж магчыма, што ён ня зусім супадаў з тэрмінам artes liberales, і ахапляў яшчэ больш шырокія галіны тэорэтычных і практычных вед, як гэты апошні. У кожным выпадку, калі нават у лік artium liberalium разам з некаторымі матэматычнымі навукамі ўваходзіла таксама і музыка,—дык няма нічога дзіўнага, калі ў лік artium bonarum маглі ўваходзіць і якія-небудзь іншыя мастацтвы—да вобразных мастацтваў і гравюры ўключна. Да таго-ж бясспрэчна, што „науки вызволеныя"—філёзофія, і artes—„мастацтвы"—у часы Скарыны неяк адрозьніваліся і падзяляліся. Бо сам Скарына пасьля экзамену ў Падуанскім Унівэрсытэце быў залічаны ў сьпісы Sacri Collegii Dominorum Artistarum et Medicorum [2]), тады як адначасна з гэтым пры унівэрсытэце існавала яшчэ і асобная калегія Dominorum Philosophorum et Medicorum. Калі гэта так, дык зусім мажліва, што Скарына прымаў некаторы актыўны ўдзел у справе мастацкае аздобы сваіх выданьняў,—магчыма, ня ў якасьці гравёра, але як аўтар тых ці іншых рысункаў, або композыцыйных схэм. На жаль, аднак, ніякіх больш пэўных матар'ялаў па гэтым пытаньні няма.

Пераходзячы да больш дэтальнага разгляду паасобных гравюр, трэба адзначыць адну агульную асаблівасьць, якая даволі рэзка адрозьнівае іх ад гравюр, зьмешчаных у тагочасных заходня-эўропейскіх выданьнях. Папершае, у большай частцы скарынавы дрэварыты значна перавышаюць сваімі памерамі нават тыя гравюры, якія знаходзяцца ў заходніх ілюстраваных бібліях і іншых выданьнях большага фармату. У той час як, напрыклад, у вэнэцыйскай лацінскай „Біблії" 1498 г., у чэскім „Новым законе" 1498 г. [3]) і ў чэскай „Біблії" 1506 г., надрукаваных вялікімі форматамі ў 1/2 аркуша і ў цэлы аркуш („Біблія" 1506 г.)—памеры гравюр не перавышаюць 5-6 сант.,—у „Біблії" Скарыны, пры маленькім формаце in 4⁰, гравюры маюць звычайна памер 10,5×10,5 см., а некаторыя дасягаюць нават памеру 10,5×16 сант., займаючы, такім чынам, больш за палову старонкі, а ў некаторых выпадках і ўсю старонку цалкам, што моцна павялічвае ролю гравюр у вагульным уражаньні ад надворнага выгляду кніжок. Падругое, самая колькасьць іх, пры гэтым, значна менш як у вышэйпамянёных заходніх выданьнях; у „Біблії" Скарыны, як мы ўжо адзначалі, гравюры знаходзяцца звычайна толькі па загалоўных аркушох, і нават калі яны маюць ілюстрацыйны характар,—яны ілюструюць толькі якую-небудзь адну частку тэксту, узятую са зьместу пэўнае біблійнае кнігі. У іншых выданьнях Скарыны гравюр яшчэ менш, прычым яны зьмяшчаюцца таксама па загалоўных аркушох, або ў пачатках паасобных разьдзелаў, але часта ўжо зусім ня маюць характару ілюстрацый. У заходніх-жа выданьнях, наадварот, гравюры ў большасьці ілюстрацыйныя, і больш цесна зьлітыя з самым тэкстам; у чэскім „Новым законе" 1498 г. і ў „Біблії" 1506 г. сустракаецца, пры гэтым, нават па некалькі гравюр у кожнай біблійнай кнізе або ў кожным разьдзеле эвангельля. Такім чынам, у выданьнях Скарыны можна адзначыць як-бы нейкае коль-

[1]). Пар. *Н. Суворов*. Средневековые университеты. Москва 1898.—Стар. 149-150.

[2]) Dr. St. Windakiewicz. Materyały do historyi polaków w Padwie. „Archivum do dziejów literatury i oświaty w Polsce". Том VII. W Krakowie. Nakładem Akademii Umiejętności. 1892.— Atti del Collegio Medici e Filozoli, XVI. str. 158.

[3]) Рас. Публ. Бібл., № 6-ы 9.123.

каснае зьмяншэньне гравюр—за кошт павялічэньня іх асноўных памераў і падвышэньня як іх структурнае значнасьці, так і тэхнічнае дасканаласьці.

Агульны лік гравюр у выданьнях Скарыны (з паўтарэньнямі), апроч загалоўных аркушоў, дэкарацыйных заставак і вялікіх фігурных літар, згодна нашага падрахунку па паасобніках Расійскай Публічнай Бібліотэкі,—раўняецца сарака пяці. З гэтага ліку 3 гравюры знаходзяцца ў праскім „Псалтыру" 1517 г., 39—у „Бібліі" 1517—1519 г. і 3 - ў віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы"; віленскі „Апостал" 1525 году зусім ня мае гравюр, але толькі дэкарацыйныя застаўкі. Па зьмесьце сваім, у хронолёгічным парадку, яны разьмяркоўваюцца наступным чынам:

У „Псалтыру" 1517 г.—два паасобныя сюжэты: 1) *„Генэалёгічнае дрэва Ісуса"*—як відаць, беспасрэдна за страчаным загалоўным аркушам; гравюры гэтай няма ў так званым „Хлудаўскім" экзэмпляры скарынава „Псалтыру", што знаходзіцца ў Маскве, і загэтым яна засталася невядомай А. Віктараву і непамянёнай у яго апісаньні[1]). 2) *„Цар Давыд"*—паўторана два разы; адзін раз—на адвароце папярэдняе гравюры, другі—перад самым пачаткам псальмоў; адзначана і апісана Віктаравым.

У 22 кнігах бібліі знаходзяцца наступныя гравюры: 1-2) *„Іоў і д'ябал"*—кніга „Іова" 1517 г.; паўторана два разы; 3-4) *„Суд Саламона"*—кніга „Прыповесьці Саламона" 1517 г.—два разы; 5) *„Дыспут"*—кніга „Ісуса сына Сірахава" 1517 г.; 6) *„Портрэт Скарыны"*—1-ы варыянт—з тэй-жа кнігі 1517 г.; 7) *„Саламон і царыца Саўская"*—кніга „Эклезіаст" 1518 г.; 8) *„Хрыстос і нявеста"*—кніга „Песьня песень" 1518 г.; 9) *„Хрыстос і Саламон"* (Уладзімеравым адзначана як „Хрыстос і Скарына")—кніга „Прамудрасьць Саламона" 1518 г.; 10) *„Памазаньне Давыда"*—1 кніга „Царстваў" 1518 г.; 11) *„Давыд перад каўчэгам"*—2 кніга „Царстваў" 1518 г.; 12) *„Пабудова ерусалімскага храму"*—3 кніга „Царстваў" 1518 г.; 13—18) шэсьць ілюстрацыйных рысункаў паасобных частак храму і храмовых прылад—у тэй-жа кнізе—1518 г.; 19) *„Аблога Ерусаліма Навуходаносарам"*—4 кніга „Царстваў"—1518 г.; 20) *„Пераход праз Іордан"*—кніга „Ісуса Навіна"—1518 г. 21) *„Юдыта і Олёфэрн"*—кніга „Юдыта"—1519 г.; 22) *„Тройца"*—кніга „Бытія"—1519 г.; 23) *„Портрэт Скарыны"*—2-і варыянт—кніга „Бытія" 1519 г.; 24) *„Шэсьць дзён сьветабудовы"*—кніга „Бытія" 1519 г.; 25) *„Бог у раі"*—кніга „Бытія" 1519 г.; 26) *„Дачка фараона і Майсей"*—кніга „Ісход" 1519 г.; 27—31) пяць ілюстрацыйных рысункаў скініі і яе паасобных частак і прылад—кніга „Ісход" 1519 г.; 32) *„Ізраільскія палкі каля скініі"*—кніга „Чисел" 1519 г.; 33) *„Майсей перад народам"*—кніга „Другога закону" 1519 г.; 34) *„Руфь у полі"*—кніга „Руфь" 1519 г.; 35) *„Самсон і леў"*—кніга „Судзей" 1519 г.; 36-37) *„Эстэр перад Артаксэрксам"*—кніга „Эстэр" 1519 г.—паўторана два разы; 38) *„Плач Ераміі"*—кніга „Ераміі" 1519 г.; 39) *„Данііл са львамі"*—кніга „Данііла" 1519 г.—З гэтага агульнага ліку—трыццаці дзевяці гравюр—адна, а ўласна другі портрэт Скарыны ў „Бытіі", зьяўляецца варыянтам, а тры („Іоў", „Суд Саламона" і „Эстэр") паўтораны па два разы з тых-жа самых дошчак, так што агульную колькасьць паасобных сюжэтаў можна лічыць у 35; адкінуўшы адсюль 11 тлумачальна-ілюстрацыйных рысункаў з „Ісходу" і 3 кнігі „Царстваў",—мы атрымоўваем 24 аркушы, якія маюць мастацкую вартасьць.

[1]) *А. Е. Викторов.* Замечательное открытие в древне-русском книжном мире. „Беседы в обществе любителей Российской Словесности при Имп. Московск. Университете". Вып. I. М. 1867. Стар. 6.

Тут да рэчы будзе адзначыць некаторыя памылкі і недакладнасьці, якія сустракаюцца ў сьпісах гравюр скарынавай „Бібліі“, складзеных Уладзімеравым[1]) і Каратаевым[2]). Сьпісы гэтыя не супадаюць паміж сабой; папершае, нават агульная колькасьць гравюр вылічана ў іх парознаму: у той час як Каратаеў налічвае 46 гравюр, Уладзімераў адзначае толькі 40; розьніца гэтая тлумачыцца тым, што Каратаеў памылкова лічыць „Шэсьць дзён сьветабудовы“ за шэсьць паасобных гравюр, тады як Уладзімераў правільна апісвае гэты аркуш, як адну гравюру. Падругое—сьпісы разыходзяцца паміж сабой у дэталях: так, у „кнігах Царстваў“ Каратаеў налічвае 11 гравюр, у той час як Уладзімераў правільна адзначае 10; з другога боку, у кнізе „Эстэр“—Каратаеў правільна паказвае 2 гравюры, тады як у Уладзімерава лічыцца толькі 1; у кнізе-ж „Ісуса сына Сірахава“ Уладзімераў памылкова паказвае застаўку на аркушы 5-м, якой фактычна няма, а таксама няма і ў апісаньні Каратаева.

Згодна нашага падрахунку, у сьпісы Каратаева і Уладзімерава належыць унесьці наступныя папраўкі: 1) Портрэт Скарыны існуе ў двох варыянтах; першы знаходзіцца ў кнізе „Ісуса сына Сірахава“, у канцы, другі зьмешчаны ў кнізе „Бытія“, усьлед за загалоўным аркушам; апошні варыянт у вабодвых сьпісах чамусьці зусім не зазначаны. 2) Перад пачаткам тэксту „Бытія“, у якасьці застаўкі, зьмешчана сюжэтная гравюра—„бог у раі“, якой у вабодвых сьпісах няма. 3) „Шэсьць дзён сьветабудовы“ трэба лічыць за 1 гравюру, як гэта робіць Уладзімераў. 4) У кнігах „Царстваў“ агулам 10 гравюр, а не 11, як гэта адзначана Каратаевым. 5) Гравюра „Эстэр перад Артаксэрксам“ паўтараецца два разы, так што ў кнізе „Эстэр“ трэба лічыць 2 гравюры (у Каратаева—правільна), а не 1, як у Уладзімерава. 6) У кнізе „Ісуса сына Сірахава“—2 гравюры, а ня 3, як гэта лічыць Уладзімераў. Апроч таго, трэба адзначыць, што ў кнізе „Левіт“ як Уладзімераў, так і Каратаеў паказваюць па 3 гравюры, прычым Уладзімераў адзначае іх больш падрабязна: адна сюжэтная гравюра „Майсей гаворыць з богам“ і дзьве ілюстрацыі, паўтораныя з „Ісходу“. У паасобніку Расійскай Публічнай Бібліотэкі, якім мы карысталіся, мы знайшлі ў кнізе „Левіт“ толькі адну ілюстрацыйную гравюру, паўтораную з „Ісходу“; але паасобнік гэты, як відаць, дэфэктны, так што ў гэтым выпадку мы ня мелі магчымасьці фактычна праверыць паказаньні вышэйпамянёных аўтараў.

Таксама і ў адносінах да гравюр „Малое Падарожнае Кніжыцы“ сьпісы Уладзімерава і Каратаева не ўзгадняюцца паміж сабой, і не адпавядаюць паасобніку Расійскай Публічнай Бібліотэкі. У гэтым паасобніку, які, здаецца, поўны, мы налічылі толькі тры гравюры, а ўласна: 1) „Багародзіца з сьвятымі“ ў рамцы загалоўнага аркушу „Акафістаў“; 2) „Добравешчаньне“ пры акафісьце багародзіцы і 3) „Багародзіца з младзенцам і анёламі“ пры акафісьце „імені Ісусаву“. Уладзімераў налічвае ў „Малой Падарожнай Кніжыцы“ 5 гравюр, прычым загалоўны аркуш „Акафістаў“, дзе зьмешчана „багародзіца з сьвятымі“ ён адносіць чамусьці толькі да аднаго акафісту „труне гасподняй“. Каратаеў-жа адзначае ў „Кніжыцы“ толькі 4 гравюры, ня лічачы паасобнай гравюрай якраз гэтую-ж „багародзіцу“ на загалоўным аркушы „Акафістаў“. Апроч таго, абодва аўтары адзначаюць дзьве гравюры,

[1]) Доктор Франциск Скорина, стар. 80-81.

[2]) *И. Каратаев.* Описание славяно-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами. Т. I. Сборник Отделения Рус. Языка и Словесности Имп. Академии Наук.“ XXXIV. № 2. СПБ. 1883.

якіх няма ў паасобніку Публічнай Бібліотэкі, а ўласна: 1) „Вадохрышча“ пры каноне Яну храсьціцелю і 2) „Ісус у храме“ пры каноне Ісусу. Гэтыя дзьве гравюры, як відаць, засталіся таксама невядомы і Стасаву, які падобна да нас у сваім разглядзе працы Равінскага ўспамінае толькі тыя тры іншыя гравюры, якія адзначаны намі вышэй [1].

Такім чынам, агульная колькасьць сюжэтаў, што падлягаюць нашаму разгляду, раўняецца дваццаці дзевяці, ня лічачы адзінаццаці ілюстрацыйных рысункаў, якія з іншымі гравюрамі мала чым зьвязаны і займаюць некалькі асобнае месца. Усе гэтыя гравюры далёка не аднальковы як у сваім характары, гэтак і па тэхнічных і стылістычных адзнаках. Так яшчэ Стасаў заўважыў, што ў выданьнях Скарыны гравюры зроблены некалькі майстрамі, прычым некаторыя з ліку гэтых майстроў могуць быць прызнаны мастакамі славянскага пахаджэньня [2]; Стасаў адзначае, што ў шмат якіх гравюрах адчуваецца славянскі тып твараў і вопратак, і лічыць, што ў гэтым належыць, быць можа, шукаць чэскіх уплываў [3]; у другім месцы ён дапушчае, што ў апрацоўцы скарынавых выданьняў прымалі ўдзел адзін нямецкі гравёр і некалькі славянскіх [4].

І запраўды, нават з першага пагляду ясна відаць даволі значную розьніцу паміж паасобных гравюр, якія знаходзяцца ў выданьнях Скарыны, што прымушае аднесьці іх да вытвораў некалькіх розных майстроў. Пры больш падрабязным разглядзе выяўляюцца чатыры паасобныя групы гравюр, кожная з якіх характарызуецца сваімі ўласнымі адзнакамі і асаблівасьцямі.

---

*Першая група*—па колькасьці гравюр невялікая. Да яе, дзіўным чынам, прыходзіцца аднесьці дзьве самыя першыя і дзьве з ліку апошніх, зьмешчаных у выданьнях Скарыны гравюр, якія збліжаюцца (хоць і ня тоесамыя) паміж сабой часткова ў стылістычных, і часткова ў іконаграфічных адносінах. З тэхнічнага боку, таксама як і да гравюр чацьвертае (апошняе) групы, да іх найбольш дапасоўваецца ўвага Стасава, што ва ўсіх выпадках самая гравюра па сваім выкананьні значна ніжэй за рысунак і композыцыю [5]. Пры выразным і добра задуманым рысунку, тэхніка гэтых гравюр трохі грубая, паасобныя лініі часамі занадта тоўстыя, штрыхоўка мала дакладная. Да гэтае групы мы адносім наступныя гравюры:

1) *Генэалёгічнае дрэва Ісуса* з праскага „Псалтыру“ 1517 году. Беспасрэдна за загалоўным аркушам. Захавалася толькі ў паасобніку Расійскай Публічнай Бібліотэкі; у маскоўскім, так званым „хлудаўскім“ паасобніку скарынава „Псалтыру“ яе няма, дзеля чаго, як мы адзначалі, гравюра гэтая засталася невядомай Віктараву, а таксама не паказана Уладзімеравым і Каратаевым. Шырыня гравюры 109,5 mm. Вышыню адзначыць з дакладнасьцю немагчыма, бо аркуш моцна папсуты, і верхняй часткі яго зусім няма; прыблізна — каля 130 mm. На доле пад гравюрай надпіс: *„сій есть корень иесеовъ снегоже изыде царь давыдъ Исаломонъ Ииные цари израілевы, Игосподь нашь Іс Хс“*; ніжэй знаходзіцца досыць частая ў выданьнях Скарыны адначасная прыпіска: *„а то ся стало накладомъ богдана онкова сына*

---

[1]) *Стасов.* Разбор... стар. 31-32.
[2]) Ibidem, стар. 30.
[3]) Ibidem, стар. 31.
[4]) Ibidem, стар. 32.
[5]) Ibidem. Гэтую ўвагу Стасаў няправільна пашырае на ўсе гравюры выданьняў Скарыны ў цэлым.

*радци мњста виле(нскаго)*". На самай гравюры мы бачым ляжачую фігуру Есея, з грудзей якога вырастае стылізаванае дрэва, загінаючыся направа і налева ў выглядзе двох сымэтрычных падвойных віткоў з кветкавымі падвяночкамі па канцох. У падвяночках знаходзяцца паасобныя паясныя фігуры, сярод якіх можна пазнаць Давыда (у першым шэрагу направа) і Саламона (там-жа налева). На асяродкавым ствале згары, таксама ў падвяночку, зьмешчана багародзіца з младзенцам.—У композыцыйных адносінах па агульным сваім характары гравюра гэтая трохі набліжаецца да генэалёгічных дрэў у „Нюрэнбэрскай Хронікі" Шэдэля 1493 г. [1]), якія пабудаваны з такіх-жа самых палавінных фігур у кветкавых падвяночках на доўгіх сьцяблох; але скомпанавана яна надзвычайна сымэтрычна, чаго зусім няма ў табліцах Шэдэля, і ні ў дэталях ні ў іх разьмеркаваньні ня мае нічога супольнага са зьмешчаным у Шэдэля радаслоўем Ісуса [2]). Другая, таксама няпоўная аналёгія можа быць паказана ў чэскай „Бібліі" 1506 году, дзе ёсьць падобная па замысьле, але значна больш складаная гравюра з поўным радаслоўем па эвангельлі Мацея [3]). Гэтая апошняя, аднак, значна адрозьніваецца ад скарынавай гравюры як тэхнікай выкананьня, гэтак рысункам дрэва (бяз віткоў), і тыпамі паасобных фігур.

2) *Цар Давыд* з „Псалтыру" 1517 г. Памер: 45×60 mm. Паўтораны два разы: на адвароце папярэдняе гравюры і супроць першых 8 радкоў 1-га псальма на стар. 5, у тым месцы, дзе звычайна зьмяшчаецца загалоўная літара. Уся гравюра, бяз лішніх дэталей, монумэнтальна запоўнена масыўнай фігурай Давыда ў царскай адзежы, з каронай на галаве; рукі яго падняты ўгару, у бок воблака, з якога зьяўляецца бог саваоф; каля ног яго ляжыць музычны інструмэнт, накшталт ліры. Тэхніка выкананьня некалькі грубая, але выразная і энэргічная; уся фігура мае шмат экспрэсіі. Іконаграфічна яна часткова зьвязана з вобразам Давыда на папярэдняй гравюры, — асабліва ў формах музычнага інструмэнту і кароны з крыжападобнымі зубцамі. (Гравюра гэтая адзначана і апісана Віктаравым [4]), які, аднак, памылкова паказвае, быццам яна зьмешчана супроць першых *дзевяці* радкоў першага псальма, і *замяняе* сабой вялікую літару, тады як фактычна яна толькі займае звычайнае яе месца, і нават зьмешчана побач з запраўднай вялікай літарай, якой пачынаецца загаловак псальмоў).

3) *Багародзіца з сьвятымі* ў рамцы загалоўнага аркушу „Акафістаў" у віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы". Рамка надрукавана з 4 паасобных дошчачак. Памеры дошчачак: левай 21×101 mm.; правай—9×101 mm.; горняй—31×8 mm.; дольняй 32×6 mm. Унутры рамкі надпіс: „*почінаютсіа | акафісты на | всю неделю | первы живо | носному гро | бу господню | вънеделю:*". Пад надпісам фрагмэнт лінейнага орнамэнту. Верхняя і ніжняя дошчачкі запоўнены рысункам чыста орнамэнтальнага характару, які прадстаўляецца некалькі нязвычайным для орнамэнтыкі скарынавых выданьняў і набліжаецца да некаторых узораў беларускага народнага орнамэнту. Ён складаецца з няпоўных зігзагаў, паміж якіх зьмешчана нешта накшталт палавінных кветак, стылізаваных у форме трыкутнікаў. Направа ўся вузенькая палоска запоўнена расьлінным орнамэнтам з лісьцямі і кветкамі; на гары знаходзіцца птушка з разьвінутымі крыламі—хутчэй певень, чымся арол, як гэта дапушчае Уладзімераў, чамусьці лічачы, што фігура гэтая можа

[1]) Schedel. Chronicon Nürnbergense. 1493. Рас. Публ. Бібліотэка. 9. VI. 2. № 2.
[2]) Chronicon, fol. XLVII, quarta etas mundi.
[3]) Чэская „Біблія". 1506. Matuss, I.
[4]) *Викторов.* Замечательное открытие.., стар. 6.

быць вытлумачана, як *польскі* (?) гэрб [1]). Налева ў адносна шырокай паласе, на чорным фоне, знаходзіцца галоўная частка гравюры: сярод віткоў расьліннага орнамэнту ў кветкавых падвяночках зьмешчаны паясныя фігуры: на гары—багародзіца, каталіцкага тыпу, у кароне, з скэптрам у правай і младзенцам на левай руцэ; ніжэй—два сьвятых у каронах. Характар дзьвёх апошніх фігур, а таксама рысунак карон, нагадвае аналёгічныя вобразы з генэалёгічнага дрэва ў праскім „Псалтыру" 1517 г., і праз яго часткова зьвязваецца з вышэйпамянёнай „Хронікай" Шэдэля. Другая аналёгія можа быць паказана ў чэскім „Новым законе" 1498 г., дзе мы таксама знаходзім паясныя фігуры, зьмешчаныя ў кветкавых падвяночках [2]), але некалькі іншага тыпу. З тэхнічнага боку гравюра лепш за іншыя; выкананьне яе зусім здавальняючае, рысунак пэўны і выразны. (Вартасьць яе, паміж іншым, была сваячасна адзначана Стасавым, які, аднак, без належных падстаў і довадаў адносіць яе композыцыю да нямецкага, або нават да чэскага стылю [3]). Гравюра рэпродукавана ў Wiszniewskiego: Historya literatury polskiej, t. VIII).

4) *Добравешчаньне* пры акафісьце багародзіцы ў віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы". Памер 64×87 mm. Пад гравюрай надпіс: „*благовестуеть гавріилъ прѣчистой девици богородици марии*". Композыцыя для XVI сталецьця звычайная, удала пабудаваная, з ясным разьмяшчэньнем фігур у выразнай прасторы: Марыя на каленах перад аналоем, з распушчанымі валасамі; арханел з жазлом у левай руцэ, як у нямецкіх гравюрах; у вадчыненае акно ўлятае голуб. З тэхнічнага боку гравюра зроблена менш удала, і рэзана даволі грубымі тоўстымі лініямі, што ўжо адзначалася Стасавым [4]) і Равінскім [5]). Стасаў дадае да свайго апісаньня ўвагу, як быццам у гравюры адчуваецца „анямечаны славянскі тып"; у гэтае азначэньне трэба ўнесьці маленькую папраўку: не анямечаны славянскі тып, але *нямецкі тып, пераапрацаваны на славянскім грунце*, што больш адпавядае рачавістасьці. Аднак, які-небудзь азначаны нямецкі першаўзор у гэтым выпадку паказаць немагчыма. Уладзімераў зацьвярджае, нібыта „добравешчаньне" Скарыны бясспрэчна запазычана з „Хронікі" Шэдэля (fol. XCIV) [6]); але з гэтай думкай зусім нельга згадзіцца. Праўда, паміж скарынавай гравюрай і „добравешчаньнем", зьмешчаным у Шэдэля [7]), ёсьць некаторае падабенства ў агульнай пастаноўцы фігур, у жазьле анёла, і ў распушчаных валасох Марыі; але ўсе гэтыя рысы не зьяўляюцца характэрнымі для аднэй толькі гравюры Шэдэля; мы сустракаем іх таксама і ў „добравешчаньнях", зьмешчаных у чэскім „Новым законе" 1498 г. [8]), у страсбурскім „Hortulus animae" 1507 г. і ў нюрэнбэрскім „Hortulus animae" 1520 г. [9]). У параўнаньні з апошнім цікава блізкае падабенства тыпу твару Марыі, а таксама і тое, што распушчаныя яе валасы, як і ў скарынавай гравюры, усё-ж зьверху прыкрыты лёгкім пакрыцьцем, тады як у Шэдэля яны пакінуты зусім адкрытымі; апроч таго амаль што поўная тоесамасьць гэтых гравюр наглядаецца ў пастаноўцы

---

1) *Владимиров*, op. cit., 177.
2) Гл. гравюры на аркушох 542, 549, 550, 552.
3) *Стасов*. Разбор.... стар. 31.
4) Ibidem.
5) Русские граверы.., стар. 6.
6) Доктор Франциск Скорина, стар. 178.
7) Chronicon.., fol. XCV, „Annucciato domi(ni)ca".
8) Lukasz, I.
9) „Hortulus animae cu(m) horis beate v(ir)ginis s(ecundu)m consuetudinem Romane ecclesie: una cu(m) accessu et recessu altaris et alijs plurimis oratio(n)ibus. Anno MCCCCCXX. (Nürnberg)" Рас. Публ. Бібл., 15.14.6. № 9.

фігуры Марыі, у палажэньні рук, і наагул у разьмяшчэньні групы ў зачыненым памяшканьні з акном на заднім пляне, якога мы зусім не знаходзім у Шэдэля. Аднак, мала магчыма, каб у гэтым выпадку меў месца беспасрэдны ўплыў, напрыклад, „добравешчаньня" з вышэйпамянёнага „Hortulus animae" 1520 г. на адпаведную гравюру ў „Малой Падарожнай Кніжыцы", бо ў іншых гравюрах, а таксама ў застаўках, уплыў гэты зусім не наглядаецца. Хутчэй за ўсё—усе памянёныя намі композыцыі ўвасходзяць да нейкага адзінага супольнага орыгіналу, магчыма да вядомага „добравешчаньня" Мартына Шонгаўэра [1]).

У межах-жа данае групы скарынавых гравюр цікава адзначыць вядомае падабенства тыпу Марыі да аналёгічнага вобразу ў „генэалёгіі Ісуса" з праскага „Псалтыру" 1517 г.

---

Разглядаючы першую групу ў цэлым, трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, што на падставе вядомага стылістычнага і іконаграфічнага падабенства мы прымушаны аднесьці да яе з аднаго боку—дзьве гравюры з першага выданьня Скарыны, г. зн. з праскага „Псалтыру" 1517 г., з другога боку—таксама дзьве гравюры з апошняга яго выданьня—„Малое Падарожнае Кніжыцы", надрукаванае ўжо ў Вільні, як гэта звычайна лічыцца—прыблізна каля 1525 г. З пэўнасьцю трудна сказаць, на чым грунтуецца гэтае падабенства. Магчыма, што аўтары (або аўтар) віленскіх гравюр проста карысталіся гравюрамі праскімі як нейкімі першаўзорамі; але незразумела тады, чаму яны спыніліся толькі на гравюрах з „Псалтыру", не скарыстаўшы значна болей выдатных і дасканалых дрэварытаў „Бібліі". Праўда, па зьмесьце гравюры „Псалтыру" бліжэй падыходзяць да характару „Малое Падарожнае Кніжыцы"; але гэта яшчэ замала, бо і адпаведны „Кніжыцы" зьмест мог-бы быць лёгка ўкладзены ў лепш распрацаваныя з стылістычнага боку формы біблійных гравюр. Такім чынам, дапушчэньне аб перайманьні не высьвятляе пытаньня цалкам, і ня можа лічыцца бясспрэчным. Другое дапушчэньне патрабуе прызнаньня поўнае тоесамасьці аўтара дрэварытаў праскага „Псалтыру" і віленскае „Кніжыцы"; гэтае дапушчэньне таксама ня мае бясспрэчных падстаў, асабліва таму, што з тэхнічнага і стылістычнага боку паміж гравюрамі „Кніжыцы" і „Псалтыру" нельга правесьці поўнае аналёгіі; але магчыма, што частковае непадабенства стылю і тэхнічных прыёмаў тлумачыцца ў гэтым выпадку вядомай эволюцыяй мастацкае манеры гравёра за той даволі значны прамежак часу, які аддзяляе першыя дрэварыты ад апошніх. У такім разе можна дапусьціць, што той-жа самы гравёр, вытворы якога зьмешчаны ў праскім „Псалтыру", прымаў удзел таксама і ў аздабленьні „Малое Падарожнае Кніжыцы", прычым у некаторых выпадках у гэтай апошняй працы выявіліся сьляды ўплыву, магчыма і не беспасрэднага, пазьнейшых выданьняў, накшталт хоць-бы вышэйпамянёнага намі нюрэнбэрскага „Hortulus animae" 1520 г.

Зразумела, што з поўнай дакладнасьцю вызначыць гэтага аўтара немагчыма. Але ў кожным выпадку,—калі гэтым аўтарам ня быў толькі сам Францішак Скарына, што мала праўдападобна,—ён справаджаў Скарыну і ў Празе і ў Вільні, і, значыцца, або належаў да ліку падарожнікаў, узятых ім за рубеж з Беларусі,—або быў адным з зарубежных майстроў, які пазьней прыехаў да Скарыны ў Вільню. Некаторыя быццам беларускія дэталі ў орнамэнтальных мотывах праскага „Псалтыру" (аб чым гутарка будзе ніжэй)—гавораць, бадай, на карысьць

---

[1]) Гл. рэпродукцыю: Kristeller. Kupferstich und Holzschnitt in vier Jahrhunderten. Berlin 1905. Стар. 66.




„Генэалёгічнае дрэва Ісуса“ з праскага „Псалтыру“ 1517 г.



Починаютъся песни Давы-
да пророка царя Изра-
илева [illegible]
Псаломъ Давъ
Блаженъ мужъ иже
не иде на совѣтъ нече-
стивыхъ, и на пути
грешныхъ не ста, и на
[illegible] губитель
не седе. Но въ законе
[illegible] его. И въ
законе его поучится
день и нощь. И будеть яко древо саждено
при исходищихъ водъ, иже плодъ свой да-

Першая старонка праскага „Псалтыру“ 1517 г.



ПОЧИНАЮТСЯ
АКАѲІСТЫ НА
ВСЮ НЕДЕЛЮ
ПЕРВЫ ЖИВО
НОСНОМУ ГРО
БУ ГОСПОДНЮ
ВЪ НЕДЕЛЮ:-

Загалоўны аркуш „Акафістаў" з віленскай
„Малой Падарожнай Кніжыцы".



„Добравешчаньне“ з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы“.

нашага першага дапушчэньня, згодна якога гравюры „Псалтыру“ і „Кніжыцы“ павінны быць прыпісаны нейкаму падарожніку Скарыны — беларусу. Але магчыма дапусьціць і другое. У апошнім з апублікаваных А. Мілавідавым кёнігсбэрскіх документаў, а ўласна ў пасланьні караля Альбрэхта віленскаму ваяводзе Гаштольду ад 26 мая 1530 году, апавядаецца, што, варачаючыся з Кёнігсбэргу ў Вільню, Скарына вывез адтуль з сабой нейкага невядомага нам па прозьвішчы гэбрая, які займаў пры двары караля пасаду прыдворнага доктара і друкара адначасна[1]). Пэрыод, да якога належыць гэты документ, наагул зьяўляецца адным з найбольш цёмных у жыцьці Францішка Скарыны. З дакладнасьцю нам невядомы ані прычыны вандроўкі Скарыны ў Кёнігсбэрг, ані мотывы, якія прымусілі яго ў канцы гэтае падарожы пайсьці на некалькі недалікатны ў адносінах да прускага ўраду ўчынак і перанадзіць да сябе вышэйпамянёнага друкара, што выклікала з боку караля Альбрэхта зусім справядлівае абурэньне. Відавочна, аднак, што паколькі ў 1530 г. Скарыне патрабаваўся друкар,—пастолькі, значыцца, у гэты час ён яшчэ будаваў нейкія выдавецкія пляны і меў замер займацца надалей у Вільні сваёю друкарскаю справаю, прычым патрэба ў новым друкары сьведчыць аб нейкіх спэцыяльных запатрабаваньнях, якія былі ім прад'яўлены да намечаных новых выданьняў. Вязьці звычайнага друкара з Нямеччыны ў Вільню ня мела-б ніякага сэнсу; такія друкары ў той час у Вільні напэўна былі, довадам чаму зьяўляецца надрукаваны Скарынай яшчэ за 5 год да таго — у 1525 годзе—„Апостал“. Але магчыма, што віленскія друкары ня ў поўнай меры задавальнялі Скарыну, і ўласна—з аднаго боку: там ня было, як відаць, спэцыялістых друкароў-гравёраў, паслугамі якіх ён заусёды карыстаўся раней, так што першае віленскае выданьне—„Апостал“ 1525 г.,—у процілегласьць ранейшым, праскім, было зусім без гравюр і ўзбагачана толькі орнамэнтальнымі аздобамі—застаўкамі і загалоўнымі літарамі,—дошкі для якіх, да таго-ж, мабыць былі зроблены яшчэ ў Празе. Такім чынам, калі ў 1530 годзе Скарына меў патрэбу ў новым друкары, — дык патрэба гэтая, хутчэй за ўсё, выклікалася жаданьнем не абмяжоўвацца ў сваёй наступнай, падрыхтаванай да друку кніжцы аднэй толькі орнамэнтальнай графікай па прыкладзе „Апостала“, але аздобіць яе таксама і пасобнымі сюжэтнымі гравюрамі як гэта было ў праскіх выданьнях. Тады магчыма, што прывезены з Кёнігсбэргу друкар якраз і зьявіўся аўтарам гравюр „Малое Падарожнае Кніжыцы“, якая ў такім выпадку павінна быць датавана ня 1525 годам, як гэта звычайна лічыцца, але не раней 1530 году. Ён-жа мог быць і аўтарам гравюр праскага „Псалтыру“; магчыма дапусьціць, што Скарына не ўпяршыню пазнаёміўся

[1]) „Dum eramus Cracoviae non ita pridem, detulit se nobis iudeus aliquis, medicam artem se profiteri asserens... Cujus petionibus nostris subditis non infrugiferiae existimatis benigne subscripsimus atque concessimus: et ad civitatem nostram Regiomontanam se una contulit... Interim quoque aderat Doctor aliquis Franciscus Scorina, quem et in familiam nostram aulicam accepimus. Is ob sua negocia, quae Vilnae habere et ibi se commorari asserebat, datis quoque ad Magnificentiam Vestram nostris cum illo litteris se proficiscens, verborum forte suorum lenociniis hominem istum iudeum nostrum Typographum secum clam abduxit...“ („Ня так даўно, калі мы былі ў Кракаве, зьявіўся да нас нейкі юдэй, які казаў, што ён займаецца мэдычнай навукай... Палічыўшы патрэбным не пакінуць бяз вынікаў зьвернутыя да нас яго просьбы, мы ласкава згадзіліся і дазволілі, каб ён разам з намі накіраваўся ў сталіцу нашую Кёнігсбэрг... Тым часам там таксама знаходзіўся нейкі доктар Францішак Скарына, якога мы прынялі ў лік нашых прыдворных. Гэты апошні, дзеля свайго прадпрыемства, якое па яго запэўненьнях ён меў у Вільні, месцы сталага свайго мяшканьня, і карыстаючыся граматамі, дадзенымі намі яму на імя Вашага Шаноўства, а таксама, быць можа, і з дапамогаю ліслівасьці слоў сваіх, - гэтага чалавека, юдэя, нашага друкара, патаемна ўвёз з сабою...“). А. *Миловидов*. Новые документы, относящиеся к биографии Франциска Скорины. „Известия Отд. Рус. Яз. и Словесн. Российской Академии Наук“. Т. XXII, кн. 2. Пг. 1918. Ст. 225-226.

з ім у Кёнігсбэргу, але сустракаўся яшчэ раней, у часе сваіх вандровак па Заходняй Эўропе, быць можа, нават, у Падуі, паколькі друкар гэты быў адначасна і доктарам. Пры першым спатканьні ён мог зрабіць дошкі для першага намечанага Скарынай выданьня, якія былі потым выкарыстаны ў праскім „Псалтыру". Пазьней, у Празе, Скарына ўжо карыстаўся паслугамі цэлага шэрагу іншых мастакоў і, мабыць, ня меў патрэбы ў сваім першым майстры. Але апынуўшыся ў Вільні, дзе ня было адпаведных спэцыялістых, ён мог успомніць аб ім і прадпрыняць патрэбныя крокі для яго адшуканьня і скарыстаньня.

Усе гэтыя дапушчэньні грунтуюцца на дзьвёх пасылках: першае—што сам Скарына ня ведаў тэхнікі гравіраваньня і сам ніколі ня быў гравёрам; другое—што аўтар рысункаў да гравюр і гравёр-выканаўца іх,—гэта адна і тая-ж асоба. Першая з гэтых пасылак амаль што бясспрэчна, бо інакш вельмі цяжка было-б вытлумачыць самы факт прывозу друкара з Кёнігсбэргу. Што-ж датычыць другой,—дык гэта іншая справа, і, адмаўляючыся ад думкі аб тоесамасьці аўтара і выканаўцы, можна высунуць яшчэ адно новае дапушчэньне: што аўтарам рысункаў быў сам Скарына, чым і тлумачыцца іконаграфічнае падабенства некаторых фігур у праскім „Псалтыру" і ў віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы",—выкананьне-ж іх было даручана розным гравёрам-разьбяром, дзеля чаго з тэхнічнага боку паміж тымі ды другімі гравюрамі і прыкмячаецца некаторая розьніца. Апошняе дапушчэньне не супярэчыць і першаму ў тых адносінах, што выкананьне віленскіх гравюр і тут можа быць прыпісана таму-жа невядомаму, вывезенаму з Кёнігсбэрга друкару.

Ня лічачы, аднак, аніводнага з гэтых вывадаў бясспрэчным і канчатковым, прыходзіцца адзначыць надзвычайную цяжкасьць пытаньня ў адносінах да першае, выдзеленае намі групы скарынавых гравюр, і заўважыць, што пры сучасным становішчы докумэнтальных крыніц высьветліць яго больш дакладна яшчэ немагчыма.

---

*Другая група*, у процілегласьць першай, складаецца выключна з дрэварытаў праскае „Біблії" 1517—1519 гадоў, уключае ў сябе значна большую колькасьць гравюр і вызначаецца поўным тэхнічна-стылістычным адзінствам. Для помнікаў гэтае групы зьяўляюцца характэрнымі: добры і выразны рысунак, значная тэхнічная дасканаласьць лінейнае трактоўкі, вялікія пластычна-модэляваныя фігуры з рэзка акрэсьленымі рысамі твараў. Ва ўсіх гравюрах зьмешчаны г. зв. „гэрб" Скарыны са знакам зацьменьня [1]). Да гэтае групы належаць наступныя дванаццаць гравюр:

1. *Портрэт Скарыны* 1517 г. Існуе ў двох варыянтах, першы з якіх знаходзіцца ў канцы кнігі „Ісуса сына Сірахава" 1517 г., другі-ж зьмешчаны ў кнізе „Бытія" 1519 г. беспасрэдна ўсьлед за загалоўным аркушам. Памеры: 1-га варыянту—105×161 mm.; 2-га варыянту—104×158 mm. У композыцыйных адносінах абодва варыянты амаль што зусім тоесамы. На гравюры мы бачым Скарыну ў яго пакоі, у нізкім крэсьле перад пюпітрам, з пяром у правай руцэ над разьвінутай кнігай; другая кніга знаходзіцца направа ад яго на падстаўцы. Ён апрануты ў доктарскую мантыю і берэт, з-пад якога выбіваюцца доўгія валасы. Пюпітр пакрыты вузкім абрусам з бахрамой, орнамэнтам і вя-

---

[1]) Аб гэтым „гэрбе" гл. мой артыкул „Калі радзіўся Францішак Скарына" ў № 5 часопісу „Полымя", Менск, 1925 г.

лікім „гэрбам". На сьпінцы крэсла з абодвых бакоў—гэральдычныя львы, якія падтрымліваюць шчыты са знакамі [знак] і [знак][1]). На заднім пляне архітэктурны мотыў з колюмнамі і гзымсам, абвітым расьліннай гірляндай. Навакол фігуры Скарыны разьмешчаны розныя рэчы: „sphaera mundi", пясочны гадзіньнік, кнігі, лаўка з падушкай, сьвяча ў ліхтары з рэфлектарам, два кошыкі, жбан, на падлозе вялікая муха. На самай гары гравюры, на асобнай пласьцінцы, якую падрымліваюць дзьве фантастычныя рыбы, зьмешчана дата: „АФЗІ" (1517 г.). На аналёгічнай пласьцінцы, толькі крыху большых памераў, унізе знаходзіцца надпіс вязьзю „*Доктор Францискъ Скорина*" [2]). Налева, каля кошыкаў—монограма гравёра з літар М і З.

Усе гэтыя дэталі ў абодвых варыянтах паўтараюцца з поўным падабенствам, за выключэньнем толькі формы „гэрба", часткова зьмененай у другім варыянце. Але з тэхнічнага боку паміж гэтых варыянтаў існуе вядомая розьніца. Уласна, 2-гі з ліку іх зьяўляецца лепшым: ён характарызуецца высокай выразнасьцю рысунку, разам з чыстатой і яснасьцю ліній, пракладзеных умелым разцом,—і, бясспрэчна, зьяўляецца вытворам надзвычайна добрага гравёра; 1-ы варыянт некалькі слабейшы ў дэталях і менш выразны,—як, напр., у валасох, у берэце, або ў пакрыцьці пюпітра; таксама грубей пракладзены ў ім цені, з меншай сформаванасьцю абрысаў і большай таўшчынёю штрыхоў. Але ўсё-ж і ён робіць настолькі добрае ўражаньне, што нават не карыстаючыся другім варыянтам, Стасаў, знаёмы выключна з першым, зусім справядліва раўнае яго „да найлепшых нямецкіх гравюр таго часу па добрым рысунку, моцы і колёрытнасьці гравюры" [3]). І-ы варыянт вядомы нам у двох адбітках: адзін з іх, як паказана вышэй, знаходзіцца ў кнізе „Ісуса сына Сірахава", другі-ж, у паасобніку Расійскай Публічнай Бібліотэкі, далучаны на асобным аркушы да кнігі „Бытія". Гэты варыянт некалькі разоў быў рэпродукаваны: так мы сустракаем яго ў Равінскага: „Материалы для русской иконографии", Вып. III. СПБ. 1884. № 90, з апісаньнем на стар. 3, дзе паказана, што гравюра рэпродукавана з кнігі „Ісуса сына Сірахава", з адзінага паасобніку бібліотэкі Духоўнае Акадэміі; далей мы знаходзім яго ў монографіі Уладзімерава, у зборніку „Weissruthenien" (Berlin, 1919. Hsgb. von Walter Jäger), у артыкуле Папова („Початки друкарства у слов'ян"—„Бібліологичні вісти". Київ 1924) і інш. З яго-жа гравёрам Фларовым была ў свой час зроблена гравіраваная па медзі копія, з подпісам налева ўнізе: „Гр. Ал. Фл." [4]). Тым часам 2-гі варыянт ча-

---

[1]) Значэньне гэтых знакаў няясна; першы з іх, разам з „гэрбам", паўтараецца, апроч „Портрэту", у некаторых іншых гравюрах; другі сустракаецца толькі адзін раз у „Портрэце". Магчыма, што гэта астролёгічныя або магічныя знакі; у кожным выпадку, нешта падобнае да першага знаку мы бачылі на старажытных гэбрайскіх талісманах, рэпродукаваных у кнізе „Superstitions de tous les peuples du monde". Amsterdam 1789. T. IV. табл. XX. З другога боку, большасьць дасьледчыкаў лічыць гэты знак монограмай з літар Т і Д; Штрытэр-жа выказаў думку, што знак гэты ёсьць злучэньне двох Б—„проста і наадварот"—„Опыт трудов вольного Российского собрания". Москва 1783. T. VI. Калі прыняць гэта апошняе тлумачэньне, дык можна яшчэ пашырыць яго, лічачы, што асноўны трыкутнік знаку магчыма разумець як літару О; у такім выпадку ўвесь знак тлумачыцца як монограма БО,—быць можа: „*Богдан Онькаў*",—імя выдаўцы перакладаў Скарыны, вядомае нам па прыпісках: „ато ся стало накладомъ Богдана Онкова сына радци места виле...",—гл. вышэй пры апісаньні „Генэалёгічнага дрэва" ўпраскім „Псалтыру" 1517 г.

[2]) *Петрушэвіч* замест „Доктор" чытае ў гэтым надпісу „Георгій". „Вопросы и ответы" ў газ. „Слово" ад 25 лістапада 1875 г., стар. 2 (Львоў).

[3]) *Стасов*, op. cit., стар. 30.

[4]) Гл. пералік гравюр Фларова ў *Голлербаха:* История гравюры и литографии в России. М. Пг. 1923 г. стар. 162; гравюра гэтая рэпродукавана ў выданьні: „Палеографические снимки шрифтов (числом 12), принадлежащие к описанию старопечатных книг славянских, находящихся в библиотеке И. Н. Царского". Москва, 1836. Таб. III. № 4.

мусьці заставаўся зусім невядомым [1]), і нават не памінаецца ў спэцыяльнай літаратуры, як напр. у Равінскага, які наагул, падобна Стасаву, ставіць портрэт Скарыны досыць высока [2]).

Адным з цікавых пытаньняў у сувязі з портрэтам Скарыны зьяўляецца пытаньне аб аўтары яго, якое аднак вырашаецца ня лёгка, ня гледзячы на зьмешчаную на портрэце монограму гравёра МЗ. Так яшчэ Стасавым было адзначана, што значэньне гэтае монограмы пакуль што застаецца загадковым [3]). Равінскі тлумачыць яе, як *Мартын Цазінгер* або *Цагель*,—але тлумачэньне гэтае, хоць яно і мае вядомыя падставы, усё-ж ня можа лічыцца бясспрэчным. Справа ў тым, што зусім аналёгічнае монограмы з тымі-ж абрысамі літар М і З і ў такім спалучэньні як у портрэце Скарыны,—у гісторыі гравюры мы ня ведаем. Падобнаю монограмай з тых-жа самых літар больш простае формы і ня злучаных, а паасобна—карысталіся, як відаць, некалькі розных гравёраў. Адзін з іх зьяўляецца аўтарам перайманьня нідэрляндзкае сэрыі гравюр пад загалоўкам „Ars moriendi“ і па манеры сваёй цалкам належыць да XV сталецьця; аб другім вядома, што некалькі пазьней за першага ён працаваў у Муніху; вядомы таксама дзьве яго гравюры, датаваныя 1500 годам [4]). Прозьвішчы-ж іх рознымі аўтарамі вызначаюцца па-рознаму. Адносна другога, напрыклад, Murr пасылаецца на нейкі портрэт з подпісам: *„Mathaeus Zasinger Sculptor Norimb.“*, і ўтоесамліваючы яго з монограмістым МЗ, лічыць, што ён жыў у Нюрэнбэргу, і што яго трэба адрозьніваць ад *Мацея Цынка (Mathieu Zink, 1498—1586)*, які карыстаўся аналёгічнай монограмай [5]). Aretin называе яго *Mathaeus Zayssinger* [6]). Dr Nagler сьцьвярджае, наадварот, што прозьвішча яго было *Mathes Zwikopf* [7]) Kristeller-жа, не адзначаючы ніякага пэўнага імя, робіць толькі ўвагу, што прыпісваць монограму МЗ Цазінгэру—няма ніякіх падстаў [8]). Што датычыць першага з ліку памянёных намі гравёраў, які карыстаўся тымі-ж літарамі, толькі з крыху зьмененай формай літары З,—дык згодна думцы *Passavant*'а магчыма, што гэта ёсьць памянёны Murr'ам *Мацей Цынк* [9]). Wesselly-жа паказвае яшчэ імя *Цагеля* (*Zagel*), не зазначаючы, праўда, да якога з ліку двох памянёных монограмістых ён яго дапасоўвае [10]).

Уся гэтая блытаніна імён, зразумела, зусім не высьвятляе пытаньня аб аўтары портрэта Скарыны. Імёны, адзначаныя Равінскім, узяты, як відаць, чыста выпадкова, грунтуючыся толькі на вядомым падабенстве монограм. Фактычна-ж, нават, і немагчыма прыпісваць гэты портрэт гравёру з Муніху (як-бы ні звалі яго—Цазінгер, або Цьвікопф, або як-небудзь яшчэ): папершае — дзеля таго, што гравёр гэты працаваў, мусіць, выключна *на медзі* [11]); падругое — з прычыны таго, што ўвесь стыль і

[1]) У вадзіным толькі выпадку з яго, як відаць, была зроблена рэпродукцыя, зьмешчаная ў „Крестном Календаре“ на 1873 год, стар. 47.

[2]) *Д. Ровинский*. „Русские граверы...“, стар. 5; таксама яго-жа: „Подробный словарь русских гравированных портретов“. СПБ. 1888. Т. III.

[3]) Стасов, op. cit., стар. 31.

[4]) *Passavant*. Le peintre-graveur. Leipzig 1860. I, 212.

[5]) *C. G. von Murr*. Description de la ville de Nuremberg. „Journal zur Kunstgeschichte“, 1775, стар. 523.

[6]) Appendice à l'histoire de la littérature, I. 70.

[7]) „Deutsches Kunstblatt“ 1853, стар. 78; таксама *Bartsch*. Le peintre-graveur. Wien, 1803-1821. VI, 371 і *Passavant*, op. cit., II. 169-170.

[8]) Kupferstich und Holzschnitt in vier Jahrhunderten. Berlin 1905. Стар. 73.

[9]) *Passavant*, op. cit., II, 172-174.

[10]) J. *Vesselly*. Geschichte der Graphischen Künste. Leipzig 1891. Стар. 30.

[11]) Гл. сьпіс яго гравюр у *Passavant*, op. cit. II, 170-172; з ліку гравюр на дрэве аўтар гэты адзначае толькі дзьве, якія да таго-ж зьяўляюцца, па яго думцы, спрэчнымі ў сэнсе правільнасьці атрыбуцыі. Ibid., 172.

характар портрэту відавочна супярэчыць тэй гравёрнай манеры і стылістычным прыёмам, якія мы можам заўважыць у вядомых нам гравюрах гэтага майстра [1]). Хутчэй мы маглі-б аднесьці портрэт Скарыны да вытвораў першага з ліку памянёных намі монограмістых—аўтара перайманьня „Ars moriendi", якога Passavant называе Мацеем Цынкам. Але паколькі гравюры гэтага майстра наогул мала вядомы, і паколькі няма ніякіх вестак аб тэй ці іншай сувязі яго з Прагай, дзе быў надрукаваны портрэт Скарыны,—пастолькі і гэтае дапушчэньне было-б, у сутнасьці, зусім бязгрунтоўным. Мы з свайго боку лічылі-б, што пры няпоўнай тоесамасьці зьмешчанай на портрэце Скарыны монограмы з іншымі вядомымі нам монограмамі гравёраў, складзенымі з тых-жа літар,—усякая атрыбуцыя портрэту зьяўлялася-б у даным выпадку занадта выпадковай і спрэчнай, тым больш, што нават адносна значэньня гэтых іншых монограм у спэцыяльнай літаратуры, як мы толькі што бачылі, далёка няма поўнае згоды думак. На нашую думку, значна больш праўдападобна было-б дапусьціць, што мы тут маем справу яшчэ з адным новым монограмістым, імя якога мы вызначыць ня можам, але які бясспрэчна працаваў каля 1517 году ў Празе, і хутчэй за ўсё належаў да ліку тых чэскіх гравёраў, аб якіх пакуль што, дзеля адсутнасьці спэцыяльных дасьледзін чэскае гравюры, мы амаль што нічога ня ведаем, або ведаем надзвычайна мала. Гэтаму дапушчэньню не супярэчыць „нямецкая" дакладнасьць і дасканаласьць тэхнікі ў портрэце Скарыны, якая была заўважана яшчэ Стасавым, бо пры агульнай сувязі, якая існавала паміж чэскім кнігадрукарствам і нямецкімі друкарнямі,—бясспрэчна, і чэская гравюра павінна была знаходзіцца ў вядомай залежнасьці ад нямецкага гравюрнага мастацтва. Залежнасьць гэтая, аднак, была, мабыць, больш тэхнічная, як стылістычная, што добра відаць хаця-б пры параўнаньні ўсёй тэй групы гравюр, да якой мы адносім портрэт Скарыны, цалкам—да некаторых бясспрэчна нямецкіх гравюр, якія ў ня надта значнай колькасьці сустракаюцца разам з помнікамі гэтае групы ў паасобных кніжках тэй-жа скарынавай „Бібліі" 1517—1519 гадоў.

2. *Хрыстос і нявеста* з кнігі „Песьня песень" 1518 г. Бяз надпісаў. Звычайная сымбалічная ілюстрацыя да „Песьні песень", скомпанаваная ў характары „каранаваньня багародзіцы" і некалькі блізкая ў гэтых адносінах да „каранаваньня" ў „Хроніцы" Шэдэля („Coronatio Gloriose virginis Marie In celis". Fol. CIII, Sexta etas mundi). У васяродку гравюры сярод прыгожа стылізаваных і надзвычайна добра гравіраваных воблакаў зьмешчана фігура Ісуса; каля ног яго—жаночая постаць на каленах, з непакрытымі распушчанымі валасамі, у доўгай мантыі, якая разьбіваецца на дробныя складкі. На яе нахіленую галаву Ісус ускладае карону. Па бакох яго ў воблаках—два шасьцікрылыя хэрувімы. Унізе гравюры, крыху бліжэй да правага боку, знаходзіцца звычайны „гэрб" Скарыны з сонцам і месяцам. З ліку дэталяй цікава трактоўка німбу над галавой Ісуса з упісаным у яго крыжам, якая набліжае яго да німбаў у гравюрах тэй-жа хронікі Шэдэля (Chronicon..., Fol. I, V, VI і інш.) у процілегласьць гладкім німбам іншых нямецкіх і чэскіх выданьняў. У тэхнічных адносінах гравюра зьяўляецца аднэй з найлепшых ня толькі ў гэтай групе, але і наагул у выданьнях Скарыны: выкананьне яе амаль што дасканала, кожная самая дробная лінія праведзена ўпэўнена і моцна; уся гравюра мае надзвычайна сакавіты і глыбокі колёрыт; пры гэтым як воблакі, так і фігуры трактаваны высока пластычна і ў той-жа час чыста дэкарацыйна.

[1]) Пар., напр., яго гравюру: „Das Liebespaar", якая рэпрадукавана ў *Kristeller*'a, op. cit., стар. 73.

3. *Пераход праз Іордан* з кнігі „Ісуса Навіна" 1518 г. Памер: шыр. прыбл. 100 mm. (дакладна невядома, бо левая частка аркуша ў паасобніку, якім мы карысталіся, запсавана); выш. 106 mm. Надпіс: *„Исус Навин ведеть людеи Ізраилевых чере Іордан"*.—Ісус Навін на чале доўгае чарады людзей, большасьць з ліку якіх, за выключэньнем некалькіх пярэдніх фігур, прадстаўлены на гравюры толькі часткова. Ён апрануты ў багата орнамэнтаваныя ў готычным гусьце латы, на правай руцэ яго—шчыт, у левай дзіда. Па бакох яго зьмешчаны дзьве мужчынскія фігуры, якія цікавы сваімі зачоскамі і вопраткамі,—асабліва правая з яе кароткім жупанам, яшчэ больш кароткім плашчом і нязвычайным галаўным уборам. Цікавы таксама жаночыя галовы на заднім пляне ў галаўных уборах, якія крыху нагадваюць вядомыя „намёткі". Тыпы твараў ва ўсіх фігурах, апроч можа толькі аднэй,—як і на шмат якіх іншых гравюрах гэтае групы,—выразна славянскія, што яшчэ раз, магчыма, пацьвярджае выказанае намі пры рэзглядзе портрэта Скарыны дапушчэньне аб чэскім пахаджэньні гэтае групы. Композыцыя гравюры вытрымана па дыягоналі ад правага горняга да левага дольняга кута. Па бакох чарады вандроўцаў разьдзеленае мора вызначана стылізаванымі хвалямі. У левым горнім куце знаходзіцца шчыт са звычайным „гэрбам" Скарыны. Тэхніка, як і ў іншых гравюрах гэтае групы—упэўненая, чытэльная, з выразнымі штрыхамі і плястычнай апрацоўкай фігур. (Гравюра адзначана Равінскім, як адна з лепшых у выданьнях Скарыны. „Русские граверы", стар. 5).

4. *Шэсьць дзён сьветабудовы* з кнігі „Бытія" 1519 г. Шэсьць паасобных гравюр у ваднэй рамцы памерам 107×160 mm.; кожная гравюрка паасобна мае памер 45×46,5 mm.; рамка і ўнутраныя ў ёй пераплёты паміж гравюркамі маюць шырыню па 5—6 mm. Надпісаў няма. Па зьмесьце сваім паасобныя гравюркі зьяўляюцца ілюстрацыямі да біблійнага апавяданьня аб стварэньні сьвету: а) Першы дзень—у воблаках бог айцец і два хэрувімы; б) Аддзяленьне вады ад зямлі—ён-жа на фоне зямлі і неба, левая рука на грудзёх, правая апушчана ўніз; в) Стварэньне расьлін—ён-жа на беразе мора, рукі разьвінуты ўбакі; на беразе расьліны; г) Стварэньне нябесных сьвяціл — ён-жа сярод расьлін з паднятай правай рукой; у небе два роўналежныя шэрагі васьміканцовых зорак і паміж іх—сонца і месяц, злучаныя, як гэта звычайна ў „гэрбе" Скарыны; д) Стварэньне рыб і птушак—тая-ж фігура на беразе, у вадзе рыбы, на дрэве птушкі; е) Стварэньне жывёл і чалавека—фігура бога айца зьвернута ў профіль; на пярэднім пляне налева ляжыць пад дрэвам Адам, за ім відаць напалову закрытую постаць Эвы; каля Адама дзьве галовы жывёл.

Гэты зьмест як паасобных гравюрак, так і ўсяго аркушу цалкам не прадстаўляе сабой нічога орыгінальнага, бо аналёгічныя ілюстрацыі амаль што заўсёды сустракаюцца ў лацінскіх, нямецкіх і чэскіх бібліях канца XV—пачатку XVI сталецьця на першых старонках кнігі „Бытія". Для прыкладу можна паказаць на вэнэцыйскую лацінскую „Біблію" 1498 г. і чэскую „Біблію" 1506 г. Але зьмешчаная ў „Бібліі" Скарыны гравюра зусім не зьяўляецца копіяй з гэтых апошніх, так што прыходзіцца рашуча адхіліць зацьверджаньне Уладзімерава, які адзначае, быццам у скарынавай „Бібліі" „перад самым пачаткам кнігі „Бытія" зьмешчаны „шэсьць дзён сьветабудовы" *такія-ж самыя* (курсіў наш. М. Ш.), як і ў вэнэцыйскім выданьні „Бібліі" 1498 г., чэская-ж „Біблія" 1506 г. *паўтарае* (курс. наш) гэтую гравюру ў большых памерах"[1]). На справе, паказаная Уладзімеравым тоесамасьць скарынавае гравюры з адпавед-

[1]) Доктор Франциск Скорина, стар. 80.

нымі аркушамі лацінскае „Бібліі“ 1498 г. і чэскае „Бібліі“ 1506 году—зусім не наглядаецца. Вядомая сувязь паміж гэтых гравюр—гэта сувязь чыста сюжэтная, але ні ў якім выпадку не композыцыйна-формальная і, нават, не іконаграфічная. Першая-ж з ліку вышэйпералічаных намі паасобных гравюрак—нават і ў сюжэтных адносінах некалькі адрозьніваецца ад аналёгічных вэнэцыйскіх гравюр: у лацінскай і чэскай бібліях зьместам гравюры зьяўляецца тут стварэньне зямлі і неба, тады як у гравюры Скарыны—бог айцец і два хэрувімы. У іншых гравюрках—сюжэты супадаюць,—але ў композыцыйных адносінах толькі другая некалькі набліжаецца да аналёгічнай гравюры ў чэскай „Бібліі“ 1506 г. Ва ўсіх іншых выпадках паміж тых і другіх гравюр зусім няма ніякага падабенства,—ані композыцыйнага, ані стылістычнага: наадварот, наглядаецца вядомая розьніца. Так, напрыклад, у гравюрах Скарыны ўсюды на першы плян высоўваюцца чалавечыя фігуры, тады як у чэскай і лацінскай бібліях значная роля адведзена пэйзажу. У чацьвертай гравюрцы сонца і месяц злучаны разам, аналёгічна звычайнаму „гэрбу“ Скарыны, зоркі-ж разьмешчаны правільнымі роўналежнымі шэрагамі,—у той час, як у лацінскай „Бібліі“ зоркі раскіданы ў непарадку, у чэскай—яны запаўняюць увесь фон гравюры, сонца-ж і месяц знаходзяцца паасобна.

Таксама рэзка адрозьніваецца агульная трактоўка фігуры бога айца і тып яго твару. Фігура гэтая некалькі прысадзістая, і мае зусім іншыя пропорцыі; характар твару—выразна славянскі; высокі німб з упісаным у яго крыжам—аналёгічны німбу Ісуса з „Песьні песень“—магчыма запазычаны як іконаграфічная дэталь з „Хронікі“ Шэдэля,—тады як у чэскай і лацінскай бібліях мы знаходзім звычайныя гладкія німбы. Цікава пры гэтым, што ўсюды, апроч толькі першае гравюры, німб гэты выходзіць за межы рамкі, асабліва падкрэсьліваючы композыцыйную значнасьць галоўнае фігуры.

Тэхніка выкананьня скарынавае гравюры значна адрозьніваецца ад лацінскай „Бібліі“, дзе фігуры гравіраваны надзвычайна тонка, аднымі контурамі, без поўтонаў,—і больш набліжаецца да гравюрак чэскае „Бібліі“ 1506 году, хоць і тут можна заўважыць пэўную розьніцу: у гравюры Скарыны лініі крыху грубейшыя, хоць дзе-ні-дзе і больш энэргічныя; у ценявых частках паасобныя рысы зьліваюцца ў чорныя плямы, чаго ў чэскай „Бібліі“ няма; штрыхоўка ў большасьці складаецца з простых ліній, тады як у чэскай „Бібліі“ ўжываюцца і акруглыя штрыхі. Агулам кажучы—чэскія гравюры зроблены больш дакладна,—але гравюры Скарыны больш монумэнтальна, і ў позах фігур—значна больш экспрэсіі і выразнасьці. Асабліва цікава, што ў іх утвораны нейкі азначаны і самаўласьцівы тып бога айца,—строга вытрыманы і зусім непадобны да лацінскага і чэскага адменьнікаў гэтага тыпу: праўда, у гэтых апошніх ён і наагул ня зусім ясны.

Заслугоўваюць увагі і некаторыя дэталі чыста стылістычнага характару. Так, напр., памастацку зробленая, аздобленая рытмічным узорам рамка скарынавае гравюры—апрацавана вострымі лісьцямі яшчэ готычнага характару, у той час як у чэскай „Бібліі“ 1506 г. ўжо адчуваюцца некаторыя элемэнты рэнэсансу. Магчыма, што ў сувязі з гэтым трактоўка агалёных фігур Адама і Эвы, асабліва першага,—у чэскай „Бібліі“ некалькі больш свабодна; таксама лепш разгарнуты пэйзаж і лепей выяўлены прасторавыя адносіны. Але ў „Бібліі“ Скарыны—уся гравюра цалкам болей компактна і болей дэкорацыйна. Пры гэтым характэрна адзначаная намі перавага фігур над пэйзажам і аксэсуарамі (якая ўласьціва і больш позьняй беларускай гравюры, а таксама малярству да XVIII ст. ўключна),—тады як у гэты час значная

композыцыйная роля адводзілася пэйзажу ня толькі ў гравюрах чэскае „Біблії“ 1506 г., але і ў нямецкай гравюры, як, напр., ва ўсіх сюжэтных дрэварытах „Нюрэнбэрскае хронікі“ Шэдэля.

Нарэшце—яшчэ адна чыста тэхнічная адзнака: у лацінскай „Біблії“ 1498 г. ўсе шэсьць гравюрак, бясспрэчна, надрукаваны з шасьці паасобных дошчачак; у чэскай „Біблії“ 1506 г.—гэта таксама магчыма; у „Біблії“-ж Скарыны ўвесь аркуш быў выразаны на аднэй дошцы, аб чым сьведчаць німбы, якія выходзяць за межы рамак і зьліваюцца з орнамэнтам.



5. *Бог у раі.* Застаўка перад пачаткам кнігі „Бытія“ 1519 году. Памер: 106×53 mm. (У сьпісах Уладземірава і Каратаева не паказана). Бог айцец на беразе; там-жа група з чатырох жывёл, сярод якіх можна пазнаць аленя і льва; у вадзе рыбы і вадзяныя птушкі; на процілеглым беразе, на дрэве—два папугаі; у небе—шэраг васьмікапцовых зорак, і сонца з месяцам, злучаныя, як у „гэрбе“ Скарыны.

Па сюжэце сваім, а часткова і ў композыцыйных адносінах, гравюра гэтая знаходзіцца ў сувязі з аналёгічнай гравюрай з чэскай „Біблії“ 1506 г., але адрозьніваецца ад яе тымі-ж рысамі, як і папярэдні аркуш ад адпаведнага чэскага. Наагул кажучы, калі застаўка Скарыны ў некаторых адносінах і выяўляе залежнасьць ад чэскай гравюры,—дык усё-ж бясспрэчна, што шмат у чым яна была перароблена нанова, зусім таксама як і паасобныя гравюркі папярэдняга аркушу. Папершае—дзеля свайго прызначэньня ў якасьці застаўкі яна мае зусім іншыя пропорцыі. Падругое—як і ў папярэдняй гравюры пэйзаж тут зьведзены зусім на нішто. Далей,—група жывёл з левага боку хоць і горш па рысунку, але больш удала скомпанавана: у композыцыю ўведзены рыбы, якіх няма ў чэскай гравюры; зусім зьніштожаны птушкі ў паветры і група дрэў задняга пляну; заместа-ж іх на фоне неба зьмешчаны дэкарацыйны шэраг зорак і гэральдычнае злучэньне месяца з сонцам. Цікавай дэтальлю зьяўляецца тое, што ў чэскай гравюры, у процілегласьць папярэдняму аркушу, ужыты німб з крыжам, як у Шэдэля, у той час як у гравюры Скарыны, пры захаваньні агульнага тыпу бога айца, зусім тоесамага з папярэднім аркушам,—німба зусім няма. Нарэшце, уся композыцыя гравюры Скарыны ў параўнаньні да чэскай некалькі больш цэнтралізавана і скучана, але якраз з гэтай прычыны галоўная фігура толькі выйграла ў сваёй значнасьці, і ўся гравюра ў якасьці застаўкі набыла асаблівую дэкарацыйнасьць.

6. *Юдыта і Олёфэрн* з кнігі „Юдыта“ 1519 г. Памер: 103×105 mm. Надпіс: *„Іудіфъ Вдовица отсече главу Олоферну воеводе“.* (Адзначана Равінскім—„Русские граверы“, стар. 5—як адна з найлепшых гравюр у выданьнях Скарыны; рэпродукавана ў монографіі Уладзімерава пры стар. 80, у зборніку „Weissruthenien“. Hrsgb. von Walter Jäger. Berlin 1919—на стар. 79. і ў некаторых іншых выданьнях).

Уся гравюра падзяляецца на некалькі плянаў. На самым заднім направа знаходзіцца горад, дзе відаць будынкі і вежы готычнага тыпу; перад горадам купа нявысокіх дрэў. Сярэдні плян з левага боку

заняты вялікім круглым шатром з плоскім верхам; у ім на высокім ложку ляжыць Олёфэрн са сьцятай галавой. На пярэднім пляне, ізноў направа, зьмешчаны дзьве жаночыя фігуры: перад шатром Юдыт', абапершыся правай рукой на меч, трымае ў левай галаву Олёфэрна, якую кідае ў торбу; насупроць яе падтрымлівае торбу другая жанчына ў адзежы з буфамі на рукавах і з непакрытымі валасамі. На доле налева—„гэрб" Скарыны ў звычайным шчыце.

Тэхніка выкананьня некалькі прасьцей за іншыя гравюры тэй-жа групы: у ценявых частках ужываюцца, галоўным чынам, простыя штрыхі; перакрыжнае штрыхоўкі зусім няма; у сувязі з гэтым трактоўка фігур трохі менш плястычная; затое асноўныя лініі праведзены надзвычайна сакавіта, і пастаноўка фігур, разам з усёй пабудовай композыцыі, высака монумэнтальна.

7. *Дачка Фараона і Майсей* з кнігі „Ісход" 1519 г. Памер: 104,5×105 mm. Надпіс: *„Дщера фараонова знашла отроча Мойсея уводе"*.

На заднім пляне высокі каменны будынак; у вокнах яго відаць— у вадным дзьве жаночыя фігуры, як быццам у намётках, у другім— мужчынскую фігуру ў кароне. Направа ад гэтага будынку знаходзіцца каменны мост на паўкруглых арках; з гэтага мосту дзьве мужчынскія фігуры кідаюць уніз двох дзяцей у бурны струмень, які злучае задні плян з пярэднім. На гэтым апошнім відаць прыбіты да берагу кошык са спавітым младзенцам у ім, які падхапляе спрытна нахіленая жаночая фігура. За ёю ў самым асяродку гравюры яшчэ дзьве жанчыны: дачка фараона ў кароне і мантыі, і другая, апранутая прасьцей, з распушчанымі валасамі. Шчыт са звычайным „гэрбам" зьмешчаны нагары налева.

Трэба зазначыць, што ў пачатку „Ісходу" ў вэнэцыйскіх бібліях— лацінскай 1498 г. і чэскай 1506 г.—ёсьць падобныя адна да другой гравюркі, да якіх гравюра з „Ісходу" Скарыны можа быць набліжана па композыцыі задняга пляну. У гэтых гравюрках, у вабодвых выпадках, мы бачым ззаду будынак і мост, з якога мужчынскія фігуры кідаюць дзяцей у ваду. Але ў гравюры Скарыны ўсе дэталі апрацаваны значна дакладней: лацінская „Біблія" ў гэтым месцы мае наогул надзвычайна прымітыўны, чыста лінейны рысунак; у параўнаньні да рысунку чэскае „Бібліі" гравюра Скарыны дае больш складаную конструкцыю будынку, орнамэнтаванага арачным фрызам, і лепшую распрацаванасьць фігур як у вокнах, гэтак і на масту, якія значна выразьней і маюць больш характэрныя твары і вопраткі. Таксама ў гравюры Скарыны больш руху і экспрэсіі: больш энэргічна абрысаваны фігуры дзяцей і лепш зроблены струмень, пакрыты хвалямі і пенай.

З тэхнічнага боку гравюра можа лічыцца аднэй з найбольш удалых у групе: у лёгкасьці ліній і дакладнасьці апрацоўкі—відаць руку далёка ня кепскага майстра; добра і ясна выдзелены сьветлацені, у ценявых частках ужываюцца акруглыя штрыхі, дзе-ні-дзе—кропкі, у найбольш цёмных мясцох—перакрыжная штрыхоўка, хоць агулам кажучы, аўтар гэтае групы ад яе ўхіляецца і значна часьцей ужывае простае патоўшчваньне і набліжэньне роўналежных штрыхоў.

8. *Майсей перад народам* з кнігі „Другога закону" 1519 году. Памер: 103,5×104,5 mm. Надпіс: *„Моисеи навчае людеи Ізраилевых Втораго закону"*. (Рэпродукавана ў артыкуле Папова: „Початки друкарства у слов'ян" у зборніку „Бібліологичні вісти", Київ 1924).

Налева пад дрэвам Майсей з традыцыйнымі рогамі на галаве. Над ім на галіне дрэва падвешаны шчыт са звычайным „гэрбам" Скарыны. З правага боку гравюры—натоўп слухачоў, з ліку якіх на

пярэднім пляне выдзяляюцца тры фігуры ў добра распрацаваных і цікавых па сваім фасоне адзежах. Яны апрануты ў доўгія, зашпіленыя сьпераду вопраткі з шырокімі каўнерамі і вузкімі рукавамі; на сярэднім з іх футраная шапка, два іншыя бяз шапак з доўгімі непакрытымі валасамі. Тыпы твараў—славянскія, таксама як і ў некаторых напалову закрытых фігурах задняга пляну.

Тэхніка выкананьня—як і ў іншых гравюрах групы—ясная, чытэльная, з выразнымі штрыхамі і плястычнай апрацоўкай фігур, якім адведзена галоўная роля пры амаль што поўнай адсутнасьці пэйзажу. Гэтай тэхнікай, таксама як тыпам фігур і характарам вопратак, гравюра Скарыны рэзка адрозьніваецца ад аналёгічнай гравюры чэскае „Бібліі“ 1506 г. (Сар. XXXVI), да якой яна набліжаецца па агульнай сваёй композыцыі.

9. *Самсон і леў* з кнігі „Судзей“ 1519 г. Памер: 104,5×105 mm. Надпіс: „*Самсонъ пресилныи расторгалъ льва напути*“.

На заднім пляне узгорак і дрэва, на якім прымацаваны шчыт са звычайным „гэрбам“. На пярэднім магутная фігура Самсона ў барацьбе са львом. Цікава яго адзежа з шырокімі ў верхняй частцы рукавамі (як быццам нямецкага тыпу), і тракгоўка валос у выглядзе лісьцяў. Тэхніка некалькі болей нядбайная як у папярэдніх выпадках, але таго-ж характару і ня менш энэргічная. (Згодна ўвазе Уладзімерава падобная гравюра сустракаецца ў нямецкіх бібліях (стар. 80),—але за адсутнасьцю больш дакладнага паказаньня праверыць гэты факт мы ня мелі магчымасьці).

10. *Эстэр перад Артаксэрксам* з кнігі „Эстэр“ 1519 г. Памер: 103, 5×105 mm. Надпіс: „*Есѳеръ Царица пришла предъ Асъвера Царя*“. (Адзначана Равінскім—„Русские граверы“, стар. 5,—як адна з лепшых; рэпродукавана ў монографіі Уладзімерава пры стар. 82).

Уся композыцыя расплянавана на фоне архітэктурных мотываў; налева кавалак муру, у васяродку колюмны; на аднэй з іх падвешаны шчыт са звычайным „гэрбам“. Направа пад аркай, аздобленай дэкарацыйнай віньеткай, сядзіць Артаксэркс, у кароне, з скэптрам у правай руцэ. Перад ім знаходзіцца група з чатырох жанчын: сьпераду Эстэр, таксама ў кароне і ў мантыі паўзьверх адзежы, блізкай да нямецкага тыпу; мантыю яе падтрымлівае адзаду другая жаночая фігура, з буфамі на рукавах і непакрытымі валасамі, якая крыху нагадвае фігуру прыслужніцы з гравюры „Юдыта і Олёфэрн“; дзьве іншыя фігуры напалову закрыты пярэднімі; адна з іх мае распушчаныя валасы, сьцягнутыя ланцужком (або пацеркамі); валасы другой падабраны ў сетку.

Па тэхніцы гравюра набліжаецца да „Юдыты“, але зроблена яшчэ больш энэргічна; асноўныя лініі прарэзаны надзвычайна моцна, штрыхоўка больш рознастайная, часта ўжываецца перакрыжны штрых, у некаторых-жа мясцох штрыхі зьліваюцца ў чорныя плямы; з гэтай прычыны фігуры выдзяляюцца вельмі рэльефна і ўся гравюра цалкам вызначаецца асаблівай сакавітасьцю.

(Гравюра паўторана два разы: перад пачаткам перакладу з гэбрайскага тэксту і перад пачаткам перакладу з лацінскага тэксту).

11. *Плач Ерамії* з кнігі „Прарока Ерамії“ 1519 г. Памер: 105,5 ×105, 5 mm. Надпіс: „*Еремиа Пррк҃ъ сѣдень плачеть Гледя НаЕрусалим*“. Як па сваёй композыцыі, так і па апрацоўцы гравюра гэтая зьяўляецца аднэй з найлепшых сярод гравюр Скарыны. Асабліва выразна і добра зроблена фігура Ерамії направа на пярэднім пляне; ён сядзіць з кнігай у левай руцэ, правая-ж прыложана да грудзей; каля ног яго зьмешчаны шчыт з „гэрбам“; ня толькі твар яго награвіраваны надзвычайна ўдала, але таксама і скалы навокал яго, і стылізаваныя віткі



Портрэт Скарыны з праскае „Бібліі“ 1517 г.



„Хрыстос і нявеста“ з кнігі „Песьня песень“ 1518 г.



„Пераход праз Іордан“ з кнігі „Ісуса Навіна“ 1518 г.



„Шэсьць дзён сьветабудовы“ з кнігі „Бытія“ 1519 г.



„Юдыта і Олёфэрн“ з кнігі „Юдыта“ 1519 г.



„Дачка Фараона і Майсей“ з кнігі „Ісход“ 1519 г.



„Майсей перад народам“ з кнігі „Другога закону“ 1519 г.



„Самсон і леў“ з кнігі „Судзей“ 1519 г.



„Эстэр перад Артаксэрксам“ з кнігі „Эстэр“ 1519 г.



„Плач Ерамії“ з кнігі „Прарока Ерамії“ 1519 г.



„Данііл са львамі“ з кнігі „Данііла“ 1519 г.

над горадам, што займае ўвесь задні плян гравюры, якія Уладзімераў тлумачыць, як полымя. Цікавы фон неба, заштрыхаваны роўналежнымі лініямі, як у нямецкіх гравюрах. Па агульнай сваёй композыцыі аркуш гэты можа быць набліжаны да вядомай гравюры Альбрэхта Дюрэра „Сьв. Антоні" 1519 г., і быў, магчыма, задуманы пад беспасрэдным яе ўплывам і бяз усякай, напэўна, сувязі з „Хронікай" Шэдэля, як гэта лічыць Уладзімераў.

Гэты апошні зусім няправільна адзначае, як быццам у гэтым выпадку „від гораду з замкам *змаляваны* [1]) з гравюры ў Хроніцы Шэдэля (гл. від Падуі, XXIII fol., tertia aetas mundi), направа-ж *прырысаваны* [1]) Ерамія і над горадам полымя". („Доктор Франциск Скорина", стар. 81). Фактычна некаторае падабенства паміж пэйзажам, зьмешчаным у „Ераміі" Скарыны, і памянёным відам гораду ў „Хроніцы" Шэдэля запраўды наглядзецца; але яно абмяжоўваецца толькі агульным выглядам гораду на ўзгорку (што малявалася ў той час надзвычайна часта, і ў тэй-жа „Хроніцы" Шэдэля сустракаецца не адзін раз), а не дэталямі, апроч толькі паўмесяца на купале аднаго з будынкаў. Апроч таго, калі-б аўтар гравюры Скарыны запраўды карыстаўся Шэдэлем, дык тады было-б зусім незразумела, чаму ён запазычыў від чыста выпадкова ўзятага гораду—будзь то Падуя, або яшчэ які-небудзь іншы—у той час, як у тэй-жа „Хроніцы" Шэдэля ёсьць асобная гравюра з відам Ерусаліма (Fol. XVII, secunda etas mundi), які ў даным выпадку якраз быў яму патрэбны. Другая памылка Уладзімерава—гэта тое, што награвіраваны ў fol. XXIII „Хронікі" горад, на які ён пасылаецца,—гэта зусім ня Падуя; надпісу на гравюры няма, з тэксту-ж, зьмешчанага на тэй-жа старонцы, відаць, што гутарка тут ідзе аб „Tireveris Gallie belgice caput"; але тут у самога Шэдэля таксама памылка пры друку: надрукаваная тут гравюра павінна была знаходзіцца на наступнай старонцы з подпісам „Damascus" (тады становіцца зразумелай прысутнасьць паўмесяца),—тая-ж, якая зьмешчана пры гэтым подпісе,—наадварот, на яе месцы. Такім чынам, той краявід, на які пасылаецца Уладзімераў, зьяўляецца зусім ня Падуяй, а Дамаскам, узяць які для скарынавай гравюры было яшчэ менш падстаў як Падую, якая мела хоць некаторыя адносіны да жыцьця і асобы Скарыны. Памылка Уладзімерава тлумачыцца, як відаць, тым, што знайшоўшы ў „Хроніцы" Шэдэля (Fol. XXIII) больш-менш адпаведную гравюру, але бяз надпісу, ён пачаў шукаць яе тлумачэньня па індэксе, і там памылкова замест лічбы XXIII—узяў CCXIII, дзе памінаецца горад Падуя („Paduam urbem ecellin valde opressit").

12. *Данііл са львамі* з кнігі „Данііла" 1519 г. Памер: 103×105 mm. Надпіс: *„Даниилу седящему сольвы принесе Аввакум обед"*.

Некалькі наіўная зьместам і композыцыяй, але прыгожая па апрацоўцы гравюра. Данііл у яме з разьвінутай кнігай на каленах; наўкола яго чатыры львы, адзін з якіх быццам заглядае ў кнігу. Згары налева знаходзіцца слуп, да якога падвешаны шчыт з „гэрбам" Скарыны. Каля слупа—паясны вобраз цара ў кароне і некалькі галоў. З правага боку, каля ямы, ня кепска зробленая фігура Аввакума з кошыкам у руцэ; за ім у воблаку шасьцікрылы хэрувім.

Па тэхніцы—адна з лепшых гравюр у групе, з сакавітым колёрытам і яснай выразнасьцю ліній.

---

Падагульняючы нашы паасобныя ўвагі адносна гравюр данае групы, мы павінны асабліва падкрэсьліць глыбака суцэльны яе характар

[1]) Курсіў наш. *М. Ш.*

як з боку стылістычнага, так і ў тэхнічным сэнсе, дзякуючы чаму з агульнай масы гравюр у выданьнях Скарыны яна выдзяляецца найболей лёгка. Такая суцэльнасьць можа быць вытлумачана або тым, што ўся група цалкам зьяўляецца вытворам аднаго аўтара, або прыналежнасьцю розных аўтараў паасобных гравюр да аднэй строга вызначанай і сфармаванай гравюрнай школы. Пры першым дапушчэньні—аўтарам гэтым прыходзіцца лічыць таго манаграмістага МЗ, подпіс якога знаходзіцца на портрэце Скарыны, і якога пры разглядзе гэтага портрэту мы гадалі магчымым аднесьці да ліку чэскіх гравёраў. Але больш праўдападобным здавалася-б нам другое дапушчэньне,—згодна якога аўтарамі паасобных гравюр маглі быць і розныя гравёры, адзінства-ж стылю і тэхнічных спосабаў зьяўляецца вынікам аднолькавых адносін гэтых гравёраў да аднэй і тэй-жа—у гэтым выпадку, напэўна, таксама да чэскай—школы гравюрнага мастацтва, якая хоць і набліжаецца ў некаторых адносінах да нямецкай, але шмат у чым ад яе і адрозьніваецца, а ўласна: большай увагай да фігур за кошт зьнявагі да пэйзажу, меншаю дробнасьцю і дэталізаванасьцю рысунку, славянскімі тыпамі твараў і вопратак. Гэтая чэская школа, якая ў часы Скарыны напэўна існавала ў Празе,—хоць мы і ня маем аб ёй дакладных вестак,—бясспрэчна, не магла ня быць ім скарыстана, хаця відавочная перавага яе над іншымі школамі або паасобнымі майстрамі ў справе мастацкага аздабленьня кніжок Скарыны прышла не адразу. Характэрна, што з ліку дванаццаці апісаных намі гравюр—дзевяць зьмешчаны ў выданьнях 1519 г., дзьве—1518 г. і толькі адна—портрэт Скарыны—1517 г. Гэта паказвае, што спачатку Скарына чамусьці мала карыстаўся гравюрамі гэтага тыпу; і, запраўды, у першых праскіх яго выданьнях мы знаходзім гравюры самага рознастайнага характару як па тэхнічных, так і па стылістычных асаблівасьцях, якія былі, як відаць, зроблены рознымі гравёрамі і павінны быць намі разьмешчаны па розных групах; пры гэтым да другой групы з гэтых выданьняў адходзяць толькі тры гравюры. За тое з 1519 году становішча рэзка мяняецца: уласна гэты „чэскі", як дапушчальна мы яго адзначаем, стыль—пануе амаль што ва ўсіх выданьнях, дзе мы можам налічыць дзевяць гравюр гэтага стылю і толькі дзьве („Ізраільскія палкі" і „Руфь") іншых тыпаў. Як відаць, Скарына спачатку прабаваў карыстацца паслугамі самых разнаітых мастакоў, а можа і сам прымаў некаторы актыўны ўдзел у ваздобе сваіх кніжок (магчыма, не як гравёр, але як аўтар рысункаў, або эскізаў),—да тэй пары, пакуль ня спыніўся на аднэй азначанай гравюрнай школе, якая не без падстаў магла быць ім палічана за найлепшую і найбольш адпаведную мэтам яго выданьняў. З таго часу гэтая школа запанавала, і ўласна яна шмат у чым надала, мабыць, кніжкам Скарыны іх характэрны ў мастацкім і стылістычным сэнсе выгляд.

*Трэцяя група* гравюр заслугоўвае значна меншай увагі. У тэхніцы, у стылі і ў дэталях яна мае характэрныя рысы нямецкае ксылёграфіі канца XV—пач. XVI сталецьця, і, напэўна, якраз гэтыя гравюры меў на ўвазе Стасаў, адзначаючы прысутнасьць у выданьнях Скарыны вытвораў аднаго нямецкага гравёра сярод іншых славянскіх [1]). Ня глядзячы, аднак, на досыць высокую тэхнічную дасканаласьць помнікаў гэтае групы,—у выданьнях Скарыны яна грае надзвычайна нязначную ролю, бо да яе могуць быць аднесены толькі тры ніжэй пералічаныя гравюры:

[1]) Стасов, op. cit., стар. 32.

1. *Суд Саламона* з кнігі „Прыповесьці Саламона" 1517 г. Памер: 86×87 mm. Надпіс: *„Первыи судъ еже судил Саломонъ царь две жене блудъници о двоихъ детехъ"*. (Паўторана два разы: перад пачаткам кнігі і на аркушы 5-м.).

Направа, каля сьцяны, Саламон на троне, у доўгай мантыі, з каронай на галаве і скэптрам у правай руцэ; за тронам—пышна орнамэнтаваны фон, і каля яго некалькі набліжоных Саламона, адзін з якіх на пярэднім пляне ўжо выцягнуў меч з нажон, рыхтуючыся расьсячы младзенца, што ляжыць у падножжы трону. Налева перад тронам дзьве жанчыны, а каля іх два жаўнеры, у пышных адзежах з буфамі і пер'ямі. Усе тыпы фігур, характары твараў, а таксама фасоны вопраткак і галаўных убораў—бясспрэчнага нямецка-готычнага характару. Тэхніка выкананьня—дробная, дакладная, у лепшых адбітках амаль што дасканалая ў сваёй выразнасьці,—уяўляе руку здольнага і спрактыкаванага гравёра.

2. *Памазаньне Давыда* з 1-е кнігі „Царстваў" 1518 г. Памер: 104, 5×104 mm. Надпіс: *„Самуилъ Прркъ Гдень Помаза Двда Нацарство"*.

Прыгожая шматфігурная композыцыя з багатай готычнай архітэктурай на заднім пляне; нагары направа балькон з балюстрадай, на якім відаць жаночыя фігуры. Усё поле гравюры запаўняе натоўп у рознастайных вопратках і галаўных уборах нямецкага тыпу. З левага боку, каля афярніка, з яго выдзяляюцца толькі фігуры Самуіла ў адзежы первасьвяшчэньніка і нахіленага маленькага Давыда з доўгімі валасамі. Тэхніка, як у папярэднім выпадку,—дробная і дасканалая, фігуры ў натоўпе некалькі зьліваюцца адна з аднэй, але твары надзвычайна выразныя.

3. *Пабудова Ерусалімскага храму* з 3-й кнігі „Царстваў" 1518 г. Памер: 104×104 mm. Надпіс: *„Царь Саломон ставит храм гсду богу Въерусалиме"*. Адзначана Равінскім, як адна з лепшых гравюр у кнігах Скарыны („Русские граверы", стар. 5), і запраўды зьяўляецца аднэй з найбольш дасканалых па моцы сваёй і колёрытнасьці. На заднім пляне частка будовы храму з готычнымі контрфорсамі і аркбутанамі; каля яе ўсякія прылады,—ворат, пад'ёмнік і г. д.; усюды, і на будынку, і каля яго, відаць фігуры рабочых за працай. З левага боку - Саламон, у справаджэньні сьвіты, у доўгай мантыі і ў кароне; перад ім нехта ў кароткім плашчы і з буфамі на рукавах камзолу дае яму тлумачэньні. Дакладнасьць тэхнікі надае ўсёй гравюры высокую плястычнасьць і эфэктоўнасьць; умелае-ж ужываньне чорных плям, разам з штрыхоўкай, утварае асабліваю глыбіню.

(Уладзімераў (стар. 79) памылкова адзначае, як быццам гравюра гэтая, разам з шасьцю тлумачальнымі рысункамі да саламонава храма,—аб якіх гутарка будзе ніжэй,—запазычана з „Хронікі" Шэдэля, або комэнтарый („Postilla") Міколы Лірана [1]); фактычна гэта не адпавядае рачавістасьці, бо ані ў „Хроніцы" Шэдэля, ані ў „Глёссах" Лірана аналёгічнае гравюры зусім няма).

---

Ва ўсёй групе цалкам трэба адзначыць некаторую яе выпадковасьць і нейкую нязьвязанасьць з іншымі скарынавымі гравюрамі. Адсутнасьць звычайных „гэрбаў", якія сустракаюцца амаль што ўсюды ў іншых групах, магчыма, паказвае нават, што першапачаткова гравюры гэтыя і ня былі спэцыяльна прызначаны для выданьняў Скарыны. Наагул-жа нязначнасьць групы сьведчыць, што высунутая ўпар-

[1]) Nic. de Lyra. Glossae in universa Biblia. Nurnbergae. A. Koburger. 1481. Рас. Пуб. Бібл., 9. XIV. 2, №№ 1 і 1 в.

шыню Уладзімеравым і пасьля яго традыцыйна пашыраная ў літаратуры думка аб найбольш інтэнсыўным уплыве ўласна нямецкае гравюры на мастацкі бок выданьняў Скарыны—бязумоўна патрабуе вядомага перагляду.

---

Нарэшце, да *чацьвертае групы* адыходзіць шэраг гравюр некалькі living рознастайнага характару, прыёмы рысунку якіх у некаторых выпадках набліжающца да гравюр іншых груп, тэхнічныя-ж спосабы гравіраваньня, амаль што ва ўсіх выпадках значна грубей і слабей, і ў розных аркушох неаднолькавы. Па замыслах сваіх шмат якія з іх задуманы вельмі ўдала; але таксама як і да дрэварытаў першае групы да гэтых гравюр можна дапасаваць увагу Стасава,—якая да ўсіх гравюр у выданьнях Скарыны ніякім чынам ня можа быць аднесена,—што выкананьне іх у тэхнічным сэнсе ня зусім адпавядае замыслу і самае гравіраваньне ўсюды горш за рысунак і композыцыю [1]). Некаторыя дэталі, як напрыклад рухі левай рукой і адваротны рысунак „гэрба", паказваюць на вядомую неспрактыкаванасьць гравёра (або гравёраў), які вырэзваў рысункі ў тым самым відзе, як яны былі намаляваны, дзеля чаго пры друкаваньні яны адбіліся ў адваротным кірунку. Аб тэй-жа неспрактыкаванасьці сьведчыць і некаторая нявыразнасьць ліній, разам з заблытанасьцю штрыхоўкі. Але самыя рысункі—значна лепш па сваёй якасьці, так што мала магчыма прыпісаць іх таму-ж майстру, які гравіраваў клішэ; аўтарам іх была, напэўна, другая асоба—пры гэтым даволі здольны мастак, адметны толькі некаторымі асаблівасьцямі і орыгінальнасьцю сваёй композыцыйнай манеры,—як напрыклад адваротнай пэрспэктывай, характэрнай для некалькіх дрэварытаў групы.

Да чацьвертае групы мы адносім наступныя гравюры:

1. *Іоў і д'ябал* з кнігі „Іова" 1517 г. Памер: 85×87 mm. Надпісу няма. (Паўторана два разы: перад пачаткам кнігі і на аркушы 4-м, замест застаўкі).

У вялікім пакоі на высокім ложку агалёны Іоў; перад ім д'ябал, падобны да казла, трымае яго за руку правай рукой, левай-жа б'е яго розгамі. На пярэднім пляне з левага боку тры мужчынскія фігуры большых памераў, у доўгіх адзеньнях і шапках; направа—адна жаночая фігура.

Тэхніка выкананьня—нявысокае якасьці. Але ўсё-ж добра вытрыманы прасторавыя адносіны і досыць плястычна трактаваны паасобныя фігуры, асабліва першая з ліку трох мужчынскіх фігур з левага боку.

2. *Дыспут* з кнігі „Ісуса сына Сірахава" 1517 г. Памер 106×105 mm. Бяз надпісу. (Уладзімеравым памылкова адзначаецца (стар. 78), як *застаўка* на аркушы 5-м).

У закрытым памяшканьні з готычнымі скляпеньнямі—група мужчын, адзін з якіх сядзіць на катэдры з кнігай, іншыя-ж стаяць перад ім, як быццам спрачаючыся паміж сабой. Вобраз сядзячай на катэдры мужчынскай фігуры з кнігай для данага месца бібліі зьяўляецца традыцыйным: аналёгічныя фігуры мы сустракаем у вэнэцыйскай лацінскай „Бібліі" 1498 г. і ў чэскай „Бібліі" 1506 г. („Ecclesiasticus"); але з формальна-композыцыйнага боку гравюра Скарыны ніякае сувязі з імі ня мае. Апошняя некалькі грубая па выкананьні, але зроблена досыць моцна; пры ўсёй грубасьці штрыхоў у ёй цікавы густы і выразны ко-

---

[1]) Стасов, Op.cit., стар. 32.

лёрыт. У композыцыйнай пабудове, як і ў папярэдняй гравюры, часткова ёсьць элемэнты адваротнае пэрспэктывы.

3. *Саламон і царыца Саўская* з кнігі „Эклезіаст" 1518 г. Памер: 105×104,5 mm. Надпіс: *„Царица Савва беседуе съ царем Саломоном"*.

З правага боку, на троне з орнамэнтаванай сьпінкай, сядзіць Саламон у мантыі і кароне; каля трону некалькі прыдворных у доўгіх шырокіх адзежах славянскага фасону. Побач з тронам—царыца Саўская ў адкрытай адзежы з вузкімі рукавамі, таксама як і Саламон —у кароне; за ёю—сьвіта, на пярэднім-жа пляне, беспасрэдна перад тронам—жывёлы: маленькі слон, вярблюд і жырафа. Каля ступеняй трону—хлопчык і мужчынская фігура, як быццам на каленах. На заднім пляне—архітэктурныя дэталі: відаць частку столі, аздобленай гірляндамі, з левага боку—шэраг колюмнаў.

Па тэхніцы гравюра зроблена зусім слаба: штрыхі грубыя, цені ў некаторых мясцох пракладзены надзвычайна няўдала, шмат якія дэталі—асабліва дробныя—зусім нявыразны. Ня гледзячы на добры замысел усёй композыцыі ў цэлым, самы рысунак надта няпэўны і нядбалы.

4. *Хрыстос і Саламон* з кнігі „Прамудрасьці Саламона" 1518 г. Памер: 104×105 mm. Надпісу няма.

Зьяўляецца як-бы варыянтам гравюры „Хрыстос і нявеста" з кнігі „Песьні песень", якую мы ўжо разглядалі ў 2-й групе,—але па выкананьні значна слабей. Таксама як і ў гэтай апошняй асяродак заняты фігурай хрыста, павернутага, аднак, ен face і зьмешчанага ў строга сымэтрычнай позе на ўмоўнай акружыне земскае кулі. Навокал яго ў воблаках два хэрувімы, налева ўнізе звычайны „гэрб" з сонца і месяца, направа—мужчынская фігура на каленах, у шырокай адзежы, з непакрытымі доўгімі валасамі. Такім чынам, композыцыі блізка падобны, але ў гэтым выпадку ўжо няма выразнасьці ліній, шмат што зьяўляецца залішнім, і нават фігуры, дзякуючы няўмеламу разьмеркаваньню штрыхоў, часткова страцілі сваю плястычнасьць.

Значэньне гравюры з пэўнасьцю невядома. Уладзімераў лічыць, што бакавая фігура мужчыны гэта сам Скарына (стар. 78); але па нашай думцы для гэтага дапушчэньня няма ніякіх падстаў, асабліва, калі прыняць пад увагу адсутнасьць у гэтым выпадку вусоў, якія мы бачым на партрэце Скарыны таго-ж 1517 году. Мы з свайго боку тлумачым гэтую фігуру як Саламона, што магло быць сымболічнай ілюстрацыяй да зьместу кнігі.

5. *Давыд перад каўчэгам* з 2-й кнігі „Царстваў" 1518 г. Памер: 105×105 mm. Надпіс: *„Црь Двдъ играеть въ гусле неся Кивотъ гсдень царица же михоль видя ипогорде ибе неплодна"*. (Дзіўным чынам, ня гледзячы на ўсе тэхнічныя яе недахваты і Стасавым (стар. 30) і Равінскім (стар. 5) адзначана як адна з лепшых).

Налева будынкі готычнае архітэктуры; у вакне пярэдняга з іх—дзьве фігуры па пояс; пад акном маленькі „гэрб" Скарыны ў адваротным кірунку. На заднім пляне гарысты пэйзаж. Сьпераду некалькі чалавек нясуць каўчэг з высокай готычнай пакрышкай; перад каўчэгам Давыд у кароткім плашчы і кароне, з гусьлямі ў руках; за каўчэгам—жаночыя фігуры і некалькі галоў.—Тэхніка крыху нядбалая, і ў фігурах мала выразная. Зьвяртае на сябе ўвагу ня толькі адваротнае палажэньне „гэрбу", але таксама і тое, што Давыд грае на гусьлях левай рукой: ужо адзін гэты факт не дазваляе згадзіцца з вышэйпрыведзенымі думкамі Стасава і Равінскага, і прымушае зьмясьціць гэтую гравюру далёка не на першым месцы сярод дрэварытаў Скарыны.

6. *Аблога Ерусаліма Навухаданосарам* з 4-й кнігі „Царстваў“ 1518 г. Памер: 105,5×105 mm. Надпіс: *„Навходносор Царь Вавилонскии Добывае Ерусалима“*. (Стасавым (стар. 30) і Равінскім (стар. 5) адзначана як адна з лепшых).

На заднім пляне напалову готычны, напалову фантастычны горад; на пярэднім пляне—батальная сцэна з мноствам конных фігур; на сьцягах знакі: „гэрб“ Скарыны і зьмяя (у кароне?—Уладзімераў стар. 79) [1]). Людзі і коні ў шпаркім экспрэсіўным руху гармонічна разьмешчаны ў полі гравюры. Тэхніка дробная і больш дакладная як у папярэднім выпадку,—але таксама як і там „гэрб“ Скарыны награвіраваны ў адваротным кірунку, а некаторыя жаўнеры трымаюць зброю ў левых руках.

7. *Ізраільскія палкі каля Скініі* з кнігі „Чисел“ 1519 году. Памер: 106×105 mm Надпіс: *„Людие Ізраилевы сиолки своими около храму бжия“*.

Навокал скініі прадстаўнікі ізраільскіх кален са зброяй і сьцягамі; на некаторых з іх панцыры, на галовах—шаломы; фігуры дробныя, пераважна ў профіль; на сьцягах знакі і гэрбы: літара W, двохгаловы арол, дрэва, карона, тры ражкі—польска-літоўскі гэрб „Traby“ [2]), які Уладзімераў выпадкова набліжае да папяровага знаку ў выданьнях Vietor'a [3]), шасьціканцовая зорка з двох трыкутнікаў, два квадраты, кружок са стрэлкай наверсе з упісанай у яго пяціканцовай зоркай, крыж [4]), літара Ж або нешта падобнае да гэрбу „Jelita“ [5]), нарэшце—звычайныя знакі Скарыны: сонца і месяц, і манаграма ⁂.

Дробны рысунак, хоць і чытэльны ў дэталях, у тэхнічных адносінах выкананы некалькі слаба: так, напрыклад, твары ў шмат якіх мясцох занадта схэматычныя, паасобныя штрыхі мала выразныя, фігурам часта не хапае плястычнасьці. Многафігурнасьць композыцыі надта заграмаджае поле гравюры, разьмеркаваньне-ж фігур навокал асяродкавае плямы скініі хоць досыць складна, але ня зусім добра вытрымана ў пэрспэктыўных адносінах.

8. *Руфь у полі* з кнігі „Руфь“ 1519 г. Памер: 105×104,5 mm. Надпіс: *„Руфь прабаба царя Двда побирае класы заженци“*.

У параўнаньні да іншых гравюр даволі значная роля адведзена тут пэйзажу, які ўтварае асноўны фон для ўсёй композыцыі; на заднім пляне—узгоркі і дрэвы, направа поле дасьпелых калосьсяў. Каля поля тры фігуры жняцоў у высокіх ботах і кароткіх кашулях, з вялікімі саламянымі капялюшамі. За імі Руфь, якая зьбірае калосьсі, прыхіліўшыся да зямлі. Збоку налева абапіраецца на вялікую сякеру высокая мужчынская фігура ў доўгай адзежы, у плашчы з прарэзамі для рукавоў і ў мяккім капялюшы з палямі. Тэхніка выкананьня—досыць дакладная, але даволі звычайная, і ня надта майстэрская. Пры гэтым як і ў некаторых папярэдніх выпадках выяўляецца неспрактыкаванасьць гравёра: бо жняцы трымаюць свае сярпы ў левых руках.

---

[1]) Магчыма, адзін з італьянскіх гэрбаў, да якога належала другая жонка Жыгімонта I каралева Бона, з якой ён жаніўся якраз у 1518 г. Гл. B. Paprocki. Herby rycerstwa Polskiego. Kraków 1584. Стар. 56 і 820.

[2]) Paprocki, стар. 606.

[3]) *Владимиров*. Доктор Франциск Скорина, стар. 80.

[4]) Блізкі да гэрбаў „Dębno“—Paprocki, 381 і „Tarnawa“ ibid., 573.

[5]) Paprocki, 254.

9) *Багародзіца з младзенцам і анёламі* з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы“. Памер: 41×64 mm. Зьмешчана на загалоўным аркушы акафіста „Імени Ісуса“, разам з надпісам: „*Починаетьсіа акафістъ республадкому імени гсда нашего іса хста глаголемы повсіа дни*“ Багародзіца з младзенцам на каленах: па бакох яе два анёлы. Па композыцыі задумана надзвычайна добра, але гравіравана досыць груба і прымітыўна, як і наагул усе віленскія гравюры Скарыны, што сваячасна было заўважана Стасавым[1]).

---

Па-за межамі пералічаных намі груп застаюцца 12 гравюр—адна сюжэтная, і 11 рысункаў ілюстрацыйна-тлумачальнага характару,—якія мы павінны разглядаць асобна.

Сюжэтная гравюра—гэта так званая „*Тройца*“, зьмешчаная на адвароце загалоўнага аркушу праскае „Біблії“ (памер: 104×158 mm.), якая значна слабей за ўсе іншыя скарынавы гравюры і надзвычайна рэзка адрозьніваецца ад іх па манеры і стылі, што сваячасна ўжо было заўважана папярэднімі дасьледчыкамі. Так, напр., Стасаў адзначае, што „гравюра гэтая па крайняй недасканаласьці выкананьня зьяўляецца антыподам усіх іншых, і зроблена рукой настолькі неспрактыкаванай, што тут можна дапусьціць або вытвор самога Скарыны, або якога-колечы з ліку яго сяброў: у іншым выпадку цяжка вытлумачыць зьмяшчэньне настолькі благой, можна сказаць, нават,—недазволена брыдкай гравюры сярод іншых добрых або выдатных гравюр“[2]). Аналёгічную ўвагу робіць таксама і Равінскі, які зазўважвае, што гэтая гравюра „па дрэнным выкананьні зьяўляецца выняткам з усіх іншых“[3]). І запраўды, у тэхнічным сэнсе гравюра гэтая зроблена да апошняе ступені беспарадна і нявыразна; заблытанасьць ліній і выпадковасьць роўнае, монотоннае штрыхоўкі пазбаўляюць яе ўсякай плястычнасьці і колёрытнасьці, робяць уражаньне працы чалавека, які ўпяршыню трымаў разец у руках. З композыцыйнага боку, аднак, самы рысунак значна лепшы: у верхняй частцы „тройца“ ў выглядзе мужчынскай фігуры з трыма тварамі, на троне, абкружаная анёламі; унізе—барацьба анёлаў з д'ябламі, прычым ніжняя група добра злучана з верхняй разьвінутымі крыламі сярэдняга анёла.—Наконт пахаджэньня гэтае гравюры цяжка дадаць што-небудзь новае да думкі Стасава,—але прыходзіцца прызнаць, што дапушчэньне яго мае вядомыя падставы, і можа быць, у даным выпадку мы запраўды маем справу з першай і адзінай спробай самога Скарыны ў галіне гравіравальнага мастацтва.

У іконаграфічным сэнсе вельмі цікавым зьяўляецца самы тып „тройцы“ ў выглядзе мужчынскае постаці а трох тварах, які мае выразна заходняе пахаджэньне і быў, пэўна, узяты Скарынай з якіх-небудзь італьлянскіх мініатур, пашырыўшыся потым пад уплывам выданьня Скарыны ў вясковым царкоўным малярстве на Украіне і Беларусі (Пар. „Sprawozdania komisji do badania historyi sztuki w Polsce“ выд. Кракаўскай Акадэміі Навук, т. I, стар. 43 і т. V, сшыт. IV, стар. 79).

*Тлумачальныя рысункі* з вобразамі паасобных частак саламонава храма і скініі прадстаўляюць сабой дзьве зусім самастойныя групы гравюр, зьмешчаныя ў 3-й кнізе „Царстваў“ 1518 г. і ў кнізе „Ісход“ 1519 г. З усіх гравюр, што знаходзяцца ў выданьнях Скарыны, рысункі гэтыя найменш орыгінальныя, што лёгка тлумачыцца спэцыяльнымі, чыста практычнымі, навучальнымі мэтамі зьмяшчэньня іх у скарына-

---

[1]) *Стасов*. op cit., стар. 31—32.
[2]) Ibidem, стар. 30.
[3]) *Ровинский*. Русские граверы..., стар. 5, ув. 2.

вай „Біблії“, якія вымагалі найбольшай (зразумела дапушчальнай) верагоднасьці вобразаў, а значыцца скарыстаньня якіх-небудзь пэўных і аўторытэтных крыніц. Такімі крыніцамі зьявіліся „Нюрэнбэрская хроніка“ Шэдэля і „Комэнтарыі“ („Postilla“) Міколы Лірана, што ў свой час правільна было адзначана Уладзімеравым [1]); але ў адзначэньні Уладзімерава трэба ўнесьці некаторыя папраўкі: адносна тлумачальных рысункаў да саламонава храма з 3-й кнігі „Царстваў“ трэба зазначыць, што аналёгічныя гравюры (і то ня зусім тоесамыя і не да ўсіх рысункаў Скарыны) сустракаюцца *толькі ў „Комэнтарыях“ Лірана, у „Хроніцы“-ж Шэдэля падобных гравюр зусім няма*, у той час як Уладзімераў пасылаецца і на Лірана і на Шэдэля [2]); рысункі да Скініі з кнігі „Ісход“—запраўды падобны да адпаведных гравюр і Лірана і Шэдэля; але тут трэба заўважыць папершае,—што гэтыя гравюры у Шэдэля і Лірана зусім тоесамыя і, мабыць, былі надрукаваны з адных і тых-жа дошчак; падругое, што па большай частцы кожны рысунак у гэтых выданьнях даецца ў двох варыянтах; патрэцяе—што рысункі Скарыны не *тоесамы* з гэтымі апошнімі, пры ўсёй сваей блізкасьці да іх уяўляюць у некаторых выпадках значныя ўхіленьні ад орыгіналаў, зроблены лепш па тэхніцы выкананьня, і ўзбагачаны шчытамі, на адным з якіх зьмяшчаецца „гэрб“ Скарыны, на другім—знак ⚠. Такім чынам, нават і тут, дзе гравюры Лірана і Шэдэля бясспрэчна былі скарыстаны як першаўзоры для адпаведных гравюр Скарыны,—усё-ж ня было беспасрэднага перайманьня, і першаўзоры падлягалі вядомай пераробцы, даволі цікавай, як мы ўбачым, у канонічных адносінах, у сэнсе выбару варыянтаў або іх комбінацыі; тым больш нельга казаць аб агульным уплыве выданьняў Лірана і Шэдэля на мастацкую апрацоўку выданьняў Скарыны, як гэта робіць Уладзімераў [3]), бо залежнасьць апошніх ад першых абмяжоўваецца выключна гэтымі тлумачальнымі рысункамі, якія ў кнігах Шэдэля і Лірана маюць зусім не мастацкі, але чыста даведачны характар,—асабліва ў „комэнтарыях“ Лірана, дзе наагул зусім няма гравюр, зьмешчаных з мастацка-дэкорацыйнымі мэтамі.

Па зьмесьце сваім тлумачальныя рысункі скарынавай „Біблії“ складаюцца з наступных аркушоў:

А. *Тлумачальныя рысункі да саламонава храма* з 3-й кнігі „Царстваў“ 1518 г.

а) „*Взоръ храму ѓсдьніа отсаломона деланого*“. Памер: 105×105 mm. Да некаторай ступені, але ўсё-ж вельмі далёка, нагадвае адпаведныя рысункі Шэдэля (Fol. LXVI, quinta etas mundi) і Лірана (Regum tertius, cap. IV), прычым адрозьніваецца ад іх сваімі пропорцыямі, дэталямі, і пэрспэктыўнасьцю рысунку. Падабенства, галоўным чынам, наглядаецца ў агульным стылі і ў характары верхняга гзымсу; вокны-ж, бальконы па рагох і ўваходныя дзьверы—трактаваны зусім інакш, у стылі нямецкіх грамадзянска-готычных пабудоў. (Адзначаецца Стасавым (стар. 30) у ліку лепшых гравюр).

б) „*Образъ дву херувимовъ вмолитовници*“. Памер: 105×105 mm. Пад готычнымі крыжовымі скляпеньнямі, перад стрэльчатым акном,—ківот у выглядзе вялікае скрыні з прадоўжнымі ручкамі і высокай пакрышкай, якую здымаюць два кэрубы з разьвінутымі крыламі. У кнігах Шэдэля і Лірана падобнае гравюры зусім няма. Форма кі-

[1]) „Доктор Франциск Скорина“, стар. 79-80.
[2]) Ibidem, стар. 79.
[3]) Ibidem, стар. 76.

вота і фігуры кэрубаў некалькі зьвязаны з аналёгічнымі вобразамі тлумачальных рысункаў да скініі (гл. ніжэй); але ўся гравюра цалкам, магчыма, запазычана з нейкай нам невядомай крыніцы.

в) *„Взоръ дому древіана царіа саломона"*. Памер: 105×104,5 mm. Від з фасаду. Верхні паверх падобны да аналёгічнага рысунку Лірана (Regum tertius, cap. V), сярэдні—у параўнаньні да гэтага рысунку відазьменены, ніжэйшы-ж зьяўляецца дадаткам.

г) *„Взоръ дву столповъ иже предъ храмомъ"*. Памер: 105×105 mm. У рысунках Лірана (Regum tertius, cap. VII) ёсьць два варыянты капітэляй: 1) „secundum expositores catholicos" і 2) „secundum Rabi Salomonem". Рысунак Скарыны больш набліжаецца да другога—гэбрайскага—варыянту, хоць і ня зусім з ім тоесамы і запазычвае некаторыя нязначныя дэталі ад першага варыянту, г. зн. каталіцкага.

д) *„Взоръ моріа или умывальници медіаное"*. Памер: 104,5×104 mm. У вадпаведных рысунках Лірана (Regum tertius, cap. VII), як і ў папярэднім выпадку,—два варыянты: 1) „secundum opinionem Rabi Salomonis" і 2) „secundum Josephum et catholicos", якія адрозьніваюцца формай падстаўкі, у першым варыянце чатырохкантовай і ў другім выпадку—акруглай. У гравюры Скарыны ўзяты гэбрайскі варыянт, але з тэхнічнага боку выкананы значна лепш за гравюру Лірана. (Адзначаецца Стасавым—стар. 30).

е) *„Взоръ десіати подъставокъ и баней ихъ"*. Памер: 105×104,5 mm. У кнізе Лірана (Regum tertius, cap. IX) таксама два варыянты: 1) „secundum expositores latinos" і 2) „secundum expositores hebraeos". Гравюра Скарыны комбінуе абодва варыянты, паўтараючы ў ніжняй частцы гэбрайскі, а ў верхняй—лацінскі.

*Б. Тлумачальныя рысункі да скініі* з кнігі „Ісход" 1519 г.

а) *„Взоръ кивота или скрини завета Гсдьніа"*. Памер: 104×103,5 mm. У комэнтарыях Лірана (Exodus, cap. XXV) і ў „Хронікі" Шэдэля (Fol. XXXI, tertia etas mundi) мы знаходзім па дзьве аналёгічныя гравюры, з якіх адна зьяўляецца рысункам ківоту „secundum rabi Salomonem", другая-ж „secundum doctores catholicos"; у першым варыянце ручкі ківота зьмешчаны ў папярочным напрамку, кэрубы стаяць на пакрышцы ківоту з разьвінутымі крыламі і складзенымі на грудзёх рукамі; у другім варыянце ручкі разьмешчаны ў прадоўжным напрамку, кэрубы-ж знаходзяцца па бакох ківоту, здымаючы з яго пакрышку. Гравюра Скарыны сумяшчае ў сабе рысы абодвых гэтых варыянтаў: ручкі ківоту зьмешчаны ў папярочным напрамку і фігуры кэрубаў знаходзяцца на самым ківоце, аналёгічна гэбрайскаму тлумачэньню, але падобна да каталіцкага варыянту яны здымаюць з ківоту пакрышку; крылы-ж, у процілегласьць і таму і другому, зьлёгка складзены над ківотам. Апроч таго, самыківот аздоблены багатым орнамэнтам, на заднім-жа пляне зьмешчаны дзьве чатырохкантовыя колюмны з падвешанымі да іх „гэрбамі"; трактоўка фігур кэрубаў таксама значна больш плястычна.

б) *„Взоръ стола нанемже бѣ хлебъ посвіащеный"*. Памер: 104×104 mm. Амаль што поўная копія з рысунку, зьмешчанага ў Лірана (Exodus, cap. XXV) і Шэдэля (Fol. XXXII, tertia etas mundi), за выняткам толькі таго, што самы стол багацей орнамэнтаваны, хлебы маюць акруглую форму замест чатырохкантовай, падножжы келіхаў аздоблены расьлінным орнамэнтам, і зьверху па кутох гравюры зьмешчаны шчыты з звычайнымі „гэрбамі".

**в)** *„Взоръ светилника златого светием его“* Памер: 104×104 mm. У даным выпадку ў кнігах Лірана (Exodus, cap. XXV) і Шэдэля (Fol. XXXII і XXXIII, tertia etas mundi) ізноў, як раней, зьмешчана па два рысункі: „secundum doctores antiquos“ і „secundum raby Moysen“. Рысунак у „Бібліі“ Скарыны, асабліва ў конструкцыі падстаўкі, некалькі адрозьніваецца ад абодвых гэтых варыянтаў, але бліжэй да другога— гэбрайскага.

г) *„Взоръ требника нанемже приношаху жертвы“*. Памер: 105×105 mm. У выданьнях Лірана (Exodus, cap. XXVII) і Шэдэля (Fol. XXXIII, tertia etas mundi) таксама па два варыянты „secundum latinos“ і „secundum hebraeos“; рысунак Скарыны не тоесамны ані з адным з гэтых варыянтаў, але бліжэй да лацінскага.

д) *„Взоръ ризъ жреческих еже быша наароне“*: Памер 105×105 mm. Адносна дэталяй адзежы фігура цалкам запазычана з адпаведных гравюр Лірана (Exodus, cap. XXVIII) і Шэдэля (Fol. XXXIII, tertia etas mundi); але яна набыла некалькі іншыя пропорцыі, зрабілася больш прысадзістай і монумэнтальна сымэтрычнай; таксама відазьмяніўся і тып твару. Апроч таго, у гравюры Скарыны фігура гэтая ўключана ў пышна орнамэнтаваную рамку ў выглядзе паўкруглае аркі на дзьвёх колюмнах, над капітэлямі якіх знаходзяцца шчыты з звычайнымі „гэрбамі“.

Уся група тлумачальных рысункаў цалкам паказвае: напершае— на чыста службовы, практычны характар гэтых гравюр, асабліва падкрэсьлены яшчэ спэцыяльнымі ўпамінамі аб іх у прадмовах (што мы адзначалі ў пачатку нашага артыкулу) і разьмяшчэньнем іх у сярэдзіне тэксту, без асаблівае ўвагі да прыгожасьці іх разьмеркаваньня; падругое—на цесную залежнасьць гэтых гравюр ад адпаведных рысункаў „Хронікі“ Шэдэля і „Комэнтарый“ Лірана, што наагул гравюрам Скарыны не ўласьціва, — прычым з канонічнага боку цікава перавага гэбрайскіх варыянтаў, або зьмешаных з гэбрайскіх і лацінскіх адменьнікаў комбінацый; нарэшце, патрэцяе,—на поўную адасобленасьць гэтых рысункаў і нязьвязанасьць іх з усімі іншымі, пералічанымі намі вышэй гравюрамі, якія і па апрацоўцы сваёй, і па зьмесьце, і па разьмяшчэньні на загалоўных аркушох паасобных кніжок—у процілегласьць практычна-ілюстрацыйнаму прызначэньню тлумачальных рысункаў, маюць характар пераважна мастацкіх аздоб.

---

Апроч сюжэтных гравюр, другім ня менш значным элемэнтам мастацкае апрацоўкі як праскіх, гэтак і віленскіх выданьняў Скарыны зьяўляюцца кніжныя аздобы чыста графічнага характару, якім адведзена ў гэтых выданьнях досыць важная і для таго часу некалькі нечаканая роля. Мы ўжо адзначалі, што ў гэтых адносінах выданьні Скарыны да некаторае ступені пракладалі новыя шляхі ў мастацтве кніжнае орнамэнтыкі, злучаючы дэкарацыйныя традыцыі бізантыцка-славянскіх рукапісаў з стылістычнымі традыцыямі заходня-эўропейскіх орнамэнтальных мотываў. У гэтым сэнсе быў зроблены вядомы крок наперад нават у параўнаньні да заходня-эўропейскіх выданьняў, дзе ў тыя часы ўжываньне чыстае орнамэнтыкі было яшчэ надзвычайна абмежаваным; для выданьняў-жа славянскіх—кнігі Скарыны зрабіліся рэдкім выняткам як па багацьці, так і па стылістычнай раскошы сваіх орнамэнтальных аздоб.

Аздобы гэтыя можна падзяліць на тры асноўныя катэгорыі: *загалоўныя аркушы*, *застаўкі* і *орнамэнтаваныя вялікія літары* ў рамках з рознастайнымі рысункамі. Кожная з гэтых катэгорый мае свае мастацкія вартасьці і асаблівасьці, але ўсе яны больш-менш аднальковы



„Памазаньне Давыда" з 1-й кнігі „Царстваў" 1518 г.



„Пабудова Ерусалімскага храму“ з 3-й кнігі „Царстваў“ 1518 г.



„Іоў і д'ябал“ з кнігі „Іова“ 1517 г.



„Дыспут“ з кнігі „Ісуса сына Сірахава“ 1517 г.



„Саламон і царыца Саўская“ з кнігі „Эклезіаст“ 1518 г.



„Хрыстос і Саламон“ з кнігі „Прамудрасьці Саламона“ 1518 г.



„Давыд перад каўчэгам“ з 2-й кнігі „Царстваў“ 1518 г.



„Аблога Ерусаліма Навухаданосарам“ з 4-й кнігі „Царстваў“ 1518 г.



„Ізраільскія палкі каля скініі“ з кнігі „Чисел“ 1519 г.



„Руфь у полі“ з кнігі „Руфь“ 1519 г.



„Багародзіца з младзенцам і анёламі“ з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы“.



„Тройца“ на адвароце загалоўнага аркушу праскае „Бібліі“.

ў сваіх тэхнічных і стылістычных адзнаках; з тэхнічнага боку для іх характэрна высокая дакладнасьць і дасканаласьць выкананьня; у стылістычных адносінах—элемэнты позьняе готыкі і італьянскага рэнэсансу, у некаторых выпадках—у нямецкай, а магчыма і ў чэскай яго варыяцыі. Гэтыя стылістычныя рысы былі своячасна адзначаны ў спэцыяльнай літаратуры: „Праскія выданьні Скарыны,—кажа, напрыклад, проф. А. Некрасаў,—прадстаўляюць сабой орнамэнт італьянскага рэнэсансу, але перапрацаваны на нямецкім грунце. Акант набліжаецца да тэй тыпова нямецкай яго апрацоўкі, якую мы знаходзім у нямецкага гравёра канца XV ст. Ізраэля Мэкенэма; побач з putti сустракаюцца фігуры людзей, блізкія па форме сваёй да вобразаў Лукі Кранаха, і фігуры лясных мар у стылі Альбрэхта Альтдорфэра. Італьянская пластычнасьць адыходзіць на другі плян, засьціцца награмаджэньнем ліній, што тыпова для нямецкай гравюры. У праскіх і кракаўскіх (sic! *М. Ш.*) выданьнях Скарыны сустракаюцца застаўкі ў выглядзе аканту, які сымэтрычна разыходзіцца з асяродку ў абодва бакі застаўкі. Перавага важкіх формаў, накшталт шчытоў, колёнак, бубнаў—знаходзіць сабе аналёгіі ў нямецкіх выданьнях XV-XVI ст. Некаторыя формы орнамэнту ўсходзяць яшчэ да готыкі“ [1]). Да гэтых уваг трэба толькі дадаць, што як наагул ня варта перавялічваць значэньне нямецкае гравюры для выданьняў Скарыны, так і ў адносінах да орнамэнту нельга лічыць нямецкі ўплыў адзіным і найбольш істотным; далей—трэба адзначыць, што ўсе пэрсональныя набліжэньні Некрасава—чыста выпадковы і мала могуць высьветліць пытаньне аб запраўдным генэзісе скарынавых орнамэнтальных формаў; нарэшце, трэба падкрэсьліць некалькі нягрунтоўнае знаёмства аўтара з даным пытаньнем, вынікам чаго зьявілася пасылка на „кракаўскія“ выданьні Скарыны, якіх фактычна няма. Агуламжа кажучы,—з увагамі гэтымі можна згадзіцца, асабліва ў тэй іх асноўнай частцы, якая правільна вызначае готычныя і рэнэсансавыя формы як найбольш важныя складальныя элемэнты орнамэнтальных композыцый скарынавых кніжок.

Але ў розных катэгорыях аздоб формы гэтыя распрацаваны таксама паразнаму. Праўда, частка загалоўных аркушоў у стылістычных адносінах набліжаецца да некаторых заставак; але другія моцна адрозьніваюцца паміж сабой, вялікія-ж літары ўтвараюць зусім самастойную групу, пры гэтым найбольш багатую па разнастайнасьці рысункаў і тэм. Усе гэтыя катэгорыі павінны, такім чынам, разглядацца паасобна, хоць паміж іх і існуе вядомая стылістычная супольнасьць агульнага характару.

На першым месцы тут могуць быць вызначаны загалоўныя аркушы. Агулам кажучы, у выданьнях Скарыны гэтай катэгорыі графічных аздоб адведзена досыць выдатная роля, але большая частка іх у праскай „Бібліі“ ня мае орнамэнтальна-графічнага характару і пабудавана з чыста-сюжэтных гравюр. Як мы ўжо адзначалі, у сутнасьці амаль што ўсе пералічаныя намі вышэй гравюры, у комбінацыі з адпаведнымі загалоўкамі, зьяўляюцца загалоўнымі аркушамі да 22 паасобных біблійных кніжок; да некаторае ступені сюжэтны характар мае таксама і загалоўны аркуш „Акафістаў“ з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы“, апісаны намі сярод гравюр першае групы. Але, апроч іх, існуе і некалькі чыста-графічных, орнамэнтальных аркушоў розных рысункаў і композыцый, дзе адпаведныя тэксты загалоўкаў або ўклю-

[1]) *А. Н. Некрасов*. Доклад: „Орнамент славянских печатных изданий XV-XVI в. „Древности. Труды Славянской Комиссии Имп. Москов. Археологич. О-ва“, т. V, М. 1911, протоколы, стар. 53.

чаны ў дэкорацыйныя рамкі, або злучаны з дэкорацыйнымі застаўкамі. Гэтых аркушоў мы можам налічыць шэсьць: у праскіх выданьнях—1 (бо загалоўны аркуш „Псалтыру" 1517 году, на жаль, застаецца невядомым з прычыны дэфэктнасьці існуючых экзэмпляраў), і ў віленскіх—5. Аркушы гэтыя наступныя:

а) *Загалоўны аркуш праскае „Бібліі"* (1519 г.?). Агульны памер: 110×168 mm. Надрукаваны з чатырох паасобных дошчачак, разьмешчаных у выглядзе рамкі. Дзьве бакавыя дошчачкі, памерам 19×168 mm. кожная, маюць на чорным фоне некалькі важкаватыя слупкі, складзеныя з орнамэнтаваных бубнаў і расьлінных мотываў—галоўным чынам лісьцяў—готычнага характару. Верхняя дошчачка мае памер 70×43 mm.; тут таксама на чорным фоне зьмешчана белае поле шчыту, абкружанае готычным расьлінным орнамэнтам з галоўкамі драконаў унізе. Ніжняя дошчачка памерам 70×37 mm.; тут ізноў на чорным фоне зьмешчаны два аналёгічныя з верхнім шчыты, у адным з якіх знаходзіцца звычайны „гэрб" Скарыны са знакам зацьменьня, у другім-жа монограма ⩚. Унутры складзенай з гэтых дошчачак рамкі зьмешчаны цынобраны загаловак: *„Бівлііа руска выложена доктором̃ франциском̃ скориною изславнаго града полоцька, богу кочти и людем̃ посполитым̃ кдоброму наученню"*. Агульная композыцыя рамкі і сувязь паасобных частак рысунку як паміж сабой, гэтак і з тэкстам,—выключна прыгожа па скончанасьці сваёй і гармоніі. Сярод усіх іншых загалоўных аркушоў, зьмешчаных у кнігах Скарыны, аркуш гэты асабліва выдзяляецца на самы першы плян па сваёй мастацкай вартасьці, што своечасна было правільна адзначана Уладзімеравым; але гэты апошні, здаецца нам, без належных падстаў зацьвярджае, як быццам аналёгічныя тыпы загалоўных аркушоў можна бачыць у лацінскіх, нямецкіх, чэскіх, польскіх і іншых выданьнях канца XV і першай паловы XVI сталецьця („Доктор Франциск Скорина", стар. 72-73); на жаль, Уладзімераў не зазначае, якія ўласна выданьні ён меў на ўвазе; мы-ж, з свайго боку, у заходня-эўропейскіх выданьнях гэтага часу падобных аркушоў не знайшлі, і павінны заўважыць, што ў сэнсе мастацкасьці загалоўнага аркушу „Біблія" Скарыны, бясспрэчна, далёка выпярэдзіла шмат якія ранейшыя выданьні,—у тым ліку, напрыклад,—чэскую „Біблію" 1506 году, дзе загалоўны аркуш значна менш строгі і вытрыманы.

б) *Загалоўны аркуш віленскага „Апостала" 1525 г.* Скомпанаваны з двох паасобных заставак, якія знаходзяцца на гары аркушу і на доле яго. Верхняя, памерам 63,5×10 mm., мае ў асяродку падвойны кветкавы падвяночак, з якога ў абодва бакі разыходзяцца сымэтрычныя віткі расьліннага орнамэнту; ніжняя мае памер 63×15 mm.; у васяродку яе знаходзіцца ваза, адкуль выходзяць два акантавыя віткі; направа і налева—шчыты, у адным з якіх зьмешчаны „гэрб" Скарыны, у другім-жа монограма ⩚ некалькі іншага рысунку, ніж у гравюрах бібліі. Паміж застаўкамі—загаловак: *„Починаетьсіа книга деаниіа и посьланиіа апостольскаіа зовемаіа апостолъ, з божию помочью справълена доктором̃ франъциском скориною сполоцька:"*. (У віленскім „Апостале" Уладзімераў адзначае і яшчэ адзін загалоўны аркуш, апроч апісанага, а ўласна да „Пасланьняў ап. Паўла" (стар. 175); на жаль, у паасобніку Расійскае Публічнае Бібліотэкі, якім мы карысталіся, гэтага аркушу няма).

в) *Загалоўны аркуш „Псалтыру" з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы"*. Аналёгічна загалоўнаму аркушу „Бібліі", надрукаваны рамкай з чатырох паасобных дошчачак; верхняя і ніжняя з іх паўтараюць застаўкі загалоўнага аркушу „Апостала"; устаўленыя паміж іх

бакавыя маюць памеры 5×63 mm. і 5×63,5 mm.: левая з іх аздоблена геомэтрычным, правая—расьлінным орнамэнтам. Уся рамка сабрана некалькі неакуратна. Унутры яе знаходзіцца загаловак: „*Починаетьсіа псалътырь или песни стго пророка божиіа давыда царя ерусалимъска: о христе:*“. Вялікая літара П—у цынобранай рамцы з геомэтрычным орнамэнтам.

г) *Загалоўны аркуш акафіста Яну хрысьціцелю з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы“*. Найбольш прымітыўны з усіх загалоўных аркушоў Скарыны. Згары знаходзіцца застаўка памерам 64×7 mm., з нячытэльным рысункам на заштрыхаваным вэртыкалямі фоне. Пад ёй зьмешчаны тэкст загалоўку, разьмеркаваны ў форме трыкутніку: „*акафістъ чесному пвъсехвалному пророку предтечи и крестителю господьню иоанъну поем*“.

д) *Загалоўны аркуш „Шостаднеўца“ з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы“*. Аналёгічна аркушу „Псалтыру“, надрукаваны з чатырох дошчачак, верхняя і бакавая з якіх—тыя-ж самыя. Ніжняя памерам: 62,5×10 mm. запоўнена орнамэнтам у выглядзе двох злучаных хвастамі драконаў, з зеваў якіх выходзяць расьлінныя віткі. Унутры рамкі надпіс: „*Шестодневець кратъкіи навсу неделю почении отсуботы, по обычаю всехъ восточныхъ церквий:—*“.

е) *Загалоўны аркуш „Пасьледаваньня“ з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы“*. Таксама надрукаваны з чатырох дошчачак, з паўтарэньнем папярэдніх—верхняй і бакавых. Ніжняя памерам: 63×10 mm. аздоблена парай сымэтрычных складаных вІткоў, якія разыходзяцца ад асяродку. У рамцы загаловак: „*Последование церковнаго собъраніа въселетънаго от месеца сепътевріа до месеца августа повъставу ерусалимъское церкви:—*“.

У вагульнай масе сваёй загалоўныя аркушы выяўляюць: элемэнты готыкі ў праскай „Бібліі“, і рэнэсансавыя формы ў больш позьніх віленскіх выданьнях, з некаторым упрошчаньнем іх у бок большае схэматычнасьці,—пры агульнай дакладнасьці гравіраваньня. Ва ўсіх выпадках, пры гэтым, значную ролю граюць і самыя загалоўкі, надрукаваныя прыгожым „скарынавым“ шрыфтам, з вялікіх літар, якія органічна ўключаюцца ў агульныя композыцыі аркушоў. Орнамэнтальныя мотывы, за выняткам праскае „Бібліі“,—некалькі аднастайныя, і ня маюць уласьцівага іншым аздобам у выданьнях Скарыны дэкорацыйнага багацьця і эфэктоўнасьці. Па думцы Уладзімерава, віленскія выданьні сваімі загалоўнымі аркушамі, таксама як і гравюрамі, падобны да нямецкіх выданьняў малога формату: Missale, Breviarium, і асабліва Hortulus animae („Доктор Франциск Скорина“, стар. 176. Пры гэтым ён пасылаецца на Oscar Hase: Die Koberger, Leipzig 1885—у нататках і рэгістрах). Адносна гравюр, часткова—добравешчаньня „Малое Падарожнае Кніжыцы“,—мы ўжо адзначылі ў сваім месцы, што думка гэтая ня мае падстаў. Таксама і адносна загалоўных аркушоў Уладзімераў пераявлічвае нямецкі ўплыў; мы з свайго боку паказанага ім падабенства не заўважылі.

---

З чыста орнамэнтальнага боку яшчэ больш цікавы застаўкі. Адзін з найбольш раньніх і ў той-жа час найбольш орыгінальных прыкладаў гэтае катэгорыі аздоб дае нам першае выданьне Скарыны—праскі „Псалтыр“ 1517 г. Вялікая фігурная застаўка зьмешчана тут перад самым пачаткам псальмоў, на тэй-жа старонцы, дзе знаходзіцца „цар Давыд“, што апісаны намі ў першай групе гравюр, на самай гары гэтае старонкі[1]). Яна мае форму прадоўжнага простакутніку

[1]) Застаўка гэтая адзначана *Віктаравым*: „Замечательное открытие...“, стар. 6.

памерам: 84×44 mm., з выняткай унізе, вышынёю 23,5 mm. і шырынёю 18,5 mm. У гэтай вынятцы, на шчыце звычайнае формы, зьмешчаны „гэрб“ Скарыны з знакам зацьменьня. Самая застаўка на чорным фоне запоўнена белым штрыхаваным орнамэнтам з фігурамі. У васяродку знаходзіцца ваза з расьлінными віткамі. Па бакох яе—дзьве фантастычныя фігуры, зьвернутыя тварамі ў розныя бакі: налева—мужчынская галава з вусамі і барадой, у круглай „магерцы“, сярод віткоў расьліннага орнамэнту, з лапаю льва і доўгім лускаватым хвастом дракона, які загінаецца ў кірунку да асяродкавае вазы; направа аналёгічная фігура з галавой жанчыны ў хустцы, завязанай накшталт намёткі, з лапаю драпежнага птаха. Грубаватая тэхніка выканальня гэтае застаўкі набліжае яе да гравюр, зьмешчаных у тым-жа „Псалтыру“, і наагул да гравюр „першае групы“, прычым у сувязі з пытаньнем аб пахаджэньні гэтых гравюр, бясспрэчна, зварочвае на сябе ўвагу быццам беларускі характар галаўных убораў у фантастычных фігурах. Застаўка гэтая зьяўляецца адзінай, зробленай спэцыяльна для „Псалтыру“; апроч яе ёсьць яшчэ толькі адна, якая знаходзіцца перад пачаткам „песьні Майсея“; але яна тая-ж самая, што сустракаецца і ў „Бібліі“, напр., у канцы кнігі „Прамудрасьць“, у выглядзе лінейкі з белым асымэтрычным расьлінным орнамэнтам,—толькі надрукавана ў адваротным кірунку.

Застаўкі праскае „Бібліі“ 1517—1519 г. значна больш разнастайныя ў сваіх рысунках і сустракаюцца ў большай колькасьці. Кожная паасобная біблійная кніжка мае заўсёды 2—3 застаўкі: пасьля прадмовы, перад пачаткам тэксту і перад пачаткам пасьляслоўя: толькі ў некаторых выпадках, якія былі намі адзначаны, перад тэкстам замест застаўкі паўтараюцца сюжэтныя гравюры загалоўных аркушоў. Застаўкі гэтыя двох тыпаў: вялікія з фігурамі, якія зьмешчаны толькі перад тэкстам,—і ў іншых мясцох—малыя, трохі аднастайныя па рысунках, у характары вышэйпамянёнай другой застаўкі „Псалтыру“, з расьлінным орнамэнтам, часта з акантавых лісьцяў, па чорным фоне навакол асноўнага стрыжню; памеры іх розныя: даўжыня—50, 85 і 105 mm., шырыня ад 8 да 15,5 mm. Вялікія застаўкі маюць памер: 106×53 mm.; у сярэдзіне іх нязьменна знаходзіцца „гэрб“ Скарыны, па бакох якога зьмяшчаюцца чалавечыя фігуры; застаўкі гэтыя ёсьць трох розных рысункаў:

а) „Гэрб“ у шчыце складанай фігурнай формы, з заштрыхаванай верхняй часткай поля. З абодвых бакоў яго зьмешчаны як быццам два „рогі раскошы“, орнамэнтаваныя лускамі і акантавымі віткамі; з гэтых рогаў выходзяць дзьве агалёныя, зьвёрнутыя тварамі адна да аднэй паясныя мужчынскія фігуры (а не мужчынская і жаночая, як гэта памылкова адзначае Уладзімераў—стар. 76), бяз рук, з рэзка абрысаванымі энэргічнымі профілямі і галаўнымі ўбраньнямі з расьлінных віткоў. У ніжніх кутох—дзьве невялічкія розэткі. Тэхніка выканальня—надзвычайна майстэрская; дакладны і выразны рысунак, а таксама штрыхоўка, удала скомбінаваная з чорнымі плямамі, робіць гэтую застаўку найлепшай з ліку вялікіх заставак.

б) „Гэрб“ усярэдзіне на доле ў паўкруглым шчыце няправільнае формы; над ім яшчэ раз паўтараецца мотыў злучаных разам сонца і месяца. З абодвых бакоў шчыт падтрымліваюць тоўстыя putti, сплеценыя буйным акантам. Тэхніка трохі слабейшая за папярэднюю застаўку; лініі дробныя, штрыхоўка тонкая, але некалькі неакуратная і менш выразная; агульная рамка—шырэй і грубей.

в) Найгоршая з вялікіх заставак. У васяродку—вянок са сплеценых сьцяблоў і лісьцяў; унутры яго падвешаны фігурны шчыт, усё



БІВЛИА РѸСКАЯ
ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМЪ
ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
ИЗСЛАВНАГО ГРАДА ПО
ЛОЦЬКА, БОГѸ КОЧТИ И
ЛЮДЕМЪ ПОСПОЛИТЫМЪ
КДОБРОМѸ НАѸЧЕНИЮ

Загалоўны аркуш праскае „Бібліі“.


ПОЧИНАЕТЬСѦ ѰА
ЛЪТЫРЬ ИЛИ ПЕ
СНИ С҃ТГО ПРОРОКА БО
ЖИѦ ДАВЫДА ЦАРѦ
ЕРУСАЛИМЬСКА
О ХРИСТЕ

Загалоўны аркуш „Псалтыру“ з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы“.


ШЕСТОДНЕВЕЦЪ
КРАТКІИ
СУ НЕДЕЛЬ
ШИ ѠСУБОТЫ
ОБЫЧАЮ
СТОЧНИХЪ ЦЕР
КВИЙ

Загалоўны аркуш „Шостаднеўца“ з віленскай „Малой Падарожнай Кніжыцы“.







Заставкі з праскае „Бібліі“ 1517—1519 г.

ПОСЛАНИЕ



КО ФІЛИМОНУ СВЕТОГО ПА
ВЛА АПОСТОЛА. ЕЖЕ ПОСЫЛАЕТЬ ОТ РИМА СИДА
ВО ОКОВАХЪ ОНИСИМОМЪ. Сказание



Той Онисим былъ есть рабъ Філимоновъ
и утекши от него прийде в Рим, и послу
говаше Павлу, и бысть его велми миленъ.
Павелъ же занеже любляше Філимона
яко брата, не хотѣ оскорбити и. Протоже
и отсылаеть к нему раба его. Дивныйже
обычаемъ, и дивными прімолвлении пишет
за нимъ. Дабы не толико гневъ отпустилъ
ему. Но к тому яко брата возлюбленного
принялъ его. Хотя и самъ возвем з него
досыть учинити, скончевае послание.
Конецъ сказанию.

Прадмова да пасланьня ап. Паўла к Філімону з віленскага „Апостала“ 1525 г.

Ко филимону
Посланне светого Павла



Глава а

Павел связень Іс Хс, и Тимо
фей брать. Филимонови возлю
бленному и поспешнику наше
му. И Апфии сестре возлюбленней
и Архиппу суфемсу воину свому. И дому
твоему собранию. Благодать вам
и миръ от бога отца нашего. и гда Іс Хрста.
Благодарю бога моего всегда воспоминание
творя о тобе в молитвахъ моих. Слыша
твою любовь, и веру, юже и маши ко гду
Ісу, и ко всемъ святымъ. И да обшение ве
ры твоея содейнно будеть в разумении вся
кого добра, еже о Христе Ісе. Радость же
имамъ многу, и утешение о любви твоей
занюже утробы святыхъ почишя тобою бра

Першая старонка пасланьня ап. Паўла к Філімону з віленскага „Апостала“ 1525 г.

поле якога запоўнена „гэрбам". Па бакох яго—дзьве мужчынскія постаці абапіраюцца на белыя шчыты, злучаючыся з асяродкавым вянком пры дапамозе двох віткоў расьліннага орнамэнту. Тэхніка—зусім слабая; лініі няясныя, заблытаныя, штрыхоўка грубая.

Усе гэтыя тры рысункі маюць, як мы бачым, супольныя рысы: дэкорацыйнае прыстасаваньне чалавечых фігур і спалучэньне іх з формамі расьліннага орнамэнту; да гэтага можна яшчэ дадаць свабодную, „рэнэсансавую" іх трактоўку, якая асабліва яскрава выяўляецца ў фігурах putti і ў агалёных торсах першае застаўкі. Але няма ніякіх падстаў бачыць у гэтым беспасрэдны ўплыў нямецкае графікі, як гэта робіць, напрыклад, Уладзімераў, які пасылаецца на нюрэнбэрскія выданьні: „Біблію" 1483 г., „Хроніку" Шэдэля і „Комэнтарыі" Лірана, і зацьвярджае, нават, як быццам усе фігуры скарынавых заставак паасобна, а з апошняй застаўкі і разам, можна бачыць у „Хроніцы" Шэдэля [1]). У гэтым выпадку Уладзімераў, як і ў шмат якіх іншых мясцох, занадта перавялічвае значэньне нюрэнбэрскае „Хронікі" і наагул нямецкіх выданьняў для выданьняў Скарыны; папершае—у корані няправільны агульныя яго пасылкі на Шэдэля і Лірана, бо ў гэтых апошніх, у процілегласьць кніжкам Скарыны, зусім няма ані заставак, ані якой-колечы дэкорацыйнае орнамэнтыкі; падругое—таксама няправільна і зацьверджаньне аб запазычаньні фігур, бо аналёгічныя скарынавым застаўкам фігуры ў „Хроніцы" Шэдэля фактычна не сустракаюцца. На жаль, Уладзімераў тут не паказвае, як звычайна, адпаведных старонак „Хронікі", так што немагчыма даведацца, якія ўласна фігуры ў Шэдэля здаваліся яму падобнымі да фігур з заставак Скарыны; але тут ён, бясспрэчна, зрабіў досыць грунтоўную памылку, бо пераглядзеўшы ўважліва ўсю „Хроніку" Шэдэля, мы не знайшлі ў ёй ані наагул агалёных фігур, ані putti, ані, нарэшце, тых двох барадатых мужчын з апошняе застаўкі, аб якіх Уладзімераў зазначае, быццам у „Хроніцы" яны сустракаюцца нават разам. З гэтай прычыны мы і не знаходзім падстаў, каб бачыць у застаўках Скарыны нямецкія ўплывы; хутчэй мы маем тут справу з італьянскімі формамі, перапрацаванымі на чэскім грунце, што пацьвярджаецца, часткова, тэхнічным падабенствам лепшых (двох першых) заставак да тых сюжэтных гравюр, якія мы разглядалі ў другой групе і дапушчальна адносілі да чэскае гравюрнае школы. Праўда, з тэхнічнага боку ня ўсе застаўкі аднолькавы; так, напрыклад, апошняя значна горш за дзьве першыя. Гэтым, магчыма, тлумачыцца, што ў той час як Стасаў лічыць аўтара заставак „гравёрам сярэдняе вартасьці" [2]),—Равінскі, наадварот, адзначае застаўкі, як „вельмі выдатныя спрытным рысункам і свабодным разцом" [3]). Але ня ўсе застаўкі, напэўна, зроблены былі адным і тым-жа гравёрам; можна дапусьціць, што дзьве першыя гравіраваны аўтарам дрэварытаў другое групы, у той час як апошняя зьяўлялася толькі перайманьнем іх, зробленым іншым майстрам і ў больш грубой тэхніцы. Пры гэтым перайманьні, аднак, яна захавала той-жа самы стыль, і ў гэтых адносінах не парушае тэй стылістычнай суцэльнасьці, якая характэрна для орнамэнтальных мотываў у праскіх выданьнях Скарыны.

Застаўкі віленскіх выданьняў маюць некалькі іншы характар. Яны аднолькавы і ў „Апостале" і ў „Малой Падарожнай Кніжыцы", значна менш па сваіх памерах за праскія застаўкі, і сустракаюцца значна гусьцей, асабліва ў „Кніжыцы", што тлумачыцца чыста прак-

---

[1]) „Доктор Франциск Скорина", стар. 75—76.
[2]) *Стасов*, op. cit., стар. 30.
[3]) *Ровинский*. „Русские граверы...", стар. 6.

тычнымі мэтамі, як гэта зазначае і сам Скарына у пасьляслоуі (*„Писаныи речи:“*): *„Закаждою кафісмою заставица болшая, а по каждой славе, заставица меншая, для лепшего разделения чтущимъ положены суть“*:—Застаўкі гэтыя двох памераў: шырокія 63×10 mm. і вузкія 63×5 mm. І ў тых, і ў другіх на чорным фоне дробны расьлінны, а часам і геомэтрычны орнамэнт. Рысункі яго, агулам кажучы, аднастайныя, але ўсё-ж адрозьніваюцца паміж сабой. Уладзімерау налічвае ў вузкіх застаўках—15, і ў шырокіх—10 паасобных рысункаў (стар. 176),—праўда, гэта разам з паасобнымі дошчачкамі загалоўных аркушоў, так што ў самых застаўках колькасьць розных рысункаў фактычна некалькі менш. У „Малой Падарожной Кніжыцы“ некаторыя застаўкі, замест чорнае фарбы, надрукаваны цынобрай. Ва ўсіх выпадках выкананьне заставак надзвычайна дакладнае і выразнае; па правільнай думцы Стасава застаўкі гэтыя, разам з загалоўнымі літарамі, далёка перавышаюць аналёгічныя аздобы праскае „Бібліі“,—ценкасьць-жа і мастацкая дасканаласьць іх выкананьня ў „Малой Падарожнай Кніжыцы“, у злучэньні з прыгожым шрыфтам, робіць з яе нешта накшталт „славянскага эльзэвіру“ [1]). Магчыма, што ўсе гэтыя застаўкі, як дапушчае той-жа Стасаў [2]), былі прывезены з Прагі.

Найбольш выдатнае па колькасьці, па высокай дакладнасьці выкананьня і па featureнастайнасьці рысункаў месца сярод усіх графічных аздоб у выданьнях Скарыны, бясспрэчна, займаюць прыгожа орнамэнтаваныя вялікія літары. У праскіх выданьнях яны зьмяшчаюцца ў рамках розных памераў: 20×20 mm., 20×25 mm. і 20×30 mm.; унутры рамак літары абкружае тонка гравіраваны орнамэнт, які звычайна складаецца з кветак, лісьцяў, пладоў, рыб, птушак, жывёл, або людзей. У пахаджэньні сваім гэтыя літары, мабыць, усходзяць да тэй заходня-эўропейскай традыцыі, якая яшчэ ў XV сталецьці ўтварала, асабліва ў Нямеччыне, вядомыя фігурныя альфабэты. Але нават сярод вытвораў заходня-эўропейскага кніжнага мастацтва літары Скарыны маглі-б быць адзначаны як досыць выключнае зьявішча і пастаўлены на адно з найбольш пачэсных месцаў. У кожным выпадку па дасканаласьці свайго выкананьня яны непараўнальна вышэй за літары чэскае „Бібліі“ і шмат якія нямецкія выданьні [3]).

Літары ў паасобных праскіх выданьнях, г. зн. у „Псалтыру“ 1517 г. і ў „Бібліі“ 1517—1519 гадоў—амаль што аднальковыя. Спэцыяльна для „Псалтыру“, як відаць, былі зроблены толькі нямногія варыянты, якіх няма ў біблійных кніжках: *Г* з аленем (пс. 86, 96 і інш.), іншае *Г* з дзьвюма готычнымі віткамі (пс. 98 і інш.), і *Х*, аздобленае мячом і шчытом з „гэрбам“ Скарыны (пс. 116 і інш.). Іншыя літары ў „Псалтыру“ тыя-ж самыя, што і ў „Бібліі“, у вапошняй-жа, апроч іх, ёсьць і яшчэ цэлы шэраг рысункаў, якіх у „Псалтыру“ няма. Сярод гэтых літар па колькасьці пераважваюць расьлінныя мотывы; але апроч іх можна знайсьці і шмат іншых, больш цікавых і складаных зьместам сваім аздоб. Па тыпах выкананьня яны падзяляюцца на тры групы: 1) белыя літары на чорным фоне, у вузенькай рамцы, паміж якой і фонам застаецца тонкая белая палоска; 2) такія-ж літары белыя на грануляваным фоне, і 3) літары лінейныя, або штрыхаваныя, на белым фоне ў чорнай рамцы.

Па колькасьці літар першая з гэтых груп—найвялікшая; у ёй можна адзначыць наступныя найбольш цікавыя ўзоры літар: *А* звычайных

[1]) *Стасов*, op. cit., стар. 32.
[2]) Ibidem.
[3]) Пар. *Владимиров*, op. cit., стар. 76.

абрысаў, у сярэдзіне кветка, каля бакавых слупкоў дзьве вужакі з чалавечымі галовамі („Бытія", 13; 1-я „Царстваў", 7); *А* „скарынавае" формы, як у шрыфце, за ім галінка з дробнымі лісьцямі („Песьня песень", 4); *А* тэй-жа формы з віткамі, пракладзенае штрыхоўкай у сьветлацень; *А* з штрыхаваных віткоў, злучаных з кветкамі („Ісуса сына Сірахава", 72); *А* з акантамі, у пятлі чэрап („Бытія", 44); *Б* закругленае ўнізе, за ім ценкая галінка з пладамі (2-я „Царстваў", 80; „Ісуса сына Сірахава", 28); *Б* тэй-жа формы, згары крылатая галоўка, у ніжняй частцы ў сярэдзіне чэрап („Бытія", 1, 16; „Судзей", 1); *Б* больш простых абрысаў, за ім па дыягоналі ценкая галінка з дробнымі лісьцямі („Левіт", 18; 2-я „Царстваў", 78); *В* з кветкамі ўнутры, паміж петляў яблык і галінкі (3-я „Царстваў", 173; 4-ая „Царстваў", 218); *В* з верхняй пятлёй у форме вітка, налева—птах, направа—воўк на задніх лапах, у ніжняй пятлі лісіца („Іова", 46; „Прыповесьці", 18); *Г*, у ім два хлопчыкі, згары налева сонца („Левіт", 13); *Е* з двох расьлінных віткоў з чатырма сасновымі гулямі („Друг. закону", 35; „Судзей", 31); *Е* з завостранымі канцамі, за ім ценкі расьлінны орнамэнт („Ісход", 34; „Левіт", 9); *Ж* з дзьвюма кветкамі („Прыповесьці", 22); *З* з дзьвюма маленькімі фігуркамі і фаўнам („Іова", 36; надрукавана замест *Е*—„Бытія", 28); *И*, унутры якога агалёная жанчына з віткамі замест ног („Бытія", 20, 24); *И* з дзьвюма рыбамі („Іова", 34; таксама ў „Псалтыру", пс. 139); *І* ў відзе слупка з віткамі, каля яго мужчынская фігура з паднятай рукой („Іова", 4; „Прыповесьці", 25); *К* вострых абрысаў, за ім зубар („Ісуса сына Сірахава", 46); *К* акруглых абрысаў з ірысамі („Друг. закону", 1; „Прыповесьці", 19); *М* з дзьвёх рыб, злучаных хвастамі, асяродкавы стрыжань з кветкавым падвяночкам нагары („Ісход", 8; 1-я „Царстваў", 18); *М* „скарынавай" формы, як у шрыфце, згары чалавечы твар („Прыповесьці", 29); *Н* з дзьвюма рыбамі („Іова", 35; таксама ў „Псалтыру", пс. 124); *О* з 5 putti („Ісход", 73); *О* акруглае, запоўненае чалавечым тварам (3-я „Царстваў", 115; „Судзей", 13); *О* з агалёнай жанчынай, якая ляжыць на чэрапе (4-я „Царстваў", 232; „Юдыта", 15); *П* вялікае з акантаў, паміж якіх чалавек з палiцай („Іова", 2); *П* з гэральдычным львом унутры („Ісуса сына Сірахава", 58 і ў загалоўках „Предъсловие"); *Р*, за ім сава з маленькай птушкай („Левіт", 52); *С* з вялікай кветкай унутры („Прыповесьці", 6; таксама ў „Псалтыру", пс. 133); *С* з ракам („Бытія", 7; „Эстэр", 18); *С* са львом і амурам („Бытія", 14, 29); *Т* з агалёнымі мужчынскай і жаночай фігурамі („Бытія", 86; „Ісход", 14); *Т* з дзьвюма рыбамі („Даніила", 15); *Х* з двума putti („Ісход", 48; таксама ў „Псалтыру", пс. 134); *Х* з лукам і стрэламі („Іова", 11; у „Псалтыру", пс. 112); *Ч* як адзін з вадзяных знакаў паперы ў спалучэньні з звычайным „гэрбам" Скарыны" („Левіт", 11; „Ісуса Навіна", 30); *Ч* блізка падобнай да папярэдняй формы, за ім бубен і дзьве палачкі („Ісуса сына Сірахава", 61); *Ч* вялікае з лісьцяў, якое падтрымліваюць дзьве чалавечыя фігуры (1-я „Царстваў", 5); *Ш* у выглядзе агалёнай жаночай крылатай фігуры з віткамі (надрукавана замест *П*, „Друг. закону", 45); *І-А* з акантаў, нагары сонца, як у „гэрбе" („Ерамія", 3).

Другая група літар—на грануляваных фонах—значна менш па сваіх памерах і далёка ня так цікава; па дакладнасьці выкананьня тут можна адзначыць амаль што толькі адно *К* з акантаў („Іова", 1). Таксама нязначна па колькасьці і трэцяя група з белых лінейных, або штрыхаваных літар па белым фоне, але некаторыя з іх усё-ж заслугоўваюць увагі; так, напрыклад, можна адзначыць: вялікае *В* з акантавымі віткамі („Бытія", 9); *І* ў выглядзе слупка, каля якога зьмешчаны агалёныя мужчынская і жаночая фігура („Ісуса Навіна", 1); *Л* з акан-

таў, за ім мужчынская фігура са шчытом і паліцай („Прыповесьці", 27); *М* з крылатай галоўкай, унізе сядзіць чалавечая фігура („Эстэр", 19; „Эклезіаст", 15); *П* з акантаў, у ім чалавечая фігура на каленах („Прыповесьці", 5); *Є* з акантавымі віткамі („Ісход", 5); *ІА*, за ім сонца з даўгімі праменьнямі („Прыповесьці", 39). Як адзін з варыянтаў можна адзначыць *чорную* літару *Р*, за якой знаходзіцца ваза з нейкай расьлінай (2-я „Царстваў", 91).

Усе гэтыя рысункі паказваюць на тыя розныя крыніцы стылю, якімі карысталіся аўтары; некаторыя дэталі, накшталт чарапоў, усходзяць яшчэ да сярэднявечных альфабэтаў з іх „танцамі сьмерці"; але з тымі-ж чарапамі злучаюцца агалёныя жаночыя фігуры, дый наагул багацьце агалёных цел—дзіцячых у фігурах putti, мужчынскіх і жаночых—выяўляе здаровыя густы рэнэсансу, якія ўліваюцца ў зьмярцьвеласьць сярэднявечных формаў.

Некалькі інакш трактаваны вялікія літары ў віленскіх выданьнях. Яны значна менш па сваіх памерах: самыя вялікія дасягаюць 12,5×20,5 mm., іншыя-ж у 11,5×15,5 і ў 7,5×9.5 mm. Усе яны белыя на чорным фоне, дзе ценкімі белымі штрыхамі награвіраваны расьлінны орнамэнт.

Па выкананьні сваім, як і папярэднія літары, яны надзвычайна дакладныя, але выяўляюць меншую за праскія выданьні азначанасьць стылю. Некаторыя з іх крыху набліжаюцца да загалоўных літар нюрэнбэрскага Hortulus animae 1520 г. Яны сустракаюцца як у „Апостале" 1525 г., гэтак і ў „Малой Падарожнай Кніжыцы". У гэтай апошняй, апроч іх, ужываюцца таксама і некаторыя вялікія літары з праскіх выданьняў: напрыклад, *В, Д, И, К, П, Р, С, Т*. Апроч таго, у пачатку акафісту „труне господняй" зьмешчана вялікая загалоўная літара *С* складанае формы і больш самастойнага „віленскага" стылю, якая нагадвае больш позьнія аздобы кніжок друкарні Мамонічаў і іншых стара-беларускіх выданьняў.

---

Падводзячы вядомы падрахунак зробленаму намі разбору гравюрных і орнамэнтальных аздоб у выданьнях Скарыны, можна спыніцца ня столькі на якіх-небудзь пэўных і канчатковых вывадах, колькі на тым, што пытаньне гэтае, наагул мала яшчэ трактаванае ў літаратуры, бясспрэчна, патрабуе грунтоўнага перагляду, асабліва у тэй яго частцы, якая закранае паходжэньне скарынавых гравюр і орнамэнтыкі ў формальным і стылістычным сэнсе. Асноўныя крыніцы стылю—готыка і рэнэсанс, з перавагаю апошняга,—высьвятляюцца тут досыць лёгка; але значна цяжэй азначыць пасьлядоўнасьць іх пераходаў і выявіць тыя об'ектыўныя ўмовы, у якіх адбывалася ўтварэньне характэрных для дрэварытаў Скарыны чыста-гравюрных і графічна-орнамэнтальных формаў. Бясспрэчна важная роля чэскае гравюры,—а мо' нават і мініатуры—з прычыны амаль што поўнае адсутнасьці патрэбнага для параўнаньня матар'ялу ў адпаведных бібліотэках застаецца да сучаснага моманту яшчэ нявысьветленай; але можна думаць, што якраз у гэтым кірунку трэба павесьці далейшыя дасьледзіны, карыстаючыся матар'яламі знежных (ням цкіх і чэскіх) бібліотэк і музэяў. З другога боку, таксама застаецца яшчэ няясным і магчымы ўдзел беларусаў у справе мастацкага аздабленьня скарынавых выданьняў, а ў тэйжа меры і роля самога Скарыны, на што ў некаторых выпадках мы пасылаліся вышэй пры разглядзе паасобных гравюр і гравюрных груп.

Аднак, ужо і цяпер прыходзіцца ў кожным выпадку шмат у чым не згаджацца з некаторымі пашыранымі ў літаратуры паглядамі, часткова—з несуразьмерным пераяўлічэньнем ролі нямецкіх уплываў,













Загалоўныя літары з праскае „Бібліі“ 1517—1519 г.













Загалоўныя літары з праскае „Бібліі“ 1517—1519 г.

якія высоўвае на першы плян Уладзімераў пры разглядзе надворнае апрацоўкі скарынавых выданьняў.

Фактычна, першым, хто высунуў падобную думку, быў яшчэ Даброўскі, які, разглядаючы праскія выданьні Скарыны, выказаў чыста апрыорнае дапушчэньне, што патрэбныя Скарыне для гэтых выданьняў гравёры маглі быць ім знойдзены ў Нюрэнбэргу [1]). Да гэтай думкі Уладзімераў далучаецца, праўда, ня цалкам: аб самых гравёрах ён з пэўнасьцю нічога ня кажа, але без абмовак прымае і нават пашырае дапушчэньне Даброўскага аб нямецкай аснове скарынавае гравюры і орнамэнтыкі: „Праскія выданьні Скарыны,—зацьвярджае ён,—уяўляюць найбольшую сувязь з сучаснымі ім нямецкімі—нюрэнбэрскімі і аўгсбурскімі—выданьнямі, прычым сувязь гэтая магла быць або беспасрэднай, або праз пасярэдніцтва праскіх друкароў; сувязь гэтая выяўляецца, галоўным чынам, у некаторых літарах, у гравюрах, аздобах і загалоўных аркушох" [2]). Паказваючы, аднак, у тэорыі, яшчэ шырэй за Даброўскага, на нюрэнбэрскія і *аўгсбурскія* выданьні, Уладзімераў на практыцы ізноў абмяжоўваецца толькі Нюрэнбэргам, вызначаючы ў якасьці крыніц скарынавых гравюр і орнамэнтыкі ўласна нюрэнбэрскія выданьні: „Біблію" 1483 г., „Хроніку" Шэдэля 1493 г. і „Комэнтарыі" („Postilla") Міколы Лірана 1481 г. [3]). Аўторытэт капітальнае монографіі Уладзімерава замацаваў гэтае зацьверджаньне ў літаратуры. Так, напрыклад, ужо ў самыя апошнія часы, некалькі перафразуючы і яшчэ пашыраючы Уладзімерава, паўтарае яго Папоў, які зазначае, што па сваіх гравюрах „кнігі Скарыны выяўляюць падабенства да *чэскіх* (курсіў наш) і нямецкіх выданьняў, прычым найвялікшы ўплыў зрабіла нямецкая хроніка Шэдэля 1483 г." [4]). (Пры гэтым год паказаны памылкова, замест 1493). Таго-ж пункту пагляду прытрымліваецца Уладзімераў і ў адносінах да віленскіх выданьняў: „Разьмеркаваньне гравюр і рысунак іх,—кажа ён,—паказваюць на падвойныя адносіны „Малое Падарожнае Кніжыцы": папершае—да вэнэцыйскага „Малітваслову" 1520 г. і падругое—да нямецкіх гравюр. Асаблівасьці віленскіх выданьняў (аздобы і гравюры) паказваюць на тыя-ж сувязі з нямецкімі друкарнямі як і ў праскіх выданьнях" [5]).

На справе, аднак, трэба прызнаць, што ўсе гэтыя зацьверджаньні Уладзімерава амаль што ня маюць пад сабой рэальных падстаў, асабліва-ж, што набліжэньні кніжок Скарыны да выданьняў Лірана і Шэдэля пагрунтаваны на нейкім асноўным непаразуменьні. Мы ўжо зазначалі, што запраўды з гэтых выданьняў Скарынай былі запазычаны (і то ў пераапрацаваным відзе) 5 тлумачальных рысункаў кнігі „Ісход" і 6 аналёгічных рысункаў 3-й кнігі „Царстваў" з вобразамі паасобных частак скініі і ерусалімскага храму, а таксама некаторых храмовых прылад; але запазычаньне гэтае, абмежаванае толькі данай групай рысункаў, як мы гэта ўжо казалі, можа быць вытлумачана верай Скарыны ў аўторытэт абодвых вышэйпамянёных аўтараў, але ні ў якім выпадку не мастацкімі меркаваньнямі, *бо ва ўсіх іншых гравюрах*—і гэта самае галоўнае—*выданьні Скарыны зусім незалежны ад вышэйазначаных выданьняў Лірана і Шэдэля.* Паказанае Уладзімеравым запазычаньне пэйзажу ў „Ераміі" і добравешчаньня ў „Малой Падарож-

---

[1]) Litterarische Nachrichten von einer Reise nach Schweden. „Neuere Abhandlungen der K. Böhmischen Gesellschaft der Wissenschaften". Prag 1795. S. 186.

[2]) *Владимиров.* „Доктор Франциск Скорина", стар. 81.

[3]) Ibidem, стар. 76.

[4]) *Павло Попов.* „Початки друкарства у слов'ян".—„Бібліологічні вісти". Київ. 1924. Стар. 23.

[5]) *Владимиров.* „Доктор Франциск Скорина", стар. 177-178.

най Кніжыцы“ з адпаведных дрэварытаў Шэдэля—фактычна, як мы бачылі, абмяжоўваецца толькі даволі прыблізным падабенствам; адносна іншых гравюр нават і сам Уладзімераў не памінае ані Шэдэля, ані Лірана; зацьверджаньне яго, як быццам фігуры заставак узяты з „Хронікі“ Шэдэля, як мы паказалі, не адпавядае рачавістасьці. Такім чынам, калі які-небудзь уплыў нюрэнбэрскіх выданьняў на выданьні Скарыны фактычна і меў месца,—дык ён быў зусім не такім інтэнсыўным, і выяўляўся толькі ў дэталях,—так што казаць аб „найвялікшым уплыве“ „Хронікі“ Шэдэля, як гэта робіць, напрыклад, пасылаючыся на Уладзімерава, Папоў—у кожным выпадку нельга.

Таксама павярхоўнай і чыста выпадковай зьяўляецца надворная сувязь выданьняў Скарыны з вядомымі нам выданьнямі чэскімі, аб чым памінае той-жа Папоў. Праская „Біблія“ 1488 году—зусім ня мае гравюр, загалоўныя-ж літары ў ёй—рукапісныя. Гравюры праскага „Новага Закону“ 1498 году—значна слабей за скарынавы па тэхніцы, па композыцыі-ж, зразумела, яны і не маглі-б быць першаўзорамі для ілюстрацый да біблії; толькі адно добравешчаньне і-можа быць, як мы памінаалі, да некаторай ступені пастаўлена ў сувязь з аналёгічнай гравюрай „Малое Падарожнае Кніжыцы“,—але ня больш як і вышэйпамянёнае добравешчаньне „Хронікі“ Шэдэля, прычым, як мы адзначалі, усе гэтыя тры гравюры, напэўна, усходзяць да нейкага супольнага арыгіналу,—магчыма да добравешчаньня Мартына Шонгаўэра. Што-ж датычыць вэнэцыйскай „Біблії“ 1506 году,—дык чыста сюжэтная сувязь выяўляецца, як мы заўважылі, толькі ў гравюры „Шэсьць дзён сьветабудовы“ з кнігі „Бытія“ і ў застаўцы „бог у раі“ з тэй-жа кнігі, чым усе ўзаемаадносіны паміж абодвымі гэтымі выданьнямі амаль што і вычэрпваюцца. Наглядаецца толькі некаторае вельмі далёкае падабенства стылю,—але магчыма, што яно тлумачыцца вэнэцыйскім пахаджэньнем гравюр у „Біблії“ 1506 г., разам з вядомай доляй беспасрэдна італьлянскага ўплыву і на гравюру чэскую, і на гравюры, а асабліва аздобы, у выданьнях Скарыны.

З другога боку, у процілегласьць зацьверджаньню Уладзімерава, трэба зазначыць, што віленскія выданьні Скарыны, часткова „Малая Падарожная Кніжыца“, ані гравюрамі, ані аздобамі зусім ня зьвязаны з вэнэцыйскімі выданьнямі Божыдара Вуковіча, у тым ліку і з памянёным Уладзімеравым „Малітвасловам“ 1520 г.; хутчэй яны набліжаюцца да нюрэнбэрскага „Hortulus animae“ 1520 г., хаця і тут нідзе не наглядаецца беспасрэднае перайманьне, так што бачыць тут, як гэта робіць Уладзімераў, нейкую „сувязь з нямецкімі друкарнямі“, здаецца нам, немагчыма.

Такім чынам, прыходзіцца прызнаць, што тыя майстры, якія аздаблялі выданьні Скарыны, ня гледзячы на некаторую іх залежнасьць і ад нямецкай, і ад чэскай, і ад італьлянскай ксылёграфіі,—у шмат якіх адносінах, як відаць, працавалі зусім самастойна, хоць часткова вытворы іх, магчыма, і зьліваюцца з гравюрай чэскай, распрацаванай як на нямецкім, гэтак і на італьлянскім рэнэсансавым грунце.

---

Нам застаецца яшчэ закрануць пытаньне аб тым, у якой меры скарынавыя гравюры і орнамэнтыка зрабілі ўплыў на пазьнейшыя за іх як беларускія, так і наагул славянскія выданьні. Уплыў гэты, бясспрэчна, меў месца, але ня быў асабліва значным. З высокай дасканаласьцю скарынавых кніжных аздоб,—дасканаласьцю нават выключнай ва ўмовах тагочаснае друкарскае тэхнікі,—не маглі, мабыць, цалкам параўнацца якія-небудзь іншыя выданьні, апроч хіба толькі вэ-

нэцыйскіх, і сучасных ім і ранейшых, якія разам з выданьнямі Скарыны зьяўляюцца адным з найвышэйшых дасягненьняў славянскага друкарскага мастацтва. Дзеля гэтага, разам з апошнімі, яны і засталіся да вядомай ступені ў адзіноцтве. Тут можна цалкам згадзіцца з думкамі Стасава, які зацьвярджае, што як вэнэцыйскія выданьні, гэтак і выданьні Скарыны не перадалі ніякай іншай школе высокае мастацкае дасканаласьці сваіх дрэварытаў, і што тая прыгожасьць, тое майстэрства гравюры, якія на такі кароткі час праблiскалі ў выданьнях вэнэцыйскіх і скарынавых,—ніколі больш ужо не паўтарыліся ані ў адным выданьні славянскага друку на працягу другой паловы XVI усяго XVII і першае паловы XVIII сталецьця [1]). Усё гэта правільна, асабліва ў адносінах да гравюр-ілюстрацый, якія ніколі не зрабіліся прадметам пераймалньня і ані разу ня сталі першаўзорамі для якіх-небудзь пазьнейшых гравюр. Што-ж датычыць графічнае орнамэнтыкі выданьняў Скарыны, дык ёю значна больш карысталіся ў наступных, асабліва стара-беларускіх друкарнях, таксама як і некаторымі асаблівасьцямі скарынава шрыфту. Часткова гэта тлумачыцца, магчыма, беспасрэдным пераходам друкарскіх прылад Скарыны да вядомых віленскіх друкарань Мамонічаў і Сьвята-духаўскага брацтва; з другога-ж боку, меў месца, напэўна, і ня толькі тэхнічны, але таксама і формальна-мастацкі ўплыў, праўда, досыць абмежаваны, аб якім, бясспрэчна, нельга казаць, як гэта робіць Уладзімераў, як аб нейкім агульным уплыве на „віленскую школу гравюры“ [2]).

Абмежаванасьць гэтага ўплыву, аднак, зусім ня тлумачыцца, як гэта зацьвярджае Некрасаў, малой пашыранасьцю выданьняў Скарыны ў межах тагочаснае, як ён кажа, „Літвы“, г. зн. Беларусі [3]). Наадварот, як відаць, выданьні Скарыны былі тут добра вядомы і карысталіся вялікай пашанай; у кожным выпадку цікава і характэрна, што ў некаторых докумэнтах XVII сталецьця, дзе зьмешчаны пералікі кніжок, якія знаходзіліся ў прыватных кніжных зборах,—толькі выданьні Скарыны і астроскія выданьні выдзяляюцца паасобна, усе-ж іншыя пералічаюцца проста па загалоўках, без адзначэньня месца друку; так, напр., у інвэнтары маемасьці, якая засталася пасьля сьмерці віленскага бургомістра Сьцяпана Лябедзіча, ад 1649 г., у сьпісах кніг даволі значнай яго бібліотэкі мы знаходзім побач з 96 лацінскімі (пераважна сьвецкімі) і 5 польскімі кнігамі—11 славянскіх, з якіх тры астроскага друку, адна—друкарні Мамонічаў, і „Apostoł Skoryny“ [4]); таксама ў тэстамэнце берасьцейскага мешчаніна Гурына Федаровіча ад 1624 г., разам з шэрагам невядомага пахаджэньня богаслужбовых і духоўных кніжок і *„требникомъ Острозкимъ“*, два разы памінаецца: *„...Грицку Фесеви, апостолъ, друку скоринина...“, „апостолъ друку Скоринина—Грицку Поповичу...“* [5]). Гэтыя дробныя факты, бясспрэчна, паказваюць, што выданьні Скарыны на старажытнай Беларусі здабылі сабе заслужаную слыннасьць. Але гэтага было яшчэ замала, каб у поўнай меры рабіць чыста практычны ўплыў на аздабленьне і наагул на надворную апрацоўку пазьнейшых выданьняў стара-беларускага друку: папершае, тут ня было, як вядома, бесьперарыўнае пераймальнасьці друкарскіх традыцый, бо ўсьлед за выданьнямі Скарыны наступныя вілен-

---

[1]) *Стасов*, op. cit., стар. 32.
[2]) „Доктор Франциск Скорина“, стар. 207.
[3]) *А. И. Некрасов*. „Книгопечатание в XVI и XVII веках“, стар. 68.
[4]) Акты Віленскага Земскага Суду, з кнігі 5109, арк. 435-442. „Акты Віленскае Камісіі“, Т. IX, стар. 481—483.
[5]) Акты Берасьцейскае Магдэбургіі, з кнігі за 1623—1627 г., старонкі 136-138; Ibidem, VI, 243.

скія выданьні зьявіліся толькі ў самым канцы XVI сталецьця; падругое,—высокая тэхнічная дасканаласьць скарынавых кніжных аздоб, зробленых, як мы адзначалі, напэўна, у Празе, а мо' нават і ў Італіі (хаця-бы часткова),—зьяўлялася хоць і досыць высокім, але ў той-жа час, бясспрэчна, і досыць цяжкім для пераймааньня прыкладам, сьледаваць якому ў шмат якіх выпадках было не пад сілу ані для віленскіх, ані для якіх-небудзь іншых гравёраў. Усё-ж, аднак, гэта не выключала магчымасьці некаторага ўплыву скарынавых аздоб, асабліва на віленскія выданьні, які фактычна і адбываўся тым шляхам, які сваячасна адзначыў Стасаў: некаторыя выданьні *паўтаралі* застаўкі і загалоўныя літары Скарыны з яго аўтэнтычных клішэ, якія служылі для „Апосталу" і „Малой Падарожнай Кніжыцы",—як напр. „Граматыка" Зізанія 1596 году, „Устаў літургіі" 1624 г. і „Вертаград душэўны" 1620 г.; для іншых выданьняў рабіліся блізкія *копіі* скарынавых орнамэнтаў—напр. для „Псалтыру" (Еўе, 1611); нарэшце ў трэціх ужываліся рэдка ўдалыя і часьцей за ўсё досыць грубыя *перайманьні*: прыкладамі тут могуць быць „Бяседы Макарыя Егіпецкага" 1627 г. і „Трэбнік" 1697 г. [1]). З ліку віленскіх выданьняў да гэтага некалькі няпоўнага сьпісу Уладзімераў яшчэ дадае: „Малітвы штодзенныя" 1596 г., „Казаньне сьв. Кірыла" 1596 г. і „Служэбнік" бяз году (Каратаеў, стар. 283, № 156. [2]).

Уплыў гэты не абмяжоўваўся аднымі толькі віленскімі выданьнямі: у вядомай залежнасьці ад выданьняў Скарыны, бясспрэчна, знаходзіліся і іншыя беларускія выданьні—Сымона Буднага („О оправдании" і „Катэхізіс"—Карат., 136—140) і Цяпінскага („Эвангельле" 1570 г.—Карат., 201-203),—далей славянскія выданьні Прымуса Трубэра ў Тубінгене („Катэхізіс" 1561 г., „Постила" 1563 г., „Новы Закон" 1563 г.—Карат., 132—148), нарэшце—некаторыя вытворы украінскага друку, як напрыклад астроскія выданьні („Псалтыр" 1580 г. і „Біблія" 1581 г.), а таксама кіеўскія і львоўскія праз пасярэдніцтва віленскіх,—што сваячасна было ўжо адзначана ў спэцыяльнай літаратуры [3]).

Некаторыя аўтары лічаць, што традыцыя Скарыны, апроч таго зрабіла яшчэ свой уплыў таксама і на першапачатковыя вытворы маскоўскага друку, і была тым асноўным пунктам, з якога паступова выпрацавалася асобная маскоўская традыцыя [4]); пасылкі на так зв. „Хлудаўскае" эвангельле 1553—1563 г. [5]) у даным выпадку, праўда, не адпавядаюць рачавістасьці, бо гэтае апошняе, па нашым разглядзе і параўнаньні, ані ў шрыфце, ані ў застаўках і загалоўных літарах—ніякага падабенства да выданьняў Скарыны не ўяўляе; аднак, у іншых выпадках залежнасьць маскоўскага друку ад выданьняў Скарыны, бясспрэчна, наглядаецца,—што заўважана было яшчэ Некрасавым у адносінах да орнамэнту [6]).

Нельга, аднак, занадта перавялічваць значэньне ўсіх гэтых уплываў. У некаторых выпадках залежнасьць тых ці іншых выданьняў ад першаўзораў Скарыны зьяўляецца чыста друкарскай, а не мастацкай у поўным сэнсе гэтага слова; яна выяўляецца, галоўным чынам, у

---

[1]) *Стасов*, op. cit., стар. 39.

[2]) Op. cit., стар. 207.

[3]) Пар. напр. *Стасов*, op. cit., стар. 39; *Некрасов*, op. cit., 91 і 95; *Попов*, op. cit., стар. 24.

[4]) *Попов*, op. cit., стар. 25.

[5]) *Харламповичь*. Малороссийское влияние на великорусскую церковную жизнь. Т. I. Казань 1914. Стар. 96-97.

[6]) *Некрасов*. Даклад у „Трудах Слав. Ком. Археолог. О-ва", т. V. протоколы, стар. 53.

шрыфце, часам у вялікіх літарах, але ня ў іншых аздобах, якіх або зусім няма, або якія пабудаваны пад уплывам другіх прыкладаў, ці самастойна; да гэтае катэгорыі можна аднесьці выданьні Буднага і Цяпінскага, а таксама тубінгенскія выданьні Трубэра. Так, напрыклад: „Катэхізіс“ Буднага (Несьвіж, 1562) падобны да выданьняў Скарыны толькі шрыфтам, у літарах *А, В, Е, М, а, в, ж, с, я;* застаўка з выданьнямі Скарыны сувязі ня мае. Эвангельле Цяпінскага 1570 г. ва ўсіх вялікіх літарах амаль што паўтарае Скарыну, з малых літар падобны да скарынавых: *а, в, е, фіта;* орнамэнтаваныя загалоўныя літары меншага памеру нагадваюць меншыя з ліку загалоўных літар „Малое Падарожнае Кніжыцы“; з іх-жа складаюцца загалоўкі „Евангелие“; заставак зусім няма. „Катехисмусъ“ Трубэра (Тубінген, 1561) зусім ня мае ніякіх аздоб, і толькі ў шрыфце выяўляе падабенства да выданьняў Скарыны, у літарах: *А, В, Е, М, у, е, в.* Той-жа характар мае „Постила“ (Тубінген, 1562) з аналёгічнымі асаблівасьцямі шрыфту, але дробныя яе гравюры з гравюрамі Скарыны ні ў чым ня зьвязаны. І толькі, нарэшце, „Новы закон“ (Тубінген, 1563), апроч падабенства шрыфту, знаходзіцца ў вядомай залежнасьці ад выданьняў Скарыны ў трактоўцы некаторых загалоўных літар у рамках з чалавечымі фігурамі, якія па характары сваім нагадваюць праскія літары Скарыны, але нідзе з імі не тоесамы па рысунку і зьмешчаны, апроч таго, на заштрыхаваных, а не на чорных фонах; гравюры-ж, што знаходзяцца ў „Апокаліпсісе“, як і ў папярэднім выпадку, з гравюрамі Скарыны ня маюць нічога супольнага.

У некалькі іншых адносінах да скарынавых выданьняў знаходзіцца „Астроская біблія“ 1581 г. У процілегласьць папярэднім выданьням, якраз шрыфт яе ня мае ніякае сувязі са скарынавым шрыфтам; загалоўныя-ж літары ў рамках, хоць і ўзяты ў іншых пропорцыях, але вытрыманы ў характары праскіх літар Скарыны з расьлінным орнамэнтам. Апроч таго, што наагул сустракаецца рэдка, вядомае падабенства выяўляецца таксама і ў чыста графічных аздобах: некаторыя застаўкі яе нагадваюць вялікія застаўкі скарынава „Апостала“ і „Малое Падарожнае Кніжыцы“ (напр. „Баруха“, 1; „Аггея“, 1; „Ісход“, 1 і інш.). Але ўплыў выданьняў Скарыны ўсё-ж не зьяўляецца тут галоўным і пераважным, бо іншыя застаўкі, а таксама загалоўны аркуш па стылі сваім бліжэй да маскоўскіх выданьняў.

Нарэшце, найбольшаму ўплыву скарынавае орнамэнтыкі, бясспрэчна, падлегла віленская друкарская „школа“, прадстаўленая друкарнямі Вільні і Еўя. Так, напрыклад, „Молитвы повседневныя“ (Вільня, 1596) паўтараюць большую частку заставак і загалоўных літар са старых скарынавых клішэ „Апостала“ і „Малое Падарожнае Кніжыцы“. Тыя-ж загалоўныя літары, праўда, ня ў вельмі значнай колькасьці, сустракаюцца ў „Казаньні сьв. Кірыла“ (Вільня, 1596). У „Граматыцы“ Зізанія (Вільня, 1596) усе застаўкі і некаторыя загалоўныя літары надрукаваны з тых-жа віленскіх клішэ Скарыны. „Новы закон і псалтыр“ (Еўе, 1611) таксама паўтарае ў сваіх загалоўных літарах літары скарынавых віленскіх выданьняў. Такім чынам, да самага пачатку XVII сталецьця віленскія друкарні, як відаць, мелі магчымасьць беспасрэдна карыстацца аўтэнтычнымі скарынавымі клішэ. Але ў „Вертаградзе душэўным“ (Вільня, 1620) ужо толькі некаторыя з загалоўных літар надрукаваны з гэтых клішэ, іншыя-ж зьяўляюцца крыху больш грубым іх перайманьнем. Цалкам перайманьне прадстаўляюць сабой загалоўныя літары „Устава літургіі“ (Вільня 1624); але яно абмяжоўваецца толькі гэтымі літарамі, застаўкі-ж і гравюры ад скарынавых незалежны. У „Бяседах Макарыя Егіпецкага“ (Вільня, 1627) ізноў скарыстаны не-

каторыя аўтэнтычныя скарынавы клішэ з віленскіх выданьняў (напр., *Ш)*, але ў нязначнай колькасьці і толькі ў прадмове; тут-жа сустракаюцца перайманьні, досыць удалыя (напр., *П)*; у самым тэксьце загалоўныя літары скомпанаваны ў характары праскіх літар Скарыны, але значна грубей па сваім выкананьні. Нарэшце, „Трэбнік" (Вільня, 1697) выяўляе ўжо выключна досыць грубое перайманьне віленскіх загалоўных літар Скарыны, у застаўках-жа і гравюрах ніякае сувязі з скарынавымі выданьнямі ня мае.

Такім чынам, мы бачым, што нават у тых выпадках, дзе мы маем падставы лічыць уплыў выданьняў Скарыны найбольшым—як, напрыклад, у віленскіх выданьнях—уплыў гэты фактычна ня меў асабліва істотнага значэньня. Мэханічны передрук заставак і літар Скарыны ня мог, зразумела, быць тэй асновай, адкуль выходзіла-б стылістычнае разьвіцьцё віленскае кніжнае орнамэнтыкі, якая ў канцы XVI і ў XVII сталецьці ўжо разьвівалася шмат у чым пад уплывам іншых мастацкіх сувязяй і традыцый, і толькі ў некаторых асноўных прынцыпах друкарства падлягала яшчэ друкарскім традыцыям Скарыны. З гэтай прычыны тут і зусім ня было далейшага разьвіцьця скарынавых орнамэнтальных форм, у выпадках-жа, калі не хапала аўтэнтычных скарынавых клішэ,—майстэрства віленскіх гравёраў у даным стылістычным напрамку ніколі не падымалася вышэй за простыя копіі, або досыць слабыя перайманьні. Да таго-ж і гэты, далёка не вялікі ўплыў абмяжоўваўся толькі аднэй пералічанай намі групай кніжок, якая ў агульнай масе віленскіх выданьняў XVI, XVII і XVIII сталецьцяў складае параўнальна зусім нязначную частку.—Аб іншых выданьнях можна сказаць яшчэ менш: мы бачылі, што ў большасьці выпадкаў залежнасьць іх ад выданьняў Скарыны наглядаецца толькі ў шрыфце, графічныя-ж аздобы скарынава характару сустракаюцца ў іх у вельмі нязначнай колькасьці і выпадкова. Нарэшце, ніякага ўплыву не зрабілі гравюры Скарыны; яны нідзе ня былі паўтораны, нідзе ня выклікалі перайманьняў,—нават у тых выпадках, калі тыя ці іншыя выданьні не абмяжоўваліся толькі графічнымі аздобамі, і ўводзілі ў сябе таксама і дрэварыты ў большменш значным ліку.

Але ўсё гэта толькі падкрэсьлівае асабліва выдатнае мастацкае значэньне выданьняў Скарыны ў гісторыі стара-беларускага кнігадрукарства і тое асобнае становішча, якое займаюць яны сярод іншых выданьняў. Нязначнасьць іх далейшых уплываў яшчэ раз толькі сьведчыць аб іх уласнай значнасьці і выключнай вартасьці. Яна паказвае, што больш-менш дасканалыя перайманьні тут былі немагчымы, бо самая першая спроба Беларусі ў галіне кнігадрукарства, на моцы цэлага шэрагу спагадных варункаў, сама па сабе зьявілася ўжо найбольш дасканалай. І гэта яшчэ раз дае нам падставы, каб запраўды лічыць выданьні Скарыны і па агульнай іх пабудове, і па дэталях апрацоўкі—у гравюрах і ў орнамэнтыцы—адным з найвышэйшых дасягненьняў друкарскага і ксылёграфічнага мастацтва ня толькі ў стара-беларускім, але і наагул у славянскім друку,—высокая дасканаласьць якога, такая суцэльная ў сваёй стылістычнай скончанасьці, ніколі і не магла дзе-небудзь быць перавышана.

---

*Крыніцы*: „Псалтыр" Скарыны. Прага. 1517. Рас. Пуб. Бібл. VIII. 2. № 62; „Біблія" Скарыны. Прага, 1517-1519. Рас. Публ. Бібл., 3 томы: 1, 5. № 4 а; 1, 5, № 4а/1; 1, 5, № 4а/2 Дублетны паасобнік, няпоўны: 1, 5, № 4в/4. [1]) „Апостал" Скарыны: 1, 5, № 7/г; • „Малая Падарожная Кніжыца", 2 томы: 1, 5: № 8а/1; 1, 5, № 8а/2.

---

[1]) Пяць кніжок „Бібліі" Скарыны ёсьць і ў Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы пад №№ Б 09/3937—Б 09/3941.

*Матар'ялы для параўнаньняў*: Лацінская біблія. Вэнэцыя, 1498: 9.XIX.3. № 27: Чэская біблія. Вэнэцыя, 1506: 15. 46, 7. № 36; „Chronicon Nürnbergense" Шэдэля, 1493: 9.VI.2. № 2; „Nowy zakon". Прага 1498: 6/в. 9. № 123; *Nic. de Lyra*. Glossae in universa Biblia. Nurnbergae. A. Koburger. 1481: 2 томы—9.XIV.2. № 1 і 1-в.; „Homtulus animae". Нюрэнбэрг 1520: 15. 14. 6. № 9; „Хлудаўскае" эвангельле XVI ст.: І.3. № 5. в. „Катехисмусъ" Трубэра. Тубінген 1561: І.5. № 23; „Постила". Тубінген 1562: І.5. № 25; „Новы тештамент". Тубінген 1563: І.5. № 28; „Катихисіс" Буднага, Несьвіж 1562; І.5. № 24 а; Эвангельле Цяпінскага. 1570: І.1. № 29; Біблія, Астрог 1581: І.2. № 2 б; „Молитвы повседневныя", Вільня 1596: І.7. № 8; „Казанье святого Кирилла патріархи іер(у)с(а)лимского", Вільня 1596: І.7. № 7а.; „Грамматіка словенска" Зізанія. Вільня 1596: І.7. № 11а; Новы закон і псалтыр. Еўе 1611: І.7. № 34б; „Устав божественной литургии". Вільня 1624: II, 5. № 9; „Вертоград душевный". Вільня 1620. І.8. № 33 а; Бяседы Макарыя Египецкага. Вільня 1627: II.5. № 22; Трэбнік Вільня 1697: V. 9. № 2.

*Літаратура*: 1) „Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатныя издания и язык". Исследование *П. В. Владимирова*. 1888. Стар. 53, 55-56, 63, 68-82 (праскія выданьні Скарыны ў друкарскіх адносінах); 173-178 (віленскія выданьні Скарыны ў друкарскіх адносінах). 2) „Разбор рукописного сочинения Г. Ровинского „Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии Художеств", составленный *В. В. Стасовым*.—„Отчет о седьмом присуждении наград графа Уварова", СПБ. 1864. Стар. 30-32, 37. 39. 3.) „Русские граверы и их произведения с 1564 года до основания Академии Художеств". Исследование *Д. Ровинского*. Москва 1870. Стар. 5-6, 8. 4) „Подробный словарь русских граверов XVI-XIX в.". Составил *Д. А. Ровинский*. СПБ. 1895. Т. І. Стар. 8-10, 13-14. 5). „Подробный словарь русских гравированных портретов". Составил *Д. А. Ровинский*. СПБ. 1888. Т. III. (портрэт Скарыны). 6) *А. Е. Викторов*. „Замечательное открытие в древне-русском книжном мире".—„Беседы в Обществе Любителей Российской Словесности при Имп. Московском Университете". Вып. І. М. 1867.Стар. 6 (кароткае апісаньне застаўкі і „Давыда" з праскага „Псалтыру" 1517 г.) 7) *А. И. Некрасов*. Книгопечатание в XVI и XVII веках. „Книга в России", І, стар. 95 і 105 (уплывы выданьняў Скарыны. 8) *А. И. Некрасов*: Даклад „Орнамент славянских печатных изданий XV-XVI в."—„Древности. Труды Славянской Комиссии Археологического О-ва". Т. V, протоколы, стар. 53 (арнамэнт у праскіх выданьнях Скарыны). 9) *Павло Попов*: „Початки друкарства у слов'ян"—„Бібліологичні вісти", Київ, 1924, стар. 23-25 і 29. 10). Dobrowski: Litterarishe Nachrichten von einer Reise nach Schweden."—„Neuere Abhandlungen der Böhmischen Gesellschaft der Wissenschaften Prag 1795. Стар. 186 (дапушчэньне аб нюрэнбэрскім пахаджэньні гравёраў). 11) Michała Wiszniewskiego „Historya literatury polskiéy. W Krakowie. 1851. T. VIII, стар. 467 (кароткія ўпаміны аб скарынавых гравюрах).

(Фотографічныя здымкі з гравюр зроблены ў фотографічнай лябораторыі Расійскай Публічнай Бібліотэкі пад наглядам фотографа М. М. Брэйткаса. Застаўкі і літары рэпродукаваны з монографіі Уладзімерава).





**Проф. Уладзімер Пічэта.**

Правадзейны Член Інстытуту Беларускае Культуры.

# Друк на Беларусі ў XVI і XVII сталецьцях.

## I.

## Першыя друкарні ў славян.



еніяльная вынаходка Гутэнбэрга досыць шпарка пашырылася па ўсёй Эўропе. Сьледам за Майнцам (у 1450 г.), адчыняюцца друкарні ў Італіі (1464), Вэнэцыі (1469), Міляне (1469), Аўгсбургу (1470), Нюрэнбэргу (1470), Парыжы (1470), Сіцыліі (1472), Голяндыі (1473), Вэнгрыі (1473), Гішпаніі (1473), Флёрэнцыі (1479), Лёндоне (1481), Лейпцыгу (1481), Даніі (1482), Португаліі (1484), Вене (1492), Тубінгене (1497). Гэткім чынам, к канцу XV сталецьця англа-саксонскі, романскі і нямецкі сьветы ўжо ведалі друкаваную кнігу [1]).

Славянскі сьвет таксама не адставаў ад гэтага агульна-эўропейскага культурнага руху. Ужо ў Пільзэне ў 1468 годзе была надрукавана ў невядомай друкарні Траянская гісторыя. У 1475 годзе там-жа была надрукавана першая славянская друкаваная кніга, новы тэстамэнт, але толькі ня кірыліцай, а готычным шрыфтам [2]). Другім месцам, дзе пачаў разьвівацца кнігадрук, была Прага. Пачынаючы ад 1478 году, сталі выходзіць кнігі ў Празе, надрукаваныя ў невядомай нам друкарні. Імёны першых чэскіх друкароў не захаваліся. Першая сталая друкарня ў Празе была заснавана ў 1487 годзе праскім мешчанінам Сэвэрынам Крамаржам, разам з таварышамі. У гэтай друкарні быў надрукаваны першы чэскі „Псалтыр", а потым у наступным годзе вышла ў Празе чэская і славянская біблія, вядомая пад імем „Праскае Бібліі". У 1489 годзе зьявілася яе другое выданьне, у Кутэнбэргу і, нарэшце, трэцяе выданьне чэскае біблії вышла ў Вэнэцыі ў 1506 годзе. Гэткім чынам, у пачатку XVI сталецьця чэхі мелі біблію ў роднай мове [3]).

Зьяўленьне біблії ў чэскай мове трэба паставіць у сувязь з тымі нацыянальна-політычнымі і рэлігійнымі рухамі, якія вялі свой пачатак ад Яна Гуса.

---

[1]) Огієнко Ив. Історія українського друкарства. Львів, 1925, стар. 1.
[2]) Батюшков Н. Памятники русской старины, в. VI. СПБ, 1874, стар. 141.
[3]) Батюшков. Op. cit. стар. 141.

У Польшчы кнігі спачатку друкаваліся ў лацінскай мове. Зьяўленьне першых друкаваных кніг адносіцца альбо да канца 1473, альбо да пачатку 1474 году. Аднак, першыя польскія друкарні існавалі нядоўга. З розных прычын яны прымушаны былі зачыніцца. Сталыя друкарні ў Польшчы зьявіліся толькі ў выніку ўплыву чужаземнага капіталу. Напрыклад, першая сталая друкарня ў Польшчы была заснавана Янам Галерам, які атрымаў у 1505 годзе прывілеі на права адчыненьня друкарні [1]).

І чэскія і польскія выданьні друкаваліся лацінскім шрыфтам. Але славянству наагул, у яго большай частцы, лацінская азбука ня была знаёма, і з гэтай прычыны друкаваньне кніг такім шрыфтам, які для значнай часткі славянства быў чужым, ня мела ніякага значэньня для культурнага разьвіцьця славянства. Яно толькі тады стала карыстацца пладамі кнігадруку, калі пачалі выходзіць надрукаваныя кірыліцай кнігі, якія былі зразумелымі для ўсяго праваслаўнага славянства.

Толькі тады распачаўся рух сярод славянства і для яго пачалася новая эра ў яго нацыянальна-культурным разьвіцьці.

Багатае места Кракаў, асяродак гандлёвых шляхоў, якія ішлі з Заходу на Ўсход, на рубяжы заходняга славянства з аднаго боку і ўсходняга і паўднёвага з другога, зрабіўся айчынай кніг, надрукаваных кірыліцай. Пачынальнікам друкаваньня кніг кірыліцай быў кракаўскі жыхар Швайпольт Фіоль, немец пахаджэньнем. Мы ня ведаем, дзе Фіоль навучыўся друкарству, ня ведаем і таго, чаму Фіоль кінуў сваё ранейшае рамяство—вышываньне па шоўку—і пачаў друкаваць кнігі кірыліцай. Самае пытаньне аб нацыянальным пахаджэньні Фіоля яшчэ дакладна не разьвязана, бо ў літаратуры выказваліся довады і адносна польскага і адносна нямецкага пахаджэньня яго. Але сам Фіоль у пасьляслоўі да выдадзенага ім „Октоіха“ і „Часаслоўца“ называе сябе „мещанином краковьским из нѣмець, нѣмецкого роду“. Мы ня будзем паглыбляцца ў разбор гэтага пытаньня, тым больш, што няма такіх даных, якія-б канчаткова маглі пераканаць прыхільнікаў нямецкага пахаджэньня Фіоля ў яго польскім пахаджэньні. Прыхільнікі польскага пахаджэньня ніякіх даных об'ектыўнага характару не прывялі. Для нас пытаньне аб яго нацыянальным пахаджэньні грае другарадную ролю. Для нас важны той факт, што Фіоль быў заснавальнікам друкарні і першы пачаў друкаваць слявянскія кнігі кірыліцай [2]).

Першай кнігай, якую Фіоль надрукаваў у Кракаве, быў „Осмогласник“ (Октоіх). Выпуск гэтае кнігі адносіцца да 1491 году. Кніга надрукавана штрыфтам вельмі блізкім да літар славянскіх рукапісаў.

Друк ува ўсёй кнізе суцэльны, а дзе словы стаяць паасобку, там пастаўлены кропкі і, вельмі рэдка, коскі. Кніга выдадзена без нумарацыі. У друкарскіх адносінах выдадзены „Васьмігласьнік“ быў далёка не дасканалы [3]). У тым-жа годзе Фіоль надрукаваў „Часасловец“ таксама без нумарацыі [4]). Апроч таго, Фіоль надрукаваў яшчэ дзьве кнігі, „Трыодзь Посная“ і „Трыодзь Цьвятная“. Па знадворных адзнаках, па нарысе літар, па знаках надрадковых і прыпынку абедзьве кнігі магчыма далічыць да кракаўскіх выданьняў[5]). Ёсьць таксама паказаньні, што Фіоль надрукаваў „Псалтыр“ з „Восследованием“ („Следованная“), але самае выданьне апошняе не захавалася ані ў воднай з вядомых

[1]) Павло Попов. Початки друкарства у слов'ян. Київ 1924, стар. 4-5.
[2]) Павло Попов. Op. cit., стар. 6.
[3]) Каратаев И. Описание славяно-русских книг. СПБ. 1883, № 1.
[4]) Каратаев И. Op. cit., № 2.
[5]) Каратаев И. Op. cit., №№ 4 і 5.

бібліотэк. Яе існаваньне першым адзначыў біскуп Ніжняга Ноўгараду Піцірым у 1721 годзе ў сваім творы „Пращица противу вопросов раскольническіх“ [1]). Гэткім чынам, усіх Фіолеўскіх выданьняў было пяць і ўсе яны вышлі ў 1491 годзе. Агульная колькасьць надрукаваных вядомых нам аркушоў будзе 1228, а калі дадаць яшчэ „Псалтыр“, дык колькасьць надрукаваных аркушоў павялічыцца яшчэ на 500. Трэба прызнаць упоўне правільным прыпушчэньне Каратаева аб тым, што пры тагочасных тэхнічных умовах і пры малой дасьведчанасьці ў друкарскай справе, вельмі цяжка надрукаваць у год пяць вялізных кніг, хаця-б друкар і меў дапаможнікаў. Загэтым магчыма згадзіцца з думкай Каратаева, якой трымаецца і шэраг іншых дасьледчыкаў, аб тым, што надрукаваныя Фіолем кнігі былі падрыхтаваны да друку значна раней. Каратаеў прыпушчае, што Фіоль пачаў друкаваць кнігі не пазьней 1485 году. Ён вёў сваю працу на працягу 5-6 год, а год 1491 выставіў на ўсіх кнігах, як толькі скончыў друкаваньне ўсіх сваіх выданьняў [2]).

Так у Кракаве, асяродку каталіцтва, узьнікла славянскае кнігадрукарства. Для якой мэты яно ўзьнікла, для каго і для чаго яно прызначалася, чаму славянская кніга нарадзілася ў Кракаве—вось пытаньне, якое цікавіла ўсіх дасьледчыкаў. Польскі дасьледчык Пташыцкі паказваў, што на Клепажы пад Кракавам знаходзілася царква, якая належала да бэнэдыктынцаў, дзе набажэнства адпраўлялася пaславянску, і што ўласна для іх Фіоль і пачаў друкаваць свае выданьні. Але гэтыя меркаваньні цяжка прызнаць правільнымі. Кракаўскія бэнэдыктынцы складалі нязначную колькасна організацыю, і, зразумела, для іх не выпадала друкаваць у вялікім ліку славянскія кнігі. Апроч таго, надрукаваныя славянскія кнігі прызначаліся для праваслаўнага набажэнства. Значыцца, кнігі маглі друкавацца для ўсходняга славянства, украінцаў і беларусаў, і часткова паўднёвага славянства [3]).

Мова кніг Фіоля ў аснове—царкоўна-славянская з прымешкай слоў з жывое гутаркі, блізкай да тагочаснай беларускай і украінскай мовы. Гэтыя ўстаўкі з жывой мовы зусім ясна паказваюць, для якой мэты прызначаліся выданьні Фіоля. Аднак, гэтая думка выклікала пэўнае пярэчаньне з боку А. І. Сабалеўскага, які лічыў, што кнігі прызначаліся для малдаванскага баярства і часткова для балгар, бо ў аснову тэксту, надрукаванага Фіолем, ляглі рукапісы балгарскага пахаджэньня. Думка Сабалеўскага ня сустрэла спачуцьця ў навуковай літаратуры. Дасьледчыкі адзначалі, што рукапісы балгарскага пахаджэньня мелі агульнае пашырэньне, і гэта зусім не паказвае, для каго друкаваліся кнігі Фіоля. Надрукаваныя Фіолем кнігі, бязумоўна, каштавалі вельмі дорага. Іх маглі купляць толькі багатыя людзі. Пакольні украінскае і беларускае магнацтва ў канцы XV сталецьця было буйной у матар'яльных адносінах сілай, пастолькі надрукаваныя Фіолем кнігі, па думцы Папова, прызначаліся для багатых колаў літоўска-беларускага магнацтва [4]). Дзейнасьць Фіоля была вельмі нядоўгая. Каталіцтва не магло мірыцца з яго выдавецкай дзейнасьцю. Кракаўская інквізыцыя прыцягнула Фіоля да суду. Яго абвінавацілі ў агітацыі супроць каталіцтва, у вабароне эўхарыстыі пад двума відамі, як гэта прапаведвалі чэскія гусыты. Бясспрэчна, магчыма зацьвярджаць, што чэскія гусыты мелі пэўны ўплыў на сьветапагляд Фіоля і на яго выдавецкую дзейнасьць. Аднак, Фіолю ўдалася вырвацца з лап

[1]) Каратаев И. Op. cit., № 3.
[2]) Каратаев И. Op. cit., стар. 13.
[3]) Павло Попов. Op. cit., стар. 7.
[4]) Павло Попов. Op. cit., стар. 7.

інквізыцыі. У сярэдзіне 1492 году Фіоль быў вызвалены. Яго праца спынілася, а ўсе надрукаваныя ім кнігі былі спалены. Фіоль быў прымушаны пакінуць Кракаў і пасяліцца ў Вэнгрыі. Ён памёр у 1525 г.[1]). Кнігі Фіоля атрымалі пашырэньне як на Украіне, так і на Беларусі. Па шмат якіх цэрквах і манастырох, у Львове, на Валыні і ў Падляхіі, у Менскім ваяводзтве і іншых мясцох былі выданьні Фіоля. Такая выдатная асоба як Захары Капысьцінскі ў сваёй „Палінодыі" кажа аб значным пашырэньні друкаваных Фіолеўскіх кніг. Гэтае зданьне падзяляе і Каратаеў[2]). Было-б няправільным, разам з некаторымі дасьледчыкамі, лічыць выданьні Фіоля выданьнямі украінскага характару, і пачатак толькі аднаго украінскага кнігадруку весьці ад Фіоля. Зразумела, што пакольki выданьні Фіоля мелі на ўвазе багатыя зямляўласьніцкія клясы Беларусі і Украіны, пакольki Фіоль карыстаўся моваю жывое гутаркі тагочаснага грамадзянства, пастолькі выданьні Фіоля зрабілі бясспрэчны ўплыў на разьвіцьцё як украінскага, так і беларускага кнігадруку.

Разам з зьяўленьнем друкарства ў Італіі, асяродкам друкарскае справы ў апошняй робіцца Вэнэцыя, дзе якраз праходзіла мяжа паміж каталіцтвам і праваслаўным славянствам. Тут, у Вэнэцыі, нехта Андрэй Торэсанскі выдаў так званы „Часасловец", які вышаў у 1493 г. На жаль, аб гэтым выданьні ў навуцы роўна нічога не вядома, бо адзіны паасобнік апошняга выданьня, які знаходзіўся ў бібліотэцы Нюрэнбэрскае ратушы, загінуў. „Часасловец" Андрэя Торэсанскага быў надрукаваны кірыліцай[3]). Апроч таго, пазьней у Вэнэцыі вышла некалькі славянскіх кніг кірылаўскага пісьма, якія адзначаліся сваёю знадворнаю прыгожасьцю.

Экономічныя і культурныя зносіны паўднёвага славянства з Вэнэцыяй, асабліва Дуброўніка і ўсяго Далмацкага ўзьбярэжжа, утваралі на Балканах спагадныя ўмовы для разьвіцьця кнігадруку сярод паўднёвага славянства. Спачатку друкарства зьявілася ў Чорнагорыі, у Цэтыні, дзе 4-га студзеня 1494 году была скончана друкам кніга, так званая „Осмогласник" (Октоіх). Пакольki ў Сэрбіі духавенства зьяўлялася адзіным прадстаўніком праваслаўнае асьветы, пастолькі і першымі друкарамі павінны былі быць прадстаўнікі духавенства. Першая кніга ў Чорнагорыі была надрукавана іераманахам Макарыем, згодна загаду чорнагорскага ваяводы Юрага Чарнаевіча (Гюрга Цьрноевіча). Макары надрукаваў тую самую кнігу, якая раней прыцягнула да сябе ўвагу Фіоля. У кнізе 269 аркушоў, без нумарацыі, шрыфт у кнізе вельмі прыгожы, дый наагул усё выданьне вызначаецца вялікім хараством. Бясспрэчна, на чорнагорскія выданьні зрабіла пэўны ўплыў Вэнэцыя. Кніга мае прадмову, у якой аўтар высьвятляе мэты выданьня сваe кнігі. Выдадзеная кніга канчаецца пасьляслоўем[4]).

Апроч „Осмогласнику", у тэй-жа друкарні ў 1495 г. быў надрукаваны „Псалтыр" з „Восследованием", тым самым Макарыем, па загаду таго-ж ваяводы. Кніга выдадзена таксама прыгожа. Яна мае прадмову, але ў ёй ёсьць і пасьляслоўе, у якім аўтар высьвятляе значэньне выдадзенае ім кнігі. Па думцы Макарыя, „сіа книга цѣломудрію наставникъ, печалемъ прѣмененіе, дѣвству съхраненіе, о Бозѣ бракусъчетаніе, житію учитель, вына въсякого благодѣянія и еже паче к Богу при-

---

[1]) Огієнко. Історія українського друкарства, стар. 8.

[2]) П. Попов. Op. cit., стар. 7. Огієнко. Op. cit., стар. 8. Каратаев. Осмогласьник 1491 г., напечатанный в Кракове кирилловскими буквами. СПБ. 1876. Стар. 20.

[3]) Каратаев. Описание, № 6.

[4]) Каратаев. Op. cit., № 7.

мирение же і сынотвореніе" [1]). Існуе яшчэ паказаньне, што тым-жа Макарыем была надрукавана і трэцяя кніга—„Маліцьвенік" (Эўхолёгіон). Кніга друкавалася на працягу 1493-95 гадоў. Гэта вельмі рэдкае выданьне і адзначаецца вялікай прыгожасьцю [2]). На гэтым і спыняецца дзейнасьць сэрбскае друкарні ў Цэтыньі. Па паказаньнях сэрбскіх дасьледчыкаў, спачатку ў Вэнэцыі была сэрбская друкарня, якая пазьней чорнагорскім ваяводай Іванам Чарнаевічам была перанесена ў Чорнагорыю. Для гэтае друкарні на рацэ Абодзе быў пабудаваны дом, а потым яна была перанесена ўжо сынам ваяводы ў Цэтыньне [3]). Некаторыя вучоныя адносяць „Чатырохэвангельле", выдадзенае коштам Гануша Бэгнэра з Брашава, да кніг, надрукаваных Макарыем. Гэтае выданьне адносіцца да канца XV альбо да пачатку XVI сталецьця. Выданьне канчаецца пасьляслоўем. Цяжка сказаць, ці запраўды гэтае выданьне было надрукавана Макарыем [4]).

У пачатку XVI сталецьця можна адзначыць шэраг іншых друкарань на Балканскай паўвысьпе. Так, каля 1508 году ў Таргавішчах, у Валахіі, па загаду Бесараба, Угравалоскага ваяводы, быў надрукаваны іераманахам Макарыем „Служэбнік", у 1520 годзе „Октоіх", і пышна выдадзенае „Чатырохэвангельле"—у 1512 годзе [5]). Дзейнасьць Макарыя ў Чорнагорыі сустрэла нейкія перашкоды на месцы, мусіць быць, у выніку турэцкага находу, і Макары прымушаны быў перанесьці сваю справу ў Румынію. Кнігі Макарыя былі першымі славянскімі кнігамі, надрукаванымі кірыліцай у Румыніі.

Зьнішчэньне Сэрбіі і Балгарыі туркамі спыніла друкарскую справу на Балканскай паўвысьпе. Аднак, сэрбскія выданьні прадаўжалі выходзіць, але толькі ў Вэнэцыі. Так, у 1519 годзе іераманах Пахомі па загаду і коштам Божыдара Вуковіча з Падгорыцы, надрукаваў „Служэбнік" (Літургіарыён). Можа быць, іераманах Пахомі быў вучнем вядомага Макарыя [6]). У тэй-жа Вэнэцыі, тым-жа друкаром, па загаду таго-ж Божыдара Вуковіча быў надрукаваны „Псалтыр" з „Часаслоўцам", які вышаў у 1519 г. [7]). Нарэшце, той-жа чорнагорскі манах у 1520 годзе надрукаваў „Малітваслоў" [8]). Далей, па загаду таго-ж Божыдара, іераманах Тодар, таксама чорнагорац, у 1527 годзе надрукаваў Служэбнік [9]). У 1536 годзе іерадыякан Майсей надрукаваў, па загаду ваяводы Божыдара, „Малітваслоў" [10]), а ў 1537 годзе іераманахі Фэадос і Геннады надрукавалі „Октоіх". У 1538 годзе, па загаду Б. Вуковіча, іерадыякан Майсей надрукаваў „Соборник" (Избранные Минеи [11]). У 1540 годзе Божыдар Вуковіч памёр, але яго справу прадаўжаў яго сын Вікэнты аж да 60-ых гадоў сталецьця.

Ня гледзячы на неспагадныя ўмовы для разьвіцьця друкарскае справы на Балканскай паўвысьпе, у Герцагавіне ў Гораждзе на працягу 1529—37 гадоў быў надрукаваны „Псалтыр" з „Часаслоўцам". У 1531 годзе, коштам Божыдара Гаражданіна, іераманах Тодар Любовіч

---

[1]) Каратаев. Op. cit., № 8.
[2]) Каратаев. Op. cit., № 9.
[3]) Каратаев. Op. cit., стар. 23.
[4]) Каратаев. Op. cit., стар. 24—26.
[5]) Каратаев. Op. cit., стар. 26—28. Попов. Op. cit., стар. 80. А. И. Яцимирский. Первый славянский печатный служебник. Известия Отд. рус. языка и слов, 1896, кн, 4, (стар. 792—797).
[6]) Каратаев. Op. cit., № 15.
[7]) Ibid., № 16.
[8]) Ibid., № 17.
[9]) Ibid., № 22.
[10]) Ibid., № 26.
[11]) Ibid., №№ 29—31.

у Гораждзе надрукаваў „Маліцьвенік“ [1]). Апроч таго, у 1537 годзе ў Руянскім манастыры ў Сэрбіі іераманах Фэадос надрукаваў „Чатырохэвангельле“ [2]). У 1539 годзе, па загаду мітрапаліта Грачаніцкага Нікандра, быў надрукаваны „неким рабом Димитрием“ „Октоіх“ [3]). Нарэшце, у Белградзе іераманах Мардары, па загаду і коштам князя Радніша Дмітраевіча, а пасьля яго сьмерці—Траяна Гундуліча з Дуброўніку, надрукаваў „Чатырохэвангельле“ [4]). І ў Чорнагорыі справа друкарства ня зусім загінула. Так, у 1562 годзе той-жа іераманах Мардары, які надрукаваў 10 год таму назад у Белградзе „Чатырохэвангельле“, у манастыры Мьршкана Цьрква надрукаваў „Чатырохэвангельле“ па белградзкім выданьні 1502 году [5]).

У васнове ўсіх славянскіх выданьняў ляжалі сэрбскія тэксты. Славянскія выданьні, як выдадзеныя ў Вэнэцыі, так і на самых Балканах, адзначаюцца сваім знадворным хараством. Зразумела, высокая вэнэцыйская друкарская тэхніка зрабіла на гэтыя выданьні вялікі ўплыў.

II.

## Праская друкарня Скарыны.

Францішак Скарына, пасяліўшыся ў Празе, заснаваў друкарню і з 1517 году пачаў выпушчаць царкоўныя друкаваныя кнігі. Першаю кнігай, выпушчанай 6-га жніўня 1517 году, у чацьвертую долю аркуша, быў „Псалтыр“, надрукаваны „накладом Богдана Онькова, сына радцы места Виленьского“.

У васнову тэксту „Псалтыру“ паложаны быў славянскі тэкст „Псалтыру“. Але пры гэтым Скарына карыстаўся чэскай „Бібліяй“ і ўносіў паасобныя папраўкі ў царкоўна-славянскі тэкст. Разам з тым, Скарына незразумелыя славянскія выразы замяняў болей зразумелымі словамі, блізкімі да тагочаснай жывой беларускай мовы. У гэтых адносінах Ф. Скарына рабіў таксама, як і Ш. Фіоль [6]).

З 1517 году Скарына пачынае выпушчаць пераклады паасобных біблійных кніг, якія былі надрукаваны таксама пры дапамозе таго-ж сына радцы места віленскага Богдана Онькава. Усяго Скарына выдаў 22 біблійныя кнігі. Кожная кніга мае сваю прадмову і пасьляслоўе. У вапошнім адзначаліся час і месца выхаду адпаведнае кнігі. Першай надрукаванай кнігаю была кніга Іова (51 аркуш і 2 гравюры). Потым вышла кніга Прыповесьцяй Саламонавых (48 аркушоў і 2 гравюры), кніга Прамудрасьці Ісуса, сына Сірахава (81 аркуш і 1 гравюра), „Эклезіаст“ (17 аркушоў і 1 гравюра), кніга Песьня Песень Саламона (11 аркушоў і 1 гравюра), кніга Прамудрасьці Саламона (32 аркушы, 1 гравюра).

Першыя кнігі, надрукаваныя Скарынай, адзначаліся сваім філёзофскім характарам, і, мусіць быць, гэтым тлумачыцца, чаму біблійныя кнігі друкаваліся ня ў тым парадку, які быў устаноўлены канонам. Потым былі надрукаваны: 2-я, 3-я і 4-я кнігі Царстваў (241 аркуш і 11 гравюр), кніга Ісуса Навіна (48 аркушоў і 1 гравюра), кніга Юдыты (26 аркушоў, 1 гравюра), кніга „Бытія“ (24 аркушы, 7 гравюр), кніга „Ісход“ (76 аркушоў, 6 гравюр), кніга „Левіт“ (54 аркушы, 3 гравюры), кніга „Чисел“ (74 аркушы, 1 гравюра), „Второзаконіе“ (66 аркушоў,

[1]) Ibid., №№ 23—24.
[2]) Ibid., № 27.
[3]) Ibid., № 32.
[4]) Ibid., № 31.
[5]) Ibid., № 57.
[6]) Ibid., № 14.

1 гравюра), кніга „Руфь“ (8 аркушоў, 1 грав.), кніга Судзей (48 арк., 1 грав.), кніга „Эстэр“ (26 арк., 2 грав.), кніга Плачу Ераміі (12 арк., 1 грав.), кніга Прарока Данііла (40 арк., 1 грав.[1]). Агульны загаловак выданьня, якое прадпрыняў Скарына, было наступнае: „Библия Руска, выложена докторомъ Франциском Скориною, из славнаго града Полоцька, Богу ко чти и людемъ посполитымъ к доброму научению“. Да кнігі „Бытія“, Ф. Скарына надрукаваў вялікую прадмову, „Во всю Библию рускаго языка: Библиа греческим языком, по руски сказуется книги. Тако убо святый Матфей починаетъ Христово благовѣствование: Библос Генезеос Иисусу Христу, то естъ по-рускии: Книга родства Иисуса Христова.—А можете тым именемъ называти вси книги Ветхаго и Новаго Закону для достойности его, понеже Библия зуполная все то в собѣ замыкаетъ. О сей Книзе пишеть евангелиста, наперстникъ Христовъ, воуз явлении своемъ глаголя: И видехъ водесницы седящего на престоле. Книги написаны внутрь изовнутрь. Написаны суть воистину сие. Книги внутрь духовнее разумеющимъ о тайнахъ превеликихъ Божихъ, яко-же пишеть Апостол: О глубино богатства Премудрости и разума Божия, яко неиспытаны суть судове его. И не изследованы пути его. Написаны теж изовнутрь, понеже не толико докторове, а люди вченые в нихъ разумеють. Но всякий человек, простый и посполитый, чтучи их или слухаючи, можетъ поразумети, что естъ потребно к душному спасению его. Самому Спасителю глаголющу: исповѣдаютися Отче Господи, небеси и земли, яко утаилъ еси сия от премудрыхъ и разумныхъ. И открилъ еси тая младенцем... Святое писмо все иные науки превышаеть, понеже еда бываеть чтено под простыми словы замыкаеть тайну. И тако младенцемъ и людемъ простымъ есть наука, учителомъ же и людемъ мудрымъ подивление... В сей книзе всее прироженое мудрости зачало и конець Бог Вседержитель познаванъ бываеть. В сей книзе вси законы и права, ими же люде на земле справоватися имають, пописаны суть. В сей книзе вси лекарства, душевные и телесные, зупольне знайдете. Ту навчение философии добронравное, яко любити Бога для самого себе и ближнего для Бога имамы. Ту справа всякого собрания людского и всякого града, еже верэю и соединениемъ, ласки и згодою посполитое доброе помножено бываеть. Тут научение седми наук вызволеныхъ достаточное“... У пасьляслоўі да кожнай выдадзенай Скарынаю біблійнай кнігі звычайна пісалася наступнае: „Скончалася (кончается, доконана есть, доконываются, доконаны суть) книга сия (книги) с помощью Бога в Троице Единого (с помощью Бога, спасителя и утѣшителя нашего, божиею милостью, божиею лаской, божиею помощью), повелѣниемъ и працею 1 выкладомъ избранного мужа в лекарских науках (повѣлениемъ и працею и выкладомъ ученого мужа, повѣлениемъ и пильностью ученого мужа, працею и пильностью доктора Фр. Скорины... в наукахъ и лекарстве учителя), доктора Франциска, Скоринина сына, с Полоцка, у старом месте Пражском“, з адзначэньнем года і месяца выхаду кнігі.

У друкарскіх адносінах праскія выданьні Скарыны стаялі высака і, па ацэнцы проф. Уладзімерава, яны былі далёка лепшыя за царкоўна-славянскія выданьні Кракава, Вэнэцыі, Цэтыньня, Угра-Валахіі. Уладзімераў нават думае, што Скарынавы выданьні стаялі вышэй за сучасныя яму вэнэцыйскія [2]). Усе праскія выданьні былі надрукаваны ў чвэртку, альбо, як кажа Скарына, „малыми книжками“ [3]). Такое

[1]) Ibid., № 13, стар. 35—42.
[2]) Проф. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. СПБ. 1888. Стар. 70.
[3]) Ibid., стар. 71.

ЦАРЬСТВЪ                РДІ

Царь Саломон ставит храм господу богу в Ерусалиме:



Третии книги царьствъ починають сія. зуполне выложены на руськии языкъ. доктором Франьциском Скорининым сыном сполоцька:

Загалоўны аркуш 3-й кнігі „Царстваў“ з „Бібліі“ Скарыны. Прага. 1518.

Книги третии


Ꙍредословие доктора фран
циска скорины сполоцька
вкниги третии царствъ :~


Книги сии называютсѧ еврейским ѧзыком
малахим • а поруский словуть Третии
царствъ, а писаны суть • Початок и о
смерти царѧ давыдове, потом о царстве
Саломонове, и о пречудныхъ делехъ его яко соору
жалъ естъ храмъ господу богу, и домъ свой царскии
Посем о цари Ровоаме, о цари Авии, о цари Асе
о цари Иозафате • Они же царствоваша въ Ерусали
ме надъ людьми Иудиными • Теже о царех Изра
илевы, о Еровоаме, Надаве, Васе, Геле, Замрии
Амрии, и о Ахаве они же царствоваша въ Самарии
Писали же суть сии книги летописци царей Иуди
ныхъ, на болей Нафан пророкъ Илиѧ пророк, и иныи
святыи пророци они же были суть часов тых • По
ложил есми во всихъ книгахъ образци храму господьнѧ
и сосудовъ его, и дому царева, еже ставил есть Сало
мон царь • А то длѧ того абы братиѧ моѧ Русь
люди посполитые, чтучи могли лепей разумети :~
Конець предсловию :~

Прадмова да 3-й кнігі „Царстваў“ з „Бібліі“ Скарыны. Прага 1518.

друкаваньне „малымі кніжкамі“ пачало пашырацца пасьля таго, як у Італіі зьявіліся першыя выданьні Альда ў Вэнэцыі. Далей, у выданьнях Скарыны ўпершы раз уведзена нумарацыя па аркушох, прычым прыняты кірылаўскія лічбы, тады як у лацінскіх выданьнях—рымскія лічбы [1]). Папера Скарынавых выданьняў адзначаецца трываласьцю. Так, на „Псалтыру“ 1517 году ёсьць бычачая галава ў якасьці папяровага знаку, чатырохканцовы крыж і інш. Гэтыя папяровыя знакі былі таксама і ў выданьнях вядомага друкара і ўласьніка вельмі добрае папяровае фабрыкі ў Аўгсбургу, Іогана Шэншпэргера. Гэтая папера славілася сваім белым колерам і трываласьцю [2]). Шрыфт Скарыны адзначаўся чытэльнасьцю, выразнасьцю і рознастайнасьцю. Скарына ня браў шрыфту з папярэдніх славянскіх выданьняў, а ўтварыў свой уласны шрыфт, на які мелі ўплыў царкоўна-славянскія рукапісы беларускага пісьма XV і XVI сталецьцяў. Вялікай рознастайнасьцю адзначаюцца нарысы вялікіх літар Скарыны. Скарына шырака карыстаўся вялікімі літарамі ня толькі ў пачатку слоў, але і ўва ўласных імёнах і нават у часьцінках перад уласнымі імёнамі. Такое ўжываньне вялікіх літар ёсьць пэўнае перайманьне нямецкіх і чэскіх выданьняў XV і XVI сталецьцяў. Гэткую рознастайнасьць Скарынава шрыфту Уладзімераў тлумачыць ня толькі мастацтвам чэскіх і нямецкіх майстроў, гравёраў і літнікаў, якія працавалі для Скарыны, але ў значнай меры яшчэ і каліграфічным мастацтвам самога Скарыны, якое выпрацавалася пад уплывам царкоўна-славянскага і „рускага пісьма“ XV—XVI сталецьцяў [3]).

Застаўкі, якія ёсьць у выданьнях Скарыны, зьвязаны з царкоўнаславянскімі рукапіснымі выданьнямі, бо ў выданьнях лацінскіх, нямецкіх і чэскіх заставак няма, але затое малюнкі маюць пэўныя адносіны да нямецкіх гравюр. Скарына шырака карыстаўся нюрэнбэрскімі гравюрамі. Па думцы Уладзімерава, шмат якія гравюры Скарыны знаходзяцца ў залежнасьці ад нюрэнбэрскіх выданьняў біблii з малюнкамі (1483), ілюстраванай хронікі Шэдэля ў лацінскай і нямецкай мовах (1493) і Postilla Міколы Лірана (1481). Да найвыдатнейшых з гэтых выданьняў па мностве гравюр адносяцца хронікі Шэдэля [4]). Гэткім чынам, праскія выданьні Скарыны былі найбольш зьвязаны з сучаснымі ім нюрэнбэрскімі і аўгсбурскімі нямецкімі выданьнямі. З другога боку, у адносінах да папярэдніх царкоўна-славянскіх выданьняў кнігі Скарыны зьвязаны з кракаўскімі выданьнямі Фіоля, у якога сустракаюцца папяровыя знакі, якія ўжывае Скарына, у выглядзе крыжа, а таксама кірылаўская нумарацыя па аркушох. Разам з тым, велічыня радковага пісьма і вялікіх літар у Скарыны і ў Фіоля аднолькавая. Так, Скарынавае друкарскае мастацтва разьвівалася і ўтваралася як пад уплывам, з аднаго боку, ранейшых царкоўна-славянскіх выданьняў, так і пад уплывам дасканалых аўгсбурскіх і нюрэнбэрскіх нямецкіх выданьняў [5]).

## III.

## Віленская друкарня Скарыны.

Выдавецка-друкарская дзейнасьць Скарыны ў Празе спынілася ў 1519 годзе. Скарына, з невядомых нам прычын, прымушаны быў пакінуць Прагу і перанесьці сваю дзейнасьць у Вільню, дзе ў доме

[1]) Ibid., стар. 72.
[2]) Ibid., стар. 71-72.
[3]) Ibid., стар. 74.
[4]) Ibid., стар. 76.
[5]) Ibid., стар. 81-82.

„наистаршего бурмистра“ Якуба Бабіча ён адчыніў друкарню. Магчыма думаць, і для гэтага ёсьць некаторыя об'ектыўныя падставы, што Скарына перанёс у Вільню сваю праскую друкарню. Скарына выдаў у Вільні толькі дзьве кнігі—„Апостал“, так званую „Малую Падарожную Кніжыцу“. „Апостал“ Скарына выпусьціў у сакавіку 1525 году і, відавочна, у гэты-ж час ён выпусьціў і „Малую Падарожную Кніжыцу“.

Пытаньне аб часе выхаду „Апостала“ выклікала многа гутарак у навуковай літаратуры, хаця само па сабе яно зусім яснае. „Апостал“ Скарыны надрукаваны ў восьмую долю аркуша і мае ўсяго 315 аркушоў. У „Апостале“ таксама многа фігурных заставак, зьмешчаных у пачатку і ў канцы кожнага артыкулу, як у „Бібліі“. Вестка аб надрукаваньні кнігі зьмешчана ў канцы пасланьня Апостала Паўла, на звароце 187 аркуша. Загаловак быў наступны: „Починается книга деяния и посълания Апостольская, зовемая Апостолъ, з Божию помочью справълена доктором Франъциском Скориной с Полоцька“. Пасьля канца саборных пасланьняў ёсьць наступны надпіс: „Доканана есть сия книга, зовемая Апостол, еже замыкает в собе наипервей деания Апостольская. Потом посланией святыхъ Апостолъ соборныхъ седмь. Тажъ епистолъ святого Павла 14. Лета по нарожденіи нашего Спасителя Иисуса Христа, Сына Божия, тысецнаго пятьсотого и двадесять пятого, месяца марта. При держаніи наласкавшего господаря, Жикгымонта Казіміровича, короля Польского, і Вѣликого Князя Литовъскаго, и Рускаго, и Жомойтьскаго, и иныхъ. Во славном мѣсте Виленском выложена и вытиснена, працею и великою пильностию доктора Франциска Скорины с Полоцъка, Богу в Троице единому и Пречистой Матери Его Маріи со всеми святыми ко чьти. И людем посполитымъ к доброму навчению“[1]). Прадмова, надрукаваная перад зборнікам, была наступная: „Имашь пак в сей книзе мой любимый приятелю, хто жъ будеши ея чести. Зачала каждого послания, черным вызнаменованы. Початки и концы всякому Апостолу яко во церкви Божіи чтется, к тому и дни, месяцы, в них же прочитаются. На праздники Божие и светых его знайдешъ положено червеннымъ. Главы же, яко же во всехъ книгахъ Библии Ветхого и Нового закона, мною на русъки языкъ выложеныхъ. Што которая въ собе кратце замыкаеть ко знайдению скоро всякое речи потребное во божественныхъ писаниехъ. К тому и светки по сторьницахъ, яко одно письмо на другое тведетельствуеть и воедино ся згожають, чернымъ исправлены раздельне узриши. Совершися в дому почтивого мужа, Якуба Бабича, наистаршего бурмистра славнага Великаго Мѣста Виленского“.

Другой кнігай, надрукаванай у Вільні, была „Малая Падарожная Кніжыца“. Зьмест апошняе досыць складаны. У яе ўваходзілі: „Псалтыр“, „Часасловец“, Акафісты, Каноны, Шостадневец, Сьвятцы кароткія і Пасхалія. Што ўсе гэтыя кнігі, з якіх кожная мае самастойнае значэньне, складалі адну кнігу, можна бачыць з наступнага сьпісу гэтае кнігі: „В сей Малой Подорожной Книжице поряду кратце положены суть; наипервей Псалтырь зуполная, на стихи статиями разделена... За Псалтирею Пѣсни 10, с Ветхого и Нового Закону Божия изъбраные; потом Часословец имея нощную и дневную службу... Акафістъ живоносному гробу Господьню и Воскресению, глаголемый по вся недели... Канонъ гробу Господьню, певаемы со акафістомъ... Акафістъ святому Арханъгелу Михаилу и всемъ небеснымъ чиномъ в понеделок. Канонъ архангеломъ, творение Иоанна Дамаскина. Акафістъ св. Иоанну Предътечи и Крестителю Господьню глаголемый во второкъ. Канонъ Предтечи,

[1]) Каратаев. Op. cit., № 18.

творение Иосифа... Акафістъ Пречистой Богородици приснодевици Марии, глаголѣмый во среду. Канонъ благодарствен пренасвятейшеи Богородици. Акафістъ святым верховным Апостолом Петру и Павлу, и прочим дванадесяти в четверток. Канонъ святым Апостолом, творение Иоанна Дамаскина. Акафістъ святому Великому Чудотворцу Николе, архиепископу Мирликийску. Канонъ святому Николе... творение Феоктиста, инока Студийское обители. Акафістъ честному и животворящему Кресту Господьню, глаголѣмый в пяток. Канонъ Кресту Господьню... творение Киръ Іосифово. Акафістъ Прѣсладкому имени нашего Господа Иисуса Христа, глаголемы в суботу и по вся дни. Канонъ Господу Іисусу, неваемый на заутрени по вся дни, творение Феоктиста.

Шестоденець краткий на всу неделю, почениши от вечера суботы... Светъци краткие, имеющи в собѣ разделены времена на нашу землю, колико которые дни в году, или нощи держать часов, и дробных и яко година прибудеть, к которому дню или нощи все написано есть. На конци положены есть Поскалия на много лѣта, замыкаючы справу праздников. К тому естьли бы которого году была гибель месяцева и затемнение солнъцево, то при Поскалии знайдеш тогож году, месяц, день и годину, неомылно написану тое гибели месяцевы или затмения солнцева"[1]).

Першая частка „Падарожнае Кніжыцы", „Псалтыр", мае наступны, напісаны цынобрай загалоўны аркуш: „Починаеться Псалтирь, или Песни Святого Пророка Божиа, Давыда, царя Иерусалимского: о Христе". У „Псалтыру" 140 аркушоў альбо 280 старонак. На звароце загалоўку надрукавана ў беларускай мове: Предъсловие во Псалтирь: Всякое писание, Богомъ водухненое, полезно есть ко вчению... И видечи таковые пожитки в так малой книзе, я, Францишек, Скорининъ сынъ с Полоцка града, в лекарскихъ наукахъ докторъ, повелелъ есми Псалтырю тиснути рускими словами, а словенскимъ языкомъ[2]).

„Часасловец" мае гэткі-ж пачатак. Ён таксама надрукаваны цынобрай: „Часасловець, имея нощъную и дневну служъбу, по уставу Ерусалимское церкви, и прочих Восточъныхъ обителей". У канцы „Часаслоўца" зьмешчаны выхад, звычайны ў Скарыны, таксама цынобрай: „Доконон̂ъ есть Часасловець, имея денную и нощную службу працею и пильностью доктора Франциска Скорины с Полоцка у Великославном мѣсте Виленскомъ"[3]).

Акафісты і каноны маюць наступны цынобраны загалоўны аркуш: „Починаются Акафісты на всю неделю первы живоносному гробу Господню". Кожны тыднёвы акафіст мае свой загаловак і свой выхад. Таксама і кожны канон мае свой загаловак і свой выхад. Напрыклад: „В четверток, Канонъ святымъ верховнымъ Апостоломъ Петру и Павлу, и всем дванадесяти". У канцы: „Доконан есть канон Апостолом пильностью доктора Франциска Скорины с Полоцка"[4]). Чацьвертая частка „Малое Падарожнае Кніжыцы",—Шостадневец, мае наступны цынобраны загаловак: „Шестодневець краткій на всу неделю почениши от суботы по обычаю всехъ восточнихъ церквий". Апошняя частка, Сьвятцы (Зборнік) і Пасхалія, мае наступны загаловак: „Последование церковнаго собърания въселетънаго, от месяца сепътеврия до месяца августа,

1) Каратаев. Op. cit., стар. 19.
2) Ibid., стар. 62.
3) Ibid., стар. 62.
4) Каратаев. Op. cit., стар. 63—66.

повъставу Ерусалимское церкви" [1]). Гэткім чынам, „Малая Падарожная Кніжыца" складаецца з пяці частак, якія ў сваю чаргу падзяляюцца на драбнейшыя часьціны.

Некаторыя дасьледчыкі лічылі, што ўсе гэтыя часткі „Малое Падарожнае Кніжыцы" выходзілі паасобнымі кнігамі, але загаловак Скарыны, надрукаваны да „Малой Падарожнай Кніжыцы", ясна сьведчыць аб тым, што ўсе гэтыя часткі павінны былі складаць адзінае непадзельнае цэлае.

У навуковай літаратуры было паднята пытаньне аб тым, ці працаваў сам Скарына ў друкарні, альбо, па яго паказаньнях і пад яго наглядам, працавалі іншыя. Для разьвязаньня гэтага пытаньня об'ектыўных даных няма, калі ня лічыць паасобных слоўных выразаў Скарыны, якія да пэўнае ступені могуць служыць грунтам для меркаваньняў па гэтым пытаньні. Найноўшы гісторык віленскіх друкарань Абрамовіч [2]) думае, што Скарына сам у Празе не працаваў. Напрыклад, у кнізе „Эстэр" у пасьляслоўі сказана: „Выложена працею и вытиснена повелениемъ ученого мужа Франциска Скорины" [3]). Калі ўзяць пад увагу, што ў большасьці пасьляслоўяў сказана, што „сия книга доконана есть" [4]) альбо „скончылася, совершена есть, выданы и выложены, выложены и вытиснены, повелениемъ, працею и выкладом ученого мужа в лекарских науках, доктора Франциска Скорыны", а таксама і тое, што ў кнігах „Ісход", „Левіт", „Чисел", „Второзакония", Плача Ераміі" сказана: „Працею и пильностью ученого мужа в лекарских наукахъ доктора Франциска Скорины", альбо проста „в лекарскихъ наукахъ доктора Франциска Скорины", дык вывад Абрамовіча робіцца няпэўным, тым болей, што сам Абрамовіч думае, што ў Вільні Скарына беспасрэдна прымаў удзел у працы. Абрамовіч грунтуецца на пасьляслоўі да паасобных віленскіх выданьняў, у якім адзначана, што гэтае выданьне „доконано есть працею и пильностью доктора Франциска Скорины" [5]). Калі толькі Абрамовіч грунтуе сваё зацьвярджэньне на гэтых словах, дык падобныя словы ў пасьляслоўях знаходзяцца і ў выдадзеных Скарынаю біблійных кнігах. Тады вывад Абрамовіча губляе сваю вартасьць. Зразумела, пры адсутнасьці дакладных даных, мы ня можам атрымаць яснага адказу на гэтае пытаньне, але можна прыпусьціць, што Скарына прымаў актыўны ўдзел у працах свае друкарні.

Пытаньне аб адносінах віленскіх выданьняў Скарыны да праскіх было прадметам спэцыяльнага дасьледваньня проф. Уладзімерава. Апошні прышоў да наступных вывадаў: 1) сувязь віленскіх выданьняў з праскімі, па шрыфце і паперы, паказвае далейшае разьвіцьцё друкарскае дзейнасьці Скарыны, перанос друкарні з Прагі ў Вільню; 2) асаблівасьці віленскіх выданьняў (большая частка шрыфту, аздобы і гравюры) паказваюць тую-ж сувязь з нямецкімі друкарнямі, што і ў праскіх выданьнях; 3) па прыгожасьці шрыфту і аздоб віленскія выданьні ёсьць працяг праскіх [6]). У віленскіх выданьнях Скарыны ёсьць невялічкія застаўкі, якіх ня было ў праскіх выданьнях Скарыны. Гэтыя застаўкі Скарына называе ў пасьляслоўі да „Малой Падарожнай Кніжыцы" „заставицы". Таксама ў віленскіх выданьнях

[1]) Ibid., стар. 67.

[2]) Abramowicz. Cztery wieki drukarstwa w Wilnie. 1525–1925. Wilno, 1925. Стар. 16-17.

[3]) Каратаев. Op. cit., стар. 41.

[4]) Каратаев. Op. cit., стар. 35–42.

[5]) Ibid., № 18-19.

[6]) П. В. Владимиров. Op. cit., стар. 178.

былі і гравюры. Уладзімераў налічыў у віленскіх выданьнях Скарыны—15 вузенькіх і 10 шырокіх заставак, адна паміж якіх мае вядомы гэрб Скарыны, злучэньне месяца з сонцам, і манаграму тую-ж, што і ў праскіх выданьнях, але некалькі іначай зробленую. Гравюры зьмешчаны толькі ў Акафісьце. Усе гравюры ў „Малой Падарожнай Кніжыцы" па малюнку і падрабязнасьцях—каталіцкага характару, і бязумоўна, пэўная частка іх узята з Нюрэнбэрскае Хронікі Шэделя [1]).

Выданьнем дзьвёх кніг і абмежавалася друкарска-выдавецкая дзейнасьць Скарыны ў Вільні. Мы ня ведаем, чаму яна спынілася, якія акалічнасьці дапамаглі гэтаму. Уладзімераў прыпушчае, што прычынаю гэтага былі розныя грашовыя перашкоды. Скарына меў у Полацку разам з сваім братам Янам непадзельную радавую маемасьць, якая пацярпела праз паблытаныя справы і даўгі яго брата Яна. Апроч таго, Скарына меў нямала няпрыемнасьцяй з прычыны судовае спрэчкі, якая паўстала між віленскім мешчанінам Марцінам Субачовічам, яго жонкай і Мікалаем Чупрыном з аднаго боку, і жонкай доктара Францішка Скарыны з другога, з прычыны дома, якім уладала ў месьце Вільні жонка Францішка Скарыны. У канцы канцоў справа пайшла на суд да караля. Грамата Жыгімонта І, апублікаваная ў 1529 годзе, разьвязала спрэчку на карысьць жонкі Ф. Скарыны. Вялікакняскі вырак прысудзіў жонцы доктара Ф. Скарыны Мальгрэце, „держати и вжывати супокойне на вечные часы подле суда... а тому Марътину и его жоне Анне и тому Миколаю Чуприну и ихъ потомъкомъ казали есмо в том вечное молчане мети и на то есмо доктору Францышъку и его жоне Малкгорете дали сес наш лист с нашою печатю" [2]). Уладзімераў думае, што няпрыемнасьці з-за працэсу адцягнулі Скарыну ад улюбёнае справы. Апроч таго, Уладзімераў паказвае, што ў гэтыя-ж самыя часы на Вільню наваліліся страшэнныя беды: у 1530 годзе пажар, які зьнішчыў дзьве трэці гораду, і ў 1533 годзе—страшэнная пошасьць. Уладзімераў прыпушчае, што Скарына быў яшчэ жывы ў 1535 годзе. Калі ў Полацку разглядалася справа яго брата адносна выплаты даўгоў, дык у гэтай справе памінаецца таксама імя Ф. Скарыны. Відавочна, Скарына быў яшчэ жывы ў гэты час [3]).

IV.

## Несьвіская друкарня.

Друкарская справа пасьля Скарыны на Беларусі доўгі час не разьвівалася. Між тым, на Беларусі шырака разгарнуўся протэстанцкі рух, галоўным чынам у відзе кальвінізму, які сустракаў вялікае спачуваньне з боку шырокіх шляхоцкіх колаў. Адным з асяродкаў кальвінскага руху быў горад Несьвіж, сталіца Несьвіскага княства, уласьнікам якога быў ваявода віленскі Мікола Радзівіл. Пад яго асьвечанаю ўладай распачалася друкарская дзейнасьць у Несьвіжы. У 1562 годзе Мацей Кавечынскі, несьвіскі намесьнік, Сымон Будны і Лаўрын Крышкоўскі выдалі кальвінскі катэхізіс у рускай, г. зн. у беларускай мове. Магчыма думаць, што выданьні Скарыны зрабілі пэўны ўплыў на несьвіскую друкарню, бо шрыфт катэхізісу вельмі падобны да шрыфту выданьняў Скарыны. Мусіць быць, шрыфт Скарынавых выданьняў служыў узорам для шрыфту катэхізіса [4]).

---

[1]) Ibid., стар. 177—178.
[2]) Владимиров П. В. Op. cit., Приложения, стар. 322.
[3]) Op. cit., стар. 66—67, Приложения, стар. 324.
[4]) Каратаев. Op. cit., стар. 137.

На першым загалоўным аркушы надрукавана наступнае: „Катехісісъ, т. е. наука стародавная, хрістіаньская, от светого писма, для простыхъ людей языка руского, в пытаніахъ и отказѣхъ събрана. От перъваго светого Апостола Петра посланіа... Готови присно к отвѣту всякому въпрошающему вы, слово о вашемъ упованіи съ кротостію и страхом, совѣсть имяще благу и прочая[1]). У пасьляслоўі сказана наступнае: „Доконана есть сіа книга, зовемая греческимъ языкомъ Катихизіс, а по словеньски—Оглашеніе, Богу ко чти и посполитымъ людемъ языка руского к наказанью и доброму наученью, накладом боголюбивых людей, пана Матфіа Кавечинского, намѣстника Несвижскаго, Сімона Будноra, Лавърентіа Крышковъскаго, на городѣ Несвижскимъ. Под лѣты от воплощеніа Спасова тысеча, пятисотъ, шестьдесятъ второго, месеца июніа десятого дня"[2]).

Катэхізіс мае наступнае прысьвячэньне: „Освецоных княжатъ и пановъ их милости, пановъ Миколаевъ Радивиловъ, княжати на Олыце и Несвижу, воеводы Виленьского, навышнего маршалъка и канцлера Великого Князьства Литовъского и далей. А княжати на Дубникахъ и Бержахъ, воеводы Троцкого, великого гетьмана Княжьства Литовъского и далеи. Сыномъ Перъвороженымъ, ихъ милостямъ, княжатамъ молодымъ, паномъ Міколаемъ Міколаевичомъ Радивиломъ, отъ Бога Отца через Христа единого, Сына его въ духу святом утешителю, Ласки покою и вечного благословенья, верного Христового збору братья, а слуги ихъ княжацькиx милостей веръне жедают" „Бог Всемогучый, освѣцоные а милостивые княжата, потомуся всегды напротивъ грѣшному человѣку заховалъ, иже хотяжъ самъ отъ него отходилъ, предъ ся его дивънымъ обычаям отъ блуда и грѣховъ выривалъ. Тако ся на перъвей ко онымъ перъшимъ родителямъ нашимъ показалъ. Сихъ бо по ономъ ихъ тяжкомъ упадку, а по утраченью оного образа и подобеньства Божіего, на который были сътворены ко оной перъвой невинъности, святости, справедливости и управде: зъ особливого милосерьдія, в гневѣ своем не рачил зоставити, але ужаливъшися надъ ихъ упадкомъ рачил ихъ заразомъ, и всему потомству их придивный ратунокъ урадить, а таковое племя обецать, через которое мела быть стерта голова проклятому противнику, Сатане, и оный упадокъ зънову умелъ быть направленъ, и оная первая невинъность и справедливость приверънена. Къ тому тѣж и для того абы ся ваши княжацские милости не только в чужоземскихъ языцѣхъ кохали, але бы ся те ж ваши княжацъские милости и того здавъна славъного языка словенъского розмиловати и онымъ ся бавити рачили. Слушъная бо речь есть, абы ваши княжацъские милости, того народу языкъ миловати рачили, в которомъ давъные предки и ихъ княжацъские милости панове, отцы ваши зъ княжецъские милости славъные преднейшие приложеньства несутъ... абысте ваши княжецъские милости зацъного стану княжата, а передънейшихъ вожовъ сынове, всимъ иншимъ себе добрыя взоръ а прикладъ давати рачили, ижь бы ся много иншихъ прикладами наши княжецъскихъ милостей будовати могли. А тая отчизна и Речь Посполитая с вашихъ княжацъскихъ милостей, благословеное надеи ожидать могла... Яко есте тогды княжацъские милости с одного коренья лета росли, ратчтежь ся зачать и в томъ одномъ правъдивомъ, верънoмъ, сполъку умножить и рость, абы есте ваши княжацъские милости были не только с повинъности одное крови, але из единости одного гасла, единого гетьмана Христа, рыцаремъ и братьем а сынъми единого

[1]) Ibid., стар. 137.

[2]) Каратаев. Op. cit., стар. 132.



# Катихисiсъ·

то естъ,
наука стародавная христiянь
ская ѿ светого писма, для про
стыхъ людей языка ру
ского, в пытаниях и ѿ
казехъ събрана·

Ѿ первого светого апостола
Петра посланiа зачало ӡ·

Готови прьно къ ѿвѣтꙋ всякомꙋ въпрошающемꙋ вы,
слово ѡвашемъ ѹпованiи съкротостiю и страхо,
совѣсть имуще благꙋ и прочая·

Загалоўны аркуш „Катэхізісу" Сымона Буднага. Несьвіж 1562.

навышъшего Бога. Въ чемъ ваши княжацъские милости рачъ поможить и ублагословить Бог Отец через Христа, Единого Сына Своего Духу Святомъ Утешителю нашемъ: того ж мы вашимъ княжацъским милостям отнѣгожь самого серъдечно жичимо". У канцы пасьляслоўя: „Данъ з города Несвижьского отъ воплощения Христова, въ року тысячномъ пятъсотномъ шестьдесятом и второмъ, месяца июня, дванадцатого дня, вашихъ княжацъских милости повольные слуги Матфей Кавечиньский, Симон Будный, Лаврентей Кришковский". Пасьля прысьвячэньня ідзе: „Ко всѣмъ благовѣрнымъ христіаномъ языка руского предъсловие в Катихисію. Катихізисъ есть слово греческого языка, сказуетъ же ся на словенскую рѣчь. оглашение или гласомъ ученіе. Вѣдомо бо маеть быти иж Апостоли и ихъ ученници не тако скоро и не так латвѣ от эллинъ или жидовъ к вѣре Христовой приступуючих тайнами святыми служили. И окрестилъ убо Петр иншіи Апостоли на день съшестия Святого Духа от людей Израилевых три тисячи але умилившиися сердцем и любезно приемшихъ слово окрестилъ Филипп, иже от седми діаконъ царицы Муринскае каженика". Прадмова напісана ў Клецку 10 чэрвеня 1562 году. Пісаў невядомы, „аз недостоин отъ святыя церкви служители наименъший". Апроч таго, даецца абяцаньне выдаць іншае, паўнейшае выданьне, а таксама „опричную книжку о Святом Крещении в Вечере Сына Божиего". Далей ідзе Катэхізіс „для деток христіанских языка руского коротъко выложена", у пытаньнях і адказах [1]. Ёсьць таксама паказаньні на друкаваньне ў Несьвіжы кніжкі Сымона Буднага „О оправдании грешного человека перед Богом". Гэты твор Сымона Буднага быў афяраваны Астафію Валовічу і выдадзены коштам Кавечынскага і Крышкоўскага. Сопікаў думае, што гэта ёсьць першая кніга, якая вышла з Несьвіскай друкарні. У прадмове было сказана наступнае: „Часта бо отъ твоей милости слышалъ есмь якобы радъ есть мѣл подданнымъ своим учителей вѣрныхъ и на размноженье книгъ добрыхъ накладовъ обецуешъ не жаловати. А не только обецуешъ, но и початок сее друкарни нашей твоей милости наклады исперва еще яко нѣкое основаніе уготовали и укрѣпили, на что я и съ товаришми памятуючи и вдячность показать хотечи, умысли есмо под именем твоим сіе початки выпустити". У канцы кнігі надрукавана: „Доконана есть сія книга О оправдании грешного человека перед Богом 1562 г. октября 11 дня, на городѣ. Несвижскомъ вытѣснена накладомъ благочестивыхъ мужей Матфѣя Кавечинского, Лаврентия Кришковского и Симена Будного". Усе гэтыя весткі дае Сопікаў, які, відавочна, меў у руках паасобнік, але дзе цяпер знаходзіцца гэты паасобнік—невядома. Па словах Сопікава, і „Катэхізіс" і „Аб апраўданьні" надрукаваны аднолькавымі літарамі, вельмі падобнымі да тых, якія знаходзяцца ў скарынавай „Бібліі" [2]. На гэтым і спынілася выдавецкаперакладчая дзейнасьць С. Буднага.

## V.

## Друкарня Базыля Цяпінскага.

У гісторыі разьвіцьця кнігадруку на Беларусі дзейнасьць Базыля Цяпінскага займае асобнае месца, бо ён, разам з Будным, зьяўляўся прадоўжнікам справы, якую распачаў Скарына. З імем Базыля Цяпінскага зьвязана выданьне дзьвёх кніг Новага Закону і адрыўку з трэцяй кнігі, у перакладзе на беларускую мову. Сам Цяпінскі належаў

[1]) Памятники русской старины. VI. Стар. 153—155. Каратаев. Op cit., стар. 138—139.
[2]) Каратаев. Op. cit., 59.

да дробнае шляхты на Падзьвіньні. У матар'яльных адносінах, як гэта ўстаноўлена М. В. Доўнар-Запольскім, ён быў дробным зямляўласьнікам. Яго нярухомая маемасьць, у параўнаньні з вялічэзнымі абшарамі тагочасных зямляўласьнікаў, была нязначная. У сваім жыцьці Цяпінскаму прыходзілася нямала змагацца з раднёй па жонцы, а таксама з мітрапалітам Кіеўскім. З гэтай прычыны Базыль Цяпінскі меў шмат няпрыемнасьцяй і матар'яльных труднасьцяй. Адбіткам гэтых няпрыемнасьцяй зьяўляецца часткова яго прадмова да эвангельля, у якой ён скардзіцца на паноў, вышэйшых царкоўных асоб і наагул на духавенства. Ён скардзіцца таксама і на сваю матар'яльную незабясьпечанасьць, якая перашкаджала яму з посьпехам друкаваць падрыхтаваны ім пераклад [1]).

Пасьля дасьледваньня М. В. Доўнар-Запольскага, няма сумненьняў у належнасьці Б. Цяпінскага да протэстанцтва. Ён належаў да соцыніянскае сэкты. Напэўна, Базыль Цяпінскі быў дзейным сябром сэктанцкага брацтва, калі, згодна паказаньню Сымона Буднага, протэстанцкі сабор 1574 году адбываўся ў памяшканьні Базыля Цяпінскага. Спачатку Цяпінскі жыў у Несьвіжы і знаходзіўся пад протэктарствам уласьніка Несьвіжа, князя Радзівіла. Тут Цяпінскі меў сваю друкарню, якую ён называе вандроўнай і ў якой пазьней ён надрукаваў эвангельле. Ужо Уладзімераў у сваім дасьледваньні аб Ф. Скарыне адзначыў пэўную сувязь паміж шрыфтамі эвангельля Цяпінскага і скарынавымі выданьнямі. Уладзімераў думае, што шрыфты трапілі ў мізэрную друкарню Цяпінскага беспасрэдна з друкарні Скарыны[2]). Цяпінскі, як прыпушчаюць дасьледчыкі, пакінуў Несьвіж каля 1565 г. На працягу 1565—1580 гадоў Цяпінскі ў сваёй вандроўнай друкарні надрукаваў эвангельле ў дзьвёх мовах—царкоўна-славянскай і „простой рускоймове“, якая такімі буйнымі дасьледчыкамі, як А. І. Сабалеўскі і Е. Карскі прызнана беларускай. Месца выданьня і час выхаду застаецца невядомым. Базылю Цяпінскаму ня ўдалася надрукаваць цалкам усё эвангельле. Ён надрукаваў эвангельле ад Мацея, Марка і пачаў эвангельле Лукі. Памёр Цяпінскі каля 1608 году.

Эвангельле мае наступны загаловак: „Первая часть Новаго Завета або тестаменту—подлугъ словенъского разделенья. То есть от чотырехъ евангелістов Святое Евангеліе Иисуса Христа списаное, в которыхъ іжъ одно писмо Еваньгельское. Прото однымъ словом его назвали Евангеліе“. Выдадзенае эвангельле мае прадмову, якая далучана ў рукапісным відзе да таго пасобніку, што знаходзіцца ў Публічнай Бібліотэцы ў Ленінградзе [3]). Гэтая прадмова мае вялізнае значэньне для высьвятленьня ідэолёгіі Базыля Цяпінскага, для характарыстыкі яго нацыянальна-культурных і палітычных поглядаў. У прадмове, між іншым, сказана было наступнае: „Вжо бо еще хотяжъ то не безъ большое трудности пришло, ижь двѣма езыки заразъ: и словенскимъ и при немъ тутъ же рускимъ, а то на большій словенскимъ, а злаща слово отъ слова такъ, яко они всѣ вездѣ во всихъ своихъ церквах чтут, и маютъ... Евангелія писаня Св. Матфея и Св. Марка и початок Луки есть въ той убогой моей друкарне отъ мене имъ выдруковано... До чого, абы первей сами и ихъ дѣтки смыслы свои неяко готовали,

---

[1]) М. В. Довнар-Запольский. Василий Тяпинский. Исследования и статьи. Киев. 1909. Стар. 245—255.

[2]) П. В. Владимиров. Op. cit., стар. 204.

[3]) Прадмова ўпяршыню была надрукавана Уладзімеравым: „Киевская Старина“, 1889, январь, перадрукавана цалкам Н. Янчуком у яго „Нарысах па гісторыі беларускае літаратуры“, Менск, 1922, стар. 31—37. Вялікія выняткі прыведзены Доўнар-Запольскім у дасьледваньні „Василий Тяпинский“ (Исследования и статьи, стар. 235—245).

острили и в вѣрѣ прицвичали, тымъ часомъ тотъ Катехизисъ, а которыи сами зданемъ своимъ яко домниваю, за рѣчъ исте потребную, естли не заразъ вжды, зъ своимъ часамъ узнаютъ, имъ впередъ подаю". Адзначаючы занядад адукацыі на сваёй бацькаўшыне, Цяпінскі ў прадмове зварочваецца да паноў з парадай быць годнымі сваіх слаўных продкаў: „Толко вы сами тому зъ милости ку отчизнѣ вашой помочи быстe могли, гдыжъ простота человѣка бѣдного, посполитого на васъ очи завжды удавала и удаетъ и за вами идетъ". Цяпінскі дае параду паном дапамагчы народу свайму, „не умѣетностью заведеному и утрапеному". Побач з гэтым у прадмове ідуць нападкі на паноў і духавенства: „которыхъ я не одному которому, але всимъ и с тою потребою отчизны вашое богобойности, пилности, ростропности, вѣрности поручаю и зоставую, просечи пана, абыхъ былъ готовъ, если она до конца згинетъ, зъ нею загинуть, або, если черезъ вашъ ратунок будетъ выдвигнена, зъ вами и зъ нею выбринуть". Цяпінскі прызнае ўсе труднасьці перакладу і прыпушчае тут шмат памылак. Ён просіць только чытача прадмовы ня прыпісваць яго памылак „нашой злости, але люцкай крѣпкости, а не умеетности". Дзеля нязначнай велічыні друкарні, друкаваньне ў ёй двох тэкстаў, славянскага і беларускага, было вельмі цяжкім. Існуюць паказаньні, што Цяпінскі пераклаў усё эвангельле, але застаецца невядомым, ці апублікаваў ён усё, і толькі частка апублікаванага не захавалася. Пытаньне аб крыніцах выданьняў Цяпінскага зьяўляецца спрэчным. Цяпінскі гаворыць аб нядаўна надрукаваным маскоўскім эвангельлі, але аб якім уласна эвангельлі—гэтае пытаньне пакуль што ў літаратуры аб Цяпінскім яшчэ не разьвязана.

Каратаеў адзначае, што шрыфт эвангельля Базыля Цяпінскага крыху падобны да шрыфту несьвіскае друкарні. Зразумела, Базыль Цяпінскі, пакідаючы Несьвіж, панёс з сабою і шрыфт[1]).

Друкарская дзейнасьць Базыля Цяпінскага мае вялікае значэньне, бо ёю канчалася тая справа, якую распачаў Скарына. Зразумела, жаданьне даць эвангельле свайму народу тлумачылася ня толькі яго нацыянальна-політычнымі паглядамі, але таксама і тым, што сам Цяпінскі быў протэстант і, гэткім чынам, згодна сваіх рэлігійных перакананьняў, ён хацеў даць свайму народу сьвятое пісьмо ў зразумелай для яго мове для яго асьветы і выхаваньня.

## VI.

## Заблудаўская друкарня.

Заблудаўская друкарня ў гісторыі друкарскае справы і культурнага разьвіцьця Беларусі займае вельмі пачэснае месца. Заблудаў быў асяродкам гуманістычнага гуртка, на чале якога стаяў Рыгор Аляксандравіч Хадкевіч. Апошні спачуваў таму нацыянальна-культурнаму руху, правадыром якога быў Ф. Скарына. Заблудаўская друкарня ўзьнікла пад уплывам маскоўскіх першых друкароў: Івана Фёдарава—Масквіціна і яго таварыша Пятра Цімохавіча Мсьціслаўца. Маскоўскія друкары прымушаны былі пакінуць Маскву. У пачатку 1566 году яны былі ў Вільні. Тут яны пазнаёміліся з віленскім каштэлянам, гэтманам Літоўскім Рыгорам Аляксандравічам Хадкевічам, вядомым прыхільнікам самастойнасьці Вялікага Княства Літоўскага. Хадкевіч ласкава прыняў маскоўскіх эмігрантаў, запрасіў іх пастуціць да сябе на службу,

[1]) Каратаев. Op. cit., стар. 201.

пераехаць на жыцьцё ў яго радавы маёнтак Заблудаў, дзе ён думаў заснаваць друкарню, і друкаваньнем патрэбных для царквы кніг паслужыць царкве [1]).

Абодва маскоўскія эмігранты пашлі насустрэч жаданьням Хадкевіча і пасяліліся ў Заблудаве.

На працягу 1567 і паловы 1568 гадоў ішла праца па наладжваньні друкарні. Маскоўскія друкары вызначаліся ортодоксальнымі перакананьнямі і жадалі выдаваць кнігі, у якіх адбіваўся-б рэлігійны праваслаўны настрой. Гэтыя заданьні ўпоўне супадалі з плянамі Хадкевіча, які жадаў, каб „слово Божие розмножилося и на ученіе людем закон греческаго ширилося". Хадкевіч прышоў да думкі аб неабходнасьці даць эвангельле навучальнае і для гэтае мэты не пашкадаваў даць сродкі „от богодарованных сокровищь". Друкаваньне кнігі пачалося 8 ліпня 1568 г., а 17 сакавіка 1569 году эвангельле навучальнае ўбачыла сьвет. Кніга надрукована ў аркуш і мае 8 ненумараваных аркушоў і 399 аркушоў, якія маюць кірылаўскую нумарацыю. Па сваім знадворным выглядзе эвангельле навучальнае стаіць бліжэй да маскоўскіх выданьняў, ніж да выданьняў беларускіх. Шрыфт эвангельля навучальнага, як вялікіх так і радковых літар, той самы, што і ў „Апостале" Івана Фёдарава 1564 году. Загаловак кнігі наступны: „Книга, зовомая Евангеліе Учителное, от всѣхъ четырех евангелистовъ избранна, и от многих божественныхъ писаній... На поученіе христоименитым людемъ ко исправленію душевному и телесному, Божіею помощію выдрукована. За щастливаго панованія наяснѣйшаго господаря нашего Жикгимонта Августа, Божіею милостію Короля Польского... и иныхъ. А при архиепископе Ионе, Божіею милостію митрополите Киевъском и Галицкомъ и всея Русіи, и выдана есть во отчизном имѣнію пана Виленьского гетмана наивышшаго Великого Князьства Литовскаго, старосты Городеньского и Могилевъскаго, его милости пана Григорія Александровича Ходкевича, в мѣсте зовомом Заблудовью, властным накладом его милости"... Пасьля загалоўку ідзе прадмова: „Предисловіе книги сея. Господь Богъ Вседержитель многими и различными обычаи и писаніемъ ученіе людемъ своим далъ Первое Моисеом—Пророкомъ Ветхій Законъ июдѣомъ дал. Нам-же христіяном Христос Спасъ наш новое свое благовѣствованіе Святое Евангеліе предалъ четырми евангелісты, Матфѣомъ, Марком, Лукою, Иоанном"... Кажучы аб карысьці кнігі, якая выдаецца, Хадкевіч у канцы прадмовы пісаў: „Сего ради азъ Григорей Александрович Ходкевича видѣхъ таковое християньское наученіе в сей книзе, восхотѣх, еже бы слово Божіе розмножилося, и наученіе людем закону греческаго ширилося, за не же оскудѣ сихъ книгъ на многоразличныхъ мѣстѣх, и не пощадѣхъ от Бога дарованых ми сокровищь на сіе дѣло дати. К тому же изобрѣтохъ себѣ в томъ дѣле друкарьскомъ людей наученых, Ивана Феодоровича Москвитина да Петра Тимофѣевича Мстиславца... Повелѣлъ есми имъ учинивши варства друкарьскіи и выдруковати сію книгу Евангеліе учительное... Помыслилъ же былъ есми и се, иже бы сію книгу выразумѣнія ради простых людей преложити на простую мову и имѣл есми о том попеченіе великое. И совещаша ми люди мудрые в том писмѣ ученые, иже прекладаніемъ з давныхъ пословицъ на новые, помылка чинится не малая. Яко-же и нынѣ обрѣтается в книгах Новаго переводу. Того ради сію книгу, яко здавна писаную, велѣлъ есми ее выдруковати, которая кождому не есть закрыта, и к выразумѣнию не трудна и къ читанію полезна, а наипаче тѣм, которые съ прилежаніемъ и со вниманіем искомое обрѣсти вос-

[1]) Огіенко Н. Історія укр. друкарства. Стар. 26 – 27.

Притча. О мытари и фарис.

# Поучения избраная от святых евангелий

от многих божественных писаний. Глемая от архи
ерея иже зовется по всякой недели, на поучение
христоименитым людем, и на прочитаемая.
Такоже и на господьская праздники. О мытари
и фарисеи. Евангелие, от Луки. Слово. А
же о мытари и фарисеи, притча ныне чтена.
Яко поучение некое, и подвижение со
мышлено бысть есть тыми отцы, и учи
нено есть на прочитание [illegible] неде
ли, яко да направляемем и готовимся на
духовныя подвиги поста. Сего ради и прово
глашена и глаголема, и нарицаема [illegible] человеческому язы
ку. Провозвещающи и проповедающи, еже
по семь мало приходящее покаяние постное
время. Якоже аще не быхом страсть бы души на
ших и не прерваим [illegible] сети сия, и таково то
бы бывше. К спасеным подвигом постаням держа
нием пойде. К пути во спасение первое есть, ра
скаяние, и обращение, и смирение. К добродё
тели же повреждение велие бывает, гордыня.

Старонка з „Навучальнага эвангельля“. Заблудаў 1569.

хощють и обрящуть. Вы же любиміи примѣте сію книгу с любовію а я Божиею помощію о иныхъ книгах церквамъ Божіимъ потребныхъ промышляти буду, и накладу моего на то наложити не жалуючи, въскоре ихъ друковати дамъ. Притом благодать Господа Бога и Спаса нашего Иисуса Христа да будет посреди всѣх нас нынѣ и в день вѣка. Аминь". Гэткім чынам, Хадкевіч жадаў прыступіцца да выданьня цэлага шэрагу новых кніг, зразумела, у царкоўна-славянскай мове, бо ён лічыў, што друкаваньне кніг у мове „простай" ёсьць памылка [1]).

Цэлы шэраг вучоных, сярод якіх знаходзіцца А. Потэбня, А. Сабалеўскі, М. Грушэўскі і іншыя, адносяць Заблудаў да тэрыторыі Украіны і загэтым лічаць заблудаўскае навучальнае эвангельле важным момантам у гісторыі украінскае культуры [2]).

Бадай немагчыма згадзіцца з такім пунктам пагляду. Тэрыторыя Заблудава ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, у тэй яго частцы, дзе пераважвала беларускае насельніцтва. Рыгор Хадкевіч быў прыхільнікам самастойнасьці Вялікага Княства Літоўскага ў тых тэрытарыяльных межах, у якіх апошняе знаходзілася перад Люблінскай вуніяй. Хадкевіч жадаў дапамагаць асьвеце праваслаўнага народу. Дзеля гэтага надрукаванае ім эвангельле прызначалася і для беларусаў, і для украінцаў. Вось чаму, бязумоўна, будзе болей правільным лічыць, што заблудаўскае эвангельле ёсьць вельмі важны факт у гісторыі культуры Беларусі і Украіны, паказальнік консэрватыўна-рэлігійнага напрамку беларуска-украінскага гуманізму.

Пётра Мсьціславец пасьля надрукаваньня навучальнага эвангельля пакінуў Заблудаў. Застаўшыся адзін, Іван Фёдараў прыступіў 26 верасьня 1569 году да друкаваньня Псалтыру з „Часаслоўцам" і скончыў яго 23 сакавіка 1570 году. Загалоўны аркуш не захаваўся, апроч яго канца наступнага зьместу: „Наивышшаго Великага Князьства Литовскаго, старосты Городеньскаго и Могилевскаго справлена и начася друковати в именью его милости отчизном, в мѣсте Заблудовью... Давшему же Богу начати и совершити, благоизволившему слава честь и поклоненіе в бесконечныя вѣки. Аминь". У другім аркушы ад імя друкара надрукавана: „А трудивыйся многогрѣшный и непотребный рабъ, на имя Иванъ Федорович Москвитин, молю убо всякого благочестиваго православнаго християнина, прочитающих или преписующихъ книгу сію Псалтырь. Аще где что погрѣшено будетъ, моего ради небреженія, Бога ради исправляйте. Благословите и не клените, понеже неписа Духъ Святый, не ангелъ, но рука грѣшна и верна, да и сами тоже благословеніе обрящете от Всемогущаго Бога нынѣ и присно и въ вѣки векомъ". Далей ідзе прадмова, якая цалком не захавалася: „въ книгю сію, глаголемую Псалтирь". Кніга надрукавана ў чацьвертую долю аркуша гэткім самым шрыфтам, што і эвангельле навучальнае. На кнізе ёсьць, як і на эвангельлі навучальным, гэрб Хадкевіча, са словамі цынобрай: „Григорей Александрович Ходкевича" [3]).

На гэтым і скончылася друкарская дзейнасьць Івана Фёдарава ў Заблудаве. У 1572 годзе ён пакінуў Заблудаў і перайшоў у Львоў. Заблудаўская друкарня скончыла сваё існаваньне. Цяжка сказаць, чаму гэта здарылася. Хадкевіч як у прадмове да „Псалтыру", так і ў прадмове да эвангельля, абяцаў „другия книги церквамъ и людемъ Божіимъ, во Христа вѣрующимъ, потребныя друковати". Дасьледчыкі думаюць, што, відавочна, Люблінская вунія, супроць якой так паўставаў Хад-

[1]) Каратаев. Op. cit., стар. 164—165.
[2]) Огіенко. Op. cit., стар. 27.
[3]) Каратаев. Op. cit., стар. 169—170.

кевіч, зрабіла на яго адмоўны ўплыў. Ён перастаў цікавіцца друкарствам і неўзабаве захварэў. Гэта і прымусіла Івана Фёдарава шукаць сабе іншага месца. Хадкевіч памёр 9 лістапада 1572 году, ужо тады калі Іван Фёдараў ад'ехаў у Львоў [1]).

VII.

## Друкарня братоў Мамонічаў у Вільні.

Рэлігійная барацьба, якая распачалася на Беларусі як з каталіцтвам, так і з протэстанцтвам, і ў якой мяшчанства грала значную ролю, выклікала канечную патрэбу як падняцьця асьветы мяшчанскага грамадзянства, так і выданьня царкоўных кніг, патрэбных для набажэнства і для навучальнага чытаньня людзей праваслаўнае веры. У пэўных адносінах, гэтую патрэбу здавальняла заблудаўская друкарня з гэтманам Хадкевічам. Але апошняя існавала нядоўга. Пётра Мсьціславец, а за ім Іван Фёдараў пакінулі Заблудаў. А між тым, патрэба ў такіх кнігах была вялікая. Гэтую патрэбу павінна была задаволіць дзейнасьць друкарні братоў Мамонічаў. Калі друкарні несьвіская і заблудаўская маглі працаваць дзякуючы протэктарству гуманістычна настроеных асоб як віленскі ваявода Радзівіл і гэтман Хадкевіч, дык друкарня братоў Мамонічаў зьявілася прадпрыемствам чыста комэрцыйнага тыпу, якое павінна было задаволіць патрэбы шырокіх праваслаўных мяшчанскіх і шляхоцкіх колаў.

Калі Пётра Мсьціславец, які нарадзіўся ў Мсьціславе на Беларусі і быў, магчыма думаць, адным з супрацоўнікаў Скарыны, пакінуў Заблудаў, дык ён пасяліўся ў Вільні. Тут ён пазнаёміўся з вельмі выдатнымі віленскімі дзеячамі, братамі Кузьмой і Лукой Мамонічамі, якія і запрасілі яго заснаваць друкарню. Пётра Мсьціславец пайшоў насустрэч жаданьням братоў Мамонічаў, і друкарня была заснавана. Магчыма прыпусьціць, што першы час заснаваная друкарня была ўласнасьцю і Мамонічаў і Пётры Мсьціслаўца.

Першаю кнігай, якая вышла з друкарні братоў Мамонічаў і была надрукавана Пётрам Мсьціслаўцам, з матар'яльнаю дапамогай Зіновія Зарэцкага, віленскага бурмістра, было „Чатырохэвангельле". Друкаваньне яго пачалося 14 мая 1574 году, а скончылася 30 сакавіка 1575 г. Кніга надрукавана ў аркуш, мае 9 і 395 аркушоў кірылаўскай нумарацыі. Тэкст друку прыгожы, шрыфт буйны. Кніга выдадзена без прадмовы, але з пасьляслоўем, у якім аўтар сказаў наступнае: „Похвално желаніе подвигнулі есте о благочестивіи в человецехъ, яко же познаваеми от прежебывшаго бесѣдованія усты къ устомъ и о семъ велми благодаримъ Бога, яко и еще обретаются избранніи Божіи, паче в нынѣшнее время лукавое, по средѣ рода строптіва и развращенна, но понеже понудили есте насъ недостойных выше мѣры на сіе дѣло. Азже есмь человек грѣшен и немощен, бояхся начати таковая к тому же смотряя свое неприлѣжаніе и лѣность и неразуміе, на мнозѣ отлагахъ. Тѣмъ же съуза ради духовныя любве, и мы устремляемся неразсуднымъ послушаніемъ ваше заповѣданіе сътворити... Сего ради аще єдінъ талантъ ввѣренъ будетъ кто, не лѣнитися подабаетъ, но прилежно дѣлати бояся приказни съкрывшаго. И начах сію Святую книгу... в преславущемъ граде Вільне при державѣ Государя Нашего милостиваго Генриха, Божіею милостію короля Польского и Великого Князя Литовского... Умышленіемъ и промышленіемъ его милости пана скарбного старосты Упицкого, Ивана Семеновича Зарецкого і брата его

[1]) Огіенко. Op. cit., стар. 28.

Зенова, бурмистра мѣста Виленского. Молю же вы любовію духа Господа Нашего Иисуса Христа, давшего себе о грѣсѣхъ нашихъ вси рабы благословенаго Бога нашего, аще когда прилучится кому в сію Святую книгу Евангельскую вникнути, тъ прежде всѣхъ виновнику всѣмъ благымъ и содѣтелю жизни нашея Богу благодать да въздавает. Потомже их милости пану Иоанна, и пану Зиновію, таже и Козьмѣ, и Лукашу Мамоничямъ съ благоволеніемъ насъ пріемлющим, и почихомъ в дому их сіе дѣло строить, и въ всем нас упокоеваху многолѣтнаго здравія, да проститъ оттого же благодавца Бога, но молимъ вы и насъ не забывайте трудившихся многогрѣшного Петра, Тимофеева сына Мстиславца, но и тому мещите уломки дарованій вашихъ духовных, издалеча стоящу и алчющу ангельскаго хлеба и жаждущу духовного сего пива. О самом же Христе Бозе нашем и вкупь срасленомъ, и животворящемъ дусе, яко тому самому Богу нашему сущему в Троици слава, честь, дръжава в бесконечныя и неуставныя вѣки. Аминь"[1]).

Гэткім чынам, цэлы шэраг асоб прымаў дзейны ўдзел у выпуску „Чатырохэвангельля Напрэстольнага". Сярод гэтых асоб браты Мамонічы, асабліва Лукаш, скарбнік Вялікага Княства Літоўскага і стараста Дзісьненскі, займалі найболей выдатнае месца. Самі Мамонічы былі яскравымі абаронцамі праваслаўнае веры і беларускае народнасьці. Лукаш Мамоніч ня прымаў актыўнага ўдзелу ў жыцьці Вільні, хоць разам з жонкай сваёй Барбарай Войнянскай, касталяншай Мсьціслаўскай, меў некалькі маёнткаў у павеце Ашмянскім. Друкарня зьмяшчалася ў мураваным доме Лукаша Мамоніча, які наагул уклаў капітал, але ня прымаў дзейнага ўдзелу ў працах друкарні. Можа быць, Лукаш, які меў папяровы млын у сваім маёнтку Павільна, даваў паперу для друкарні. Згодна Крашэўскага, друкарня Мамонічаў знаходзілася на Віленскім рынку, проці Васкрасенскае царквы, побач з шпітальным будынкам[2]). Гэты мураваны будынак Лукаш Мамоніч набыў ад братоў Зарэцкіх, аб якіх успамінае Мсьціславец у сваім пасьляслоўі да „Чатырохэвангельля".

16 студзеня 1576 году Пётра Мсьціславец выдаў „Псалтыр", надрукаваны ў аркуш. У канцы кнігі ёсьць пасьляслоўе: „Еже убо тѣсное разума и недоумѣтельное языка моего свѣдый. Я же выше силы моеа начяти и немощная дерзнути, якоже нѣкій безстуденъ и дерзостивъ. Уготованныя иже сіцевая дерзающимъ смотряя бѣды. Сіа помышляя лѣняхся на сіе дѣло бояхжеся заповѣди. Речется убо истинное, да некогда сугубъ пріиму под смѣх ненаученіа в купе и неразуміа лютое. Проститъ жеся убо еже ненаученіа сългрѣшеніе, аще точію не от лѣности происходитъ. Но понеже преслушаніа плодъ смерть. Смиренный же послушливый Христов ученик быв к высотѣ възводітся, и благодать от Бога просвѣтительную пріемлетъ. По всему повинуяся Вашему повелѣнію, но милостиви ли будите богопочтенніи мілостивый пане скарбный и пане Зенове Зарецкій. Молюся вашимъ заповѣдемъ, покорившуся и пріемлющу послушаніа. Напечатах сію книгу, глаголемую Псалтирь... В славном мѣстѣ Виленьском пребываючы в дому благочестивыхъ мужей Козмы и Лукаша Мамоничов, яко и от своих имъ стежаніи изобілно въ всем насъ довольствовати. Хотящііже убо преписовати или прочитати книгу сію милостиви и незазорливы молюся будите моего ума немощи и недостатку. Понеже и вы, человецы, и человеческимъ подлежаще. Яко требуйте милости от Бога и прощенія от человѣкъ. Прощенію вашему, и насъ сподобляйте, недостойнаго Петра, Тимофеева сына Мстисловца"[3]).

[1]) Каратаев. Op. cit., стар. 190—191.
[2]) Abramowicz. Cztery wieki. стар. 24—25.
[3]) Каратаев. Op. cit., № 88. стар. 192-193.

У гэтым самым годзе ў Вільні вышаў таксама і „Апостал“. Паміж выданьнем „Апостала“ 1576 году і „Апосталам“ 1591 году, выдадзеным у друкарні братоў Мамонічаў, існуе пэўнае падабенства, так што Віленскі „Апостал“ 1576 году можна аднесьці да выданьняў братоў Мамонічаў. Вельмі магчыма, што гэта было апошняе выданьне Пётры Мсьціслаўца. Гэты „Апостал“ быў перадрукам маскоўскага выданьня „Апостала“, які ў свой час, у 1564 годзе, быў надрукаваны Пётрам Мсьціслаўцам сумесна з Іванам Фёдаравым[1]). Супольная праца Мсьціслаўца з братамі Мамонічамі цягнулася нядоўга. Ужо ў 1577 годзе Пётра Мсьціславец вядзе процэс супроць Кузьмы Мамоніча аб падзеле друкарні. Суд ацаніў яго маемасьць у 30 коп грошай; аднак, Мамонічы ня толькі захавалі ўсю маемасьць, але не заплацілі нават грашовае сумы. З гэтай прычыны Мсьціславец прымушаны быў ізноў распачаць іск, вынікі якога засталіся невядомымі[2]). Гэткім чынам, браты Мамонічы зрабіліся гаспадарамі свае друкарні. Відавочна, Пётра Мсьціславец, працуючы ў віленскай друкарні, стварыў цэлую школу друкароў, якія маглі весьці далей распачатую ім справу. Братом Мамонічам удалася атрымаць каралеўскі прывілей на выключнае права друкаваць і прадаваць кнігі. Аб гэтым прывілеі гаворыцца ў пасьляслоўі да „Апостала“ 1576 году. Асобы, абвінавачаныя ў таемным прывозе і продажы кніг, павінны будуць, згодна прывілею, заплаціць штраф са стратай усіх незаконна прывезеных і прададзеных кніг[3]).

Першаю кнігай, надрукаванаю ў друкарні братоў Мамонічаў, якія сталі гаспадарамі прадпрыемства і давалі на яго сродкі, быў „Октоіх“. Ён быў надрукаваны Базылём Гарабурдам, у аркуш, у 1582 годзе. Пасьляслоўе паказвае месца друку кнігі і імя друкара. У вапошняй частцы яно вельмі падобна да тых пасьляслоўяў, якія друкаваў Пётра Мсьціславец да сваіх выданьняў. Канец пасьляслоўя быў наступны: „Мед убо аще и не въ сребряныхъ, или въ златыхъ сосудѣхъ, но и на корѣ не пременяеть своего естества—сладости. Сице и Божественая Писанія не прелагаются инако, Грубости ради, и нелѣпотнаго художества, но всегда въ своемъ съставленном чину, пребываетъ непреложне и неразвратне. Давшему же Богу начати и съвершити благоизволившему слава, честь и держава и нынѣ, и в бесконечныя вѣки. Аминь“[4]). Праз год з друкарні братоў Мамонічаў вышаў „Служэбнік“, надрукаваны ў чацьвертую долю аркуша. Кніга мае пасьляслоўе: „Вседрѣжителя Бога Отца благоволеніемъ и щедротами иже к нам Единородного Сына его, Господа Нашего Иисуса Христа и съдѣйствием Пресвятаго и Животворящего Духа. Повелѣниемъ благочестивого Государя, Великого Короля его милости Стефана за привиліем волею и ласкою его королевскія милости... Ко очищенію и ко исправленію ненаученых и неискусных в разумѣ книгописец. К почести же и славѣ всѣхъ съдѣтеля Владыки, Бога и Отца, Господа Иисуса Христа, дабы во церквах Божіи служащіи іерѣи по искусных и ісправленных книгах служили, и отправовали службо дѣйство, тайнъ Христовых, молбы и приношенія, и молитвы за господаря и христоименитый народ выну же ко Богу приношали. Выдрукована сія книга, Служебник, въ славномъ и столечномъ градѣ Вильни. З друкарни дому Мамоничовъ“[5]).

Друкарня братоў Мамонічаў да 1585 г. амаль ні ў чым не выяўляла свае выдавецкае дзейнасьці. Гэта тлумачыцца, пэўна, недахопам шрыф-

[1]) Каратаев. Op. cit., № 89.
[2]) Abramowicz. Op. cit., стар. 25-26.
[3]) Каратаев. Op. cit., стар. 195.
[4]) Каратаев. Op. cit., стар. 220.
[5]) Каратаев. Op. cit., стар. 222.

Ѱалом пѣсни в день соуботныи.
Благо есть исповѣдати ча
ся Гви, и пѣти име
ни твоемоу вышнє.
възвѣщати заоу
тра мать твою, и
истиноу твою на всякоу нощь.
в десятострѫннем ѱалты
ри, с пѣснїю в гѫсле. Яко възв
еселил мя еси Ги, в твари твоей,
и в дѣле рѫкѫ твоею възрадоу
юся. Яко възвеличишася дѣ
ла твоя Ги, ѕѣло оуглѫбишася
помышленїа твоа. Мѫжъ бе
зѫмен не познает, ни разѫ
мивъ, не разѫмеет сихъ.
Егда прозябоша грѣшницы

Старонка з „Псалтыру". Вільня 1575.

ту, бо магчыма што Пётра Мсьціславец, былы супольны ўласьнік друкарні, на моцы судовага выраку атрымаў, усе-ж, частку друкарскае маемасьці, у тым ліку і шрыфт[1]). Толькі з 1586 году друкарня братоў Мамонічаў пачынае разьвіваць значную выдавецкую дзейнасьць. Той прывілей, які быў дадзены Вялікім Князем Літоўскім і каралём Польскім, меў вялізнае значэньне для разьвіцьця дзейнасьці друкарні Мамонічаў. Напрыклад, у 1586 годзе, 8-га кастрычніка, вышла ў Вільні граматыка славянскае мовы. Кніга надрукавана ў чацьвертую долю аркуша, мае 14 ненумараваных аркушоў і наступнае пасьляслоўе: „Бога благаго благостію. А за прозбаю жителей столицы Великаго князства Литовъскаго града Вильны, сия кграматыка Словеньска языка, згазофилякіи славного града Острога, властное отчизны яснѣ вельможнаго княжати и пана Константина Константиновича княжати на Острогу, пана на Дубнѣ, воеводы Кіевскаго, маршлька земли Волыньское і пр... З щедробливое его милости ласки выдана для наученія и выразумѣнія Божественнаго писанія, а за помощью Христовою, на несмертную славу народу дому его княжатской милости. Выдрукована вмѣстѣ Віленьском“[2]). У тым-жа годзе быў надрукаваны „Трибуналъ обыватлемъ Великого Князства Литовского, на сойме Варшавскомъ даны року 1581“[3]). У тым-жа годзе з тэй-жа друкарні вышаў „Псалтыр“ з „Восслѣдованием“. „Псалтыр“ мае наступны выхад: „за волею Христа Бога нашего и ласкою непревитежного государя Божіею милостію короля Стефана, у привилеваньемъ выдрукована сія книга псалтырь въ лѣто отъ созданія мира 7094 февраля 10-го дня въ славном мѣстѣ Виленскомъ. Працою и пильностью и всѣми выдатки Лукаша Ивановича Мамонича, скарбного короля его милости великого князьства Литовского, и Козмы Мамонича, бурмистра Виленьского, з друкарни ихъ властное выдана“[4]). У 1588 годзе надрукаваны вядомы статут Вялікага Княства Літоўскага 3-яй рэдакцыяй. Загаловак Статуту наступны: „Статут Великого Князства Литовского от наяснешего господаря короля его милости Жикгимонта третего на коронацыи въ Кракове выданы, року 1588“. Пад загалоўкам знаходзіцца гэрб Літвы, а ў самым канцы старонкі надрукавана: „за привильем короля его милости друковано в доме Маничов (Мамоничовъ)“. Статут надрукаваны ў аркуш, курсіўным шрыфтам, мае 554 нумараваныя старонкі і 14, 63 ненумараваных[5]). У 1591 годзе з друкарні вышаў „Апостал“, орыгіналам для якога служыў „Апостал“, надрукаваны ў Львове ў 1574 г. „Апостал“ Мамонічаў ёсьць перадрук папярэдняга выданьня. „Апостал“ мае прысьвячэньне: „ясне вельможному пану его милости пану Теодору Скумину... Пану нашему милостивому. В тую книгу душеспасительную Апостольскую вгленувши лацно ваша панска милость познати будешь рачилъ зычливость нашу“... У канцы кнігі ёсьць пасьляслоўе: „Господи Боже, Боже Тройца, видимыя и невидимыя твари, содетелю, сподобилъ и насъ недостойныхъ лицем въ лице очима оглядати мужа преподобного, славна и свята святейшего Вселенского патриярха Константинопольского Нового Рима, Кир Иеремия... В Вилни, которая докончана, в лѣто от воплощенія Иисуса Христа Спаса и Бога нашого 1591 месяца июня 8-го дня. С друкарни дому Мамоничов“[6]).

---

1) Abramowicz. Op. cit., стар. 26.
2) Каратаев. Op. cit., № 113.
3) Каратаев. Op. cit., № 114.
4) Ibid., № 115.
5) Ibid., № 117.
6) Каратаев. Op. cit., № 126.

У наступным годзе (1592) вышаў „Псалтыр" у 4-ю долю аркуша з загалоўкам: „Давида пророка и царя пѣснь. Поученіе на благочестіе и отметаніе противныхъ. Извѣствуется путь къ благословенію вѣчному". Ёсьць і выхад: „Сия книга, глаголемая Псалтырь, выдрукована во великом князстве литовском в столечном градѣ Вильни за щесливаго панованя Господаря короля его милости, полского, Жикгимонта третего... Под дозор извирним паномъ друкарни ясневельможнаго пана Лва Сапеги, канцлеря великого князства литовского... А промыслом проторы, труды и тщанием скарбного короля его милости пана Лукаша Ивановича Мамонича и брата его Козмы бурмистры виленского [1])".

У наступным годзе з тае-ж друкарні вышаў „Псалтыр" з „Восслѣдованіемъ", надрукаваны ў 4-ю долю аркуша. Загаловак „Псалтыру" наступны: „Псалмы Давида, пророка и царя. Извѣстуется путь къ благословенію вѣчному. Всяка радость яже не имат от добродѣтелей віну, таковая абіе подвизаніе желаніе въ обретшим ту воздвизаетъ. Блаженно во истіну тож и добро. К нему ж вся взіраютъ, его ж вся желаютъ. В Вилни, з друкарни дома Мамоничовъ". Потым ішло прысьвячэньне: „благородному и милостию Христа Бога нашего окрашненому, его милости пану Лукашу Ивановичу Мамонича, старосте Дисненьскому и скарбному великого князства Литовъского и пр. пану моему милостівому". Пасьляслоўе было наступнае: „лето от создания миру 7101 а от нарожденіа Иисуса Христа сына Божего, избавітеля нашего 1593, месяца ноября 30-го дня. Сія книга, глаголемая псалтирь, выдрукована естъ в местѣ Виленьскомъ. В дому тыпокграфов его королевской милост Мамоничовъ, за прівильем его королевской милості, которимъ то естъ варовано, абы каждый якогож кольвекъ стану человекъ не важилъся тыхъ книгъ, в панъствахъ его королевской милости друковать; або где индеи друкованыхъ до панъствъ его королевской милости, будь явне або потаемне привозить и продавать под виною в прывилею засноваюю до скарбу его королевской милости и подъ утраченьемъ всих книгъ" [2]). У 1595 годзе было надрукавана: „Унія алъбо выкладъ преднейшыхъ арътыкуловъ кузъодноченью грековъ с костеломъ Рымскимъ належащыхъ". З прысьвячэньнем выданьня „моему милостивому пану Теодору Скумину, воеводе Новгородъскому, старосте Городенскому и Олитскому [3])". У 1595 годзе вышла „Евангелие толковое" ў аркуш. Выдавец, Кузьма Іванавіч Мамоніч, прысьвяціў сваё выданьне „вельможному пану его милости пану Симеону Войне". Загаловак кнігі наступны: „Евангелие толъковое. Различными святыя кефалическія сирѣчь соборныя церкве Христовы Учителми. Въ вся до году седмицы, такожде и на господскія празники" [4]). У 1596 годзе 23-га ліпня была выдадзена „Паломница" [5]). У 1600 годзе—эвангельле напрэстольнае (Чатырохэвангельле). У канцы кнігі ёсьць пасьляслоўе: „При деръжаве господаря нашего наяснейшого Жигимонда третего... И при нареченномъ архіепископе Ипатію, митрополите киевскомъ... епископе Володимирском и Берестейском, архимандрите Печерскомъ, за волею и позволенемъ ясновельможнаго пана его милости пана Лва Сапеги, канъцлера великого князства Литовъского, старанъемъ и накладомъ его милости пана Лукаша Мамонича... и пана Козмы

---

1) Ibid., № 128.
2) Ibid., № 130.
3) Ibid., № 137.
4) Ibid., № 134.
5) Каратаев. Op. cit., № 143. Миловидов. Старопечатныя славяно-русскія изданія, вышедшия из западно-русских типографій XVII—XVIII ст. Чтения в О-ве Истории и Древностей, Москва, 1908 I, стар. 1-27.

Мамонича бурмистра Виленского. Выдрукована бысть сія книга в месте столечном Виленъском, в лето создания миру 7018 от воплощенія Господа Бога и Спаса нашего Иисуса Христа в 1600 месяца июля 17-го дня"[1]). Наагул, ад 1575 да 1600 году з друкарні Мамонічаў вышла каля 36 выданьняў. 1606 год зьяўляецца годам пачатку занападу друкарні. У гэтым годзе памёр Лука Мамоніч, а друкарня з 1607 году пераходзіць да яго сына Лявона Мамоніча, пад фірмай якога выдадзены быў „Служэбнік"[2]). Лявон Мамоніч, які захоўваў найменьне „каралеўскага тыпографа", выдаў значны лік розных царкоўнаславянскіх выданьняў. Адначасна ў яго друкарні друкаваліся і выданьні лацінска-польскія. Друкаваньне апошняга роду выданьняў пачалося ўжо пры яго бацьку. Сыну Лявону заставалася толькі весьці далей справу бацькі. У 1614 годзе з друкарні Лявона Мамоніча вышаў Статут Вялікага Княства Літоўскага ў польскім перакладзе, у другі раз выдадзены ў 1619 годзе. У 1621-22 годах з друкарні Лявона Мамоніча ня вышла аніводнае кніжкі, надрукаванае кірыліцай, але затое вышла некалькі польскіх кніг, у ліку якіх былі кнігі напісаныя Рутскім, што баранілі вунію ад нападу праваслаўных. Можна лічыць, што друкарня Лявона Мамоніча перастала існаваць у 1622 годзе. Праўда, Каратаеў адносіць малітваслоў, надрукаваны ў Вільні ў 1630 годзе, да кніг, якія вышлі з друкарні Мамонічаў, але аўтэнтычнасьць апошняга ўзята пад падазрэньне. Мы ня ведаем, які лёс спаткаў друкарню Мамонічаў. Згодна паказаньняў адных вучоных, яна перайшла да Віленскага Сьвятадухаўскага Брацтва, па іншых вестках, яна перайшла да Базыліянаў. Можна лічыць, што апошняе прыпушчэньне болей правільнае, бо Лявон Мамоніч стаў вунітам з 1614 году, і ўпоўне зразумела, што Базыліяне, якія захапілі Траецкі манастыр, былі да яго бліжэй, ніж сябры Сьвятадухаўскага Брацтва[3]).

## VIII.

## Друкарня Віленскага Сьвятадухаўскага Брацтва.

Віленскае Траецкае брацтва, як думае К. В. Харламповіч, было заснавана ў 1584 годзе пры Траецкім манастыры згодна дазволу кіеўскага мітрапаліта Анісіфора[4]). Той-жа мітрапаліт 19 чэрвеня 1587 г. зацьвердзіў новы брацкі статут, „благословил всех православных христиан закону нашего греческого братство церковное имети и вся обычаи сего богоугодного братства в книзѣ сей написанные хранити"[5]). 3-га чэрвеня 1588 году ў Вільні спыніўся па дарозе ў Маскву канстантынопальскі патрыярх Ерамія, да якога братчыкі зьвярнуліся з просьбай аб „рассмотрении и исправлении" іхняга чыну. Хадайніцтва віленскіх братчыкаў было задаволена. Патрыярх зацьвердзіў яго, прымаючы пад увагу тое, што ўсё напісанае ў ім служыць „к соединению любви духовное и к совершенству христианскому благочестию". Між іншым, патрыярх благаславіў „школу братскую в дому братском, языка греческого, латинского и руского имети. Тако же и друкарню вся книги ветхого и нового завета по святых отец преданию печатати"[6]). Віленскія братчыкі прадставілі свой статут, разам з граматай патрыярха, на зацьвярджэньне польскага караля Жыгімонта III. Статут брацтва быў зацьверджаны каралеўскім прывілеем. Брацтва ў ліку

[1]) Каратаев. Op. cit., № 162.
[2]) Ibid., № 189.
[3]) Abramowicz. Op. cit., стар. 30.
[4]) К. Харламповіч. Западно-русские православные школы. Казань. 1898. Стар. 313.
[5]) Ibid., стар. 317.
[6]) Ibid., стар. 319.

іншых праў атрымала: „книги всякие старого и нового закону, так в науце школьной, яко и церкви потребные по кгрецку, по словенску, по руску и польску друковати позволяем“ [1]). Відавочна, на грунце прывілеяў, якія атрымала Траецкае брацтва, паўсталі непаразуменьні паміж брацтвам і епіскопатам. Прынамсі Берасьцейскі царкоўны сабор, які быў скліканы для разгляду непаразуменьняў між Львоўскім брацтвам і епіскопам Гэдэонам Балабанам, у сваім выраку ў гэтай справе дакрануўся таксама і віленскага брацтва. Сабор яшчэ раз пацьвердзіў дазвол ня толькі мець „школу при тых же братствах, Львовском и Віленском, соборнейшую кгрецкого и словенского закона“, але таксама і друкарню ў Львове і ў Вільні [2]). Аднак, да 1596 году няма ніякіх вестак аб дзейнасьці брацкае друкарні.

Першаю кнігай, надрукаванай у брацкай друкарні, была „Азбука“ альбо „Наука ку читаню и розумѣню писма словенского“ Лаўрэнта Зізанія. Кніга надрукавана ў малую 8-ю долю аркуша, без нумарацыі. Галоўны зьмест кнігі „Лексис сирѣчь реченія въкратце събранны. И из словенскаго языка, на просты рускій диялект истолкованы“ [3]).

У тым-жа годзе была надрукавана „Грамматіка Словенска“, складзеная таксама Л. Зізаніем, у малую 8-ю долю аркуша. Загаловак кнігі наступны: „Грамматіка Словенска съвершеннаго искуства осми частій слова и иныхъ нуждныхъ. Новосъставлен L. Z.“ [4]). Граматыка складзена ў форме гутаркі з прымешкай слоў і выразаў мясцовае беларускае мовы. Да граматыкі Зізанія далучаны: 1) выклад малітвы Господняй і 2) „Лексис“—кароткі слоўнік славянскае мовы. Лексіс ёсьць слоўнік, у якім болей за 1000 слоў царкоўна-славянскіх, чужаземных і адцягненых атрымалі тлумачэньне ў болей зразумелай мясцовай беларускай (рускай) мове.

Трэцяй кнігай, надрукаванай у брацкай друкарні ў 1596 годзе, былі „Молитвы повседневные“ ў 12-ю долю аркуша. Загаловак кнігі: „Молитвы повседневные. З многих святыхъ отецъ церкве Христовы учителей, с писма греческого въ кратцѣ избраны“. Кніга мае прадмову „К православному християнину: се тобѣ правило моленія, пѣнія и благодаренія изобразися православный читателю, еже преначерташа богодухновенныи отци наши“...[5]).

Год, калі брацкая друкарня пачала сваю друкарска-асьветную дзейнасьць, быў годам заключэньня царкоўнае вуніі, легалізацыя якой мела столькі трагічных вынікаў для віленскага мяшчанства. Барацьба, якая распачалася паміж брацтвам, што было праваслаўна-мяшчанскаю партыяй, і каталіцка-вуніцкай партыяй, якая знаходзіла сабе падтрыманьне ў урадавых шляхоцкіх колах, не магла не затрымаць разьвіцьцё друкарскае справы ў брацкай друкарні. Застаецца невядомым, у чым выявілася ў гэты час выдавецка-друкарская дзейнасьць брацкае друкарні, бо не захавалася ніякіх паказаньняў адносна друкаваньня кніг у брацкай друкарні аж да 1610 году.

У 1609 годзе ў віленскім Траецкім брацтве здарылася першая бяда. Каталікі-вуніты, якія пайшлі ў атаку на праваслаўнае мяшчанства, атрымалі буйную перамогу. Траецкі манастыр, цытадэля праваслаўнага мяшчанства, аддаены быў вунітам у 1609 годзе. Яшчэ ў 1608 годзе вуніты організавалі пры Траецкім манастыры сваё брацтва і пачалі рабіць „опресыи и пренагабеня“ праваслаўнаму брацтву, і разам з тым

[1]) К. Харлампович. Op. cit., стар. 319.
[2]) Архив юго-западной России, ч. I, т. X. Киев, 1904. Стар. 78.
[3]) Каратаев. Op. cit., № 146.
[4]) Каратаев. Op. cit., № 145. Миловидов. Op. cit., стар. 5.
[5]) Каратаев. Op. cit., № 140.

заяўлялі свае правы на зямлю, на друкарню і іншую маемасьць Траецкага брацтва [1]). Праваслаўныя братчыкі, на моцы каралеўскага прывілею 1609 году, прымушаны былі пакінуць Траецкі манастыр і перанесьці сваю дзейнасьць у суседні Духаў манастыр, куды была пераведзена і брацкая друкарня.

Нетолерантная палітыка Рэчы Паспалітае ў асобе Жыгімонта III прымусіла брацкую друкарню прыняць удзел у рэлігійнай барацьбе, якая ішла навокал брацтва.

У 1610 годзе Духаўская друкарня выпусьціла твор Мелеція Сматрыцкага „Фриновъ т. е. Плачъ восточныя церкви на отступленіе некоторыхъ от древнего греческого исповеданія и от повиновенія патр. Константинопольскому", надрукаваны ў 4-ю долю аркуша. Аднак, Каратаеў зацьвярджае, што такой кнігі, надрукаванай кірыліцай, ня было, і думае, што „Плач" быў выдадзены толькі ў польскай мове [2]).

Выхад палемічнага твору М. Сматрыцкага выклікаў вялікае нездаваленьне ў урадавых колах і меў шмат вынікаў, цяжкіх для брацкай друкарні. Сам Жыгімонт III знаходзіўся ў гэты час у лягеры пад Смаленскам, дзе і быў выдадзены дэкрэт 7-га мая 1610 году, на моцы якога ўсім грамадзянам Вялікага Княства Літоўскага загадвалася «aby się nikto takowych xiąg, kart y pasquillussów pod zakładem pięciu tysięcy czerwonych złotych na skarb nasz y pod innemi winami w prawie pospolitem opisanemi na buntowniki, kupować i przedawać nie ważył, owszem, aby każdy zabierał i palił». Гэты загад грунтаваўся на думцы, што «w drukarnie ruskiey Wielenskiey wydrukowane które ostatne są pasquillusse y bunty przeciwko zwierzchności duchownej y świeckiey, a śnać y xięgi osobne nie małe w teyże drukarni russkiey Wileńskiey są wydrukowane w których znać gorszych ieszcze kalumniy y bluźnierstwa pełno» [3]).

Каралеўскі дэкрэт аддаваў брацкую друкарню на зьнішчэньне. Вялікі князь, сьледам за публікацыяй дэкрэту 7-га мая, выдаў новы загад на імя свайго сакратара Мацея Бурмінскага, войта і бурмістраў, райцаў і лаўнікаў каталіцкае веры гораду Вільні, зрабіць вобыск у друкарні і спаліць „pasquilluse y xięgi podeyrzane", а самых друкароў, корэктара Лявонція Карповіча і аўтараў трымаць у турме (na ratuszu albo w więzieniu jakiem do nauki naszey) да каралеўскага загаду. Вышэйпамянёныя асобы павінны кіравацца загадамі аб гэтым з боку Міколы Крыштофа Радзівіла, віленскага ваяводы [4]).

Ува ўсёй гэтай няпрыемнай для брацкай друкарні гісторыі прымаў найактыўнейшы ўдзел віленскі ваявода Мікола Крыштоф Радзівіл, які знаходзіўся пад моцным уплывам езуітаў і зусім ня меў нахілу адносіцца цярпліва да чужаверцаў [5]). Найноўшы дасьледчык віленскае друкарскае справы Абрамовіч знаходзіць, што брацтва адхілілася ў бок ад свайго статуту. Замест выданьня рэлігійных кніг і падручнікаў для школ праваслаўнага вызнаньня, брацкая друкарня стала на шлях выданьня твораў палемічна-рэлігійных, альбо палітычных памфлетаў. Адсюль можна прыйсьці да выніку, што разгром брацкае друкарні быў упоўне законны [6]). Аднак, Віленскае брацтва падала скаргу ў трыбунал, а апошні перанёс справу „на россудок сеймовый" [7]).

Здавалася, віленская ўлада зрабіла так, што зьнікла ўсялякая магчымасьць абыякой дзейнасьці брацкае друкарні.

[1]) Харлампович. Op. cit., стар. 325.
[2]) Каратаев. Op. cit., стар. 318—319.
[3]) Акты Вилен. Археогр. Комиссии. Т. VIII. Вильно. 1875. № 44.
[4]) Ibid., № 45.
[5]) Abramowicz. Op. cit., стар. 71.
[6]) Ibid., стар. 71.
[7]) Харлампович. Op. cit., стар. 326.

І запраўды, манахі Сьвятадухаўскага манастыра заснавалі друкарню недалёка ад Вільні, у Еўі, дзе ў 1611 годзе вышла першая надрукаваная тут кніга [1]).

У 1615 годзе брацтву ўдалася аднавіць дзейнасьць свае друкарні. Аднавілася друкаваньне кніг. Па думцы Гільдэнбранта, у гэтым годзе ў брацкай друкарні надрукаваны быў Малітваслоў з малітвамі Кірылы Тураўскага і Саборнікам у канцы кнігі. Каратаеў не азначае месца выданьня Малітваслова; Мілавідаў зусім аб ім маўчыць [2]). Праз два гады брацкая друкарня надрукавала яшчэ дзьве кнігі: „Уставъ Божественныя литургии иже во святыхъ отецъ наших Іоанна Златоустаго, Васіліа Великаго, Григорія Двоеслова", у 4-ю долю аркуша, і „Требник или Молитовник: имѣя в себѣ церковная послѣдованія, от святыхъ Апостолъ прежде потомъ же от святыхъ и богоносныхъ отецъ, в различныхъ временахъ преданныя", у 4-ю долю аркуша [3]). У 1618 годзе быў надрукаваны „Молитвъник или Требник, имея въ себѣ церковная послѣдованіа. От святыхъ Апостолъ прежде, потом же от святых и богоносных отецъ в различныхъ временах преданая. Из греческаго языка, на словенскій преведеный, и истино изъслѣдованый... Працею и старанемъ иноков общаго житіа", у 4-ю долю аркуша [4]). У 1620 годзе з брацкай друкарні вышаў „Вертоградъ душевный, сиречъ собраніе и сочиненіе молитвъ исповѣдательныхъ и благодарственныхъ, блаженыя памяти іноком Фікарею, Святогорцемъ. Тисненіемъ же типографскимъ нынѣ первіе напечатася, в Типографіи монастыра Общежительного Братскаго Виленьскаго, при церкви Сошествія пресвятого и животворящего Духа", у 4-ю долю аркуша [5]). У тым-жа годзе брацкаю друкарняй было выдадзена: „Святого Іоанна Златоустаго, архіепископа Константинопольскаго, на Отче Нашъ выкладъ, з греческаго на рускій, однымъ з молодшыхъ слугъ церковныхъ: за розказаніемъ старшыхъ преложоный", у 4-ю долю аркуша [6]).

Сьмерць Лявонція Карповіча, архімандрыта Сьвятадухаўскага манастыра, які (Карповіч) некалі пацярпеў як друкар, выклікала зьяўленьне дзьвёх кніжок: „Лямент у свѣта убогихъ на жалосное преставленіе святолюбивого, а в обои добродѣтели богатого мужа в Бозе Велебного, Господна Отца Леонтіа Карповича, архімандріта общіа обители, при Церкви Сошествия Святого Духа, Братства Церковного Виленскаго православного греческого в Вильнѣ", у 4-ю долю аркуша [7]). З тэй-жа прычыны вышла кніжка Мелеція Сматрыцкага, архіепіскопа Полацкага, уладыкі Віцебскага і Мсьціслаўскага, электа архімандрыта Віленскага: „Казанъе; на честны погребъ пречестного и превелебного Мужа Господна и отца Леонтія Карповича, номыната епископа Володимерскаго и Берестинскаго, архимандрита Виленскаго", у 4-ю долю аркуша [8]). У 1621 годзе брацкая друкарня выпусьціла: „Требник, сиречъ Молитовникъ, имѣяй въ себѣ церковная послѣдованія, іереемъ подобающая. От святыхъ Апостолъ прежде, потомъ от святых и богоносных отецъ во различных временех преданная. Зде первое изображенный, и нѣкоими нужными, о нихже во оглавлении возвращеный. Трудолюбіем общежителей Богоспасаемыя Обители Сошествіа Пресвятаго

1) Огіенко. Op. cit., стар. 20, 29.
2) Памятники русской старины. В. VI. Стар. 172. Каратаев. Op. cit., № 221.
3) Каратаев. Op. cit., № 233 і 234.
4) Ibid., № 242.
5) Ibid., № 255.
6) Ibid., № 257.
7) Каратаев Op. cit., № 258.
8) Ibid., № 262.

и Животворящего Духа в Вильнѣ", у 16-ю долю аркуша. Тэкст гэтага трэбніку значна адрозьніваецца ад трэбніку 1618 году, але праваслаўны характар яго захаваны, як і раней[1]). У 1622 годзе з брацкае друкарні вышаў „Полъуставъ или Требник: въ ползу всѣмъ православнымъ: трудолюбіем іноковъ С. общежительныя обители Сошествія пресвятого и животворящаго Духа, поновлен". У кнізе ёсьць прысьвячэньне: „Зацне урожоному его милости пану Николаеви Онихимовскому, старостѣ братства церковного Виленскаго Сошествія пресвятаго и животворящаго Духа"[2]). У 1623 годзе з брацкае друкарні вышаў „Новый Завѣтъ Господа нашего Іисуса Христа. Ново во мнозе зъ греческого: тщаніемъ иноковъ Св. общежительныя обители, Сошествія пресвятого и животворящего исправленый, в немже и псалтырь напреди" у 8-ю долю аркуша. Ёсьць прысьвячальная прадмова: „Пану Феодоровитови Сапезе, подкоморему Витебскому от иноков братства св. Духа[2]). У гэтым-жа годзе была выдадзена „Псалтырь Блаженного пророка и Царя Давида, съ пѣсньми моисеовыми и величаніемъ на праздники Господскія и святыхъ божіихъ: Трудолюбіемъ иноков Святыя общежительныя обители Сошествія пресвятого и животворящаго Духа", у 4-ю долю аркуша[4]). У 1624 годзе з брацкае друкарні вышлі два выданьні: „Уставъ божественныя литургіа иже во святыхъ отецъ нашыхъ, Иоанна Златоустаго, Василіа Великаго и Преждеосвященная Григорія Двоеслова", у 8-ю долю аркуша[5]) и „Требник сирѣчъ Молитовник... повторое изображенный, и нѣкоими нужными (о нихъ же во оглавлении) возвращенный", у 8-ю долю аркуша[6]). Наступныя два гады былі „пустымі" гадамі для брацкае друкарні, з яе сьцен ня вышла аніводнага друкаванага выданьня. Але ў 1627 годзе брацкая друкарня выпусьціла дзьве кнігі: „Духовныи Бесѣды св. отца нашего Макарія пустелника египетского, о доскональстве христіанъ православныхъ: многими пожитками душезбавленный пополненный и всѣмъ старающымся о спасеніе души своей, велце ку збудованию потребный, зъ греческого на рускій языкъ ново преложеный, працею и старанем іноков общежительного монастыра", у 4-у долю аркуша. Кніга прысьвечана „Николаеви Максимовичу Ломскому"[7]). Другая кніга—„Псалтырь блаженного пророка и царя Давида", у аркуш[8]). У 1628 годзе вышаў „Требник", у 12-ю долю аркуша[9]).

Аб дзейнасьці брацкае друкарні ў пэрыод 1628—1635 гадоў не захавалася ніякіх вестак. Уся дзейнасьць брацкае друкарні, якая аднавілася з 1617 году, абмяжоўвалася толькі публікацыяй патрэбных для праваслаўнага набажэнства і навучальнага чытаньня кніг. Звычайна кнігі выдаваліся па царкоўна-славянскім тэксьце, але традыцыі Скарыны і яго наступнікаў не памёрлі. Паасобныя выданьні перакладаліся на „рускую", г. зн. беларускую мову.

Дэкрэт Жыгімонта III і фанатычная рэлігійная палітыка польска-літоўскага ўраду не далі магчымасьці Сьвятадухаўскаму брацтву прыняць удзел у тэй рэлігійна-палемічнай барацьбе, якая ішла так заўзята на Беларусі пасьля 1596 году. З брацкае друкарні ня вышла ані-

---

1) Ibid., № 268. Миловидов А. Описание славяно-русских старопечатных книг Виленской Публичной Библиотеки (1491—1800). Вильна, 1908. № 29.
2) Каратаев. Op. cit., № 271.
3) Ibid., № 283. Миловидов. Op. cit., № 30.
4) Каратаев. Op. cit., № 277. Миловидов. Op. cit., № 31.
5) Каратаев. Op. cit., № 286.
6) Ibid., № 287.
7) Каратаев. Op. cit., № 309. Миловидов. Op. cit., № 33.
8) Каратаев. Op. cit., № 316.
9) Ibid., № 330.

воднае палемічнае па рэлігійных пытаньнях кнігі. Брацтва было лёяльным з прымусу. Дзякуючы гэтаму, кіеўскаму мітрапаліту Пётру Магіле ўдалася ў 1633 годзе атрымаць ад Ўладыслава IV прывілей для брацкае друкарні, на падставе якога дзейнасьць брацкае друкарні магла разьвівацца без усялякіх перашкод. Польскі дасьледчык Абрамовіч констатуе спад аўторытэту праваслаўнае царквы і зьмяншэньне яе ролі ў грамадзка-політычным жыцьці. Брацтва сьвятога Духу падпадае пад уплыў польскае культуры, і брацкая друкарня, апроч кніг для набажэнства, пачынае друкаваць аполёгіі і панэгірыкі ў польскай мове [1]).

IX.

## Друкарня ў Еўі.

Зьнішчэньне друкарні Сьвятадухаўскага брацтва прымусіла манахаў гэтага манастыра адшукаць новае месца, дзе яны маглі б працягнуць сваю дзейнасьць па выданьні кніг, патрэбных для праваслаўнага набажэнства. Такім адпаведным месцам зьявілася Еўе, мястэчка Троцкага павету, у 35 вярстах ад Вільні. Яно належала да падкаморага Троцкага, князя Багдана Агінскага. Апошні заснаваў царкву ў сваім мястэчку і потым прыпісаў яе да Віленскага Сьвятадухаўскага манастыра. Упоўне зразумела, што манахі Сьвятадухаўскага манастыра накіраваліся сюды, бо ведалі, што з боку князя Агінскага яны знойдуць падтрыманьне і дапамогу. І запраўды, князь Агінскі даў сродкі для заснаваньня новае друкарні [2]). Першаю кнігай, якая вышла з друкарні мястэчка Еўе, быў „Новы Закон" з „Псалтырам". Загаловак выданьня быў наступны: „Книга Нового Завѣта. В ней же напреди псалтырь блаженаго пророка и царя Давида. Выдана есть коштом и накладом вельможного пана, его милости пана Богдана князи Окгинского... Працаю и пильнымъ стараниемъ иноков церкви братской Святого Духа" [3]). У гэтым-жа годзе манахі выдалі і „Апостал" [4]). У 1612 годзе была выдадзена „Діоптра альбо зерцало, и выражене живота людского на томъ свѣте. Коштомъ и працею иноковъ церкви Святого Духа, Братское Виленское Общого Житія в Евю, в маетности вельможного пана его милости, пана Богдана князя Окгинского подкоморого Троцкого". Кніга была перакладзена з грэцкае і лацінскае мовы іеродыяканам Віталіем [5]). У гэтым-жа годзе быў надрукаваны „Орологіонъ" з такім загалоўкам: „Орологіонъ, албо Часословъ имѣя в собѣ дневную и ночную службу. Коштомъ велможного пана... Богдана князя Окгинского... працею и пильностью стараньем иноков церкви братства Святого Духа в Евю". Манахі брацтва прысьвяцілі гэтую кнігу князю Агінскаму [6]). У наступным годзе быў выдадзены „Анфіологіон албо Цвѣты молитвъ избранныхъ, от многих святыхъ отецъ събранны. Працею и старанем иноковъ общего житія братства церкви Виленской православной и греческой в Евю—рок 1613" [7]). У 1615 годзе былі выдадзены два казаньні Лявонція Карповіча, пад загалоўкам: „Казанье двое одно: на Преображеніе Господа Бога и Спаса нашего Иисуса Христа, Другое на Успеніе Пречистое и Преблагословеное Владычицы Нашое Богородицы Присно Деве Маріи, затем Молитвослов" [8]). Да 1616 году

[1]) Abramowicz. Op. cit., стар. 73. Каратаев. Op. cit., № 456, 527.
[2]) Огiенко. Op. cit., стар. 29.
[3]) Каратаев. Op. cit., № 205.
[4]) Миловидов. Старопечатные славяно-русские издания (Чтения в О-ве Истории и Древностей, 1908. I. стар. 28).
[5]) Каратаев. Op. cit., № 210.
[6]) Ibid., № 213.
[7]) Ibid., № 214.
[8]) Ibid., № 220. Миловидов. Op. cit., № 161.



ЕѴАГЛІЕ

ѸЧИТЕЛНОЕ·

АЛБО

КАЗАНЯ, НАКОЖДУЮ НЕДЕЛЮ

И Свята урочистыи,

ПРЕЗЪ

Стго Оца нашего КАЛИСТА, Архиепкопа Костантинопольского, и Вселенского Патріарху, преднемъ стыи лѣ Покгрецку написаный.

А ТЕПЕРЪ НОВО

З Кгрецкого и Словенского языка на Рускій переложеный.

Працею и стараньем Иноков Общого житія Монастыря Братского Виленского, Сошествія Стго и Животворящого Дха, выдрукованы.

ВЪ ЕВЮ

Року ҂АХЅІ.

Загалоўны аркуш „Навучальнага Эвангельля“. Еўе 1616.

адносіцца выданьне эвангельля навучальнага, „с кгрецкого и словенского языка на рускій переложеный: коштом вельможного пана, его милости князя Богдана Окгинского и малжонки его милости, ее милости, панеи Раины Воловичовны“. На некаторых паасобніках ёсьць прысьвячэньне князём Саламярэцкім і пані Ганьне Хадкевічаўне, княгіні Карэцкай [1]). У 1618 годзе вышаў „Киновіонъ“ альбо „Изображеніе евангелиевскаго иноческого общого житія“ [2]). А потым „Грамматика Славянская“ Мелеція Сматрыцкага [3]). Потым дзейнасьць друкарні прыпыняецца да 1635 году. Перапынак, відавочна, тлумачыцца тым, што з 1619 году манахі атрымалі магчымасьць ізноў друкаваць свае кнігі ў Сьвятадухаўскай друкарні. Друкарня ў Еўі была філяльным аддзяленьнем Віленскае Сьвятадухаўскае друкарні. Так, у 1635 годзе быў надрукаваны „Псалтыр“ і „Новы Закон“ [4]), у 1637 годзе быў выдадзены „Полуустав“ [5]), у 1638 г. „Псалтыр“ з „восслѣдованием“ [6]), „Устав Божественныя Литургія“ [7]), „Трэбнік“ [8]), „Псалтыр“, надрукаваны ў польскай мове готычнымі літарамі, з прысьвячэньнем княжне Софіі Ярослаўне Друцкай-Сакалінскай [9]). У 1641 годзе быў надрукаваны „Новы Закон“ з „Псалтырам“ [10]) і „Уставъ Божественныя литургия“ [11]). У 1642 г. была перадрукавана „Діоптра“ [12]) і „Ирмолой сирѣчъ Осмогласникъ, твореніе преподобного отца нашего Иоана Дамаскина“ [13]). У 1643 годзе было надрукавана „Слово зѣло душеполезно ко умиленію и покаянію приводяще“. Яно было перакладзена з грэцкае на славянскую мову і „паки на простѣйший язык со исправленіем“ [14]). У 1644 годзе было надрукавана эвангельле, „Часаслоў“ [15]) і, нарэшце, у 1645 годзе „Полуустав“ з прысьвячэньнем Багдану Агінскаму ад ігумна Евейскага манастыра Гаўрылы Іванавіча „с братіей“ [16]).

Хаця манахі Сьвятадухаўскага манастыра, перасяліўшыся ў Еўе галоўным чынам друкавалі кнігі ў царкоўна-славянскай мове, аднак, традыцыя, на чале якой быў Скарына, яшчэ існавала. Некаторыя свае выданьні манахі, якія пасяліліся ў Еўі, стараліся перакладаць на прасьцейшую зразумелую народную мову.

## X.

## Друкарня Траецкага Віленскага Брацтва.

Барацьба праваслаўных з вунітамі, якая распачалася на Беларусі і пераблытвалася найцясьнейшым чынам з тагочаснымі грамадзкімі адносінамі, у першую чаргу адбілася на Траецкім брацтве, якое было цытадэляй праваслаўнага мяшчанства.

Для аслабленьня позыцыі праваслаўнага мяшчанства, урад перадаў Траецкі манастыр вунітам. 8-га сакавіка 1609 году адбыўся ўвод

[1]) Каратаев. Op. cit., № 229.
[2]) Ibid., № 241.
[3]) Миловидов. Op. cit., № 164.
[4]) Каратаев. Op. cit., № 424.
[5]) Миловидов. Op. cit., № 167.
[6]) Каратаев. Op. cit., № 476.
[7]) Ibid., № 472.
[8]) Ibid., № 473.
[9]) Ibid., № 471.
[10]) Ibid., № 528.
[11]) Ibid., № 572.
[12]) Ibid., № 544.
[13]) Ibid., № 543.
[14]) Ibid., № 554.
[15]) Ibid., № 565, 589.
[16]) Ibid., № 591.

ува ўладаньне Траецкім манастыром архімандрыта Рутскага. Протэст праваслаўнага мяшчанства ня меў ніякага ўплыву. Манастыр апынуўся пад уладай вунітаў [1]).

Аб дзейнасьці друкарні Траецкага монастыра мы мала ведаем. Так, бібліографамі адзначаны выхад у 1618 годзе з друкарні манастыра „Катэхізіса“ з загалоўкам: „Наука, яко вѣрити маетъ каждый, который тщится переченіемъ православія, зъгодная зъ письмомъ святымъ и со святыми учительми церковными и принятая отъ соборное апостольское Церкви, отъ единого з отцовъ в монастырѣ Виленскомъ святое Живоначальное Троицы пребывающихъ, выдана в Вильне, в друкарнѣ тых же отцов, року тысяча 623“[2]). Аб іншых славянскіх кнігах, якія вышлі з друкарні да паловы XVII сталецьця, вестак няма. Базыліянская друкарня друкавала кнігі ў польскай мове і наагул, як сьведчыць Абрамовіч, яе дзейнасьць у гэтых адносінах была досыць прадукцыйная [3]).

Дзякуючы таму, што базыліянская друкарня друкавала пераважна кнігі ў польскай мове, яе дзейнасьць у гісторыі разьвіцьця беларускае друкарскае справы мае другараднае значэньне. Дзейнасьць друкарні была зброяй полёнізацыі беларускіх народных мас і ніякім чынам ня сродкам асьветы гэтэх мас.

## XI.

## Магілеўская друкарня.

У пачатку XVII сталецьця ў Магілеве пры царкве ў імя Ўваходу ў Ерусалім узьнікла царкоўнае брацтва, якое сваёй дзейнасьцю яскрава выяўляла ортодоксальны напрамак [4]). Для сваіх патрэб братчыкі заснавалі друкарню. Апошняя на працягу XVII сталецьця выпусьціла шэраг выданьняў, якія мелі практычнае значэньне для патрэб царкоўнага набажэнства. Выданьні Магілеўскае друкарні былі ня вельмі высокае якасьці. Так, у 1616 годзе быў выдадзены „Служэбнік“, перавыдадзены ў наступным годзе [5]). У 1619 годзе было надрукавана „Эвангельле навучальнае“ [6]). Пасьля гэтага адносна дзейнасьці друкарні няма ніякіх вестак аж да 1636 году. У 1636 годзе ў Магілеве працавала прыватная друкарня Сьпірыдона Собаля, які ў 1636 годзе надрукаваў „Букварь языка Славеньска. Писании чтенія учитися хотящимъ в полезное руковоженіе“ [7]). У 1637 годзе ў тэй-жа друкарні былі надрукаваны „Псалтыр“ [8]) і ў 1638—„Апостал“, перадрукаваны з кіеўскага выданьня 1630 году [9]). У канцы XVII сталецьця ў Магілеве зьяўляецца друкарня Максіма Вашчанкі, які надрукаваў у 1693 годзе „Псалтыр“ [10]), „Акафісты“ [11]), і „Канонік“ [12]), у 1694 годзе „Перло многоцѣнное“ [13]), у 1695 г. „Молитвословец“ [14]) і „Молитвослов“ [15]), у 1697 годзе „Евангеліе учи-

---

[1]) Акты Виленской Археогр. Комиссии. Т. VIII. Вильна, 1875. Стар. 80—82.
[2]) Каратаев. Op. cit., № 328.
[3]) Abramowicz. Op. cit., стар. 74.
[4]) Археографический Сборник документов. Т. II. Вильно. 1867. № 22.
[5]) Каратаев. Op. cit., № 227.
[6]) Ibid., № 250.
[7]) Ibid., № 437.
[8]) Ibid., № 454.
[9]) Миловидов. Op cit., № 186.
[10]) Ibid., № 190.
[11]) Ibid., № 191.
[12]) Ibid., № 192.
[13]) Ibid., № 193.
[14]) Ibid., № 194.
[15]) Ibid., № 195.

тельное"[1]), у 1698 годзе „Акафисты вcеседмичные"[2]), у 1699 годзе „Діоптра"[3]), „Небо Новое" І. Галятоўскага і „Перло Многоцѣнное"[4]), у 1700 годзе „Ирмолог"[5]).

Друкарня М. Вашчанкі займалася перавыданьнем кніг, якія былі выдадзены раней іншымі друкарнямі. Кнігі мелі на ўвазе выключна інтарэсы праваслаўнае царквы і праваслаўнага набажэнства.

XII.

## Кутэінская друкарня.

Другім месцам на Магілеўшчыне, дзе была заснавана друкарня, было мястэчка Кутэйна, якое знаходзілася недалёка ад Воршы. Тут Багдан Статкевіч і яго жонка заснавалі манастыр, а яго матка Ганна Агінская супольна з сваім мужам падаравалі манастыру слабаду Белкаўшчыну, якою манастыр мог карыстацца, як сваім уласным грунтам. Даравальны запіс дазваляў заснаваць пры манастыры „школу наук писма языкомъ Еллино-Словенского, латѣнского, польского и руского, также і друкарню мети". Пакольки манастыр павінен быў захоўваць праваслаўе, пастолькі, зразумела, і ўся дзейнасьць друкарні павінна была задавальняць патрэбы праваслаўнае царквы[6]). Друкарня пры Кутэінскім манастыры была заснавана ў 1630 годзе. Яна пачала працаваць пад кіраўніцтвам украінца Сьпірыдона Собаля, які перанёс сваю дзейнасьць з Кіева ў Кутэйна[7]). Першаю кнігай, якую надрукаваў С. Собаль, была „Брашно духовное" (Псалтырь с Восслѣдованіемъ), з застаўкамі і шрыфтам, якія нагадваюць кіеўскае выданьне „Апостала" 1630 г. надрукованага тым-жа Собалем[8]). У 1631 годзе быў надрукованы „Малітваслоў"[9]) і „Букварь сирѣчь начало ученія дѣтем начинающим чтенію извыкати, в Кутейнѣ изобразися"[10]). У 1632 годзе быў надрукаваны „Часаслоў" па статуце Ерусалімскае лаўры[11]) і „Новы Закон" з „Псалтырам"[12]). З публікацыяй гэтых кніг спынілася дзейнасьць С. Собаля ў Кутэінскім манастыры, але друкарня не зачынілася. Аднак, аб дзейнасьці друкарні ў пэрыод 1632—1637 гадоў мы нічога ня ведаем, бо не захавалася вестак адносна таго, якія кнігі вышлі з друкарні Кутэінскага манастыра. Толькі ў 1637 годзе з друкарні вышла „Гисторія альбо правдивое вписаніе святыхъ Іоанна Дамаскина, о Житіи святых преподобных отецъ Варлаама і Осафа и о поверженю Індіянъ. Старанем и коштом іноков Общежительного Монастыра Кутеенского Ново з Грецкого и Словенского на руский языкъ преложена"[13]). Да гэтага-ж году адносіцца выданьне „Дидаскаліа альбо наука, котораяся первой изустъ священником подавала о седми сакраментахъ албомъ Таинахъ, на синодѣ помѣстномъ в богоспосаемомъ градѣ Могилевѣ... одправованым от превелебного его-милости Господина Отца, Сильвестра Косова Епископа Мстиславского, Оршанского и Могилевского"[14]). У 1638 годзе

1) Ibid., № 198.
2) Ibid., № 199 а.
3) Ibid., № 199 б.
4) Ibid., № № 200, 201.
5) Ibid., № 202.
6) Виленский Археографический Сборник. Т. II. Вильна. 1867, № 33 стар. 40, 41 і 42.
7) Огіенко. Op. cit., стар. 306.
8) Каратаев. Op. cit., № 353.
9) Ibid., № 379.
10) Каратаев. Op. cit., № 381.
11) Ibid., № 394.
12) Ibid., № 391.
13) Ibid., № 450.
14) Ibid., № 445.

было надрукавана эвангельле [1]). У 1639 годзе друкарня выпусьціла „Брашно духовное, сирѣчь Псалмы молитвы пѣнія благодареніе, и каноны и прочая... От многих святых книгъ собранныа злѣскуждняы и душеполезныя" [2]). У 1642 годзе быў надрукаваны „Псалтырь блаженнаго пророка и царя Давида, с пѣсми и псальмы избранными, на праздники Господскія и святыхъ нарочитыхъ с молитвами и тропари по коейждо каф." [3]). Праз чатыры гады (1646) вышаў „Октоих, сирѣчъ осмогласникъ воскресный" [4]). У 1647 годзе друкарня выпусьціла „Трифологіонъ, или Цвѣтословъ. Избранныя службы, со всенощными: на господскія праздники, богородичны и святыхъ нарочытых" [5]). У 1650 г. быў надрукаваны „Псалтырь блаженнаго пророка царя Давида съ пѣснми и псалмы избранными на праздники Господскіе и святыхъ нарочитыхъ съ молитвами утренними и вечерними и съ Пасхаліею и тропари по коейждо кафисмѣ" [6]). Дзейнасьць друкарні ў 1651 годзе выявілася ў публікацыі „Діоптра или Зерцало і изображение живота во мірѣ семъ человѣческого" [7]). У 1652 годзе быў надрукаваны „Новый завѣтъ съ Псалтырью впереди", у 1653 годзе „Дидаскалія о 7 сакраментахъ" і „Лексикон Словено-Россійскій", складзены Памвай Бэрындай. і, нарэшце, у 1654 годзе была перавыдадзена „Діоптра". Потым аж да 1790 году няма ніякіх вестак аб дзейнасьці друкарні.

XIII.

## Друкарня ў Буйнічах.

Той самы Багдан Статкевіч, які заснаваў Кутэінскі манастыр, заснаваў манастыр і ў мястэчку Буйнічах каля Магілеву. Новазаснаваны Сьвятадухаўскі манастыр робіцца асяродкам, навокал якога ядналоцца супраціўнікі вуніі і каталіцтва. Кіеўскі друкар Сьпірыдон Собаль, які так інтэнсыўна працаваў у Кутэйне, адкуль ён перашоў у Буйнічы, заснаваў у манастыры друкарню [8]). Аднак, уся дзейнасьць Сьпірыдона Собаля выявілася ў выданьні ў 1635 годзе толькі аднаго „Псалтыру" [9]). У 1636 годзе Собаль пакінуў Буйнічы і перасяліўся ў Магілеў, дзе пачаў працаваць у друкарні Брацкага манастыра. Нашыя веды аб друкарні ў Буйнічах вельмі малыя, і болей няма ніякіх даных, якія-б гаварылі аб далейшай працы ў друкарні Сьвятадухаўскага манастыра ў Буйнічах. Пытаньне аб тым, чаму спынілася дзейнасьць друкарні, застаецца адчыненым.

XIV.

## Супрасьлеўская друкарня.

Супрасьлеўскі манастыр у імя Добравешчаньня быў заснаваны ў 1498 годзе Аляксандрам Іванавічам Хадкевічам. Закладчык манастыра і яго дзеці падаравалі манастыру землі, якія забясьпечылі яго матар'яльнае становішча, і азначылі тыя правілы, якімі манастыр павінен быў кіравацца як у сваім унутраным жыцьці, так і ў сваіх адносінах да фундатараў і мітрапалічай улады.

[1]) Миловидов. Op. cit., № 243.
[2]) Каратаев. Op. cit., № 490.
[3]) Каратаев. Op. cit., № 546.
[4]) Миловидов. Op. cit., № 245.
[5]) Каратаев. Op. cit., № 632.
[6]) Ibid., № 666.
[7]) Ibid., № 679.
[8]) Огіенко. Op. cit., стар. 32.
[9]) Каратаев. Op. cit., № 425.



# ДІОПТРА

сирѣчь Зерцало. Албо, Изображеніе Извѣстное Живота члвческаго в мирѣ. Ѿ многихъ Стыхъ Бжтвенныхъ писаній и Ѿческій Догматъ Составленная. З Грецкаго На Словенскій язы, вѣчное памяти, Годнымъ Ѿцемъ Виталіемъ Игумене номъ в Двинѣ преложона, и написана.

## Іакѡ хотящіи наслаждатися Бга. Подобаетъ свѣтꙋ мира презирати.

Марность свѣта

## Глава а.

Никтоже можетъ двѣма господинома работати, глетъ Хс Спсъ нашъ. Сладко єсть Бжтвенное оутѣшеніе, невсѣмъ оубо, но точію презирающимъ свѣтъ мира. Ибо невозможно дабы ктѡ наслаждался Бга, въкꙋ Мѳ: ѕ.



Першая старонка „Діоптры“. Кутэйна 1654.

# Собраніе

## Припадков

Краткое, и Духовным Особом

Потребное.

Имѹщіе в себѣ Наѹкѹ, о Сакраментах, о де-
сяти Божіих Приказанах, о Приказанах Цер-
ковных, и о Наѹцѣ Христіанской, с выкладо
Сѵмвола, или Исповѣданія Вѣры Право-
славныя Кафолическія, с выкладом
Молитвы: Отче наш: и Богородице Дѣво:

Такожде Наѹкѹ, како подобает наставляти
малы, или невѣжов, в Вѣры Православной

Содержащее.

Типом же Общежителнаго Монастыря Сѹпрасльскаго, Чинѹ
Святаго Василія Великаго.

Рокѹ ҂аѱкв. Мсца Генваря дня ві.

Изданное.

Загалоўны аркуш „Собранія припадков“. Супрасьль 1722.


Служебникъ
съ тремѧ
Литургїѧ
Иже во стыхъ Оца нашего,
Іоанна Златоустаго,
Архїепкпа Константина Града.
Съ обычными конецъ Праздникамъ
Господскимъ,
по рѧдꙋ расположеннымъ, по сїмъ
Богородичнымъ,
такожде и Нарочитымъ Стымъ всего Года
и съ Прочїими Различными, содержатсѧ.
Въ удобнѣйшее употребленїе Іереомъ, пра-
нѣ наединѣ всѣхъ пѣнїа Литургисающимъ.
и въ путешествїихъ сущимъ. Тѵпомъ издасѧ
Въ Лаврѣ,
Общежительнаго Монастыра Супрасльскаго.
Въ Лѣто ѿ Воплощенїѧ Бга Слова, ҂аѱни.

Загалоўны аркуш „Служэбніка“. Супрасьль 1758.

Калі ўтварыўся Базыліянскі ордэн, Супрасьлеўскі манастыр быў перададзены вунітам. Вуніцкі мітрапаліт Язэп Вельямін Рутскі, дараваўшы манастыру аўтаномію, даў яму асобныя правілы, якія павінны былі рэгуляваць яго ўнутраныя парадкі, незалежна ад агульнага базыліянскага статуту, абавязковага для ўсіх вуніцкіх манастыроў [1]). Як у XV і XVI сталецьцях Супрасьлеўскі манастыр быў асяродкам праваслаўнае асьветы, так у XVII і XVIII сталецьцях ён меў значэньне, як асяродак асьветы вуніцкае. У канцы XVII сталецьця, пры дапамозе Карла Радзівіла і мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскага была заснавана друкарня, якая з 1689 году пачала друкаваць кнігі, патрэбныя для набаженства. Так, вядома, што ў гэтым годзе з друкарні вышлі „Страсти Христовы", а ў 1695 годзе, „Служэбнік", і „Мінея Агульная" [2]), а ў 1697 годзе „Последование постригу в малый иноческий образ" [3]). Потым аб дзейнасьці друкарні мы нічога ня ведаем аж да 1714 году, калі вышла „Поучение на воскресные и праздничные дни" [4]). Каля гэтага часу самая друкарня была некалькі пераарганізавана. Рымская Конгрэгацыя, згодна хадайніцтву Льва Кішкі, біскупа ўладзімерскага і архімандрыта Супрасьля, зацьвердзіла 13 сакавіка 1713 году каралеўскі прывілей 1710 году, які дазваляў аднавіць у манастыры друкарню і даваў права друкаваць у ёй кнігі „на латинском, польском, руском языках", тады як раней у манастыры была толькі адна славянская друкарня [5]). Гэткім чынам, у Супрасьлеўскім вуніцкім манастыры павінна была захоўвацца традыцыя XVI сталецьця,—друкаваць кнігі для царкоўнага набажэнства ў мове блізкай і зразумелай для народных мас.

---

Гісторыя беларускіх друкарань у XVI-XVII сталецьцях навочна паказвае, як шырака разгарнулася на Беларусі друкарская справа, і якія посьпехі былі дасягнуты ў беларускім друкарстве. Гісторыя беларускага кнігадруку зьяўляецца адбіткам розных культурных і рэлігійных уплываў, у залежнасьці ад якіх зьмянялася мова, на якой друкаваліся тыя ці іншыя кнігі. Аднак, традыцыя, якую пачаў Скарына,—прыблізіць кнігу па мове да простага народу,—гэтая традыцыя ня толькі жыла на працягу ўсяго XVI сталецьця, але яна не памёрла і ў XVII сталецьці, ня гледзячы на паасобныя неспагадныя для гэтага моманты і ўмовы.

---

1) Вестник Западной России. 1867. Книга VII, т. I, отдел I, стар. 14-26.
2) Миловидов. Op. cit., № 257-259.
3) Миловидов. Op. cit., № 260.
4) Миловидов. Op. cit., № 261.
5) Вестник Западной России. 1867. Книга VII, т. I, отдел II, стар. 62.





Язэп Воўк-Левановіч.

# Мова выданьняў Францішка Скарыны.

## I.



эма—ня новая, пакольki яе закранаў яшчэ трыццаць шэсьць год таму назад профэсар П. В. Уладзімераў. Трэба прызнаць, што фактычная частка другога разьдзелу працы профэсара Уладзімерава [1]) не патрабуе ніякіх важных зьмен і дапаўненьняў. Факты запротоколены ім, за выключэньнем некаторых драбніц, поўна і стала, хоць і ня зусім сыстэматычна, што і адзначана ў свой час крытыкай [2]).

Пры ўсёй поўнасьці фактычнае часткі нарысу П. В. Уладзімерава аб мове Скарыны, у ім, аднак, не хапае аднаго: профэсар Уладзімераў абыходзіць вельмі важнае і цікавае пытаньне аб тым, *у якой меры можам мы лічыць мову Скарыны беларускай.*

Калі ня лічыць ляконічных уваг, амаль што неабаснаваных, дык трэба сказаць, што паважаны аўтар сталага досьледу не паклапаціўся ў гэтым пытаньні паставіць, як гаворыцца, кропку над і. А гэта і ў час выхаду працы Уладзімерава, дый у наш час выклікала і выклікае значныя непаразуменьні. Між тым, проф. Уладзімераў прысьвячае гэтаму пытаньню ўсяго толькі дзесяць радкоў: „Скарына называе сваю мову „рускім языком“, адрозьніваючы ў „Псалтыру“ 1517 году „рускіе слова“ ад „языка словенского“. Тую-ж самую назву „рускій язык“ мы заўсёды сустракаем у памятніках Паўднёва-Заходняй Расіі XVI сталецьця. Між тым, пахаджэньне Скарыны з Полацку, сувязі яго з Вільняй і заснаваньне тут першай рускай друкарні надаюць асаблівае значэньне працам Скарыны з боку мовы—значэньне памятнікаў *беларускае* гутаркі пачатку XVI сталецьця.

З гэтага пункту гледжаньня і трэба разглядаць працы Скарыны ў адносінах да рускае мовы“ [3]).

І гэта ўсё.

---

[1]) Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. Исследование П. В. Владимирова, 1888, изд. О-ва Любителей Древней Письменности. Часть II. Язык Скорины (стар. 247—317).

[2]) *А. Будилович.* Записки Имп. Акад. Наук, т. 69, стар. 33.
Таксама: *М. В. Довнар-Запольский.* „Минский Листок“ 1888 г., № 44.

[3]) П. В. Владимиров. Op. cit., стар. 247.

Пры бліжэйшым знаёмстве з самымі друкаванымі выданьнямі Францішка Скарыны, мы, аднак, праконваемся ў тым, што пытаньне аб мове Скарыны не такое простае, як гэта прадстаўлялася профэсару Уладзімераву. Паспрабуем-жа разабрацца ў гэтым пытаньні.

Разглядаючы агульнае пытаньне аб уплыве царкоўна-славянскай мовы на мову старадаўняе Беларусі, проф. Уладзімераў, бязумоўна, мае рацыю, калі ён адзначае прысутнасьць даволі значнае колькасьці царкоўна-славянскага элемэнту ў мове грамат і актаў, легэнд і повесьцяй XV—XVI сталецьцяў—твораў пераважна сьвецкага характару.

Гэта можа быць вытлумачана толькі тым вядомым фактам, што школьная асьвета ў памянёную эпоху насіла чыста царкоўны характар: у школах Беларусі і Украіны вучылі мове не беларускай і не украінскай, але царкоўна-славянскай; навучаньне на Беларусі і Украіне адбывалася па царкоўна-славянскіх псалтыру і часаслову [1]). Да і пры далейшым навучаньні вучням прыходзілася мець справу пераважна з царкоўна-славянскай літаратурай. У выніку гэтага кніжнае царкоўна-славянскае вымаўленьне і словы мяшаліся ў жывой мове людзей кніжных, пісьменных (асабліва начытаных у „слове божым“) з жывою беларускаю альбо украінскаю гутаркай. Дзякуючы гэтаму і жывая гутарка ў штодзённым ужытку людзей пісьменных, адукаваных, бязумоўна, адрозьнівалася ад жывой гутаркі людзей неадукаваных, як гэта заўважаецца і цяпер. Жывая мова адукаванага грамадзянства Украіны і Беларусі, напэўна, была перасыпана царкоўна-славянскімі тэрмінамі, асабліва ў галіне азначэньня паняцьцяў, у народным ужытку невядомых ці мала ўжываных. На такой, адносна жывой, беларускай альбо украінскай мове і пісаліся розныя грамадзкія акты і граматы.

Большасьць дасьледчыкаў гісторыі ўсходня-славянскіх (рускіх) моў лічаць мову гэтых актаў штучнаю. Зразумела, з гэтым у пэўнай ступені нельга не згадзіцца, але толькі ў такой ступені, у якой і ў нашыя дні, бязумоўна, мы павінны лічыць штучнай і сучасную нам канцэлярскую мову.

Зусім не такая мова кніг тае-ж самае эпохі, але царкоўна-рэлігійнага зьместу. Гэтыя кнігі напісаны альбо зусім у чыстай царкоўна-славянскай мове, альбо ў царкоўна-славянскай мове з большай ці меншай дыялектычнай ахварбоўкай—беларускай ці украінскай—у залежнасьці ад месца напісаньня.

Такая самая мова і ў выданьнях Францішка Скарыны; як паказвае аналіз, гэта ў большасьці царкоўна-славянская мова з моцным элемэнтам жывой беларускай мовы і з сьлядамі літаратурнага ўплыву чэскай і польскай моў.

А. Будзіловіч у памянёным ужо намі артыкуле лічыць, што біблійныя, богаслужбовыя і іншыя падобныя кнігі, напісаныя ў царкоўна-славянскай мове беларускай рэдакцыі, „зьяўляюцца нечым зусім адменным ад перакладаў Скарыны, які зьмяняў ня толькі застарэлыя словы, але і формы, нават усю пабудову мовы, так што замест царкоўна-славянскага тэксту заходня-рускай рэдакцыі, мы маем у яго заходня-рускую (гэта значыць—беларускую) гутарку, насычаную большай ці меншай колькасьцю царкоўна-славянізмаў“ [2]).

Аднак, у канцы свайго артыкулу А. Будзіловіч, як нам здаецца, адмаўляецца ад толькі што паказанага намі пагляду, калі, пярэчачы профэсару Уладзімераву (які, па сутнасьці, казаў тое-ж самае, што і Будзіловіч) адносна мовы выданьняў Скарыны, знаходзіць, што

[1]) Глядзі паказаньне на гэта ў прадмове самога Францішка Скарыны да праскага выданьня „Псалтыру“ 1517 году: „детем малым початок всякое доброе науки“...

[2]) Гл. зноску на стар. 262.

„справядлівей домысел Галавацкага, што гэта была мова ні беларуская, ні вялікаруская, ні маларуская, а мова кніжная, на якой ніхто ніколі не гаварыў (Науковый Сборник 1865 г., стар. 251)“.

У гэтым, як здаецца А. Будзіловічу, і хаваецца разгадка слабых посьпехаў Скарыны як выдаўца, іначай кажучы,—як культурнага дзеяча, і „малога ўплыву яго бібліі на далейшае разьвіцьцё заходня-рускае мовы і асьветы, асабліва, калі параўнаць гэты ўплыў з вынікамі перакладаў бібліі Віклефа на ангельскую мову, Кальвіна на францускую, Лютэра на нямецкую і г. д.“

Гэткім чынам Будзіловіч, лічачы мову выданьняў Францішка Скарыны штучнай, няжывой, надае разам з тым гэтай абставіне рашучае адмоўнае значэньне ў справе разьвіцьця беларускае мовы і асьветы...

Здаецца, што цяпер ужо ня прыходзіцца даводзіць таго вядомага факту, што галоўная роля ў адмоўным уплыве на асьвету і мову Беларусі належыць тым гістарычным падзеям, што зьявіліся вынікам унутраных палітычных і нацыянальна-рэлігійных узаемаадносін на сацыяльна-экономічным грунце ў Літоўска-Беларускай дзяржаве; гэтыя падзеі прывялі да таго, што Літоўска-Беларуская дзяржава страціла спачатку сваю сувэрэннасьць, а пасьля і культурна-нацыянальную самастойнасьць, падпарадкаваўшыся і палітычна і культурна Польшчы. Ня будзь гэтых палітычных падзей, не падлягае ніякаму сумненьню, што афіцыяльная і кніжная беларуская мова дачакалася-б сваіх рэформатараў, якія давяршылі-б справу, пачатую Скарынай,—справу зблізкэньня кніжнае мовы з жывою беларускаю моваю. Толькі палітычныя падзеі былі прычынай таго трагічнага здарэньня, што беларуская літаратурная мова, замест таго, каб рэформавацца на здаровых асновах minimum дзьвесьці год таму назад, стала на гэты шлях толькі ў нашыя дні.

Чым-жа, аднак, вытлумачыць тое, што, як мы ўжо заўважылі, пагляды на мову выданьняў Скарыны такіх паважных філёлёгаў як Будзіловіч, Галавацкі і, як далей пабачым, і нашага сучасьніка—акадэміка Сабалеўскага, такія няпэўныя і супярэчныя?

Мы ўжо казалі, што ў аснове кніжнае (не актавае) мовы старадаўніх Беларусі і Украіны была мова царкоўна-славянская.

Аднак, царкоўна-славянская мова так званай „заходня-рускай“ рэдакцыі (іначай кажучы,—беларускай, якая ўжывалася і на Украіне да XVII сталецьця) мела свае даволі значныя і шматлікія дыялектычныя рысы, якія досыць выразна адрозьнівалі яе ад тае мовы царквы, якая ўжывалася на Русі ўсходняй, Маскоўскай. Апошнюю мову шырокія грамадзкія колы звычайна і схіляюцца лічыць за мову, якая ўжывалася ў старадаўняй Беларусі, бо ў наш час яна пашырана і на Беларусі сярод праваслаўнага насельніцтва.

Наколькі значная розьніца ёсьць паміж гэтаю навейшаю царкоўна-славянскаю мовай і царкоўна-славянскаю мовай старадаўняй Беларусі, мы бачым з тых царкоўна-славянскіх граматык, якімі карысталіся, пачынаючы ад канца XVI сталецьця, на Беларусі і Украіне [1]).

Ужо ня кажучы аб прызнаньні, напр., граматыкай Сматрыцкага гукаў *ч* і *ж* у такіх словах, як ви*ж*ю, хо*ч*ю і пад., царкоўна-славянскімі, у гэтых граматыках [2]), як правіла, знаходзім і такія, напрыклад, чыста беларускія і часткова украінскія і наогул усходня-славянскія рысы:

[1]) *П. В. Владимиров*. Op. cit., стар. 247—250; таксама ў проф. *С. Буліча*. „История языкознания в России“.

[2]) а) Граматыка 1586 году, выданая ў Вільні ў друкарні Мамонічаў б) Эллінo-Словенская граматыка 'Αδελφότης, Львоў 1591 году. в) Граматыка словенская Лаўрэнція Зізанія. Вільня 1596 году і ўрэшце г) Граматыка Мелеція Сматрыцкага, у Еўі 1619 году.

а) *Сьляды цьвёрдасьці „р", шыпячых і губных: царъ, цару, трохъ, твору; чловечокъ, кровъ, любовъ, червъ* і пад.

б) выпадзеньне „д" у злучэньнях „жд": *стражущаго, надежи* і пад.

У граматыцы Лаўрэнція Зізанія (а за ім і ў Сматрыцкага) ёсьць нават як-бы паказаньне на беларускі гук „дз" у тым месцы, дзе гаворыцца аб складаных зычных, якія пішуцца „сугубыми письменами", да ліку якіх адносяцца побач з ѯ (кси), *щ* (шч) і ѱ (псі), таксама З, Ѕ=„сд", дзе *сд* зьяўляецца проста няўмелым напісаньнем гуку „дз".

Сустракаецца мешаніна прыйменьнікаў *съ, со* і *зъ*.

в) 1. Першая асоба множнага ліку на *мо*: *творимо, спасаемо* і г. д.

2. Давальны склон адзіночнага ліку іменьняў назоўных на—*ю* замест—*и*: *путю, времено* і пад.

3. Формы займеньнікаў: *тобе, собе, тои, тыи, тых, тыма, тыми*, замест царкоўна-славянскіх *тъ, ти, тѣхъ, тѣмъ, тѣми*.

4. Беларусізмы і (часткова) полёнізмы ў слоўніку: *дѣвчиночка, оброчок, хлопяточко; тогды, зараз, ажно, знагла, цили, бардзо, тажъ, таже* [1]).

Адсюль мы бачым, што нават патэнтаваныя грамацеі XVI—XVII сталецьцяў, як Лаўрэнці Зізані, Мялеці Сматрыцкі і іншыя, відаць, мелі даволі няяснае прадстаўленьне аб граматыцы царкоўна-славянскае мовы. Што-ж казаць тады аб тых звычайных сьмяротных, нават добра пісьменных беларусах, якія аб граматычнай сыстэме царкоўна-славянскае мовы мелі яшчэ меншае паняцьце. Як відаць, іхняя царкоўна-славянская мова на пісьме была такою толькі ў самых асноўных, грубых рысах, асабліва, калі яшчэ не існавала граматычных падручнікаў.

Нам здаецца вельмі праўдападобным, і мы, нават, можам быць пракананы, што ў старадаўняй Беларусі, той самы Францішак Скарына, лічыў за правільнае называць мову сваіх выданьняў „словенской", паколькі агульны фонэтычны твар яго „выкладаў" запраўды быў стара-славянскі: усюды ў яго, напрыклад, трапляюцца царкоўна-славянскія сьцягнутыя формы замест беларускіх поўнагалосных.

Гэта вельмі важны факт, які паказвае, што гэтую яскравую фонэтычную розьніцу паміж царкоўна-славянскай і беларускай мовамі Скарына вельмі добра ведаў і памятаў, і, жадаючы захаваць у мове сваіх выданьняў асноўны царкоўна-славянскі стыль фонэтыкі, старанна ўхіляўся на ўсім працягу сваіх выкладаў беларускіх поўнагалосных формаў. Ён здолеў зрабіць гэта ў такой ступені, што поўнагалосныя формы трапляюцца ў яго толькі як друкарскія памылкі. Безьліч стараславянскіх слоў і выразаў, а таксама сынтаксычных зваротаў (напр., dativus absolutus, accusativus cum infinitivo), — асабліва-ж ужываньне заўсёды аорысту,—формы, якая зьнікла ў жывой мове, напэўна, ужо да XIII ст., прытым, як убачым далей, ужываньне дзіўна няправільнае,— усё гэта як найлепш сьведчыць аб стараньні Скарыны захаваць першапачатковую аснову мовы—царкоўна-славянскую.

## II.

Як на прычыну, што выклікала зьяўленьне на Беларусі і Украіне царкоўных кніг у „модэрнізаванай", „славенскай" мове, гэта значыць у мове, перасыпанай беларускімі словамі (а іншы раз і цэлымі выра-

[1]) Увага проф. Будзіловіча адносна аналёгічных меркаваньняў проф. Уладзімерава аб тым, што Скарына ў *пачатку XVI* сталецьця ня мог карыстацца тымі граматыкамі, якія былі складзены ў *канцы XVI* ст. і пачатку *XVII*, справядліва. Аднак, гэта не пазбаўляе нас магчымасьці разглядаць факты, адбітыя ў гэтых пазьнейшых граматыках, як значна раней выпрацаваныя ў літаратурным ужываньні, якія ў часы Скарыны, напэўна, існавалі ў кніжнай мове наогул.

замі), акадэмік Сабалеўскі ў сваёй рэцэнзіі на кнігу проф. Уладзімерава [1]) паказваў на тое, што для беларусаў эвангельлі (напрыклад, 1411 і 1604 г.) і іншыя богаслужбовыя кнігі былі незразумелымі таму, што яны аж да XVII сталецьця перапісваліся з сярэдня-балгарскіх арыгіналаў [2]).

Гэта выклікала ў перапішчыкаў (яшчэ да Скарыны) імкненьне надаваць тэксту царкоўных кніг беларускую рэдакцыю.

Прыкладам гэткай царкоўна-славянскай мовы беларускай рэдакцыі зьяўляецца мова рукапіснай Чацьці 1489 году (Профэсарам Уладзімеравым памылкова аднесенай да 1397 году [3]).

Аднак, слабое знаёмства Беларусі з царкоўна-славянскаю мовай, зусім натуральнае пры большым пашырэньні на яе абшарах лацінска-грэцкай і чэска-польскай кніжнасьці (апошняй у XV—XVI сталецьцях найменш), не перашкаджала праваслаўным беларусам з пашанай адносіцца і да царкоўна-славянскае мовы.

Як на прыклад такіх адносін да царкоўна-славянскай мовы, можна паказаць нават не на праваслаўны, але на лютэранскі катэхізіс, выданы ў Несьвіжы ў 1562 г., дзе ў прадмове выдаўцы прапануюць сваім патронам займацца і ўжываць ня толькі чужаземныя мовы, але не забывацца і „того здавна славного языка словенского“. Мову свайго катэхізісу, якая па сутнасьці зьяўляецца беларускай з прымешкай царкоўнаславянізмаў, яны ўсё-ж такі завуць „словенской“.

А. І. Сабалеўскі, выказваючыся аб кнізе Уладзімерава [4]) знаходзіць, што галоўным мотывам для выданьня Скарынаю біблійных кніг— „Псалтыру“ і „Апостала“—былі ў адных выпадках—поўная адсутнасьць, а ў другіх—малалічнасьць іх на Беларусі. Пры гэткай беднасьці на кнігі сьв. пісьма, Скарына, згодна пагляду А. І. Сабалеўскага, ня мог думаць аб популярызацыі іх шляхам перакладу на жывую беларускую мову. Ён усяго толькі мог „імкнуцца да таго, каб зрабіць даступным, або вядомым біблійны тэкст“. Значыцца, А. І. Сабалеўскі даўно ўжо выказаў якраз тыя пагляды, да якіх прышлі і мы, азнаёміўшыся з самымі выданьнямі Ф. Скарыны, якія захоўваюцца ў Расійскай Публічнай Бібліотэцы ў Ленінградзе. Мы прымушаны праканацца ў тым, што выданьні Скарыны напісаны ня толькі ня жывой беларускай мовай, але нават ня мовай грамат і актаў, як гэта лічыў А. Будзіловіч [5]), што па сутнасьці ў аснову большасьці яго выданьняў пакладзена царкоўнаславянская мова, перасыпаная, дзе ў большай, а дзе ў меншай меры, беларусізмамі.

Калі ўсё-ж мова Скарыны ў некаторых кнігах, асабліва ў яго прадмовах, дзе ён быў больш-менш самастойным, мае беларускіх элемэнтаў больш, ніж гэта можна назіраць у іншых падобных выданьнях, дык гэта тлумачыцца проста тым, што аўтары іншых, сучасных яму

---

1) *А. И. Соболевский.* „Доктор Фр. Скорина, его переводы, печатные издания и язык. Исследование П. В. Владимирова СПБ. 1888“—Рэцэнзія, зьмешчаная ў 10-м №-ры „Журн. Мин. Нар. Просвещения“ за 1888 год, стар. 325.

2) Пар. вядомы гістарычны факт, калі князь Астроскі, атрымаўшы ад Курбскага славянскі пераклад „Слоў“ Івана Золатавуснага, палічыў за лепшае для разуменьня зноў перакласьці іх на польскую мову; таксама ўспомнім абвінавачваньні белар. духавенства ў няведаньні ім мовы царкоўных кніг—з боку вядомага езуіта Скаргі. Аб гэтым гл. ў Сабалеўскага ў цыт. творы і ў Е. Карскага „Белорусы“. Т. III, 2, стар. 5.

3) Гл. досьлед аб гэтым помніку *М. Карпінскага* ў „Русском Филологическом Вестнике“, том XXI, стар. 59. Таксама, у Уладзімерава („Доктор Франциск Скорина“,—24—27) аб „Десятоглаве Матфея десятого“.

4) *А. И. Соболевский.* Рэцэнзія ў „Ж. М. Н. Пр.“ за кастр. 1888, стар. 325 і наст.

5) Гл. *А. Будиловичъ*—Артыкул аб прысуджэньні Увараўскай прэміі ў томе 69 „Известий Имп. Акад. Наук“, стар. 32.

і папярэдніх выданьняў царкоўна-славянскіх кніг, былі больш начытанымі ў царкоўна-славянскай літаратуры і ведалі гэтую літаратуру практычна лепш, чаго ня можна было чакаць ад Скарыны, які атрымаў асьвету і доўга жыў у Заходняй Эўропе; нарэшце іншыя аўтары маглі мець лепшыя ў сэнсе чыстасьці царкоўна-славянскае мовы арыгіналы, якімі яны карысталіся. Скарына-ж хоць для свайго часу і свайго кола ведаў гэтую мову параўнальна здавальняюча, аднак ня мог раўняцца ў гэтых адносінах з перапішчыкамі Маскоўскай Русі, якія царкоўна-славянскую мову вывучылі амаль што ідэальна, бо гэта была адзіная царкоўна-кніжная мова Ўсходняй Русі. У выніку слабой веды царкоўна-славянскае мовы, ня маючы падручнікаў па ёй, часьцей маючы справу з лацінскай мовай, у Кракаве і ў Празе чуючы выключна польскую і чэскую мовы, Скарына і даў нам узор свайго роду „макаронічнай“ царкоўна-славянскай мовы, падпраўленай беларусізмамі, з мэтай зрабіць гэтую мову больш зразумелай для беларусаў.

Маючы на ўвазе даць праваслаўнай беларускай царкве і народу мала вядомыя ім кнігі сьв. пісьма ў богаслужбовай мове, ён блізка цалкам пакінуў нязьмененымі тэксты „Апостала“ 1525 г. і „Псалтыру“ 1517 г., бо меў іх пад рукою ў царкоўна-славянскай мове, а адрыўкі старазаконных кніг з царкоўна-славянскага парэмейніка толькі паправіў згодна з чэскім тэкстам „Бібліі“ 1506 г., гэта значыць, пераклаў з чэскай мовы толькі тое, чаго ня меў пад рукамі ў стара-славянскай мове. Справядлівасьць нашага пераконаньня ў тым, што ў грунце сваім мова выданьняў Скарыны ёсьць—царкоўна-славянская, будзе яснай, калі мы на вытрымку прывядзем некалькі прыкладаў для ілюстрацыі.

Возьмем напрыклад XXII песьню Давыда з другой кнігі „царстваў“. Прывядзем яе пачатак.

*XXII песьня Давыда* (*Ц.* 2-я кн.): „Возлюблю тя г(с)ди крепость моя, г(с)дь оутвержение мое иприбѣжище мое иизбавитель мои. Богъ мои сильныи помощникъ мои, иуповаю нань. Защититель мои имоць спасения моего“... і г. д.; тут, за выключэньнем „оутверженіе“ і „моць“, няма аніводнай беларускай рысы.

*І-ая глава кн. Іова*: „Временижe многу минувшу. Рече къ Іову жена его доколе терпиши г(л)я: Се пожду еще время мало чая надежди спасенія моего. Себо погыбе паметь твоя о(т)земли, сынове твои и дщеры, моего чрѣва болѣзни и труди. Иже всуе трудихся со усилием изомроша. Ты же самъ вьгнои ивъчерви седиши обнощая вънѣ града. Иазъ якораба збирающи ясти о(т)места наместо прѣходящи, и о(т)храмины во храмину, ждущи слнце когда заидеть, да почню о(т)трудовъ своих и о(т)объдержащихъ мя болѣзней иже мя ныне содѣржать. Но рци некое слово злое к' богу и умри“,

*Притчи Соломоновы*, *IX, 1, 2, 3.* „Прѣмудрость созда себѣ храм и утверди столпов седмъ. Закла своя жертвѣная, изчерпа вчаши вино иоуготова трапѣзу свою. Посла рабыне своя“...

Тут ня месца было-бы прыводзіць многа прыкладаў. Даволі будзе сказаць, што ў такім-жа родзе і большасьць іншых „выкладов“ Скарыны.

Адносна выразу Скарыны ў прадмове да „Малой Падарожнай Кніжыцы“ (Вільня 1525 г.)—„повелел есми псалтырю тиснути рускими словами а словенским языком“ А. І. Сабелеўскі ня лічыць, што слова „рускіе“, г. зн. беларускія, праціваставіцца слову „славянскія“.

Нам здаецца, што з апошнім нельга згадзіцца цалкам. Праўда, бясспрэчным зьяўляецца тое, што беларусы тэй пары часта атаесамлівалі славянскую і „рускую“ мовы; аднак, нельга згадзіцца з тым, што Скарына не адрозьніваў „рускіх“, г. зн. беларускіх, слоў ад славянскіх.

Што ён адрозьніваў гэтыя словы відаць з прадмовы Скарыны да „Псалтыру“ 1517 году, дзе ён кажа: „Положил есми на боцех, некаторыи слова для людей простых руским языкомъ что которое слово знаменуеть“. Ня можа быць ніякага сумненьня ў тым, што тут ён разумее якраз беларускія тлумачэньні незразумелых слоў. Што-ж датычыць агульнага перакананьня А. І. Сабалеўскага ў тым, што Скарына зусім ня меў намеру даць пераклад сьв. пісьма на беларускую мову ў поўным значэньні гэтага слова, дык нам яно здаецца справядлівым толькі тады, калі мы скарынаўскія словы „выклады“, „выложил“ у іх значэньні будзем раўняць да сучасных слоў „пераклад“, „перакладаць“. Тут мы павінны будзем згадзіцца з акад. А. І. Сабалеўскім у тым, што Скарына, можа, і ня меў намеру даць беларускі пераклад у запраўдным, *нашым сучасным* значэньні гэтага слова. Нам здаецца, што ён хутчэй, па сутнасьці справы, меў мэтай не пераклад цалкам, а толькі пераклад няясных і незразумелых слоў і выразаў царкоўна-славянскіх і грэцкіх. У гэтым сэнсе, пэўна, і трэба разумець яго словы „выклад“, „выложеный“. Тут, здаецца нам, проф. Уладзімераў памыляецца, калі на 98-99 стар. свае працы кажа: „У праским „Псалтыру“, як мы бачылі, царкоўна-славянскі тэкст зьяўляецца грунтам выданьня і загэтым Скарына і не назваў яго перакладам на рускую мову“. Нам думаецца, што калі Скарына і не назваў праскага „Псалтыру“ „выкладам“, дык гэта простая выпадковасьць. Назваў-жа ён „выкладам“ віленскае выданьне „Апостала“ 1525 году ў пасьляслоўях да „деяний и посланий Ап. Павла“. Паміж тым, і праскі „Псалтыр“ і віленскі „Апостал“ ёсьць зусім аднародныя рэдакцыі адпаведных славянскіх тэкстаў. Як тут, гэтак і там, грэцкія словы старэйшых рускіх сьпісаў заменены беларускімі [1]); тут і там заменены імі і шмат якія царкоўна-славянскія словы, тое і другое выданьні перапоўнены чэхізмамі—вынік уплыву тэксту чэскай „Бібліі“ 1506 г. [2]). Як бачым, падставы каб называць „выкладам“ і тое і другое выданьні—аднолькавыя,—лепшы довад таго, што Скарына слова „выклад“ разумеў пасвойму,—так, як мы ўжо казалі вышэй, г. зн. як інтэрпрэтацыю найбольш незразумелых для беларусаў слоў і выразаў, пакідаючы агульную конструкцыю тэксту царкоўна-славянскую. Толькі пры такім тлумачэньні выразаў „выклад“, „выложил“ нам будуць зразумелы словы Скарыны: „Повелел есми Псалтырю тиснути рускими словами а словенским языком“. Сэнс гэтых слоў мы можам, у вагульным, пашырыць і на ўсе выданьні Скарыны.

Гэтак мы можам быць перакананымі, што Скарына, выдаючы свае кнігі „людям посполитым к доброму научению“, клапаціўся толькі аб тым, каб, не зьмяняючы царкоўна-славянскай асновы тае мовы, якая была пашырана ў рэлігійным ужытку праваслаўных беларусаў, даць рэдакцыю богаслужбовых і біблійных кніг, зразумелую для сваіх чытачоў. З апошняю мэтай ён, праўда, у паасобных выпадках рабіў значныя перабудовы на беларускі лад найменш зразумелых у царкоўна-славянскай рэдакцыі выразаў. Карыстаючыся чэскім перакладам „Бібліі“ 1506 г. і, быць можа, лацінскай Вульгатай, ён блізка што не пакінуў неперакладзеным аніводнага грэцкага альбо лацінскага слова. Як мы ўжо паміналі, найбольшую беларускую ахварбоўку мова Скарыны мае ў яго прадмовах да біблійных кніг, г. зн. у тых месцах, якія ня былі цесна зьвязаны з царкоўна-славянскімі тэкстамі, у якіх Скарына быў больш-менш арыгінальным, хоць і карыстаўся комэнтарыямі Гароніма

---

[1]) У вадносінах да псалтыру Уладзімераў прызнае ўплыў у гэтым напрамку тых старарускай рэдакцыі сьпісаў псалтыру, якімі, на яго думцы, карыстаўся Скарына.

[2]) Гл. П. В. Владимиров. „Докт. Фр. Скорина“... стар. 86 і наст., 184 і 185.

і Міколы Лірана [1]). Прывядзем некаторыя прыклады гэтых найбольш беларускіх з боку мовы месцаў. Вось месца з прадмовы ў кнізе „Еклесиастес“, дзе гаворыцца аб розных „каханьнях“ людзкіх: „Едины (знаходзяць каханьне) въ царствах ивпанованиии, Друзии вбогатестве ивъскарбох, Инии вмудрости ивнаоуце, аинии въздравии вкрасоте ивъкрѣпости телеснои, нецииже во множестве имѣния истатку, Анеции вроскошном ядении ипитии ивлюбодеянии, Инии теже въдетех въприятелехъ вослугах ивоиных различных многыхъ речах. А тако единый каждый человек имат некоторую речь пред собою внеижеся наболей кохает ионеи мыслит“.

Адварот аркушу 92 (чв) пяцікніжжа Майсеева: „Имѣаше же Іосифъ в товаристве возы и конники и былъ есть и(х) полк великъ. И приидоша намѣсто Ахад ѥже лѥжить за Іорданомъ. Сеє узрєвши живущиє на зємли ханаани глаголаша, сєй естъ плачь вєликий Египтяномъ“.

З „предсловия“ Скарыны да кнігі „Второзакония“: „...Апостолу Павлу пишущу Егда бо языцы ониже закона неймають єстєством законная чинят. Сии закона нєймущє, сами собє суть законъ, ижє являють дєло закона написано въ сєрцєх своихъ. О(т) зачала убо вєковъ єгда сотворилъ богъ пєрвого чєловека написал єстъ законъ сєй всєрци єго... Аркуш 3 (г): „Потрэба єстъ вєдати ижє яко мужа и жєны почтивоє случєние, дєтєй пильноє выхованиє, близкоживущих схожєниє, речи позычєноє навращениє; насилию силою о(т) прєниє. Ровная свобода всєм общєє имєниє всєх. Народу вєровавшєму бє сєрцє єдино, и душа єдина и имєниє єдино, никто же что отъ имєния своєго глашє своє быти но бяху имъ вся обща“.

З прыведзеных адрыўкаў, узятых намі на вытрымку, лепш за ўсё можна бачыць агульны царкоўна-славянскі характар скарынавых тэкстаў.

Тут цікава адзначыць, што і проф. Уладзімераў, ня гледзячы на тое, што мае тэндэнцыю лічыць Ф. Скарыну перакладчыкам ледзь ня ў нашым сучасным значэньні гэтага слова [2]), на стар. 171-172 сваё монографіі, пасьля тэкстуальнага параўнаньня месцаў з кніг Скарыны, чэскай „Бібліі“ 1506 г., царкоўна-славянскіх крыніц і Вульгаты, прыходзіць да заключэньня, што Скарына ня даў сыстэматычнага перакладу [3]).

Вывады проф. Уладзімерава вельмі паказальныя, бо сьведчаць аб тым, што нават і тэндэнцыйныя яго пагляды пры звароце да фактаў—да тэкстаў Скарыны—павінны былі пахіснуцца.

---

[1]) Гл. у Уладзімерава, стар. 100 і наст.

[2]) Гл. яго меркаваньні на стар. 29-30 яго працы.

[3]) П. В. Владимиров. „Доктор Франциск Скорина“... стар. 171: „1. Пераклад біблійных кніг зроблены Скарынай на падставе дзьвёх галоўных крыніц: чэскай „Бібліі“ 1506 г. і царкоўна-славянскіх тэкстаў некаторых кніг старога закону. Апроч таго, дапамогаю для Скарыны маглі служыць тлумачэньні Міколы Лірана. 2. ...Пераклад Скарыны з чэскага тэксту нагадвае падобныя-ж заходня-расійскія пераклады повесьцяй і легэнд з чэскіх і польскіх тэкстаў, з утрыманьнем з апошніх мноства блізкіх слоў і выразаў, якія палягчалі працу перакладчыка. 3. *Царкоўна-славянскія тэксты* некаторых кніг старога закону і парэміі (напр. у выданьнях Фіоля) *служылі для Скарыны як слоўнікі*, для падбору слоў... *Але часам Скарына выпісваў цэлыя главы і сьціхі з царкоўна-славянскіх тэкстаў*, зьменьваючы іх настолькі-ж, наколькі зьменьваў цэлыя царкоўна-славянскія кнігі, як Псалтыр і як... Апостал. (г. зн. вельмі мала. В. Л.). стар. 172: Пры такіх адносінах да дзьвёх галоўных крыніц (чэскай і царкоўна-славянскай) *пераклад Скарыны мае брак сыстэмы, адсутнасьць крытыкі*... 6. Скарына меў *дзьве мэты*: даць сваім чытачом *поўную* („абы не уменшено было в рускомъ языку“) *і зразумелую* біблію... Адгэтуль свабода ў перакладзе Скарыны і ўзаемнае папаўненьне тэкстаў чэскага і царкоўна-славянскага“...

Усё гэта даводзіць тое, што мы менш памылімся, калі мову Скарыны будзем лічыць у васнове — царкоўна-славянскай, беларускай рэдакцыі, толькі з вялікшай колькасьцю беларускага элемэнту, чым у славянскіх тэкстах папярэдніх рукапісаў і выданьняў. Такая мова, захоўваючы традыцыйнае царкоўнае абліччa, разам з тым даволі пасьпешна адпавядала і мэце выдаўцы—даць беларускаму народу зразумелыя для яго кнігі сьв. пісьма.

III.

Ня гледзячы, аднак, на тое, што мову выданьняў Скарыны мы павінны прызнаць у васнове сваёй царкоўна-славянскай, беларускі элемэнт у ёй настолькі значны і яскравы, што выданьні Скарыны ёсьць гістарычны помнік, вывучыўшы які, можна мець даволі поўнае уяўленьне і аб беларускай жывой мове таго часу, г. зн. першай чвэрці XVI сталецьця. Справядлівей: па выданьнях Скарыны можна ўявіць сабе, у якой ступені беларуская мова эпохі Скарыны набліжалася ў сваіх гуках і формах да таго стану, у якім мы ведаем яе ў нашыя дні.

Для гэтага коратка разгледзім тыя беларускія фонэтычныя і морфолёгічныя рысы, якіх багата раскідана ў тэкстах Скарынавых выданьняў.

Перш як прыступіць да разгляду фонэтыкі скарынавай мовы, скажам некалькі слоў, аб правапісе яго выданьняў. У той час як у органічнай сваёй аснове мова Скарыны недалёка адыходзіць ад царкоўна-славянскіх крыніц, у правапісе яна зьяўляецца ў значнай меры самастойнай, самастойнай настолькі, што аб захаваньні царкоўнаславянскай правапіснай традыцыі і казаць ня прыходзіцца. Справядлівей—Скарына і тут ня прытрымліваецца ніякай пэўнай сыстэмы графікі. Яго графіка па сутнасьці, зьяўляецца такой-жа комбінацыяй з царкоўна-славянскіх, беларускіх і часткова чэскіх традыцый, як і яго „выклады“, з тэй толькі розьніцай, што царкоўна-славянскі элемэнт тут далёка ня грае першае ролі.

Гэтак—Ѫ—юса вялікага і Ѥ—е ётаванага—зусім няма ў Скарынавым альфабэце.

Гук *у* рысуецца пераважна праз адзін толькі „іпсілён“—Ѵ, альбо Ȣ;оу=о+іпсілён—вельмі рэдка. Вельмі часта апускаецца *ъ* і *ь* як у сярэдзіне, так і на канцы слова. Але ня рэдкі і штучныя напісаньні ў сярэдзіне слова паміж зычных, звычайныя ў беларускім старажытным пісьменстве: *Асъверъ*, *Аптекарскимъ*. У замену прапушчаных *ъ* і *ь*, як у сярэдзіне, так і на канцы слоў, часта ставіцца „паерок“ (҃), напр.: *солн҃у, кол҃ца, светил҃ник, нанем҃же*, *вчинил*. Але з тае прычыны, што са стратай гукавога значэньня *ъ* і *ь*, пастаноўка іх, альбо знакаў, што іх падмянялі, далёка не заўсёды правільная (за выключэньнем канца слоў, дзе *ъ* і *ь* азначала ўжо толькі цьвёрдасьць, альбо мяккасьць папярэдняга зычнага), *ъ* і *ь* часта адсутны там, дзе па гістарычнай традыцыі яны павінны-б быць *(всехъ, вделалъ),* альбо прысутны там, дзе іх ніколі ня было („с́траны)“. Ужываюцца таксама над радкамі знакі ў выглядзе націскаў і косак. Коскі, можна думаць, ставіліся для азначэньня прыдыханьня, (як тонкае прыдыханьне ў ст.-грэцкай мове) над галоснымі—у пачатку і ў сярэдзіне слова—у пэўных выпадках. Адносна націскаў трудна сказаць—ці адпавядалі яны тагочаснаму жывому націску: хутчэй за ўсё—не. Злучнікі і прыназоўнікі пішуцца ў выданьнях Скарыны зьлітна з наступным словам.

Літара *ѣ* ўжываецца рэдка і ў большасьці няправільна, што сьведчыць аб тым, што ў вымаўленьні паміж *е* і *ѣ* розьніцы ня было.

Напр: *поль*, (він. адз.), *вьликий, сыновь; розделися, челсвека, смеалася* і мн. інш. Часьцей за ўсё ўжываецца Є, радзей Е; на канцы слова пасьля галоснага ужываецца і Є—шырокае круглае (так званае „хвастатэе“ у іншых помніках).

І („десятеричное“) ужываецца рэдка, напр.: *азъ єдінъ, іищутъ*—„Апостал“, 1525 г., часьцей-жа И („восмеричное“). Паміж іншым слова *Ісусъ* у большасьці пішацца з *І* бяз другога *И*. Ужываецца ў Скарыны *й*, якога ў старэйшых пісоўных творах мы зусім ня сустракаем. Ставіцца яно, як і цяпер, у сярэдзіне слова, пасьля галоснага, таксама і ў пачатку, калі папярэдняе слова канчаецца на галосны: *налево йду, пойду, поймаша, айные вси речи*—(Быт., 26 і ў іншых мясцох), хоць гэта, як правіла, ня ўсюды вытрымана.

Сустракаецца **а** зам. Ѧ, *іа*—юса малога і а ётаванага—пасьля галоснага: *Самаритеа, розсеаль*—5 кн. Майс. 1519 г., Быт. 30; *братиа*—ib., 25б, *стоаль*—ib., 31 б, *смеался, смеалася*—ib. 32 [1]). Ужываецца і звычайнае стара-беларускае кг для азначэньня выбуховага гуку г (=G лац.): *кгора*—Быт. 24б, *Жыкгымонта*—пасьляслоўе „Апостала“, 1525 г., *Фикги*—Царств, 95б і г. пад.

Мяккасьць зычных у сярэдзіне слова ў большасьці не азначаецца: *возму, пришелце*—Быт., 28б, *тмы, тмою*—ib. і пад.

## Рысы фонэтычныя.

Пераходзячы далей да тых беларускіх рыс фонэтыкі Скарынавай мовы, якія сустракаюцца ў яго выданьнях, пачнем з тыповай рысы беларускага вокалізму—*аканьня*, г. зн., замены ў пэўных фонэтычных умовах ненаціскных о, е(э) на а, я (ʼа). Гэтая рыса беларускай фонэтыкі ў іншых беларускіх пісоўных помніках часу Скарыны ўжо, хоць і ў выглядзе апісак, але яскрава выяўленая, у выданьнях Скарыны старанна адсуваецца.

Проф. Уладзімераў аб гэтай зьяве кажа: „...у Скарыны мы ня бачым прыкладу такога пераходу, калі ня лічыць, што да гэтага маюць дачыненьне прыклады: *золатарев, выстерагатися*, ды яшчэ слова—*манисто*. Ср. 13, 13б (=*монисто*) [2]). Больш аб аканьні ў проф. Уладзімерава мы не знаходзім нічога.

Акад. Карскі [3]) ў словах, падобных да прыведзеных—„*золатарев, выстерагатися*“, *моланья*—(Чацьця 1489 г.),—бачыць асаблівы звычай беларускіх пісароў перадаваць поўнагалосныя формы праз *ора—ола—ера*, як у слове „*верабей*“. З гэтым меркаваньнем ня можна не згадзіцца, аднак, здаецца, можна разам з тым бачыць тут і факт няпоўнага аканьня, што назіраецца ў передачы Скарынаю поўнагалосных формаў. Да гэткіх-жа прыкладаў належыць і *Саломоновых*—кн. Быт., 3б,—што сустракаецца ў Скарыны часта.

Сустракаем мы ў Скарыны і такія прыклады: 1) *ражаеть*—Пасл. Як., 3; *ўкаряемъ, укарялъ*—Пасл. Пятр., 14; *возмагайтеся*—Ефэс., 109б 2) *благославен, благославлю, благословящих тебе*—Быт. 24. Па думцы акад. Карскага [4]) першыя з гэтых прыкладаў зьяўляюцца спрэчнымі (за выключэньнем хіба *ражать*), другія як „*благославен*“, на наш пагляд, можна тлумачыць асабістай этымолёгіяй: ад „благо“ і „славіть“; хоць напісаньне побач „*благославлю*“ з *а* і „*благословящих*“ з *о*, можа

---

[1]) Магчыма, што гэтая рыса ня ёсьць чыста графічная, але адбівае тагочаснае жывое вымаўленьне; параўнай у сучасных беларускіх гаворках: *стааў, сьмяаўся* і пад.

[2]) П. В. Владимиров. „Доктор Фр. Скорина“ стар. 259.

[3]) Е. Ф. Карский. К истории звуков и форм белорусской речи. Варшава 1893, ст. 181.

[4]) Ibidem.

паказваць і на адсутнасьць падобнай этымолёгізацыі [1]). З бясспрэчных прыкладаў аканьня нам давялося знайсьці ў Скарыны толькі — *„даконаеть“*—„Мал. Падар. Кніж.,“ 6; яшчэ можна дадаць *иржавяет*—(Ср. 21 б.—Уладз.). Такія напісаньні як *жолтейшие*—Лев. 25б, *жолудком*—Цар. 181, *чужоземца*—Ср. 20б, *чужостранное*—Пр. 7б, *смужомъ*—ib, 35, *вашо*—Апост. 8, *вашой*—Л. 47 б, якія мы сустракаем у Скарыны, ак. Сабалеўскі і ак. Карскі [2]) лічаць напісаньнямі, што адбіваюць пераходнае вымаўленьне ад ненаціскнога *е* да аканьня (яканьня)—у гэтым выпадку пасьля шыпячых. Аднак тут магчыма, на наш пагляд, тлумачыць такія напісаньні як наўмыснае, штучнае оканьне на месцы аканьня, якое ў гэтых выпадках было ў вымаўленьні. Іншымі словамі: у эпоху Скарыны і нават значна раней,—мабыць ужо ў XIII ст.,— тут было аканьне [3]). Але з прычыны імкненьня пісцоў пераймаць окаючую старабалгарскую (царкоўна-славянскую) графіку, тут жывое *а* заменена на о [4]) як і ў іншых выпадках штучнага оканьня.

Тое, што ў пасланьні ап. Паўла, 148—сустракаецца *жалудка*— П. Уладзімераў лічыць узятым з чэскага žaloudek, што магчыма; але магчыма і простае аканьне. Польскаму ўплыву прыпісвае проф. Уладзімераў напісаньні—*пясковатую гору* (piasek) *пременяю* (przemiana) *ламалі, зламал, слышан, спомагати*. Такім чынам, тэкст Скарынавых кніг робіць уражаньне таго, што выдаўца альбо корэктар стараліся, каб не адбілася жывога аканьня, якое бясспрэчна ў той час ужо існавала ў вымаўленьні беларусаў.

Як у большай частцы беларускіх помнікаў і ў Скарыны прыстаўка *роз* ужываецца часьцей, чым *раз*. Быт. *розознати*, 3; *розводнилися* 18, *розмоглися* 18, *порозделении* 21 і інш.; *росплотал* і *расплотал*—28б.

Знаходзім мы ў Скарыны і адбітак зьявы процілежнай аканьню, але зьвязанай з ім аднэй фонэтычнай падставай—сьцягненьнем (рэдукцыяй) галосных ненаціскных. Гэта—фонэтычная замена *а*(*я*) сьцягнутых закрытым *е* ў стане ня толькі перад мяккімі, але і перад цьвёрдымі зычнымі, як—*сьветого месеца, тысещей*—Быт., 3; *тридесеть, деветьсотъ*; аднак—Быт., 15б; *осмьдесятъ*; *погледев*—ib., 18, *Египтене дванадесеть*—24б; *светии отци*—Исх., 3; *гледяще*--ib., 69. *медяный* і *меденаго*,—нават—*выполнется*=выполнятся—Лев., 23б, *мекчейше*, 24б, але *мякчейше*—24 ib; *приетель*—Числ., дзе націск, мусібыць, на першым складзе.

Сустракаем мы ў Скарыны і напісаньні з *о* (якое стаіць замест ё) пасьля шыпячых пад націскам, якое зьяўляецца вынікам фонэтычнага пераходу *е* (не *ѣ*) у *о* пасьля зычнага мяккага альбо Ј пад націскам перад наступным цьвёрдым зычным. Напр.: *чорный* Б. 55, *облечонъ* МПК 76; *чол* Ц. 233б, *шол* С. 12, 21б; *жолчию*, *чолн*—Ап. Деян. 77— Влад., *сверщокъ*—Л. 22—Уладз., *шостый*—Юд. 10б—Уладз. Апроч гэтых больш менш адзіночных прыкладаў словы *„шолк, шолковый“* сустракаюцца часта. Гэты пераход засьведчаны ў Скарыны толькі пасьля шыпячых, якія ў той час ужо былі зацьвярдзелымі і пасьля іх у жывой мове чулася яснае *о*, з прычыны чаго і магчымы былі „памылковыя“

---

[1]) А можа быць тут і падвойная этымолёгізацыя: у першым слове ад „благо“ і „славить“ а ў другім—ад „благо“ і „слово“.

[2]) Першы ў арт. „К истории русских акающих говоров“—Русский Филолог. Вестник 1884 г. № 3, т. 12, 106—108. Другі ў вышэйпамянён. „К истории звуков и форм белорусской речи“ і інш. працах.

[3]) Гл. ў Е. Карскага „Белорусы“, II, 1,202: *ищазаеть* з „Псалтыру“ 1296 г.

[4]) Такія напісы, як *изменона, писом*—можна тлумачыць польскім уплывам: zmieniono, pismo-pisom.

[5]) Докт. Фр. Скорина, 298—299.

з боку царкоўна-славянскай графікі напісаньні, прыклады якіх мы прывялі вышэй.

Замену *і* ненаціскнога на *е*, якая ў сучаснай беларускай мове сустракаецца толькі дыялектычна, мы знаходзім і ў Скарыны: *хрестианъ*—Апост. 3, *прорецание*—Коринф. Паўла 34, *дофеникии*—Б. 26 б., *сее* (вин.) Апост. і многа інш.

Цікавым зьяўляецца пытаньне аб поўнагалосных формах у мове Скарынавых выданьняў. У проф. Уладзімерава прыкладаў гэтай рысы прыведзена цэлая старонка [1]) так што, калі не пазнаёміцца з самымі выданьнямі Скарыны, дык—па значнай колькасьці гэтых прыкладаў—можа паказацца, што поўнагалосьсе ў Скарыны рэч звычайная. Аднак, гэта далёка ня так.

У мове Скарыны пераважаюць формы сьцягнутыя, няпоўнагалосныя; зразумела, што гэткія формы зьяўляюцца штучнымі і лепш за ўсё сьведчаць аб тым, што Скарына зусім ня імкнуўся даць праўдны пераклад на беларускую мову, або, у кожным разе, несьвядома адносіўся да асаблівасьцяй беларускай мовы. На кожным кроку ў яго ўжываюцца царкоўна-славянскія формы, прыкладам, *вран*, *обрана*, *краву*,—Б. 28б, *скавраде*—Лев. 14 і г. п.

Пералічаныя Уладзімеравым 80 прыкладаў поўнагалосься ў Скарыны здаюцца мне пільна сабранымі да аднаго з усіх яго кніг.

І калі іх рассыпаць па ўсім Скарынавым тэксьце, дык ад поўнагалосься нічога не застанецца. Аўтар гэтага артыкулу, напр., прагледзеўшы ўважна ўсю кнігу „Левіт" мог знайсьці толькі *заколение*—Лев., предъсловие, 5. Перагляд іншых кніг у гэтым кірунку таксама мала што даў,—пападаліся толькі выпадковыя прыклады: *молодшии*, *выстерегали*—Іоан., 32, *выстерегаймы*—Корынф. 76 і інш.

Сустракаецца *замена* **ы** *праз* **о** ў ненаціскным палажэньні там дзе ў сучаснай беларускай мове гэтае **о** выпала: *указовати*—Исх. 73 адваротная замена *о* на *ы: выобразуя*—Второзак. 4б, *выображениемъ*—Посл. Петр. 15б. *Замена* **а** *на* **о**: *на кождое лето*—Левит 3б. Звычайна ў Скарыны—*каждый*, іншы раз—*кажный*—Второзак. 2б—і *кожный*—Эст. 6, І. 32б—Уладз., *кажды*—Юд. 23б.

*Пераход* **и** *ў* **ы** ў словах складаных з прыстаўкай альбо пасьля прыназоўніку пад уплывам пярэдняга цьвёрдага зычнага: *сынымъ*—Числ, 15, *сынымы*—Апост,—зьява звычайная наогул ва ўсходня-славянскім старажытным пісьменстве. У Скарыны мы тут сустракаем яшчэ ўстаўку паміж *ы* і наступным зычным *й: розыйдемся*—Быт. 28, *изыйди* (параўн. *внийде* і *пойди*—ib. 24). Адваротны пераход: *диравыи*—Б. 44 і пад.

**О** *на месцы стар.-слав.* **іе** *(е ётаванага). Олей* (усюды), *озеромъ*—Д. 25, *оленьмі* ПП—4б, *ожик* -Л. 22б і г. пад.; **о** *на месцы чужаземн.* **а**: *оцот*—звыч. усюды—ад acetum (у Ев. 1506 г. wocet) *Олена*—МПК; замест **ие** проста *е: ереем*—Лев. 2б, *Ерусалиме*—усюды.

Замест *каков*—*іаков (и скоро забыл іаков бе )*—Апост. пасл. Якава, 3б, *іакови (=каковы)*—пасл. Ефес.—100; *неіакую речь*—Лев. Цікавымі зьяўляюцца нярэдкія прыклады напісаньняў, як напрыклад: *сином*—Лев. 16, *услишавъ*—Числ. 63б, *вилиет*—Лев. 11б, і пад., якія нібы паказваюць на магчымасьць адбітку тут украінскага вымаўленьня якім-небудзь друкаром з галіцкіх украінцаў на месцы стара-славянскага і беларускага *ы*—гуку сярэдняга паміж *ы* и *і*, які нават друкару здаваўся бліжэйшым да *і* і з таго іншы раз мімаволі ім передаваўся, праз *и*. Характэрная для сучаснай беларускай мовы *прыстаўка галосных* перад словам, якое пачынаецца з двох і больш зычных (як вынік

[1]) П. В. Владимиров. „Докт. Фр. Скорина", стар. 258.

страты паміж імі галосных ъ і ь) для зручнасьці іх вымаўленьня,—сустракаецца і ў Скарыны прытым вельмі часта: *иржавяет*—Сір. 21, *илжеть*—Юд. 9, *игде*—Лев. 24, *ирдящаяся*—ib., *ильстя серце свое*—Апост. Як. 3б, *ильсти* (лести)—ib., *испервa*—ib. 24б, Іоан. 1.—і г. пад.

Мае месца і адваротная зьява—*адпадзеньне* карэннага *и* ў пачатку слова: *мети, маю, мел*—Быт., гл таксама Уладз. 264.

*Мена в і у*, прыстаўка і прыймя ў *(ув, уво): увошли суть*—Б. 18, *вчинимо, втекающе з битвы*—ib. 26, *ускормень, вчиню*—ib. 28, в *Бога*—ib. 31, *вдатныи, вчиненъ увечер*—33, *у великом месте Празскомъ;* Исх.: *не вкради, во въстехъ твоих и навчю тя*—10; *взоры* (узоры) *вышивають*—68. Левит: *в насъ*—5 (пасьля галоснага пярэдняга слова), *навчаеть*—13, параўн. *учинилъ*—ib. *в дел*—15 і пад. *У ворехy*—Пс. 3б, *у волей*—Ц. 77 (Уладз.), *у ваковы*—Сір. 13 і інш. Цікавым зьяўляецца напісаньне: „облечешися *в'водежу*", якое сьведчыць—контамінацыйную форму *ўв* (у інш. мясцох так і пішацца), якая зьяўляецца зам. *въ* пасьля галоснага пярэдняга слова і перад галосным-жа наступнага [1]). Аднак сустракаюцца ў гэтым выпадку напісаньні з у: *ко усходу*—Исх. 51б і інш., гэта, аднак, у сваю чаргу можа сьведчыць, што ў палажэньні пасьля галосных перад зычнымі *в* і *у* перамешваліся пісарамі якраз таму, што ў жывым вымаўленьні тут чулася сярэдняе, поўгалоснае —*ў*.

Выпадкі праясьненьня *ъ* і *ь*, г. зн. пераходу іх у галосныя поўнага вытварэньня ў націскным палажэньні (на пачатку слова і ў сярэдзіне слова ў няцотных складох): а) у суфіксах *ьск, ьств: Садомеску, Гоморескy, Адамеску* (але *Севоимску*—Б. 16б) *с богатеством*—ib. 28; апошняе ў Скарыны заўсёды з *е* ў суфіксе. Такія напісаньні мы сустракаем у большасьці стара-беларускіх помнікаў[2]); б) *о* на месцы старажытнага *ъ* у прыназоўніках і прыстаўках па аналёгіі з прыназоўнікамі і прыстаўкамі, што канчаюцца на галосны: *воспять, воспределе*—Б. 2б, *возыде*—Исх. 2б (але побач і *съшедый), вопустыни*—Исх. 3б, *кофараону*—ib., *созаду*—ib. 69, *содерживали*—ib., *вовысоте*—Апост., *вообжарствах, вониде*—Рым. 10б, 13; в) адваротная зьява: скарачэньне суфіксу да аднаго зычнага т: о *выштии Авраамове изегипту*—Б. 17, *ко приштию* (пришествию), якое сустракаецца вельмі часта. Трэба згадзіцца з П. Уладзімеравым, што гэта проста вынік уплыву чэскай фонэтыкі[3]); *у* на месцы ст.-слав. ą (юс вялікі) і ъ, дзе ў вялікарускай мове мы маем *о: суседи*—Ап. Паўл., 128, *сугражане*—ib. 103 Уладз.

Паўторнае і (ы) на месцы вокалізаваных г і l пасьля выпадзеньня *ь* у злучэньнях *рь—ль*, якія перайшлі ў *ры, лы(лі)* не пад націскам: *дрыжащае*—І. 8б, *задрижало*—ПП 7 Уладз., *проклину*—Б. 24[4]).

Уставачнае *ы* маем таксама ў такіх напісаньнях, як *смырк*—Ср. 39б, *смырчына*—Д. 37б, *о(т)стырчи* МПК псалт. 77б, у якіх вокалізаваныя *р* на месцы чэскіх—smrk, smrčina, strk, strčiti[5]).

Сустракаецца ў Скарыны і *ы—і* асноўнаму на польскі манер, як прынята і ў сучаснай літаратурнай беларускай мове: *филистымляном, Палестынскому, Еклезіастыкусъ* і г. пад.[6]).

---

[1]) Зьяўленьне такіх напісаньняў, як *ув* і *ува*, ёсьць дакладная перадача жывога вымаўленьня: „ў", замяніўшы *в* [з *въ*] пасьля страты канчатковага *ъ*, усё-такі разьвівае паўторнае *в* перад галосным наступнага слова. Так, парадкам *экскурсія* гэтага „ў" дае *у*, а *рэкурсія* дае *в*. Галосны *а* ў „ува" зьяўляецца звычайна перад зычным наступнага слова.

[2]) Гл. таксама у Е. Ф. Карскага—„Белорусы", II, 1, 230.

[3]) П. Владимиров. „Докт, Ф. Скор.", 296—297.

[4]) Гл. аб гэт. зьяве ў Е. Карскага „Белорусы", II. 1, 158 sq і 213.

[5]) Параўн. сучаснае беларускае: *старчма, старчаком, смаркач*.

[6]) Сучасныя літаратурныя беларускія; *опозыцыя, дыплёматычны, тыповы* г. п. зашлі ў літарат. мову проста з польскай агаласоўкай.

Пераходзячы да зычных, перш за ўсё закранем выпадкі асіміляцыі і дысіміляцыі (упадабленьня і распадабленьня) зычных, якія стаяць побач. Асіміляцыя: **с** *шолку*, **з** *златасозжения*—Исх. ол, **з** *речей*, **з** *древа*; *наивышший*—Лев. 1б, 2б; *прозбу* ib. 3, Апост.: *светчить*, *востании*, *богумерскы*—Рым. 7. *Дысіміляцыя:* **х***то* Л. 24, *ни***х***то* Сал. 9б, Р.6 і інш., *што*—Пс. 12, 43; Апост. 128 і інш.

Выпадак замены комбінацыі зычных *зн* на *ст*: *болесть*—Быт. 16.

Прыстаўное *в* і прыдыханьне *г*, перад галоснымі цьвёрдымі: *вужъ*, *вужева*—Сір. 21б і 41б—*гужи*, *гужами*; у іншых мясцох *юже*—Сол. 35б (Уладз.); *вось*—Сір. 53б і інш.

Гук **р** у Скарыны зацьвярдзелы як і ў сучаснай беларускай мове. Тыя прыклады, дзе мы знаем злучэньні **р** з мяккімі галоснымі літарамі, зьяўляюцца штучнымі напісаньнямі; блытанасьць гэтых напісаньняў (пастаноўка мяккага галоснага пасьля **р** нават там, дзе яго няма і ў мяккаэрых гутарках) сьведчыць аб тым, што **р** у Скарыны было цьвёрдым ва ўсіх палажэньнях; імкнучыся азначаць яго мяккасьць згодна з царкоўна-славянскай графікай, Скарына (альбо друкар) часта памыляўся, бо ня меў жывога контроляваньня з боку свайго ўласнага вымаўленьня, у якім ня было мяккага **р**.

Адсюль і сустракаем у яго такія напісаньні: то адпаведныя, то неадпаведныя тагочаснаму жывому беларускаму вымаўленьню, то правільныя па царкоўна-славянску, то няправільныя:

*Псалты***ру**—(він. адз.), *гово***ря***чи*; *от к***ри***вды*—Б. з; *дще***ры**—ib. 15, **три***десеть*—ib.; *дще***ръ**, **при***к***ри***ла*, *п***ри***к***ры***ли*—ib.; *Ага***ръ**—ib.; *б***ры***тва*—Чысл. 16; **ры***зъ*—Апост. Петр.; *вече***ри**—ib. Корынф. 37; **ры***тины*—Исх.-бл.; *к***ри***ла*, **ри***тый*, *вши***рь**—Исх. 68.

Сустракаюцца ў Скарыны напісаньні злучэньняў заднянёбных з *ы*—*кы*, *гы*, *хы*. Іх ня можна лічыць адбіткам жывога вымаўленьня, бо цьвёрдасьць *г*, *к*, *х* у паказаных палажэньнях страчана ва ўсіх усходня-славянскіх („рускіх“) мовах даўно: яшчэ ў эпоху агульна-ўсходняславянскую. Такім чынам, такія напісаньні Скарынавых выданьняў, як—*порускы*—Б.33, *жердкы*—Исх. 69, 69б-гр., *погреческыи*—ib. 76, *ветхый*—Лев. 3б, *господскые*, *убогыми*—Апост. і мн. інш., зьяўляюцца штучнымі; апошняе сьведчыцца і тым, што ў напісаньнях гэтых ня відаць вытрыманасьці, і формы з *гы*, *кы*, *хы* сустракаюцца побач з *ги*, *ки*, *хи*: *жердки*—Исх. 22, 22б, *порускии*—ib. 76 і мн. інш.

Пераходнае памякчэньне заднянёбных *г*, *к*, *х*.

У той час, як у пскоўскім, напр., говары XV ст. ўжо сустракаецца непераходнае памякчэньне *г*, *к*, *х*, *(рукѣ, ногѣ*[1]), у Скарыны дый наогул ва ўсіх беларускіх говарах захоўваецца ў давальным і месным склонах *толькі пераходнае памякчэньне: нозе, руце* і г. д. Лічым, што гэткія формы, як „*в боцех*“—Исх. оль, *руцѣ і нозѣ*, (наз.—він. мн. ліку), зьяўляюцца чысьцейшымі царкоўна-славянізмамі.

*Зацьвярдзелыя шыпячыя* зычныя праглядаюць у Скарынавых выданьнях рэдка: *ва***шы***м*—Исх. 59, **жы***вых* Екл. 7б, **жыв**—МПК—і інш. (гл. Уладз.), **жылы**—Н. 24 ib.

Прыкладаў *зацьвярдзелага ц* блізка што зусім няма. Проф. П. Уладзімераў не адзначае ніводнага прыкладу гэтае зьявы. Мне пашанцавала знайсьці ўсяго два прыклады, з якіх пэўна сьведчыць аб цьвёрдым *ц* толькі—*оте***ц**—Исх. 3; другі прыклад—*коне***ц**"—Апост. не такі пэўны, паколькі паерок (") над ім можа азначаць апушчаны ня толькі Ъ, але і Ь. Звычайна-ж *ц* у Скарыны мяккае: *жре***ць**—Б. 26, *пти***ць**—ib.

[1]) Гл. Н. М. Каринский. Говор Пскова и его окрестностей в XV веке. СПБ. 1909.

28б, *ниць*—ib. 30, *домочадець*—ib. 30б, *конець*—ib. 94; Исх.: *отци*—3, *девици*—ib., *пугвиць*—68, *венець*—ib. і інш.

*Цьвёрдасьць губных* на месцы аднаведных мяккіх у царкоўна-славянскай і вялікарасійскай мове. Кн. *Бытія: выпустилъ голуба*—18, *и голуба*—28; цьвёрдага *в* ня знойдзена ва ўсёй кнізе. У кнізе *Исход* толькі *осмъ, 10. Левит: кровъ скотины. Юдифь: Юдифъ.* Апост. 1525 г.: *церковъ, есмъ*—13б; *любов* (?).

**Ч, ш** *на месцы стара-славянскага* **Щ** *(шт): жечи* (у інш. мясцох—*палити)*—Л. 13б, *помочи*—Эст. 21б, *стеречи, намолвяючи, наметаючи*—Апост. прадмова: *нехулячи*,—Корынф; *товаришъ*—Апост., прадмова.

Адваротная зьява—замены сучаснага вялікарасійскага *ш* на *щ, шч* тыповая для беларускай і украінскай жывых моў—у словах: *горщокъ*—Лев. 14б, *горщекъ, горщками*—Уладз. *щ* на месцы ст.-сл. *ск*: *дощекъ, дощку, дощка* і пад. (ст.-сл. *дъска)*; *пущаете*—Уладз.; *щ* на месцы в.-р. ортогр. *сч: щасливъ*—Б. 71б; *щасливо*—Уладз.; нават *щхание*—ib.

Захаваньне *г* у ст.-слав. групе *гн*, тыповае для сучасн. белар. м., сустракаем і ў Скар.: *протягнул, протягни*—Уладз., *стогнание*—ib.

*Падвойныя зычныя*, як паказаньне доўгага вымаўленьня зычных у пэўным палажэньні (на месцы ст.-сл. *НЕ*, в.-рас. *ье): беззаконне*—Д. 12, *искорененне; въспоминанне, возданне*—Уладз.

*Мяккасьць насавога* **Н** на месцы в.—р. цьвёрдага: *должиня, вышиня*,—Б. 16 б.

*Уставачныя зычныя*—**д, т**: *борздыи, борздо, борздей* (ст.—слав. *бръзы)*, якія захаваліся і ў сучаснай жывой беларускай мове; *раздроушишя*—Ц. з кн.,—*блесткъ*—Л. 25.

**Ж** *на месцы стара-славянскага* **жд** (праслав. dj)—рыса агульная ва ўсходня-славянскіх („рускіх") мовах:

*Понарожении*—Б. кі-зр., *выхожаше*—ib. 24, *перворожennаго*—ib. кк;—наагул формы з **ж** на месцы **жд** у Скарыны—зьява звычайная-*о одежи*—Л. 4б, *заповежь*—ib. 13, *гражане* Ю. 12, *ко каженню*—Исх. 69 і мн. інш.

*Выпадзеньне зычных* (д, т, в, л): *серца* Б. 16, *в серци*—ib. 30б, *о празницехъ*—Л. 5б, *на празники*—ib 3; *равночесную*—Апост., 2-е пасл. Пятра: *вымовитися, невымовный*—ib. Рым. 6б, але побач: *вымолвяется; раныи и позныи*—Другазак. XI, 14 *черчетаго*—Исх. 74, вышэйпрыведзенае—*щасливъ* Б. 71б і інш.

*Мена* **ч** і **ц**, якая сустракаецца ў сучасных говарах на тэрыторы. старажытнай Полаччыны, мае адбітак і ў мове Скарыны, але не такі выразны, як гэта паказана у П. Уладзімерава. Гэткія яго прыклады, як *девичину о*(т)*цу*—В. 43,[1]), *зачепяше удица, печи, печите, родиць, куі пецьска*,—далёка не зьяўляюцца пэўнымі прыкладамі на мешаніну **ч** і **ц**:

*„Девичину"*—Можна разглядаць як вынікі ўплыву звычайнага жывога беларускага прыметнага—*дзеўчын* (напр.—*„дзеўчына хустка"*, параўн. таксама в.-р. *„девичий")*; *„зачепяше"*—таксама звычайнае беларускае вымаўленьне; у беларускай мове ня толькі ў цокаючых гаворках, але і ўсюды кажуць: *зачапіў, чапляць* і пад., так што тут мы маем звычайнае агульнабеларускае—па сваім фонэтычным складзе—слова, узятае ў славянскай форме imperfect'a.

*Речи, речите*—па аналёгіі *з пячы, пячыце* і пад. формамі. У слове *„купецьска"* магчыма звычайная асіміляцыя стара-славянскага і старарускага *ч* (купечьскъ) наступнаму **с**, што ў сучасным беларускім (дый

[1]) Гл. П. В. Владимиров. Докт. Фр. Скорина... стар. 275-276.

у народным в.-р. і укр.) вымаўленьні з групы *чьс* дало адно *ц*: *купецкі*. Больш пэўным зьяўляецца прыклад—*„родиць“* (родзіч), хоць і тут магчымы ўплыў польскага rodzic. Прыклады—*горнцарева*—Ср. 54 і *отчицем*—здаюцца больш пэўнымі паказьнікамі данае зьявы, але тут можна бачыць: у першым польскую агаласоўку (garncarz) пры беларускім *ганчар*, а ў другім—утварэньне па аналёгіі з *„родиць“*.

Найбольш пэўным прыкладам здаецца знойдзенае намі—*жертва козельца*—Лев. 5, дзе *козельца*—імя прыметнае (казьлячая) такога-ж утварэньня, як і *агнеча* Лев. 4б—у выразе *„кровь агнеча“*.

Выпадкі *мены ж і з*—таксама рыса старажытная Полацкая[1]): *жиздитеся*—Апост., Пятра в6,—але далей—ib. 13б *зиждущие*. У Уладзімерава: *юже стяза, самодеръзъца*[2]); *„збан“* і *„зелезных“*—прадстаўляюць ужо прыклады не на мешаніну *ж* і *з*, але на пераход шыпячага ў зубны, у выніку асіміляцыі наступнаму зубному *(зелезных)* альбо збліжэньня артыкуляцый *(збанъ)*.

**Формы скланеньняў і спражэньняў.**

1. Скланеньні. а) Род іменьняў назоўных.

У родзе іменьняў Скарынавая мова, прадстаўляючы даволі частыя адхіленьні ад агульных усходня-славянскіх традыцый, часта дае нават прыклады несьвядомай мешаніны радоў: *псалтыру—він. адз.*—Б., *два колца*—68 Исх.—і тут-жа: *две колце*—ib. ол; *подставковъ* род. мн. і тут-жа *подставку*—він. адз.; *проступка злая*—наз. адз., *проступку*—він. адз.—Уладз. 277, *купелем*—ib. і да г. пад.

б) Склоны. *Назоўны адз. л.* У значэньні назоўнага адз. л. ужываецца часта як-бы форма клічнага склону: *Ное*—Б. 15б. *Марко* сын мои—пасл. Ап. Пятра, 18; *Ное был ест праведен*—Б. 16 і інш.. што на самым дзеле прадстаўляе сабою *чэхізм* wssel gest Noe... Чэск. Еванг. 1506 г.).

Аснова ўкосных склонаў часта заходзіць у наз. склон ня толькі ў такіх словах, як *камень, церковъ, любовъ,*[3])—але і *матерь*—Исх. 6б, *пламень* С. 31.

*Клічны склон* адз. л. ў Скарыны, як і ў царкоўна-славянскай мове: *О, сыну; боже, земле, господо моя*—Б. 16 *дщеро моя*[4])—Ю. разд. В. 21б; *Амане*—Э. 2б, *мои любимыи приятелю*—Апост. прадмова.

*Родны скл. адз. л.*, як і ў сучаснай беларускай мове ад іменьняў мужчынскага і ніякага роду з асновай на цьвёрды зычны, па большасьці мае канчатак на—*у: гласу Господня*—Б. 24; *о(т) западу, от выходу, до Египту, от востоку*—ib. 24б; *боку, со единое страны храму, противу западу, солну* (з лёну)—Исх. 69; *во главу углу*—Ап. Посл. Петр. В.; *звук грому*—Ср. 69б—Влад., *день смутку*—Э. 10б.

З тэй-жа асновай, але назоўнікі, якія азначаюць прадметы ажыўленыя,—маюць у большасьці канчатак—*а: до первенца, жерца* (тут, апроч таго, маем „уставачнае“ *е*, як і ў сучаснай беларускай мове: жнец, *жанца)*—Исх.; *Агнеца*—Лев. 12б. Але сустракаюцца і адхіленьні: *тело детищу*—Ц. 132, *до скоту*—Исх. 16б, таксама ў Уладз.: *смерть скоту*—І. 16, Б. 18 мусібыць тут—*у* па тым-жа прынцыпе, што і ў

---

[1]) Гл. А. И. Соболевский. Смоленско-Полоцкий говор в XIII—XV в. РФВ, т. XV, (1886 г. № 1), 7—24.

[2]) П. В. Владимиров. Докт. Фр. Скорина... стар. 275.

[3]) Ibidem, 278. Тут па ц.-сл. павінна-б быць *дъшти*.

[4]) Слова „господа“ скланял. ў агульна-ўсх.-слав. мове, як „жена“; слова „дщеро“ зьяўляецца няправільнаю формаю клічн. склону ад ст.-слав. *дъшти*. Тут магчымы ўплыў чэшск. dcera.

сучасным *статку* (ад статак-стадо); з другога боку: *до Египта* — ва ўсёй кнізе „Ісход".

Іменьні мужчынскага і ніякага роду з асновай на мяккі зычны маюць родны склон на *я* (Ѧ): *с' путя (дав. путю* і *пути), дня; каменя*—Исх., *ременя*—Б. 24б, *от племеня, до временя, от дитятя*—Псалт. 35б. і *дитяти*—Б. 37б. Выдатнай рысай тут зьяўляецца захаваньне *е* ва ўсім скланеньні такіх іменьняў, як „камень": *кременя кореня*—І. 28б і 33б і інш.

*Родны жан. роду* мае ў большасьці *е*=стар. *ѣ*: *рабыне*—Б. *при обоихъ концехъ молитовнице*—Исх. 69; *противу завесе*—Лев. 10б; *девице Марии*—Апост.; аднак сустракаецца і канчатак—*и*, які, трэба лічыць, ужо быў у жывой мове звычайным: *молитва царици*—Э. 21б, *вдовици*—Пр. 4б Влад.

*Давальны адз. л.*

Часта сустракаецца стара-рускі (ст. ц.-сл.) канчатак іменьняў м. р. на—*ови,-еви*, які з асноў на-*и* трапляе ў асновы на-*о*; але ў адных і тых-жа словах гэты канчатак ня вытрымліваецца пасьлядоўна; гэтак побач з *жерцеви*—Лев. 12 і 12б—сустракаем не адзін раз і *жерцу*—ib.; *Адамови, Христови*—ПП Улад., нават *Іудифови*—Ю. 24б—побач з *Юдифу*—ib. 17б.

Мешаніна канчаткаў на—*ови* і—*у* зьява звычайная для стара-беларускіх і наагул стара-рускіх помнікаў (Смаленская грамата каля 1230 г., Полацкая грамата каля 1300 г. і 1330 г.: *купцьви, вьсцьви* і мн. інш. [1]).

На месцы царкоўна-славянскага-*и* сустрак. канчатак-*ю*: *каменю путю, именю* і інш.

У іменьнях ж. р. маем канчатак-*и*: *к госпожи своей*—Лев., таксама, як і ў сучасных *к пани, к дзяжы, к дзеўцы* і г. д.

Адзначанае П. Уладзімеравым—*Царевой*—Э. 9б—звычайнае імя, якое скланялася як прыметнае, хутчэй за ўсё пад уплывам чэска-польскага: králowá, królowa; у іншых помніках сустракаецца і проста—*королева*: „*по аппробацій Королевой Боны*" (з судов. акту 7 верасьня 1763 г.).

*Вінавальны адз. л.* іменьняў м. р. так-жа як і ў стара-рускай (усх.-слав.) і царкоўна-славянскай мове: *имѣти сыны*: Па аналёгіі з стара-ўсходня-славянскім вінавальным—*жену, душу(ю)*—у Скарыны маем: *Агару рабу свою* (наз. *Агаръ*); *дщеру*—Лев. 23 б і ўсюды.

*Творны адз. л.* ніякіх асаблівасьцяй ня мае, апроч канчатку—*омъ* (амъ) на месцы—*емъ* (з-*ьмь*) у такіх словах, як *дедичомъ*, які канчатак звычайны і для мовы стара-беларускіх грамат і актаў (*местичом, Воловичомъ* і пад.).

*Месны адз. л.* Тут маем—*у* пасьля задняпёбных *г, к, х*: *на боку, на чаловеку* і пад.; па аналёгіі і—*о чину* Лев. В., *во понту*—Ап. п. Петр.

У іменьнях пераважна з мяккай асновай замест *ѣ* па большасьці—*и*: *ю огни вечномъ, на огни*—Лев. В., *въ воли Божией, в чермномъ мори*—ib.

Сустракаецца і старая форма—*в лесе*, як у сучаснай беларускай мове—Прор. 19б.

*Парнага ліку* мы сустракаем формы ўсіх склонаў: наз.-він.—*крыла*—Исх., *два сына имелъ естъ*—Второзак. 4.

Род.-месн.: *со обу страну*—исх.; дав.-творн.: *обѣма братома своима* Б. 21, *пред очима твоима*—ib. 30б.

---

[1]) Формы на—*ови* ў сучаснай беларускай мове сустракаюцца толькі ў паўдзённа-заходніх гаворках: *бацькаві, дзядзькаві, кавалёві*—у назвах асоб.

Але сустракаюцца і замены формаў парн. л. формамі мн. л.: *два сосуды*—ц. 96; *две трубы*—Ч. 25 і інш.

*У множным ліку*, як і ў старажытнай усходня-славянскай („рускай") мове, мы сустракаем канчатак наз. склону як—*и (ы)*, так і—ове. Прыклады: а) *два сыны* Б., *четыре цари*—ib. 26, *островы народовъ*—ib. 21, *полтора годы*—Ап.

Сустракаем нават і канчатак—*а*, запазычаны ад парн. ліку: *три лета*—ib., *зверята*—Лев. 21 б.; *жита*—І. дб; *платьа*—Ц 82.

б) *родове сыновъ Ноевыхъ, сынове Симовы*—ib. 5 разоў (таксама—*сынове).*

Формы на—*ове*, як правільна заўважае П. Уладзімераў, маглі падтрымлівацца чэскімі формамі на—*owe.*

Часта і просты канчатак—*Е* (бяз суфіксу—*ов*): *учителе*—В. 34б, *родителе* В. 2. *складателе* і пад.; *летописце, вельможе, мече, люде, обычае, крыле, мещане* і г. д., пад уплывам стар. канчатку він. скл. *ѣ* асноў на мяккі зычны м. р.

Але мы знаходзім у Скарыны і канчатак—*и*: *господари, приятели* і г. д.[1]).

*Жаночы род* мае канчатак *е*—ст.-ўсх.-слав. *ѣ*: *рабыне, вси птице* Б. 18, *горлице*—Лев. 2 б, *маковице*—Исх. 71 б, *досце*—Исх. 60 і інш.

*Родны склон мн. л.* Пераважае а) канчатак—овъ у іменьнях м. р. з старажытнай цьвёрдай асновай: *вельблюдовъ*—Б. 41б, *прутовъ*—Б 55, *человѣковъ* Пр. 16, *друговъ*—І. 38 і інш.

б)—евъ з старажытнай мяккай асновай: *купцевъ*—Ср. 67б, *ступневъ*—Б. 2б, *кладезевъ, локтевъ, мужевъ*—Исх. 26б.

Зрэдка толькі, як у ст.-слав. і стар.-руск.: *от зверь*—Пр. 20,, *поль* В. 3, *ягнетокъ*—ПП *голубятъ*—Лев. 5, *зернятъ*—ib. 5б і інш.

Канчатак—*ей*, як-бы падобна да стара-славянскіх асноў на—*і (кость): обмыванией, оправданией, безаконией*—Лев. 4б, *грушей*—Ц. 75б, *с' кожей*—Исх. 68б.

Сустракаюцца і формы на—*въ* з „устаўным" *о* і *е* з *ь*: *битовъ*—Нав. 30, *клятовъ*; *служебъ*—Ч. 23, *свадебъ*—Пр. 22,—чужыя сучаснай беларускай мове [2]).

*Давальны мн. л.* іменьняў мужчынскага і ніякага роду мае канчатак—*омъ* (емъ) *сыномъ*—Л. 6, *ко криломъ*—ib. 12; *отроком, приставомъ*—Исх. 11б, *лекаремъ, столомъ* Ап. Деян. 21б, *львомъ*—Дав. 22 і інш.

*Вінавальны мн. л.* мае канчатак аналёгічны канчатку наз. склону: *три сыны, люди Израилевы, волы, агнецы, а козлы*—Исх. 1, *младенце, овце, кветие* и *кветове*—ib...

*Творны мн. л.* мае канчатак *ы (и)* ад асноў на—*о*, як і ў стара-царкоўна-славянскай і стара-рускай мовах: *ласковыми словы, надо всими боги и властители*—Эст. 22 і 22б; и *поясы опоясал ихъ., с волы*—Исх. 20б, але Ап.—*волми, со всеми жерцы*—Ю.

Канчатак—ми: *сынми, заповед'ми* Ап. 1525 г., *твар'ми, помышлениема* і *памышленьми*—Рым. 6.

*Месны мн л.* м. р., як і ў сучаснай беларускай мове: *о мученникохъ*—Пр. 1 б, *по языкохъ*—Б. 22 б, *в пескохъ*—В. 64 б. Іменьні з мякк. асновай па стара-славянску: *о зверехъ первосветителехъ*—Лев. *Жан. р.* на—*ах* і *ех*, як і ў стара-славянскай мове: *о птицахъ, о рибахъ*—Лев. 5 б, *заповедехъ*—ib., *о добрых речехъ*—ib. 6; тое самае ў *ніякім родзе: во писаниихъ, во оправданиихъ*; канчатак-ехъ тут з даўнейшага-ьхъ.

---

[1]) Гл. П. В. Владимиров. Доктор Ф. Скорина. Стар. 280.

[2]) Ibidem, 282.

У скланеньні іменьняў *прыметных* трэба адзначыць характэрны і для сучаснай беларускай мовы стара-рускі канчатак *роднага склону* адз. ліку *жан. роду: жертвы мирное*—Исх. 69; *матери рожоное, приведеное, з доброе воли*—Лев. 35, 45; *нечистоты человечие*—Лев. 12, *з муки пшеничны(ѣ)* ib.

Канчатак м. р. звычайна—*ого,—его,* але сустракаецца і—*аго;* у вапошнім можна бачыць як царкоўна-славянізм. так і адбітак аканьня.

Цікавы прыклады: *по обычаю женскомъ*—Б. 58,—*царьскомъ*—Э. 4, што паказваюць выпадкі злучэньня прыйменьня—*по* з месным, а не з давальным склонам.

*Множны лік* прыметных—па царкоўна-славянску і цікавых асаблівасьцяй ня мае.

Сустракаецца цікавае для таго часу звычайнае сучаснае ўзгадненьне роднага склону імя прыметнага з назоўным—вінавальным імя назоўнага:

*Двѣ дощки каменныхъ, два ретезки златыхъ*—Исх. 64 і 73 б. зам. *каменныи, златыи.*

Параўнальная ступень на—*ее* і—*ей*: *более* і *болей, яснее, крепчее, должее, простее, лепее, частеи, нижеи, ширеи, глубеи;*

*Найвышэйшая ступень* утвараецца з дапамогай прыставак *наи (на), пре*: *набольшіи, превышнего, наивышших* і г. п.

Займеньні назоўныя ў Скарыны—як у царкоўна-слявянскіх, так і ў стара-беларускіх формах: *азъ,* і *я; родн.—мене, тебе, себе; дав.. мне* і *ми, тобе, собе* і *ти;* він.: *мене, тебе, себе* і *мя, тя, ся.*

Займя *весь* у мн. л.: *вси, всихъ, всимъ, всими, всихъ,* але сустракаюцца і *все*—Быт. 3, *всѣхъ, всѣмъ* і г. д. Займеньні—прыметныя сустракаюцца ў форме сучаснай беларускай—*тои, тая, тое;* скланяюцца як і сучаснае *(того, тое, тому, той, того, тую* і г. д.).

У *мн. л.*—мешаніна асноў і канчаткаў: наз.—він.—*тые слова, тые листы, тыи Іудеи*—Э. 16, *тии*—Л. 4 б.; *свое, мое, твое,* але і *мои*—Л. 4 б.

*Іменьні лічэбныя.* У скланеньні лічэбных заўважаюцца тыя-ж формы, што і ў сучасных беларускіх говарах: *три* (и трие), *четыри* і *четыре, трехъ, треми, трѣма* і *трима, четырема;*

*сто, ста, сту, стомъ, сту;* мн. л.: *ста, сты, стехъ.*

Складаныя лічэбныя ў большасьці скланяюцца ва ўсіх сваіх частках:

*Полтора, полтретя,* родн. скл.—*полутора, полутретя* і г. д.; „*над стом и двадцетми и сѣдми странами*"—Э. 3; *со трѣми сты, во трѣх стах*—Солом. 16 б, 17 і да т. п.

### Спражэньні.

Формы дзеяслова *быць*: 1 ас. *есмъ* і *есми* 2 ас.—*еси* і *есь* (часьцей апошняя)—Л. 25, нават—*есъ*—Э. 21; 3 ас.—*естъ* і *есь; есмо, есмы; есте; суть..*

Дзеясловы *даць* і *есьці* як і па стара-слявянску і стара-рускі: *продаси*—Б. 47 б, *яси*—Ц. 5 б; *даси*—І. 47 б, *выдаси*—Дав. 39 б, такжа і ў сучаснай беларускай мове.

*2 ас. адз.* з канчаткам на *шъ*: *наидешъ*—Б. 3, *имашъ*—Исх. 10.

*3 ас. адз. л.* (і мн.) цяперашн. часу звычайна канчаецца на—*ть: бываеть*—Б. 3, *учить*—ib.; *упокоить*—ib. 15, *будуть*—ib. 16 б—як і ў стара-рускай мове; канчатак на—*тъ* вельмі рэдкі.

*1 ас. мн. л.* побач з канчаткам—*мъ* мае канчаткі—*мо* і *мы: поидемо* і *надѣлаймо... и спалимо, приносимо и вчинимо*—Л. 3, як у

стара-рускай і сучаснай беларускай мовах. *Молимыся*—Б. 87, *пошлъмы*—Ц. 14, *жадаимы*—Ю. 13 б—трэба тлумачыць уплывам польскіх формаў на—*mу:* wiemy, prosimy і да т. пад.

*Загадны лад* дае нам даволі формаў, аднальковых з сучаснымі жывымі беларускімі: *поможи, запрєжи*—Ц. 83 і 171 б; *бєжи*—Сал. 47, якія характэрны і для іншых беларускіх помнікаў і мусібыць зьявіліся пад уплывам аналёгіі формаў 2, 3 ас. адз. л. цяперашняга часу з *ж; едь*—Сал. 47, *поедь*—Б 62; *ежъ*—Ю. 20 і ў інш. мясцох; *очисть*—Сір. 61.

Ад дзеясловаў на—*іць* (біць, крыць, ліць, мыць, піць і пад.) па царкоўна-слав.: *напийся*—Б. 42, *убии*—Б. 78 б, *бии*—Ц. 173, *прикрыи*—Сір. 61, *вылий*—С. 14 б. Сучасная беларуская мова захавала гэтыя формы *(крый, мый, рый* і пад.), страціўшы толькі—у формах падобных дзеясловаў з мяккай асновай—канчатковы-й: *лі, бі, пі* і да т. пад.

**Формы мінулага часу.**

Часта ўжывае Скарына ў сэнсе мінулага часу—на месцы старажытных imperfect'у і аорысту—простую дзеяслоўна-прыметную форму мінулага часу на—лъ. Але яшчэ часьцей ужывае і памянёныя, тады ўжо страчаныя, формы аорысту і imperfect'у. Гэта адна з тых рыс скарынавай мовы, якія, як мы ўжо казалі, лепш за ўсё сьведчаць аб тым, што Скарына імкнуўся пераймаць у сваіх „выкладах“ царкоўнаславянскі граматычны лад. Штучнасьць ужываньня гэтых, ужо задоўга да эпохі Скарыны адмёрлых, формаў кідаецца ў выданьнях Скарыны ў вочы: ён вельмі часта мяшае формы аорысту і imperfect'у.

Зам. 3 асобы аорысту на—**ша**—піша 3 ас. imperfect'у на—**ше**: *збегошеся, молишеся.* Формы аорысту 3 ас. адз. і мн. ліку ён часта ужывае з адным і тым-жа канчаткам 3 ас. мн. л. imp.: *слузи тешиху его, поклони***хуся**, *взя***ху**, *ходи***ху** і да т. пад.

Часта трапляюцца зусім няправільныя формы аорысту: *далахъ*—Б. 29, *слюбилах и знашлах* Пс. 14, *слышалахъ*—Ц. 149 б, нават—*седалохъ*—І. 35 і да т. п.

Больш правільна ўжываюцца формы а) **мінулага складанага** і б) **запрошлага** часу: а) *положилъ есми, соромялся есми, ехали есмо*—Ц. 201, *елъ есь* Б. 12 б, *ели суть* Б. 58 б і да т. пад.; б) *приняли были есмо, отсудили были есмо, былъ послалъ*—Э. 24 б, 25 і інш. [1]).

**Будучае складанае**: *маю учинити, мають приити, не будет ся бояти* і пад.

**Умоўны лад** як па чэску: *бых ся не стыдилъ... ни дбал быхъ. Ани бых погледел. И был либыся съпротивилъ было бы дивно*—Сір. 26 (a bylliby zprotiwil byloby diwnie). [2]).

**Ся** па большасьці ўжываецца асобна ад дзеяслова: *и злого ся не бояли* [3])—П. 8; *абымыся то борзо нагодило*—Б. 49 (aby mi se nahodilo—чэск. „Біблія“ 1506 г.); *и ту ся навчил всякое науки*—Дав. 1 б; *на углех ся конало*—Исх. 69; *ся были разбегли*—Апост.—1525 г.

На сынтаксычных асаблівасьцях—чэхізмах і полёнізмах спыняцца ня будзем [4]). Заўважым толькі, што ў сынтаксычным ладзе мовы

---

[1]) Можна дапусьціць, што правільнае ўжываньне гэтых формаў падтрымлівалася тагочаснай жывой мовай. Правільнае ўжываньне іх маем у сьвецкіх помніках, а астатак іх маем і ў сучаснай украінскай мове: *вытворили були... державу* (Гл. „Короткі нарис істор. укр. мови. О. Шахматов. Перакл. Д. Демьянчук“. Київ 1924 г. таксама і ў беларускай.

[2]) Владимиров. Доктор Ф. Скорина..., 291.

[3]) Параўн. сучасн. Зах.-украінск. **ся бою** (пры ўсх.-укр. **боюся**).

[4]) Аб гэтым гл. у Уладзімерава, 296--301. Залежнасьць мовы Скарыны ад чэскага сынтаксу можна бачыць з прыкладаў, прыведзеных Уладзімеравым параўн. з чэск. тэкстамі на стар. 129—142, 163—165, 215—218.

Скарыны адчуваецца моцны ўплыў чэскай мовы пры царкоўна-славянскай сынтаксычнай аснове (часта ўжываюцца звароты—accusativus cum infinitivo i ablativus absolutus: *и мнеша лота в смеху глаголати зятия его; не хотящу же Лоту ити, апостолу Павлу пишущу* і г. д.).

Такім чынам, пазнаёміўшыся з асаблівасьцямі фонэтыкі і морфолёгіі скарынавай мовы, мы бачым, што царкоўна-славянская аснова яе пад напорам жывога моўнага мышленьня—можа самога Скарыны як рэдактара, а можа і друкароў—прарываецца і паказвае нам такія гукі і формы, якія мы чуем у беларускай мове і ў нашыя дні.

Найбольш выразны беларускі характар набывае мова скарынавых выданьняў там, дзе трапляецца больш-менш значная колькасьць беларускіх слоў. А гэта заўважаецца пераважна ў прадмовах Скарыны да паасобных кніг біблії, да пасланьняў апостальскіх і ў кароткіх зьместах паасобных частак Апостала 1525 г., якія знаходзяцца ў пачатку кожнага разьдзелу.

Ня ставячы сабе мэтай даць тут поўны слоўнік выданьняў Скарыны прывядзем ніжэй толькі найбольш характэрныя беларускія словы, якія сустрэліся нам пераважна ў памянёных прадмовах.

Але, абы.

Братаничем—Б. 25, братанца—ib. 26; бабите—Исх. 3; боханце (хлеба)—Лев., блесткъ, борзои—Б. 49, борздо, борздыи; боронить.

Волотовѣ—Б. 16, вдатныи Б. і оудатных (молодцев)—Ю. 23 б; вдолжъ восполок сложил—Исх. 68; вооколо (сучасн. вакол), выхование, вжитку, водле можности, выбавил, виры (у рацэ), виноватит, вихор; врядникъ (урядник) Ц. 148.

Гуней (суч. гуня, гунька), гордети—Апост. 1525, горши, господа (панства), господарие (гаспадары), гуж.

Дедичом, деля (прыч. злучнік): сего деля—Исх. 10, Лев.; досить і досыть, доткнется, доведено (даказана), (не)дбание; досветчити (давесьці), для (сего для), **дякавали** Госп. Богу **для того иже** выбавил ихъ от грехов; докука, доля.

Единота, едънота, евангелиста (наз. адз.), еврейским—Исх., Лев. еврейкам—Исх.

Жадали, жадостей плотских (страстей)—Ап. 1525 г., жиды (у „Апостале“ пераважае над ц.-слав. „евреи“), жидовский—Прадм. Лев., жито, житный, животину.

Забил—Ц. 2 кн., забрешеть, завищить, заручать, заручаная, залежит, згода, злочинцев; залецаеть, звестовала, злочинцев (полёнізмы), замыкать (=заключать).

Красномовность—Б. 3 (предсловие), (ся) конало, (до)конавши—Исх. 69; кветие, колейко—ib. Лев.: кривда, кривую присягу вчинил, користь, кажеть (зам. глаголетъ), корогоды, корчмар; коло (колесо)—Сір. 53 б, кохание, кутний зуб (карэнны зуб).

Ласку (міласьць), лепшего, лихо, лоток, лемеши, люду, лснущаяся (лоснящаяся) і пад.

Матку—Исх., моцный (побач з „крепкий“)—Б. 21 б; место (горад), можность, мытници...

Надармо—Исх., наширь (у шырыню); невдячность—Ап. 1525 г.; наймит, ношка; нинейшего (часу)—полон.

Отчина, отчицем олеемъ, обыидуть, осот—І. 30 б, осторожа—Ц. 113 (охрана), околичныи—В. 44—Влад., ободы, обооскоминеють зубы—ib.; оступили дом (абкружылі)—Б. 28.

Помрачь (цемра, зацьменьне)—Б. 28, подорожным—Лев. 6 б—Влад., полог, пригожего сну—ib.

Погордевши—Лев. погорде—ib.; Ісход: пожедай, пане"ства не порушаючи (паненства, целомудрия), пилностию, посполу; Левіт: полтретя, полтора, потребам, покармов, пражиться (жариться); приємно, пря (раздор), пил"ное; плынущую (цякучую); Апост. 1525: походить (происх.), паметаючи, пєстуном (дав. мн.), писма ветх. закону, прикладом (примерно); пожитку (пользы), потоваришили (подружились), поразумети. „Предисловие" кнігі Второзак.: речи позыченое навращение"; в пановании—„Еклесиастес", подобенство—Ап., праца, помста, пожиточный; пуга (кнут)—Сір. разьдз. 30.

Разноличным, разноличные—Лев., речи (дела, вещи)—Ап.; Влад.: ратай—Пр. 26 б, робит—П. 26, роботяга—Сір. 56, Ц. 148, родина (родня)—С. 37, розно, ручил (поручился), ручан, рукавицах.

Слюбный (любимые)—Б. 26, смолву (угавор, умова) ib., скибу хлеба; Ісход: свєдецства, слюбех—Лев., светчить, случение (concubitus); Ап. 1525: смуток, засмутилъ, слюб, слушный (належны; приличный). Скриня, скло, становище (стан. лагерь), случитися (concumbere), статку—„Еклесиастес" і пад.

Теж, теже (часьцей)—Ап.; тук, не тямилъ—Ц. 107 Влад. товаристве—Исх. 92 ib.

Удвоитые, утроитые—Б. 16 а, ўскормень (гадунец)—ib. 28; ухопилъ—(чэск. wchopil—Бібл. 1506 г.)—Влад. 145; усходу (востока), ухвалили—полон.—Лев., не уставичность; уродная (аб палёх) —Ц. 189—Влад., узгорки—І. 2 об—ib.

Честуйте—Ап. 1525, чести (чытать), чобот—Р. 7 Влад.

Шкода, шолом—Ц. 35.

З усяго вышэйсказанага мы праконваемся, што жывая беларуская мова эпохі Скарыны ў большасьці сваіх характэрных рыс—фонэтыкі, морфолёгіі і слоўніка—была такою, якою мы яе ведаем цяпер.

Як сьведкі гэтага для нас і каштоўны выданьні доктара Францішка Скарыны з Полацку.





**Профэсар Уладзімер Пічэта.**

Правадзейны Член Інстытуту Беларускае Культуры.

# Scoriniana.

*(1776—1926).*

## I.



б першым беларускім друкары, „доктары лекарскіх навук“ Францішку Скарыне, існуе вельмі значная літаратура, досыць рознастайная як па сваёй вартасьці, так і па тых паглядах, якія выказваліся аўтарамі аб жыцьці і дзейнасьці першага беларускага друкара. Вучоныя расійскія, беларускія, украінскія, чэскія і польскія,—усе ўнесьлі пэўную долю ў навуковую скарбніцу аб Скарыне, усе імкнуліся так ці іначай адгукнуцца на жыцьцё і дзейнасьць гэтага выдатнага прадстаўніка беларускае культуры ў першай палове XVI сталецьця.

Скарынай пачалі цікавіцца з таго моманту, як дасьледчыкам сталі вядомы надрукаваныя Скарынай кнігі. Знаходка тых ці іншых выданьняў Скарыны натуральна выклікала шэраг навуковых проблем, якія пазьней будуць так рознастайна распрацоўвацца ў навуковай літаратуры.

Вывучэньне жыцьця і дзейнасьці Скарыны пасоўвалася наперад надта павольна. Дасьледчыкі вельмі часта, ня маючы якіх-небудзь новых матар'ялаў, абмяжоўваліся паўтарэньнем тых суджэньняў і думак, якія былі выказаны іх папярэднікамі, і часта прытым бяз досыць крытычных адносін да іх. Такая пастаноўка скарынінскага пытаньня ня столькі разьвязвала яго, колькі яшчэ больш заблытвала.

Дасьледчая думка доўга блукала ў цемры адносна пытаньняў, зьвязаных з Скарынай. Гэта тлумачыцца яшчэ і тым, што большасьць дасьледчыкаў дакраналася дзейнасьці Скарыны толькі выпадкова, у залежнасьці ад тых ці іншых агульных заданьняў сваіх і мэт, ня робячы, пры гэтым, вывучэньне скарынінскае дзейнасьці выключным прадметам свайго дасьледваньня. Так цягнулася аж да канца 80-х гадоў мінулага сталецьця, калі ўпяршыню зьявілася вельмі грунтоўнае дасьледваньне П. В. Уладзімерава: „Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык. СПБ. 1888 г.“. З гэтага дасьледваньня і пачалося далейшае вывучэньне і паглыбленьне ўсіх пытаньняў, зьвязаных з дзейнасьцю Скарыны.

Першы пэрыод у вывучэньні скарынінскага пытаньня быў злучаны з знаходкай у бібліотэках і кнігазборах скарынінскіх выданьняў. Гэта вымушала дасьледчыкаў у сваіх працах датыкацца дзейнасьці Скарыны як друкара і перакладчыка, а ў сувязі з гэтым таксама закранаць і іншыя пытаньні, беспасрэдна зьвязаныя з перакладчай дзейнасьцю Скарыны.

Інтарэс да Скарыны зьявіўся толькі з паловы 70-х гадоў XVIII сталецьця, дзякуючы таму, што бібліотэкар Акадэміі Навук Бакмэйстэр знайшоў у бібліотэцы Акадэміі некалькі скарынінскіх выданьняў [1]). Гэта дало яму падставу зрабіць некаторыя ўвагі, якія пры гэтым часта розьніліся адна ад аднэй. Бакмэйстэр, аддаўшы Скарыне некалькі старонак, адразу-ж паставіў шэраг пытаньняў паршараднае важнасьці, датычных скарынінскага пытаньня з розных пунктаў пагляду. Натуральна, з прычыны адсутнасьці дакладных станоўчых даных, увагі Бакмэйстэра былі вельмі спрэчнымі. Так, Бакмэйстэр, натрапіўшы ў бібліотэцы Акадэміі на Пяцікніжжа Майсея, даў няверныя весткі адносна перакладу чатырох кніг Параліпомэнон. Бакмэйстэр ведае таксама і аб выданьні ў Вільні „Апостала“, хаця дату яго выданьня адносіць да 1517 году замест 1525.

Знаходка ў бібліотэцы былага Міністэрства Замежных Спраў новых кніг Скарыны: 4-х кніг „Царстваў“, „Юдыты“, „Эстэр“, „Руфь“, „Іова“ і „Данііла“, дала Штрытэру повад выказаць некалькі думак адносна Скарыны. Штрытэр зьвярнуў увагу на прадмовы Скарыны, пераказаў іх, і разам з тым закрануў шэраг пытаньняў, якія мелі адносіны да выданьняў Скарыны [2]).

Адначасна з Штрытэрам і Аляксееў, пазнаёміўшыся з „Апосталам“, выданым у Вільні ў 1525 годзе, закрануў друкарскую дзейнасьць Скарыны. У сваёй працы Аляксееў пазнаёміў чытача з Скарынай праз шэраг выпісак з прадмоў Скарыны і некаторых разьдзелаў „Апостала“ [3]).

Новы пэрыод у вывучэньні Скарыны распачаўся тады, калі чэскі вучоны Даброўскі [4]) ў часе вандроўкі сваёй па Расіі і Швэцыі ў 1792 годзе, заехаў у Пецярбург, і там зьвярнуў увагу на Пяцікніжжа Майсея з адзначэньнем Прагі, як месца выданьня скарынінскіх кніг. Разам з гэтым, Даброўскі высунуў шэраг пытаньняў, зьвязаных з выхадам скарынінскіх выданьняў і прабаваў даць на іх адказ, які крыху розьніўся ад адказаў яго папярэднікаў. Даброўскаму прыходзілася некалькі раз зварочвацца да Скарыны [5]). Яму пашанцавала знайсьці ў Мункачы ў Вэнгрыі паасобнік біблійных кніг Скарыны, сярод якіх кнігі „Ісуса Навіна“ і „Судзей“ зьяўляліся ўпяршыню ў бібліографічнай літаратуры. Даброўскаму таксама былі вядомы і сьпісы твораў Скарыны, якія знаходзіліся ў бібліотэцы Талстога. Базыль Сопікаў [6]) ужо ведаў усе 22 надрукаваныя біблійныя кнігі Скарыны. Ён ведае таксама і „Апостал“, і другое віленскае выданьне „Малую Подо-

---

[1]) Бакмейстер. „Essai sur la bibliothéque de l'Académie des Sciences á St.-Pétersbourg. 1776“ і „Опыт о библиотеке Императорской Академии Наук. СПБ. 1779“.

[2]) Штритер. Опыт трудов вольного Российского собрания. М. 1783. Стар. 177—194.

[3]) Алексеев П. А. Рассмотрение славянской старопечатной книги „Апостол“, которая справлена доктором Франциском Скориной из Полоцка; напечатана в Вильне, в 1525 г. Опыт трудов вольного Российского собрания при Московском Университете. М. 1783. Стар. 195—204.

[4]) Neuere Abhandlungen der K. Böhmischen Gesellschaft der Wissenschaften. Prag. 1795. Стар. 183—187.

[5]) Slovanka. Prag. 1815. I, стар. 153—156 і II, 1815, стар. 149—152: Geschichte der Böhmischen Sprache und ältern Literatur. Prag, 1818. Стар. 304.

[6]) В. Сопиков. Опыт российской библиографии. СПБ. 1813. Т. I.

рожную Книжицу", якая яму была знаёма пад загалоўкам „Акафистник" альбо „Каноник". Запраўдны загаловак другой, надрукаванай ў Вільні кнігі Сопікаву быў невядомы. Сопікаў не абмяжоўваўся адным толькі апісаньнем скарынінскіх кніг. Разумеючы ўсю культурную важнасьць гэтых выданьняў, Сопікаў імкнууўся паставіць скарынінскае пытаньне ўва ўсёй яго шырыні і даць на ўсе закранутыя ім пытаньні, наколькі магчыма, адказы. Усе дасьледчыкі, якія пазьней пісалі аб Скарыне, шырака карысталіся данымі папярэдняе літаратуры і, звычайна, нічога новага ад сябе ня ўносілі, а часта толькі заблытвалі пытаньне. Аднак, у сярэдзіне 40-х гадоў М. П. Пагодзіну ўдалася знайсьці ненадрукаваны пераклад Скарыны—кнігі Прарокаў, якія першы адзначыў ужо архібіскуп Філарэт [1]).

Некалькі пазьней львоўскаму вучонаму Галавацкаму [2]) ўдалася знайсьці ў бібліотэцы Львоўскага Сьвятаануфрыеўскага манастыра сьпіс рукапіснае бібліі, у якім апроч кніг, надрукаваных Скарынай, знаходзіліся таксама і сьпісы кніг, якія выданы ім ня былі. Галавацкі ня ведаў аб існаваньні рукапісу Пагодзіна і, на падставе дзьвёх кніг Параліпомэнон, якія знайшліся ў бібліотэцы вышэйпамянёнага манастыра, ён выказаў думку аб тым, што Скарына пераклаў усю Біблію, хаця і не пасьпеў усю надрукаваць. Галавацкі меў-бы ўпоўне належную падставу гэта зацьвярджаць, калі-б ён ведаў аб рукапісу Пагодзіна, які зьяўляўся натуральным дапаўненьнем Львоўскага рукапісу [3]). У кожным разе, Галавацкі першы выказаў прыпушчэньне, што Скарына пераклаў усю Біблію. Гэтая думка пазьней атрымала навуковае пагрунтаваньне ў працы Уладзімерава [4]). Зусім выключнай знаходкай, якая ўносіла новы момант у вывучэньне выдавецкае дзейнасьці Скарыны, зьяўляецца знаходка праскага „Псалтыру" 1517 году, які купіў аматар старадрукаваных кніг Хлудаў на Ніжагародзкім кірмашы. Гэта дало магчымасьць Віктараву ізноў вярнуцца да скарынінскага пытаньня і на падставе „Псалтыру" вырашыць некаторыя проблемы, зьвязаныя з дзейнасьцю Скарыны, крыху інакш у параўнаньні да ранейшых дасьледчыкаў [5]).

Калі частка дасьледчыкаў і бібліографаў цікавілася пытаньнямі, зьвязанымі з выданьнем Скарынаю кніг, і займалася азначэньнем як ліку яго выданьняў, так і месца іхняга выхаду, дык адначасна пачалі зьяўляцца паасобныя заметкі і артыкулы аб самім Скарыне, у якіх на падставе сабранага дасьледчыкамі матар'ялу, а таксама і розных іншых, часта вельмі суб'ектыўных даных, вучоныя імкнуліся скласьці пэўнае прадстаўленьне аб жыцьці і дзейнасьці Скарыны. У літаратуры было пастаўлена пытаньне аб нацыянальным пахаджэньні Скарыны, аб яго рэлігійным вызнаньні, шырака разглядаецца пытаньне аб тых агульных мотывах і меркаваньнях, якія ўплывалі на дзейнасьць Скарыны. Трэба адзначыць і тое, што многія з аўтараў, якія імкнуліся пранікнуць у таямніцу скарынінскага жыцьця і дзейнасьці, часта выказвалі фантастычныя думкі, ня маючы ніякіх падстаў і кіруючыся выключна суб'ектыўнымі меркаваньнямі. Гэты суб'ектывізм асабліва

[1]) Ар. Филарет. Обзор русской духовной литературы. СПБ. 1856 (Уч. Записки II Отд. Академии Наук).

[2]) Головацкий Я. Несколько слов о библии Скорины и о рукописной русской библии из XVI стол., обретающейся в библиотеке монастыря Св. Онуфрия в г. Львове (Науковый Сборник, 1865, во Львове, стар. 225—257).

[3]) Владимиров. Доктор Ф. Скорина. Стар. 221-222.

[4]) Ibidem, стар. 218.

[5]) Викторов. А. Е. Замечательное открытие в древне-русском книжном мире. Беседы в Обществе любителей Российской словесности. М. 1867. В. I. Стар. 1—27.

рэзка выяўляецца ў працах польскіх вучоных Ліндэ, Лелевэля, Вішнеўскага і Крашэўскага[1]). Ня менш суб'ектыўны і аднабаковы як Галавацкі, так і аўтар, вядомы пад імем Беларуса[2]). Трэба адзначыць, што Віктараў, які добра ведаў усю папярэднюю літаратуру, імкнуўся быць об'ектыўным і высунуў некалькі новых меркаваньняў адносна раней выказаных думак па скарынінскім пытаньні, але і ён таксама ня меў у сябе пад нагамі цьвёрдага грунту для такога адказу, які-б усіх пераканаў і высьветліў усе паднятыя ў навуцы сумненьні.

Другая частка дасьледчыкаў, як архібіскуп Філарэт[3]), мітрапаліт Макары[5]) і львоўскі вучоны А. Пятрушэвіч[20]), не дадалі нічога новага да жыцьцяпісу Скарыны і абмяжоўваліся толькі паўтарэньнем таго, што было выказана раней. Асобнае месца займае праца І. Каратаева, які даў новае і дакладнае апісаньне ўсіх скарынінскіх выданьняў. Гэтае апісаньне, зьяўляючыся даведачным падручнікам, значна дапоўніла і пашырыла вядомыя раней апісаньні Сопікава і Сахарава. Каратаеў надрукаваў цалкам прадмову Скарыны „во всю Библию руского языка" і паказаў гады выданьняў паасобных біблійных кніг Скарыны, а таксама і вядомыя яму расійскія бібліотэкі, дзе знаходзяцца скарынінскія выданьні[6]).

Такі бязупынны зварот дасьледчыкаў да скарынінскага пытаньня выяўна сьведчыць, які вялікі навуковы інтарэс маюць выданьні Скарыны, а таксама і тое, што дасьледчыкі добра зразумелі ўсё культурнае значэньне гэтых выданьняў.

Першае пытаньне, на якое імкнулася даць адказ гісторыографія, гэта—пытаньне аб месцы і часе выданьняў Скарыны. У гэтых адносінах найболей сумненьняў выклікала пытаньне аб часе надрукаваньня „Апостала". Так, Бакмэйстэр адносіць выданьне „Апостала" ў Вільні да 1517 году[7]). Аляксееў зусім правільна ўстанавіў дату выхаду „Апостала" ў 1525 годзе. Даброўскі таксама азначае дату выданьня „Апостала" 1525 годам[8]). Гэткім-жа чынам і Сопікаў прымае за дату выданьня „Апостала" 1525 год.[9]). Аднак, Ліндэ бароніць дату 1522 году[10]), хаця Bandtkie, які пісаў перад ім, у сваёй „Гісторыі Кракаўскіх друкарань" зусім дакладна адзначае год выхаду „Апостала"—1525 год[11]). Польскі дасьледчык Лелевэль з гэтай прычыны адзначае, што дзякуючы памылковаму паказаньню Ліндэ аб выхадзе „Апостала" ў 1522 годзе, тады як дата 1525 году азначана дакладна, магчыма скласьці зусім нявернае прадстаўленьне аб тым, нібыта „Апостал" быў надрукаваны Скарынай у Вільні два разы[12]). Аднак, гэтыя меркаваньні

---

1) Linde. O literaturze Rossijskiej. Pamiętnik Warszawski, 1815-1816 r. Стар. 277—279. Lelewel. Bidliograficznych ksiąg dwoje. Wilno, 1823. I. Стар. 52—55. Wiszniewski. Historya literatury polskiej. T. VIII. Kraków, 1851. Kraszewski. Wilno, t. IV. Wilno. 1842. Стар. 115.

2) Белорусс. Судьбы русского языка в костелах Северо-Западного края. „Русский Вестник" 1868 г. т. 78.

3) Ар. Филарет. Обзор русской духовной литературы. СПБ. 1856.

4) Митр. Макарий. История Русской церкви. Т. IX. СПБ. 1879.

5) А. Петрушевич. Ф. Скорина, издатель в Празе Чешской в 1517, 1518 и 1519 г. „Слово", 1875.

6) И. Каратаев. Описание славяно-русских книг. СПБ 1883. Сборник Отд. Рус. языка и слов. Академии Наук, т. XXXIV, № 2, № 13, стар. 28—43, № 14, стар. 43-44, № 18, стар. 57—59, № 19, стар. 59—67.

7) Бакмейстер. Op. cit. (1779), стар. 73.

8) Владимиров. Op. cit., стар. VII.

9) Сопиков. Op. cit., стар. 275.

10) Linde. Op. cit., стар. 295.

11) Bandtkie. Historya drukarań Krakówskich. 1815. Стар. 124-125.

12) Lelewel. Op. cit., стар. 53.

не пераканалі Крашэўскага ў тым, што „Апостал“ у Вільні быў выданы ў 1525 годзе. Крашэўскі нават прыводзіць зусім няправільныя даты— 1519 і 1522 гады [1]). Ня гледзячы на зусім ясныя даныя аб тым, што „Апостал“ быў надрукаваны ў Вільні ў 1525 годзе, і Кеппэн знаходзіць магчымым быць няпэўным адносна выхаду „Апостала“ ў гэтым годзе [2]). Архібіскуп Філарэт быў добра знаёмы з папярэдняю літаратурай. Ён таксама лічыць 1525 год датай выхаду „Апостала“ ў Вільні [3]). Пазьней дасьледчыкі як быццам лічылі гэтае пытаньне ўжо канчаткова разьвязаным.

Пытаньне аб тым, калі была выдана „Малая Падарожная Кніжыца“, аб якой стала ведама ў першы раз дзякуючы Сопікаву, таксама выклікала разнагалосьсі сярод дасьледчыкаў. Сопікаў, які меў паасобнік „Канонніка“, або „Акафістніка“, а таксама „Псалтыру“,— паасобнік без адзначэньня даты выхаду,—на падставе падабенства літар з літарамі „Апостала“ Скарыны, выказвае прыпушчэньне, што памянёныя кнігі былі надрукаваны ў Вільні каля 1525 году. Гэтая думка Сопікава, выказаная на падставе выпадковага падабенства літар, зразумела патрабавала пагрунтаваньня, бо кнігі друкаваліся ў аднэй друкарні, і зацьвярджаць толькі на падставе падабенства літар, што „Малая Падарожная Кніжыца“ вышла ў 1525 годзе, зразумела, нельга. Каратаеў, адзначыўшы, што год выданьня „Малое Падарожнае Кніжыцы“ не датаваны Скарынай, таксама адносіць надрукаваньне кнігі да 1525 году [4]).

Пытаньне аб часе выхаду праскага „Псалтыру“ ня было прадметам спрэчак, бо ў „Псалтыру“, які быў набыты на Ніжагародзкім кірмашы Хлудавым, быў дакладна паказаны час яго надрукаваньня [5]).

Таксама і час выхаду паасобных кніг бібліі не выклікаў сумненьняў, бо на кожным паасобніку паказаны быў год выданьня. Вялікую блытаніну ўносіць у гэтае пытаньне Вішнеўскі, які прыводзіць пры гэтым зусім няверныя даныя [6]). У апісаньні Каратаева дакладна азначаны час выхаду біблійных кніг, выданых Скарынай [7]). Даты выхаду паказваюць надзвычайную напружанасьць працы Скарыны. Толькі дзякуючы дзіўнай продукцыйнасьці працы, было магчыма ў параўнальна кароткі час надрукаваць так прыгожа і такі вялікі лік біблійных кніг.

Другое пытаньне, якое падымалася ў скарынінскай літаратуры, было пытаньне аб месцы выданьня скарынінскае бібліі. Ужо Штрытэр адзначыў, што кнігі Скарыны надрукаваны ў Празе. Не зварочваючы ўвагі на розныя эпітэты, якімі Скарына характарызаваў места Прагу, Штрытэр кінуў зусім бяздоказную думку аб тым, што кнігі Скарыны былі надрукаваны ў Празе Варшаўскай, а не Богэмскай [8]). Упоўне правы быў Даброўскі, калі выступіў супроць гэтага зацьвярджэньня, і паказаў, што месцам скарынінскіх выданьняў магла быць толькі Прага Чэская. У 1519 годзе Варшаўская Прага была вельмі нязначным маленькім мястэчкам, якое ня мела ніякага культурнага значэньня. Трэба дзівіцца, што дасьледчыкі не заўважылі гэтага. Аднак, і сам

[1]) Kraszewski. Op. cit. T. IV. Стар. 115.
[2]) Кеппен. Материалы для истории просвещения в России. Библиографические листы. СПБ. 1825. Стар. 79—84.
[3]) Ар. Филарет. Op. cit., стар. 129-130.
[4]) Каратаев И. Op. cit. T. I. № 19.
[5]) Ibid. № 14.
[6]) Wiszniewski. Op. cit. VIII. Стар. 468—470.
[7]) Каратаев. Op. cit., стар. 35—43.
[8]) Штриттер. Op. cit., стар. 193.

Даброўскі таксама спачатку думаў аб Празе Варшаўскай, але потым, удумаўшыся ў словы Скарыны, далучаныя як эпітэты да назовы Прагі, „в славном, великом, старом месте Пражском“, Даброўскі адкінуў думку аб Варшаўскай Празе і канчаткова схіліўся ў бок Чэскае Прагі [1]). Тым ня меней, і пасьля Даброўскага дасьледчыкі паўтаралі думку Штрытэра аб месцы выданьня скарынінскае бібліі ня ў Празе Чэскай, але ў Празе Варшаўскай. Гэтую думку падзяляў і мітрапаліт Аўген [2]). Аднак, у выданым ім „Словаре русских светских писателей“ (М. 1845 г.), мітр. Аўген, азнаёміўшыся з артыкуламі Даброўскага і Ліндэ, знайшоў магчымым ня трымацца рашуча думкі аб Празе Варшаўскай як месцы надрукаваньня біблійных кніг Скарыны, і дадаў, што „Добровский и Линде разумеют Богемскую Прагу“ [3]). Другі-ж духоўны пісьменьнік, арх. Філарэт, становіцца на бок думкі Даброўскага аб выхадзе кніг у Богэмскай Празе [4]). Пазьней гэтае пытаньне не выклікала ніякіх сумненьняў, бо атрымала поўнае і дакладнае разьвязаньне.

І адносна пытаньня аб месцы выхаду „Апостала“ і „Малое Падарожнае Кніжыцы“ выказаны былі супярэчныя думкі. Ня гледзячы на тое, што „Апостал“ быў выдадзены ў Вільні, і што гэта было зусім ясна і відавочна, знаходзіліся, аднак, дасьледчыкі, якія думалі інакш. Так, Вішнеўскі лічыў, што „Акафісты“ Скарыны вышлі ў Празе, а ня ў Вільні [5]), а Крашэўскі зусім без належных падстаў таксама выказаў думку аб тым, што „Апостал“ Скарыны быў выданы ў Празе, а ня ў Вільні [6]). Аднак, гэтыя погляды Вішнеўскага і Крашэўскага не ўсталяваліся ў навуковай літаратуры. Вучоныя трымаліся тае думкі, што апошнія два выданьні Скарыны былі надрукаваны ў Вільні.

Калі пытаньне аб ліку надрукаваных Скарынай кніг не выклікала ніякіх сумненьняў, дык адносна іншых пытаньняў не адразу ўстанавілася дакладная і азначаная думка. Так, Сопікаў [7]) адзначае, што пасьля віленскага выданьня „Псалтыру“—псалтыр быў выданы ў Вільні яшчэ два разы. Дзеля гэтага ён выказаў думку, што скарынінскі „Псалтыр“ быў некалькі разоў перавыданы. Гэтая думка, зразумела, ня мае абсолютна ніякіх падстаў. Таксама і Вішнеўскі зусім бяздовадна выказаў думку, што „Апостал“ Скарыны і „Псалтыр“ былі перадрукаваны маскоўскім друкаром Іванам Фёдаравым у Львове [8]). Думку аб тым, што „Апостал“ і „Псалтыр“ Скарыны неаднакроць перадрукоўваліся ў XVI сталецьці на Украіне, падтрымліваў таксама памянёны вышэй Беларус. Фантастычныя прадстаўленьні Беларуса аб дзейнасьці Скарыны дайшлі да таго, што ён зацьвярджаў нібыта кнігі бібліі ў перакладзе Скарыны, выдаваліся, асабліва некаторыя, па некалькі раз. Нарэшце, Беларус робіць уласную вынаходку. Ён прыпісвае Скарыне катэхізіс 1527 г., выданы ў Вэнэцыі, хаця для гэткага вываду ён ня меў ніякіх падстаў [9]). Зразумела, сур'ёзная навуковая літаратура за гэтымі довадамі не пайшла. У навуковай літаратуры ўстанавілася азначаная думка аб выданьні Скарынай „Псалтыру“ і 22 біблійных кніг у Празе, „Апостала“ і „Малое Падарожнае Кніжыцы“ ў Вільні,

---

[1]) Владимиров. Op. cit., стар. V.

[2]) Митр. Евгений. Биографии российских писателей. Ф. Скорина. „Сын Отечества“, 1821 г. Стар. 169—172.

[3]) Владимиров. Op. cit., стар. XI.

[4]) Арх. Филарет. Op. cit., стар. 129-130.

[5]) Wiszniewski. Op. cit., стар. 476.

[6]) Kraszewski. Op. cit. т. IV., стар. 115.

[7]) Сопиков. Op. cit., стар. 183.

[8]) Wiszniewski. Op. cit., стар. 474-475.

[9]) Белорусс. „Русский Вестник“, 1868 г. Т. 77. Стар. 143-144.

якія ні разу не перавыдаваліся. Але дасьледчыкі, як Галавацкі, Пагодзін, Даброўскі, паказалі, што ў розных бібліотэках ёсьць сьпісы з кніг скарынінскае бібліі. Знаходка гэтых сьпісаў магла сьведчыць аб тым, што кнігі Скарыны карысталіся посьпехам і былі вельмі пашыраны. Даброўскі зацьвярджае, што біблія Скарыны мела асабліва вялікае пашырэньне на Літве, Белай і Чырвонай Русі [1]).

Трэцяе пытаньне, якое было паднята ў літаратуры аб Скарыне, было пытаньне аб яго асобе. У пасьляслоўі да кожнай кнігі старога закону ўпоўне ясна адзначаліся дзьве біографічныя рысы: пахаджэньне з Полацку і вучоная годнасьць „доктора лекарских наук“ (повелением, працею и выкладом избранного мужа в лекарских науках доктора Франциска, Скоринина сына с Полоцка“, альбо „ученого мужа“ [2]). Упоўне зразумела, што дасьледчыкі жадалі падрабязьней пазнаёміцца з жыцьцём і дзейнасьцю Скарыны. Але дзеля таго, што фактычна ня было ніякіх даных, трэба было задавальняцца агульнымі ўвагамі. З тэй прычыны, што пэўная частка дасьледчыкаў не прызнавала Богэмскае Прагі месцам выданьня скарынінскіх кніг, апошняя зусім не паміналася ў жыцьцяпісу Скарыны. Мітр. Аўген абмежаваўся прывядзеньнем такіх жыцьцяпісных вестак аб Скарыне: Ф. Скарына, родам з Полацку, доктар мэдыцыны, які жыў у Вільні пры старэйшым бурмістры Якубе Бабічы, каля першай чвэрці XVI сталецьця. Мітр. Аўген ня быў знаёмы з творамі Даброўскага аб Скарыне, і ня дзіва, што ён прамінуў Прагу, як адзін з этапаў жыцьця і дзейнасьці Скарыны [3]). Вішнеўскі знайшоў новы факт з жыцьця Скарыны: навучаньне ў Кракаўскай Акадэміі, у якой ён атрымаў ступень доктара мэдыцыны і вольных навук [4]). Украінскі вучоны Огіенка таксама думае, што Скарына па адукацыі ёсьць студэнт Кракаўскага Унівэрсытэту, у якім ён атрымаў ступень доктара [5]). Іншыя дасьледчыкі таксама цікавіліся жыцьцяпісам Скарыны, але дзеля адсутнасьці якіх-небудзь даных, яны імкнуліся высьветліць дзейнасьць Скарыны прыналежнасьцю выдаўцы біблійных кніг і „Апостала“ да пэўнага вызнаньня. Адны вучоныя лічылі Скарыну каталіком, другія протэстантам, трэція—праваслаўным. Зразумела, кожны з дасьледчыкаў, у залежнасьці ад сваіх паглядаў, даваў характарыстыку дзейнасьці Скарыны ў адпаведным асьвятленьні.

Першым дасьледчыкам, які выказаў думку аб тым, што Скарына належаў да рымска-каталіцкага вызнаньня, альбо прынамсі да ўніцкага, быў Даброўскі. Яму трэба было прывесьці і тыя меркаваньні, якія маглі прымусіць Скарыну апынуцца ў Празе, бо аднэй прыналежнасьцю да каталіцтва альбо ўніцтва нельга яшчэ было вытлумачыць, чаму Скарына пасяліўся ў Празе. Для гэтага трэба было прывесьці болей пэўныя довады. Даброўскі так і зрабіў. Ён прывёў шэраг фактаў, якія ён штучна падабраў і якім ён даў тое тлумачэньне, якое было пажадана самому аўтару. Даброўскі думаў, што Скарына мог быць у сьвіце польскага караля Жыгімонта I ў часе яго падарожы ў Вену, адкуль Скарына мог накіравацца ў Вэнэцыю разам з пасламі, якія ехалі для ўтварэньня згоды з туркамі. Вэнэцыя славілася сваімі друкарнямі, і Скарына мог у Вэнэцыі заказаць матрыцы для сваіх літар, якія былі болей падобны да тых літар, якімі сэрбы друкавалі ў Вэнэцыі свае кнігі, чымся да літар расійска-славянскага

---

1) Владимиров. Op. cit., стар. VI.
2) Каратаев. Op. cit., стар. 35—42.
3) „Сын Отечества“, 1821 г., № 30, стар. 169—172.
4) Wiznewski. Op. cit., VIII. Стар. 466.
5) Огиенко. История литературы русской. Т. I. Львов, 1887. Стар. 155.

пісьма. Жыгімонт I, кароль польскі, у гэты час быў апякуном маладога чэскага караля Людовіка. На думку Даброўскага, Скарына таму і пасяліўся ў Празе, што мог карыстацца протэктарствам з боку польскага караля. Калі прыезд Скарыны ў Прагу зьвязваўся з апекай Жыгімонта I над чэскім каралём, дык і ад'езд Скарыны тлумачыўся тым, што ў Богэміі не захацелі прызнаць апякунчых праў польскага караля, і гэтая акалічнасьць прымусіла Скарыну пакінуць Прагу і ад'ехаць у Польшчу.

Калі Даброўскі тлумачыў дзейнасьць Скарыны палітычнымі адносінамі Польшчы і Чэхіі і ставіў у залежнасьць ад іх прыезд Скарыны ў Прагу і ад'езд адтуль,—ён ня прывёў, зразумела, ніякіх пэўных даных, якія пераканалі-б чытача ў справядлівасьці яго думак з поўнай яснасьцю [1]). Усьлед за Даброўскім і Ліндэ стаў на небясьпечны шлях фантазый. Пад пяром Ліндэ Скарына перакідаецца з беларуса ў паляка, і гэтым польскім пахаджэньнем тлумачацца адносіны Скарыны да Польшчы [2]). Думку Ліндэ давёў да недарэчнасьці Вішнеўскі, які, лічачы творы Скарыны „найслаўнейшым творам беларускае літаратуры", цалкам, аднак, аднёс іх да літаратуры польскай. І Ліндэ і Вішнеўскі для доваду сваіх думак ня мелі абсолютна ніякіх даных [3]).

Вэрсія аб каталіцкім вызнаньні Скарыны зрабіла пэўны ўплыў на дасьледчыкаў. Так, Навіцкі, робячы Скарыну каталіком, разглядае яго дзейнасьць як пропаганду на карысьць каталіцтва. Па думцы Навіцкага, пераклад біблії Скарыны зьявіўся таму, што каталіцкая царква імкнулася да пашырэньня каталіцтва сярод сялянства. З пункту погляду Навіцкага, адносіны каталіцкае царквы да сялянства былі да пэўнай ступені падвойнага характару: то яна дазваляла ўжываць славянскія кнігі для набажэнства, то строга забараняла карыстацца імі. У сувязі з такой палітыкай Рымскае курыі, пачалі зьяўляцца новыя пераклады сьвятога пісьма на славянскую мову, да якіх таксама належаць і пераклады Ф. Скарыны. Нарэшце, Навіцкі дапусьціў яшчэ адну памылку: ён зацьвярджаў, што кнігі Скарыны былі выдадзены ў Расіі. Гэты бяздоказны артыкул быў толькі адбіткам афіцыйных урадавых поглядаў на мінулае Беларусі, у якіх каталіцтву адводзілася занадта вялікая роля [4]).

Такі-ж самы погляд, але яшчэ яскравей выяўлены, яшчэ болей суб'ектыўны і без усялякай крытыкі, адбіўся ў артыкуле Беларуса. Аўтар прасякнуты нянавісьцю да польскае культуры і каталіцтва. Бязумоўна, аўтар ідэолёгічна далучаецца да афіцыйнай урадавай ідэолёгіі, якая праводзілася на Беларусі з такою настойлівасьцю М. Н. Мураўёвым. Аўтар разглядае Скарыну, як агента Жыгімонта I, якога волю ён выконваў, які перакладаў біблію для каталікоў. Усьлед за фантастычнымі поглядамі Даброўскага, і разьвіваючы далей апошнія, Беларус перакінуў Скарыну ў паверанага караля Жыгімонта I пры чэскім каралі Людовіку. Беларус быў знаёмы з раней выказанымі думкамі адносна прыналежнасьці Скарыны да каталіцтва і прысвоіў іх цалкам. Апроч таго, аўтар выказаў шэраг палажэньняў, пацьвердзіць якія дакладнымі адноскамі да крыніц немагчыма. Так, да ліку фантастычных прыпушчэньняў трэба аднесьці думку аб тым, што кнігі біблії ў перакладзе Скарыны, асабліва некаторыя, выдаваліся

[1]) Владимиров. Op. cit.. стар. VI.

[2]) Linde Pamiętnik Warszawskt, 1815, listopad, стар. 277.

[3]) Wisniewski. Op. cit. VIII, стар. 466. Е. Ф. Карский. „Белорусы", т. I. Вильна, 1904 г. Стар. 410.

[4]) Новицкий. О первоначальном переводе Св. Писания на славянский язык. Киев, 1837. Стар. 56.

па некалькі раз. Віленскае выданьне Скарыны, вядомае пад назваю „Малое Падарожнае Кніжыцы", Беларус называе каталіцкай кніжкай для набажэнства ў расійскай мове, пад назваю „Канонік" або „Акафістнік". Праўда, гэтае найменьне было ўпершае ўведзена Сопікавым. Невядома, адкуль Беларус узяў весткі аб тым, што палякі перасьледвалі Скарыну, і што Віленскі біскуп Іоан прызнаў яго пераклад біблії канонічным у 1526 годзе [1]). Гэткім чынам думка аб каталіцкім вызнаньні Скарыны была пушчана ў ход ня столькі з прычыны об'ектыўных даных, якія былі ў дасьледчыкаў, колькі па меркаваньнях часткова суб'ектыўных, часткова палітычных. І мітрапаліт Макары, аўтар „Гісторыі Расійскае Царквы", лічыць Скарыну каталікам [2]). Каталіком-жа лічыць Скарыну і Огіенка [3]).

Побач з вэрсіяй аб каталіцкім вызнаньні Скарыны, у літаратуры выказана была думка аб прыналежнасьці Скарыны да протэстанцкага вызнаньня, у залежнасьці ад чаго нібыта разьвівалася яго выдавецка-перакладчая дзейнасьць. Першы гэтае прыпушчэньне выказаў Копітар. На падставе знойдзенага ім у жыцьцяпісу Лютэра апавяданьня аб доктары Францішку Паляку, які быў у Лютэра ў Вюртэмбэргу ў 1529 годзе, а таксама і аб далейшых адносінах гэтага Францішка да Лютэра і Мэлянхтона, Копітар выказвае зусім бязгрунтоўнае прыпушчэньне аб тоесамасьці Францішка-Паляка і Францішка Скарыны. Зразумела, падабенства гэтае чыста выпадковае і яно не давала ніякіх падстаў Копітару для якіх-небудзь вывадаў адносна прыналежнасьці Скарыны да протэстанцкага вызнаньня. Памылка Копітара была ў тым, што ён не зьвярнуў увагу на тое, што Скарына быў у 1525 г. ў Вільні, дзе друкаваў свайго „Апостала". Гэты факт добра ўстаноўлены ў літаратуры, але ён чамусьці ня быў прыняты пад увагу Копітарам [4]). Апошняя думка доўга заставалася адзінокаю ў літаратуры. Толькі ў сярэдзіне 60-х гадоў зроблена была новая спроба пагрунтаваць яе навукова. Гэта зрабіў львоўскі вучоны Галавацкі, які рашуча далучае Скарыну да протэстанцкага вызнаньня. Галавацкі глядзіць на Скарыну як на папярэдніка рэформацыі. Ён зацьвярджае, што Скарына вучыўся ў Праскім Унівэрсытэце, быў сучасьнікам Марціна Лютэра і Мэлянхтона, быў добра знаёмы з іх творамі. Пераймаючы протэстантаў Чэхіі і Нямеччыны, Скарына хацеў выдаць біблію для сваіх землякоў у народнай мове, бо разам з протэстантамі лічыў, што сьвятое пісьмо ёсьць адзіная крыніца веры і пазнаньня. Каб унікнуць магчымых перашкод з боку духавенства, Скарына надрукаваў сваю біблію за рубяжом, у Празе. Для Галавацкага Скарына ёсьць асьветнік-самазванец, дзейнасьць якога была такая-ж шкодная, як і соцыніяніна Сымона Буднага [5]). Трэба адкінуць фантастычныя меркаваньні Галавацкага аб прыналежнасьці Скарыны да протэстанцтва. Але думка Галавацкага аб тым, каб злучыць дзейнасьць Скарыны з тагочаснай культурай і бачыць у дзейнасьці Скарыны толькі адбітак культуры эпохі—бязумоўна каштоўная. Дагэтуль дасьледчыкі падыходзілі да вывучэньня Скарыны надта адцягнена, надта адрывалі Скарыну ад рачавістасьці, якая яго акаляла. Калі разважаньні Галавацкага аб прыналежнасьці Скарыны да протэстанцтва трэба лічыць непаразуменьнем, як зусім бяздоваднуюю выдумку аўтара, дык бязумоўна вялікаю заслугай апошняга зьяўляецца яго спроба разглядаць дзейнасьць Ска-

[1]) Белорусс. Судьбы русского языка. („Русский Вестник". 1868 г. Т. 76).
[2]) Митр. Макарий. Op. cit. Т. IX. СПБ. 1879., стар. 303.
[3]) Огиенко. Op. cit., стар, 154—159.
[4]) Владимиров. Op. cit., стар. XIII—XIV.
[5]) Головацкий. Op. cit., стар. 228—232.

рыны, не адрываючы яго ад сучаснай яму культурнай абстаноўкі. І Чыстовіч таксама бяздоваднa прымае думку Галавацкага аб протэстанцкім вызнаньні Скарыны [1]). Нарэшце, адносна рэлігійнай прыналежнасьці Скарыны была выказана думка аб тым, што трэба лічыць Скарыну праваслаўным. Першы раз такое прыпушчэньне выказаў Вішнеўскі [2]). Болей дакладнае пагрунтаваньне і разьвіцьцё яно атрымала ў артыкуле Віктарава. Апошні, як ведама, першы пазнаёміў навуку з праскім „Псалтырам“ Скарыны, што нейкім чынам апынуўся ў Ніжнім Ноўгарадзе. Віктараў лічыць, што „гэты выдатны дзеяч у галіне стара-рускае літаратуры належаў да праваслаўнае царквы, прынамсі ў сваёй выдавецкай дзейнасьці ён клапаціўся не аб пашырэньні каталіцтва альбо лютэранства сярод сваіх землякоў, але аб узмацненьні сярод іх праваслаўя. Дзеля гэтага нам здаецца натуральным бачыць у васобе Скарыны не прапаведніка ў Расіі каталіцтва альбо рэформацыі, але хутчэй папярэдніка князёў Астроскіх, братоў Мамонічаў, князя Курбскага і іншых барацьбітоў, якія змагаліся ў XVI сталецьці ў Заходняй Расіі за праваслаўе супроць рэформацыі і рымскае пропаганды“ [3]). Сваю думку Віктараў грунтуе на праскім „Псалтыры“ і віленскіх выданьнях Скарыны, якім ён процістаўляе праскія выданьні Скарыны. Аднак, Віктараў ня зусім быў пэўны ў правільнасьці свайго пагляду. Зусім правільна ён зьвярнуў увагу на тое, што Скарына вядомы пад двама імёнамі: Юры і Францішак. Існаваньне двох імён Віктараў тлумачыць тым, што Скарына запраўды мог быць ахрышчаны спачатку лацінскім абрадам, а потым мог перайсьці ў праваслаўе. Апошнюю ўвагу трэба, зразумела, лічыць мала пераканаўчаю. Мабыць і сам Віктараў усьведамляў сабе няпэўнасьць свае думкі. Недарэмна гэтае сваё прыпушчэньне ён прывёў ня ў самым тэксьце артыкулу, а ў форме ўвагі. Думку Віктарава аб прыналежнасьці Скарыны да праваслаўя падзяляў і А. Пятрушэвіч. Зацьвярджаючы прыналежнасьць Скарыны да праваслаўя, аўтар добра разумеў, што існаваньне двох імён у Скарыны, праваслаўнага і каталіцкага, патрабуе высьвятленьня, бо, у вадваротным выпадку, давесьці прыналежнасьць Скарыны да праваслаўя немагчыма. Упоўне правільна рабіў аўтар, калі прабаваў вытлумачыць, чаму Скарына меў два імёны. Аўтар досыць проста тлумачыць гэта. Ён адзначае, што Скарына вучыўся ў Кракаўскім Унівэрсытэце і прыняў імя Францішка толькі ўмоўна, толькі каб паступіць у Кракаўскі Унівэрсытэт. Імя-ж Юрага знаходзіцца пад портрэтам Скарыны 1517 году. Аднак, сам аўтар портрэту ня бачыў, але адносіцца да „Крестного Календаря“ 1873 году, у якім наогул шмат фантастычных вестак аб дзейнасьці Скарыны. Досыць адзначыць, што, па думцы „Крестного Календаря“, Скарына надрукаваў усю біблію ў 1525 годзе, як і „Апостал“, у Вільні. Сам Скарына робіцца агульнарасійскім першым друкаром. Будучы праваслаўным і сумуючы аб адсутнасьці ў Расіі асьветы і аб рэдкасьці кніг сьвятога пісьма, працавіты доктар Скарына ўсяго сябе прысьвяціў духоўнай дапамозе праваслаўю і расійскаму народу. Зразумела, адноска да такой фантастычнай крыніцы выклікае сумненьні. Наогул, пытаньне, пастаўленае Віктаравым адносна прычын падвойнасьці імён Скарыны, і пасьля артыкулаў Пятрушэвіча засталося нявырашаным [4]).

[1]) Чистович. Очерк истории Западно-Русской церкви. СПБ. 1882. I. Стар. 217-219.
[2]) Wiszniewski. Op. cit., VIII. Стар. 477.
[3]) Викторов. Op. cit., стар. 20.
[4]) Владимиров. Op. cit., стар. XXI-XXII.

Пытаньне аб крыніцах перакладаў Скарыны зьяўляецца кардынальным пытаньнем у справе вывучэньня яго дзейнасьці. Бакмэйстэр першы пусьціў у ход думку, якую потым так часта паўтаралі дасьледчыкі, што „Пяцікніжжа“ Скарыны перакладзена „с латинской Библии—Вульгаты называемой“. Раўнаючы царкоўна-славянскія выданьні бібліі 1663 году і 1731 году, Бакмэйстэр адзначыў розьніцу гэтых выданьняў ад „Пяцікніжжа“ Скарыны. Гэта дало Бакмэйстэру падставу зацьвярджаць аб перакладзе бібліі Скарынай з Вульгаты [1]). Тую-ж думку выказаў і Штрытэр. Па словах яго, „от всех славяно-российских печатных Библий и переводов отличается перевод Скорины тем, что большую часть с Вульгаты, т. е. латинского общего перевода Блаженного Иеронима сделан“. Сваю думку Штрытэр выказаў таксама і ў іншым месцы, дзе пісаў, што пераклад Скарыны „не из 70 толковников, но из Вульгаты сделан“ [2]). Гэтую думку першы раз парушыў Даброўскі, які выказаў прыпушчэньне, што Скарына карыстаўся для свайго перакладу чэскай бібліяй. Гэта і было галоўнай прычынай, якая прымусіла Скарыну пасяліцца ў Празе, каб карыстацца тлумачэньнямі спэцыялістых у тых выпадках, калі самы тэкст быў для яго незразумелым. Бясспрэчна, зробленая Даброўскім пастаноўка пытаньня зьяўлялася правільнай. Але каб давесьці сваю думку, Даброўскі не зрабіў ніякага дасьледваньня. Разам з тым Даброўскі адхіліў пераклад „Апосталу“ з Вульгаты, бо лічыў, што скарынінскі „Апостал“ ёсьць выпраўлены славянскі тэкст. Зразумела, думка Даброўскага была вельмі каштоўнай, і далейшым дасьледчыкам прышлося з ёю лічыцца. Але пройдзе яшчэ шмат часу, калі ідэі Даброўскага знойдуць далейшае разьвіцьцё ў артыкуле Галавацкага [3]).

Базыль Сопікаў, за два гады перад выхадам артыкулу Даброўскага, выказаў спачатку прыпушчэньне, што „Библия Русская Скорины переведена с латинского перевода, именуемого Вульгата“. Але Сопікаў выказаў таксама і іншую думку, што „достопамятный словенский перевод Библии славного Полоцкого доктора Скорины, изданный им в начале XVI века, не есть новый, но тот-же древний и только им несколько исправленный и поясненный, ибо только близкое оного сходство с нынешним служит тому ясным доказательством“, і для сільнейшага доваду прыводзіць выпіску з „Апосталу“ Скарыны. Ня гледзячы на такое зацьвярджэньне, Сопікаў яшчэ раз выказаў прыпушчэньне, што „Апостал“ альбо „Дзеяньні“ перакладзены з лацінскага перакладу, які завецца Вульгатай. Так Сопікаў заблытаўся ў сваіх прыпушчэньнях адносна крыніц перакладу скарынінскае бібліі і, стаўшы на ўпоўне правільны шлях, адначасна выказаў дзьве думкі, супраціўныя першай [4]).

І мітрапаліт Аўген лічыць таксама, што Скарына пераклаў біблійныя кнігі з лацінскага Гаронімава тэксту альбо Вульгаты [5]). Зразумела, тыя дасьледчыкі, якія лічылі Скарыну каталікам, думалі, што пераклад зроблены з Вульгаты. І арх. Філарэт, а пазьней і мітр. Макары, лічылі таксама, што пераклад старога закону Скарыны зроблены на „літоўска-рускую мову“ з Вульгаты [6]). Каратаеў таксама, грунтуючыся на прадмове Скарыны да кнігі „Эстэр“, думаў, што Скарына

[1]) Бакмейстер. Op. cit., стар. 65—69.
[2]) Штриттер. Op. cit., стар. 178 і 191.
[3]) Владимиров. Op. cit., стар. VII-VIII.
[4]) Сопиков. Op. cit., стар. 9. 25, 275.
[5]) Владимиров. Op. cit., стар. XI. „Сын Отечества“, 1821, стар. 169—172.
[6]) Арх. Филарет. Op. cit., стар. 129-130. Митр. Макарий. Op. cit. T. IX. Стар. 303-304. Каратаев. Op. cit., стар. 42.

пераклаў сваю біблію з Вульгаты. Усе гэтыя рашучыя зацьвярджэньні выказваліся ня гледзячы на тое, што ў літаратуры існаваў і погляд Даброўскага, які крыху розьніўся ад думак Бакмэйстэра і Штрытэра. Погляд гэты застаўся, аднак, невядомым і мітр. Аўгену, і Філарэту, і Макарыю, якія бяздоватна зацьвярджалі, што пераклад зроблены з лацінскае Вульгаты.

Галавацкі разышоўся з папярэднімі дасьледчыкамі, адносна крыніц перакладу біблii Скарыны. Усьлед за Даброўскім, які стаў на зусім правільны шлях пры разьвязаньні пытаньня, Галавацкі рашуча адхіліў тэкст Вульгаты як крыніцу для перакладу Скарыны. Галавацкі ня меў пад рукамі друкаваных выданьняў Скарыны, але, пазнаёміўшыся з выняткамі з яго друкаваных кніг, зьмешчанымі, як далучэньні, у граматыцы доктара Лявіцкага, ён знайшоў у біблii Скарыны шмат чэхізмаў, якіх, зразумела, не магло-б быць, калі-б Скарына не карыстаўся чэскай бібліяй. Той-жа Галавацкі адзначыў адсутнасьць чэхізмаў у „Апостале". Праўда, Галавацкі не давёў свайго прыпушчэньня, але важна тое, што ён ізноў паставіў на чаргу пытаньне аб крыніцах перакладу біблii Скарыны [1]). Да гэтага-ж пытаньня вярнуўся і ананімны аўтар артыкулу, які спэцыяльна быў прысьвечаны Скарыне: „Отношение перевода Скорины к Вульгате и древне-славянскому тексту". Аўтар параўнаў 10 разьдзелаў кнігі „Бытія" ў выданьні Скарыны з Вульгатай і славянскім перакладам у рукапісу XV сталецьця. Праз гэтае параўнаньне аўтар прышоў да вываду, што пераклад з Вульгаты зроблены не заўсёды правільна і дакладна. Скарына ўносіў у пераклад словы і цэлыя месцы з славянскага перакладу і, значыцца, ён меў на ўвазе ня новы пераклад, а выпраўленьне старога, застарэлага [2]). І Пэрвольф таксама разыходзіўся з тымі аўтарамі, якія баранілі вэрсію перакладу скарынінскае біблii з лацінскае Вульгаты. Пэрвольф рашуча адзначыў, што ў аснову свае працы Скарына палажыў чэскі тэкст біблii 1506 году [3]).

Так у навуковай літаратуры былі выказаны дзьве зусім процілеглыя думкі аб крыніцах перакладу Скарыны. Абедзьве думкі выказаны былі ў самай агульнай форме і патрабавалі новага парагляду і довадаў.

Вельмі спрэчным было пытаньне аб мове Скарыны. Дзякуючы Штрытэру, у навуковай літаратуры ўсталявалася думка, што мова Скарыны ёсьць мова польская. Штрытэр знаходзіў магчымым рашуча зацьвярджаць, што „сей перевод российской Библии несколько подходит к польскому языку". Штрытэр аднёс Скарынінскую біблію да расійскай біблii і, сам таго не прыкмячаючы, трапіў у супярэчнасьць з самім сабою, калі назваў мову Скарыны польскаю моваю. Як магла быць расійская біблія польскай па мове, на гэтае, зусім зразумелае зьдзіўленае пытаньне ня здолеў-бы адказаць і сам аўтар [4]). Усьлед за Штрытэрам, шэраг польскіх дасьледчыкаў лічыць мову Скарыны польскаю моваю. На думку Ліндэ, мова Скарыны блізкая да мовы польскай, бо наогул беларуская мова „tak bardzo do polszczyzny zbliżony dyalekt" [5]). І Вішнеўскі, лічачы творы Скарыны „найслаўнейшымі

---

[1]) Головацкий. Op. cit., стар. 241.

[2]) „Чтения в Обществе любителей духовного просвещения". 1877. Лістапад. Стар. 642—653. Гэты артыкул першым адзначыў А. І. Сабалеўскі. „Жур. Мин. Нар. Прос.", 1888 г. X, стар. 322.

[3]) Первольф. Славянская взаимность с древнейших времен до 18 века. Варшава 1874 г. Стар. 253-255.

[4]) Штриттер. Op. cit., стар. 193.

[5]) Linde. Op. cit., стар. 126.

творамі беларускае літаратуры", думае, аднак, што мова беларуская найболей блізкая да мовы польскай [1]). Зразумела, калі польскія дасьледчыкі ставілі пытаньне аб мове ў такой форме, дык яны цалкам адбівалі той настрой польскае навукі, якая, разглядаючы беларускую мову як мову самастойную, як польскую, чэскую і расійскую, і называючы яе моваю крывіцкаю, лічыла, што апошняя ня мае нічога супольнага з моваю расійскаю. Для такіх пісьменьнікаў Скарына ёсьць дзіця польскае культуры, а яго творы прылічваюцца да польскай літаратуры. Але іншыя дасьледчыкі не пайшлі за польскімі вучонымі ў пытаньні аб прыналежнасьці Скарыны да Польшчы і па мове і, часткова, па нацыянальнасьці.

Сопікаў спэцыяльна не закранаў пытаньня аб мове Скарыны, але ён называе мову пісьменнасьці XVI сталецьця, незалежна ад таго, дзе вышлі выданьні, беларускаю моваю, якая, на яго думку ёсьць мешаніна з моў славенскай, расійскай, польскай і, часткова, лацінскай. Сопікаў, называючы мову кніг, надрукаваных у XVI сталецьці, моваю беларускаю, ня прыкмеціў, аднак, таго, што кнігі, да якіх ён адносіцца, былі выдадзены на Украіне і географічна былі вельмі далёкімі ад Беларусі. Але за Сопікавым застаецца пяршынства пастаноўкі пытаньня аб беларускай мове, на якой ужо існавала значная друкаваная літаратура [2]).

У процілегласьць Сопікаву, Кепэн думае, што мову кніг і рукапісаў XVI-XVII сталецьцяў ня трэба называць беларускай. Ён выказваецца за назву яе літоўска-рускай [3]). Гэткім чынам, у першай чвэрці мінулага сталецьця быў устаноўлены факт існаваньня беларускае мовы. Аднак, супроць найменьня мовы пісьменнасьці XVI-XVII сталецьцяў моваю беларускаю рашуча выступіў О. М. Бадзянскі, які пісаў, што „мова, якая называецца беларускаю моваю,—гэта мова, на якой ніхто ніколі не гаварыў і не гаворыць, бо яна ёсьць найагіднейшая мешаніна, якую толькі можна сабе ўявіць і якая калі-небудзь існавала на Русі" [4]). Усьлед за Бадзянскім, і Галавацкі выказваецца супроць назвы мовы Скарыны беларускаю, бо „то мова ні беларуская, ні вялікаруская, ні маларуская, але кніжная, штучная, якой ніхто ніколі не ґаварыў і не гаворыць" [5]). Арх. Філарэт, сьледам за Кепэнам, называе мову Скарыны літоўска-рускай [6]). Гэтай-жа тэрмінолёгіі трымаюцца Сахараў і Каратаеў [7]). Е. Ф. Карскі зусім правільна аб гэтым заўважыў, што тэрмін „літоўска-руская мова" вельмі няўдалы. Калі прыняць гэты тэрмін, кажа Карскі, дык „можна было-б падумаць, што беларуская гутарка ўспрыняла ў сябе элемэнты літоўскае мовы, чаго ў рачавістасьці ня было [8]). Усе аўтары, якія імкнуліся даць мове Скарыны тое ці іншае азначэньне, мала паглыбляліся ў асаблівасьці яго мовы. Дзеля гэтага, альбо іхняя тэрмінолёгія была ня зусім удалая, альбо беларуская мова, з розных меркаваньняў, сустракала з іх боку варожыя адносіны да сябе. Толькі профэсар Маскоўскага Унівэрсытэту Буслаеў першы аднёсься навукова да беларускай мовы. Ф. І. Буслаеў у сваёй „Исторической Хрестоматии" надрукаваў ад-

---

[1]) Wiszniewski Op. cit. VIII, 469.
[2]) Карский. Е. Ф. Op. cit., стар. 407.
[3]) Кеппен. Op. cit., стар. 267-268. Владимиров. Op. cit. XII.
[4]) Бодянский О. М. О моих поисках в Познанской публичной библиотеке Чт. в. Об. Ист. и Древ. 846, № 1. Карский Е. Ф. Op. cit., стар. 410.
[5]) Головацкий. Op. cit., стар. 251. Владимиров. Op. cit., стар. XIX. Карский Е. Ф. Op. cit., стар. 410.
[6]) Владимиров. Op. cit., стар. XII. Карский. Op. cit., стар. 411.
[7]) Карский. Op. cit., стар. 410.
[8]) Ibidem.

рыўкі з перакладаў Скарыны і далучыў да іх увагі. Буслаеў бачыць у мове перакладу біблійных кніг узор беларускае гутаркі пачатку XVI сталецьця. У граматычных адносінах гутарка гэтая нічым істотным не адрозьніваецца ад вялікарасійскай, але мае шмат моўных слоўнікавых асаблівасьцяй, часткова мясцовых, часткова запазычаных з польскае мовы [1]). Сьледам за Буслаевым, і Аганоўскі называе мову Скарыны моваю беларускаю [2]). Гэтую думку падзяляе і Язэп Пэрвольф, які, адзначаючы спробы перакладу сьвятых кніг на народную беларускую мову, прылічвае кнігі Скарыны да кніг, перакладзеных на беларускую мову [3]). Гэткім чынам, у палове 80-х гадоў XIX сталецьця за мовою Скарыны цьвёрда ўсталявалася найменьне мовы беларускае.

Ня гледзячы на гэта, мова Скарыны ўсё яшчэ ня была прадметам спэцыяльнага дасьледваньня з боку лінгвістых і гісторыкаў літаратуры. Некалькі ўваг адносна мовы Скарыны зрабіў Е. Ф. Карскі. Так, ён аднёс віленскі рукапіс, які зьмяшчаў у сабе кнігі Іова, Руфь, Псалтыр, Песьні Песень, Эклезіаст, Прыповесьці Саламонавы, Плач Ераміі, Данііла і Эстэр, паводле мовы да прац Скарыны [4]).

А. І. Сабалеўскі таксама сказаў некалькі слоў аб мове Скарыны ў сваёй грунтоўнай рэцэнзіі аб працы Карскага „Обзор звуков и форм белорусской речи“. Крытычныя ўвагі А. І. Сабалеўскага тым цікавей, што амаль праз год аўтар, у сваёй рэцэнзіі аб дасьледваньні Уладзімерава, выказаў нешта, зусім процілеглае да таго, што ён казаў у вадозьве аб працы Карскага. Сабалеўскі лічыць, што разам з утварэньнем „Заходня-Рускае дзяржавы беларуская гутарка зрабілася дзяржаўнаю моваю ў Заходняй і часткова ў Паўднёвай Расіі“. Але адначасна „мова грамат і Літоўскага Статуту ніколі ня была моваю ўсяго жыхарства Заходняе Русі. Гэта была мова вышэйшае клясы, тэй клясы, якая падлегла ўплыву польскае культуры. Адсюль зразумелы досыць значны лік польскіх слоў, формаў і зваротаў, якія мы знаходзім у гэтых помніках“. Сабалеўскі адзначае, што ў „Бібліі“ Скарыны і ў лютэранскім катэхізісе 1562 году беларуская гутарка зьяўляецца перамешанай з царкоўна-славянскаю моваю, з дадаткам значнага ліку полёнізмаў і богэмізмаў. Скарына, родам з Полацку, друкаваў сваю „Біблію“ ў чэскай Празе, дзе, напэўна, ён жыў доўгі час. З гэтай прычыны прысутнасьць у тэксьце яго богэмізмаў зьяўляецца да пэўнае ступені натуральнай. Прымешка чужых элемэнтаў робіць „заходнярускую літаратурную мову XVI-XVIII сталецьцяў шмат у чым рознай ад сучаснай беларускай гутаркі“. Усе гэтыя паасобныя ўвагі аб характары мовы Скарыны былі выказаны толькі між іншым. Мова Скарыны патрабавала самастойнага вывучэньня як з лексычнага, так і з сынтаксычнага боку [5]).

Знаходка кніг Скарыны выклікала патрэбу іх апісаньня. Першы раз гэта зрабіў Сопікаў. Апісаньне Сопікава, як зусім правільна адзначае Уладзімераў, вельмі няўдалае. У яго апісаньні ёсьць досыць многа грубых памылак, выняткі і загалоўкі прыведзены няверна. Нават загаловак бібліі недакладны. Гэтае апісаньне захоўвала сваю каштоўнасьць да зьяўленьня працы Каратаева (1878), якая ў 1883 годзе была дапоўнена і выпраўлена. Каратаеў апісаў усе вядомыя друкаваныя выданьні Скарыны, прывёў прадмову Скарыны „во всю Библию

[1]) Карский. Op. cit., стар. 410. Владимиров. Op. cit., стар. XVI.
[2]) Владимиров. Op. cit., стар. XXV.
[3]) Первольф И. Славяне и их взаимные отношения и связи. Варшава 1886—1893. Т. II, 595—601. Карский Е. Ф. Op. cit., стар. 413.
[4]) Карский Е. Ф. Обзор звуков и форм белорусской речи. М. 1888., стар. 239.
[5]) Соболевский А. И. „Журнал Мин. Нар. Пр.“ 1887, V, стар. 137-138.

рускаго языка", выправіў памылкі першага выданьня. Толькі ў другім выданьні Каратаеў правільна назваў другое віленскае выданьне Скарыны і надрукаваў зьмест „Малое Падарожнае Кніжыцы" [1]).

II.

Уся навуковая літаратура аб Скарыне да канца 80-х гадоў мінулага сталецьця падыходзіла з розных бакоў да Скарыны і яго дзейнасьці. У навуцы намнажаліся факты, выказваліся розныя прыпушчэньні і думкі, часта зусім процілеглыя. Трэба было абхапіць увесь гэты матар'ял аб Скарыне, пераглядзець яго, зрабіць дадатковыя шуканьні ў архівах і бібліотэках, каб праверыць раней выказаныя думкі і разьвязаць пытаньні, якія ня мелі яшчэ належнага адказу. Дасьледчая думка, па меры намнажэньня фактаў і пашырэньня вед аб Скарыне, імкнулася тлумачыць мотывы яго дзейнасьці прыналежнасьцю да пэўнага вызнаньня. Праўда, гэта рабілася зусім бяздоваднa. Аднак, можна лічыць прынцыпова правільным падыход да Скарыны Галавацкага, які зьяўленьне скарынінскіх выданьняў тлумачыў уплывам рэформацыі і протэстанцтвам Скарыны. Хаця такі пагляд Галавацкага вельмі аднабаковы, але мэтодолёгічна ён зусім правільны. Гэткім чынам, уся дзейнасьць Скарыны патрабавала новага асьвятленьня. Патрэбна было агульнае монографічнае дасьледваньне, якое падлічыла-б усё раней выказанае, выкінула-б усё непатрэбнае аб Скарыне, адмовілася-б ад усялякіх бяздоваднных прыпушчэньняў і адначасна дало-б дакладнае і яснае, навуковае, пагрунтаванае крыніцамі ўяўленьне аб дзейнасьці Скарыны. Так з усяе папярэдняе літаратуры вырасла монографія П. В. Уладзімерава „Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык" (СПБ. 1888. XXXI+351). Вельмі каштоўнае дасьледваньне Уладзімерава зьявілася выходным пунктам для ўсіх тых дасьледчыкаў, якія пазьней у сваіх навуковых занятках зварочваліся да Скарыны.

Дасьледваньне Уладзімерава складаецца з прадмовы і дзьвёх частак. У прадмове даецца агляд усяе літаратуры пытаньня, прычым апошняя разглядаецца ў хронолёгічным парадку, пачынаючы ад 1776 году. Першая частка складаецца з чатырох разьдзелаў. У першым разьдзеле аўтар дае сьціслую характарыстыку агульнага стану моральнага, рэлігійнага і разумовага жыцьця Літоўска-Беларускае дзяржавы ў XV—XVI сталецьцях, а разам з тым дае і жыцьцяпісныя весткі аб Францішку Скарыне. Пры гэтым аўтар выказвае шэраг сваіх меркаваньняў адносна спыненьня Скарынай друкарскае дзейнасьці. Разьдзел другі заняты ўсебаковым вывучэньнем праскіх выданьняў Скарыны. Разьдзел трэці аддан віленскім выданьням Скарыны. Нарэшце, разьдзел чацьверты закранае вельмі цікавае пытаньне аб уплыве выданьняў Скарыны на далейшыя славянскія і расійскія выданьні як у друкарскіх адносінах, так і адносна рэдакцыі тэксту. У другой частцы гэтага разьдзелу аўтар памінае пераклады Скарыны ў рукапісных сьпісах XVI сталецьця, сярод якіх знаходзяцца сьляды згубленых кніг з скарынінскага перакладу поўнае бібліі. Потым аўтар закранае пытаньне аб прадоўжніках Скарыны і перакладах прадмоў Скарыны ў расійскіх помніках XVI сталецьця.

Частка другая спэцыяльна прысьвечана вывучэньню мовы Скарыны. Нарэшце, у працы дадзены шэраг каштоўных дадаткаў. Папер-

[1]) Владимиров. Op. cit., VIII. XXV-XXVI. Каратаев. Описание славяно-русских книг. СПБ. 1878. Каратаев. Описание славяно-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами. Т. I, с 1491 до 1625 года. СПБ. 1883.

шае, 2 докумэнты з Літоўскае Мэтрыкі, кнігі Судных Спраў № 4 аркуш 203, і кнігі запісаў № 16, аркуш 263. Гэтыя докумэнты маюць вялізарнае значэньне для жыцьцяпісу Скарыны. Аўтар таксама надрукаваў прадмову да праскага „Псалтыру" 1517 году і першы разьдзел з кнігі „Іова" ў тэкстах: Скарыны, Фіоля, паўднёва-славянскім, па сьпісе Ленінградзкае Публічнае Бібліотэкі, па рукапісным зборы Віленскае Публічнае Бібліотэкі. Потым прыводзіцца першы разьдзел з „Песьні Песень" у перакладзе Скарыны і па рукапісах Маскоўскае Сінодальнае і Віленскае Публічнае бібліотек. Дадаткі да кнігі Уладзімерава канчаюцца перадрукам XII разьдзелу з кнігі „Эстэр" у перакладзе Скарыны і аднаго адрыўку з „Малое Падарожнае Кніжыцы".

Праца Уладзімерава ахапляе ўсю дзейнасьць Скарыны. Зразумела, у сваім дасьледваньні Уладзімераў знаходзіцца ў пэўнай залежнасьці ад сваіх папярэднікаў, якія і высунулі тыя ці іншыя проблемы. Але тады як яго папярэднікі толькі намячалі пытаньне, альбо яго стаўлялі, Уладзімераў усебакова вывучаў тую ці іншую навуковую проблему. Зусім правільным трэба лічыць жаданьне Уладзімерава зьвязаць жыцьцё і дзейнасьць Скарыны з агульнымі культурнымі абставінамі тых часоў. Адсюль упоўне зразумела, што аўтар павінен быў зьвярнуць сваю ўвагу на культурны стан Беларусі ў XVI сталецьці і культурныя сувязі Беларусі з Заходняй Эўропай. Зусім незразумела толькі, чаму аўтар, характарызуючы культурны стан Літоўска-Беларускае дзяржавы ў XVI сталецьці, адносіць сваю характарыстыку да „Паўднёва-Заходняе Расіі", г. зн. да Украіны.

Уладзімераў, характарызуючы маральны, рэлігійны і разумовы стан жыцьця Беларусі ў XV-XVI сталецьцях, шырака карыстаўся папярэднімі дасьледваньнямі па гэтым пытаньні, так што ў гэтых адносінах яго характарыстыка нічога новага не дае. Усё ў асноўных рысах было выказана Салаўёвым, Бестужавым-Румінам, Чыстовічам, мітрапалітам Макарыем. Аўтар зусім правы, калі, констатуючы заняпад духавенства, паказвае на ўзвышэньне брацтваў, якія распачалі змаганьне з маральна-рэлігійным і разумовым заняпадам у Літоўска-Беларускай дзяржаве. Бязумоўна, упоўне правільна думка аўтара высунуць гарадзкую буржуазію, як соцыяльную групу, якая ў XVI сталецьці мела вялікі культурны ўплыў на грамадзкае жыцьцё. Аўтар адзначае факт існаваньня вялікага ліку бібліотэк у Вялікім Княстве Літоўскім, у якіх знаходзіліся як рукапісныя царкоўна-славянскія помнікі, так і паасобныя кнігі раньніх кракаўскіх друкаваных выданьняў. Аўтар паказвае, што ў рукапісных помніках магчыма адзначыць шмат глёссаў, калі на бакох кнігі тлумачыліся ў народнай мове незразумелыя словы. У далейшым, пры перапісцы кніг, гэтыя глёссы звычайна ўводзіліся ў самы тэкст кнігі, дзеля чаго самая кніга па мове прымала некалькі іншы характар. Нарэшце, аўтар адзначае існаваньне культурных адносін між тагочасным грамадзянствам і Заходняй Эўропай. Прадстаўнікі беларускае і украінскае арыстократыі, якую аўтар усюды называе рускай, езьдзілі за кардон прадаўжаць сваю адукацыю, між іншым бывалі і ў Польшчы. Дзякуючы культурным сувязям паміж Чэхіяй і Польшчай з аднаго боку і Вялікім Княствам Літоўскім з другога, пашыраны былі чэскія і польскія выданьні, асабліва біблії [1]). Трэба лічыць характарыстыку культурнага стану Літоўска-Беларускае дзяржавы, зробленую Уладзімеравым, правільнай, але трэба адзначыць, што Уладзімераў, галоўным чынам, характарызуе культурны стан Вялікага Княства Літоўскага ў другой палове XVI сталецьця, тады як канец XV і першая

[1]) Владимиров. Доктор Ф. Скорина, 1—43.

чвэрць XVI сталецьця, калі разьвівалася перакладчая і выдавецкая дзейнасьць Скарыны, не атрымалі ў працы Уладзімерава належнага поўнага асьвятленьня. Загэтым жаданьне зьвязаць дзейнасьць Скарыны з эпохай,—намер мэтодолёгічна зусім правільны,—ня было выканана, і дзеля гэтага дзейнасьць Скарыны зьявілася некалькі адарванай ад адпаведнага асяродзьдзя і абстаноўкі.

Уладзімераў рупліва сабраў вельмі бедныя даныя, якія належаць да жыцьцяпісу Скарыны. Уладзімераў адзначае год нараджэньня Скарыны—1490 і думае, што ён меў 27 год, калі пачаў сваю літаратурную дзейнасьць у Празе. Аўтар паказвае, што апошнія весткі аб Скарыне належаць да 1535 году, калі Скарыне было 45 год[1]).

Нацыянальнае пахаджэньне Скарыны Уладзімераў устанаўляе на падставе слоў Скарыны, якія ён звычайна прыводзіць у пасьляслоўях да сваіх выданьняў. Уладзімераў называе яго „русским“, зусім не разумеючы, што слова „рускі“ ў мове Скарыны мела іншае значэньне ў параўнаньні з тым, які сэнс мае гэтае слова ў пазьнейшыя часы. Значыцца, трэба ўнесьці папраўку ў азначэньне Уладзімерава, і лічыць Скарыну беларусам з пахаджэньня[2]).

Пытаньне аб пахаджэньні Скарыны з Полацку не выклікае ніякага сумненьня. Аўтар адзначае, што Полацак быў багатым местам у XVI сталецьці. Аб гэтым сьведчыць ня толькі тое, што Полацак, які атрымаў Майдэборскае права ў 1483 годзе, плаціў у скарб 400 коп. грошай, але і болей позьняе сьвядэцтва Гваньніні аб багацьці полацкіх гандляроў. Аўтар лічыць, што Скарына належаў да багатай гандлярскай сям'і. Аб імені бацькі яго Уладзімераў нічога ня ведае. Аўтар адзначае, што ў Полацку жыў брат Скарыны. Ён уладаў нярухомаю радавою маемасьцю, у якой была частка і доктара Ф. Скарыны. Аб праскім жыцьці Скарыны Уладзімераў нічога ня піша. З віленскага жыцьця ён адзначае: 1) што Скарына меў у Вільні друкарню ў доме бурмістра Якуба Бабіча; 2) аўтар адзначае шлюб Скарыны ў Вільні з удавой Юрага Адверніка—Мальгрэтай; 3) нарэшце, у 1529 годзе Скарына вёў судную справу адносна нярухомай маемасьці свае жонкі і выйграў справу. Далейшыя весткі аб Скарыне зьнікаюць, і толькі ёсьць некаторыя даныя, якія належаць да 1535 году. Аўтар таксама адзначае, што паміж Скарынай і віленскім мяшчанствам была пэўная сувязь яшчэ ў эпоху праскага пэрыоду жыцьця Скарыны, бо ў пасьляслоўі да выданьня Псалтыру 1517 году адзначана, што ён надрукаваны накладам Богдана Онькава, сына радцы места Віленскага[3]). Адзначаючы, што ў віленскі пэрыод свайго жыцьця Скарына карыстаўся протэктарствам з боку Якуба Бабіча, Уладзімераў выказвае прыпушчэньне, што ў эпоху праскага пэрыоду Скарына меў іншых протэктараў. Аўтар зусім правільна адхіляе вэрсію Даброўскага аб протэктарстве з боку Жыгімонта I і замест гэтага высоўвае гіпотэзу аб сувязі Скарыны з багатымі віленскімі мяшчанамі, якія маглі даць яму ня толькі адны матар'яльныя сродкі, але і розныя царкоўна-славянскія рукапісы, што бязумоўна знаходзіліся ў іх у значным ліку. Самае выданьне „Малое Падарожнае Кніжыцы“ прызначалася для гандляроў, якія езьдзілі па гандлёвых справах за кардон. Гіпотэза Уладзімерава аб цеснай сувязі Скарыны з віленскім купецтвам вельмі цікавая, але ніякіх даных для яе падтрыманьня Уладзімераў ня прыводзіць. Адно бясспрэчна—гэта што ўсю літаратурна-выдавецкую дзейнасьць Ска-

[1]) Владимиров. Op. cit., стар. 44.
[2]) Ididem.
[3]) Владимиров. Ibidem, стар. 44—47.

рыны накіроўвала каханьне да бацькаўшчыны і жаданьне паслужыць „посполитому люду руского языка". Гэткім чынам, Уладзімераў вызначыў асноўныя жыцьцяпісныя даныя з жыцьця Скарыны [1]). Пазьней Шляпкін у 1892 годзе і Мілавідаў у 1917 годзе дадуць на падставе новых знойдзеных докумэнтаў, некаторыя новыя весткі, якія пашыраць нашы жыцьцяпісныя веды аб Скарыне.

Далей Уладзімераў спыняецца на падрабязным вывучэньні пытаньня аб адукацыі Скарыны. Яшчэ раней Уладзімерава ў літаратуры выказана была думка аб тым, што Скарына вучыўся ў Кракаўскім Унівэрсытэце. Гэтая думка знайшла пацьвярджэньне ў рукапісах Кракаўскага Унівэрсытэту. Разам з тым, Уладзімераў на падставе апублікаваных матар'ялаў даў характарыстыку стану Кракаўскага Унівэрсытэту і, між іншым, мэдычнага факультэту. Апошні ў пачатку XVI сталецьця знаходзіўся ў заняпадзе, і дзеля гэтага Уладзімераў выказвае прыпушчэньне аб атрыманьні Скарынай ступені доктара лекарскіх навук дзе-небудзь, падобна да іншых выхаванцаў Кракаўскага Унівэрсытэту, за кардонам, у Нямеччыне, Італіі, пераважна ў Болёньні або ў Празе. Але каб давесьці гэтае зацьвярджэньне, Уладзімераў ня меў ніякіх даных, хаця, зразумела, такое прыпушчэньне было зусім правільнае і пазьней было пацьверджана новымі докумэнтамі, якія апублікаваў Шляпкін. Аўтар зусім правы, калі кажа, што пэрыод 1506—1517 гадоў зьяўляецца самым цёмным у жыцьцяпісе Скарыны[2]).

Адзначаючы, што Скарына ў 1517—20 гадох знаходзіўся ў Празе, Уладзімераў дае кароткую характарыстыку стану чэскага кнігадруку і апавядае аб сувязях Чэхіі з Нюрэнбэргам, каб вытлумачыць, чаму ўласна Прагу абраў Скарына. Аўтар адзначае, што чэскія выданьні друкаваліся ў Нюрэнбэргу і Вэнэцыі. Так, апошняю ў 1506 годзе вышла вядомая чэская біблія, якая мела ўплыў на пераклады Скарыны [3]).

Спыненьне Скарынай выдавецка-друкарскае дзейнасьці ў Вільні, натуральна, прымусіла Уладзімерава высунуць пытаньне аб прычынах, пад уплывам якіх спынілася выдавецкая дзейнасьць Скарыны спачатку ў Празе, а потым у Вільні. Аўтар думае, што на першае пытаньне нельга даць ніякага адказу, а спыненьне выдавецкае дзейнасьці Скарыны ў Вільні ён зьвязвае з цяжкім матар'яльным становішчам Скарыны, з пажарам 1530 году, які зьнішчыў $^2/_3$ места, і з страшэннай пошасьцю 1533 году. Зразумела, усе факты, што прыводзіць Уладзімераў, цьвёрда ўстаноўлены, але яны ўсё-ж такі не разьвязваюць пытаньня аб прычынах спыненьня Скарынай свае выдавецка-друкарскае дзейнасьці. Гэтае пытаньне і пасьля дасьледваньня Уладзімерава застаецца нявырашаным [4]). Трэба адзначыць, што Уладзімераў зусім не закранае пытаньня аб вызнаньні Скарыны. Добра знаёмы з папярэдняю літаратурай, Уладзімераў, зразумела, ведаў, што на падставе матар'ялаў, якія дагэтуль існуюць, немагчыма разьвязаць так заблытанае пытаньне аб вызнаньні Скарыны, і, зразумела, Уладзімераў быў зусім правы, калі, ня пушчаючыся ў краіну гіпотэз і мала-навуковых разважаньняў, ён маўчыць аб гэтым пытаньні [5]).

З вялікім мастацтвам Уладзімераў вывучыў праскія выданьні Скарыны як у адносінах друкарскіх, так і адносна рэдакцыі самога тэксту. З асаблівай стараннасьцю ён вывучыў пытаньне аб перакладзе біблії на беларускую мову. Уладзімераву трэба было дакладна ўстана-

[1]) Владимиров. Op cit., стар. 47—51.
[2]) Ibidem. стар. 51—56.
[3]) Ibidem, стар. 57—65.
[4]) Ibidem, стар. 66-67.
[5]) Ibidem, стар. 43.

віць крыніцы для перакладу Скарынай біблії. Шляхам пільнага аналізу скарынінскага тэксту і параўнаньня яго з чэскай бібліяй, надрукаванай у Вэнэцыі ў 1506 годзе, Уладзімераў адкідае пашыраную раней вэрсію аб Вульгаце, як крыніцы для скарынінскага перакладу і думае, што галоўнай крыніцай для скарынінскага перакладу біблії была чэская біблія 1506 году. Асаблівасьці Скарынінскае біблії звычайна супадаюць з асаблівасьцямі вэнэцыйскага тэксту біблії, а ня Вульгаты і царкоўна-славянскага тэксту, якімі Скарына часам мог карыстацца для некаторых кніг старога закону. Аўтар знаходзіць, што пераклад Скарыны з чэскае мовы нагадвае звычайныя „заходня-расійскія" пераклады аповесьцяй і легенд з чэскіх і польскіх тэкстаў, з затрыманьнем з апошніх мнества родных слоў і выразаў, якія палягчалі працу перакладчыка. Агульная прадмова да ўсяе біблії, а таксама паасобныя прадмовы да кніг старога закону складзены падобна да чэскай біблії 1506 году. Апроч таго, Уладзімераў думаў, што дапамагчы Скарыне маглі комэнтары Міколы Лірана. Аўтар адзначае, што Скарына карыстаўся царкоўна-славянскім тэкстам як слоўнікам для падбору слоў. Часам Скарына выпісваў цэлыя разьдзелы і радкі з царкоўна-славянскіх тэкстаў, але прыводзіў іх у крыху зьмененай форме. Уладзімераў констатуе, што ў перакладзе Скарыны няма сыстэмы і крытыкі, але адначасна ён ня мае і ніякіх адносін да протэстанцкіх перакладаў сьвятога пісьма. Уладзімераў адкідвае таксама прыпушчэньне аб тым, што пераклад біблії Скарынай зьяўляецца адбіткам яго выключна каталіцкага напрамку. Аўтар знаходзіць магчымым зацьвярджаць, што, дзякуючы адсутнасьці догматычных палажэньняў і якіх-колечы каталіцкіх царкоўных асаблівасьцяй у тэксьце, можна прыпусьціць, што ўся „Библия руска" прызначалася для праваслаўных чытачоў. Азначаючы задачы і мэты дзейнасьці Скарыны, аўтар думае, што Скарына хацеў даць свайму чытачу поўную і зразумелую біблію, а разам з тым дапамагчы выпраўленьню абычайнасьці і пашырэньню добрых звычаяў, даць чытаньне для збаўленьня душы і навучыць мудрасьці і розным навукам. Уладзімераў зусім правільна зацьвярджае, што самыя кнігі Скарыны, як выдатныя ўзоры друкарскага мастацтва, былі важным зьявішчам у справе асьветы [1]).

Разглядаючы віленскія выданьні Скарыны і раўнаючы іх да праскіх адносна шрыфту і паперы, Уладзімераў прыходзіць да вываду, што скарынінская друкарня была перанесена з Прагі ў Вільню. Розныя асаблівасьці віленскіх выданьняў паказваюць на тыя-ж сувязі з нямецкімі друкарнямі, што і праскія выданьні. Нарэшце, па прыгожасьці шрыфту і аздоб віленскія выданьні ёсьць прадаўжэньне праскіх [2]).

Пераходзячы да вывучэньня „Апостала", надрукаванага Скарыной у 1525 годзе, Уладзімераў кажа, што скарынінскі тэкст ёсьць першае друкаванае выданьне царкоўна-славянскага „Апостала". Другое вышла ў Маскве ў 1564 годзе, трэцяе ў Львове ў 1574 годзе і чацьвертае ў Вільні ў 1576 годзе. Нарэшце, у 1580 годзе вышла астроскае выданьне „Апостала".

Разглядаючы пытаньне аб адносінах „Апостала" Скарыны да славянскага тэксту „Апостала", зьмешчанага ў поўнай біблії 1499 году, Уладзімераў адзначае шэраг асаблівасьцяй, якія паказваюць, што Скарына карыстаўся нейкімі старадаўнімі сьпісамі, хаця наогул большая частка падобна да тэксту біблії 1499 году [3]). „Апостал" Скарыны

---

[1]) Владимиров. Op. cit., стар. 101, 155, 171-172.
[2]) Ibidem, стар. 178.
[3]) Ibidem, стар. 180-181.

зьяўляючыся царкоўна-славянскім у сваёй аснове, мае шмат супольнага з яго папярэднімі працамі. Падобна да ўсіх кніжок біблії, пачынаючы ад „Псалтыру“ 1517 году, паасобныя часткі „Апостала“ маюць прадмовы Скарыны, большая частка якіх называецца „сказаниями“ [1]). Сам Скарына разглядае выданьне „Апостала“ як прадаўжэньне сваіх праскіх выданьняў [2]). Выдаючы „Апостал“ па царкоўна-славянскім тэксьце, таксама без усялякае крытыкі і рэдакцыі, Скарына паасобныя славянскія незразумелыя словы замяняў болей зразумелымі для „посполитого народа руского“. У самым тэксьце „Апостала“ Уладзімераў адзначае мноства такіх замен стара-славянскіх слоў і выразаў. Уладзімераў таксама адзначае, што замененыя словы і выразы часта супадаюць з чэскай бібліяй, што сьведчыць аб карыстаньні Скарынай бібліяй 1506 году і пры выданьні свайго „Апостала“ [3]).

Таксама падрабязна разгледзеў аўтар і „Малую Падарожную Кніжыцу“. Зьмест гэтае „Кніжыцы“, як вядома, вельмі рознастайны. „Кніжыца“ прызначалася, як думае Уладзімераў для сьвецкіх людзей. У склад „Малое Падарожнае Кніжыцы“ ўваходзіў таксама і псалтыр, які, па наглядамьнях Уладзімерава, мае нязначныя адхіленьні ад праскага выданьня „Псалтыру“. І ў выданьні „Малое Падарожнае Кніжыцы“ Скарына замяняў незразумелыя царкоўна-славянскія словы болей простымі і зразумелымі словамі [4]). Уладзімераў, адзначаючы, што выдавецкая дзейнасьць Скарыны спынілася ў 1525 годзе, лічыць, аднак, што кнігі Скарыны зрабілі вялікі ўплыў на беларускія выданьні як у друкарскіх адносінах, так і ў адносінах тэксту. Так, напэўна, несьвіскі катэхізіс Сымона Буднага (1562 г.) і эвангельле Базыля Цяпінскага былі надрукаваны і выданы пад беспасрэдным уплывам Скарыны. Адзначаючы, што далейшае разьвіцьцё друкарскае справы на Беларусі і Украіне было зьвязана з маскоўскімі друкарамі, Іванам Фёдаравым і Пётрам Мсьціслаўцам, Уладзімераў піша, што, ня гледзячы на маскоўскі ўплыў у друкарскіх адносінах, трэба адзначыць таксама і ўплыў Скарыны як на віленскія, так і на астроскія выданьні. Гэткім-жа чынам Уладзімераў адзначае пэўны ўплыў Скарыны і з боку зьместу. Уладзімераў заўважыў, што выдаўцы астроскае біблії карысталіся і перакладам Скарыны, хаця імя яго ў самым рукапісе ня было паказана. Уладзімераў піша аб пашырэньні перакладаў скарынінскае біблії ў рукапісных сьпісах XVI сталецьця. Гэтыя сьпісы падзяляюцца на тры аддзелы. Адны ёсьць сьпісы толькі з друкаваных выданьняў Скарыны; другія, разам з кнігамі Скарыны, вядомымі ў друку, зьмяшчаюць і іншыя кнігі, невядомыя ў друку; і, нарэшце, трэція маюць такія значныя адхіленьні ў перакладзе ад вядомых кніг Скарыны, што прымушаюць аднесьці іх да самастойных перакладаў прадоўжнікаў справы Скарыны. Разглядаючы рукапісы другога тыпу, Уладзімераў прыходзіць да вываду, што Скарына пераклаў усю Біблію, аб чым ёсьць паказаньні ў самога Скарыны [5]). Існаваньне прадоўжнікаў справы Скарыны таксама сьведчыць аб тым, што яго пераклады мелі вялікае пашырэньне і зрабілі ўплыў на перакладчыкаў. Пэўна, што эвангельле, перакладзенае Базылём Цяпінскім, мела на сабе ўплыў скарынінскага перакладу новага закону, які не захаваўся. Таксама скарынінскі ўплыў адбіўся і на так званым Перасопніцкім эвангельлі [6]).

[1]) Владимиров. Op. cit., стар. 184.
[2]) Ibidem, стар. 185.
[3]) Ibidem, стар. 186.
[4]) Ibidem, стар. 191, 192, 200.
[5]) Ibidem, стар. 202, 205-206, 207, 211, 223, 227, 234.
[6]) Ibidem, стар. 234—237.

Уладзімераў, гаворачы аб пашырэньні скарынінскіх рукапісаў у расійскіх перакладах XVI сталецьця, заўважвае, што прадмовы Скарыны значна пераапрацаваны ў залежнасьці ад паглядаў маскоўскіх кніжнікаў XVI сталецьця [1]).

Апошні разьдзел дасьледваньня прысьвечаны мове Скарыны, якую Уладзімераў вывучыў ува ўсёй пажаданай паўнаце. Аўтар, разважаючы аб адносінах мовы Скарыны да „заходня-расійскіх" помнікаў XVI сталецьця і да беларускае мовы, адзначае ў мове Скарыны прысутнасьць як чэхізмаў, так і полёнізмаў. Апроч таго, у мове Скарыны сустракаюцца нямецкія словы, як „майстер, спиж, шахта, гафтки". Нарэшце, Скарына ўжывае і шэраг літоўскіх слоў, якія мелі вялікае пашырэньне на Беларусі ў XV і ў пачатку XVI сталецьця. У канцы свайго дасьледваньня Уладзімераў даў невялічкі слоўнік выразаў, абраных з прац Скарыны. Гэты слоўнік мае вялікую навуковую вартасьць для гісторыі беларускае мовы [2]).

Такі характар мае праца Уладзімерава ў сваіх асноўных рысах. Яна абхапіла ўсю дзейнасьць Скарыны і разгледзела яе з усебаковай паўнатой. Ува ўсіх сваіх вывадах Уладзімераў стаіць на грунце фактаў і заўсёды ўнікае такіх суджэньняў і думак, якія немагчыма давесьці катэгорычнымі адноскамі да крыніц. Пазьней некаторыя новыя матар'ялы, датычныя жыцьцяпісу Скарыны, дапоўняць весткі аб ім, якія даў Уладзімераў, але аж да нашага часу не зьявілася яшчэ аніводнае працы аб Скарыне, якая магла-б замяніць вышэйпамянёную працу паважанага дасьледчыка.

Упоўне зразумела, што праца Уладзімерава была важным здарэньнем першараднае навуковае вартасьці, як выдатнае дасьледваньне, у якім разгледжана жыцьцё і дзейнасьць аднаго з вялікіх беларускіх культурных дзеячоў. Цэлы шэраг дасьледчыкаў, якія зьвярнулі ўвагу на працу Уладзімерава, адгукнуліся на яе рэцэнзіямі і адозвамі аб гэтым выдатным ва ўсіх адносінах дасьледваньні.

III.

Багатае матар'ялам і вельмі каштоўнае вывадамі дасьледваньне Уладзімерава, зьвярнула на сябе ўвагу ў спэцыяльнай навуковай літаратуры. А. І. Сабалеўскі [3]) першы адгукнуўся на працу Уладзімерава. Сабалеўскі, аддаючы належнае працавітасьці і дасьціпнасьці Уладзімерава і лічачы яго „труд лучшим из трудов по нашей старой литературе за последние годы", думаў, аднак, што трэба крытычна аднесьціся да дасьледваньня Уладзімерава „в виду наличия в последнем коекаких недостатков и расхождения с автором во взглядах на некоторые частности". А. І. Сабалеўскі па сутнасьці згаджаецца з асноўнымі палажэньнямі Уладзімерава. Крытычныя ўвагі яго зводзяцца да наступнага.

Перш за ўсё, асноўны вывад аўтара аб тым, што Скарына многа карыстаўся перакладам чэскае біблії выданьня 1506-га году, ня ёсьць новы. Сабалеўскі адзначае, што першы раз гэтая думка, як прыпушчэньне, выказана была Пэрвольфам. Але рэцэнзэнт павінен прызнаць што гэтае прыпушчэньне Пэрвольфа было зацьверджана толькі Уладзімеравым „на незыблемом основании". Далей, Сабалеўскі робіць Уладзімераву закід за тое, што ён не памінае аб артыкуле ананімнага аўтара „Об отношении перевода Скорины к Вульгате и древнему церковно-славянскому тексту", дзе ёсьць шэраг меркаваньняў, якія

[1]) Владимиров. Op. cit., стар. 243-244.
[2]) Ibidem, стар. 300-301, 302—317.
[3]) „Журнал Министерства Народного Просвещения", 1888, X, стар. 321-322.

заслугоўваюць увагі збоку дасьледчыка. Далей, па думцы Сабалеўскага, Уладзімераў, дзеля большай яскравасьці і правільнасьці асьвятленьня дзейнасьці Скарыны, павінен быў выясьніць, што захавалася да нашага часу ў пісьменнасьці эпохі папярэдняй і сучаснай Скарыне. Складзены Уладзімеравым сьпіс рукапісаў XV—XVI сталецьцяў „паўднёвага і заходня-рускага пахаджэньня“ надта няпоўны. Сабалеўскі прыводзіць шэраг вельмі каштоўных дадаткаў, аб якіх Уладзімераў у сваім дасьледваньні ня пісаў. Далей, на думку Сабалеўскага, для болей правільнай ацэнкі прац Скарыны, Уладзімераў павінен быў-бы азнаёміцца з асаблівасьцямі мовы як-мага большага ліку „паўднёва і заходня-рускіх рукапісаў XV—XVI сталецьцяў“, а не абмяжоўвацца некалькімі кароткімі ўвагамі аб літаратурнай мове перадскарынінскае і скарынінскае эпохі. У адносінах да азначэньня мовы Скарыны, Сабалеўскі рэзка разыходзіцца з думкай Уладзімерава аб „сьціслай сувязі прац Скарыны з перакладамі сьвятога пісьма на народную мову, якія зьявіліся ў Паўднёва-Заходняй Русі ў XVI сталецьці“.

Гэты вывад Уладзімерава, як думае Сабалеўскі, грунтуецца на малым знаёмстве „з паўднёвай і заходня-рускай пісьменнасьцю XIV—XVI сталецьцяў“. Таксама Сабалеўскі нязгодзен з думкай Уладзімерава аб мэтах дзейнасьці Скарыны: „даць праваслаўным Паўднёва-Заходняй Русі поўную біблію ў мове, зразумелай для простых людзей“.

Сабалеўскі прыходзіць да зусім іншага вываду. Скарына перакладаў біблію на славянскую мову, з якою наагул у „Заходняй Русі“ былі мала знаёмы. Сабалеўскі грунтуе свае вывады як на словах князя Курбскага, езуіта Пётры Скаргі і князя Астроскага, так і на адсутнасьці рукапісаў кніг сьвятога пісьма „заходня-рускага“ пахаджэньня. Сабалеўскі знаходзіць, што з царкоўна-славянскіх кніг старога закону Скарына ведаў толькі „Пяцікніжжа“ і адрыўкі з паасобных старазаконных кніг, якія захаваліся ў Парамейніку. Уладзімераў-жа думаў, што Скарына меў у стара-славянскім перакладзе ўсе кнігі старога закону, апроч „Прамудрасьці Саламона“, „Юдыты“, „Эстэры“ і „Песьні Песень“.

На думку Сабалеўскага, з прычыны нязначнага ліку кніг сьвятога пісьма і поўнае адсутнасьці іншых, Скарына ня мог „..думаць аб папулярызацыі біблії шляхам перакладу яе з славянскае мовы на мову рускую“. Ён мог імкнуцца толькі да таго, каб зрабіць даступным і вядомым біблійны тэкст, каб пашырыць сьвятое пісьмо. Скарына пераклаў з чэскае мовы толькі тое, чаго ён ня ведаў у старым царкоўна-славянскім перакладзе, але разам з тым ён быў вельмі далёкі ад думкі пісаць і выдаваць на народнай жывой мове. Скарына заўсёды называў мову сваіх выданьняў „рускою“, але бадай што з тэй аднэй прычыны, што для яго словы „рускі“ і „славянскі“ значылі адно і тое-ж. Сабалеўскі адзначае, што славянскія выданьні, „Псалтыр“ і „Апостал“, Скарына ўнёс ў лік кніг, якія ён выклажыў у „рускай мове“. У кожным разе, ён ня вельмі імкнуўся зрабіць свой пераклад зразумелым для простых людзей, напісаць яго на жывой мове. Такі асноўны вывад Сабалеўскага, які рэзка разыходзіцца з тым, што даводзіў Уладзімераў у сваім дасьледваньні. Нарэшце, Сабалеўскі думаў, што польская Шарашпатацкая біблія каралевы Зоф'і, жонкі Ягеллы (Biblia królowej Zofii, żony Jagielly z kodexu Szaroszpatackiego), была пашырана ў польскім і полёнізаваным рускім грамадзянстве і магла быць вядома Скарыне.

Адсюль ідзе пазычаньне Скарыны з польскай біблії. Нарэшце, Сабалеўскі, у процілеглась Уладзімераву, які адносіў кракаўскія,

выданьні Фіоля „да паўднёва-рускіх", адносіць іх з боку тэксту да сярэдня-балгарскіх і малдаўскіх. Орыгінальныя думкі Сабалеўскага, зразумела, патрабавалі праверкі. Пазьнейшая літаратура і крытыка за Сабалеўскім не пайшла.

Другая вялікая рэцэнзія на працу Ўладзімерава належыць профэсару Львоўскага Унівэрсытэту, вядомаму славістаму Мурко. Рэцэнзэнт прылічвае дасьледваньне Ўладзімерава да найлепшых гістарычналітаратурных прац апошніх часоў. Праца, як піша рэцэнзэнт, дае шмат новага і цікавага. Мурко ставіць высака дзейнасьць Скарыны, які зьявіўся прадстаўніком другога славянскага народу, што меў у пачатку XVI сталецьця друкаваную біблію ў народнай мове. Мурко адзначае, што ў такіх агульных курсах па гісторыі літаратуры, як Галахава ці Парфір'ева, аб Скарыне альбо зусім нічога не паміналася, альбо ўпаміны абмяжоўваліся некалькімі словамі. Мурко падрабязна выклажыў зьмест працы Ўладзімерава. Ён таксама зрабіў дакор апошняму за тое, што ў яго дасьледваньні няма пасылак на вядомую працу Пэрвольфа, які першы паказаў на чэскую біблію 1506 году, як на галоўную крыніцу перакладу біблії Скарыны. Аўтар рэцэнзіі прымае ўсе асноўныя вывады Ўладзімерава. Мурко ўжо ведаў рэцэнзію Сабалеўскага і лічыў неабходным мімаходзь зрабіць некалькі ўваг адносна пагляду апошняга на мову Скарыны. Мурко зусім нязгодзен з Сабалеўскім, які адкідаў тое, што ён прызнаваў годам раней. Мурко адзначае, што Скарына ў сваіх перакладах зусім выразна правёў проціпалажэньне беларускае мовы славянскай[1]).

На кнігу Ўладзімерава адгукнуўся і М. В. Доўнар-Запольскій[2]). У сваім артыкуле „По поводу исследования Владимирова „Доктор Ф. Скорина" М. В. Доўнар-Запольскі адзначыў шэраг пытаньняў, якія беспасрэдна вынікаюць з дасьледваньня Ўладзімерава і якія самі па сабе маюць першарадную навуковую важнасьць для гісторыі Беларусі. Эпоха, у якую жыў Скарына, па думцы Доўнар-Запольскага, зьяўляецца важным гістарычным момантам у жыцьці Беларусі, калі падрыхтоўвалася вунія каталіцтва з праваслаўем, і паасобныя групы грамадзянства гэроічна змагаліся з першым. М. В. Доўнар-Запольскі констатуе сумны стан праваслаўнае царквы, у сувязі з так званым „правам падаваньня", якое разьвівалася ў той час і часта аддавала царкву ў рукі неадпаведных свайму прызначэньню асоб, што прыводзіла да заняпаду абычайнасьці сярод царкоўнае іерархіі. М. В. Доўнар-Запольскі, грунтуючыся на паведамленьні Міхалона, констатуе вялікі моральны заняпад сярод грамадзкіх кляс, якія панавалі ў тыя часы. Толькі такія асобы, як Г. А. Хадкевіч, мітр. Язэп Солтан і Ф. Скарына, прымалі меры да адраджэньня царквы, і абароны праваслаўя праз публікацыю кніг сьвятога пісьма. Гэтая выдавецкая дзейнасьць, як думае М. В. Доўнар-Запольскі, мела вялізарнае значэньне. Перш за ўсё, выданьне кніг сьвятога пісьма падтрымлівала праваслаўе, а разам з тым захоўвала беларускую нацыянальнасьць ад зьняволеньня яе каталіцтвам. Гэтыя кнігі мелі вялікую адукацыйную вартасьць, як крыніца тагочаснай богаслоўскай адукацыі. Яны былі абычайнай філёзофіяй свайго роду, якая давала этычныя падставы для жыцьця. Уся гэтая дзейнасьць не прайшла бясьсьледна для беларускага народу: „русская национальность была сохранена в борьбе с унией". Такі агульны фон эпохі, што аўтар намаляваў у рэцэнзіі. Якую-ж ролю граў Скарына? Доўнар-Запольскі лічыў, што Скарына быў адным

[1]) Archive für slavische Philologie, 1889, XII. Стар. 243—268.

[2]) М. Запольский: По поводу исслед. Владимирова. „Минский Листок", 1888, № 42.

з „заходня-рускіх“ людзей, які зьвярнуў увагу на сумнае становішча сучасьнікаў і паклаў пасільную працу для падвышэньня іх разумовага і моральнага ўзроўню і для захаваньня іх нацыянальнасьці. Гэткім чынам, М. В. Доўнар-Запольскі, як і Уладзімераў, тлумачыў дзейнасьць Скарыны грамадзка-культурнай і нацыянальна-рэлігійнай абстаноўкай таго часу [1]).

Другая частка артыкулу Доўнар-Запольскага была выкладам вывадаў Уладзімерава з паасобнымі аўтарскімі ўвагамі. Доўнар-Запольскі даў кароткія жыцьцяпісныя весткі аб Скарыне і паказаў, што крыніцамі для перакладаў Скарыны былі чэскія тэксты разам з лацінскімі і грэцкімі; ён адзначыў важнае значэньне Праскага Унівэрсытэту, а таксама вялікае разьвіцьцё чэскага ўплыву ў літоўскім грамадзянстве. Доўнар-Запольскі адзначае, што чэскі ўплыў у XVI сталецьці выяўляўся нават у актавай тэрмінолёгіі. Нарэшце, Доўнар-Запольскі, усьлед за Уладзімеравым, лічыць Скарыну чалавекам з палкім жаданьнем прынесьці карысьць грамадзянству і роднай краіне падняць разумовы і моральны стан жыхарства. Гэтыя задачы павінны былі задавальняць пераклады Скарыны.

Доўнар-Запольскі лічыць, што праца Уладзімерава мае вялікае значэньне. Ён упяршыню даў падрабязнае апісаньне жыцьця і дзейнасьці Скарыны, адзначыў вялікі ўплыў Чэхіі на „Заходнюю Русь“ і паказаў, што Скарына пераклаў біблію на „рускую“ г. зн. на беларускую мову. Аднак, на думку рэцэнзэнта, у працы ёсьць і недахопы. Доўнар-Запольскі адзначае: адсутнасьць цэласнасьці ўва ўсім творы; багацьце вестак, але надта раскіданых, не дае магчымасьці зрабіць выразнае ўяўленьне аб прадмеце; ёсьць паўтарэньні, мала жывасьці, некаторыя рэчы можна было-б высьветліць падрабязьней, напрыклад, пытаньне аб разумовым і абычайным стане грамадзянства. Тым ня менш, думае Доўнар-Запольскі, праца Уладзімерава заслугоўвае ўвагі з боку грамадзянства і друку.

Адгукнуўся на кнігу Уладзімерава і А. М. Пыпін [2]). Апошні адзначыў, што Уладзімераў вельмі ўдала абраў тэму для свайго дасьледваньня, закрануўшы пытаньне першараднае важнасьці. А. М. Пыпін таксама падкрэсьлівае значэньне эпохі і абстаноўкі, якія атачалі Скарыну, для яго дзейнасьці. Вывучэньне дзейнасьці Скарыны, як думае А. М. Пыпін, робіцца асабліва важным, папершае таму, што біблія Скарыны ёсьць першая друкаваная біблія да зьяўленьня Астроскае бібліі, а падругое таму, што Скарына не пакінуў ніякіх пісьменных вестак аб сабе, ніякіх вусных паданьняў. Эпоха, у якую пачыналася дзейнасьць Скарыны, характарызуецца „рэлігійным бушаваньнем з прычыны зносін, якія распачаліся паміж Заходняй Расіяй і Нямеччынай, і пераходу прадстаўнікоў заходня-рускага грамадзянства з праваслаўя ў каталіцтва“. Пыпін ня прылічваў Скарыну да праваслаўных. Імя яго—Францішак—дазваляе прылічыць яго да каталікоў альбо протэстантаў. Адукацыю Скарына атрымаў у каталіцкім унівэрсытэце, мусіць быць, у Кракаўскім, думае Пыпін, хаця гэтае пытаньне разьвязана было документальна і не выклікала ўжо ніякіх сумненьняў. На думку Пыпіна, існаваньне процілеглых думак, якія выказаны былі аб Скарыне, патрабавала ўважлівага разгляду ўсіх спрэчных пытаньняў, чаго не зрабіў Уладзімераў. А. М. Пыпін, лічыў, што праца Уладзімерава ёсьць важны набытак для літаратуры.

---

[1]) „Минский Листок“, 1888, № 44.

[2]) „Вестник Европы“, 1888, V. Аддзел бібліографіі.

У сваёй гісторыі этнографіі Пыпін ня раз зварочваўся да Скарыны, у дзейнасьці якога ён бачыў народнае супраціўленьне каталіцтву, уніцтву і езуітам. „Рускія" праваслаўныя атрымалі першы пераклад біблійных кніг толькі ад Скарыны. Трэба аднесьціся з вялікай доляй скептыцызму да ўваг Пыпіна. У пачатку XVI сталецьця на Беларусі ня было ні езуітаў, ні вуніі, ні націску каталіцтва, аб чым сьведчыць такі компэтэнтны гісторык царквы, як мітр. Макары [1]).

Анонімны рэцэнзэнт у „Филологических Записках" не рабіў ніводнае крытычнае ўвагі адносна дасьледваньня Уладзімерава. Азнаёміўшы коратка чытача з асноўнымі вывадамі Уладзімерава, рэцэнзэнт прызнаў і вялізарнасьць працы, і надзвычайнае багацьце даных і каштоўныя вынікі. У працы Уладзімерава, на думку рэцэнзэнта, асьветлена дзейнасьць мала вядомага дагэтуль і выдатнага літаратурнага дзеяча XVI сталецьця [2]).

Даў водзыў аб кнізе Уладзімерава і нехта А. С., які зьмясьціў сваю рэцэнзію ў „Вестнике Славянства". Рэцэнзэнт застаўся нездаволены працай Уладзімерава. Рэцэнзэнт лічыў, што, маючы на ўвазе існаваньне думак Галавацкага і Чыстовіча аб протэстанцтве Скарыны, мітрапаліта Макарыя аб яго каталіцтве і Віктарава—аб праваслаўі Скарыны, трэба было-б заняцца разборам усіх гэтых думак, чаго ў працы ня зроблена. Далей, аўтар адзначае, што зацьвярджэньне Уладзімерава аб праваслаўным характары выданьняў Скарыны не адпавядае таму, што сказаў сам Уладзімераў аб Скарыне. Рэцэнзэнт таксама нездаволены і лінгвістычнымі нагляданьнямі аўтара. На думку рэцэнзэнта, з дасьледваньня Уладзімерава ня відаць, да якой рускай гутаркі належыць мова Скарыны. Галавацкі і Бадзянскі лічылі яе штучнаю мовай, а Буслаеў—узорам беларускае гутаркі. Ня гледзячы на тое, што Уладзімераў ня даў адказу на цікавыя для рэцэнзэнта пытаньні, апошні ўсё-ткі гатоў лічыць, што з гэтага дасьледваньня „можна чарпаць матар'ял". Наогул, усю гэтую рэцэнзію нельга лічыць об'ектыўнай. Апроч таго, з рэцэнзіі А. С. ня відаць, ці зразумеў сам рэцэнзэнт агульны характар дасьледваньня і ці здолеў ён разабрацца як у мэтодзе яго, так і ў высунутых аўтарам задачах і мэтах [3]).

Кіеўскі вучоны Сьцяповіч у сваёй рэцэнзіі высака ставіць працу Уладзімерава, якая, як і ранейшыя працы аўтара, будзе вельмі карыснаю для таго, хто „возьмецца ў будучым намаляваць ва ўсёй паўнаце і яскравасьці карціну руска-чэскіх літаратурных адносін XV-XVII сталецьцяў і зрабіць на падставе матчыма большага ліку даных грунтоўную ацэнку чэскага ўплыву на рускае пісьменства". А. С. Сьцяповіч, аддаючы належнае працы Уладзімерава, адзначае некаторыя спрэчныя палажэньні, высунутыя Уладзімеравым. Так, рашучае зацьвярджэньне, што Скарына быў праваслаўным, выклікае пэўнае сумненьне, і довады Уладзімерава мала пераконваюць. Дасьледчык мала спыніўся на гэтым пытаньні. Адкуль у Скарыны зьявілася каталіцкае імя Францішак, калі Скарына быў праваслаўны?—справядліва пытае рэцэнзэнт. Аднак, апошні і сам выказаў мала пагрунтаванае прыпушчэньне аб тым, што Скарына атрымаў ступень доктара ў лекарстве ў Празе. Адносна ўплыву чэскае біблії на пераклад Скарыны з боку мовы А. Сьцяповіч заўважыў, што знаёмства з чэскаю мовай адбівалася ня толькі на тэксьце перакладу, над якім працаваў Скарына, але таксама і на мове такіх месц, дзе Скарына ня меў асаблівае патрэбы трымацца чэскіх вы-

[1]) Пыпин А. История русской этнографии. Т. IV. стар. 12.
[2]) „Филологические записки". 1888. V.
[3]) А. С. Рецензия на труд Владимирова. „Вестник Славянства". 1888, I.

разаў, якія мелі для яго ў іншых выпадках значэньне аўторытэту, напрыклад, у сваіх прадмовах і пасьляслоўях. А. Сьцяповіч таксама вінаваціць Уладзімерава ў тым, што ў аглядзе літаратуры ў яго няма паказаньняў на працы П. Строева і Пэрвольфа. Нарэшце, з працы Уладзімерава, па думцы Сьцяповіча, ня відаць, якая была мова Скарыны, бо аб гэтым нідзе ясна ня сказана. На думку рэцэнзэнта, было-б важна даведацца, у якіх выпадках карыстаўся Скарына словамі і выразамі чэскімі і царкоўна-славянскімі, і ці рабіў ён гэта сьвядома альбо несьвядома. Толькі тады магчыма было-б зрабіць зусім пэўны навочны вывад аб мове.

Праца Уладзімерава зьвярнула на сябе ўвагу чэскае і польскае гістарычнае літаратуры. Чэскі рэцэнзэнт кнігі Уладзімерава абмежаваўся толькі пераказам зьместу кнігі і адзначэньнем, што паасобныя пытаньні, закранутыя Уладзімеравым, былі ўпершае пастаўлены Даброўскім, які на працягу ўсяго свайго жыцьця бязупынна цікавіўся Скарынай і яго дзейнасьцю. Рэцэнзэнт лічыць, што Скарына карыстаўся чэскай бібліяй і комэнтарыямі Лірана. Але ў перакладзе Скарыны нельга прыкмеціць якую-колечы крытыку [1]). Адгукнуўся на кнігу Уладзімерава і рэцэнзэнт Львоўскага часопісу „Kwartalnik historyczny". Уладзімераў лічыць гэтую рэцэнзію тэндэнцыйнай. На жаль, мы ня мелі часопісу за адпаведны год і не маглі пазнаёміцца з думкамі рэцэнзэнта.

Уладзімераў прадставіў сваё дасьледваньне ў Акадэмію Навук для атрыманьня прэміі імя гр. Уварава. Проф. Будзіловіч [2]), згодна прапанове Акадэміі, напісаў водзыў аб дасьледваньні Уладзімерава. Рэцэнзэнт наогул аднёсься вельмі спачувальна да працы Уладзімерава. Ён знаходзіць, што „книга Владимирова заслуживает серьезного внимания, как первый опыт всестороннего изучения жизни и деятельности Скорины". Адозва Будзіловіча зусім не абвяргае тых вывадаў і наглядаваньняў, да якіх прышоў у сваім дасьледваньні Уладзімераў. Рэцэнзэнт абмяжоўваецца толькі паасобнымі дробнымі другараднага характару ўвагамі. Будзіловіч лічыць вялікай заслугай аўтара крытычны агляд усяе літаратуры аб Скарыне, чым ён даў чытачу лёгкую магчымасьць па кожным прыватным пытаньні аглядаць усю скупнасьць адказаў, зробленых у розныя часы, і гэткім чынам выдзеліць асабісты ўклад нашага аўтара ад навуковых вымыслаў ранейшых дасьледчыкаў. Будзіловіч лічыць характарыстыку стану грамадзянства „Заходняе Расіі" (Будзіловіч уводзіць гэты тэрмін замест тэрміну „Юго-Западная Русь") бледнай, якая мала чым адрозьніваецца ад таго, што было сказана аб гэтым у Салаўёва, Бестужава-Руміна, мітр. Макарыя, хаця і згаджаецца, што складаньне такога нарысу досыць цяжкое, як з прычыны малой распрацаванасьці ўнутранае гісторыі „Заходняе Расіі" тых часоў, так і з прычыны патрэбы вывучаць яе ў сувязі з тагочасным грамадзкім і літаратурным жыцьцём Польшчы, Чэхіі і нават Нямеччыны. Будзіловіч таксама адзначыў і тое, што зробленая аўтарам характарыстыка культурнага стану грамадзянства належыць да другой паловы XVI сталецьця, тады як Скарына жыў і працаваў у першай чвэрці сталецьця, і, значыцца, сучасная Скарыне эпоха аўтарам не закранута. Апроч таго, Будзіловіч уносіць некаторыя папраўкі ў зроблены аўтарам малюнак. Усьлед за Макарыем, рэцэнзэнт лічыў, што ў эпоху 1503—1555 гадоў праваслаўная царква знаходзілілася ў поўным спакоі, што да вуніі хілілася ня толькі адна вышэйшая цар-

[1]) Časopis Musea Kralowstwi českego, 1888, Ročnik XXII, v Praze, стар. 495—498.
[2]) Будилович Л. С., Записки Имп. Академии Наук, т. 69 кн. I, 1892, стар. 22—38.

коўная іерархія, але і магнаты, а за імі пайшлі і сярэднія клясы, не выключаючы мяшчан, якіх аўтар, як думае Будзіловіч, мае нахіл крыху ідэалізаваць. Рэцэнзэнт нязгодны з Уладзімеравым адносна прычын выступленьня Скарыны на царкоўна-пісьменьніцкі шлях. Мяшчанскае пахаджэньне Скарыны ня мае да гэтага ніякіх адносін. Скарына кіраваўся нейкімі іншымі асабістымі нахільнасьцямі і ўмовамі. Аднак, сам Будзіловіч ня тлумачыць, якія ўласна былі гэтыя апошнія.

Далей Будзіловіч ставіць у дакор Уладзімераву непаўнату сабраных ім вестак аб літаратурных падручніках і ўплывах на Скарыну, што блага адбілася на некаторых частках яго дасьледваньня. Будзіловіч знаходзіць, што аўтар павінен быў-бы ўключыць у склад свайго ўступнога агляду характарыстыку найважнейшых зьявішч і напрамкаў тагочаснае заходня-славянскае літаратуры, якая мела бясспрэчны ўплыў на нараджэньне ідэй Скарыны і разьвіцьцё яго выдавецкае дзейнасьці. Адзначаючы беднасьць вядомых Уладзімераву жыцьцяпісных вестак аб Скарыне, Будзіловіч лічыў, што год сьмерці Скарыны азначаны Уладзімеравым зусім бяздоваднa, а сам Будзіловіч схіляецца да думкі, што Скарына памёр значна раней. Калі-б Скарына пераджыў цяжкія 30-я гады і дажыў-бы да рэформацыйнага руху на Літве, дык ён бадай не сядзеў-бы ў бязьдзейнасьці, як заўважвае Будзіловіч.

Рэцэнзэнт лічыць вялікай заслугай Уладзімерава распрацоўку паасобных разьдзелаў, датычных дзейнасьці Скарыны. Усе выданьні Скарыны аўтар разгледзеў вельмі ўважліва і старанна. Будзіловіч лічыць шэраг вывадаў Уладзімерава бясспрэчнымі і згаджаецца з яго думкай, што Скарына пры зьменах царкоўна-славянскага тэксту біблії кіраваўся чэскай утраквісцкай бібліяй 1506 году. Будзіловіч таксама згаджаецца з вывадамі Уладзімерава аб уплыве Скарыны на пазьнейшыя „заходня-расійскія“ выданьні XVI сталецьця. Будзіловіч думае, што з бегам часу пагляд Уладзімерава некалькі зьменіцца, але асноўныя вывады аўтара бадай ня будуць істотна зьменены пазьнейшымі дасьледчыкамі. Будзіловіч ня згодзен таксама і з думкай Уладзімерава аб чыста праваслаўным характары выданьняў і пісаньняў Скарыны. Перш за ўсё, самае імя Скарыны „Францішак“ і яго жонкі „Мальгрэта“ маюць у сабе нешта вуніцкае. Жыцьцё Скарыны ў Кракаве і ў Празе, сярод каталікоў і утраквістых не дапамагала, пэўна, выпрацоўцы альбо хаця-б захаваньню ў ім праваслаўнага сьветапагляду. Самая думка перакласьці царкоўныя біблійныя тэксты праваслаўнага славянства „на адзін з краёвых расійскіх дыялектаў“, на думку Будзіловіча, не магла ў тыя часы нарадзіцца ў галаве праваслаўнага чалавека. Будзіловіч нагул схіляецца да прызнаньня протэстанцкіх уплываў на Скарыну. Недарэмна апошні карыстаўся чэскай утраквісцкай бібліяй, нязгоднай ні з Вульгатай, ні з праваслаўным канонічным тэкстам, і да некаторай ступені сэктатарскай. Будзіловіч зварочвае ўвагу таксама і на тое, што агульны характар гравюр „Малое Падарожнае Кніжыцы“ можа сьведчыць аб блізкасьці Скарыны да каталіцтва. Такую супярэчнасьць Будзіловіч тлумачыць тым, што чэскі утраквізм быў каталіцкім, напоўпротэстанцкім і дзе-ні-дзе праваслаўным. Будзіловіч з вялікаю пахвалой кажа аб разьдзеле, прысьвечаным мове Скарыны, але з некаторымі вывадамі Уладзімерава вучоны рэцэнзэнт і тут не згаджаецца. Будзіловіч не згаджаецца з Уладзімеравым адносна тутэйшага „заходня-расійскага“ нараджэньня мовы Скарыны. На яго думку, трэба прыпусьціць яшчэ іншыя крыніцы, якія хаваліся ў рэлігійных адносінах тагочаснае Чэхіі і ў яе моцным уплыве ў пасьлягусыцкую эпоху на сумежныя славянскія землі, між іншым на Польшчу, а праз яе і на „Заходнюю Русь“. Будзіловіч знаходзіць, што гэтае пытаньне заслу-

гоўвае болей уважлівага разгляду ў дасьледваньні. Апроч таго, Будзіловіч вінаваціць Уладзімерава ў няпоўнай распрацоўцы сынтаксу Скарыны, у нязначнасьці слоўніку, а таксама ў тым, што аўтар пакінуў нявырашаным пытаньне, ці была мова Скарыны запраўды жывою (моваю) ці штучным жаргонам, які ўтварыўся пад пяром Скарыны з эклектычнага злучэньня стыхій—заходня-рускай, царкоўна-славянскай, чэскай і польскай. Нарэшце, выказваючы шэраг сваіх лінгвістычных меркаваньняў, Будзіловіч адзначае стылістычныя недакладнасьці Уладзімерава. Рэцэнзэнт супроць тэрміну „белорусский язык". Ён уважае за лепшае „диалект". Затое нельга не згадзіцца з Будзіловічам, што тэрмін „Юго-Западная Русь" у дапасаваньні да Вільні і Полацку зусім неадпаведны.

Будзіловіч, адзначаючы сувязь выказаных Уладзімеравым думак з думкамі яго папярэднікаў, а таксама і тое, што некаторыя пагляды аўтара патрабуюць яшчэ далейшай распрацоўкі і могуць бадай быць зьнішчаны, усё-ткі лічыць заслугай аўтара тое, што ён моцна штурхануў іх наперад і прыблізіў да разьвязаньня. Будзіловіч лічыць вялікаю заслугай Уладзімерава бездакорную распрацоўку бібліографічнае часткі працы, якая надоўга застанецца ўзорам монографій гэтага роду.

Можна падвесьці падрахунак усім крытычным разглядам працы Уладзімерава. Чыста навуковы характар маюць толькі рэцэнзіі Сабалеўскага, Мурко, Доўнар-Запольскага і Будзіловіча. Калі рэцэнзіі першых двох маюць філёлёгічны характар, дык апошнія два рэцэнзэнты падышлі да ацэнкі працы з вельмі шырокіх пунктаў погляду. У гэтых адносінах цікава рэцэнзія Доўнар-Запольскага, у якой аўтар імкнецца адзначыць тое месца, якое займаў Скарына ў гісторыі беларускага народу. Праўда, пытаньне, пастаўленае Доўнар-Запольскім, не атрымала адпаведнага поўнага адказу, але яно захавала ўсю сваю актуальнасьць.

Уладзімераў адгукнуўся толькі ў 1894 годзе на некаторыя рэцэнзіі на сваё дасьледваньне аб Скарыне [1]). Ён лічыў патрэбным не зварочваць увагі на рэцэнзіі, зьмешчаныя ў „Славянском Вестнике", і ў „Kwartalniku historycznym", як асабліва прадузятыя. Найболей зьвярнуў увагу Уладзімераў на рэцэнзію Сабалеўскага. Уладзімераў ня можа згадзіцца з думкаю Сабалеўскага аб тым, што, апроч псалтыру і парамейніку, Скарына ня быў знаёмы ні з якімі іншымі царкоўна-славянскімі тэкстамі. Уладзімераў думае, што, апроч парамейніку, Скарына меў таксама дзесяціслоў пачатку XVI сталецьця. Парамейнік зьмяшчаў у сабе толькі абраныя разьдзелы з кніг старога закону, тады як дзесяціслоў быў няпоўным сьпіскам бібліі пачатку XVI сталецьця. Таксама Уладзімераў лічыў непатрэбным параўнаньне бібліі каралевы Зоф'і з тэкстамі Скарыны, бо абодва тэксты бібліі маюць сваёй падставай чэскі тэкст бібліі. Уладзімераў нязгодзен таксама і з увагай Сабалеўскага аб мове Скарыны. Сабалеўскі, па думцы Уладзімерава, дарэмна лічыць, што Скарына пераклаў біблію на славянскую мову. Мова Скарыны ў сваёй аснове, як думае Уладзімераў, ёсьць мова беларуская. Каб апраўдаць сваю думку, Уладзімераў адносіцца да вядомай працы Карскага „Очерки истории звуков и форм белорусской речи". Адказваючы Будзіловічу, і каб падтрымаць сваю думку аб тым, што Скарынінскія выданьні прызначаліся для мяшчанства, Уладзімераў заўважыў, што скарынінскія словы „Братья посполитые" адносяцца да мяшчанства. Уладзімераў прыводзіць тэкст гра-

[1]) „Чтения в Обществе Нестора Летописца". 1894, VIII, стар. 30-31.

маты 1553 году, у якой прадстаўнікі полацкага мяшчанства Есько Скарына і Гаўрыла Алелькавіч, пасланыя ў Рыгу для перамаўленьняў, названы „Братьей посполитой". У вадказ на ўвагу рэцэнзэнта „Kwartalnika historycznego" Ўладзімераў адзначае, што слова „Россия" ўжывалася ўжо ў XIV сталецьці. Так, у 1387 годзе мітрапаліт Кіпрыян названы мітрапалітам Кіеўскім і „России". У 1593 годзе браты Мамонічы надрукавалі псалтыр „для православного народа, закона греческого, языка славянского или российского".

Пасьля выпуску свайго дасьледваньня Ўладзімераў меў магчымасьць пабываць у Варшаве і азнаёміцца з рукапісам, які знаходзіўся ў бібліотэцы Красінскіх і з якім дагэтуль дасьледчык ня быў знаёмы. Гэты рукапіс быў напісаны „повелением Луки, с преславного града Тарнополя". Уладзімераў надае гэтаму рукапісу вялізарнае значэньне, бо ён можа служыць пацьвярджэньнем раней выказанае ім думкі аб тым, што Скарына пераклаў усе кнігі новага і старога закону. Рукапіс бібліотэкі Красінскіх падобны да рукапісаў львоўскага і пецярбурскага—Галавецкага і Пагодзіна. Ён зьмяшчае ў сабе паасобныя кнігі старога закону, якіх няма ў львоўскім і пецярбурскім рукапісах. Самая тэрмінолёгія,—„порядок книг старого закона и порядок книг нового закона"—скарынінскія. Імя Скарыны ў сьпісу Лукі нідзе не названа. Але што ў аснове сьпісу Лукі ляжалі скарынінскія сьпісы,—гэта не выклікае з боку Ўладзімерава ніякіх сумненьняў. Нарэшце, тыя некалькі слоў аб Скарыне, як друкару, якія Ўладзімераў прысьвяціў апошняму ў сваім артыкуле „О начале славянского и русского книгопечатания в XV—XVI в. в.", не дадаюць нічога новага да таго, што сам Уладзімераў раней гаварыў аб гэтым. Зразумела, ён узяў пад увагу матар'ялы, апублікаваныя Шляпкіным [1]).

Праз 12 год пасьля выхаду свайго дасьледваньня аб Скарыне Ўладзімераў надрукаваў невялічкі жыцьцяпісны нарыс Скарыны для слоўніку Брокгаўза і Эфрона. Жыцьцяпісная заметка Ўладзімерава аднаўляе асноўныя вывады, да якіх аўтар прышоў у сваім дасьледваньні аб Скарыне, але з пэўнымі адхіленьнямі ад раней выказаных думак. Так, Уладзімераў прадаўжае называць Скарыну „русским" і мову яго „русской". Гэтае зацьвярджэньне Ўладзімерава знаходзіцца ў супярэчнасьці з яго вывадам аб тым, што „перакладам біблійных кніг з царкоўна-славянскага і лацінскага тэкстаў Скарына заклаў падваліны літаратурнай мовы Паўднёва-Заходняе Русі. Форма мовы яго—мяшаная, неапрацаваная, але ў ёй выяўляюцца элемэнты беларускай гутаркі". У сваёй заметцы Ўладзімераў адмаўляецца ад раней выказанае ім думкі як быццам Скарына нарадзіўся ў багатай купецкай сям'і. Уладзімераў толькі ўстанаўляе факт пахаджэньня яго з купецкае сям'і ў Полацку. У сваім дасьледваньні Ўладзімераў не закранаў пытаньне аб тым, чаму ў першага беларускага друкара было падвойнае імя. У заметцы Ўладзімераў знаходзіць магчымым зацьвярджаць, што Скарына атрымаў імя Францішак, мусіць быць, у Кракаўскім Унівэрсытэце. Аўтар зацьвярджае, што Скарына вучыўся далей у Болёньні і зусім маўчыць аб матар'ялах Шляпкіна, якія вызначаюць, што Скарына атрымаў ступень доктара мэдыцыны ў Падуі. Дзіўна таксама чытаць рашучае зяцьвярджэньне аўтара аб тым, што ў Нямеччыне хадзілі апавяданьні аб адносінах Скарыны да Лютэра. Чаму аўтар паўтарае легенду, якую ён сам скасаваў? Нарэшце, насупроць Будзіловічу, Уладзімераў знайшоў магчымым усё-ткі зацьвярджаць, што ўсе выданьні Скарыны прызначаліся для „праваслаўных

[1]) „Чтения в Обществе Нестора Летописца". 1894, VIII. стар. 15—17.

рускіх людзей". Наогул, заметка Уладзімерава аб Скарыне досыць заблытаная і робіць дзіўнае ўражаньне [1]).

Ужо Уладзімераў у сваім дасьледваньні выказаў прыпушчэньне аб тым, што Скарына атрымаў ступень „доктора в лекарстве" дзе-небудзь, як і іншыя выхаванцы Кракаўскага Унівэрсытэту, па-за Кракавам, у Нямеччыне, Італіі, альбо ў Празе. Але Уладзімераў ня меў ніякіх конкрэтных даных, каб давесьці сваю думку. У 1891 годзе Віндакевіч у сваім артыкуле „Materyjał do historyi Polaków w Padwie" памянуў імя Скарыны. Профэсар Бэрлінскага Унівэрсытэту А. А. Брыкнэр паведаміў аб гэтым артыкуле І. Шляпкіна; апошні ў часе свайго мяшканьня ў Падуі зрабіў належныя дасьледзіны ў унівэрсытэцкім архіве і знайшоў там тры вельмі каштоўныя докумэнты ў лацінскай мове, якія мелі адносіны да Скарыны. Гэтыя докумэнты пацьвердзілі раней выказанае прыпушчэньне Уладзімерава аб атрыманьні Скарынай ступені „в лекарских науках доктора" за кардонам.

Докумэнты І. Шляпкіна запаўняюць важны прабел у жыцьцяпісе Скарыны. Першы з докумэнтаў паказвае, што ў пятніцу 5 лістапада 1512 году ў звычайным пасяджэньні мэдычнае калегіі Унівэрсытэту пад старшынствам віцэ-прыора Мусаці, апошні вытлумачыў прычыну скліку калегіі наступным чынам: нехта, вельмі вучоны, але бедны юнак, doctor artium, які з далёкіх краін прышоў сюды, просіць даць яму магчымасьць набыць ступень доктара мэдыцыны бясплатна (de gratia speciali ac amore Dei per hoc sacrum collegium in medicinis). Прыор назваў імя гэтага юнака—Францішак, сын памёршага Лукаша, Скарына, родам з Полацку, рускі (quidem iuvenis et doctor praefatus nominatur dominus Franciscus quondam D. Lucae Scorina de Poloczko Ruthenus). Пасьля гэтага быў уведзены сам прасіцель, які прасіў „humiliter et reverenter" (пакорна і пачціва) даць яму магчымасьць трымаць экзамен на ступень доктара мэдыцыны. Пытаньне было разьвязана галасаваньнем на карысьць Скарыны. Другі докумэнт дае весткі аб папярэдніх выпытах. Яны адбыліся ў суботу ў лістападзе таго-ж самага году ў царкве сьвятога Урбана. Папярэднія выпыты скончыліся для Скарыны добра. Ён быў дапушчаны да прыватных выпытаў па мэдыцыне. Трэці докумэнт паведамляе аб дэталях экзамену, які быў зроблены 9 лістапада ў біскупскім палацы,—экзамену ў прысутнасьці ўсяе мэдычнае калегіі і біскупа вікарыя Паўла Забарэльлі. Экзамен прайшоў для Скарыны добра. Скарына аднагалосна абвешчаны быў доктарам мэдыцыны і быў узьведзены ў гэтую годнасьць доктарам Бартолёмэем Барызонам.

Знаходка Шляпкіна ня толькі ўстанавіла вельмі важны факт у жыцьцяпісе Скарыны, але, як зусім справядліва заўважыў Шляпкін, дазваляе скласьці ўяўленьне аб прыблізных гадох Скарыны і аб імені яго бацькі. Гэтыя пытаньні высунуты былі ўпяршыню Уладзімеравым [2]).

Ня меней каштоўнымі зьяўляюцца апублікаваныя А. Мілавідавым новыя докумэнты, якія адносяцца да жыцьцяпісу Скарыны. Гэтыя докумэнты знойдзены ў Кёнігсбэрскім архіве ў ліку чатырох: тры поўныя і адзін адрывак. Першы з іх, ад 16 мая 1530 году, ёсьць ліст першага пруськага караля Альбрэхта Старэйшага да віленскага ваяводы Гаштольца, які займаў пасаду ваяводы з 1522 да 1539 году. Пруські кароль просіць ваяводу адпусьціць да яго Скарыну. Другі докумэнт, ад 16 мая 1530 году, гэта—пашпарт, выдадзены тым-жа каралём Ф. Скарыне для бесьперашкоднага праезду ў Кёнігсбэрг, з загадам і

[1]) Энциклопедический словарь Брокгауза и Эфрона, т. XXX. стар. 228-229.
[2]) „Журнал Министерства Народного Просвещения", 1892, IV, стар. 382—385.

просьбай усяляк дапамагаць вучонаму доктару ў часе падарожы. Трэці документ, ад 18 мая 1530 году, ліст таго-ж караля да віленскага сэнату адносна Францішка Скарыны, які едзе назад у Вільню з прычыны сямейных акалічнасьцяй. Альбрэхт просіць аднесьціся да Скарыны і яго сям'і справядліва і, калі што-колечы з яго маемасьці захоплена, дык вярнуць яму. Чацьверты документ, ад 16 мая 1530 году, ёсьць скарга таму-ж ваяводзе Гаштольду на Францішка Скарыну за тое, што апошні вывез з сабою нейкага яўрэя, які быў пры каралі доктарам і друкаром, чым зрабіў вялікую шкоду.

Выдавец документаў А. Мілавідаў зусім правільна адзначыў значэньне іх для жыцьцяпісу Скарыны. Яны даюць некаторыя новыя даныя адносна жыцьця Скарыны за кардонам у 1530 годзе. Надрукаваныя Уладзімеравым документы паказваюць на адсутнасьць Скарыны ў Вільні ў 1530 годзе. Да публікацыі А. Мілавідавым сваіх документаў, знойдзеных у Кёнігсбэрскім архіве, нічога ня было вядома аб зносінах Скарыны з Прусіяй. Ад'езд у Прусію Мілавідаў ставіць у сувязь з вялікім віленскім пажарам, які зьнішчыў 3/4 Вільні. Відавочна, Скарына знаходзіўся ў вельмі цяжкіх абставінах, што і прымусіла яго паехаць да прускага караля. Так паступова новыя документы павялічваюць нашыя малыя веды аб жыцьці і дзейнасьці Скарыны [1]).

IV.

Усе тыя, хто займаліся гісторыяй Беларусі ці гісторыяй Украіны альбо цікавіліся беларускімі і украінскімі літаратурнымі плынямі, ад водзілі ў сваіх кнігах і артыкулах віднае месца Скарыне. З ліку гэтых дасьледчыкаў на першым месцы трэба паставіць акадэміка Е. Ф. Карскага. Ужо ў 1886 годзе ў сваёй працы „Обзор звуков и форм белорусской речи" Карскі падышоў да Скарыны. Вывучаны ім рукапіс Віленскае Публічнае Бібліотэкі Карскі прылічыў да перакладаў Скарыны [2]). Аднак, супроць гэтага зацьвярджэньня Уладзімераў выказаў некаторыя ўвагі. Уладзімераў, наадварот, думаў, што ўвесь рукапіс, за выключэньнем псалтыру, ёсьць пераклад з яўрэйскага тэксту [3]). У сваёй новай працы Карскі прымушаны быў прызнаць памылковасьць свае думкі і павінен быў згодзіцца з тым, што віленскі рукапіс—яўрэйскага пахаджэньня. На думку Карскага, рукапіс „належыць да нейкага вучонага яўрэя, пахаджэньнем з Заходняй Русі, што, зразумела, адбілася на будове і складзе мовы" [4]). Карскі ў першым томе свайго твору „Белорусы" прызнаў працу Уладзімерава аб Скарыне „замечательным трудом, в котором дается материал двоякого рода: историко-литературный и лингвистический". Карскі адзначае багацьце апошняга, дзе ёсьць мноства даных для дасьледваньня „заходня-рускіх" гаворак і суджэньня аб іхніх асаблівасьцях [5]). У 1918 годзе Карскі надрукаваў вельмі каштоўную працу „Доктор Франциск Скорина", якая прызначалася да дня 400-лецьця выхаду праскага „Псалтыру".

---

[1]) Миловидов А. Новые документы, относящиеся к биографии Франциска Скорины, „Известия Отделения Русского Языка и Словесности". 1917, т. XXII, книжка 2-я. Петроград, 1918, стар. 220—226. Між іншым, проф. Піотуховіч зазначае, што публікуючы документы, Мілавідаў ня зусім правільна перадаў сэнс першага з іх, дзе кароль Альбрэхт фактычна ня просіць Гаштольда адпусьціць да яго Скарыну, але толькі паведамляе аб перасяленьні яго ў Кёнігсбэрг. Гл. ў гэтым зборніку, стар. 169.

[2]) Карский Е. Ф. Обзор звуков и форм белорусской речи. М. 1886. стар. 161.

[3]) Владимиров П. В. Доктор Ф. Скорина. Стар. 239.

[4]) Карский Е. Ф. К истории звуков и форм белорусской речи. Варшава. 1893.

[5]) Карский Е. Ф. „Белорусы". Т. I. 1904. Стар. 416.

Праца Карскага вельмі цікавая і зьяўляецца абагульненьнем усяго матар'ялу, які мы дагэтуль маем. Карскі высака ставіць дзейнасьць Скарыны і лічыць, што ўсе яго выданьні ёсьць выдатнае ў шмат якіх адносінах зьявішча „заходня-рускае“ культуры. У васобе Скарыны, на думку Карскага, мы маем адукаванага чалавека свайго часу, які нікольկі ня быў ніжэй за тагочасных заходня-эўропейскіх дзеячоў ані розумам сваім, ані энэргіяй і высокімі замысламі. Не знаходзячы на бацькаўшчыне вышэйшае навукі, ён вандруе па найболей выдатных заходня-эўропейскіх унівэрсытэтах, дасягае вышэйшых вед і скарыстоўвае іх на карысьць свайго народу. Так ацэньвае асобу Скарыны Карскі. Хаця Скарына пераклаў сваю біблію з чэскага выданьня 1506 году, аднак, у сваім перакладзе ён выявіў шмат самастойнасьці. Апошняя выяўлялася перш за ўсё ў тым, што Скарына некаторыя кнігі альбо часткі іх пераклаў на народную мову. Самастойнасьць Скарыны выяўлялася і ў напісаных ім прадмовах як да паасобных кніг, так і да цэлых груп іх. Нарэшце, самастойнасьць Скарыны выяўлялася ў тым, што ён часам для ажыўленьня сваіх выданьняў ужывае вершы сылябічнага характару. Гэты род творчасьці з часам вельмі разьвіўся ў „Заходняй і Паўднёвай Русі“, не бяз уплыву, зразумела, польскіх і чэскіх выданьняў, дзе такія вершы зьмяшчаліся. Да артыкулу Карскага далучаны адрыўкі з перакладаў Скарыны і дадзена падрабязная характарыстыка ўплыву Скарыны на разьвіцьцё беларускае і украінскае пісьменнасьці. Ня гледзячы на сьцісласьць нарысу, апошні адзначаецца глыбінёю і багацьцем зьместу. Трэба адзначыць, што Карскі ніколі ня высоўвае такіх гіпотэз, якія ўтваралі і, відавочна, будуць утвараць многія пісьменьнікі для тлумачэньня і разуменьня дзейнасьці Скарыны. Карскі заўсёды стаіць на грунце фактаў, вызначаных навукай. Значэньне Скарыны Карскі характарызуе так: „Такім чынам, перакладчая і выдавецкая дзейнасьць славутнага беларуса XVI сталецьця зьяўляецца выдатнай ня толькі сама па сабе, але таксама і па тым уплыве, які яна зрабіла на далейшае разьвіцьцё гэтай галіны пісьменства. Яго друкаваныя пераклады папярэдзілі значна горшыя за іх сваім знадворным выглядам маскоўскія выданьні болей як на 30 год“ [1]). Нарэшце, Карскі выпусьціў вялікую кнігу аб беларускай старой пісьменнасьці, у якой Скарына, зразумела, займае належнае месца. Аднак, усё, што напісаў Карскі аб Скарыне ў новай кнізе, ёсьць бадай што дасложнае аднаўленьне папярэдняга артыкулу з вельмі нязначнымі дадаткамі ілюстрацыйнага характару [2]).

Шмат увагі аддае дзейнасьці Скарыны Ў. М. Ігнатоўскі ў сваім „Кароткім нарысе гісторыі Беларусі“. Уся эпоха XVI сталецьця здаецца аўтару эпохаю высокае культуры літоўска-беларускае дзяржавы. Аб гэтым сьведчыць разьвіцьцё беларускага друку, з якім злучана дзейнасьць першага беларускага друкара Францішка Скарыны. Характарыстыка асобы Скарыны зроблена яскрава і выразна. Аўтар прылічвае Скарыну да багатай гандлярскай сям'і. Апроч таго, У. М. Ігнатоўскі не адзначае атрыманьне Скарынай ступені „доктара ў лекарстве“ ў Падуанскім Унівэрсытэце. Аўтар абмежаваўся толькі агульнаю фразай, што Скарына, незадаволены атрыманаю адукацыяй, паехаў у Заходнюю Эўропу, дзе таксама скончыў адзін з унівэрсытэтаў, але ўжо па мэдычным факультэце, і атрымаў ступень доктара [3]).

---

[1]) Карский Е. Ф. Доктор Франциск Скорина, „Чырвоны Шлях“. 1918. №№ 3-4, стар. 13–16.

[2]) Ibidem. „Белорусы“. Т. III. Птр. 1921. стар. 27—35.

[3]) Ігнатоўскі Ў. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Менск. 1919. Стар 69—71.

М. Гарэцкі, аўтар „Гісторыі беларускае літаратуры“ [1]), зразумела, аддаў Скарыне многа ўвагі ў сваёй кнізе. Францішак Скарына—яскравы прадстаўнік беларускае літаратуры „залатога веку“. Аўтар разглядае ўсебакова жыцьцё і дзейнасьць Скарыны, бачачы ў ім „гуманістага, патрыота і чалавека пабожнага, лепшага інтэлігента свайго часу“. У працы ёсьць і бяздовадныя думкі. Так, Скарына зьяўляецца сынам „заможных купцоў, якія мелі гандаль з Рыгаю і Вільняю“. Гэта ёсьць першая памылка. Няправільна таксама і другое зацьвярджэньне аўтара, быццам Скарына пазьней, калі рабіў падарож па Нямеччыне, пазнаёміўся з Лютэрам, які „быў да яго няпрыхільны, бо думаў, што Скарына—нячыстая сіла“. Гэтую байку трэба было-б выкінуць з курсу, які прэтэндуе на навуковасьць. З пасьляслоўя да „Псалтыру“ 1517 году вядома, што Скарыне пры друкаваньні даў матар'яльную дапамогу Онькаў, сын радцы места Віленскага. У Гарэцкага сустракаецца такая думка, якую немагчыма давесьці: „у гэтай працы яму памаглі заможныя беларусы, прыхільнікі асьветы, а ў першы чарод памагло, кладучы кошт, Віленскае Панскае брацтва. Памаглі яму і беларускія мяшчане, прыкладам, сын віленскага радцы Багдан Онькаў, віленскі бурмістар Якуб Бабіч і іншыя. Яны давалі яму грошы і здабывалі і прысылалі патрэбныя матар'ялы“. Можа быць гэта так і было,—мы гэта ня ведаем,—але апроч пасьляслоўя да „Псалтыру“ 1517 году мы ніякіх даных ня маем, і лепш было-б у гэтым разе быць, як Уладзімераў, надта асьцярожным і ўнікаць бяздовадных фраз. Высьвятляючы значэньне Скарыны, Гарэцкі правільна зацьвярджае, што „Скарына стаіць у нас на вялікім гістарычна-літаратурным і культурным рубяжы, як першы беларускі друкар. Друкарня яго ў Вільні, першая на Беларусі, адбыла вялікую культурную місію для ўсяго славянскага Ўсходу“... [2]).

Таксама Н. Л. Янчук, даючы наогул правільную і цікавую характарыстыку Скарыны, робіць памылкі [3]). У Янчука Скарына—шляхціц пахаджэньнем, бо меў свой гэрб, хаця яго родныя належалі да купецкага і мяшчанскага стану. Гэта, зразумела, няверна. Няправільна і тое, што Скарына меў досыць вялікую маемасьць, аб чым мы нічога ня ведаем. Н. А. Янчук не памінае аб атрыманьні Скарынаю ступені доктара ў Падуі. Бясспрэчна, вялікаю заслугай Янчука зьяўляецца тое, што ён на грунце прадмоў Скарыны, спрабаваў пазнаёміць чытача са сьветапаглядам Скарыны. Памёршы вучоны зрабіў гэта ўпяршыню. Зусім правы Янчук і ў сваёй выдатнай характарыстыцы дзейнасьці першага беларускага друкара. „Доктар Скарына,—піша Янчук,—сваімі выданьнямі ўліваў сьвежы струмень у царкоўнае жыцьцё; ён дапамагаў разьвіцьцю сьвядомых адносін да царкоўных кніжок і да рэлігіі; а што для нас найважней, так гэта тое, што Скарына першы даў у рукі народу зразумелую літаратуру і прабуджаў у гэтым народзе замілаваньне да асьветы і да роднага слова“.

Эпоха XVII сталецьця на Беларусі, у ацэнцы Ў. І. Пічэты, можа быць названа „беларускім адраджэньнем“. Заходня-рускае, г. зн. беларускае адраджэньне, піша Пічэта, якое насіла ясна індывідуалістычны характар, знаёміла беларускую шляхоцкую дэмократыю з рымскім правам і рабіла яе асабліва ўпартай у вабароне сваіх індывідуальных праў. Зьбіраньне бібліотэк было таксама адбіткам беларускага куль-

[1]) М. Гарэцкі. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920. Стар. 21.

[2]) Ibidem. стар. 25.

[3]) Проф. Янчук Н. Я. Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 1922. Стар. 8—15.

турнага адраджэньня. Знаёмства з філёлёгіяй асабліва выявілася ў перакладзе біблії на беларускую мову. У канцы XVI сталецьця за гэтую справу ўзяўся вандроўны друкар Базыль Цяпінскі, а ў першай палове XVI сталецьця гэтую задачу бліскуча выканаў палачанін Фр. Скарына, які імкнуўся „к наученію простых людей руского языка". Новая культура закранула зямельную арыстократыю і шляхоцкую дэмократыю, часткова і гарадзкое грамадзянства [1]). У іншым месцы, даючы агульную характарыстыку беларускага адраджэньня, Пічэта адзначае, што гандлёвыя сувязі з Заходняй Эўропай дапамагалі праніканьню ў месты і ў колы зямляўласьнікаў эўропейскае культуры і ўтваралі гуманістычны рух, нацыянальны ў сваёй аснове і індывідуалістычны па сваім характары. Скарына належыць да гарадзкіх гуманістых. Называючы Скарыну гуманістым, Пічэта, аднак, не прабуе выясьніць сутнасьць гуманістычнага сьветапагляду Скарыны. Кажучы аб значэньні перакладу біблії Скарынай, аўтар заўважвае, што, „перакладаючы сьвятое пісьмо на родную мову, Скарына стараўся зрабіць яго даступным, зразумелым для шырокіх народных гушчаў. Для Скарыны сьвятое пісьмо мае аграмаднае моральна-навучальнае значэньне, як крыніца жыцьцёвай мудрасьці і боскай праўды" [2]). Пічэта зварочваецца яшчэ раз да Скарыны ў сувязі з сьвяткаваньнем чатырохсотлецьця беларускага друку. Пічэта доўга спыняецца на пахаджэньні і агульным характары беларускага адраджэньня. Аўтар прылічвае Скарыну да сярэдня-заможнага мяшчанства. Ён шырака выкарыстаў матар'ялы Шляпкіна і Мілавідава. Ён піша, што ў 1535 годзе Скарына жыў у Вільні, але год яго сьмерці застаецца невядомым. Даўшы агульны малюнак дзейнасьці Скарыны ў Празе і Вільні, Пічэта спыняецца на характарыстыцы сьветапагляду першага беларускага друкара, як гуманістага. Аўтар лічыць, што „індывідуалізм Скарыны, даволі рэзка выяўлены, хоць не парваўшы сувязі з рэлігійнымі традыцыямі, далучаецца да індывідуалізму раньніх італьянскіх гуманістых як Дантэ, якія заставаліся на грунце ортодоксальнага каталіцызму. Ф. Скарына быў сынам свайго веку, хаця-ж яго зацікаўленасьць прыродай цалкам грунтуецца на падставах царкоўных сьветапаглядаў" [3]).

Усе дасьледчыкі, усьлед за Уладзімеравым, лічылі, што Скарына нарадзіўся ў апошняй чвэрці XV сталецьця, каля 1490 году. Аднак, гэтую дату Уладзімераў прыняў вельмі ўмоўна, бо ён ніякіх даных для гэтага ня меў, апроч таго, што Скарына паступіў у Кракаўскі Унівэрсытэт у 1504 годзе. Значыцца, у момант паступленьня Скарыны ў Кракаўскі Унівэрсытэт ён меў ня меней як 14 год. Трэба думаць, што чатырнаццацілетні ўзрост быў крыху замалы для ўступу да Унівэрсытэту, і трэба лічыць год нараджэньня Скарыны некалькі раней. Урэшце, дакладнае даты дагэтуль яшчэ мы вызначыць ня можам. М. М. Шчакаціхін высунуў цікавую гіпотэзу аб 1486 годзе, як годзе нараджэньня Скарыны. Свой вывад Шчакаціхін робіць на падставе вывучэньня гэрбу Скарыны, які трэба было вытлумачыць згодна з тагочаснымі астролёгічнымі ведамі. Шчакаціхін лічыць, што Скарына павінен быў нарадзіцца ў той год, калі было зацьменьне сонца, якое было відаць у Полацку. Такое зацьменьне відаць было там у 1486 годзе. Зацьменьне адбылося 6 сакавіка 1486 году. Значыцца, гэты дзень і трэба лічыць днём нараджэньня Скарыны [4]). Гіпотэза Шчакаціхіна вельмі цікавая і заслугоўвае пэўнае ўвагі. Калі яна нават, бя-

[1]) Курс белоруссоведения. М. 1918—1920. Стар. 37-38.
[2]) Пічэта. Гісторыя Беларусі. Ч. І. Масква, 1924. Стар. 125-126.
[3]) Пічэта. Францішак Скарына і яго працы. „Савецкая Беларусь", 1925. №№ 292-293.
[4]) Шчакаціхін М. Калі рад. Францішак Скарына. „Полымя", 1925. № 5. Стар. 148—152.

зумоўна, і вельмі спрэчная,—дык, усё-ж бясспрэчна правільна прыпушчэньне, што Скарына нарадзіўся некалькі раней, чымся гэта вызначыў Уладзімераў. Калі прыняць датай 1486 год, дык Скарыне ў момант паступленьня ў Кракаўскі Унівэрсытэт было 18 год. Уладзімераў вывучыў выданьні Скарыны з пункту пагляду друкарскага мастацтва, але пытаньне аб гравюрах і орнамэнтах у выданьнях Скарыны ён не закрануў. У літаратуры аб Скарыне, якая існуе з гэтага поваду, аб Скарыне сказана толькі некалькі слоў, і ўпоўне зразумела, што чарговым заданьнем гісторыкаў мастацтва было вывучэньне гравюр і орнамэнтаў у выданьнях Скарыны. Гэтую спробу зрабіў Шчакаціхін, і, трэба сказаць, зрабіў вельмі ўдала [1]). Гравюры і орнамэнты Шчакаціхін вывучыў вельмі падрабязна. З пункту пагляду іх мастацкага выкананьня аўтар ставіць іх вельмі высака. Зразумела, у артыкуле Шчакаціхіна намечаны толькі асноўныя вехі. Само па сабе пытаньне такое складанае, што патрабуе самастойнага вывучэньня, што Шчакаціхін і зрабіў у іншай працы [2]).

Сьвяткаваньне 400-лецьця беларускага друку ў Менску выклікала зьяўленьне артыкулу юбілейнага характару А. Харэвіча: „Скарына і яго эпоха“. Аўтар дае характарыстыку стану Літоўска-Беларускае дзяржавы ў канцы XV і ў пачатку XVI сталецьця. Аўтар звярочвае ўвагу на разьвіцьцё буйнога зямляўласьніцтва і злучаных з ім шляхоцкіх вольнасьцяй, на становішча местаў, на моральны заняпад царквы. Аўтар констатуе, што ў гэтую эпоху ў краіне далёка ня ўсё было ў добрым стане. Грубасьць, самаўладзтва, забойствы, рабункі, уціск сялянскіх мас былі характэрнымі адзнакамі эпохі. Народная асьвета знаходзілася на самай нізкай ступені. На гэтай падставе і пачынае разьвіваваца дзейнасьць Скарыны. Аўтар зусім правы, калі, разглядаючы ідэолёгію Скарыны, ён бачыць у ёй рэакцыю супроць сярэднявечнага сьветаразуменьня. Дзякуючы гэтаму, для Харэвіча Скарына зьяўляецца прадстаўніком гуманістычнага сьвету. У працы Харэвіча ёсьць некаторыя жыцьцяпісныя даныя аб Скарыне. Упоўне зразумела, што аўтар асьцярожна адносіцца да вываду Шчакаціхіна аб годзе нараджэньня Скарыны. Даючы кароткі нарыс жыцьця і дзейнасьці Скарыны, А. Харэвіч заўсёды стаіць на грунце фактаў і ніколі не прыбягае да вымыслаў, якіх немагчыма апраўдаць адноскамі да крыніц. Для жыцьцяпісу Скарыны А. Харевіч чамусьці ня выкарыстаў матар'ялаў Мілавідава. Зразумела, ацэнку дзейнасьці Скарыны аўтар зрабіў зусім правільна. Аўтар бачыць у асобе Скарыны прадстаўніка тае эпохі, якая была цесна зьвязана з рэформацыйным рухам, хаця ў бібліі Скарыны дух рэформацыі не адчуваецца. Аднак, такія консэрватары, як князь А. Курбскі, адносіліся адмоўна да перакладу бібліі Скарыны, лічачы скарынінскую біблію кнігай неправаслаўнага характару. Уся скарынінская ідэолёгія, на думку Харэвіча, ідзе супроць духу эпохі. І некаторымі сваімі думкамі, зацьвярджае Харэвіч, Скарына папярэдзіў сваю эпоху на цэлае сталецьце. Асноўнаю яго ідэяй, што чырвонай ніцьцю праходзіць праз усе выданьні Скарыны, зьяўляецца ідэя аб сувязі пісьменнасьці з народам, ідэя такая актуальная ў наш час. Артыкул А. Харэвіча можна прылічыць да аднаго з найлепшых, якія зьявіліся ў сувязі з юбілеем [3]).

---

[1]) Шчакаціхін М. Дрэварыты і орнамэнт ў выданьнях Скарыны. „Наш Край“. 1926. № 1.

[2]) Яго-ж. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны—у гэтым зборніку, стар. 180—228.

[3]) А. Харэвіч. Ф. Скарына і яго эпоха. „Полымя“. 1925. № 7. Стар. 138—153.

Юбілейнае пахаджэньне мае і артыкул проф. М. М. Піотуховіча „Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасьць“. Артыкул напісаны на падставе знаёмства з усёю літаратурай аб Скарыне і вельмі добрага вывучэньня ўсіх выданьняў Скарыны. Вельмі цікавы тыя паказаньні аўтара, якія датычаць Падуанскага Унівэрсытэту. Рэч у тым, што ў той год, калі Скарына атрымаў ступень доктара лекарскіх навук у Падуанскім Унівэрсытэце, самы Унівэрсытэт быў зачынены. Значыцца, Скарына павінен быў недзе атрымаць мэдычную адукацыю, але ў якім уласна месьце—застаецца невядомым. Характарызуючы Скарыну як прадстаўніка гуманістычнага руху і знаходзячы ў сьветапаглядзе Скарыны шмат сярэднявечнага, Піотуховіч, аднак, паказвае і на шэраг новых ідэй, якія знаходзіліся ў рэзкай супярэчнасьці з старым сярэднявечным сьветаразуменьнем. Сваімі ідэямі і дзейнасьцю Скарына належыць да эпохі адраджэньня. Індывідуалізм, нацыоналізм і натуралізм, імкненьне пазнаць прыроду, ёсьць тры асноўныя рысы гуманізму. Гэтыя рысы ўласьцівы і Скарыне. Недарэмна ён пакінуў схолястычны Кракаўскі Унівэрсытэт і накіраваўся ў Італію, краіну новае філёзофска-натуральнае думкі, новых літаратурных плыняй. Зусім правы Піотуховіч у сваім вывадзе, што на асобе Скарыны ляжаць „густыя цені сярэднявечча, але адначасна мрок гэтых ценяй прарэзаюць сьветлыя блікі жыцьцярадаснага рэнэсансу“ [1]).

Нарэшце, сьвяткаваньне на Беларусі 400-лецьця ад дня выхаду скарынінскага „Апостала“, выклікала зьяўленьне невялічкага жыцьцяпісу Скарыны, аўтарам якога зьяўляецца Н. Бываеўскі. Гэты невялічкі жыцьцяпіс грунтуецца на ўсіх вядомых нам матар'ялах аб Скарыне. Аднак, у артыкуле ёсьць зацьвярджэньні, з якімі цяжка згадзіцца. Так, адкуль аўтар ведае, што, калі ў Вільні быў бацька Скарыны, дык было вырашана пытаньне аб далейшай адукацыі маладога Францішка. Трэба аднесьці таксама да непагрунтаваных гіпотэз зацьвярджэньне аўтара аб тым, што Скарына быў гасьцём М. Лютэра і Мэлянхтона, калі яны распачалі барацьбу з каталіцкаю царквою. Здаецца таксама, што і гіпотэза Шчакаціхіна аб часе нараджэньня Скарыны, пры ўсёй сваёй дасьціпнасьці, застаецца толькі гіпотэзай [2]).

400-лецьце беларускага друку выклікала шэраг водгукаў за кардонам у Беларускіх землях. І польскія, і беларускія дасьледчыкі прысьвецілі гэтаму важнейшаму факту ў гісторыі беларускае культуры паасобныя працы і артыкулы. Так, Абрамовіч надрукаваў спэцыяльнае дасьледваньне аб 400-лецьці друкарства ў Вільні. У гэтай працы адведзена значнае месца і Ф. Скарыне, як першаму віленскаму друкару. Аўтар выкладае жыцьцяпісныя даныя на падставе кнігі Уладзімерава і матар'ялаў Шляпкіна. Новыя даныя Мілавідава засталіся аўтару невядомымі. Наогул, ува ўсіх сваіх разважаньнях адносна выданьняў Скарыны Абрамовіч ідзе за Уладзімеравым і яго вывадамі. Разьдзел аб Скарыне ў працы Абрамовіча невялічкі, але адначасна ён вельмі выразна сумуе ўсё, што было зроблена ў навуцы адносна вывучэньня Скарыны [3]).

На юбілей Скарыны адгукнуўся ў Вільні і А. Станкевіч. Невялічкая памерам праца А. Станкевіча ёсьць вельмі ўдалая спроба навукова-популярнае характарыстыкі дзейнасьці першага беларускага

[1]) М. М. Піотуховіч. Ф. Скарына і яго літаратурная дзейнасьць. „Асьвета“ № 7. 1925 г.

[2]) „Наш Край“. Менск, 1926, I. Стар. 5—7.

[3]) L. Abramowicz. Cztery wieki drukarstwa w Wilnie (1525—1925). Wilno, 1925. Стар. 150. Стар. 14—18.

друкара. Апошняя разглядаецца ў адпаведнай культурна-гістарычнай абстаноўцы. Цэнтр увагі А. Станкевіча—жыцьцё Скарыны і яго дзейнасьць у Празе і ў Вільні. Праца Станкевіча не арыгінальная, бо ў яе аснове ляжыць праца Уладзімерава, а таксама артыкулы ў бэрлінскім часопісе „Літопісь“ за 1924 год, а некаторыя факты ўзяты і з працы Сьвяньціцкага „Початкі кнігопечатаня на землях України“. А. Станкевіч, усьлед за Уладзімеравым, вельмі асьцярожны ў сваіх вывадах і ніколі не закранае фактаў, якія немагчыма падтрымаць адпаведнымі довадамі, напрыклад, пытаньне аб вызнаньні Скарыны. А. Станкевіч, даючы апісаньне праскіх і віленскіх друкаў, прабаваў таксама выявіць сутнасьць скарынінскага сьветаразуменьня. Нельга назваць спробу аўтара ўдалай, хаця трэба згадзіцца з думкай аўтара аб тым, што гуманістычны рух у Італіі і Заходняй Эўропе зрабіў пэўны ўплыў на Скарыну. Урэшце, гэтая правільная гіпотэза нічым не даведзена. Але адкуль аўтару вядома, што „несьмяротны Дантэ, слаўны Пэтрарка, Боккачыо і іншыя вялікія поэты, патрыоты сонечнай Італіі, прадвесьнікі гуманізму, былі добра вядомы Скарыне і служылі багатым узорам для яго культурна-прасьветнай дзейнасьці“, нам і пасьля працы Станкевіча засталося невядомым. Урэшце, і самая характарыстыка Дантэ, Пэтраркі і Боккачыо як папярэднікаў гуманізму,—зьяўляецца спрэчнай, калі не адносна Дантэ, дык адносна двох апошніх гуманістых. Заслугоўвае ўвагі заключны разьдзел працы А. Станкевіча, прысьвечаны высьвятленьню значэньня дзейнасьці Скарыны. Аўтар правільна зацьвярджае, што „Скарына сваімі кніжкамі далучаў Беларусь да агульнаэўропейскае культуры“ [1]).

Другая праца юбілейнага характару вышла ў Коўні і належыць пяру В. Ластоўскага. Гэты невялічкі памерамі артыкул агульнага характару варты ўсялякае ўвагі, хаця з паасобнымі паглядамі аўтара згадзіцца цяжка. Так, В. Ластоўскі падтрымлівае гіпотэзу аб тым, што Скарына перад атрыманьнем ступені доктара мэдыцыны ў Падуі вучыўся ў Праскім Унівэрсытэце. Аднак, як-бы ні была цікава гэтая гіпотэза, яе ўсё-ткі трэба адкінуць. Трэба таксама аднесьці да катэгорыі поэтычных вымыслаў разважаньні Ластоўскага аб тым, як Скарына зьвярнуўся на бацькаўшчыну, як ён пазнаёміўся з мясцовымі культурнымі дзеячамі, як у яго зьявіўся намер прысьвяціць сябе асьветнай працы, а таксама аб тым, чаму Скарына пакінуў бацькаўшчыну і пасяліўся ў Празе. Усе гэтыя разважаньні фактамі даведзены быць ня могуць, і лепш было-бы іх не закранаць. І Ластоўскаму матар'ялы Мілавідава засталіся невядомымі, хаця яны зьмяшчаюць надзвычайна каштоўныя даныя для жыцьцяпісу Скарыны. Наогул на працу Ластоўскага зрабіў пэўны ўплыў артыкул Карскага аб Скарыне. Калі Ластоўскі характарызуе асобу Скарыны, як „культурнейшага чалавека сваіх часоў, які нічым ня ўступаў тагочасным заходня-эўропейскім дзеячом ні розумам, ні энэргіяй, ні сваімі шырокімі помысламі“, дык аўтар паўтарае даслоўна словы Карскага. Артыкул Ластоўскага канчаецца агульнай характарыстыкай выданьняў Скарыны з пункту погляду іх тэхнікі і мастацкасьці. У канцы артыкулу прыведзены ўзоры скарынінскіх біблійных перакладаў. Артыкул канчаецца агульнай характарыстыкай значэньня дзейнасьці Скарыны. Трэба таксама адзначыць, што ў артыкуле вельмі добра ілюстраваны той матар'ял, які мае дачыненьне да тэхнікі скарынінскіх выданьняў [2]).

[1]) А. Станкевіч. Доктар Францішак Скарына—першы друкар беларускі. 1525—1925. Вільня. 1925. Стар. 56.

[2]) Ластоўскі В. Доктар Францішак Скарына (1525—1925). „Крывіч“. Коўня. 1925. № 2. Стар. 313.

Сярод прац украінскіх дасьледчыкаў, якія закраналі жыцьцё і дзейнасьць Скарыны, зварочваюць на сябе ўвагу, перш за ўсё, працы акадэміка М. С. Грушэўскага. Зразумела, Скарына ня цікавіць аўтара сам па сабе, але толькі з прычыны сувязі дзейнасьці першага беларускага друкара з культурным разьвіцьцём Украіны. М. С. Грушэўскі, зразумела, правы, калі дзейнасьць Скарыны разглядае як вынік самастойнага беларускага культурнага разьвіцьця, а не як вынік уплыву заходняпротэстанцкіх плыняй. М. С. Грушэўскі адзначае, што на Беларусі і на Украіне ўжо ў XV і ў пачатку XVI сталецьця, задоўга да зьяўленьня рэформацыйнага руху, пачалі зьяўляцца пераклады розных царкоўных кніг на народную мову, усьлед за якімі зьявіўся пераклад сьвятога пісьма полацкім мешчанінам Ф. Скарынай, выхаванцам раней Кракаўскага, а потым Падуанскага Унівэрсытэтаў. Скарына пачаў сваю перакладчую працу незалежна ад якіх-колечы рэформацыйных ідэй. М. С. Грушэўскі, ацэньваючы праскую і віленскую дзейнасьць Скарыны, лічыць, што плян выданьня поўнае бібліі, калі судзіць па тым, што да нас дайшло, ня быў выкананы, хаця ў аднэй з сваіх прадмоў Скарына гаварыў пра ўсю біблію, якую ён хацеў даць у рукі чытачу. Грушэўскі адзначае поўную адсутнасьць сувязі справы Скарыны з якой-небудзь рэлігійнай доктрынай. Ні ў праскіх, ні ў віленскіх выданьнях няма адносна гэтага ніякіх паказаньняў. На думку Грушэўскага, Скарына, відавочна, быў праваслаўным і трымаўся свае веры, а сваю дзейнасьць ён тлумачыў толькі мотывамі нацыянальнага і культурнага характару. Гэтым тлумачыцца, чаму Скарына „для посполитого понимания" пераклаў біблію на мову, блізкую да народнае. Той факт, што Скарыне ў яго працы дапамагалі Багдан Онькаў, а ў Вільні Якуб Бабіч, можа служыць адбіткам тэй культурнай абстаноўкі, у якой разьвіваліся новыя ідэі і культурныя інтарэсы, і якая характарызуе мяшчанства буйных беларускіх местаў. На думку Грушэўскага, мы ня ведаем, як пашыраліся кнігі Скарыны, але даныя пазьнейшых часоў і той уплыў, які Скарына зрабіў на розных перапісчыкаў і пераймальнікаў, паказвае пэўны ўплыў Скарыны на шырокія колы як беларускага, так і украінскага грамадзянства [1]).

Сьвяткаваньне 350-лецьця кнігадруку на Украіне выклікала зьяўленьне цікавага выданьня, спэцыяльна прысьвечанага поўнаму агляду украінскага кнігадруку, пачынаючы ад XV сталецьця. У гэтым выданьні зьмешчаны невялічкі артыкул Паўла Папова аб пачатку беларускага кнігадруку. У гэтым артыкуле зроблены кароткі нарыс друкарскае дзейнасьці Скарыны і характарыстыка скарынінскіх кніг з пункту погляду тэхнікі кнігадрукаваньня. Ува ўсіх гэтых пытаньнях аўтар стаіць на грунце тых матар'ялаў, якія былі выкарыстаны Уладзімеравым і якія былі апублікаваны таксама і пасьля яго. Аўтар адзначае, што, хаця дзейнасьць Скарыны тэрыторыяльна належыць болей да Беларусі, але яна мела вялізнае значэньне і для сумежнай і злучанай з ёю Украіны. Аўтар лічыць, што кнігі Скарыны вельмі пашыраліся на Украіне, прызвычайвалі насельніцтва да друкаваных выданьняў і падрыхтоўвалі блізкае ў будучыні разьвіцьцё ўласнага украінскага кнігадруку. Аўтар констатуе, што кнігі Скарыны чыталі на Украіне вельмі старанна цэлыя пакаленьні. Скарынінскія выданьні былі вядомы украінскаму пісьменьніку канца XVI і пачатку XVII сталецьця Івану Вішэнскаму. Скарынінскія выданьні часта перапісваліся на Украіне. Самая тэрмінолёгія друкаваных кніг, якія даўней на Украіне называліся „бітымі",

[1]) М. Грушевський. Культурно-національний рух на Українi в XVI—XVII віці. Київ—Львів. 1912. Стар. 50—154.

належыць да эпохі Скарыны і яго выданьняў. Аўтар адзначае, усьлед за Уладзімеравым, што скарынінскія выданьні ў друкарскіх адносінах зрабілі ўплыў і на Захад, на выданьні Прымуса Трубэра ў Тубінгене ў Нямеччыне [1]).

Украінскія ўрачыстасьці, зразумела, выклікалі таксама вялікі водгук і ў закардоннай Украіне, Галіцыі, у яе цэнтры—Львове, дзе нарадзілася украінскае кнігадрукаваньне. Так, Украінскаму Навуковаму Таварыству імя Шаўчэнкі ўдалася выдаць вельмі каштоўную кнігу профэсара І. Огіенка, якая спэцыяльна прысьвечана украінскаму друкарству. У гэтай вельмі каштоўнай па матар'яле і бібліографіі кнізе адведзена значнае месца Скарыне. Даючы вядомыя жыцьцяпісныя весткі, Огіенка адзначае, што паміж Кракавам і Падуяй прашло шэсьць год, на працягу якіх Скарына вывучаў мэдыцыну і багаслоўе, але ў якіх унівэрсытэтах—гэта застаецца невядомым. Той факт, што Скарына, зьявіўшыся ў Падую, меў вучоную ступень доктара eximiarum artium, пацьвярджае выказанае аўтарам меркаваньне. Огіенка ў гэтым пытаньні вельмі асьцярожны і ня пушчаецца з гэтага поваду ні ў якія разважаньні, што ня былі-б пагрунтаваны на фактах. Культурную працу Скарыны Огіенка тлумачыць жаданьнем даць народу кнігі сьвятога пісьма, якіх тады ня было наогул і якія мелі значэньне і для царквы, і для хатняга навучаньня. Гэтым тлумачыцца жаданьне Скарыны перакласьці цэлую біблію на тагочасную „рускую" мову, якая была супольнай і для украінцаў, і для беларусаў. Огіенка таксама адзначае спачуваньне да дзейнасьці Скарыны з боку мяшчан. Огіенка падкрэсьлівае, што скарынінскія выданьні стаялі ня ніжэй за найлепшыя тагочасныя выданьні—вэнэцыйскія і нюрэнбэрскія. З розных прычын Скарына не заснаваў сталага друкарства, але падставы для гэтага былі закладзены. Далейшае разьвіцьцё друкарскае справы ў Маскве, у Львове і ў Астрозе адбывалася пад беспасрэдным уплывам Скарыны [2]).

Гэты-ж самы дасьледчык прысьвяціў спэцыяльны нарыс Скарыне, зьмечшаны ў бэрлінскім часопісе „Літопісь". Для Огіенкі Юры Скарына—першы „рускі" гуманісты і друкар. Яго культурная праца зрабіла цэлую эпоху. Сучасьнікі не маглі яе ні зразумець, ні ацаніць. Дзякуючы гэтаму, найболей асьвечаны чалавек XVI сталецьця, найслаўнейшы „рускі" дзеяч на цэлыя два сталецьці, Скарына, памёр неацэнены і ў вялікай беднасьці. Даючы жыцьцяпісныя і іншыя весткі аб жыцьці і дзейнасьці Скарыны, Огіенка заўсёды стаіць на грунце фактычнага матар'ялу, які ён знаходзіў і ў Уладзімерава, і ў Шляпкіна, і ў Сабалеўскага. Огіенка вельмі асьцярожна кажа аб пахаджэньні Скарыны. Ён толькі абмяжоўваецца паказаньнем, што Скарына, паходзіць з мяшчанска-купецкае сям'і, але не спрабуе аднесьці яе да заможных альбо да сярэдня-заможных. Огіенку цікавіць таксама пытаньне, чаму Скарына пакінуў Прагу і прыехаў у Вільню. На гэта Огіенка дакладнага і яснага адказу не дае і тлумачыць гэта магчымасьцю якіх-небудзь нападаў з боку каталікоў. Огіенка ня цікавіцца пустым пытаньнем, калі памёр Скарына, бо для гэтага дасьледчыкі ня маюць ніякіх даных. Огіенка лічыць, што Скарына пераклаў свае біблійныя кнігі на тую „рускую" мову, якая тады была, літаратурнай у „Літоўска-*Украінскай* дзяржаве". Гэтая мова ў грунце была царкоўна-славянская, але з значнай прымешкай жывое народнае „рускае" мовы. Скарына быў патрыотам, кахаў свой народ, сваю родную мову. Скарына быў пер-

---

[1]) Бібліологічні Вісти. 350 років Українського друку (1574—1924). Київ, 1924. Стар. 22—24.

[2]) Пр. Огієнко Ів. Історія Українського друкарства. Т. I. Львів, 1925. Стар. 15—18.

шым гуманістым на Ўсходзе, ён першы пераклаў кнігі сьвятога пісьма на народную мову. Яго біблійныя пераклады мелі вялікае пашырэньне на Украіне і выклікалі перайманьні. Крыніцаю перакладу біблії зьяўляецца чэская біблія 1506 году і царкоўна-славянская. (Праўда, нельга апошняе пытаньне разьвязваць так рашуча, як гэта робіць Огіенка, калі існуюць пярэчаньні Сабалеўскага і меркаваньні Ўладзімерава[1]).

Гэты-ж самы юбілей выклікаў зьяўленьне і артыкулу Ярэмчанкі, зьмешчанага ў „Літаратурна-Навуковым Весьніку". На жаль, гэты артыкул вельмі далёкі ад тэй об'ектыўнасьці і таго навуковага тону, які ўласьцівы артыкулам Огіенкі. Ярэмчанка якім-бы ні было чынам хоча абярнуць Скарыну ў украінца, даючы тэрміну „рускі" тое тлумачэньне, якое яму даецца ў Галіцыі ў цяперашні час. Ярэмчанка выказвае прыпушчэньне, што Скарына быў украінцам, але толькі нарадзіўся ў Полацку, а калі і быў беларусам, дык словам „рускі" ён стараўся паказаць свой нахіл да украінскае культуры. Зразумела, гэтыя разважаньні ніякага значэньня ня маюць. Яны кажуць толькі аб настроі аўтара і сьведчаць аб некаторым неразуменьні таго пытаньня, якое зьяўляецца прадметам яго вывучэньня. Далей, Ярэмчанку невядома атрыманьне Скарынай ступені доктара мэдыцыны ў Падуанскім Унівэрсытэце. Дзеля гэтага ён утварае гіпотэзу, што Скарына свой доктарат скончыў у Праскім Унівэрсытэце, а потым скончыў сваю адукацыю ў Болёньні і Падуі. Урэшце, магчыма таксама, што Скарына беспасрэдна з Кракава паехаў у Італію вучыцца. Да фантастычных разважаньняў трэба аднесьці і апавяданьне аб тым, як у Лютэра гасьцяваў Францішак-паляк. Гэтую легенду ўжо даўно трэба адкінуць. Ярэмчанка тлумачыць выдавецкую дзейнасьць Скарыны перайманьнем чэхаў. Выданьнем свае біблії ў народнай мове Скарына, як думае Ярэмчанка, хацеў даць свайму народу тагочасную энцыклёпэдыю вед, якою была біблія, і ў якой можна было навучыцца „сямі вольным навукам". Таксама трэба адкінуць і тлумачэньне політычнымі мотывамі ад'езду Скарыны з Прагі, як гэта рабіў Даброўскі, а за ім паўтарае Ярэмчанка. Аб гэтым пытаньні наогул няма ніякіх даных, і лепш было-б аб гэтым маўчаць. Наогул, аўтар выкарыстаў цалкам усю кнігу Ўладзімерава, але ня ўзяў з яе таго асьцярожнага крытычнага духу, якім яна прасякнута. Ярэмчанка таксама адмаўляецца ад азначэньня году сьмерці Скарыны, адзначаючы, што апошнія весткі аб першым друкару адносяцца да 1535 году. Артыкул канчаецца характарыстыкай таго ўплыву, які Скарына меў у далейшым[2]).

Пэўнае месца адведзена Скарыне і профэсарам Ул. Сьвяньціцкім у яго выдатным творы „Початкі книгопечатаня на землях України". Дзейнасьць Скарыны разглядаецца на фоне кракаўскіх, сэрбскіх і вэнэцыйскіх славянскіх выданьняў. Аўтар адзначае, што Скарына папярэдзіў сваіх сучасьнікаў, бо ён даў Беларусі бадай што ўсю біблію ў зразумелай для народу мове. У гэтых адносінах Скарына пайшоў за нямецкімі бібліямі XV сталецьця і чэскай бібліяй 1506 году. Сьвяньціцкі таксама высака цэніць выданьні Скарыны з тэхнічнамастацкага боку і ставіць іх у шэрагу найлепшых узораў першапачатковага кнігадрукаваньня[3]).

[1]) Пр. Огієнко Ів. Друкарська Трійця. „Літопись". 1924. Бэрлін, №№ 12 і 13, старонкі 180—182, 197-198.

[2]) Яремченко Ол. Др. Франціск-Георгий Скорина, його життя та литературна и видавнича діяльність. „Літературо-Науковий Вістник". 1923. книжка XI, стар. 253—259.

[3]) Початкі книгопечатаня на землях України. Львів, 1924, стар. 15 і 16.

Расійская гістарычная і гістарычна-літаратурная навука параўнальна позна пачала зварочваць увагу на вывучэньне жыцьця і дзейнасьці Скарыны. Калі ў Карамзіна ёсьць некаторыя ўпаміны аб Скарыне, дык Салаўёў зусім маўчыць аб ім. Зразумела, калі Салаўёў цікавіўся толькі гісторыяй дзяржавы, дык Вялікае Княства Літоўскае цікавіла яго пастолькі, паколькі яно ўваходзіла ў тыя ці іншыя дачыненьні з Масквой. Салаўёў гатоў цікавіцца царкоўнымі адносінамі, але ня культурнымі. Толькі Бестужаў-Румін у сваёй „Русской Истории" адвёў большае месца гісторыі „Заходняе Русі" і нарысу яе разумовага і моральнага стану. Для Бестужава Беларусь ёсьць толькі „Заходняя Расія", але гэтая „Расія" настолькі арыгінальна ў параўнаньні з Масквой, што для яе зразуменьня трэба вывучаць яе зусім самастойна. Бестужаў так і зрабіў. Ён першы даў грунтоўны гістарычна-культурны нарыс Вялікага Княства Літоўскага і сказаў некалькі слоў аб Ф. Скарыне ў разьдзеле, адведзеным характарыстыцы моральнага і матар'яльнага стану Вялікага Княства Літоўскага ў XVI сталецьці. К. Н. Бестужаў адзначыў, што, хаця „руская" мова пераважвала ўва ўсіх юрыдычных помніках, аднак, асаблівага красаваньня „рускае літаратуры" ня было. Толькі з пачатку XVI сталецьця пачынаецца ажыўленьне ў разумовым разьвіцьці „Заходняе Расіі". Бестужаў-Румін зьвязвае пачатак гэтага разумовага руху з пачаткам друкаваньня Фіолем славянскіх кніг у Кракаве, якое хутка спынілася, і аднаўленьнем яго Ф. Скарынай. Аб першым беларускім друкары Бестужаў-Румін сказаў толькі некалькі слоў, а ўласна: „З 1517 году прымаецца за працу друкаваньня кніг доктар мэдыцыны Францішак Скарына, родам з Полацку. Друкаваньне ён пачаў у Празе Чэскай, дзе ён выдаў „Псалтыр", а потым, з 1517—1519 г.—22 кнігі сьвятога пісьма ў стара-славянскім перакладзе, праверанным па гэбрайскіх і грэцкіх кнігах і асабліва па Вульгаце. Потым, пераехаўшы ў Вільню, Скарына выдаў тут „Апостал" і „Сьледаваны Псалтыр" (1525) і на гэтым скончыў сваю дзейнасьць". Бестужаў-Румін таксама падзяляе прыпушчэньне аб тым, што Пётра Мсьціславец, адзін з першых друкароў у Маскве, быў адным з майстроў друкарні Скарыны і адышоў з Вільні ў Маскву. Калі нават апошняе прыпушчэньне і нявернае, дык усё-ткі, на думку аўтара, справа не магла застацца бяз уплыву на Маскву. Бестужаў-Румін лічыў, што друкаваныя кнігі разыходзіліся сярод тагочаснага грамадзянства, бо пісьменнасьць у вапошнім, як сярод каталікоў, так і праваслаўных, мела вялікае пашырэньне. Бестужаў-Румін, верны свайму мэтоду даваць толькі праверыныя факты, ува ўвазе адзначае рознагалосьсі, якія існавалі ў літаратуры адносна прыналежнасьці Скарыны да таго ці іншага вызнаньня. Але сам Бестужаў пакідае гэтае пытаньне адчыненым [1]).

Усьлед за Бестужавым і Д. І. Ілавайскі сказаў аб Скарыне некалькі слоў. Ілавайскаму знаёма і праца Уладзімерава, і артыкул Галавацкага, і анонімная заметка аб адносінах перакладу Скарынай біблії да Вульгаты і стара-славянскага тэксту. Аўтар закранае дзейнасьць Скарыны ў тым разьдзеле, дзе ён кажа аб маскоўскіх друкарох. Ілавайскі пачынае з вельмі няпоўнае гісторыі друкаваньня царкоўна-славянскіх кніг у Кракаве, Вэнэцыі, Чорнагорыі. Устаўка аб Скарыне зусім выпадковая. Ілавайскі не дае ніякай характарыстыкі дзейнасьці Скарыны. Ён абмяжоўваецца толькі паказаньнем, што Скарына быў „рускі чалавек, родам з Полацку, які атрымаў унівэрсытэцкую адукацыю за рубяжом і набыў годнасьць доктара мэдыцыны". Крыніцай пе-

[1]) К. Н. Бестужев-Рюмин. Русская История. Т. II, в. I. СПБ. 1885. Стар. 136-137.

ракладу была Вульгата альбо правільней—яе чэскі пераклад, а таму яго пераклад мае вялікую прымешку чэхізмаў. Скарына перакладаў біблію з дапамогаю царкоўна-славянскага тэксту на кніжную „заходнярускую" мову. Ілавайскі не памінае аб надрукаваньні Скарынай у Празе „Псалтыру", але затое ў Вільні ў 1525 годзе ён надрукаваў „Апостал", і „Псалтыр". Вось і ўсё, што Ілавайскі кажа аб Скарыне. Зразумела, Ілавайскі нідзе ня кажа аб тым уплыве, які Скарына зрабіў на нацыянальна-культурнае разьвіцьцё Беларусі [1]).

Некалькі слоў прысьвяціў Скарыне і Н. А. Ражкоў у сваім „Обзоре русской истории с социологической точки зрения". Ражкоў ведае, што Скарына быў „рускі, радзіўся ў Полацку, належаў да багатай гандлярскай сям'і, вучыўся ў Праскім Унівэрсытэце і там-жа пачаў сваю карысную выдавецкую дзейнасьць, якая асабліва разгарнулася з 1525 году, калі Скарына пасяліўся ў Вільні". Тут вучоны, дапытлівы і прасякнуты асьветнымі імкненьнямі доктар Праскага Унівэрсытэту разгарнуў ажыўленую друкарскую, выдавецкую і перакладчую працу. На думку Ражкова, Скарына меў на мэце даць поўны пераклад біблії на рускую мову з належнымі тлумачэньнямі і дасягнуў свае мэты. Як думае Ражкоў, заданьні, што ставіў сабе Скарына, выходзілі з чыста рэлігійнага кругу: ён меў на мэце ня толькі пэўнае рэлігійна-моральнае навучаньне, збаўленьне душы і выпраўленьне абычайнасьці, але імкнуўся да папулярызацыі і навуковых вед, „к научению простых людей руского языка", як сам ён гаварыў. Да пэўнай ступені можна згадзіцца з такой характарыстыкай, але дзіўна што Ражкоў ня ведаў аб тым, што Скарына атрымаў ступень доктара мэдыцыны ў Падуанскім Унівэрсытэце, і пусьціў у ход думку аб тым, што Скарына вучыўся і атрымаў ступень доктара ў Праскім Унівэрсытэце [2]).

Адначасна з кнігай Ражкова зьявіўся і жыцьцяпісны нарыс аб Скарыне, складзены А. Капыловым [3]). Ня гледзячы на тое, што аўтар прывёў бадай што поўную бібліографію пытаньня, ён у васнову свайго артыкулу паклаў кнігу Уладзімерава і яго заметку ў слоўніку Брокгаўза і Эфрона і паўтарыў усе памылкі Уладзімерава. Як і Уладзімераў, ён таксама ўжывае вэрсію аб тым, што Скарына прадаўжаў сваю адукацыю ў Болёньні пасьля Кракава. І гэта ня гледзячы на тое, што А. Капылоў у сваёй бібліографіі памінае і матар'ялы Шляпкіна. Сьмерць Скарыны Капылоў ставіць у сувязь з тымі засмучэньнямі, якія Скарына меў у 30-х гадох XVI сталецьця з прычыны пажару ў Вільні і потым пошасьці. Трэба лічыць, што і гэтае зацьвярджэньне адвольнае, бо для яго няма ніякіх падстаў. Паколькі артыкул мае выключна жыцьцяпісны характар, у ім прыведзены ўсе факты, якія характарызуюць дзейнасьць Скарыны.

Ужо Мурко ў сваёй рэцэнзіі на працу Уладзімерава зьвярнуў увагу на тое, што Галахаў у сваёй „Истории литературы" зусім маўчыць аб Скарыне, а Парфір'еў у сваёй падобнай працы толькі памінае аб ім. Толькі Архангельскі ў сваёй працы „Очерки из истории западно-русской литературы XVI—XVII в. в." лічыў патрэбным сказаць некалькі слоў аб Скарыне. На жаль, Архангельскі абмежаваўся толькі паказаньнем стану і месца нараджэньня Скарыны і пералікам праскіх і віленскіх яго выданьняў. Архангельскі лічыў, што крыніцай пе-

---

[1]) Иловайский Д. И. История России. Т. III. М. 1890. Стар. 694.

[2]) Рожков Н. А. Обзор русской истории с социологической точки зрения Ч. II. М. 1905. Стар. 137.

[3]) Русский биографический словарь (Сабанеев—Смыслов). СПБ. 1904.

ракладу біблії Скарыны былі: Вульгата, чэскія і грэцкія тэксты. Аўтар аб'яднаў дзьве галоўныя думкі аб гэтым, але ня прывёў ніякіх довадаў для падтрыманьня гэтага [1]).

В. А. Келтуяла ў сваім курсе „Истории русской литературы" даў шмат вестак аб Скарыне. У васнову пакладзена дасьледваньне Уладзімерава. Матар'ялы Шляпкіна аб Скарыне аўтару былі невядомы, дзеля чаго ёсьць значныя недакладнасьці ў тых жыцьцяпісных вестках, якія прывёў Келтуяла.

Усьлед за Уладзімеравым Келтуяла лічыў, што пераклад біблійных кніг Скарына зрабіў з чэскае біблії 1506 году, але пры гэтым ён карыстаўся таксама тэкстамі царкоўна-славянскіх перакладаў паасобных біблійных кніг. Для характарыстыкі дзейнасьці Скарыны Келтуяла прыводзіць адрыўкі з яго прадмоў як да біблії, так і да паасобных кніг старога закону. Дзейнасьць Скарыны разглядаецца як падрыхтоўчая да росквіту літаратуры ў „паўднёва-заходняй Русі" канца XVI і першай паловы XVII сталецьця. Аўтар, усьлед за Уладзімеравым, ужывае зусім няправільны тэрмін „Юго-Западная Русь". У процілегласьць Уладзімераву, але следам за Будзіловічам, Келтуяла адносіў год сьмерці Скарыны да 40-х гадоў XVI сталецьця. Нельга, зразумела, сказаць, што літаратурная і выдавецкая дзейнасьць Скарыны мае поўнае асьвятленьне ў працы Келтуялы. Але добра і тое, што аўтар сумленна перадаў усё, што ведаў аб Скарыне [2]).

Профэсар Пятухоў зрабіў іначай у сваім курсе „Русская литература", у якім ёсьць асобны разьдзел „Просвещение и литература в Юго-Западной Руси XVI—XVII в.в.". Пятухоў абмежаваўся толькі ўпамінам імя Скарыны, дый то ня ў зусім правільным асьвятленьні. Проф. Пятухоў адзначае, што разьвіцьцё літаратуры пачынаецца друкарскай дзейнасьцю, галоўным чынам, Швайпольта Фіоля і Францішка Скарыны, але яны друкавалі свае выданьні пераважна ў Кракаве і ў Празе. Толькі гэтымі неазначанымі ўвагамі проф. Пятухоў і абмежаваўся [3]).

Проф. М. Н. Спэранскі, аўтар іншага курсу „Истории древней литературы", адзначаючы разьвіцьцё кнігадруку „ў паўднёва-заходняй Русі" XVI сталецьця, ставіць нараджэньне славянскага кнігадруку ў сувязь з протэстанцтвам. Гэтым тлумачыцца, чаму Фіоль у сваіх славянскіх выданьнях стараўся дапасаваць царкоўна-славянскі тэкст да жывое мовы. У сувязь з гэтым протэстанцкім рухам Спэранскі ставіць і дзейнасьць другога працаўніка друкарскае справы—Ф. Скарыны.

Весткі аб Скарыне прыведзены Спэранскім няпоўныя і недакладныя. Вось тое нямногае, што лічыў магчымым сказаць аб Скарыне проф. Спэранскі. Скарына быў родам з Полацку і атрымаў заходняэўропейскую адукацыю. Дзейнасьць сваю ён распачаў у Празе, дзе ён спачатку жыў і дзе ён прышоў да думкі выдаць кнігі сьвятога пісьма для сваіх адзінапляменьнікаў. Затое проф. Спэранскі знайшоў магчымым рашуча лічыць, што біблія Скарыны зьявілася ў сьвет на беларускай мове, досыць блізкай да жывое гутаркі. Проф. Спэранскі памінае аб пераносе Скарынай свае дзейнасьці ў Вільню, дзе ён засноўвае сваю друкарню. Спэранскі адзначае, што справа Скарыны не атрымала належнага разьвіцьця ў Вільні. Спэранскі тлумачыць гэта тым, што Скарына не заслужыў веры як чалавек, які прасякнуты быў

[1]) Чтения в Обществе Истории и Древностей Росийских. 1888. I. Стар 15—17.

[2]) Келтуяла В. А. Курс истории русской литературы. Ч. I, кн. 2-ая. СПБ. 1911. Стар. 761—764.

[3]) Петухов Е. В. Русская Литература. Древний период. Изд. 2-е. Юрьев, 1912 Стар. 233.

сьветапаглядам чэскіх братоў, як протэстант. Спэранскі зацьвярджае, што біблія Скарыны перакладзена з чэскае і нямецкае мовы і, наагул, была хутчэй протэстанцкага, чымся праваслаўнага напрамку, ня мела ў сабе сьлядоў старое традыцыі. Так Спэранскі ізноў высунуў думку аб протэстанцтве Скарыны і аб разьвіцьці яго дзейнасьці ў сувязі з протэстанцтвам. Гэтая думка, як вядома, ня сустрэла вялікага спачуваньня ў літаратуры, тым болей што Спэранскі ніякімі довадамі не пацьвердзіў свайго палажэньня [1]).

Падлічваючы ўсю літаратуру аб Скарыне на працягу 150 год, ад дня выхаду першае працы аб Скарыне Бакмэйстэра, можна сказаць, што літаратура аб Скарыне мае адзіную орыгінальную працу проф. Уладзімерава. Большасьць аўтараў, якія пісалі пасьля Уладзімерава, шырака карысталіся яго фактычным матар'ялам, ішлі за яго вывадамі. Бязумоўна, праца Уладзімерава вельмі каштоўная і захоўвае дагэтуль сваё навуковае значэньне. Аднак, трэба лічыць, што праца аб Скарыне павінна быць напісана нанова. Скарына ёсьць выдатны тып беларускага гуманістага, роднага па сваіх ідэях, як адзначыў М. М. Піотуховіч, заходня-эўропейскаму адраджэньню. Праўда, Піотуховіч толькі намеціў гэтае пытаньне і толькі часткова даў на яго адказ, але самая пастаноўка пытаньня правільная. Апроч таго, вывучэньне дзейнасьці Скарыны магчыма толькі на фоне матар'яльнага, соцыяльна-політычнага і нацыянальна-культурнага жыцьця Вялікага Княства Літоўскага. У значнай ступені ўсе аўтары, якія пісалі аб Скарыне, праходзілі міма гэтага пытаньня. Праўда, Доўнар-Запольскі і Будзіловіч надавалі вялізарнае значэньне агульнаму моральнаму заняпаду як беларускае шляхты, так і духавенства, але дзейнасьць Скарыны немагчыма вытлумачыць толькі імкненьнем яго дапамагчы рэлігійнаму і моральнаму адраджэньню грамадзянства. Дзейнасьць Скарыны толькі тады будзе зразумелай, калі яна будзе разгледжана на фоне ўсяго як соцыяльна-экономічнага, так і культурна-рэлігійнага жыцьця беларускага народу. Важна вывучаць Скарыну, яго сьветапагляд, яго ідэі—як фактары, што азначаюць тое месца і тое значэньне, якое Скарына меў у гісторыі культуры Беларусі, Украіны і, часткова, Масквы.

---

[1]) Сперанский М. Н. История древне-русской литературы. М. 1914. Изд. 2-е. Стар. 588-589.





# Увагі да ілюстрацый.

## Апрацаваў М. Шчакаціхін.

*Пры стар. VII.*

**Портрэт Францішка Скарыны.** Рэпродукаваны з аляёвага портрэту работы менскага мастака Якуба Кругера, напісанага на падставе вядомага дрэварыту, зьмешчанага ў біблії Скарыны пры кнізе „Ісуса сына Сірахава“ 1517 г. Орыгінал у свой час быў экспонаваны на 1-ай Усебеларускай мастацкай выстаўцы пад № 334 каталёгу, адкуль быў набыты ва ўласнасьць Інстытутам Беларускае Культуры. Фотографічны здымак зрабіў Л. У. Дашкевіч.

*Стар. 9.*

**„Трыумф каханьня“.** Дрэварыт з вэнэцыйскага выданьня „Triumphi del Petrarcha“ 1488 г. (Адноўлены з L. Geiger'a: Renaissance und Humanismus in Italien und Deutschland. Berlin 1882. Стар. 46).

*Пры стар. 24.*

**Панадворак Падуанскага Унівэрсытэту,** з падвойнай галярэяй, 1552 г.; пабудова Джакопо Сансовіно (Jacopo Tatti Sansovino, або San Sovino, 1486—1570) з удзелам нейкага іншага майстра, якому належыць распрацоўка дэталяй і орнамэнтыкі, досыць грубых, асабліва ў другім паверсе. (Здымак рэпродукаваны з „Handbuch der Architektur“, herausgegeben von Prof Dr. Eduard Schmitt; Zweiter Teil: Die Baustile. 5 Band: Die Baukunst der Renaissance in Italien. Von Dr. Iozef Durm. Stuttgart 1903. Стар. 335, мал. 313).

*Пры стар. 36.*

**Унівэрсытэцкая аўдыторыя ў XV сталецьці.** Мініатура на пэргаміне Лаўрэнта дэ Вольтоліны пач. XV сталецьця з рукапісу: „Liber Ethicororum Fratris Henrici de Allemannia sacre theologie professoris ord. S. Augustini“. (Бэрлін, Гравюрны габінэт). На малюнку Гэнрык Алеманскі за выкладаньнем лекцыі этыкі; лекцыя адбываецца на вольным паветры, як гэта паказвае трава, што пакрывае грунт,—напэўна на ўнутраным унівэрсытэцкім дзядзінцу. З правага боку малюнку на доле знаходзіцца подпіс: „Laurentius de Voltolina pinxit“ (Рэпродукавана з L. Geiger'a: Renaissance und Humanismus in Italien und Deutschland. Berlin 1882. Стар. 408).

*Пры стар. 48.*

**„Парахавая брама“ ў Празе Чэскай,** пачатая будаваньнем у 1475 годзе. Узорам пры яе апрацоўцы зьявілася старадаўняя вежа на масту ў „Старым Месьце“, пабудаваная вядомым чэскім архітэктарам Пятром Парлерам (Parler) у 1357 годзе.—„Handbuch der Kunstgeschichte“ von Anton Springer. Leipzig 1902. II, 318. (Фотографія рэпродукавана з кнігі: „Чехо-словацкая республика. Обзор духовной, политической, экономической и общественной жизни. Составлен под редакцией О. Буттера и В. Доразила“. Выд. „Орбис“. Прага 1924. Мал. да стар. 89).

*Пры стар. 84.*

**Карта Полацкае зямлі ў 1579 г.** Гравіравана ў 1580 г. ў Рыме гравёрам Дж.-Батыстам дэ Кавалерысам, як сьведчыць подпіс, зьмешчаны на доле карты з правага боку: „Ioa. Baptista de Cavallerijs Romae Tipis aeneis incidebat Anno Domini 1580“. У тым-жа месцы крыху вышэй знаходзіцца агульная назва аркушу: „Descriptio Ducatus Polocensis“ (Апісаньне Полацкага княства) і подпіс аўтара рысунку: „S. Pacholowic“.

**Аўтарам гэтым быў Станіслаў Пахалавецкі (Pacholowiecki), пісар** каронпае канцэлярыі (notarius cancellariae Regis) Стэфана Баторага, які, разам з войскам апошняга, прымаў у 1579 годзе ўдзел у аблозе і заваёве Полацку, дзе і зрабіў цэлы шэраг плянаў і карт. (Аб ім гл. Paprocki. Herby rycerstwa polskiego. Кракаў 1584. Стар. 275—278, 668—669). Карта Полацкага княства мае ў сабе цячэньне ракі Заходняе Дзьвіны ад Суража да Друі; крайнім паўночным пунктам яе зьяўляецца вытак рэчкі Аболі і крайнім паўднёвым мястэчка Глыбокае. З левага боку не зьмешчаны маштаб польскіх міль („Scala milliarium polonicorum"), і там-жа, угары, наступнае апісаньне Полацкага княства:

Polotia priscis temporibus sub annum scilicet Christi 980 vel ut Russi supputant a creato mundo 6488 suum peculiarem Ducem habuit Rochvoldum Qui a Wlodimiro magni (sic!) ob negatam in matrimonium filiam Rochnedam (ut annales Moscorum perhibent) bello victus vitam pariter cum duobus filijs ac imperio amisit. Inde Monarchis Russiae paruit, quorum sublata stirpe ea quae Australi Russia regnabat Lituanis cum quibusdam ditionibus Russicis concessit. Jagiellone apud Lituanos primum inde apud Polonos regnante Andreas fr ipsius Polotiae dominatum arripuerat fere cum ipse Jagello Cracoviae coronaretur sed mox missis copijs cum arce in potestatem regis venit, inde ejus dominatus a Magnis Lituaniae Ducibus et Regibus Poloniae continuatus est ad annum 1563. Quo a Ioanne Basilij F. Duce Moscoviae capta est ejusque ditionis ager aliquot novis excitatis arcibus firmatus. Nunc vero demum anno 1579 et ipsa Polotia et arces reliquae per Seren: Polon: Regem Stephanum partim captae partim deletae universusque ille Ducatus receptus Ditio haec ad 30 milliaria in longitudinem in latitudinem item minus patet ac propter ubertatem glebae ac fluminum aliquot, imprimis vero Dunae omnium prope Europae fluviorum pulcherrimi, amoenissimi et ad navigandum accomodatissimi opportunitatem Rigensisque portus propinquitatem, Polotia dum a Mosco caperetur divisijs (sic!) incolarum ipsam Vilnam superabat Regius praefectus Polocensis cum ordine Senatorio Palatini titulum et dignitatem habet: abundantissimam.

Полацак у старадаўнія часы, г. зн. каля 980 году ад нараджэньня Хрыста, або, як лічаць рускія, каля 6488 г. ад стварэньня сьвету, меў свайго ўласнага князя Рагвалода. Апошні, не згадзіўшыся на шлюб дачкі (сваёй) Рагнеды з Уладзімерам вялікім (як сьведчаць Маскоўскія летапісы), і пераможаны ім у вайне, страціў жыцьцё, а разам з тым двох сыноў і княства. З гэтага часу (Полацак) падлягаў уладаром Русі, з прыпыненьнем-жа таго роду іх, які панаваў у Паўднёвай Русі, адышоў да Літоўцаў разам з некаторымі рускімі землямі. Ў панаваньне Ягайлы, спачатку Літоўскага, а потым Польскага гаспадара, яго брат Андрэй захапіў уладу ў Полацку амаль што ў той самы час, калі Ягайла каранаваўся ў Кракаве,—але зараз-жа, калі (туды) было паслана войска, ён разам з замкам перайшоў пад уладу караля, і з гэтага часу Полацак належаў Вялікім Князём Літоўскім і Каралём Польскім аж да 1563 г. У гэтым годзе ён быў узяты князем Масковіі Іванам Васільлевічам, і землі яго былі ўмацаваны некалькімі нанова набудаванымі замкамі. Цяпер-жа, нарэшце, у 1579 годзе як самы Полацак, так і іншыя замкі часткова ўзяты, а часткова разбураны Найясьнейшым Каралём Польскім Стэфанам, і ўсё гэтае княства зьвернута назад. Краіна гэтая цягнецца на 30 міль у даўжыню і крыху меней у шырыню; дзякуючы ўрадлівасьці глебы і выгоднасьці рэк, сярод якіх,перш за ўсё, Дзьвіны, амаль што найболей прыгожай, прыемнай і выгоднай для суднаходзтва з усіх рэк Эўропы, (дзякуючы) блізасьці Рыскага порту, Полацак у момант апанаваньня яго Маскоўцамі перавышаў дабрабытам сваіх жыхароў нават самую Вільню. Полацкі каралеўскі намесьнік, разам з годнасьцю Сэнатара, мае тытул і найвышэйшую годнасьць Ваяводы.

З правага боку аркушу знаходзіцца гэрб Стэфана Баторага: чатырохдольны шчыт з маленькім шчытком у сярэдзіне; у вапошнім знаходзяцца „воўчыя зубы"—знак дому Баторых; на асноўным шчыце у першай і чацьвертай частках зьмешчаны польскі арол, у другой і трэцяй—беларуска-літоўская „Пагоня"; шчыт пакрыты каралеўскай каронай.

Ніжэй гэрбу зьмешчана васьмірадковая пэнтамэтрычная эпіграма пад загалоўкам: „In arma victricia Sereniss Stephani Poloniae Regis felicis" („На пераможны гэрб Найясьнейшага Стэфана, шчасьліва пануючага караля Польскага"):

Arcibus inclusus latuit cum milite Moschus;
Ales eum, STEPHANI Principis, hinc pepulit.
Prosilit in campos fugat hunc mucrone (errorem [1])
Barbaricum doctus fundere) Regis eques.
Si tentabit aquas; Uncum REX ecce tridentem
Fert. Moschum ex omni sic mala parte premunt.

[1]) У аўтэнтыку слова errorem награвіравана надта нявыразна, так што мы чытаем яго болей па сэнсе.

Protere, Maxime REX Romani nominis hostem
Quodque facis, CHRISTI spargere perge Fide.

[Замкнуўшыся ў замках, Масковец хаваўся з войскам, (але) птак Гаспадара Стэфана [1]) выгнаў яго адтуль. Ён упякае ў палі,—(там) гоніць яго мячом каралеўскі коньнік [2]), спрактыкаваны ў барацьбе з аблудамі барбараў. Калі ён спрабуе (схавацца) ў водах,—зараз-жа кароль уздымае (свой) крывы трызубец [3]). Так з усіх бакоў няшчасьці ўціскаюць Маскоўца. Разбуры, Вялікі Кароль, ворага Рымскага імя, і прадаўжай сваю справу пашырэньня хрыстовай веры] [4]). Пад вершам знаходзіцца скарочаны подпіс аўтара: „Tho. Tre Polonus"; аўтарам гэтым быў, пэўна, вядомы польскі поэта, тэолёг і артыста Тамаш Трэтэр (Tomasz Treter, 1550—1610), які ў гэты час якраз жыў у Рыме, дзе быў гравіраваны плян Полацкае зямлі, займаючы там пасаду каноніка ў царкве сьв. Марыі за Тыбрам. (Аб ім гл. Leona Rogalskiego: Historya literatury polskiej, II, 233—234; таксама Ludwik Kondratowicz: Dzieje literatury w Polsce od pierwiastkowych czasów do XVII wieku. Warszawa 1875. III, 65). [5]).

*Пры стар. 96.*

**Плян Полацку ў 1579 годзе.** Аналёгічна папярэдняй карце, гравіраваны ў Рыме ў 1580 г. Дж.-Бат. дэ Кавалерысам з рысунку Станіслава Пахалавецкага. На гары аркушу знаходзіцца агульная назва: „Obsidio et expugnatio munitiss arcis Polocensis per Sereniss Stephanum Poloniae Regem" (Аблога і заваёва ўмацаванага замку Полацкага Найясьнейшым Стэфанам Каралём Польскім). Крыху ніжэй направа зьмешчаны надпіс: „Obsessa XI Aug capta XXIX eiusd anno.M.D.LXXIX Delineavit in ipsis castris S Pacholowi(ec)" (Абложаны 11-га жніўня, узяты 29-га таго-ж месяца 1579 года. Рысаваў у самым лягеры С. Пахалавецкі).

На самым пляне зьмешчана места Полацак пры вытоцы Палоты ў Дзьвіну, абкружанае лягерамі і ўмацаваньнямі войск Стэфана Баторага. Места падзяляецца на тры часткі: „Arx superus" — „Горні замак", „Arx sclopetariorum" — „Стралецкі (дольні) замак" і „Zapolota"—„Запалота". На ўсход ад яго (на пляне з левага боку) знаходзіцца „Castra Polon(orum)"—„Польскі лягер", у сярэдзіне якога разьмешчаны „Tabernaculum Regis"—„Каралеўскі шацёр". Перад лягерам, паміж Палотай і Дзьвіной, паказаны пункты, дзе разьмяшчалася польская коньніца—„Equitatus Polonicus". На паўднёвы-ўсход ад места, уздоўж берагу Дзьвіны, беспасрэдна каля польскай коньніцы знаходзяцца: „Castra Germanorum"—„Нямецкі лягер" і „Peditatus Germanicus"—„Нямецкая пяхота"; крыху далей, ужо пад самым местам, паказаны нямецкія ўмацаваньні — „Munitiones Germanorum"—. Усю паўночную частку мясцовасьці, за Палотай, з абодвух бакоў злучанага з ёй „натуральнага рову"—„Fossa naturalis", займае Літоўскі лягер—„Castra Lithvanorum", умацаваны сьпераду позыцыямі літоўскае коньніцы—„Equitatus Lithvanicus" і польскае пяхоты—„Munitiones pedit. Polonici", і асобна, на ўсход ад рову, каля Спасаўскага манастыра—каралеўскай коньніцай—„Equitatus aulicus". Нарэшце, з паўночна-заходняга боку, паміж Літоўскім лягерам і местам, разьмешчаны Вэнгерскі лягер—„Castra Hungar.", умацаваны ў сваю чаргу, позыцыямі вэнгерскае коньніцы і пяхоты.

Пад плянам знаходзіцца наступнае кароткае апісаньне Полацку.

| | |
|---|---|
| Polotia ex duabus arcibus superiore ac sclopetariorum oppidoq. Zapolota constans ita situ loci propugnaculis ac inprimis bom- | Полацак, які складаецца з двох замкаў—Горняга і Стралецкага—і з места Запалоты, настолькі (добра) ўмацаваны і аба- |

[1]) Польскі арол. [2]) Рыцар „Пагоні". [3]) „Воўчыя зубы"—знак дому Баторага.

[4]) Апроч прозаічнага, падаем таксама вершаваны пераклад гэтае эпіграмы, зроблены разьмерам аўтэнтыку проф. Б. Эпімахам-Шыпіла:

*На пераможны гэрб найясьнейшага Стэфана, шчасьлівага караля Польшчы.*

Замкамі абгарадзіўшыся, крыўся Маскаль з сваім войскам,
Але Стэфанаў арол выгнаў адгэтуль яго.
Кінецца ў поле ён, гоніць мечом яго коньнік Стэфана,
Барбарскую што прывык нішчыць усюды брыду;
Сунецца ў мора,—кароль вось з загнутым Нэптуна трызубцам
Стане прад ім. Адусюль цісьне бяда маскаля.
Ворага рымскага йменьня сатры ты, кароль найвялікшы,
І, як вось робіш цяпер, сей далей веру хрыста.

[5]) Між іншым, Эстрэйхер у сваёй бібліографіі паведамляе, што ў бібліотэцы Вроцлаўскага Унівэрсытэту знаходзіцца адзіны, і то дэфэктны, паасобнік нейкай лацінскай поэмы, прысьвечанай заваёве Полацку Баторым, і друкаванай, пэўна, недзе ў Італіі каля 1580 г. У гэтым паасобніку няма першых 8 старонак, дзе знаходзілася, мабыць, дэдыкацыя, а таксама загалоўнага аркушу, так што аўтар поэмы застаецца невядомым. Эстрэйхер прыпушчае, што аўтарам гэтым быў нейкі італьлянец, і што кніга была надрукавана ў Падуі. Справу гэтую даў нам Б. Эпімах-Шыпіла, які пры гэтым выказаў вельмі праўдападобную думку, што аўтарам апісанай Эстрэйхерам поэмы мог быць той-жа Тамаш Трэтэр, які ў той час знаходзіўся ў Італіі і цікавіўся паходам Баторага на Полацак, а таксама, што ўласна з гэтай поэмы ці з незахаванай дэдыкацыі да яе і мог быць узяты прыведзены намі пэнтамэтрычны васьміверш, зьмешчаны на пляне Пахалавецкага.

bardarum apparatu pulvere globis commeatu militum praesidio munita et instructa ut merito non solum Moschoviae sed totius septemtrionis firmissimum propugnaculum existimaretur Obsessa. a. Sereniss. Poloniae Rege Stephano. XI. Augusti et Moschis strenue defendentibus erepta. XXIX. eiusd. Anno Domini MDLXXIX.

ронены палажэньнем мясцовасьці, насыпамі, і ў першую чаргу артылерыяй, порахам, бомбамі, провіянтам і гарнізонам,—што ён па заслугах лічыўся найболей магутным умацаваньнем ня толькі Масковіі, але і ўсёй поўначы. Абложаны Найясьнейшым Каралём Польскім Стэфанам 11-га жніўня, і пасьля адважнай абароны з боку Маскоўцаў узяты 29-га таго-ж месяца 1579 году.

Беспасрэдна пад надпісам знаходзіцца подпіс гравёра: „Ioannes Baptista de Cavalleriis Romae tipis aeneis incidebat Anno Domini 1580" (Джованьні Батыста дэ Кавалерыс у Рыме гравіраваў на медзі ў 1580 годзе).

[Абедзьве карты, разам з некаторымі іншымі плянамі замкаў Полацкае зямлі, складаюць вялікую рэдкасьць, і ледзь не адзіныя іх экзэмпляры знаходзіліся калісьці ў зборах Сухадольскага. Зьнятыя з іх І. А. Міткевічам факсіміле былі апублікаваны ў 1837 годзе М. Каркуновым у „Журнале Министерства Народного Просвещения", № VIII (жнівень), а таксама асобным выданьнем: (М. Коркунов). Карта военных действий между русскими и поляками в 1579 году, и тогдашние планы города Полоцка и окрестных крепостей. Санктпетербург, в Типографии Императорской Академии Наук. 1837. З апошняга выданьня ўзяты зьмешчаныя ў гэтым зборніку рэпродукцыі].

*Пры стар. 100.*

**Від Полацку з аэропляну**. На пярэднім пляне Мікольскі сабор—былы касьцёл езуітаў, пабудаваны ў XVIII сталецьці, і будынкі езуіцкае калегіі. [З фотографіі, зробленай полацкім фотографам Бэрмантам].

*Пры стар. 106.*

**Цытадэльны вал у Полацку**. Рэштка замковых умацаваньняў XVI сталецьця зробленых, хутчэй за ўсё, паміж 1563 і 1579 годам. [Фотографія Бэрманта ў Полацку].

*Пры стар. 110.*

**Езуіцкая калегія ў Полацку,** заснаваная фундацыяй Стэфана Баторага ў 1582 г. (Акты Літоўскае Мэтрыкі 1581—1585 г., 69, № 59. Сапунон: „Витебская Старина", V, 535—540). Захаваныя да цяперашняга часу будынкі належаць ужо да пазьнейшай эпохі—да XVIII і часткова (крайні з правага боку) нават да XIX сталецьця, за выняткам аднаго невялічкага будынку (на здымку на пярэднім пляне, з высокім фронтонам), які захаваўся, магчыма, з XVII сталецьця.

[Фотографія Бэрманта ў Полацку].

*Пры стар. 116.*

**Плян Вільні ў палове XVI сталецьця** (так званы „плян Брауна") з кнігі Bruyn'a і Hohenberg'a „Civitates Orbis Terrarum" (Месты сусьвету), надрукаванай у Кёльне ў 1576 годзе. На гары пляну зьмешчана агульная назва: „Vilna Litvaniae Metropolis" (Вільня, сталіца Літвы)—адзіны надпіс у лацінскай мове. Усе іншыя надпісы зроблены ў стара-нямецкай мове. Невялічкая частка іх знаходзіцца на самым пляне: з левага боку—„Die Wilde (sic!) Flu" (рака Вяльля), на беразе яе—„Die Muln" (млыны); у правай частцы: „Die Deutsche dor" (Нямецкая брама), „Die Deutsche gosse" (Нямецкая вуліца) і „Die Muntz" (Монэтны двор). У большасьці-ж паасобныя раёны места, вуліцы і найболей выдатныя будынкі адзначаны цыфрамі, да якіх далучаецца зьмешчаны ў левай дольняй частцы пляну рэгістр наступнага зьместу:

1) Das hoche Slochs—Горні замак. 2) Das Slochs—замак (Дольні). 3) Die jong Königinne haus—дом маладой каралевы (г. зн. палац, пабудаваны Жыгімонтам-Аўгустам для жонкі яго Елісаветы). 4) Die Slochs kirche замковая царква (Катадральны касьцёл сьв. Станіслава, які знаходзіўся на тэрыторыі Дольняга замку). 5) S. Barbara kirch—царква сьв. Барбары. 6) Der Schatzmeister haus—дом падскарбія. 7) Der König stall—каралеўская стайня. 8) Der Lucerne—„ліхтарня" (так названа вежа ў Дольнім замку, з боку Вяльлі,—магчыма, з прычыны таго, што ноччу ў ёй запальваліся ліхтары; ня гледзячы на яе васьмікантовую форму, у капітульных актах вежа гэтая завецца „turris arcis rotunda"—круглая замковая вежа; пазьней яе звалі таксама „вежай Твардоўскага"). 9) Das deutsch haus—нямецкі дом. 10) Das Trabanten haus—дом драбантаў (каралеўскае варты). 11) Die Wersope—арсэнал. 12) Die bernardiner clost:—бэрнардынскі манастыр. 13) Die Cancelrie—канцэлярыя (Земская, ці Гродзкая). 14) S. Iohan kirche—царква сьв. Яна. 15) Das wÿeweten haus (надпіс ня зусім зразумелы; Kraszewski—Wilno, т. I—перакладае яго: „дом для ўдоў"). 16) Das Bischops haus—дом біскупа. 17) Der Griche kirche—грэцкая царква (г. зн. праваслаўная). 18) Das Rhathaus—ратуша. 19) Das Moskowiten hoff—маскоўскі двор (гасьцінны). 20) Die schwartze munche—„чорныя манахі" (манастыр). 21) Das hospital—шпіталь. 22) Die Keur kaste—сьвіран (Kraszewski—Wilno, т. I—чамусьці перакладае, як

„каса, скарбніца“). 23) Die slotgosse—Замковая вуліца. 24) S. Iohan gosse—вуліца сьв. Яна 25) Der Cletken—крамы (з прычыны памылковага чытаньня: Clerken замест Cletken—некаторыя аўтары, як, напр., Kraszewski—Wilno, т. I, лічаць, што пад гэтым нумарам паказаны каталіцкі сэмінарыум). 26) Cletkens dor—крамная брама (па сваім становішчы адпавядае Віленскай браме). 27) Die dir garde—зьвярынец. 28) Uber Wasser—Зарэчча (па думцы Крачкоўскага—прадмова да т. XX Актаў Віленскае Камісіі, стар. CXIV—пад гэтай назвай паказана прадмесьце Сьняпішкі).

(Плян адноўлены з рэпродукцыі, зьмешчанай у „Актах, издаваемых Виленской Комиссией“, т. XX).

*Пры стар. 120.*

**Званіца Францішканскага касьцёлу ў Вільні,** адзін з найлепшых прыкладаў віленскай готыкі канца XV сталецьця, зруйнаваная ў 1869 годзе. (З старадаўняга малюнку, рэпродукаванага ў P. Weber'а: Wilna, eine vergessene Kunststätte; Wilna 1917, пад № 31).

*Пры стар. 122.*

**Усходняя вежа Бэрнардынскага касьцёлу ў Вільні,** пабудаванага ў першай чвэрці XVI ст. Зьяўляецца адзінай вежай, захаванай ад першапачатковай будовы, бо ўсе іншыя вежы, таксама, як і фронтоны касьцёла, былі перабудаваны ў XVII сталецьці. У формах сваіх яна выяўляе рысы позьняе готыкі, з значным лікам дэкарацыйных дэталяй, сярод якіх, асабліва ў горняй частцы, схаваны спэцыяльныя абарончыя прыстасаваньні—бойніцы. Сярод дэталяй варты ўвагі круглыя валікі па гзымсах і кантах, а таксама высокія шмат'ярусныя эскарпы, што зьяўляецца характэрнай асаблівасьцю ўласна віленскай і наогул беларускай готыкі і адрозьнівае яе ад готыкі польскай. Апошні факт быў своячасна зазначаны ў літаратуры (M. Sokołowski. Dwa gotycyzmy, wileński i krakowski, w architekturze i złotnictwie i źródła ich znamion charakterystycznych. „Sprawozdania Komisyi do badania historyi sztuki w Polsce“, выд. Кракаўскае Акадэміі Навук. т. VIII, сшыт. I і II, Кракаў 1907. Стар. 5-6), прычым бясспрэчна, што ён мае сувязь з формамі крыжацкае архітэктуры і наогул з помнікамі паўночна-ўсходняе Нямеччыны, як, напр., з царквамі ў Ростоку, Вісмары і Гданску. Сувязь гэтая, аднак, настолькі тыпова для беларускай архітэктуры з XIII па XVI сталецьце, што ўпоўне правільнай зьяўляецца ўвага проф. Сакалоўскага, які зазначае, што „ўсе орыгінальныя і характэрныя рысы віленскае бэрнардынскае вежы сьцісла зьвязаны з мясцовымі варункамі і маюць свае крыніцы ў будаўнічых традыцыях гэтага краю“ (Op. cit., стар. 7). Асабліва ўдалае выяўленьне такіх характэрных рыс надае бэрнардынскай вежы запраўды выдатнае значэньне ў віленскай архітэктуры, што з пэўным захапленьнем, нават, падкрэсьлівае той-жа аўтар: „Калі-б гэтая вежа,—кажа ён,—была вышэй і болей па сваіх памерах і калі-б яна стаяла асобна, дык яна магла-б зьявіцца для Вільні тым самым, чым для Флёрэнцыі зьяўляецца Campanile“. (Op. cit. стар. 4).

[Здымак рэпродукаваны з фотографіі Ст. Забароўскага, зьмешчанай пры артыкуле A. Szyszki-Bohusza: Warowne zabytki archytektury kościelnej w Polsce i na Litwie, у „Sprawozdaniach Komisyi do badania historyi sztuki w Polsce“ выд. Кракаўскае Акадэміі Навук, т. IX, сшыт. III і IV, стар. 366, мал. 48].

*Пры стар. 126.*

**Пячатка места Вільні.** У сярэдзіне патрон места сьв. Хрыстафор. Навокал надпіс: „Sigilvm (sic) Civit. Viln. Ann°. VII. Urb. Cond. Inst.“ (Пячатка места Вільні, устаноўленая ў сёмы год ад заснаваньня места). На доле монограма MR з крыжам, якая па думцы Нарбута і Крашэўскага падмяняе подпіс бурмістра. Монограма гэтая вядома, аднак, у польскай нумізматыцы як подпіс люблінскага монэтарыя XVI ст. Мэльхіора Рэйснэра (Reisner або Ryszner), які, можа, меў нейкае дачыненьне да граціраваньня гэтае пячаткі. У сувязі з гэтым, можна дапусьціць, што ня гледзячы на надпіс, узьнікненьне гэтае пячаткі,—калі толькі яна аўтэнтычная,—трэба, мабыць, аднесьці не раней як да XVI сталецьця. Звычайным гэрбам Вільні, супольным з усім Беларуска-Літоўскім княствам, зьяўлялася „Пагоня“ (Paprocki. Herby rycerstwa polskiego. 1584. Стар. 918), часам у спалучэньні з гэрбавым знакам „колюмны“ або „трох слупоў“ (гэрб Вітэня? Paprocki, 764, у далейшым гэрб Ягелёнаў), як гэта можна бачыць на некаторых монэтах Вялікага Княства Літоўскага. Найболей старадаўні (і, можа, ня зусім пэўны) вядомы нам узор віленскае пячаткі з фігурай Хрыстафора апісаны Нарбутам („Dzieje narodu Litewskiego“, т. I, стар. 162-163, 408-409), які лічыць, аднак, без асаблівых на то падстаў, што фігура гэтая зьяўляецца вобразам волата Альціса, аднаго з пэрсонажай старажытнай літоўскай мітолёгіі. Пячатка гэтая, згодна з паведамленьнем Нарбута, знаходзіцца на пасьведчаньні ад 1548 г., выдадзеным Віленскім Магістратам нейкаму Аўгусту Ротэнбаху, ураджэнцу Марыенбурга, у прыёме яго ў лік гарадзкіх жыхароў. [Гл. Wilno od początków jego do roku 1750. Przez J. I. Kraszewskiego. T. III. 377—379. Адтуль-жа рэпродукавана і самая пячатка].

*Пры стар. 126 і 128.*

**Віленскія замкі і рэшткі гарадзкіх муроў,** зруйнаваныя ў канцы XVIII і пачатку XIX сталецьця. Рэпродукаваны з акварэляй, зробленых па заказе кн. Адама Чартарыскага

вядомым віленскім профэсарам малярства Францішкам Смуглевічам у 1781 годзе. Усяго ім было выканана 24 акварэлі („Wizerunki i roztrząsania naukowe", 1843, Т. 24, стар. 269—284—апісаньне Homolickiego), тры з якіх зьнiклі, а 21 знаходзяцца ў зборах Нацыянальнага Музэю ў Кракаве (W. Zahorski. Stare Wilno w rysunkach Fr. Smuglewicza.— „Litwa i Ruś" 1912, T. I, сшыт. II, стар 73—78. Таксама: Wilno z przed stu lat w akwarelach Franciszka Smuglewicza. Wilno 1912. Nakładem księgarni Józefa Zawadskiego).

Рэпродукаваныя ў гэтым зборніку малюнкі маюць наступны зьмест:

а) *Замковая гара* з рэшткамі Горняга замку, ад якога ў тыя часы яшчэ захоўваліся дзьве вежы і кавалак муру з правага боку, а таксама ў левай частцы гары руіны касьцёла сьв. Марціна. Направа ад Замковай гары відаць руіны Дольняга замку; налева знаходзіцца Крыжовая гара, і на заднім пляне на ўзвышшы надгробак Каспара Бекеша (1580 г.). Першапачаткова адмураваны каля 1322 г., Горні замак некалькі раз руйнаваўся ў цягу вайны з крыжакамі; апошняя яго адбудова прыпадае на XV сталецьце, але нанова зьнішчаны пажарамі 1538 і 1542 году ён болей ужо не аднаўляўся. (Kraszewski. Wilno, т. III, стар. 307—311). Малюнак, зроблены з-за Вяльлі, па сьпісе Гамаліцкага № 5.

б) *Дольні замак* з паўночнага захаду. На малюнку асяродкавая частка галоўнага замковага палацу, адмураванага пасьля пажараў 1538 і 1542 г. ў часы Жыгімонта-Аўгуста ў стылі італьлянскага рэнэсансу і рэпараванага пасьля 1610 г. У часы Смуглевіча, у XVIII сталецьці, Дольні замак знаходзіўся ўжо ў напалову разбураным відзе. Пачынаючы з 1797 году абодва замкі былі паступова зьнішчаны. (Kraszewski, III, 311—312). Малюнак Смуглевіча па сьпісе Гамаліцкага лічыцца пад № 3.

в) *Брама Субач*, адна з 9 брам віленскіх гарадзкіх муроў, пабудаваных у часе з 1505 па 1522 год (Густынскі летапіс пад 7013 годам—„Полн. Собр. Русск. Летоп.", выд Археографічн. Камісіі, II, 364; прывілей в. кн. Аляксандра ад 6 верасьня 1505 г.—„Zbiór praw i przywilejów miastu stołecznemu W. K. L. Wilnowi nadanych", Wilno 1788, f. 19; прывілей Жыгімонта I ад 1522 г. на скасаваньне замковай варты з заменай яе спэцыяльнай вартай пры гарадзкіх брамах). Брама гэтая знаходзілася ў найвышшым пункце муроў, у месцы, дзе злучаліся вуліцы Субач і Бакшта. Існуе прыпушчэньне, што першапачаткова і аж да XVII ст. вуліца і брама зваліся Сабачымі (I войтаўская кніга, 248, № 247, цытаваная Гамаліцкім), бо ў другім паверсе брамы жыў віленскі „майстар", г. зн. кат, памоцнікі якога займаліся паляваньнем на вандроўных сабак. Некаторыя аўтары, аднак, не згаджаюцца з гэтым, выводзячы назву Субач з кораню „бок", у сэнсе вуліцы, якая ляжала збоку ад галоўных. Брама Субач была аднэй з найлепшых, найболей умацаваных і найболей цікаўных у архітэктурным сэнсе віленскіх брам, якая, апроч таго, захавалася да часоў Смуглевіча ў нязьмененым відзе, унікнуўшы тых пераробак і перабудовак, якім падлеглі амаль што ўсе іншыя брамы і часткі муроў на працягу XVII сталецьця. (Kraszewski. Wilno, т. III, стар. 330). Малюнак Смуглевіча зроблены з боку Місьёнарскага кляштару, у сьпісе Гамаліцкага ён лічыцца пад № 9.

г) *Частка тых-жа гарадзкіх муроў каля Базыліянскага манастыра*, на месцы ранейшай Базыліянскай, сучаснай Коннай вуліцы, з вялікай круглай вежай з паўднёвага канца. На заднім пляне касьцёл сьв. Тэрэзы і Вострая Брама. Па сьпісе Гамаліцкага малюнак лічыцца пад № 11.

(Усе малюнкі адноўлены з рэпродукцый, зьмешчаных у P. Weber'a: Wilna, eine vergessene Kunststätte. Wilna 1917, пад №№ 7, 11, 22 і 24).

*Пры стар. 128.*

**Старажытны двор на Замковай вуліцы ў Вільні** з усходамі і крытай галярэйкай XVI сталецьця; прыклад уплыву італьлянскіх архітэктурных форм на прыватнае віленскае будаўніцтва. (Рэпродукавана з P. Weber'a: Wilna, мал. 123).

*Пры стар. 128.*

**Мясная вуліца ў Вільні.** Тыповы куток віленскага гэбрайскага „гэтто", якое амаль што цалком захавала свой старажытны характар, не закрануты перабудоўкамі новых часоў. (Рэпродукавана з P. Weber'a: Wilna, мал. 129).

*Пры стар. 154.*

**Загалоўны аркуш Літоўскага Статуту 1588 г.,** надрукаванага ў віленскай друкарні Мамонічаў. Асноўны загаловак, часткова зроблены вязьзю, абкружаны орнамэнтам і надрукаваны цынобрай: „*Статут Великого Кнiазства Лiтовского*"; далей ідзе працяг надпісу буйным, але звычайным шрыфтам з чаргаваньнем чорных і цынобраных радкоў: „*отнаiаснейшего гсдра короля его млсти жикгимонта третего накоронацыи въкракове выданы року, афпи (1588)*". У дольняй частцы аркушу зьмешчаны наступныя выслоўі з біблії: „*Смотрите што маетечинити. бо несправуете суду члвчего але судъ божий. А што колькекъ осудитесе на васъсе обвалить. нехай будет вовасъ страхъ господень завъжды. А справуйте все щиръ. нетъ бопред господемъ богом нашимъ неправости. анибракованья особъ. анипожеданья даровъ*". [Каля гэтых сказаў, на палёх з правага боку, знаходзіцца пасылка: „*Книги в (2) паралип Глав. ei (19)*"] „*Милуйте справедливост. которые судите землю. бохтолюбит неправду, тотъ ненавидить души своее право. судите сынове человечестии*". (На палёх пасылка

„*Мудрос саломон глав, а (1) псалом. і (10). псалом нз (57).*"). Беспасрэдна за выслоўямі знаходзіцца надпіс у два радкі, адзін радок цынобраны, другі чорны: „*запривильемъ короліа его мл(с)ти друковано вдому маничовъ*". У сярэдзіне аркушу, паміж загалоўкам і выслоўямі, зьмешчаны дзяржаўны гэрб Беларуска-Літоўскага княства— „Пагоня": узброены рыцар на белым кані, з мячом у правай руцэ і шчытом з падвойным крыжам (аб гэтым гэрбе гл. напр., Niesiecki: Herbarz polski, т. I, стар. 9—10; Paprocki: Herby rycerstwa polskiego, Кракаў 1584, стар 763—836), на круглым шчыце, абкружаным вострaлісным вянком, пад вялікакняскай каронай. На адвароце аркушу зьмешчаны гравіраваны на дрэве портрэт Жыгімонта трэцяга ў латах, з дзяржавай і скэптрам, у орнамэнтаванай рамцы; паверх рамкі знаходзіцца надпіс: „*Жигимонт третий божю Млстью Корол Полский великий кнзь литовский руский пруский жомоитской и мазовецкий Ифлянтский. тоюж божю Млстью Назначоный Корол шведский Кготьский вандальский, Ивеликое Княже фиьлянъдъское. Иныхъ*" [1]).

(Здымак адноўлены з рэпродукцыі, зьмешчанай у выданьні: „Статутъ Великого Княьства Литовскаго. 1588 г. Новое изданіе Императорскаго Московскаго Общества Исторіи и Древностей Россійскихъ. Из № 19 Временника О-ва И. и Д. Рос. Москва. Въ Университетской Типографіи, 1854 года").

*Пры стар. 154.*

**Стар. 79—80 Літоўскага Статуту 1588 г.,** надрукаванага ў Вільні ў друкарні Мамонічаў. Маюць у сабе артыкулы 12—13 і пачатак артыкулу 14-га разьдзелу трэцяга наступнага зьместу:

„*Артыкулъ ДІ* (памылкова замест ВІ—12) *около недаванья чужоземьцомъ достоенствъ*[1] *иврядовъ*[2] *всяких. априходнемъ зъинъших паньствахъ*[3], *иоселости недавати.* Также мы гсдръ обецуемъ ишлюбуемъ[4] подприсегою нашою. которую учинили есмо великому князству литовьскому ивсим станомъ обывателемъ его беручи то. изъ статуту старого короля его милости жикгимонта першого тому панству великому кніазству литовъскому даного, авсесь[5] укладаючы инато позволіаючы, штожъ втомъ паньстве великомъ кніазстве литовъскомъ ивовъсих землiах ему прислухаючых[6] достойностей духовныхъ исветъскихъ городовъ дворовъ кгрунътовъ старостовъ державъ вріадовъ земъскихъ идворных посесый[7] абовдеръжанье иложиванье ивечностей жадных[8] чужоземцомъ изаграничникомъ, анисуседом того паньства давати не маемъ, але то все мы ипотомьки наши великие кніази литовъские давати будемъ повинни, только литве, руси, жомойти родичомъ[9] старожитнымъ нуроженцомъ великого кніазства литовъского, иныхъ земль тому великому кніазству належачихъ, ахтобы зъчужоземцовъ заграничниковъ, исуседовъ того паньства ивсих земль ему прислухаючихъ, важил се[10] штостого упросити взіати идеръжанье прийти, аупомененый будучи[11] того заразомъ непустилъ, тогды маетность его вся маеть быти взіата достолу искарбу нашого великого кніазъства литовъского. Ведьже[12] итубыльцом[13] хотіа иродичомъ великого кніазства литовъского, достоенъства ивріады всіакие мають быти даваны добре значнымъ, иправдиве незмышлене втом воеводъстве або повете оселым, ахотіабы хто обчого[14] народу, засвои заслуги втой речи посполитой[15] пришол куоселости, зласки данины[16] нашое, або которымъ инымъ правомъ, тогды ктаковым только оселости оное уживати маеть, учинивши первеи присегу повзiатью онои оселости, наперщыхъ рочкохъ кгродскихъ[17] оного повету, передъ врадниками земъскими, або кгродъскими тогожъ повету, которие наончасъ тамъ прибыти могут нжъ маеть быти вернымъ изычливымъ[18] тому паньству великому кніазству литовъскому, такъ іако итубыльцы, ислужечы службу земъскую томужъ паньству, але итаковые надостоенъства ивсіакие вріады духовные исветъские, немають быти припущани, аниотнасъ гсдра установлены, чого печатары ИПИСАРЫ наши сповинности своее[19] постерегати[20] винъни будуть.

*Артыкулъ ГІ (13) озахованью вцелости достоеньствъ, ивсіакихъ вріадовъ того паньства.* Теж обецуемъ ихочемъ вечными часы мети, абы панове рады наши іакодуховные, такъ исветъские, ивси иные вріадники наши земъские и дворные втом паньстве нашомъ великомъ кніазъстве были вовсіакихъ достойностіахъ нучстивостіахъ[21] захованы водле давного обычаю, икожды подле[22] зацности[23] местьца своего, ашто се дотычетъ владности исправъ ихъ судовыхъ, втом се они мають захавати исправовати, іако которому вріаду здавна замероно, ивсемъ статуте описано есть".

У канцы стар. 80 знаходзіцца пачатак наступнага 14 разьдзелу „*онеотниманью достоеньствъ ивріадовъ назаочное обмовенье*[24]".

*(Тлумачэньні малазразумелых старадаўніх слоў і выразаў:* 1) годнасьцяй. 2) пасад. 3) тым, якія прышлі з іншых дзяржаў. 4) клянемся. 5) а ў гэты (статут). 6) падлеглых. 7) маёнткаў. 8) ніякіх. 9) у сэнсе „жыхаром". 10) асьмеліўся. 11) будучы папярэджаны.

---

[1]) З прычыны адсутнасьці ў нашых друкарнях усіх тых літар і знакаў, якія патрэбны для навуковае транскрыпцыі старадаўніх тэкстаў, у гэтым выпадку, як і ўва ўсіх іншых, мы ўжываем спрошчаную транскрыпцыю з заменай омэгі, малога юсу, фіты і іншых кірылаўскіх літар адпаведнымі літарамі гражданкі, і з перадачай у радок тых літар, якія ў аўтэнтыку зьмешчаны пад тытламі.

12) таксама. 13) мясцовым жыхаром. 14) чужога. 15) у гэтай дзяржаве (г. зн. у княстве Літоўскім). 16) даніна—каралеўскі дар. 17) „рочки кгродские"—тэрмін судаводзтва ў местах, якое адбывалася на працягу двох тыдняў у пачатку кожнага месяцу. 18) адданым, прыхільным. 19) па сваіх абавязках. 20) пільнаваць. 21) ушанаваньні. 22) згодна, паводле. 23) значнасьці. 24) абвінавачаньне).

[Здымак зроблены з паасобніку Літоўскага Статуту 1588 г., які знаходзіцца ў Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы, № Б. 102.446].

*Пры стар. 192, 200, 202, 212, 216, 220.*

**Гравюры і орнамэнтальныя аздобы з выданьняў Францішка Скарыны** (праскага „Псалтыру" 1517 г., праскай „Біблії" 1517—1519 г., віленскага „Апостала" 1525 г. і віленскай „Малой Падарожнай кніжыцы"), зьмешчаныя пры нашым артыкуле, рэпродукаваны з паасобнікаў Расійскае Публічнае Бібліотэкі ў Ленінградзе (шыфры: I. 5. 4 а., I. 5. 4 а/1., I. 5. 4. а/2., I. 5. 4. в/4., I. 5. 7. г., VIII. 2. 62., I. 5. 8. а 1. I, 5. 8. а/2). Здымкі зроблены ў фотографічнай лябораторыі бібліотэкі, пад наглядам фотографа М. Брэйткаса, у студзені 1925 году.

Карыстаемся выпадкам, каб падаць некаторыя дадатковыя весткі аб адным з яшчэ невытлумачаных знакаў у выданьнях Скарыны. Аб гэтым знаку—⚓—мы паміналі ў зьмешчаным у гэтым зборніку артыкуле „Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны" (стар. 195, увага 1), прычым прыводзілі розныя спробы яго тлумачэньня, выказаныя ў літаратуры. У сучасны момант, аднак, мы маем падставы лічыць усе гэтыя тлумачэньні, у тым ліку і нашае ўласнае, не адпаведнымі запраўднасьці. Мы мелі магчымасьць праканацца ў чыста гэральдычным характары гэтага знаку, хаця аднссіны яго да асобы Скарыны застаюцца яшчэ няяснымі. Знак гэты, у тым яго адменьніку, які знаходзіцца на загалоўным аркушы скарынавай „Біблії", вядомы Нясецкаму як адзін з варыянтаў беларуска-літоўскага гэрбу „Kotwica", ужываны родам Калантаяў на Горадзеншчыне і ў Наваградчыне (Niesiecki. Herbarz polski. Tom. V. W Lipsku, 1840. Стар. 160—161). Сам Нясецкі ў сувязі з гэтай гэрбавай фігурай імя Францішка Скарыны не памінае. Але Баброві́ч, комэнтатар Нясецкага ў лейпцыгскім перавыданьні яго гэрбоўніку, ведае аб ужываньні гэтага знаку Скарынай у Празе і ў Вільні (Idem, том I, стар. 567), і нават называе гэрб Калантаяў уласным імем „Skoryna" ў сьпісе літоўскіх гэрбаў (Ibidem, стар. 553 і 555). Магчымая сувязь Скарыны з Калантаямі застаецца, аднак, пры гэтым нявысьветленай: відаць, у Баброві́ча ня было для гэтага матар'ялаў, паколькі і сам Нясецкі падае генэалёгічныя нататкі аб Калантаях толькі з XVII сталецьця. Нам здаецца, што далейшыя досьледы ў даным напрамку, у выпадку ўдачы, маглі-б даць цікавыя вынікі, што да пахаджэньня Скарыны і яго крэўных сувязяй з іншымі беларуска-літоўскімі радзінамі. Можа ў сувязі з гэтым прышлося-б таксама пераглядзець і пытаньне аб іншым знаку, ужываным Скарынай,—спалучэньні сонца з месяцам. Выказанае намі ў іншым месцы („Полымя" за 1925 г., № 5, стар. 148—151) зацьверджаньне, што такога знаку няма ў беларуска-літоўскай (а таксама ў польскай) гэральдыцы,—захоўвае, зразумела, сваю моц. Але ў сучасны момант мы ўжо ня ўпэўнены ў правільнасьці высунутай намі наконт пахаджэньня гэтага знаку гіпотэзы, бо злучэньне яго з іншай, бясспрэчна гэральдычнай фігурай, у двох асобных шчытах, пастаўленых побач як у шлюбных гэрбах,—што мы бачым, напрыклад, на загалоўным аркушы „Біблії",—хутчэй вымагае таксама гэральдычнага яго тлумачэньня, але толькі ўжо на падставе досьледаў у галіне заходня-эўропейскай гэральдыкі, дзе сустракаюцца знакі сонца і месяца. Спадзяемся, што калі-небудзь нам удасца гэта зрабіць.

*Пры стар. 234.*

**Загалоўны аркуш „3-й кнігі Царстваў" з біблії Скарыны** (Прага, 1518). Тыповая для скарынавай біблії композыцыя загалоўнага аркушу паасобнай біблійнай кніжкі, якая складаецца з сюжэтнай гравюры з дадаткам тлумачальнага надпісу і самага загалоўку, які пачынаецца з орнамэнтаванай вялікай літары. У даным выпадку згары направа знаходзіцца і нумар аркушу—119, паколькі ўсе чатыры кнігі „Царстваў" маюць агульную нумарацыю аркушоў. Там-жа згары, у васяродку, зьмешчаны надпіс „*Царьствъ*", які ў гэтых кнігах маюць усе правыя старонкі, у той час як на левых знаходзяцца пачаткі надпісаў: „*Книги первыи*", „*Книги вторыи*" і г. д. Ніжэй ідзе тлумачальны надпіс да гравюры: „*Царь Саломон ставит храм гсду богу Въерусалиме:*". Зьмест гравюры—пабудова ерусалімскага храму, які відаць на заднім пляне з готычнымі контрфорсамі і аркбутанамі; на будове працуюць рабочыя; з левага боку на першым пляне—Саламон у спраўджэньні сьвіты. Гравюра гэтая належыць да параўнальна нязначнай групы гравюр нямецкага тыпу, якія трапляюцца ў кнігах Скарыны хутчэй выпадкова, і, пэўна, зьяўляюцца працай нейкага нямецкага рытаўніка; композыцыя яе, аднак, зьяўляецца цалком орыгінальнай, так што зацьверджаньне *П. Владимирова* („Доктор Франциск Скорина", 79), быццам гравюра гэтая запазычана з „Нюрэнбэрскай Хронікі" Шэдэля ці з „Комэнтарый" Лірана, зьяўляецца памылковым. (Больш падрабязна гл. аб гэтым у нашым артыкуле на стар. 205). Пад гравюрай знаходзіцца загаловак кнігі, які пачынаецца з орнамэнтаванай літары Т, аздобленай фігурамі дзьвёх рыб: „*Третии книги царьствъ починаютьсіа Зуполне[1] выложены[2] наруський іазыкъ, Докторомъ Франъцискомъ Скорининымъ сыномъ сполоцька:*"

*(Тлумачэньні старадаўніх слоў:* 1) цалком. 2) перакладзены).

(Здымак зроблены з паасобніку „3-й кнігі Царстваў" скарынавай біблії, які знаходзіцца ў Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы, № $Б\frac{09}{3937}$).

*Пры стар. 234.*

**Прадмова да „3-й кнігі Царстваў" з біблії Скарыны** (Прага, 1518). На адвароце загалоўнага (119-га) аркушу. З орнамэнтаванай вялікай літарай П. Згары ў асяродку старонкі надпіс *„Книги третии"*, прадаўжэньне якога—*„Царьствъ"*—знаходзіцца на наступным аркушы (120-м). Тэкст прадмовы: *„Предословие Доктора Францыска Скорины сполоцька въ книги третии царств:* Книги сии называются Еврейским іазыком Маляхим. Апорускыи словуть Третии Царствъ, Аписаны суть. Початок их О смерти Царя Двдѣ. Потом Оцрстве Саломоновѣ, Иопречудныхъ делехъ его іако сооружалъ естъ храмъ гсду богу, Идомъ свой царский Посем ОЦари Ровоаме, ОЦари Авии, ОЦари Ассе ОЦари Іозафате. Онижe царствоваша Въерусалиме Надъ людьми Іудиными. Теже[1]) оцарехъ Ізраілевых, оЕровоаме, Надавѣ, Власе, Геляи, Замрии, Амрии, ИоАХавѣ онижe царствоваша Въсамарии. Писалиже суть сии книги летописци Цареи ІюдиныХъ, Наболей Нафан проркъ Илия пророк, И иныи стыи пророци онижe были суть часов тых. Положил есми всиХъ книгахъ образци Храму гсдьня Исосудовъ его, Идому царева, Еже ставил ест Саломон Царь. Ато для того Абы братия моя Русь люди посполитые, чтучи могли лепей разумети: Конѣць Предъсловию:—". У вапошніх двох сказах Скарына памінае аб шасьці тлумачальных гравюрах з рысункамі саламонава храма і паасобных храмовых прылад, якія зьмешчаны ў „3-й кнізе Царстваў" на аркушах 133, 135, 136-б, 137-б, 139, 139-б, і зьяўляюцца запазычанымі з „Нюрэнбэрскай Хронікі" Шэдэля 1493 г. і „Комэнтарый" Міколы Лірана 1481 г. (Падрабязьней аб гэтым у нашым артыкуле на стар. 209—211).

(Здымак зроблены з паасобніку „3-й кнігі Царстваў" скарынавай біблії, які знаходзіцца ў Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы, № $Б\frac{09}{3937}$).

*Пры стар. 240.*

**Загалоўны аркуш „Катихисіса", надрукаванага Сымонам Будным у Несьвіжы ў 1562 годзе.** Згары аркушу знаходзіцца вялікая застаўка нязвычайнага для беларускіх выданьняў тыпу, з рысункам, які часткова нагадвае орнамэнтыку пазьнейшых слуцкіх паясоў. Пад ёй цынобраны загаловак: „Катихисісъ. то естъ, наука стародавнаіа хрістіаньскаіа от светого писма, дліа простыхъ людей іазыка руского, въпытаніяхъ и Отказѣхъ събрана". Далей ідзе пачатак тэксту: „От перъваго светого апостола Петра посланіа Зачало 60. Готови присно къ отвѣту всякому въпрошающему вы, слово овашемъ уповании съкротостію и страхом, совѣсть имяще блгу и прочая". У шрыфце зварочвае на сябе ўвагу перайманьне асаблівасьцяй шрыфту з выданьняў Францішка Скарыны.

(Здымак адноўлены з рэпродукцыі, зьмешчанай у „Памятниках русской старины в западных губерниях, изд. П. Н. Батюшковым". Вып. VI. 1874. Табл. 18).

*Пры стар. 244.*

**Першая старонка „Навучальнага Эвангельля", выдадзенага ў Заблудаве ў 1569 годзе.** Паасобнік Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі, з якога зроблена рэпродукцыя, замест страчанага загалоўнага аркушу мае наступны рукапісны надпіс: „Книга зовомая евангеліе оучител'ное... Выдрукована защастливаго панованья наиясьнѣйшаго Государя нашего жикгимонта августа бжіею мил'стію короля пол'скаго и великаго князя литовскаго русскаго прускаго жомоицкаго мазовецкаго вифлянскаго и иных, а при архіепископе ионе бжіею милостію митрополитѣ кіевскомъ и галицкомъ и всея руссіи, и выдана есть во отчизномъ имѣнію пана вилен'скаго гетмана найвышшаго великаго княжества литов'скаго старосты городеньскаго и могилевскаго его милости пана григорія александровича ходкевича въ местѣ зовомомъ заблудовью властнымъ накладомъ[2]) его милости. а начася сія книга друковатиновоплощеніи сына слова бжія 1568 месеца іюля 8 и свершіся року 69 мсца марта 16[3]). Рэпродукаваная старонка мае ў правым дольнім куце нумар а (1). З самага долу рэшткі нейкай прыпіскі, ад якой захавалася ясна толькі слова „днь", іншае-ж абрэзана пры інтралігаваньні. Згары старонкі знаходзіцца цынобраны надпіс: *„притча омытар ифарис"*. Далей ідзе вялікая дрэварытная застаўка, пад якой загаловак, надрукаваны таксама цынобраю:

| | |
|---|---|
| Поученіа Избранна от Стго Евглія и от многих бжественых писаніи. глемая от архиерѣя изъоуст вовсякую ндлю, напооученіе хрстоименитымъ людемъ, или прочитаема. такоже инагьскія праздники. омытари, ифарисеи. евгліе, отлуки. слово а (1). | Навучаньні, абраныя з сьвятога эвангельля і з шмат якіх боскіх твораў, якія кажа вусна, ці чытае кожную нядзелю архірэй для навучаньня хрыстова вяльможным людзям. таксама і на панскія сьвяты. аб мытары і фарысеі. эвангельле ад Лукі. слова 1. |

[1]) Теже—таксама. [2]) Коштам. [3]) У аўтэнтыку даты славянскімі лічбамі.

Самы тэкст пачынаецца з вялікай фігурнай літары Е, і надрукаваны чорнай фарбай.

Еже о мытари и фарисеи притча и вина. іако поученіе нѣкое, иподвиженіе оумышлено бысть стыми отцы, и оучинено пѣтися и прочитатися всію недѣлю, іако да направляемся иготовимся на дховныя подвиги поста. сего ради и провозгласная идля сія нарицается погреческому іазыку. провозвѣщающи и проповѣдающи, еже посемъ мало приходящее. покаянія постное время. іакоже аще нѣкую страсть вдшах нашихъ исперва имуще очистим сію и тако готови бывше. къ спсеным подвигом поста ивоздержанія пойдем. къпути бо спсенія первое есть, раскаяніе, ивозвращеніе, исмиреніе. кдобродѣтелиже повреждение веліе бываетъ, гордыня (итщеславіе ипревозношеніе).

Прыповесьць аб мытары і фарысеі сьвятыя айцы, як нейкае навучаньне і пабуджэньне, замысьлілі і ўстанавілі пяяць і чытаць на гэтым тыдні, абы мы накіроўваліся і рыхтаваліся да духоўных трудоў паста. дзеля гэтага ў грэцкай мове і завецца гэты тыдзень апавяшчальным, бо ён апавяшчае і агалашае, што хутка ўсьлед прыдзе посны час спакуты. калі якое прагненьне маем мы ў душах нашых,— перш за ўсё зводьнімся ад яго, і гэтак падрыхтаваўшыся, пойдзем да ратунковых трудоў паста і ўстрыманьня. бо на шляху да збаўленьня першым ёсьць спакута, і зварот (да цноты), і пакора. вялікай-жа шкодай для добрачыннасьці бывае гордасьць, пыха і самавыхваленьне.

(Здымак зроблены з паасобніку Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі, № Б$\frac{09}{3945}$).

*Пры стар. 248.*

**Старонка з „Псалтыру", надрукаванага Пятром Мсьціслаўцам у Вільні ў друкарні Мамонічаў, у 1575 (па іншых даных у 1576) годзе.** (Вельмі рэдкае і каштоўнае выданьне). На гары старонкі нумар кафізмы: Ка, ГІ (кафізма 13). Далей надрукаваны цынобраю загаловак: *„Псалом пѣсни въдн҃ь соубωтный"*; таксама цынобраю на палёх направа паказаны нумар псальма ЧА (91). Тэкст псальма ў сямі мясцох запсаваны разрывамі старонкі, якая ў гэтых мясцох падклеена, з папраўкамі тэксту ад рукі. Самы тэкст паславянску; пачынаецца з вялікай, прыгожа орнамэнтананай літары Б, тыповага для друкарні Мамонічаў характару.

Благо есть исповѣдатися гви, иnѣти имени твоему вышне. възвѣщати заоутра млсть твою, и истиноу твою на всякоу нощь. вдесято струннемъ псалтыри, спѣснію вгуслех. іако възвеселилъ мя еси ги втвари твоей, ивдѣлех руку твоею възрадоуюся. іако възвелічишася дѣла твоя ги, зѣло углубішася помышленіа твоа. мужъ безуменъ не познаетъ и (неразумивъ, неразумѣетъ сихъ. егда прозябоша грѣшницы...

Добра спаведацца госпаду, і пяяць імені твайму найвышшаму. агалашаць з раніцы міласьць тваю, і праўду тваю ў кожную ноч. у дзесяціструнным псалтыры, і з песьняй у гусьлях. бо ўзрадаваў ты мяне, госпадзі, у стварэньнях тваіх, і ў справах рукі тваёй я ўсьцешуся. вялікі справы твае, госпадзі, дзіўна глыбокі памысьленьні твае. нерассудны ня ведае, і ня ведаючы, не разумее таго. у той час, як грэшнікі ўзьнікаюць (нібы трава, і тыя, што робяць беззаконьні, цьвітуць, каб згінуць,—ты, госпадзі вялікі вечна).

(Здымак зроблены з паасобніку Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі, № Б$\frac{09}{3936}$).

*Пры стар. 256.*

**Загалоўны аркуш „Навучальнага Эвангельля", надрукаванага ў Еўі ў 1616 г.** Заголовак надрукаваны ўперамешку цынобраю і чорнай фарбай: „ЕVГЛІЕ учителное[1] альбо казаня, накождую недѣлю И Свята урочистыи, презъ Стго Отца нашего Калиста, Архіепскопа Константинополского, и Вселенского Патріарху, пред двѣма сты лѣт[2] Покгрецку написаныи, а теперъ ново З Кгрецкого и Словенского іазыка[3] на Рускій переложеныи[4]. Працею и стараньемъ Иноков Общого житія Монастыря Братского Виленского, Съшествія Стго и Животворящого Дха, Выдрукованы. В Євю Року АХЅІ (1616)".

*(Тлумачэньні;* 1) навучальнае. 2) за дзьвесьце год перад тым. 3) мовы. 4) перакладзеныя).

Загаловак зьмешчаны ў прыгожа орнамэнтаванай, рытай на дрэве рамцы з вобразам „Пантократара" нагары і гэрбам „Szaława" на доле, з літарамі ІНС навакол, у овальным шчыце, які падрымліваюць два анёлы. Значэньне гэтага гэрбу няясна. З ліку фамілій на літару *С* да яго належалі Стрыжы і Сьвірскія (Niesiecki: Herbarz polski, VIII), абодва роды на Украіне, якія, здаецца ніякага, дачыненьня да друкарні ў Еўі ня мелі. Эвангельле 1616 г. было выдана коштам Богдана Агінскага і жонкі яго Раіны Валавічанкі, злучаныя гэрбы якіх—„Ogiński" і „Bogorya"—зьмешчаны на адвароце загалоўнага аркушу. У некаторых паасобніках сустракаюцца прысьвячэньні кн. Саламярэцкім (гэрбу „Rawicz") і кн. Ганьне Карэцкай (гэрбу „Pogonia"), урodж. Хадкевіч (гэрбу „Kościesza"); у такіх выпадках, таксама на адвароце загалоўнага аркушу, знаходзяцца памянёныя гэрбы, улась-

нікі якіх ані ў пахаджэньні сваім, ані ў крэўных сувязях ніякіх адносін да гэрбу „Szalawa“ ня мелі. Хутчэй гэты гэрб належыць рытаўніку—аўтару гравюры.

[Здымак аднаўлены з рэпродукцыі, зьмешчанай у „Памятниках русской старины в западных губерниях Империи, изд. П. Н. Батюшковым“. Вып. VI. 1874. Табл. 17].

*Пры стар. 258.*

**Першая старонка прадмовы да магілеўскага „Апостала“, выд. Сьпірыдона Собаля 1638 году.** Аздоблена застаўкай і орнамэнтаванай загалоўнай літарай Т, і мае наступны зьмест:

„*Велможному Пану Его М: Пану Богдану Стеткевичу Подкоморому Мстиславъскому, и прочая: Пану Моему Велце*[1] *Милостивому.* Таковогo есть прироженя[2] и власности[3] писмо Стое, Велможны, а мнѣ велце Милостивы Пане, же[4] до зеднаня[5] себѣ оу людей поваги, свѣцкого ратунку[6] намнѣй[7] не потребуетъ: ато для початку и жродла[8] з которого выплынуло, Хрста збавителя Автора своего: который нетолко оу людей срдца шляхетнѣйшого надеръ[9] великую, и прудко мовѣ[10] повагу една: але наветъ и з роду (іако самъже называетъ) іащорчого[11], справы его не стѣла, анѣ зекрве[12] людскои, лечъ [13] з Бга правдиве быти, многіи вызнали. Справы его и мову Апслове, непоглядаючи на Кролевъ, ни на Пановъ, ни на трибуналы, ни на суды, ни срогіи тираніи: лечъ по всей округу земского широкости, одвсходу ажъ до Заходу слнца, аод полночи на полудне, іакъ на вѣрныхъ пословъ прислу..ало[14], безпечне розносили: и нашто были, (Параклитомъ срдца их освячаючимъ) поволаными[15], все то безжадного[16] свѣцкого ратунку и помочи, снадне[17] выконали. Абовѣмъ[18] іако дождъ, пишетъ Пророкъ, землю омочает, так слово Гсдне без скутку[19] назадъ неодходитъ. Мовлю теды, ачъкольвекъ[20] писма стого знаменитость сама презсебе повагу еднаетъ, ани ся наслабоприрожоных силахъ, моц прироженe звитяжаючая[21] вспирати[22] можетъ: вшакже[23] еднакъ не оразъ втой мѣрѣ силы людскіи оупадаютъ: овшемъ[24] на барзо[25] великой помочи сутѣ, и ледве[26]...“ Усьлед за рэпродукаванай старонкай прадмова цягнецца яшчэ на тры старонкі, і канчаецца наступным чынам: „*в Могилевъ. Влъто бытія міра ЗРМS (7146). Декамвріа, ка (21). а от Рождества Хва. АХЛИ (1638). Вмс Пана моего велце Милостивого вѣрный и нанижшій слуга. Спірідонъ Соболь Тіпографъ*“. На рэпродукаванай старонцы пад друкаваным тэкстам знаходзіцца рукапісная прыпіска XVII сталецьця: „*Року АХНИ (1658). Мсца Іюля, ки (28) дня*“. Яшчэ ніжэй болей позьні надпіс: „*Полоцкаго Софійскаго Собора*“.

*(Тлумачэньні старажытных слоў і выразаў:* 1) вельмі. 2) пахаджэньня. 3) уласьцівасьці, якасьці. 4) што. 5) выкліканьня, прывабленьня. 6) дапамогі. 7) найменей. 8) крыніцы. 9) надта. 10) павінна быць, пэўна, „пруд ко мовѣ“, г. зн.—перш за ўсё да (самых) слоў, да вучэньня. 11) зьмяінага, яхідніна—пасылка на прамову Ісуса супроць фарысеяў, дзе ён называе іх „параджэньні яхідніны“, „serpentes genimina viperarum“ па тэксьце Вульгаты (Эв. Мацея 23, 33). 12) з крыві. 13) але. 14) напэўна, „прислушало“, у сэнсэ—як варта верных пасланьнікаў. 15) былі закліканы. 16) без усякага. 17) удала. 18) бо. 19) вынікаў. 20) наколькі, наколькі. 21) перaможная, якая перамагае. 22) абапірацца, грунтавацца. 23) усё-ж. 24) наогул. 25) вельмі. 26) ледзь).

(Здымак зроблены з паасобніку магілеўскага „Апостала“ 1638 г., які знаходзіцца ў Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы, № Б$\frac{09}{3945}$).

*Пры стар. 260.*

**Першая старонка „Діоптры“ 1654 году, надрукаванай у друкарні Кутэінскага манастыра каля Воршы.** Мае падвойную нумарацыю: на гары направа а(1); здолу ў сярэдзіне таксама А(1)—нумар аркушу. Перад загалоўкам рытая на дрэве застаўка. Першы і трэці радкі загалоўку надрукаваны цынобраю. Агульны загаловак мае наступны тэкст:

| | |
|---|---|
| *Діоптра* сирѣчъ зерцало. Албо изображеніе извѣстное Живота члческаго вмирѣ. От многихъ Стыхъ Бжственныхъ писаній и Отческих Догмат Съставленная. зГрецкаго Насловенскій іазык, вѣчное памети, Годным отцемъ Виталіемъ Ігуменомъ в Дубнѣ преложона, и написана. | *Діоптра* ці люстэрка. Альбо вобраз вядомы жыцьця чалавечага ў сьвеце. Складзеная з шмат якіх сьвятых боскіх твораў і айцоўскіх догматаў. Перакладзена з грэцкае на славянскую мову і напісана вечнае памяці годным айцом Вітальлем, ігуменам у Дубне. |

Далей ідзе загаловак першага разьдзелу, надрукаваны цынобраю:

| | |
|---|---|
| ІАко хотящим нам наслаждатися Бга. Подобает суету мира презирати. | Як трэба нам, хто хоча мець асалоду ў бозе, пагарджаць марнасьць сьвету. |

На палёх збоку гэтага загалоўку зьмешчана прыпіска „*марность свѣта*“. За загалоўкам пачынаецца самы тэкст першага разьделу, аздоблены цынобранай загалоўнай літарай N у орнамэнтаванай рамцы:

| | |
|---|---|
| *Глава а.* Никтоже можетъ двѣма господинома работати, глет Хс Спсъ нашъ. Сладко есть бжственное оутѣшение, не- | Ніхто ня можа на двох паноў працаваць, кажа хрыстос збаўца наш. Ня ўсім салодка пацяшэньне боскае, але толькі |

всѣмъ оубо, но точію презирающим суету мира, ибо невозможно дабы кто наслаждался Бга вькупѣ (бесчинно желая вещей мирских). | тым, хто пагарджае марнасыць сьвету. бо немагчыма, абы хто меў асалоду ў бозе, разам з тым свавольна жадаючы рэчы сьвецкіх.

(Здымак зроблены з паасобніку Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі, № Б$\frac{09}{3947}$).

*Пры стар. 260.*

**Загалоўны аркуш „Собрания припадков“, выдадзенага ў Супрасьлі ў 1722 г.** Тэкст аркушу зьмешчаны ў простай друкаванай рамцы з розэтак і кветак, і мае наступны зьмест:

„Собрание Припадковъ Краткое, и Дховнымъ Особомъ Потребное. Имущее в себѣ Науку о Сакраментахъ, о десяти Бжіихъ Приказаняхъ, о Приказаняхъ Церковныхъ, и о Науцѣ Христіанской, съ Выкладом Сімзола, или Исповѣданія Вѣры Православныя кафолическія, съ выкладомъ Млтвы: Отче ншъ: и Бце Дво: Такожде Науку, како подобаетъ наставляти малых, или невѣжов, въ Вѣры Православной, содержашее. Типомже Общежителнаго Монастыря Супраслскаго, Чину Стаго Василія Великаго. Року 1722 (у аўтэнтыку славянскімі лічбамі). Мсца Генваря дня ИІ (18). Изданное“. На адвароце гэтага аркушу знаходзіцца надпіс, аздоблены орнамэнтаванай загалоўнай літарай П: „Леонъ Кишка Бжіею и Стаго Апстолскаго Фрону Млстію, Архиепсп Митрополита Кіевскій, Галицкій, и всея Россіи, Епсп Володимирскій, и Берестійскій, Кіевопечарскій, и Супраслскій, Архимандрита. Понеже Стый Соборъ Замойскій Единому токмо[1], Общежителному Монастыреви Супраслскому, повелѣ[2], и изволи[3], Изданіе Типомъ[4], Катехисмовъ, Падежей совѣсти[5], и дѣяній Собора Замойскаго; Сего ради[6] да никтоже въ свойственной си[7]. Типографіи[8] дерзнетъ[9] нынѣшнея сея книги, Падежей Совѣсти, Катехизму, и Лексикону[10], Типомъ изображати[11], под виною[12] клятвы, и оутратою сицевыхъ[13] Книгъ, възбраняемъ, и завѣщаемъ. Писан в Супраслю дня В (2) Мсца Генваря. 1722 (у аўтэнтыку паславянску). Леонъ Митрополита, Рукою власною“.

*(Тлумачэньні:* 1) толькі. 2) загадаў. 3) дазволіў. 4) друкам. 5) напэўна, пераклад польскага „rachunek sumienia“, як завецца ў каталіцкай царкве сыстэма запытаньняў, прызначаная каб аддаць сабе справаздачу ў сваіх грахох перад споведзьдзю. 6) дзеля гэтага. 7) у сваёй уласнай. 8) друкарні. 9) асьмеліцца. 10) аўтар мае тут на ўвазе далучаны да гэтага выданьня славяна-польскі слоўнік, пад назвай: „Лексиконъ Сирѣчъ Словесникъ Славенскій Имѣющъ в себѣ, Словеса первѣе Славенскія, Азбучныя, посемже Полскія. Блгопотребный къ выразумѣнію Словесъ Славенскихъ, Обрѣтающихся въ книгах Црковных Изображенъ. Въ Типографіи Монастыря Общежителнаго Супраслскаго. Року Бжія 1722. Мця Генваря дня 18“. 11) друкаваць. 12) пад пагрозай. 13) такіх.)

(Здымак зроблены з паасобніку Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі № Б$\frac{09}{3946}$).

*Пры стар. 260.*

**Загалоўны аркуш „Служэбніка“, выдадзенага ў Супрасьлі ў 1758 годзе.** Тэкст аркушу зьмешчаны ў барочнай, гравіраванай на дрэве рамцы з „разрыўным“ фронтонам на гары, дзе знаходзіцца вобраз хрыста, з фігурамі апосталаў Пятра і Паўла з бакоў, з подпісамі *„Камен Вѣры“* і *„Сосуд Избранный“*, і з композыцыяй „вусьпеньня“ на доле. Ніжэй знаходзяцца літары Д. Г.—мабыць подпіс рытаўніка. Самы загаловак напісаны паславянску:

Служебникъ въ Немже Литургіа Иже въ стыхъ Отца нашего, Іоанна Златоустаго, Архіепскпа Константиня Града. Съ Службамі вопервѣе Праздникомъ Господскимъ, по ряду расположенными, по семъ Богородичным, такожде и Нарочитымъ Стымъ всего Года и съ Прочіими Различными, содержится. Въ оудобнѣйшее оупотребление Іереемъ, изряднѣже наединѣ без пѣнія Литургисающимъ. и въ путешествіихъ сущим. Типомъ издася Въ Лаврѣ, Общежителнаго Монастыра Супраслскаго. Въ Лѣто от Воплощенія Бга Слова. 1758 [у аўтэнтыку славянскімі лічбамі].

Службоўнік, дзе знаходзіцца мша сьвятога Яна Золатавуснага, арцыбіскупа константынопальскага, з набажэнствамі перш за ўсё сьвятам панскім, па парадку разьмешчанымі, потым багародзічным (сьвятам), а таксама і іншым асобным сьвятым усяго году, і з іншымі рознымі (набажэнствамі). Для найболей зручнага ўжываньня капланам, якія адны, без пяяньня, спраўляюць чытаныя мшы, або знаходзяцца ў падарожах. Выдадзены друкам у лаўры супольнамяшкальнага манастыра Супрасьлеўскага. У год ад нараджэньня бога слова 1758.

(Здымак зроблены з паасобніку Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі, № Б$\frac{09}{3450}$).

---

Усю фотографічную працу па рэпродукаваньні ілюстрацый да зборніку, за выняткам здымкаў, зробленых у Ленінградзкай Публічнай Бібліотэцы, што асобна зазначана ў сваім месцы, выканаў Л. У. Дашкевіч у Менску.

# Паказьнік географічных назоў.

# Паказьнік уласных імён.

# Сьпіс ілюстрацый.

Пры старонцы

Пры старонцы

# З ь м е с т.



---

# Index rerum.

# Важнейшыя памылкі.

| Стар. | Радок | Надрукавана | Павінна быць |
|---|---|---|---|
| 8 | 23 здолу | трансцэдэтальнасьці | трансцэдэнтальнасьці |
| 16 | 24 згары | Гуманістыя | Гуманісты |
| 16 | 7 здолу | Gesellshaft | Gesellschaft |
| 17 | 4 згары | мораляй і з | мораляй, з |
| 26 | 27 „ | ро Джованьні | ро, Джованьні. |
| 28 | 8 здолу | Алад | Альд |
| 29 | 1 згары | Алад | Альд |
| 29 | 5 „ | Аладаў | Альдаў |
| 29 | 6 „ | сымболю | сымболі |
| 33 | 19 здолу | 1508 | 1580 |
| 36 | 5 „ | marcian | marciani |
| 37 | 14 „ | è | é |
| 48 | 9 „ | стар. | разьдзел |
| 51 | 21 згары | Ernesti, | Ernesti" і |
| 51 | 25 здолу | nüz". | mütz". |
| 56 | 16 згары | 1459 | 1549 |
| 57 | 27 здолу | , гэта цікава | цікава |
| 63 | 24 згары | сымбіоз | сымбіозам |
| 63 | 25 „ | яны | яна |
| 63 | 26 „ | валі | вала |
| 74 | 19 здолу | унівэрсытэты для навукі | унівэрсытэты |
| 78 | 9 „ | атрымала | атрымала-б |
| 111 | 7 „ | крязь | князь |
| 115 | 2 згары | Спорро-Стурлезон | Снарро-Стурлезон |
| 117 | 23 здолу | Yilnenses | Vilnenses |
| 117 | 2 „ | 1746 | 1846 |
| 134 | 12 „ | Сапегі-Гарнастаі, | Сапегі, Гарнастаі, |
| 139 | 14 „ | 1686 | 1486 |
| 142 | 3 згары | Крыткоўскага | Крышкоўскага |
| 153 | 9 здолу | Крыткоўскага | Крышкоўскага |
| 158 | 15 „ | że | ze |
| 166 | 18 згары | Зарабелы | Забарэльлі |
| 167 | 6 здолу | catedro | catedre |
| 236 | 4 згары | „Апостал", | „Апостал" і |
| 244 | 1 здолу | Огіенко Н. | Огіенко І. |
| 248 | 20 „ | Вседрѣжителя | Вседръжителя |
| 258 | 5 згары | 1618 | 1627 |
| 258 | 11 „ | 623 | 627 |
| 258 | 15 „ | друкцыйная | дукцыйная |
| 271 | 2 „ | Є | ѣ |
| 296 | 6 здолу | 846 | 1846 |
| 312 | 17 згары | Галавецкага | Галавацкага |
| 313 | 8 „ | Materyial | Materyaly |
| 316 | 10 здолу | XVII | XVI |
| 319 | 2 „ | Avramowicz | Abramowicz |
| 323 | 15 „ | Ул. | Ѣл. |

---